**Вячаслаў Ракіцкі. БЕЛАРУСКАЯ АТЛЯНТЫДА.**
(Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.

Рэдактар *Кацярына Гарэлік*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Аляксандра Макавік*

У афармленьні выкарыстаныя афорты Валерыя Славука



ISBN 0-929849-11-6

## ЗЬМЕСТ

Прадмова. *А. Лукашук* ... 8

СУСЬВЕТ
Сьвет вачыма архаічнага чалавека ... 12
Белая й чорная магія ... 18
Чалавек у сьвеце гукаў ... 25
Шаманы, чараўнікі, жрацы ... 31
Рай і пекла — дабро й зло ... 38
Той сьвет і ягоныя агенты ... 44
Цень і сьцень ... 50
Менскае капішча ... 56
Загадкі й разгадкі сноў ... 61
Гадавое кола й беларускі лёс ... 66

ЛЯНДШАФТ
Балота — ад д'ябла й ад Бога ... 76
Настальгія па страчаным моры ... *81*
Замкі — мураваная варта краіны ... 87
Краіна мястэчкаў ... 92
Полацкі лябірынт ... 99
Яны будавалі Вільню ... 105
Сталіца на ўзбочыне ... 116
Магістральныя ідэі галоўнай магістралі ... 121
XX стагодзьдзе вачыма археолягаў ... 126

СКАРБЫ
Калекцыя пячатак ... 134
Манэты й фальшываманэтчыкі ... 144
Выкарыстаньне цьвікоў ... 153
Шахматы — народная гульня ... 157
Падробкі й падробнікі ... 162

ЕЖА
Што смакуе беларусам ..... 170
Селядзец па-беларуску ..... 175
Жарсьці вакол гарбаты ..... 182
Смак сыру ..... 187
Бульбяны паратунак ..... 194
Гарэлка — служка Сьмерці ..... 199

ЗВЫЧАІ
Ранак — пераход ад цемры да сьвятла ..... 208
Сымболіка традыцыйнай вопраткі ..... 213
Усё жыцьцё — дарога ..... 218
Калоднае пчалярства ..... 223
Бабровыя легенды ..... 229
Беларус зь люлькай у зубах ..... 236

НОРАВЫ
Праўда й падман ..... 244
Як людзі баранілі сваю годнасьць ..... 250
Сьмяротныя пакараньні й катаваньні ..... 255
Шляхецкая сям'я ..... 267
Авантуры й авантурнікі ..... 274
Забавы беларускай магнатэрыі ..... 281
Свары й бойкі шляхты ..... 287

КАХАНЬНЕ
Жыцьцё з пацалункам ..... 298
Народная кантрацэпцыя ..... 304
Байструк — дзіця грахоўнага каханьня ..... 309
Сэксуальныя паводзіны ў Сярэднявечры ..... 315
Вернасьць і здрада ў сямейным жыцьці ..... 321
Каханьне ў ахвяру палітычнай авантуры ..... 326

СУСЕДЗІ
Птушкі «чыстыя» й «нячыстыя» ..... 334
Конь — сымбаль дабрабыту й вайсковай славы ..... 340
Сьвет казявак ..... 348
Здані, прывіды, пужалкі ..... 354
Беларускі чорт ..... 360
Няўлоўны цмок ..... 367

ДЗЯРЖАВА
Паход на Грунвальд ..... 380
Беларускія калёніі ..... 386
Дыпляматычныя размовы з Масковіяй ..... 395
Маскоўскія нявольнікі ў Магілёве ..... 400
Канстытуцыя 3 траўня 1791 году ..... 407
Інтрыгі вакол падзелаў Рэчы Паспалітай ..... 412
Воля да ўлады ..... 416
Чалавек і ўлада ў эпоху «залатой вольнасьці» ..... 422
Соймікавая дэмакратыя ..... 430
Мова ўлады і ўлада мовы ..... 436

МЭНТАЛІТЭТ
Каляніяльнае й незалежніцкае сьветабачаньне ..... 446
Вера ў Бога ..... 451
Прачытаць Міцкевіча па-беларуску ..... 456
Беларус у натоўпе ..... 461
Шлях да гарадзкой цывілізацыі ..... 467
Народ чужых радасьцяў ..... 472
Беларусы вачыма іншых народаў ..... 476

Бязь міту няма нацыі. *В. Ракіцкі* ..... 482

Шукальнікі Атлянтыды ..... 485
Паказьнік асобаў ..... 492
Summary ..... 503

# БЛІСКАВІЦА Ў ДЫЯМЭНЦЕ

Вайна за скрадзенае мінулае пачалася на хвалях «Свабоды» ў самы першы дзень беларускага этэру, 20 траўня 1954 году. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Янка Запруднік, Паўла Ўрбан, Уладзімер Дудзіцкі, Уладзімер Цьвірка, Масей Сяднёў, Вітаўт Кіпель... Эстафэту гістарычнай зоркі «Свабоды» 1970—1980-х гадоў, Язэпа Барэйкі, пераняслі ў другой палове 1990-х два ягоныя маладыя слухачы — Вінцук Вячорка й Вячаслаў Ракіцкі. Іхная перадача «Неабжытая спадчына» гучала да канца XX стагодзьдзя.

Новае тысячагодзьдзе пачала перадача «Беларуская Атлянтыда». Адзін з разьдзелаў кнігі называецца «Настальгія па страчаным моры». Міты й рэаліі эўрапейскай нацыі, якія адкрыліся ў глыбіні мінуўшчыны Вячаславу Ракіцкаму й ягоным спадарожнікам, агаломшваюць, як агаломшвае чалавека першая ў жыцьці сустрэча з морам.

Людзі — рыцары, будаўнікі, фальшываманэтчыкі, чараўнікі, магнаты...
Норавы — забавы, сварꙑ, бойкі, авантуры, сэкс...
Ежа — клёцкі, селядзец, гарэлка, гарбата, сыр...
Ваколіцы — лябірынты, мястэчкі, муры, балоты...
Дзяржава — харугвы, канстытуцыі, інтрыгі, войны, калёніі...
Сусьвет — Бог, чорт, рай, пекла, белая магія...

Бясконцы далягляд, велізарнае неба, бяздонныя глыбіні, рух хваляў часу й нясьцерпнае зьзяньне кожнай самай малой пясчынкі як выбух бліскавіцы ў сярэдзіне дыямэнту. І — свойская мяккая хваля, якая люляе й цягне за сабой.

Так пра айчынную гісторыю яшчэ не гаварылі.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*



# СЬВЕТ ВАЧЫМА АРХАІЧНАГА ЧАЛАВЕКА

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Мы пераважна глядзім толькі вакол сябе. Часам асьцярожна зазіраем у будучыню. А мінуўшчына падуладная нашаму асэнсаваньню на нейкі дзясятак стагодзьдзяў. Пераважна выбіраем зь яе карысныя нам факты ці на роўні тэзаў сфармуляваныя ідэі. Зазірнуць жа ў самыя глыбіні, у далёкі дахрысьціянскі сьвет — не наважваемся. Стаім, нібыта перад зачыненымі дзьвярыма. Ведаем, што ў той бясконцай глыбіні таксама нашы продкі, а расчыніць гэтыя дзьверы не стае сілы. Мо баімся? Баімся, што ў містыцы, міталёгіі архаічнага грамадзтва ўбачым пачаткі сваіх усьведамленьняў. Як жа так? Ня можа гэтага быць, кажам сабе, бо ў нашай падсьвядомасьці архаічны чалавек жыве ў выглядзе нейкага дзікуна...**

*— Як архаічны чалавек разумеў навакольны сьвет, з чаго фармаваліся ягоныя веды і ўяўленьні пра стварэньне, упарадкаваньне й функцыянаваньне Сусьвету? Гэта тое, што ў навуцы называецца карцінай сьвету, што ёсьць падмуркам традыцыйнай духоўнай культуры народу. Дык з чаго яна паўставала? Кім і дзе ўсьведамляў сябе старажытны чалавек?*

— Старажытны чалавек, залежны ад прыроды й грамадзтва, несьвядома праецыраваў на Сусьвет сябе й свае абшчынна-родавыя дачыненьні. Кожным сваім дзеяньнем ён засьцерагаўся ад выпадковасьцяў, няўдачаў. Архаічны чалавек канструяваў сьвет сымбалічных формаў, з дапамогай якіх ён пазначаў і асэнсоўваў рэчаіснасьць. Натуральнае станавілася звышнатуральным, прафаннае — сакральным. Так і паўставала карціна сьвету. Сапраўды, мастацкая й нават гістарычная літаратура сфармавалі вобраз старажытнага чалавека як нейкага дзікуна, які дбае толькі пра ежу ці абарону ад ворагаў. Аднак шматлікія міты данесьлі й яскрава сьцьвердзілі, што нашы продкі здольныя былі стварыць вельмі багаты, надзвычай глыбокі й цэласны духоўны сьвет. А ў сьвеце гэтым чалавек ставіўся да наваколься як да нечага жывога, эмацыйна афарбаванага, здольнага адгукацца на ўсе ягоныя запатрабаваньні й надзеі. Няма пакуль ярархіі. Чалавек — гэткая ж частка Сусьвету, як і расьліна, камень, жывёла, гара ці нават сонца.





*— А ў чым асаблівасьці карціны сьвету продкаў беларусаў? На што яна арыентуецца? Што ў ейным цэнтры?*

— Карціна сьвету беларусаў грунтуецца на сьветаглядзе старажытных індаэўрапейцаў і арганічна ўлучае рысы часу балцка-славянскай супольнасьці. Ейная спэцыфіка вынікае з характару беларуса. У ім гарманічна спалучыліся містыцызм, эстэтызм і надзвычайная вера ў адухоўленасьць сьвету. Беларус нідзе й ніколі не адмаўляецца ад ідэальнага, але зямное яму бліжэйшае. Таму ён найчасьцей ідэальнае, нябеснае пераносіць на зямлю, у сьвет сваіх рэчаў, у сваю хату.

*— Дык што, нашы продкі абагаўлялі рэчы?*

— Прадметны сымбаль — гэта й функцыянальная рэч у культурнай прасторы й, адначасна, абсалютна рэальны прадмет. Сымбаль узьнікаў з рэальных якасьцяў прадмету. Так, сэмантыка дзяжы грунтуецца на тым, што ў ёй замешвалася рашчына. Рытуальныя функцыі хамута вынікаюць з наяўнасьці ў ім адтуліны. У архаічным грамадзтве знакавае і ўтылітарнае — як бакі аднаго мэдаля.

*— А як гэтыя рэчы функцыянавалі ў рытуале?*

— Як прыклад возьмем качаргу. Качаргой працавалі ў печы, і таму яе гэтак жа паважаюць, як і агонь. На качаргу нельга наступіць, бо ўдарыш па носе. Качарга — сымбаль хлопца, мужчыны. Вось чаму дзяўчына, якую сваталі, зьвязвала матузком качаргу й чапялу, каб сватаньне адбылося. А яшчэ качарга, калі стаяла ля печы, замяшчала сабою хатняга духа, дамавіка. Таму гаспадыні глядзелі, каб у качарэжніку было суха, каб сьмецьце не валялася. Разам з тым, у качарэжніку, як прытулку хатніх духаў, і наагул нечысьці, мог пасяліцца чорт. Вось фрагмэнт запісу, які зрабіў вядомы беларускі этнограф Павал Шпілеўскі ў сярэдзіне пазамінулага стагодзьдзя:

***Кажуць, быццам бы баба-чараўніца вызвала нячысьціка на барацьбу. Іх падзяляў невялічкі плот зь вербаў. Дазволена было выбраць любую зброю. Баба выбрала ожаг, а нячысьцік — вілы. Чорт першы кінуўся на чараўніцу, але ягоныя вілы зашчаміліся ў плоце. Баба прапіхнула ожаг і так уходала праціўніка, што той мусіў з сорамам зьбегчы.***

*— Якім чынам нашы продкі маніфэставалі адпаведнасьць чалавечых дачыненьняў касьмічным структурам?*

— Вось сьвет прыроды — магутны, непрадказальны й таямнічы. А побач — хата, у ёй стол, дзяжа, акно. Паміж імі — чалавек. Ва ўяўленьні архаічнага чалавека гэта ня толькі падобныя сыстэмы, яны — сымбалічна тоесныя. Касьмічная будова Сусьвету суадносіцца са структурай дрэва, з будовай хаты. Верху, небу будуць адпавядаць дах і абразы, птушкі. Ствалу — жыцьцё зямное. А ніз тоесны ягоным насельнікам. Увогуле хата нашых продкаў — найбольш цэласная мадэль Сусьвету. Зірнем на традыцыйны інтэр'ер





сялянскай хаты. Заўсёды печ была й пачаткам, і цэнтрам гэтае хаты. І менавіта печ сымбалічна пазначае цэнтар Сусьвету. Печ — сакральнае сховішча агню, які сілкаваў сям'ю энэргіяй сонца й космасу. Акрамя таго, печ — унівэрсальная касмалягічная мадэль. Ейная аснова, падпечча, раўнуецца да нізу, падзем'я. Чалесьнікам адпавядае жыцьцё зямное, а комін будзе прыпадабняцца да верху, да каналаў сувязі з самім небам. І пячныя прылады таксама маюць сымбалічнае значэньне. Пячное начыньне мэтафарычна рэпрэзэнтуе саму печ. Патэльня на сымбалічным роўні выступае як сусьветны камень. Больш вузка — пуп зямлі. Як у замове:

***На моры, на кіяні стаіць куст. У тым кусьце ляжыць скаварода, пад скавародай ляжыць чорная руна. Пад той чорнай рунай ляжыць зьмяя Шкурапея.***

Наўпроставае судакрананьне зь печчу вызначае ўспрыманьне пячных прыладаў як сымбалю агню — прычым, агню амбівалентнага, бо сумяшчае ён ідэі сьмерці й нараджэньня, нябеснага й зямнога, сьветлага й цёмнага. Сваім рытуальным скарыстаньнем пячное начыньне здымае проціпастаўленьне зямлі й неба, верху й нізу.

*— Як уяўлялі старажытныя людзі стварэньне сьветабудовы, пераход ад Хаосу да Космасу?*

— Паводле той лёгікі, што, дэманструючы стварэньне, чалавек здольны й сам вяртацца туды, да цэнтру й першапачатку, каб ачысьціцца й зноў пачаць справу. Касмагонія прачытваецца праз сымболіку грэбня — таго, якім мы карыстаемся штодня, і ягонага варыянту — ткацкага часальнага грэбня. Менавіта грэбень і выступае сакральнай прыладай, пры дапамозе якой з хаатычнага, неапрацаванага льну ствараецца ўжо ўпарадкаваны пачатак — валакно. Так грэбень

робіцца прадметам-мэдыятарам паміж прыродным і культурным.

*— Але ж гэта шлях, як я разумею, да магічных дзеяньняў, да чарадзейства?*

— Сапраўды. З дапамогаю такіх рэчаў ня толькі чалавек мог зьвяртацца да іншага сьвету, але й дэманы, розная нячыстая сіла атрымлівалі канал сувязі зь людзьмі. Учытаемся ў фальклёрны запіс:

***Паклала грабянёк пад галаву й сказала: «Суджаны-раджаны, прыходзь маю галаву часаць». Не жагналася й не малілася Богу. І толькі заснула — як чую — палез нехта ка мне пад галоў, вымае грэбень і падыходзіць да мяне. Зьняў зь мяне дзяругу, падняў, пасадзіў на ложку, сарваў з маёй галавы хустку й давай мяне грэбнем прычэсваць. Часаў, часаў, ды як ірване, аж у мяне галава затрашчала.***

Зрэшты, і ў некаторых рытуалах, зьвязаных з замовамі, лекаваньнем, расшыфроўваецца плаз уяўленьняў пра стварэньне чалавека. І зноў мы вяртаемся да печы, бо менавіта печ станавілася тым пупам зямлі, дзе магчымае перанараджэньне. А яно патрабавалася ў экстрэмальных выпадках, пры цяжкіх хваробах. Продкі верылі, што жыцьцё нельга паправіць, яго трэба «паправіць наноў». І тады, прыкладам, маленькае цяжка хворае дзіця «перапякалі». Вось апісаньне характэрнага рытуалу:

***Падчас выпяканьня хлеба маці садзіць дзіця на хлебную лапату, абмывае, загладжвае яго хлебнай вадою й нясе да печы з намерам пасадзіць яго туды разам з хлебам, але пакідае лапату на загнетцы. Гэты момант пільнуе другая жанчына. Яна імгненна адчыняе дзьверы й гнеўна кажа:***
***— Што ты робіш?***
***— Ня то ня відзіш, сушчы пяку, во што я раблю.***





***— А, сушчы. Дык пячы іх, пячы, каб не было, — кажа тая й здымае дзіця з лапаты.***
***Маці ўносіць у печ лапату з пакінутымі на ёй сушчамі й звычайным рухам скідвае іх на «парознае» месца. На гэтае месца яна ўжо ня садзіць хлеба.***

Мы можам нават сьцьвярджаць, што рэчы ледзь не рабіліся двайнікоm чалавека. І таму праз сымболіку рэчаў можна было прасачыць пераход чалавека з аднаго стану ў іншы — зь дзяцінства да юнацтва, зь юнацтва да сталеньня, і нават да сьмерці.

*— З нашай размовы вынікае, што рэчы ў традыцыйным побыце паўставалі й як адухоўленыя аб'екты, і як раўнапраўныя ўдзельнікі абрадаў. Гэта ва ўяўленьнях чалавека мінулага часу. А сёньня? Ці існуюць рэшткі былой усёабдымнай сакралізацыі рэчаў у сьвядомасьці?*

— Гэтак, як і даўней, нам служаць посуд і адзеньне, венік і люстэрка. Іхны першапачатковы сымбалічны сэнс амаль забыўся. Аднак, як і раней, мы нэрвуемся, разьбіўшы талерку, здымаем шапку, уваходзячы ў храм, закрываем люстэрка, калі ў хаце нябожчык, не падмятаем падлогі, разьвітаўшыся з гасьцямі. Відавочна, сэмантыка рэчы аказалася тым удзячным полем, што зьберагла для нас архаічныя погляды і ўяўленьні.

## БЕЛАЯ Й ЧОРНАЯ МАГІЯ

*Размова зь Ліяй Салавей*

**Кожны хоць раз сутыкаўся з магіяй альбо чуў пра яе. Калі не дапамагаюць лекі — бяжым да шаптухі, напужаў сабака дзіця — адразаем кавалачак поўсьці й абкурваем ім дзіцёнка. Чулі мы й замовы на шкоду. Усё гэта магія — белая ці чорная. Магіяй называюць чараўніцтва, вядзьмарства, гэта — слоўныя замовы, розныя дзеяньні, абрады, зьвязаныя зь вераю ў здольнасьць чалавека ўзьдзейнічаць на прыроду, людзей, жывёлаў і нават багоў. Магічнае дзеяньне ўласьцівае чалавецтву на працягу ўсяго ягонага існаваньня. Вера ў выніковасьць замоваў, абрадаў, як ахоўных, гэтак і шкадлівых, замацоўвалася тысячагодзьдзямі. Зрэшты, таму яна й існуе, што запатрабаваная чалавечай псыхікай. Магія станавілася нават прафэсійнай, ёй вучыліся. І ў наш час, час найвышэйшых ведаў, людзі працягваюць верыць у магічнае.**

*— Чаму ж вера ў магію такая жывучая?*

— Магія даволі аб'ёмная зьява, і таму нельга адназначна адказаць на гэтае пытаньне. Часам усё жыцьцё чалавек ня верыць у ніякія надпрыродныя зьявы, але калі здараецца якая цяжкая сытуацыя — прыкладам, невылечна захварэе дзіця, тады чалавеку хочацца верыць у цуд. Душа прагне, каб усё ж разьвязаць гэтае сваё балючае пытаньне неяк кардынальна. І калі ўжо ўсе сродкі выпрабаваныя, тады чалавек бяжыць да шаптуноў. Нават калі й бяды няма, чалавек усё роўна бачыць, што сьвет поўны цудаў. Напрыклад, ягонае зусім малое дзіця пачынае вельмі хораша граць. Іншыя ня могуць, а яно любы інструмэнт бярэ й хут-





ка падбірае мэлёдыі. Людзей таксама заўсёды цешыла думка, што ёсьць яшчэ больш моцныя людзі, нейкія людзі-чараўнікі, якія могуць дапамагчы ў экстрэмальнай сытуацыі.

*— Вы перакананая, што веры ў магію патрабуе чалавечая псыхіка?*

— Так. Нават паводле Бібліі, слова ляжыць у аснове ўсяго. Чалавек пэўны, што з дапамогаю слова можна многае зрабіць, ажыцьцявіць. Тым больш, калі гэтае слова ад Бога.

*— Значыць, у аснове магіі — слова?*

— Ня толькі. Магія ахоплівае розныя спосабы: і дзеяньне, і прадметы, і словы, што разам утварае магічны абрад. Ёсьць актыўная магія, якая патрабуе прымяненьня словаў, дзеяньняў, а ёсьць і пасіўная. Яна патрабуе ўстрымацца ад нечага, не сказаць у гэты час, не зрабіць, не ступіць, не дакрануцца.

*— Я думаю, што нам ня трэба паўтараць памылкі героя Міхаіла Булгакава, які гуляў зь нячыстай сілаю, а таму ня будзем агалошваць праклёнаў, шкадлівых замоваў. А вось прыроду й карані чорнай магіі ўсё ж варта было б прааналізаваць.*

— Чорная магія — шкадлівая. Ёсьць і белая: ахоўная, лячэбная, засьцерагальная. Але паміж імі рэзкай мяжы няма. Шкадлівая магія ўзьнікае часам як рэакцыя на крыўду, на нейкую варожую дзейнасьць. Хай гэта будзе нязначная дзейнасьць, прыкладам, калі суседка не глядзіць сваіх курэй, або калі падсьвінак уварваўся ў грады дый зрыў усё. Гэта крыўда за тое, што чалавек не шануе чужой працы. Крыўда патрабуе нейкага выхаду. І гэтае выйсьце знаходзіцца часам у словах, праклёнах: «Ах, каб цябе!..», «Ах, каб табе!..» — каб штосьці здарылася благое. Тады ў адказ на гэта можа ўзьнікнуць іншая варожасьць. Ком

нарастае, аж пакуль дзесьці не адбываецца выбух — можна пачуць праклёны на цэлыя пакаленьні, яны пашыраюцца на дзяцей, унукаў. Праклёны могуць перарастаць у розныя дзеяньні нават да магічных абрадаў: зламаньне сьвечкі на клямцы ў царкве, прагаворваньне перад асінавым колам заклёнаў, зламаньне сьвечкі й закопваньне яе ў зямлю, спаленьне сьвечкі, каб яна патухла. Адпаведнымі тэкстамі дадаецца, што «каб і жыцьцё тваё патухла!..».

*— А ці можна гаварыць пра тыпалёгію словаў, дзеяньняў у, скажам, праклёнах? Магчыма, існуе ўласна беларуская тыпалёгія?*

— Беларусы — сапраўдныя слоўныя майстры, вынаходлівыя творцы слова! Ніводнае дзеяньне ў іх не адбывалася без магічнай слоўнай формы. Гэта можна прасачыць на прыкладах з традыцыйнага жыцьця — пачынаецца праца, трэба сказаць формулу, хоць простую: «Памажы Божа!», «Дай Божа добры час!». Звароты фармаваліся даўно, і там слова Бог ня ёсьць паказчыкам хрысьціянства. Скажам, пры заканчэньні жніва, гуканьня спарыньні або пры пачатку работы на жніве клікалі сьпешку-парышку. Калі жанчына мыла, то ёй казалі: «Бела Вам!» або «Лебедзі лятуць».

*— Белая магія, як Вы сказалі, не шкадлівая. Значыць, яе можна бяз боязі выкарыстаць дзеля, прыкладам, узаемнасьці ў каханьні, а мо нават і шлюбу. Якія ў беларусаў былі ці ёсьць замовы на такія выпадкі?*

— Іх шмат. Але б я не адносіла замовы на зьяднаньне з каханым да белай магіі. Гэта ўсё ж шкадлівая магія. Паводле народных уяўленьняў, калі вы праз чараўніцтва, замовы і ўсялякія іншыя дзеяньні прывабілі да сябе чалавека, ажанілі з сабою, дык добрага не чакайце. Чары мінуцца, і пачнецца благое жыцьцё. Вядома, калі дзяўчына моліцца перад невядомымі





сіламі, каб захаваць каханьне, тады гэта даравальна. Вось некаторыя з такіх замоваў.

***Сьвятою вадою ўмываюся,***
***Золатам уціраюся,***
***Сонейкам адзяваюся,***
***Месяцам падпяражуся,***
***Зоркамі зашпілюся:***
***Я нікога не баюся.***
***Як сонца й месяц на ўвесь сьвет сьвецяць,***
***Так каб я была над увесь сьвет***
***Міла й люба Раману.***

***Месяц і зоры,***
***Не давайце майму Раману спакою:***
***Каб ён ня еў, ня піў,***
***Ня спаў, не драмаў,***
***Толькі пра мяне, Вольгу, думаў,***
***Бо я, Вольга, раджона-хрышчона,***
***Доляю абгараджона,***
***Сонейка — у вачох,***
***Месячык — у плячох,***
***Зорачкі — у раброх,***
***Ангелы — на нябёсах,***
***Камень — у моры.***
***Як таго каменя з мора не падняць,***
***Так у мяне хлопца не адняць.***

*— Якія яшчэ замовы можна лічыць станоўчымі?*

— Найперш, усе ахоўныя й лячэбныя замовы. Апошнія, хай сабе не заўсёды вылечваюць, але ў многіх выпадках дадаюць чалавеку ўпэўненасьці, што ён пераможа, што ён паздаравее. Гэта вельмі важна. Нават мэдыкі сьцьвярджаюць, што настроенасьць чалавека на выздараўленьне вельмі патрэбная. Ёсьць такія першасныя, прымітыўныя замовы — ня тыя, што выкарыстоўвалі чараўнікі, майстры, знаткі, а

тыя, што магло ведаць і дзіця школьнага веку. Прыкладам, ікаўка ў страўніку. Вучылі пераадольваць такую зьяву, валодаць сабой, перамагаць сілаю волі працэсы, што адбываюцца ў арганізьме. Трэба было набраць паветра й на адным уздыху сказаць: «Ехала ікаўка на сівой кабыле. Кабыла пала — ікаўка прапала». І так тры разы. Часта дзеці бавяцца, падаюць, набіваюць гузы, а потым бягуць да мамы, каб пахукала, каб пагладзіла, а мамы няма, тады можна й самому сказаць: «Ляцела пава — на дубе пала. Дуб скалыхнуўся — удар мінуўся». Вось яшчэ некалькі замоваў:

***ЗАМОВА АД САБАКІ***
***Цюцька, цюцька,***
***Твая маці сучка,***
***Цябе яна радзіла,***
***Табе вочы засьляпіла.***
***Ня бачыў ты сьвету,***
***Ня бач і мяне.***
***Чый хлеб ясі,***
***На таго й брашы.***

***ЗАМОВА АД ЯЧМЕНЮ***
***(хваробы на вачах)***
***Ячмень, ячмень,***
***На табе кукіш,***
***Што захочаш,***
***Тое й купіш.***
***Купі сабе тапарок,***
***Пасячыся папярок.***

***ЗАМОВА АД СПУДУ***
***Бег сабачка цераз мост,***
***Чатыры лапы, адзін хвост,***
***На масточку забрахаў,***
***Вольцы ліха адагнаў.***





***ЗАМОВА КЛАДУЧЫСЯ СПАЦЬ***
***У ложак лажуся,***
***На бачок павярнуся,***
***Нічога не баюся.***
***Анёлы пры мне:***
***Што ім, тое й мне.***

*— А зараз пра знахараў і чараўнікоў. Вельмі часта яны замаўляюць супраць чалавека, ужываюць шкадлівыя замовы. Ці не вяртаецца да іх гэтая шкадлівасьць?*

— Чараўніцтва таксама амбівалентнае. Адзін і той жа чалавек можа зрабіць і добрае, і злое. Яго папрасі й яшчэ заплаці, дык ён і зробіць блага. Але на аднаго падзейнічае, на іншага — не. Адзін лёгка паддаецца замове, іншы мае цьвёрды характар. На самаго чараўніка таксама спрабавалі вярнуць замову. Вось тыповы прыклад: «Што ты мне зрабіў, каб і ты тое меў!». Гэта трэба сказаць абавязкова, калі адчуваеш такую падазронасьць, што чалавек нешта пра цябе падумаў, ня так паглядзеў. Або сказаць, або падумаць.

*— А ці ёсьць адмовы на замовы?*

— Ёсьць. Прыкладам, чараўнік, які рабіў замову на злом жыта, выбіраў адпаведны час: поўдзень або поўнач. Затым распранаўся, хадзіў супраць сонца й казаў замову: «Каб жаў — адляжаў! Каб зьеў — адхварэў!». А чараўнік, якога прасілі адчараваць гэты залом, звычайна прыгаворваў: «Каб жаў — не ляжаў! Каб еў — не хварэў!».

*— Белая магія — гэта чараўніцтва з дапамогай боскіх сілаў, так?*

— Ня толькі. З дапамогай усіх сьветлых сілаў. Тут і зварот да зары, да вады, да сонца, да месяца. Скажам, у дарогу выпраўляе маці сына, на душы трывога, і тады трэба сказаць: «Мяне маці радзіла, сонейкам аб-

гарадзіла, месяцам падперазала, у дарогу адпраўляла. Раньні бег — не дабег. Позьні бег — не дабег. А мне ад Бога шчасьлівая дарога!». Ёсьць звароты й да Бога, і да прыродных сілаў — да сьвяціла, да зары. Так, па дапамогу зьвярталіся да зары: «Зара-зараніца, божая памачніца, заўсёды й вадзіца царыца».

*— Ці патрэбная нам сёньня магія, ці будзе яна запатрабаваная наступнымі пакаленьнямі, якім жыць ужо, напэўна, ня толькі ў кампутарызаваным сьвеце, а ў яшчэ больш тэхнагенным?*

— Ніхто ня ведае, якім будзе ў далечы чалавек. Але ўсе ягоныя досьведы жывучыя, і зь бегам часу яны так ці іначай выкарыстоўваюцца. Хай сабе толькі для таго, каб проста ўквеціць жыцьцё. Ня веру асабліва, што замова страціць сваю функцыю й стане проста паэзіяй. Хаця тут ёсьць, безумоўна, і паэтычныя знаходкі, але ўсё ж замова трымаецца на пэўнай функцыі, на практычнай патрэбе. І перш за ўсё на патрэбе душы, бо душа хоча цуду, і цуд гэты дае магія.



## ЧАЛАВЕК У СЬВЕЦЕ ГУКАЎ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Чалавек жыве ў сьвеце гукаў — гукаў прыроды, сьпеваў, гулу машынаў. Дый сам чалавек актыўна стварае самыя розныя гукі й, галоўнае, мае голас. Камунікацыю й жыцьцё наагул бяз гукаў цяжка сабе і ўявіць. Абсалютная цішыня існуе, бадай, толькі на тым сьвеце. А народная традыцыя гукавыя паводзіны прыпісвае ірэальным пэрсанажам, прыкладам, таму ж дамавіку.**

*— Дык якія сэнсы маюць гукі ў культурнай традыцыі? Які ён, гукавы «каталёг» народных звычаяў і абрадаў беларусаў?*

— Гук, як і іншыя зьявы навакольнага сьвету, у традыцыйнай культуры можа набываць значэньне, ставіцца знакам, мець культурную функцыю і ўлучацца ў культурны тэкст. Апазыцыя «гук — цішыня» й ейны адпаведнік у сьвеце чалавечых гукаў «голас — маўчаньне» ёсьць адной з асноўных катэгорыяў сымбалічнай мовы культуры. На глыбінным роўні ёй адпавядае кардынальнае для ўсёй культуры супрацьпастаўленьне зямнога сьвету людзей, што гучыць і гаворыць, замагільнаму сьвету мёртвых, дзе пануе цішыня й бязгучнасьць.

*— Самы блізкі нам гук — гэта наш голас. Якое месца голас займае ў духоўнай культуры?*

— Голас чалавека займае асаблівае месца ў шэрагу гукаў. Як прыродная функцыя чалавека, ён служыць прыкметаю «гэтага», зямнога сьвету ў супрацьлегласьць замагільлю. Нездарма дэманаў выганяюць туды, дзе «сякеры не сякуць, слова не чуваць і куды пеўнеў голас не даходзіць». Разам з тым голас набы-

вае розныя магічныя функцыі — абароны, адгону, прадукаваньня й нават лекаваньня. Голасам можна адвесьці ад чалавека хваробу й перадаць яе іншаму:

***Верылі, ліхаманку можна нават адсьпяваць. Тады хворы на ўсходзе сонца, каб ніхто ня бачыў, лез на плот, як певень, ды ўголас крычаў: «Кукарэку, я сьпяваю, хто тое чуе, няхай мае».***

Варта адзначыць і тое, што голас у рытуальнай практыцы так ці інакш маркаваны. Замову, напрыклад, шэпчуць, мяняюць рытм, інтанацыю й нават тон; пры абыходзе палёў гаварыць стараліся як мага гучней, нават крычаць, каб добра зарадзіла збожжа.

*— Адгонная функцыя голасу зразумелая, мы й сёньня крычым, каб напалохаць ці адагнаць непажаданага спадарожніка. Але як з дапамогаю голасу небясьпеку папярэдзіць?*

— У міталягічным сьветаглядзе голас і гук ствараюць своеасаблівую агароджу. Але адрозна ад агароджы, прыкладам, збудаванай ці ўзаранай, якая праходзіць толькі па пэрымэтры, чалавечы голас запаўняе ўсю прастору цалкам і датуль, пакуль ён будзе чутны. На Палесьсі існавала нават мера адлегласьці, і за адзінку вымярэньня бралася магутнасьць гукаў, у дадзеным выпадку — хатніх жывёлаў. Верылі, што нечысьць не падыдзе «на валоў рык».

*— Дзе чуваць голас — там жыцьцё. А дзе голасу няма?..*

— Там сфэра сьмерці й дэманаў. Аднясеньне маўчаньня й цішыні да замагільля рэглямэнтуе й паводзіны чалавека. У час пахаваньня й памінак удзельнікі стараюцца гаварыць шэптам, бо, згодна з павер'ямі, душы продкаў зьяўляюцца да стала, і кожнае слова можа напалохаць іх і прагнаць, а гэта пагражае бядой. Час сьмерці Ісуса Хрыста адзначаны ў каталіцкай традыцыі маўчаньнем званоў.





*— Да сёньняшняга часу захавалася традыцыйная хвіліна маўчаньня. Маўчым мы й прысеўшы перад выправай у дарогу. Відаць, карані гэтых звычаяў трэба шукаць у міталягічных поглядах?*

— Так, сёньняшняе разуменьне хвіліны маўчаньня як ушанаваньня памяці вынікае зь першапачатковай сэмантыкі — усталяваньня духоўнага кантакту з продкамі. Да іх мы зьвяртаемся й перад дарогай, маўчым, каб далучыцца да іх і папрасіць аб удачы. Наагул, маўчаньне й, шырэй, бязгучнасьць — канечнае патрабаваньне многіх абрадаў і рытуальных дзеяньняў дзеля кантактаваньня зь іншасьветам. Агульнымі мэтамі іх станавілася імкненьне вылечыцца (цішыня пры замаўленьні) альбо забясьпечыць сабе посьпех у якой-небудзь справе, а таксама запытаньне ў продкаў, звышнатуральных сілаў пра сваю будучыню. Згадаем маўчаньне ў час варожбаў:

***На Вадапосьце вячэру варыць, а катора хоча гадаць, то сама сабе наварыць салёных з лушпайкамі картопляў, ні з кім не гаворыць, хоць бы на яе хто што ні казаў, і кладзецца спаць. А ўночы прысьніцца сон, што хлопец ваду падае — за таго й пойдзе.***

Маўчаньне таксама адносіцца да захадаў засьцярогі, якія робіць чалавек пры кантакце са сьветам дэманаў. Таму рэкамэндавалася маўчаць і не раскрываць роту ў часе навальніцы, каб нячысты ня змог там схавацца, гэтак жа пры раскопваньні скарбаў, якія вартуе нячыстая сіла. Дарэчы, парушэньне забароны магло прывесьці да суровых наступстваў.

*— І яшчэ адзін від голасу, гукаў — плач, альбо, у рытуальнай практыцы, галашэньне. Ці былі ў бе-*

*ларусаў прафэсійныя плакальшчыцы, бо гора ж бязь сьлёзаў і галашэньняў не бывае?*

— У народнай традыцыі гукавое праяўленьне гора строга рэглямэнтавалася. Найперш забараняліся плач і прычытаньні ў час агоніі, якія, як верылі, працягваюць пакуты, не даюць выйсьці душы. У народзе расказваюць:

***Як хто памірае, то спакой і цішыня, каб ніхто не адзываўся. Перабіваць сьмерць ня нада. Калі перабіў чалавеку адыход, ён мучыцца страшна. Пакуль яго не паложаць на лаву, памыюць, адзенуць, сьвечку запаляць на акне, і тады плачуць. І ноччу, як сонца зайшло, не галосяць, ня выюць — нельга.***

*— А сьвіст? Нават адукаваныя гараджане асьцерагаюцца сьвістаць, скажам, у хаце — каб грошай ня высьвістаць. Што зьвязвалася са сьвістам у традыцыі?*

— Сьвіст — адна з праяваў ненарматыўных гукавых паводзінаў чалавека, учынак рэзка нэгатыўны й аднесены да іншасьвету. Існавала строгая забарона сьвістаць у хаце, бо гэта выклікала альбо зьяўленьне нячыстай сілы (як у прыказцы «Дурні сьвішчуць, чарцей ішчуць»), альбо віхуру. Сьвіст у двары пагражаў спустошваньнем гаспадаркі. Хатні дух мог адпомсьціць сьвістуну беспадстаўны выклік. Такім чынам, сьвіст выступае як заклік таго сьвету й ягоны сыгнал. Лічылася, што калі сьвісьнеш тры разы ў 12 гадзінаў у чацьвер, дык зможаш паклікаць да сябе д'ябла. Сьвіст у полі выклікаў віхуру, а гэтая стыхія ўяўлялася як чалавек зь вялікімі, надзьмутымі для сьвісту вуснамі.

*— Што тычыцца таго сьвету, дык, падаецца, ягонае дэманічнае войска бязгучнае толькі там, на тым сьвеце. Завітаўшы ў сьвет людзей, дэманы пачыналі гаварыць?*





— Альбо проста перадаваць няўцямныя, дзіўныя гукі. Невядомыя страшныя гукі маглі належаць і нейкім безыменным духам. Пра такія жахлівыя водгукі казалі: «штось гукае, пужае».

***На Пятра ня нада хадзіць у лес, там пужае. Хто хадзіў, дак там гукае й гукае: «О-гой! О-гой! Да хадзі дамой!» А хто яго знае, хто крычыць. Можа, гэты Пятро. А некаторыя гаворыць, гэта зямля абзываецца.***

«Гаворцы» дэманаў або іхным гукам уласьцівыя незвычайнасьць, незразумеласьць, скажэньне прывычных формаў, падваеньне рэплік, заіканьне, картавасьць ці, наадварот, дужа складная гаворка, нават у рыфму. Ім прыпісваюцца таксама крыкі, заклікі, уздыхі, працяглыя гукавыя сыгналы, няўцямнае мармытаньне. Так, русалкі крычаць: огэ-огэ-огэ, гу-та-та, гу-та-та, альбо неяк мыкаюць: нім-нім-нім... Надзвычай папулярны матыў пра чорта, які трапляецца падарожнаму ў выглядзе жывёліны й на заклік чалавека адзываецца жудасным рэхам: бяша-бяша-бяша...

*— З усясьветных міталёгіяў мы ведаем пра сырэнаў, што губілі падарожнікаў адно сваімі сьпевамі, а гэта значыць, голасам. А ці ёсьць у беларусаў гэткія гуканебясьпечныя дэманы?*

— Заслухаўшыся сьпеву русалак, трацілі асьцярожнасьць хлопцы. Аніяк нельга было адгукацца на любы незнаёмы вокліч, калі цябе хтосьці невядомы клікаў па імені. Адгукнуўшыся, чалавек тым самым адкрываў да сябе доступ і фактычна трапляў пад уладу нячыстаму. А яшчэ ў народзе расказвалі пра асобнага дэмана з «гукавым» імем — пра хіхітуна:

***Хіхітун — такі нячысьцік, які быццам бы знаходзіцца ў чалавека за сьпінаю. І калі з чалавекам можа здарыцца нешта нядобрае, хіхітун пачынае радавацца гэтаму, сьмеючыся тоненька й часта:***

***хі-хі, хі-хі-хі. Рэзка абярнуўшыся назад у гэты момант, можна ўбачыць маленькае стварэньне, якое нечым нагадвае малпачку, а на макаўцы ў яго невялічкія рожкі.***

*— Тут сьмех хіхітуна злосны, зларадны. Дэманы ня ўмеюць сьмяяцца так, як сьмяецца шчасьлівы чалавек. Але ж сёньня ніхто не сумняваецца, што хвіліна сьмеху працягвае жыцьцё на гадзіну...*

— І ў народных уяўленьнях сьмех надзяляўся адгоннымі функцыямі й самай яркай жыцьцесьцьвярджальнай патэнцыяй. Чалавек сьмяяўся, і наўкола станавілася чыста — без чарцей і зламысьнікаў, стымуляваліся прыродныя рытмы, маладзела душа. Як у казцы: расьсьмяшыў Ванька царэўну Несьмяяну — чакай вясельля.



## ШАМАНЫ, ЧАРАЎНІКІ, ЖРАЦЫ

*Размова з Тодарам Кашкурэвічам*

**Шаманства ёсьць адной з архаічных тэхнік экстазу й адначасна містыкай, магіяй і рэлігіяй у шырокім разуменьні гэтага слова, з уласьцівымі ёй касмалёгіяй і магічнымі тэхнікамі. Элемэнты шаманства знаходзяцца, бадай, ва ўсіх рэлігійных сыстэмах сьвету. Мы ведаем пра шаманства ў Сібіры, Скандынавіі.**

*— Але ці было ўласьцівае шаманства архаічным беларусам? Якія элемэнты вызначаюць рэлігійную сыстэму як шаманскую?*

— Адным з цэнтральных элемэнтаў шаманскай касмалёгіі зьяўляецца трохчасткавы падзел Сусьвету ў ягонай вэртыкальнай праекцыі, сымбалем і ўвасабленьнем якога зьяўляецца Сусьветнае Дрэва. Сусьветнае Дрэва мае прынцыповае значэньне для шамана. Яно стаіць у Цэнтры Сьвету, ягоныя галіны дасягаюць Неба, ягоныя карані сягаюць Апраметнай. Дрэва — шлях для шамана. Узьбіраючыся на яго, шаман мае магчымасьць трапіць ва ўсе часткі Сусьвету: у сьвет багоў, у сьвет продкаў. Зь ягонай драўніны шаман робіць сабе бубен. Што да спэцыфічнай шаманскай тэхнікі, то яна выяўляецца ў здольнасьці ўзносіцца на Неба, сыходзіць у Апраметную, выклікаць і ўвасабляць духаў дзеля ажыцьцяўленьня экстатычнага вандраваньня. Гэта й здольнасьць уладарыць над агнём.

*— Хто ж мог быць шаманам?*

— Шаманы былі «абраныя», і яны былі далучаныя да сфэры сакральнага, недасяжныя для астатніх сяброў грамады. Шаман — паэт, сьпявак, музыка, прарок, жрэц і лекар, ён — захавальнік рэлігійных і народ-

ных традыцыяў, паданьняў. Ну, акурат як апісвалі менскія жанчыны сьвятара Савасьцея зь менскага капішча: і швец, і жнец, і ў дуду ігрэц.

*— Традыцыйна шаманства зьвязваюць са жрэцкімі практыкамі. Але жрэцкі кодэкс пасьля прыняцьця хрысьціянства стаўся практычна белай плямай.*

— Пра жрэцкі стан у беларускай архаічнай традыцыі захавалася надзвычай мала паведамленьняў. А пра характар жрэцкіх практык невядома нічога. Перш чым казаць пра шаманства ў беларусаў, колькі словаў пра сакральны статус іхнай зямлі. «Крывія» — як цэнтар Сусьвету, месца, адкуль бяруць вытокі найбуйнейшыя ўсходнеэўрапейскія рэкі — Волга, Дняпро, Дзьвіна. Гэта — месца, дзе рэканструктыўна знаходзілася Гіпэрбарэя, гара Мэру, Хара Бэрэзайці, краіна, дзе знаходзіліся ўваход на Неба і ў Падзямельле, краіна жрацоў-крывісаў. Сярод народных паданьняў з пракаветных часоў ёсьць і такія, што расказваюць пра старажытных насельнікаў нашай зямлі — асілкаў, або волатаў. Пра гэта ж знойдзем і ў міталёгіях іншых індаэўрапейскіх народаў. Характэрнай рысай пракаветных волатаў была такая фізіялягічная ўласьцівасьць, як лішняя «чортава» костка — рабро ці грудзіна, як суцэльны панцыр. Відаць, тая костка была адной з прычынаў неверагоднай моцы волатаў. Пазьней этнолягі зафіксавалі карагод, у часе якога ўдзельнікі моцна круціліся, узяўшыся за рукі, і сьпявалі: «Чортава костка, хто адарвецца, гора набярэцца...».

*— Чаму менавіта костка ва ўяўленьнях архаічнага чалавека набывала магічны сэнс?*

— Паводле некаторых лінгвістаў, нашы продкі размаўлялі на дыялектах балцкай моўнай групы, дый дагэтуль некаторыя беларускія дыялекты маюць рысы





заходнебалцкага характару. У старажытнапрускай мове, роднаснай мове нашых продкаў, слова, што азначае рабро, гучыць як «greiwakaulin», што значыць «крывая костка». Але нашы міталягічныя факты дазваляюць разумець гэтае слова й як «костка (жраца) Крыве», адпаведна — костка першанасельнікаў нашае зямлі, волатаў, жрацоў-крывічоў. Тое, што старажытныя тутэйшыя жрацы валодалі нейкай своеасаблівай косткай, крывой косткай як нейкім атрыбутам, цікава ў зьвязку з алтайскай шаманскай традыцыяй. Там адным з галоўных атрыбутаў шамана ёсьць костка, рабро або грудзіна птушкі — гэтыя прадметы давалі шаману здольнасьць да палётаў у розныя сьветы.

*— Ці захаваліся ў беларусаў легенды пра людзей зь нечалавечымі здольнасьцямі — прыкладам, пра такіх, што могуць лятаць?*

— Існуе легенда пра Зьмея-краўца з навакольляў Лукомскага возера — так бы мовіць, з крыўскага Лукамор'я, які жыў у камені, шыў вопратку людзям, што служыла сто гадоў. Калі ўладальнік той вопраткі рэгулярна хадзіў на ігрышчы, то вопратка была практычна нязносная, але калі ўладальнік ейны заходзіў у царкву, то яна развальвалася на кавалкі. Кравец меў здольнасьць ператварацца ў зьмея й лётаў праз Лукомскае возера ў вобразе вясёлкі да сваёй каханкі. Ну, а так хадзіў у міры як чалавек, схаваўшы крылы пад пінжак. Паўстае вобраз самотніка-ведзьмака, які, калі ў гарадах ужо панавала хрысьціянства, вымушаны быў хавацца й жыць у лесе, займацца няхітрым рамяством — кравецтвам.

*— Рамесьніцкае азначэньне «кравец» паходзіць, як мяркуюць лінгвісты, праз народна-этымалягічнае вытлумачэньне ад балцкага «kryvis», у славянскамоўнай рэдакцыі — «крывец». Дый архаічная тэхналёгія краеньня вопраткі — ці не адпавядае яна*

*акту сымбалічнага ахвярапрынашэньня як падставы для стварэньня адзеньня паводле міту, рытуальнай мадэлі?*

— Пацьверджаньне гэтай думкі знаходзім зноў-такі ў алтайскай шаманскай міталёгіі, дзе вярхоўны нябесны бог Ульгень кроіць (разумей — стварае) душы людзям — накшталт абутку ці вопраткі, што ў нашым выпадку сапраўды мог выконваць чалавек, набліжаны да багоў — жрэц. Здольнасьць краўцакрывіса ператварацца ў зьмея — ці ня сьведчаньне пра шаманскую тэхніку — левітацыю, здольнасьць перамяшчацца ў паветры? Пра гэта неверагодна шмат у шаманскіх міталёгіях — як індаэўрапейскіх, так і ўральска-алтайскіх.

*— Такім чынам, элемэнты шаманства можна назіраць у тэхніках рамёстваў. Якія яшчэ традыцыйныя рамёствы ці іхныя тэхналёгіі можна зьвязаць з шаманствам?*

— Большасьць архаічных тэхналёгіяў паўстала зь першапачатковых рытуальных дзеяньняў. Старажытныя жрацы Сусьвет выкоўвалі, ткалі, высякалі — як цесьляры, ляпілі — як ганчары. Гэтаксама, як багі. І напачатку, і пазьней захавалася стаўленьне да рамесьнікаў як да чарадзеяў, людзей, што маюць уласьцівасьць зносіцца з найвышэйшымі сіламі. Бортніцтва надзвычай багатае на элемэнты шаманскай ідэалёгіі. Гэта раскрываецца напоўніцу, калі параўнаеш беларускі шаманскі досьвед зь сібірскім і алтайскім досьведамі, дзе шаманства захавалася як цэласная сыстэма да нашых дзён. Архаічная форма бортніцтва — гэта борці, разьмешчаныя на дрэвах, ці раі, што жывуць у дуплах дрэваў. «Сьвятыя пчолкі», «біты ярыя» («біты» ў беларускіх песьнях ад балцкага 'bite' — «пчала»), што жывуць у дупле дрэва, — сымбаль вельмі глыбокай архаікі, карані якога ў пачатках індаэўрапейшчыны. І тут цікавая асоба бортніка. Рэч у тым, што





лазаньне па дрэве ёсьць адной з найважнейшых магічна-апэрацыйных практык шамана. Шаманская тэхніка, запраўды, заключаецца ў пераходзе з адной касьмічнай сфэры ў другую: зь Зямлі на Неба або зь Зямлі ў Пекла. Дрэва ёсьць дарогай для ягоных падарожжаў.

*— З тэмай Сусьветнага Дрэва, мёдам (апасродкавана — пчалярствам) зьвязаны й цэлы блёк германска-скандынаўскай міталёгіі. Гэта найперш міт пра бога Одына, гэткага бога-экстатыка.*

— Сапраўды, асоба Одына й міт пра яго — Страшэннага Ўладара й Вялікага Мага — паказваюць нам некалькі істотных шаманскіх рысаў. Каб спасьцігнуць таемную мудрасьць рунаў, Одын сам сябе прыцяў кап'ём да крывога дрэва, правісеў там дзевяць дзён і начэй. Навукоўцы бачаць у гэтым абрад пасьвячэньня. А калі яшчэ згадаць, што Одын праславіўся й тым, што здабыў мёд паэзіі, то перад намі паўстае вобраз сапраўднага бога-пчаляра. Бортніцтва ў сувязі з сыстэмай пісьма яскрава адлюстраванае й на балцкакрыўскіх этнаграфічных і моўных фактах. Славянскае слова «борць» паходзіць ад дзеяслова са значэньнем 'буравіць', 'длубаць', а ў латыскай мове слова «burts» азначае знак або літару. Вядомыя «бортныя знакі» — ці не рэлікт нейкай тутэйшай граматы, накшталт германскіх рунаў — гэткія «чэрты й рэзы», адкрытыя ў прасьвятленьні тутэйшым бортнікам-шаманам падчас мэдытацыі пад пчаліны гуд, калі яны сядзелі на дубовым суку. Бортнікі ў народным уяўленьні мелі вельмі высокі статус. У песьнях яны займаюць побач з дударом найвышэйшае месца.

*— Шаманізм зьвязваецца з экстатычнымі перажываньнямі, экстатычным станам чалавека. Вельмі часта экстазу чалавек дасягае праз музыку.*

— Дудар у шаманстве моцна ўражвае, вось сапраўды — утрапёны скамарох, жрэц экстатычных абрадаў, творца рытуальнага экстазу! І ў дзеяньнях дудара шмат элемэнтаў шаманства. Гэта, безумоўна, вешаньне дуды на дрэве, тутэйшага шаманскага інструмэнту, зробленага з прынесенай у ахвяру казы («эх, павесіў ён дуду, на зялёным на дубу»). Гэта й матыў граньня дудара, які сядзіць на дрэве («сядзіць дзед на дубе й іграець на дудзе»), або замена яго арнітalягічным увасабленьнем — жоравам («сядзіць жораў на дубе й іграець на трубе»). Ён можа быць заменены ўвогуле таямнічай асобай нейкага камара («сядзіць камар на дубе»), і ўжо гэты ж камар сядзіць на палку ў лазьні («камар лазьню тапіў»)... Потым усе яны пачынаюць валіцца ад наляцелай буры, ламіць сабе бакі, ногі... Далей яшчэ цікавей! Узьнікае тэма лазьні, «магічнага жару» — яшчэ аднаго таксама знакавага элемэнту шаманства. Рытуальныя лазьні выконвалі магічную ролю ў падрыхтоўцы будучых шаманаў — як месца экстатычных перажываньняў. Насамрэч лазьня — культавае месца: камяні, агонь, вада — элемэнты, зь якіх складаецца сьвет, і ўсе яны ў рытуальна-касмаганічным узаемадзеяньні!

*— Ці ня маем мы тут пад мноствам імёнаў і пэрсанажаў пэўную сыстэму кодаў, здольную прыстасоўвацца да любых, часта неспрыяльных ідэалягічных сытуацыяў?*

— Пасьля прыняцьця хрысьціянства прыхільнікі старой веры мусілі хаваць сваіх пэрсанажаў, істотныя паняцьці за мэтафары. Існавала сыстэма разнастайных кодаў: код музычны, чалавечага адзеньня, казюлькавы, птушыны, побытавых прадметаў, якія ў любой сытуацыі маглі замяняць адно аднаго. Ці не замяняе казюлька-камар нейкі іншы пэрсанаж паводле сугучча, алітэрацыі? Дарэчы, слова «камар» паходзіць ад індаэўрапейскага слова ‘камру’ — рой. Менавіта, скамарохі-валачобнікі атаесамляліся ў нашае народнае традыцыі з роем. І ці не ўвасабляла традыцыі скамарохаў тутэйшае шаманства?

*— Дык што, беларуская духоўная традыцыя прэтэндуе на шаманскую?*

— Наяўнасьць якога-небудзь шаманскага фэномэну яшчэ не азначае, што магічна-рэлігійнае жыцьцё таго ці іншага народу засяроджанае вакол шаманства, але выяўленьне й дасьледаваньне такіх зьяваў здаецца пэрспэктыўным у вывучэньні архетыпаў пэўнай культуры.

# РАЙ І ПЕКЛА — ДАБРО Й ЗЛО

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**«Lutum non omnia finit» (Сьмерць — не канец), казалі старажытныя рымляне. І з гэтым пагаджаецца бальшыня міталёгіяў і рэлігіяў. Але што адбываецца пасьля чалавечага існаваньня? Здагадка аказалася аднолькавай ва ўсіх канцах гэтага сьвету. Пасьмяротнае быцьцё ўсюды біпалярнае — цемра й сьвятло, пакуты й асалода, узнагарода й пакараньне. Яшчэ ў Гамэравых паэмах закладзеная палярызаваная мадэль сьвету, якая ўлучае ў сябе Элізіюм і Аід — дзьве формы вечнага жыцьця, што чакалі чалавека. Пройдуць першыя стагодзьдзі хрысьціянства, і чалавек паўстане перад выбарам: рай альбо пекла. Рэальна цяпер адно — як бы глыбока ні сягалі мы ў гісторыю, колькі б міталёгіяў ні гарталі, перад намі паўстануць вэрсіі адной і той жа мадэлі.**

— *А якая вэрсія ў беларусаў?*

— У пазьнейшай міталёгіі беларусаў, як і іншых народаў сьвету, зямля паўстае цэнтральным складнікам трыяды «рай — зямля — пекла». Але ў той даўні міталягічны час, калі грэшных людзей яшчэ й не было, існаваў адзіны замагільны сьвет — вырай.

— *Для нас сёньня вырай — гэта тое месца, куды адлятаюць птушкі...*

— А яшчэ туды паўзуць зьмеі ўвосень, на Ўзьвіжаньне. Вырай акаляе нас і зьверху, на поўдні, і зьнізу, пад зямлёю. Дый згадаем казкі — нашу міталёгію. Памятаеце, трапляе герой у падземнае царства, а выносіць яго адтуль на сьпіне ня хто іншы, як птушка. Вы-





ходзіць, вырай наўкола, ён замыкаецца на Ўзьвіжаньне, а на Саракі адмыкае яго пчолка альбо птушачка й выпускае птушыныя выраі на зямлю. Злучэньне раю зямнога — выраю — і раю нябеснага ёсьць характэрнай рысай беларускай міталёгіі.

***Бог сатварыў сьвет і людзей. Людзям Бог зрабіў вельмі гожы рай. Людзі там і жылі, пакуль не саграшылі. Рай — гэта такі сад, у якім заўжды шмат усяго, што толькі душа прымае. Першыя людзі жылі там вальготна ды радасна, бы тыя птушкі. Там было цёпла, бо заўжды стаяла лета. Як людзі саграшылі ды пашлі скітацца па сьвеце, дык яны вельмі ўбіваліся, што згубілі сваю долю, загубілі райскую жытку. Самы рай Бог аддаў птушкам, каб ён дарам не пуставаў, бо, ведама, і самая гожая пустка робіцца сумнаю. А людзі ўсё прасілі Бога, каб ён зноў вярнуў іх у рай. Бог абяцаў ім, што калі яны ня будуць грашыць, то па сьмерці пойдуць у рай і будуць жыць зь ім разам.***

У старадаўняй традыцыі пекла ў сучасным разуменьні проста не існавала. Усе нябожчыкі былі продкамі, атрымлівалі сваю долю пашаны, але існавалі на тым сьвеце ці ня разам.

— *А якім уяўляў беларус пекла? Чаму ён яго баяўся?*

— Уяўленьні аб начыньні пекла ў значнай ступені абумоўленыя хрысьціянскай традыцыяй. Амаль усюды ў якасьці асноўнага атрыбуту пекла ёсьць агонь:

***Там чарты ў вялізарных катлах у смале вараць душы грэшных людзей. Душы гарраць, мучацца, але ніколі ня могуць згарэць, бо ўжэ так Бог даў, каб чалавек пакутаваў за свае грахі.***

Згодна зь біблейскай трактоўкай, гэта асаблівы пякельны агонь — агонь гневу Божага, які карае за са-

мыя розныя дрэнныя ўчынкі. З народных апавяданьняў можна даведацца, што самыя вялікія грэшнікі будуць варыцца ў смале, а менш грэшныя — пакутаваць у даліне сьлёзаў.

***Таго, хто на гэтым сьвеце першы пачынаў біцца, чэрці рана і ўвечары сякуць лазою... Хто абгаварваў да паскудзіў славу добрых людзей, там ходзіць зь пішчыкам на языку... Брахун ходзіць з высалапленым языком і зьвязанымі рукамі назад, за язык кусаюць авады, камары й мухі, а ён ня можа ні адагнаць заедзі, ні захаваць языка. П'яніца п'е смалу... Гультай ляжыць голы пад варацьмі замест падваротніцы. Хто што ўкраў, на тым сьвеце мусіць у зубах насіць, а хто ўкрадзе пярсьцёнак альбо голку, то на тым сьвеце мусіць праз вуха голкі або праз пярсьцёнак пралезьці.***

*— І, як вядома са шматлікіх аповедаў і малюнкаў, гаспадараць у пекле чэрці. Што адметнага тут у беларускіх паданьнях?*

— Паводле знакамітага беларускага этнографа й фальклярыста Мікалая Нікіфароўскага, у пекле дзейнічае адмысловы кантынгент нячысьцікаў — пякельнікі, якія спалучаюць сабачыя й казьліныя рысы, ня маюць поўсьці, высалапленым языком і праз ноздры абліваюць грэшнікаў расплаўленаю смалой і серай. Перш як аказацца прыстаўленымі да сваёй дзейнасьці, пякельнікі былі вольнымі нячысьцікамі, але праз чартоўскія нядатнасьці (калецтва, прыдуркаватасьць) іх саслалі ў пекла. Таму й для саміх чарцей пекла — свайго роду выгнаньне.

*— Немагчыма абмінуць і цэнтральную пякельную постаць — самога Люцыпара. Ва ўсясьветнай культуры ягоны вобраз увасабляе найбольш фундамэнтальныя, генэтычныя ўяўленьні пра носьбіта зла, у аснове сваёй узятыя зь Біблії. Які гэты вобраз у народным, аптымістычным у сваёй аснове, сьветаглядзе?*

— У беларусаў Люцыпар (а таксама — Анчыпар, Ніцыпар) — гэта першы, найстарэйшы анёл, які адпаў ад Бога й быў скінуты на зямлю ці ў тое ж самае пекла. Ён самы старэйшы, галоўны нячысьцік. У пекле, за дванаццацьцю дзьвярыма, прыкуты дванаццацьцю ланцугамі да слупа, Люцыпар б'ецца, імкнучыся вырвацца на зямлю. Штомесяц разбураецца кожная з гэтых перашкодаў, але паўночны велікодны звон вяртае іх на свае месцы. Знакі ягонай улады — жалезная карона, прыбітая да чэрапа цьвікамі, і нешта накшталт вілаў у правай руцэ. Страшна! Але беларус знаходзіць для апісаньня пекла зь ягоным уладаром тонкія іранічныя штрыхі й ненавязьлівую дыдактыку. Прыкладам, у адным з паданьняў трапляе Семка на пякельны сход нячысьцікаў і хваробаў:

***Ачухаўся Семка й бачыць, што зь дзіркі вылазіць такая страшная нечысьць, што няможна й сказаць. А чэрці ўсялякага калібру вядуць гэтую нечысьць пад рукі, шапкуюць, услугоўваюць, от не раўнуючы бы архірэя. Дагадаўся Семка, што гэто, мабуць, самы старшы чорт Ніцыпар. Ось Ніцыпар узабраўся на кучу з чалавечых касьцей дый усеўся, бы пан на крэсьле. Пасьля абраньня хваробай над хваробамі нікога іншага, як П'янства, запішчалі, захрыпалі ўсе чарты з хваробамі, сталі віншаваць П'янства, ды такі паднялі гоман, што дол расступіўся, і ўсе яны паляцелі чорт ведае куды.***

*— Вядома, што каталіцкая царква з XII стагодзьдзя вылучае, акрамя раю й пекла, яшчэ й чысьцец як пераходнае месца. Ці прыжыліся такія вераваньні ў народзе?*

— Непасрэдных легендаў не сустракаецца, але ўзьдзе-

яньне ўяўленьняў пра чысьцец назіраецца ў тых паданьнях, дзе пекла зьмешчана на першым, самым нізкім зь сямі нябёсаў, небе, адкуль душа можа вырвацца ў рай. Адметныя й вельмі старажытныя, дахрысьціянскія запісы, калі рай і пекла як бы мяжуюць, і чалавек пасьля сьмерці будзе сам пераходзіць зь зямлі ў вырай. А шлях гэты ўяўляецца ў выглядзе воласа (і таму на Палесьсі забараняюць кідаць валасы абы-дзе, іх трэба затыкаць у шчыліны між сьценамі) альбо проста кладкі. Грэшныя душы зрываюцца й падаюць у прорву, а праведныя пераходзяць на неба.

*— Як вынікае, такія паданьні паказваюць ня толькі на знаходжаньне раю й пекла побач, але й як бы выключаюць больш вядомую хрысьціянскую вэрсію Страшнага суду. Хто ж тады вызначае, дзе месца душы?*

— Крытэр трапляньня ў рай альбо пекла ў паданьнях апошніх двух-трох стагодзьдзяў — наяўнасьць хрысьціянскіх грахоў. Канчатковы прысуд выносіцца ў час Страшнага суду, дзе кожны зачытае сьпіс сваіх учынкаў і атрымае ад Бога прысуд. Але трапіць у пекла можна й бяз Божага прысуду — прадаўшы душу чорту ці зашмат саграшыўшы, тады нячысьцікі падхопяць душу адразу пасьля сьмерці. Як уваход у пекла бачыліся й гэтак званыя чортавы вокны ў балотах. Варта адзначыць і адметныя беларускія ўяўленьні пра пекла. Запісваюцца паданьні, паводле якіх зямля нацягнутая, як скура, над вадою, а ў гэтай вадзе на самым дне й ёсьць пекла. А на Гарадзеншчыне верылі, што пекла — «агромніста гара на канцы сьвету». У цэлым такія запісы яшчэ раз вяртаюць да старажытнага ўяўленьня пра той сьвет, што акаляе чалавека з усіх бакоў і нават месьціцца ў ім самім.

*— Мы шматкроць паўтараем, што чалавек — гэта міні-космас з усімі ягонымі складнікамі, гэта праекцыя Сусьвету. Але тады атрымліваецца, што і ў чалавечым целе можна адшукаць і пекла, і рай?*





— Безумоўна. Дыяганальлю «рай — пекла» ў структуры цела становіцца пара «твар — азадак». Фактычна азадак — процілегласьць твару, сярод значэньняў якога матывы адкрытасьці, чысьціні, бачнасьці. Народная традыцыя й царкоўная містыка азадак чалавека як «твар наадварот» устойліва зьвязвала зь пякельнымі сіламі. У сярэднявечны верылі, што д'ябал ставіў свае знакі на ягадзіцах, а ў пратаколах інквізыцыі нярэдкія зьвесткі пра грэшнікаў і чараўніц, што цалуюць азадак Люцыпару. А выразы тыпу «ідзі ў зад» раней мелі магічны сэнс, бо адсылалі фактычна на той сьвет ці, больш дакладна, у пекла.

*— Гэта чалавек зьнешні. А чалавек як адзінства душы й цела?*

— Вядомая дыхатамія душы як божага, райскага пачатку й матэрыяльнага цела як пякельнага нізу. Але яна не распрацаваная. Выразным ёсьць толькі тое, што самае страшнае пекла — гэта, што ўнутры кожнага з нас, пекла, якім можа стаць наша сумленьне, душа й нават сэрца. Увогуле ж, ідэя раю й пекла — не чалавечае вынаходніцтва, яна не прагматычная, а анталягічная. Гэта — вынік разважаньняў пра жыцьцё як свабоду волі й свабоду выбару. У гэтым сэнсе рай і пекла — толькі адлюстраваньне дабра й зла, між полюсаў якіх месьціцца ўсё наша жыцьцё.

## ТОЙ СЬВЕТ І ЯГОНЫЯ АГЕНТЫ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Той сьвет... Сёньня нам за гэтымі словамі бачыцца магільны жвір, чуецца подых жалобы й сьмерці. Станоўчыя эмоцыі зьнікаюць. Іншыя скептычна ўсьміхнуцца, маўляў, той сьвет — казкі ды забабоны старых бабуляў. Між тым, для гэтых бабуляў, і яшчэ далей — для нашых продкаў, той сьвет — такая ж рэальнасьць, як і сьвет гэты, наш, асвоены й абжыты. І што істотна, ад духоўнага кантакту з насельнікамі й прадстаўнікамі таго сьвету наўпрост залежалі посьпех і лёс кожнага зь зямлянаў.**

*— У якой жа ступені традыцыйная культура арыентаваная на тагасьветную пэрспэктыву?*

— У традыцыйнай культуры кожны абрад і кожны рытуал прадугледжвае дачыненьні з тым сьветам і абавязковае санкцыянаванае пераступаньне мяжы, той мяжы, што падзяляе жывых і нежывых. А мяжа гэтая парушалася з кожным актам сьмерці й з кожнай падзеяй народзінаў.

*— Як вынікае з кантэксту традыцыі, той сьвет — ня толькі прадоньне з закапанымі там продкамі. Дык тады дзе ён — ці далёка, ці высока?*

— Нябожчыкаў хаваем у зямлі, там жа ў норах жывуць Зьмей і розныя іншыя пачвары, значыць, той сьвет там, унізе. У казках дзед па бобінцы лезе на неба й страчаецца там з Богам, у самым раі, у выраі. А Іван, ягоны ўнук, забіўшы Кашчэя пад зямлёю, вяртаецца адтуль... на птушцы. Але ж птушкі ляцяць у рай-выраі, а не пад зямлю. Пра зьмеяў кажуць — пайшлі ў вырай, але ведама куды, пад карэньне. А сьцьвярджаюць гэтыя настолькі звыклыя вераваньні, што ў сьвядомасьці беларусаў той сьвет наўкола: і ўнізе, і зьверху, і сьпераду, і асабліва ззаду, і ў балоце, і ў лесе, і нават у хаце.





*— У хаце? Але ж жытло — найпершая крэпасьць, у якой чалавек павінен быў бы ад таго сьвету адмежавацца. Дый абразы ж у куце... Пра які той сьвет можна гаварыць?*

— У тапаграфіі хаты засталіся месцы, прыналежныя ня толькі й ня столькі чалавеку. Гэта — падпечак, адкуль сочыць за падзеямі хатні дух, гарышча, парог. Магчыма, такія ўяўленьні маюць грунтам архаічную практыку пахаваньняў пад парогам. Яшчэ ў XIX стагодзьдзі дзіцячае месца (ці пасьлед) закопвалі менавіта пад печчу. Дый дамавік у асобных месцах так і называўся — пячурнік.

***Устае пячурнік рана й палохае пеўня, штурхануўшы яго. Певень зь перапуду лопае крыламі й крычыць, чым і падымае сямейнікаў на працу. Калі ж тыя ставяцца да пячурніка без належнае павагі — ён ці то ад суму, ці ад крыўды, ці мо з помсты некалькі начэй запар будзе выць і крычаць у коміне...***

*— Калі нават у хаце ёсьць аднесеныя да таго сьвету месцы, дык што тады казаць пра навакольле? Ці не азначае гэта, што «агентура» таго сьвету пралезла ва ўсе куточкі традыцыйнае прасторы?*

— Амаль што. Прастора ўяўлялася архаічнаму чалавеку ў выглядзе канцэнтрычных колаў, што, як кругі ў мішэні, разыходзіліся ва ўсе бакі ад сакральнага цэнтру. Якраз хата, у ёй печ, пазьней кут — гэта й ёсьць тая самая шанаваная кропка, дзясятка, ад якой чым далей, тым бліжэй да пекла.

*— Але ж Вы толькі што казалі, што печ — таксама рэзыдэнцыя таго сьвету ў хаце. Ці няма тут якой супярэчнасьці?*

— Не. Гэта яшчэ раз падкрэсьлівае дзьве найважнейшыя рысы архаічнага мэнталітэту. Па-першае, мікракосм хаты паўтарае макракосм Сусьвету, і печ — той сакральны цэнтар, шанаваны хатні камінак — робіцца аналягам пекла. Як у павер'і: «Затушыўшы печ, ліні туды троху вады, тады, як трапіш у пекла, там табе вады не пашкадуюць». А па-другое, тут нагляднае, зусім адрознае ад нашага, стаўленьне да іншасьвету. Мы яго толькі баімся, а продкі верылі, што ўсё іхнае жыцьцё адбываецца пад пільным наглядам і продкаў-дзядоў, і духаў, і дэманаў, якія, адпаведна, ці апякуюцца, ці караюць. І таму страх непарыўна суседнічаў з павагаю, імкненьнем да добрасуседзтва, і нават з шанаваньнем. Менавіта гэта й стала падмуркам выключнага ў сваёй значнасьці ў Беларусі культу дзядоў-продкаў.

*— Такім чынам, нябожчыкі ў народных вераваньнях — добрыя суседзі й апекуны. Але вялікая колькасьць «страшных» паданьняў апавядае пра розных хадзячых мерцьвякоў, чарцей і іншых нячысьцікаў.*

— Своеасаблівымі агентамі таго сьвету сярод жывых ёсьць прадстаўнікі гэтак званай ніжэйшай міталёгіі — таксама нябожчыкі, але яны адрозьніваюцца менавіта ад дзядоў тым, што паходзяць зь людзей, памерлых не сваёй сьмерцю: з тапельцаў, вісельнікаў, а таксама з чарадзеяў. Душы праведныя — яны там, на тым сьвеце, і наведваюцца да нас у строга вызначаныя тэрміны, а гэтыя самагубцы ды былыя ведзьмакі затрымаліся на мяжы, і няма ім прытулку ні там, ні тут. Вось і вяртаюцца яны да нас, але ўжо ўпырамі ды расамахамі, пра якіх і расказвалі вяскоўцы





знакамітаму этнографу й фальклярысту Аляксандру Сержпутоўскаму:

***Старыя людзі кажуць, што калісьці тут у лесе вадзіліся зьвяры расамахі, але гэта, мабыць, няпраўда, бо я сам зь дзецюкамі бачыў расамаху, дык яна была ў постаці жанчыны з распушчанымі косамі. У нас казалі, што расамахаю робіцца жанчына, як яна зьнішчыць сваё дзіця да й сама ўтопіцца. Я раз бачыў, што ля ракі на бабровай хатцы сядзела, голая, ды дзіця люляла. А тады як усхопіцца, як шабулдых у ваду, толькі кругі разышліся.***

*— Упыры, русалкі, дэманы і ўвесь іхны легіён — гэта тагасьветныя агенты. А з нашага боку, з боку жывых, ці былі якія-небудзь пасланцы ў іншыя прасторы?*

— Даволі блізкімі да замагільля ўяўляліся зусім старыя й, як гэта ні дзіўна, малыя дзеці. Дзіця, хаця й надзяляецца рысамі сьвятасьці, чысьціні, успрымаецца як пасланец іншасьвету, як істота, што цалкам не парвала з замагільлем. Праводзіцца нават выразная паралель паміж нованароджаным у першыя часіны ягонага жыцьця й нябожчыкам у пляне супадзеньня рытуальных дзеяньняў для пераводу іх з аднаго сьвету ў іншы. У народным радзільным абрадзе дзіця наагул проста называецца чужынцам: «Бог да нас чужаземца прыслаў, ён з далёкіх краёў прыбываў». А яшчэ вестунамі замагільля бачылі жабракоў. На калядныя сьвяты ім ахвотна аддавалі хлеб, прасілі памаліцца за сваіх памерлых сваякоў. А на Дзяды жабракі лічыліся найлепшымі й самымі чаканымі гасьцямі, іх шчодра частавалі й давалі ім з сабою зь верай, што наведалі хату зь імі душы продкаў, альбо яны занясуць ім прывітаньне й частунак. Верылі таксама, што жабракі як сувязныя зь іншай прасторай

валодалі сакральнымі ведамі, і таму ім прыпісвалі рысы варажбітаў, лекараў.

> *— А ці магчыма й нам зазірнуць у замагільле, сустрэцца зь ягонымі насельнікамі? Але каб яшчэ да таго, як ззаду зачыняцца дзьверы сьвету гэтага?*

— Нашы продкі былі перакананыя, што можна, а ў асобных выпадках — і патрэбна. З дапамогаю тагасьветаў варажылі, гаспадарылі, лекавалі сябе й блізкіх. Посьпех жа ў сустрэчы з духамі забясьпечваўся цэлым комплексам умоваў, часавымі й прасторавымі характарыстыкамі, якія ўсе разам і кожная паасобку былі скіраваныя на сьціраньне межаў паміж сьветамі. Каб усталяваць кантакт, здымалі крыж і пас — «размыкалі» абарончую мяжу, разьвязвалі вузлы, дзяўчаты расплялі косы, часам распраналіся, заплюшчвалі вочы, рабілі ўсё моўчкі. Найбольш прыдатны для сустрэчы з тым сьветам час вылучаўся межавымі, пераломнымі характарыстыкамі: гэта вечар, мяжа дня й ночы, зімовы й летні сонцавароты. Але, відаць, найчасьцей мы сутыкаемся са сьветам іншым уначы, у сьне, бо як бы вандруе недзе там наша душа.

***Як чалавеку сьніцца, што дзе далёка быў або што рабіў, то гэта-такі праўда, што быў і рабіў, бо як чалавек засьне, то зь яго душа вылезе, то ходзіць усюды і ўсё робіць, а потым як назад у цела вернецца, то й чалавек прачнецца.***

> *— А дзе найахвотней зьяўляліся жыхары іншасьвету?*

— Спрыяльнымі лічылі месцы нежылыя (лазьня, хлеў, пуня) й «памежныя» — тыя, што асэнсоўваліся як межы паміж сваім і чужым (печ, парог, кут, вароты, калодзеж, магільнікі ды іншыя). А своеасаблівым цэнтрам антысьвету, месцам надзвычайнага сакральнага напружаньня бачыліся ростані. Там адбываліся пасьвячэньні ў чарадзея, там гукалі долю й пільнавалі чараўніцу, там варажылі, закопвалі кашулькі хворых дзяцей, палілі знойдзеныя на сялібе зачараваныя рэчы. Каб нэўтралізаваць шкодны запал заклятага месца, беларусы на ростанях ставілі крыжы. Адрадзілася гэтая традыцыя й сёньня. І пакліканыя яны перапыніць зло, сьцьвердзіць мяжу, за якую ня трапіць ужо іншасьвету, яшчэ раз нагадаць пра нябачных суседзяў нашых ды задаць душы імкненьне ўгору.

# ЦЕНЬ І СЬЦЕНЬ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**З чаго складаецца чалавек? Традыцыйны адказ: зь цела й душы. А голас? Сьлед? Цень, нарэшце? Што гэта? Частка чалавека альбо нейкі вонкавы ягоны адбітак? Здаецца, з існаваньнем душы нават былыя матэрыялісты-атэісты амаль пагадзіліся. Вось жа душа — нябачная, а цень — заўсёды побач і разам з намі перамяшчаецца. Ці ня ёсьць у такім выпадку цень чалавечым органам, як і нага, сэрца, вочы? Ня мы першыя ставім гэтыя пытаньні. Філёзафы й мысьляры разважалі над дзіўным, здавалася б, пытаньнем: чым ёсьць цень? Так, Карл Юнг пісаў, што за кожным з нас рухаецца якісьці цень, і чым менш у яго правоў увасобіцца ў жыцьці рэальным, тым становіцца ён больш чорным і густым. Філёзаф лічыў, што цень — жывая частка асобы, што мусіць ён абавязкова быць — прычым, у любой форме. А псыхааналітык Зыгмунд Фройд выказаў гіпотэзу, што сфэра «Я» адносіцца да ценю як сьвятло да цемры, ды менавіта цень робіць нас людзьмі.**

— *Дык які ж культуралягічны статус мае цень?*

— У першабытных народаў скрозь па сьвеце цень разумеўся як таямнічы двайнік чалавека, пераважна — адбітак ягонай душы. У асобных мовах адлюстраваньне, душа й цень нават абазначаюцца адным і тым жа словам. Сылюэтападобныя выявы людзей у наскальным жывапісе пасьляледніковага пэрыяду, часам моцна выцягнутыя ў даўжыню, вучонымі расшыфроўваюцца як вобразная перадача ценю. Адлюстроўваць чалавека забаранялася. Першабытны чалавек





клапаціўся пра свой цень, і любы замах на цень разглядаўся як злы выпад супраць яго самаго. Фальклёр большасьці краінаў дае мноства сьведчаньняў гэтаму. Да прыкладу, у асобных месцах забойствы часам адбываюцца праз усаджваньне ў чыйсьці цень нажа альбо цьвіка. Злачынцу, якога зловяць, адразу ж каралі. А беларусы клялі й клянуцца: «Каб ты так свайго ценю ня бачыў!», што раўнуецца да насланьня самага горшага. Ды бачаць у ценю свайго суразмоўцу, як дурань у казках, які павыкідаў спадарожніку-ценю ўсе такія смачныя клёцкі.

— *Вось і Вы даказваеце, што цень ёсьць складнікам чалавечае структуры. Але той жа Юнг адназначна заявіў: «Цень — усё тое, чым чалавек ня хоча быць». Відавочна, у гэтую фармулёўку філёзаф укладваў такія значэньні ценю, як увасабленьне ім нэгатыўных бакоў асобы, суму тых непрыемных якасьцяў, якія чалавек ня супраць быў бы схаваць. Цень як другое, адмоўнае «Я». Наколькі лягічныя такія разважаньні ў кантэксьце фальклёрных сыстэмаў?*

— Імкненьне чалавека ўвасобіць у ценю непаўнавартасныя й прымітыўныя бакі сваёй натуры замацоўваецца ўжо на роўні этыялягічных легендаў славянаў. У адной з баўгарскіх легендаў апавядаецца пра тое, як Бог, стварыўшы Неба і Зямлю, убачыў у вадзе свой цень і сказаў: «Устань!». І тым выклікаў да жыцьця д'ябла. Праўда, напачатку зь ім ён быў у добрых стасунках, але ж д'ябальская натура ўзяла сваё. Як працяг касмаганічнай лініі разглядаецца польскае паданьне пра тое, што Ева зьяўляецца якраз зь ценю Адама. Як бачым, у ценю — як бы другаснае, як бы адбітак у крывым люстры: і я — і ня я. Але адсылкі да дэманалягічных уяўленьняў відавочныя.

— *А сам дэман? Ён таксама мае цень? Ці й цень ягоны «не такі»?*

— Цень наагул выступае як адна з гіпастасяў міталягічнага пэрсанажа, прычым, для некаторых зь іх характэрная адсутнасьць ценю, у іншых іх адразу два, ці нават больш. Асабліва паказальным ёсьць вытлумачэньне асобных рытуалаў, што тычацца ведзьмаў, Мікалаем Нікіфароўскім:

***Ведзьма не адчувае болю, калі яе б'юць па целе, але яна адчувае боль у сто разоў мацнейшы, калі б'юць па яе ценю: гэты цень «прыхвасьцень» ведзьмы — адзін з чарцей, які й перадае ведзьме ўдары. Асабліва страшнымі бываюць удары па ценю асьвечанымі прадметамі: яны могуць нават загубіць ведзьму.***

Як бачым, цень наўпрост раўнуецца да чорта — падкрэсьліваецца магчымасьць гэты самы цень чорту прадаць.

*— Продаж свайго ценю чорту — матыў, даволі папулярны ва ўсясьветнай традыцыі. Цень прадавалі, як і душу. Цень станавіўся прадметам гандлю й маніпуляцыяў. Калі ж цень «прадаецца», значыць, ён аддзяляецца ад цела? Ці ўсё ж гэта орган?*

— У адрозьненьне ад той жа душы як сымбалічнага двайніка чалавека, цень матэрыяльны ў тым сэнсе, што яго можна бачыць. Акрамя таго, цень уяўляецца як існасьць, якая мае і ўласную прыроду. Таму ў сыстэме магічных правілаў агаворваецца трапляньне чалавека ў поле чыйго б ні было ценю, бо гэта прыводзіць да ўлады над ім. У фразэалёгіі «цень навадзіць» на кагосьці азначае «абгаворваць яго, абвінавачваць». Верылі нават у тое, што вельмі небясьпечна трапіць у поле якога-небудзь шкоднага ценю, праз гэта можна захварэць і нават памерці. Што да пытаньня, ці ёсьць цень цялесным органам?.. Адназначна так кваліфікаваць яго нельга з дапамогаю мэдычнай тэрміналёгіі. Мы кажам: сэрца баліць, жывот, нага, і нават душа баліць, а цень не, не баліць.

*— Дык і валасы не баляць, і пазногці...*

— Але іх можна абрэзаць, і яны адрастуць. Цень — не. Але, як і валасы ці пазногці, цень можа «захварэць».

*— Захварэць? Цень?*

— І называлі беларусы такую немач, што навальвалася нават і на цень чалавека, — сьцень. У народзе ж казалі:

***Сьцень ад пуду бывае. Цені тады, кажуць, у чалавека няма. Сохне, хварэе... Ходзіш як сонны й прама ўваччу становіцца. Сьцень, па вызначэньні знахараў, гэта хвароба ўласнага ценю, бывае тады гарачае трызьненьне й галюцынацыі, такія, што чалавек аж на сьцяну дзярэцца.***

Як бачым, сымптаматыка сьцені зводзіцца да агульнага недамаганьня, зьніжэньня вагі й псыхічнай нестабільнасьці, гэта значыць, дыягназ блізкі да такіх хваробаў, як сурокі ці пярэпалах. Адрознай рысаю ёсьць улучэньне ў мэдычны дыскурс уласна ценю. Згодна з народнымі апісаньнямі, пры сьцені цень зьнікае, наводзіць на чалавека страх альбо проста захворвае.

*— Як жа лекавалі сьцень? Калі лекавалі, вядома...*

— Згодна з апісаньнямі, сьцень змываюць, топяць, спальваюць, выкурваюць, аддаюць курам — словам, выдаляюць зь цела й пераводзяць у тагасьветную прастору. Гэткі шлях цалкам натуральны ў рэчышчы ўспрыманьня хваробаў як выніку інтэрвэнцыі іншасьвету ў чалавечае цела. Лекаваньне тады мяркуе выдаленьне дэманічнага кампанэнту й наступнае ягонае вяртаньне ў адпаведныя яму лёкусы:

***Хворага выносяць у сонечны дзень на двор, кладуць на шырокую, загадзя прыгатаваную дошку й акрэсьліваюць вугалем ягоны цень. Часам абразаюць пілою тыя часткі дошкі, якія выходзяць за межы абрысаў ценю, але гэта неабавязкова. Гэтую дошку з абрысам ценю топяць у крыніцы, прыгаворваючы: «Каб ты не варочалася, каб ты ўтапілася». Калі вяртаесься пасьля дадому, нельга азірацца назад. Часам спальваюць цень (дакладней — тую дошку, на якой ён быў акрэсьлены) у печы, на двары або на гародзе.***

*— У чым жа бачылі прычыну такое немачы? Відаць, ценю холад ці нястраўнасьць ня страшныя. Адкуль тады хвароба?*

— У беларусаў найменьне «сьцень» пазначае перадусім пэўную форму пярэпалаху, ягоны вынік. Ад страху, як бачым, ня толькі сэрца падае ў пяткі, душа выскоквае, але й цень лякаецца. Паказальныя тут атрыбуты сьцені ў замовах, роўныя з атрыбутамі-паказаньнямі на крыніцу пярэпалаху:

***Выбіраю сьцень сабачы, кашачы, земляны, ветраны, агнявы, з ручак, з ножак, з пальчыкаў, з-пад пальчыкаў, з усіх тыя жывата, з буйнай галоўкі... мужчынскі, жаноцкі, хлапцоўскі, удоўскі, зьвярыны, зьмяіны. Бог з помаччу, а я з малітвай.***

Было й нават прамое атаесамленьне:

***Добры дзень табе, ляг, ты сьцень, не хадзі ты, ляг, ні ўначы, ні ўдзень.***

*— Вы сьцьвярджалі, што цень — абавязковы для кожнага з нас. А рытуал прадпісвае ягонае спальваньне. Як разьвязаць такую супярэчнасьць?*

— Відаць, у выніку спалоху альбо якой-небудзь дысгармоніі ў арганізьме парушаецца прыродны балянс





між целам і ценем, цень бярэ на сябе дэманічныя функцыі й тым атрымлівае пэўную ступень аўтаномнасьці. Ну й выклікае хваравітыя сымптомы. Словам, цень захворвае й набывае дэманічнага дублета — сьцень, а іхны ўладальнік пакутуе на аднайменную хваробу. Рытуальная тэрапія сьцені засяроджвалася таму вакол маніпуляцыяў зь ценем хворага, што кіравалася на іхнае разьвядзеньне й наступнае выдаленьне дэманічнай сьцені ў тагасьветную прастору.

*— Ізноў прыгадаем Юнга, які цень наагул адносіць да асноўных архетыпаў чалавечай псыхікі:*

***Цень — гэта ўсё тое брыдкае, бруднае, незразумелае, што жыве ўнутры ў нас і што мы хаваем глыбока ў сабе. Выдаліць цень з дапамогаю доказаў ці разважаньняў немагчыма, дый не бывае чалавека бязь ценю, гэта неабходны складнік ягонай псыхікі.***

— А мітапаэтычны комплекс удакладняе: цень ёсьць неад'емнай часткай мікракосму чалавека. Але гэта ня той адмоўна маркіраваны элемэнт, да выдаленьня альбо падаўленьня якога чалавек мусіць імкнуцца. Гэта ў такой жа ступені неад'емны й арганічна ўласьцівы «свой» чужы сьвет, у дачыненьнях зь якім патрэбныя рэглямэнт і гармонія. І мы мусім гэтую гармонію ўсяляк падтрымліваць, каб не пакутаваць на сьцень ды каб не трапляць у сытуацыі, шматразова апісаныя ў мастацкай літаратуры. Памятаеце, герою там са зьдзіўленьнем паведамлялі: «Пане, дык у Вас жа няма ценю!..»

## МЕНСКАЕ КАПІШЧА

*Размова з Тодарам Кашкурэвічам*

**Апошнім у Эўропе гарадзкім культавым паганскім аб'ектам лічыцца менскае капішча, якое дзейнічала яшчэ ў першыя дзесяцігодзьдзі XX стагодзьдзя ледзь ня ў самым цэнтры вялікага гораду, у раёне цяперашняй Лодачнай вуліцы. Навуковым тэрмінам «капішча» называюць месца, дзе адбываліся паганскія рытуалы: ахвярапрынашэньне, розныя паганскія сьвяты. Яшчэ ў народзе гэтае месца называлі сьвяцілішчам, малельняй ці проста каменем.**

*— Больш за дзесяць стагодзьдзяў беларусы вызнавалі хрысьціянскую рэлігію, і тым ня меней захоўвалі традыцыі паганства. Чаму? Ці ня ёсьць такое злучэньне хрысьціянскага й паганскага пачаткаў нацыянальнай рэлігійнай і культурнай адметнасьцю?*

— Сапраўды, беларускай традыцыі гэта ўласьціва. Хрысьціянства на беларускіх землях пашыралася паступова і ўжывалася з культамі дахрысьціянскімі. Да нашага часу яшчэ ў вёсках можна напаткаць вельмі архаічныя рэлікты дахрысьціянскай культуры, уяўленьняў і, нават, магічнай практыкі. Вельмі паказальным у гэтым сэнсе зьяўляецца менскае капішча, тоеснае капішчам многіх эўрапейскіх народаў.

*— Калі ўзьнікла гэтае менскае капішча, як яно выглядала, якая была ягоная канструкцыя?*

— У народзе яно называлася малельняй ля каменя. У XIX стагодзьдзі і ў 1920-х гадах гэтае капішча разьмяшчалася на ўскрайку гораду. Але гэта ня болей за кілямэтар ад сакральнага цэнтру Менску, дзе зна-





ходзіліся кляштары, цэрквы, касьцёлы, ратуша. Месца ж, дзе была малельня, досыць дзікае, зарослае ельнікам, вольхаю, ляшчынаю. Людзі ў 1940-х гадах апавядалі знакамітаму этнографу, прафэсару Міхалу Кацару:

***У даўні час тут быў густы лес, непраходная балотная дрыгва, адным словам, суцэльнае глупства. Як пойдзе ў гэты гушчар чалавек, дык яго задурыць, замуціць галаву. Чэрці яго водзяць па балоце, пакуль чалавек не загразьне ў дрыгве. А на прыгорку, на высокім кургане, сярод гэтага лесу стаяў гэты камень. Ходзяць пра яго ў людзей чуткі, што той, хто авалодае гэтым каменем, стане багатым і шчасьлівым. Вось і захацелася лесавіку й вадзяному займець камень. Заспрачаліся. А каб вырашыць спрэчку, пайшлі да свайго старэйшага. Той сказаў: хто безь перадыху ўзьнясе камень на скрыжаваньне дарог, той і будзе гаспадаром яго. Кінулі жэрабя. Першым выпала несьці лесавіку. Але, як ні стараўся лесавік, падняць камень ня змог. Не дапамаглі яму й ягоныя падначаленыя — лясныя зьвяры. Тады ўзяўся за камень вадзяны. Узваліў ён камень на плечы й панёс. Напужаўся лесавік, што камень дастанецца вадзяному. Падставіў ён яму падножку. Заваліўся вадзяны на беразе Сьвіслачы. Зваліўся й камень на самы бераг ракі. Вось камень і ляжыць. Ані лесавік, ані вадзяны не завалодалі ім. А было гэта вельмі даўно. Так даўно, што нават старыя людзі ня памятаюць. З таго часу й стаіць тут гэты камень.***

Гэтая легенда пацьвярджае, што капішча ўтварылася ў вельмі далёкі час, у міталягічную эпоху.

*— Як выглядала апошняе эўрапейскае капішча?*

— Гэта быў насыціл з дубовага бярвеньня над ракою Сьвіслачу, у якім была дзірка, зь яе бралі сьвятую

ваду. Рос аграмадны, на чатыры абыймы дуб, які называўся «волат», каля яго маліліся, на яго вешалі ахвярныя ручнікі. Там жа ляжаў камень паўсфэрычнай формы, якога звалі «дзед», яму таксама прыносілі ахвяры. Відавочцы кажуць, што ён быў абвязаны ручнікамі, фартухамі, на яго вылівалі віно, мёд, і заўсёды над ім кружыліся пчолы. І самы, бадай што, цікавы элемэнт гэтага сьвяцілішча, — агонь, або ахвярнік. Гэта прыкладна даўжынёю з мэтар пабудова з камянёў, на цэгле, шырынёю з мэтар і вышынёю да двух мэтраў — такі каменны слуп, дзе разводзіўся агонь. На гэтым агні спальваліся вантробы, ногі, рогі прынесеных у ахвяру жывёлаў. Ну, а мяса забіраў сабе сьвятар.

*— І там віравала жыцьцё, цэнтральнымі асобамі якога былі знахары, калдуны?*

— Слушна. Вось сьведчаньне жыхаркі Менску Хрысьціны Несьцяровіч:

***— Ці хадзіла, пані, маліцца да каменя?***
***— Так, хадзіла. Хадзіла маліцца і ў царкву. Там я была кожную нядзелю. Ну, а калі што забаліць, ці жывот, ці што іншае, то тады хадзіла да каменя.***

І яшчэ адзін вельмі цікавы ўспамін:

***У адной жанчыны не было дзяцей, але яна вельмі хацела нарадзіць дзіцё. І ніякія сродкі ёй не дапамагалі. Дык знахар сказаў, што ён дапаможа ейнай бядзе. А для гэтага трэба было зрабіць так. У самую цёмную ноч прыйсьці да капішча. Сесьці голым месцам на камень. І каб спадніцай накрыць увесь камень. Так трэба рабіць тры разы. Пры гэтым трэба сказаць тры разы «Дапамажы, Божа!». Пасьля гэтага ў той бабы нарадзілася некалькі дзяцей. Абое, і муж, і жонка, былі задаволеныя. Быў задаволены й знахар, што ўратаваў сям'ю ад бяды.***





*— А знахары, калдуны, сьвятары — што гэта былі за людзі?*

— Даўгавечнікі Менску расказвалі, што калдуны былі розныя. Адны прымалі ў сябе дома. Другія — хадзілі па хатах, так бы мовіць, на выклік. І толькі трэція, найбольш моцныя й найбольш важныя, мелі капішчы ці малельні. Дынастыя менскіх ведуноў, ці знахараў, ці калдуноў зьяўляецца найбольш вядомай. Людзі апісвалі іхны выгляд, асабліва старога Савасьцея, як яго звалі, або Савелія, ці Саўкі, мужчыны, які дажыў да ста гадоў. Поўны, мажны, з чорнымі валасамі, упэўнены ў сабе, удалы і ўмелы, і хітры, і мудры. Існавала цэлая дынастыя сьвятароў на менскай малельні. І ўсе яны мелі адно імя — Савасьцей, або Савелій, або Саўка. Імя ня ёсьць выпадковым з гледзішча знакавасьці. Менавіта імёны Саўка, Совій былі эпітэтамі Перуна.

*— Як ставіліся людзі да калдуноў?*

— Людзі ставіліся да калдуноў вельмі па-беларуску: калі што забаліць, здохне жывёла ці скрадуць жывёлу, калі трэба палячыцца, дык ішлі да знахара. Ну, а калі не атрымлівалася, чары не спрацоўвалі, дык маглі знахара й пабіць. Але ўвогуле, стаўленьне да іх было вельмі паважнае. Зноў жа, як казала адна жанчына, раней да калдуноў ставіліся з павагай, як да людзей сьвятых, на іх маліліся. Яны ў сьвядомасьці беларусаў мелі статус ня меншы, чым бацюшка або ксёндз. Праўда, іхныя ролі былі розныя. Як сьвята — ішлі ў царкву, а як штосьці забаліць, здарыцца якая бяда, дык ішлі да знахара.

*— Чаму менавіта ў Беларусі й чаму менавіта ў Менску даўжэй, калі параўнаць зь іншымі эўрапейскімі народамі, захоўвалася паганская традыцыя веры ў калдуноў, вешчуноў?*

— Чаму ў Менску, я ня ведаю. Гэтае пытаньне, напэўна, застанецца на вякі. А чаму ў Беларусі, дык ёсьць некалькі меркаваньняў. Па-першае, відаць, паўплывала рэлігійная талерантнасьць, якая замацавалася яшчэ ад часу Вялікага Княства Літоўскага. А зь іншага боку — відавочна, што гэта зьвязана з прыроднымі ўмовамі Беларусі, бо гэта пераважна лясны й балоцісты край. Людзі са шматлікіх вёсак выходзілі «ў сьвет», як кажуць, два разы за жыцьцё, бо бліжэйшая царква ці касьцёл знаходзіліся за пяцьдзясят вёрстаў. Прырода спрыяла захаваньню традыцыйных уяўленьняў. Традыцыйная культура, традыцыйная мадэль сьвету беларусаў вырастае з гэтай прыроды, адухаўляе яе й надае свой стыль, можна сказаць, пэўны кшталт апісаньня і ўваходжаньня ў гэты краявід, гэты ляндшафт.



## ЗАГАДКІ Й РАЗГАДКІ СНОЎ

*Размова з Алесем Анціпенкам*

**У плыні бульварнай літаратуры, якой запоўнены беларускі рынак, шмат перадрукаў сумнеўных соньнікаў. Яны прынесеныя з усяго сьвету. Але ёсьць адна кніга іншага кшталту — «Беларускі народны соньнік», складзены вядомым беларускім фальклярыстам Уладзімерам Васілевічам. У кнізе сабраныя матэрыялы, што запісаныя фальклярыстамі непасрэдна з вуснаў народу. А гэта азначае, што тлумачэньні сноў як бы зьяўляюцца часткай народнай творчасьці. І як пісаў яшчэ ў пазамінулым стагодзьдзі Мікалай Нікіфароўскі, на народных тлумачэньнях сноў не адбіліся соньнікі маскоўскага рынку. Натуральна, толькі наіўны, даверлівы чалавек будзе зьвяраць убачанае ў сьне з растлумачаным у кнізе, перажываючы й чакаючы, калі абяцанае ў ёй нарэшце спраўдзіцца. Сур'ёзны чытач знойдзе багаты сьвет народных асацыятыўных уяўленьняў. Спробы народных разгадак сноў, напэўна ж, даюць разуменьне, у якіх кірунках ішла чалавечая думка, як у снах адбіліся псыхалёгія нацыі й ейны досьвед.**

*— Як можа прачытаць «Беларускі народны соньнік» з пазыцыяў сучаснага чалавека навуковец?*

— Падобныя зборнікі, натуральна, ёсьць у кожнага народу, і гэта сьведчыць толькі пра тое, што сон — вельмі істотная й, я сказаў бы, адна з самых загадкавых зьяваў чалавечае псыхікі. Безумоўна, сон выклікаў цікавасьць і ў нашых продкаў. А наколькі ён сапраўды

ёсьць важнай часткай нашага псыхічнага жыцьця, сьведчаць элемэнтарныя разьлікі, якія зрабілі сучасныя псыхолягі. Прыкладна трэцюю частку свайго жыцьця чалавек праводзіць у стане сну, гэта прыблізна дваццаць пяць гадоў жыцьця. Каля шасьці гадоў мы бачым сны. Невыпадкова, што гэта мусіла абавязкова знайсьці адлюстраваньне ў той схеме сьветабачаньня, якую будаваў чалавек.

*— Сон — таямніца. Дык якім чынам таямніцу можна суаднесьці са сьветабачаньнем асобы, а тым болей цэлага этнасу, канкрэтна — этнасу беларускага?*

— Сны — гэта ўнівэрсальная зьява, своеасаблівая філязофія сьвету, дзе ёсьць дзьве часткі: псыхічны сьвет і сьвет фізычны, у якім жыве чалавек. Што тычыцца менавіта кнігі Васілевіча, дык тут мы прачытваем сьветапоглядныя рэчы, характэрныя для нашага народу. Найперш — вельмі старажытны пласт сьветаўспрыманьня, які зьвязаны з дахрысьціянскім пэрыядам. Можна заўважыць цікавыя паралелі. Літаральна на пачатку гэтай кнігі ёсьць інструкцыі, рэкамэндацыі, як бачыць праўдзівыя сны. Такую ж структуру, структуру падрыхтоўкі да мэдытацыі, маюць усходнія рэлігійныя сыстэмы. І ў дадзеным выпадку я маю на ўвазе ёгу. У соньніку сказана, напрыклад, ня есьці перад сном мяса, капусты, гароху, бобу й наагул цяжкой стравы. Ёгі — вэгетарыянцы, і такім чынам чалавек рыхтуецца да мэдытацыі, якая ёсьць спосабам убачыць пэўныя праўдзівыя рэчы, што нябачныя нашым фізычным зрокам. Ці, скажам, ня піць гарэлкі, кавы й гарбаты. Усе напоі, якія ўзбуджаюць чалавека, у ёзе забараняюцца. Альбо перад сном праветрыць хату — гэта трывіяльная рэч, але яна ўваходзіць у вельмі складаную сыстэму ёгі. Ці ні з кім не сварыцца, не спрачацца. Гэта тое, што называецца ёгаўскай этыкай, якая таксама рыхтуе чалавека да





глыбокага трансу, да праўдзівай мэдытацыі. Для нашых продкаў было абсалютна зразумелай рэччу, што існуюць два сьветы, таму ў іх нават не ўзьнікала сумневу ў рэальнасьці таго сьвету, куды чалавек трапляў праз сны. Сны, у дадзеным выпадку, былі проста спосабам уваходу ў гэты другі, днём нябачны сьвет — сьвет сьненьняў. Прачытаем асобныя тлумачэньні сноў зь «Беларускага народнага соньніка»:

***Сварыцца — памірыцца з ворагам.***
***Сьмяяцца — будзеш плакаць, бо людзі абсьмяюць.***
***Цалаваць ладную дзяўчыну — спаткаесься з фальшам.***
***Кроў чалавечую бачыць — сваяк прыедзе.***
***Есьці ў сьне мёд — дык пагана, горка табе будзе.***
***Калі ў сьне быццам то ўсерасься — разбагацееш.***
***Плакаць у сьне — на радасьць.***

Нашы продкі меркавалі, што сны зьвязаныя паміж сабой. Паміж імі ёсьць пераход, але яны зьвязаныя паводле прынцыпу люстэркавага адбітку, на антытэзе. Тое, што чалавек бачыць у сьне, потым інтэрпрэтуецца з супрацьлеглым знакам.

*— Як Вы маглі б асэнсаваць мэтафарычнасьць тлумачэньня сноў і якія сымбалі найчасьцей сустракаюцца ў беларускіх тлумачэньнях сноў?*

— Сон — гэта заўсёды паслабленьне рацыянальнага пачатку. Менавіта ў гэтых пераходных станах якраз і абуджаецца эмацыйная сфэра чалавека. У пэўным сэнсе чалавек, які быццам пераходзіць у той нядзённы, нябачны сьвет, ёсьць паэтам. А паэзія — выйсьце зь дзённага сьвету рэчаў, выйсьце ў той сьвет, дзе пачынае прамаўляць у чалавеку ягоны эмацыйны пачатак. Некаторыя тлумачэньні сноў у кнізе Ўладзімера Васілевіча проста паэтычныя, як радкі недапісаных вершаў:

***Птушак дзікіх бачыць — падарунак будзе. А злавіць іх — на радасьць.***

***Хустку бачыць — ліст прыйдзе. Хустку расьсьцілаць — ліст пісаць. Чорная хустка — благія весткі.***
***Блудзіш у сьне й выйдзеш, дык выйдзеш зь бяды, а не — дык чакае бяда, турма.***
***Ашукаць каго — бач, каб сам ня быў ашуканы.***
***Сьпяваць у сьне — кажуць, плакаць будзеш.***

*— Ёсьць некалькі падыходаў ва ўсясьветнай літаратуры да разуменьня снабачаньняў, іхнага тлумачэньня. Фройд тлумачыў іх праз эратычнае ўсьведамленьне, адчуваньне чалавека. Але вядомая знакамітая формула Шэксьпіра: «Сон ёсьць ілюзіяй сьмерці». Беларускія тлумачэньні сноў — бліжэй да Фройда ці Шэксьпіра?*

— Шэксьпір бліжэйшы да корпусу тых сабраных сноў, якія ёсьць у гэтай кнізе. Сапраўды, нашы продкі, ўспрымалі пераход у стан сну як часовую сьмерць. І таму людзі часта бачылі нябожчыкаў, што абсалютна натуральна, бо нябожчыкі ёсьць часткаю таго нябачнага, нядзённага сьвету. Таму, відавочна, там, у снах, яны сустракаліся з анёлам, чортам, Богам, з Божай Маці. Шмат якія сны тлумачацца як прадвесьнікі сьмерці ці нейкай хваробы, што мусіць напаткаць чалавека неўзабаве. Я думаю, гэта абсалютна натуральная рэч, і Шэксьпір мае рацыю.

***Пахаваньне бачыць — хаўтуры й будуць.***
***Маці бачыць — памрэ скора. Маці-нябожчыцу — сам памрэш, па цябе прыходзіла.***
***Вясельле бачыць — у тым доме хаўтуры будуць.***
***Гасьцей бачыць у сябе — мярцьвяк будзе ў двары.***
***Калі замужняя жанчына сасьніць сябе без спадніцы — хутка памрэ ейны муж.***
***Папа бачыць — мець справу зь нячыстай сілаю.***

*— А Фройдаў падыход да вытлумачэньня прыроды сноў? Ці выяўляецца ён у беларускім соньніку?*





— Я не знайшоў нейкіх такіх выразных тлумачэньняў сноў, якія б паказвалі на прыхаваны, менавіта эратычны, зьмест сноў. Хаця тут ёсьць некаторыя падобныя тлумачэньні сноў — што азначае, напрыклад, бачыць голую дзеўку ў сьне. Такія тлумачэньні зьвязаныя зь нейкімі эратычнымі памкненьнямі, але, мне падаецца, што наагул пераказ эратычных сноў цэнзураваўся. Трэба ўлічыць, што большасьць сабраных сноў у гэтай кнізе былі запісаныя ў XIX стагодзьдзі. Гэта азначае, што паноўным сьветапоглядам у беларусаў у той час было хрысьціянства. Хрысьціянства, як вядома, мае пэўныя маральныя засьцярогі адносна заглыбленьня ў гэтую сфэру. Псыхолягі заўважылі, што менавіта людзі цэнзуруюць зьмест падобных сноў. І ёсьць канкрэтныя назіраньні, якія паказваюць на тое, што калі чалавек прачынаецца, дык ягоная сьвядомасьць пачынае працаваць як цэнзар у пераказе зьместу сну.

*— Чаму людзі ў снах так часта бачаць непрыемнае?*

— Ёсьць некалькі тлумачэньняў. Некаторыя псыхолягі лічаць, што сон ёсьць пэўнай падрыхтоўкай чалавека да абуджэньня, да працягу жыцьця. А ў жыцьці, сапраўды, здараюцца непрыемнасьці, гора, паміраюць блізкія людзі. І сон, уваходзячы ў нашу сьвядомасьць, падрыхтоўвае чалавека да сустрэчы зь нечаканымі, непрыемнымі сытуацыямі, бо ў рэальным жыцьці, як мы ведаем, наша сьвядомасьць іх адкідае, спрабуе не заўважаць. Так, чалавек заўсёды ўнікае думкі, што ён можа некалі памерці або захварэць. У гэтым сэнсе падсьвядомасьць больш рэалістычная, чым сьвядомасьць. І падсьвядомасьць засяроджваецца на хваробах, сьмерці. У сьне падсьвядомасьць працуе як бы ў супрацьлегласьць сьвядомасьці дзённага сьвету, у якім мы звычайна й большую частку нашага жыцьця знаходзімся.

# ГАДАВОЕ КОЛА Й БЕЛАРУСКІ ЛЁС

*Размова зь Пятром Васючэнкам*

**Больш за сем тысяч гадоў таму, як сьведчыць Біблія, Гасподзь, Творца існага, даў ход галяктыкам, зоркам і плянэтам. Ад тае пары мільярды касьмічных гадзіньнікаў пачалі адлічваць кожны свой час. І самым зразумелым для насельнікаў Зямлі сталася сонечнае гадавое кола. Менавіта яно вымярала чалавечае жыцьцё й гісторыю чалавецтва. Міталёгія, рэлігія, навука, культура — кожнае па-свойму — трактавалі ходу часу й падлічвалі век Сусьвету й чалавецтва. Але гадавое кола, зь ягонай зададзенасьцю й непазьбежнасьцю, прызнавалася ўсімі. Яно было сапраўды тым адзіным рытмам, які зьвязваў рытм чалавечага жыцьця з рытмам Сусьвету, з рытмам космасу. Беларусы ў вылічэньні часу не былі выключэньнем з правілаў.**

*— Але ці не былі нашы продкі цалкам замкнёныя ў гэтым коле? Можа, нават адчувалі сябе палоньнікамі гэтага кола?*

— Сапраўды, усё жыцьцё нашых продкаў было зьвязанае зь пераменамі, якія адбываюцца на працягу году. Лета зьмяняе вясну, восень зьмяняе лета, і трэба сказаць, што продкі нашы не адчувалі сябе ахвярамі, хоць і былі палоньнікамі гадавога кола. Я мяркую, што яны адчувалі сябе шчасьлівымі ў гэтым коле, бо ведалі, што будзе восень — будзе ўраджай, будзе вясна — настане час сяўбы. Гадавое кола зьмяшчала й іхныя веру, дабрабыт, зямную працу, каханьне, сьвяты. Хутчэй, наш продак дбаў пра тое, каб гэтае кола працягнула сваю ходу. І таму ён прыносіў ахвяры, каб не памерла сонца. Быў і дзень ушанаваньня





стралы — абрад, прысьвечаны таму, каб доўжылася гадавое кола, каб быў ураджай, каб пладзіліся статкі й каб працягваўся чалавечы род.

*— Калі казаць пра архаічных беларусаў, дык, напэўна, можна зазначыць, што кола было й іхным шчасьлівым фатумам. А што зьмянілася тут са зьменай веры?*

— Хрысьціянства шмат што памяняла ў побыце беларуса, але яно захавала гадавое кола. Сьвяты памянялі свой рытуал, але самі яны засталіся. Хіба што Ярыла ператварыўся ў Юр'я, Купальле — у сьвята ў ноч сьвятога Яна, а Куцьця — у Раство Хрыстова. Але паэзія гадавога кола, ягоная рытміка захаваліся. Невыпадкова адзін зь першых хрысьціянаў у Беларусі Кірыла Тураўскі паэтызаваў надыход вясны, зьвязваючы Вялікдзень ня толькі з Уваскрэсеньнем Хрыстовым.

*— Тут відавочныя агульныя праславянскія ўяўленьні. Але ў Сярэднявеччы, у эпоху Рэнэсансу беларускія хлопцы пачынаюць ужо вандраваць па Эўропе, вучыцца ў найлепшых эўрапейскіх унівэрсытэтах, дзе знаёміліся й з ідэямі пратэстанцтва. Прагрэсіўнае мысьленьне адукаваных беларусаў ці адбілася на разуменьні сонечнага гадавога кола?*

— Беларус за часам Сярэднявечча, Рэнэсансу апынуўся ў іншым сьвеце, населеным іншымі рытмамі, а часам і арытміямі. І ў гэтым сьвеце вобраз гадавога кола, ягоны сымбаль, на нейкі час як бы адышоў на другі плян. Вельмі сымптаматычна, што нашы летапісы ў гэты час перасталі быць, уласна кажучы, гадавымі запісамі, яны сталі хронікамі й апісвалі падзеі, якія выйшлі за межы гадавога кола. Але ў генэтычнай памяцi беларусаў вобраз, сымбаль гадавога кола ўсё ж застаўся — і зноў вярнуўся да свайго куль-

турнага гістарычнага жыцьця, мяркую, у XIX стагодзьдзі, дый застаецца і ў нашым часе таксама.

*— Чаму менавіта ў XIX стагодзьдзі выяўляецца новая гістарычная актуальнасьць гадавога кола?*

— Пачатак XIX стагодзьдзя — гэта пачатак вялікіх ілюзіяў. Чалавецтва ўваходзіла ў стадыю цывілізацыі. А беларускія культурныя дзеячы — у час, калі культура ствäралася ў шляхецкіх сядзібах, была замкнёная ў іх. Чалавек — творца гэтай культуры — у існасьці зноў уваходзіў у стасункі зь біярытмамі, судакранаўся з гэтымі рытмамі, якімі жыве супольна прырода, чалавек і Сусьвет. І такім чынам у асяродзьдзі гэтай шляхецкай культуры ўзьніклі творы, што адлюстроўваюць сядзібнае сьветаўспрыманьне. Кампазыцыйны пачатак гэтых твораў — усё тое ж гадавое кола. Прыгадайма твор Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня...», дзе распавядаецца пра калядны цыкль. І раман Элізы Ажэшкі «Над Нёманам», і «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, і цыкль вершаў вясковага лірніка Ўладзіслава Сыракомлі зноў падпарадкаваныя гэтым рытмам. Тады ж беларусы адчулі й хаду гісторыі, менавіта ў гэты час яны змаглі азірнуцца на мінулыя эпохі й супаставіць зь імі эпоху рэвалюцыяў ды іншых сацыяльных зрухаў. Якраз тады гісторыя пачала ўсьведамляцца як цыкль, правобразам якога зьяўляецца гадавое кола. У такой мадэлі адно з дамінантных месцаў належала вобразу вясны. Вось жа і Ўладзіслаў Сыракомля выкарыстоўваў яго ў зьвязку з падзеямі 1848 году. Тады ў Эўропе пачыналася гэтак званая «вясна народаў». Хваля рэвалюцыяў і паўстаньняў пракацілася па найбуйнейшых эўрапейскіх сталіцах. І Ўладзіслаў Сыракомля адгукнуўся вершам «Добрыя весьці», дзе апэлюе да рэвалюцыйных падзеяў і чакае, пакуль вясна дакоціцца да Беларусі. Пройдзе яшчэ трынаццаць гадоў, і ў 1861 годзе Сыракомля напіша іншы верш





— «Ужо птушкі пяюць усюды», дзе будзе наракаць на тое, што вясна не надыходзіць так хутка, як яму хацелася.

*— Вельмі лёгка было атаясаміць вясну з рэвалюцыяй, нейкім сацыяльным ці нацыянальным зрухам, які вядзе да лепшага. А што наконт астатніх сэзонаў — лета, восені, зімы?*

— А вобраз восені й зімы ня менш лёгка можна атаясаміць са старасьцю сьвету, старасьцю грамадзтва, заняпадам і рэакцыяй. І ў бальшыні выпадкаў так і здаралася. Прыкладам, у паэме «Сон на кургане» сацыяльныя замаразкі Янка Купала атаясамлівае з адвечнай зімой. У той жа час Адам Міцкевіч у паэме «Пан Тадэвуш» пачынае твор вясною й завяршае твор новай вясною, калі ў Беларусь прыходзіць Напалеон, прыносіць з сабою новыя спадзяваньні, і калі шляхта як бы аджывае дзеля новага жыцьця й яднаецца з клічам «Кахаймася!». Разам з тым, восень і зіма таксама паэтызаваліся ў гэтым цыклі. Восень у паэме Адама Міцкевіча «Дзяды» звычайна зьвязвалася зь вяртаньнем да мінуўшчыны, з уваскрэсеньнем душаў памерлых. Тое ж самае можна казаць і пра паэму Янкі Купалы «На Куцьцю», дзе ўваскрасалі волаты мінулага часу.

*— А чаму ў беларускай літаратуры такое непрывабнае лета?*

— Я сказаў бы пра тое, што з усіх летніх сьвятаў нашы паэты найбольш шануюць Купальле. Гэта экстатычнае сьвята агню й вады. А ў астатнім лета ўяўляецца імі, як мне думаецца, даволі panылай, млявай зямной экзыстэнцыяй, як час падрыхтоўкі да жніва, да восені й зімы. Летам селянін-беларус займаецца цяжкой, маруднай і пакуль што няўдзячнай працай. Інакш кажучы, пагружаецца ў гэты цяжкі экзыстэнцыйны стан.

*— XX стагодзьдзе — стагодзьдзе вельмі драматычных, часам нават трагічных катаклізмаў. Напэўна ж, літаратарам было цесна ў межах адназначнай трактоўкі гадавога цыклю?*

— Мы гаварылі пра тое, чым пачыналася XIX стагодзьдзе, цяпер скажам, што тыя ілюзіі, спадзяваньні XIX стагодзьдзя пачатак XX разьвянчаў. Гэта быў час новых войнаў і новых рэвалюцыяў, яшчэ больш крывавых. І тут раптам высьветлілася, што чалавек — гэта палоньнік ажно некалькіх замкнёных колаў: прыроднага, жыцьцёвага й гістарычнага, бо беларусы адчулі й тое, што іхная гісторыя зь бясконцымі адраджэньнямі й заняпадамі таксама ў палоне гэтага кола. Найбольш балюча й драматычна зрэагаваў Янка Купала, які ў многіх сваіх творах вывеў некалькі мадэляў кола, у кожнай зь якіх шукаў сваё выйсьце. Прыкладам, цалкам замкнёнае кола ў «Адвечнай песьні». Мужык пражывае вясну, лета, восень свайго жыцьця, урэшце ўзімку, пад старасьць, яго прыдушыла ялінаю. Але й тут Купала дае яму магчымасьць знайсьці прарыў з гэтага кола: нябожчык, цень мужыка, падымаецца з магілы, каб паглядзець: ці ёсьць разрыў у гэтым векавечным коле? І знаходзіць, што разрыву няма. Паранейшаму ягоны сын арэ той самы шнур, які араў некалі бацька. Нарэшце, у шэрагу вершаў Купалы кола распростваецца ў шлях, героі ідуць немаведама куды, як у «Раскіданым гнязьдзе» альбо ў «Сьне на кургане». Вельмі часта гэты шлях завяршаецца новым колам, у якім заблукалі паяжджане ўзімку, колам, якім завяршыўся шлях героя «Сну на кургане» — векавечнай зімою й сьмерцю ягонай жонкі, гэта значыць — Беларусі. Інакш кажучы, Купала ўсё жыцьцё драматызаваў праблему замкнёнасьці чалавека ў коле абставінаў, і ўсё жыцьцё шукаў прарыву зь яго. Магчыма, і лёс самога Купалы пацьвярджае гэтае трагічнае шуканьне.





*— Неразарванае кола як мадэль гісторыі. Чаму менавіта беларусы мелі (маюць?) такую мадэль?*

— Зьвярнуся сьпярша да прычынаў мэтафізычных. Гасподзь памясьціў у Беларусі нейкую спэцыфічную зону — зону ціхай плыні, як называў яе Максім Гарэцкі. Зону, дзе ўсе працэсы, якія адбываюцца ў гісторыі і ў прыродзе, ідуць у замаруджаных рытмах. Усё рухаецца паволі, і беларус міжволі ўцягваецца ў гэты рух. Зь іншага боку, ёсьць і проста псыхалягічныя прычыны, паводле якіх беларусам у гэтым коле ўтульна. Гэта — іхная прыродная блізкасьць да зямлі. Гэта — прага аўтэнтыкі, якая захавалася ў нас аж да XXI стагодзьдзя. Гэта — няспыннае чаканьне пераменаў: ад сэзону да сэзону, ад Калядаў да Калядаў. Але цыклічная мадэль ня толькі фатальная. Цыклічная мадэль абнадзейвае, што вясна абавязкова прыйдзе. І ў гэтым, напэўна, надзея зайца, які варыў сваё піва напярэдадні халоднай зімы ў вершы «Заяц варыць піва» Уладзімера Караткевіча:

***Туман плыве зь нізіны сівы***
***Над нівай голай і пустой.***
***«Глядзіце, заяц варыць піва», —***
***Жартуюць людзі між сабой.***
***А я відушчым бачу зрокам,***
***Як ён прысеў каля агню,***
***Трыгубы, шэры, касавокі,***
***І піва варыць зь ячманю.***
***Яліна іскрамі страляе,***
***А ён прыладзіў кацялок***
***І трэскай варыва мяшае,***
***Каштуе, сплёўвае набок.***
***І піва заяц зварыць густа,***
***А на закуску — бурачок,***
***Трава, заечая капуста,***
***Галін асінавых пучок.***

*З зайчыхай вып'юць па маленькай*
*І дзеткам трошкі паднясуць,*
*Пужлівым галаском таненькім*
*«Цьвіцела морква» завядуць.*
*Пабачыш — не гані з абсады,*
*Дай хоць на гэты дзень спакой,*
*Павінна ж быць і ў зайца радасьць*
*Перад халоднаю зімой.*



## БАЛОТА — АД Д'ЯБЛА Й АД БОГА

*Размова зь Нінай Здановіч*

**Апісаньне балота, якое даў Іван Мележ у рамане «Людзі на балоце», злучае ляндшафтныя, гістарычныя, сацыяльныя, псыхалягічныя прыкметы Беларусі:**
***Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, ня кожны прызнаў бы за востраў — аб яго ня плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла адна куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы... Багна... адразала востраў ад сьвету мацней, чым гэта маглі б зрабіць абшары вадзянога прастору. Многія дні людзі жылі, як на плыце, які злая нягода адарвала ад берагу й занесла ў мора, — трэба чакаць адно, калі спадарожны вецер ці лёс зноў падгоніць да зямлі.***
**Такім чынам, балота ёсьць аб'ектыўнай рэальнасьцю Беларусі. Балота вельмі часта называюць увогуле знакам Беларусі. Але ці сапраўды гэта так? Бо каб штосьці стала знакам, яно найперш павінна стаць неад'емнай часткай, прыкметай культурнай прасторы краіны, народу, нацыі.**

*— Як культурная традыцыя трактуе беларускае балота?*

— Паводле паданьня, балота — стварэньне ня Боскае, а д'ябальскае. Чорт хацеў, як Бог, стварыць сьвет, але падавіўся зямлёю й выметаваў яе, ад чаго і ўзьнікла балота. Тым ня менш, беларусы заўсёды ўспрымалі яго як дадзенае Богам асяродзьдзе, хаця рэагавалі на яго па-рознаму, у залежнасьці ад гістарычных абставінаў і ад свайго сацыяльнага стану. Здавалася б, як можна чыста практычна выкарыстоўваць балотную твань? Але ў савецкі час менавіта там дазваляла ўлада сялянам касіць сена для сваёй кароўкі. І ня толькі на Палесьсі, дзе скрозь балоты, але й па ўсёй Беларусі, бо больш прыдатныя месцы былі калгаснымі сенажацямі. А ўзімку балотны алешнік станавіўся крыніцай здабычы дармовых дроваў для печаў — гэтая балотная нарыхтоўчая кампанія працягвалася ўсю зіму.

*— Падаецца, што за савецкім часам улады найперш змагаліся з балотам, у той час як звычайнаму чалавеку яно несла й дабро.*

— Для калгасаў і саўгасаў балота — гэта патэнцыйныя дадатковыя пасяўныя плошчы, а торф — паліва. Дарэчы, нічога дрэннага не было ў арыентацыі на торф як на крыніцу паліва для электрастанцыяў. Шкодзіла толькі залішняя прагматыка ці захапленьне нечым — або асушэньнем, або торфаздабычай. А вынікам пасьля — парушэньне экалёгіі.

*— Гэта ўсё прыклады прагматычнага (пазытыўнага ці нэгатыўнага) стаўленьня да балота як да дадзенай рэальнасьці. Аднак, мы маем прыклады таго, што менавіта вобраз балота стаў цэнтральным пры стварэньні мастацкіх твораў, тым самым пераўтварыўшыся ў сапраўдны архетып духоўнай культуры беларусаў. І гэта ня толькі «Людзі на балоце» Івана Мележа...*

— Гэта й Коласава «Дрыгва», і «Дзікае паляваньне караля Стаха» Ўладзімера Караткевіча зь вёскай Балотныя Яліны. Гэта й месца драматычных падзеяў у творах Васіля Быкава «Аблава», «Воўчая зграя». Прыклады можна доўжыць. Але пачыналася ўсё, калі хочаце, у дагістарычны час, што цудоўна адлюстроўвае наша міталёгія. Ва ўяўленьні беларусаў аж тры нячысьцікі насялялі балоты: Балотнік, Багнік і Аржавенік. У іхным існаваньні відаць клясыфікацыя ба-

лотаў на тры групы: праходныя, непраходныя й балотная твань, ці «балотныя вокны». Характар кожнага нячысьціка фармаваўся ў адпаведнасьці з пэўнымі прыкметамі балота (злыя, гультаяватыя ці лагодныя). А іхны выгляд адпавядаў асяродзьдзю:

***Хоць нікому зь людзей не даводзілася бачыць Балотніка такім, якім ён ёсьць напраўду, аднак, вядома, што ён страшэнны таўстун, зусім без вачэй, увесь у тоўстым слоі гразі, да якой наліпла ў беспарадку багавіньне, мохавыя валокны, смаўжы, жукі й іншая вадзяная жамяра. Усё гэта разам зь няўклюднасьцю робіць Балотніка найбольш пачварным з усіх нячысьцікаў.***

Была й яшчэ адна балотная істота — Лазавік, ці Лозьнік. Ён хутчэй гарэзьлівае, чым злоснае стварэньне. І атрымаў ён сваё найменьне праз звычку будаваць хатку ў лазе сярод балота. Будаваць хатку... Вось тут, дарэчы, падказка — чаму балота стала архетыпам ня толькі духоўнай, але й матэрыяльнай культуры беларусаў. І сапраўды, адзін зь вельмі цікавых відаў традыцыйных рамёстваў — лазапляценьне. Дый лапці беларусы выкарыстоўвалі як абутак, калі ішлі касіць на балоце. У Заходняй Беларусі яшчэ перад Другой усясьветнай вайной іх плялі з традыцыйнага для нас матар'ялу — скураных раменьчыкаў, а не з лазы ці лыка. А вось балотных нячысьцікаў, паводле паданьняў, найболей злавала іншае вынаходніцтва тутэйшых людзей — балотныя лыжы. Уяўляеце сабе: ляжыць нячысьцік на дне балота, а ўверсе па твані ходзяць людзі й не правальваюцца да яго?!

*— Мы ўжо казалі, што балоты як прыродны асяродак паўплывалі на гаспадарчую й вытворчую дзейнасьць мясцовага насельніцтва. Аддалі мы даніну заслугам балотаў у фармаваньні духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў. А ці маюць балоты канкрэтныя заслугі перад гісторыяй?*





— Не ў апошнюю чаргу дзякуючы палескім балотам Беларусь унікла мангольска-татарскага нашэсьця ў ягонай першай, раптоўнай хвалі ў пачатку XIII стагодзьдзя, калі сьпякотным летам конныя войскі не змаглі змаху пераадолець пінскія балоты, і тым самым далі магчымасьць падрыхтавацца да абароны ад наступных нападаў. А яшчэ балота было надзейнай схованкай для людзей, якія перасьледаваліся законам ці ворагам. Усім вядома, што й праз паўстагодзьдзя пасьля апошняй вайны беларускія балоты працягвалі служыць домам для тых, хто хаваўся ад акупантаў ці роднай улады.

*— Беларусы давяралі балоту як сродку абароны?*

— На мой погляд, па-першае, трэба згадаць пра нашы замкі-кастэлі. Яны будаваліся ня проста ў нізіннай мясцовасьці, як традыцыйна ў Эўропе, а менавіта сярод балота. Асабліва відаць, наколькі давяралі беларусы балотам як сродку абароны, на прыкладзе Крэўскага замку. Там ёсьць два ўзвышшы, але замак збудавалі на балоце. І спадзяваньні найчасьцей спраўджваліся. Так, Лідзкі замак у XIV стагодзьдзі быў захоплены толькі аднойчы, і тое лютай зімой, калі балота замерзла. Па-другое, Палесьсе — адзін з самых цікавых адносна традыцыі рэгіёнаў Беларусі — сфармавалася менавіта дзякуючы наяўнасьці балотаў, якія адыгралі ролю своеасаблівага ізалятара, што выдатна адлюстраваў Іван Мележ у рамане «Людзі на балоце». Згадайма эпізод, калі камсамолец Мікануор склікае на талаку вяскоўцаў, каб пабудаваць праз дрыгву плаціну. Але на гэтую талаку, насуперак традыцыі талакі, ніхто не прыходзіць. Ізаляцыя людзям на балоце, хутчэй за ўсё, падабалася. І яшчэ. Паколькі паселішчам, якія існуюць сярод балотаў, заўсёды не стае прыдатнай для земляробства зямлі, вытворчая дзейнасьць насельнікаў трымаецца на нечым іншым, стымулюе найчасьцей рамесную, прадпрымальніц-

кую дзейнасьць. Хрэстаматыйны прыклад — вёска Гарадная, што ў Столінскім раёне, дзе сфармаваўся ганчарны цэнтар з адметнай традыцыяй. Дзяўчаты там нават не ішлі замуж за таго, хто ня ўмеў ляпіць гаршкоў.

*— Вядома, што ляндшафт уплывае на фармаваньне нацыянальнага характару таго ці іншага народу. Як паўплывала балота на мэнтальнасьць беларусаў?*

— Балотная глеба — гэта ня тупкая зямля. Яна няпэўная: станавіся ды азірайся. На мой погляд, абачлівасьць ёсьць і ў характары беларусаў. Яны не сьпяшаюцца давярацца іншым ці спадзявацца на шчасьце. Беларусы аглядаюцца й абдумваюць кожны свой крок: а раптам там дрыгва? Дарэчы, і тое, што Беларусь стала краінай-партызанкай, ідзе ў пэўнай ступені ад характару беларуса: схаваліся, выйшлі, зрабілі што трэба — і зноў схаваліся. Балота дазваляла беларусам выжыць.

*— Мы вельмі часта ўспрымаем слова «балота», асабліва калі яно выкарыстоўваецца ў філязофскім ці пераносным сэнсе, са знакам мінус, як слова абразьлівае. Прыкладам, калі ўжываецца яно як мэтафара псыхалёгіі нейкага калектыву.*

— Што тычыцца нацыі, дык я прапанавала б паразважаць над думкаю пра балота, выказаную Пятром Васючэнкам у адным эсэ: з аднаго боку, на балоце нельга пабудаваць нічога трывалага, надзейнага, але зь іншага — балота практычна немагчыма зьнішчыць. Засыпанае ў адным месцы, яно абавязкова ўзьнікне нібы зь ніадкуль у іншым. І калі яно такім чынам характарызуе беларусаў і адлюстроўвае іхны лёс, то ў нас ёсьць прычыны быць аптымістамі, а не пакрыўджанымі ці зьняважанымі такой мэтафарай.



## НАСТАЛЬГІЯ ПА СТРАЧАНЫМ МОРЫ

*Размова зь Пятром Васючэнкам*

**Шчасьлівыя народы марскіх дзяржаваў, што маюць магчымасьць гандлю, рыбалоўства, фантастычных круізаў. Дзяржавы-выспы наагул лічацца ледзь не зямнымі выраямі. Нездарма Ўсходні вучоны з трагікамэдыі Янкі Купалы «Тутэйшыя» так настойліва раіць Янку Здольніку, праўдзіваму беларусу й прафэсару беларускае басоты, як найхутчэй «прорубить окошко к морю». А той яму адказвае, што было ў нас сваё мора — Пінскае, ды акупанты зьмяшалі яго з гразёю, вось і сталася Пінскае балота. Так і жывуць сёньня беларусы — бяз мора, мроячы пра яго — сваё, хай і саматужнае. Здаецца, павінна ставаць беларусу рэкаў, азёраў, балотаў, а ён усё роўна гатовы любую калюжыну назваць морам.**

*— Вось і стала Заслаўскае вадасховішча Менскім морам. Дык чаму ж беларусы так любяць мора?*

— Любоў беларусаў да мора — гэта сублімаваная настальгія, сказаў бы Юнг, па тым няспраўджаным, страчаным моры, якое ў іх калісьці было. Геолягі пацьвердзяць, што ўжо на золку палеазойскай эры, а гэта 570 мільёнаў гадоў таму, ішла вайна паміж сушаю й вадою — гэтымі дзьвюма стыхіямі. Часам перамагала вада, і тады ўтваралася мора. Часам мора адступала на захад і на ўсход, адкуль яно й зьявілася. І тады заставаліся салёныя азёры або лагчыны на тэрыторыі гэтак званай Берасьцейскай катлавіны й на тэрыторыі Прыпяцкай упадзіны. Калі верыць географу Аркадзю Смолічу, гэта працягвалася аж да кайназойскай эры, прыблізна да 40—45 мільёнаў гадоў

таму. А пасьля былое мора накрылі ледавікі. Так і засталіся беларусы бяз мора.

*— А што пакінула беларусам мора на памяць пра сябе?*

— Страчанае мора беларусы карыстаюць і сёньня. Прыкладам, тая соль, якую здабываюць у Салігорску, пласты таўшчынёю два кілямэтры — гэта сьляды былога мора. Альбо тая крэйда, якой карыстаюцца й сёньня шкаляры, на якой выхавалася не адно пакаленьне беларускай інтэлігенцыі, — таксама падарунак памерлага мора. Зрэшты, вялікую частку выкапняў, якія ёсьць у Беларусі, перадусім на Палесьсі, пакінула тое самае мора.

*— Як жа магло выглядаць тое мора, хто насяляў яго?*

— Людзей тады яшчэ не было. Хаця, хто ведае, нядаўна нібыта знайшлі ж сьляды дыназаўра побач са сьледам чалавека недзе ў сярэднеазіяцкай пустэльні... А мора тое спачатку насялялі дзіўныя істоты, абсалютна не падобныя да сучасных жывёлаў, сысуноў, рыбаў. Прыкладам, трылябіты — дзіўныя ракападобныя істоты, накшталт гіганцкіх макрыцаў, даўжынёй каля дзесяці сантымэтраў. Альбо бэлямніты — нешта кшталту кальмара альбо васьмінога ў вялікай ракаўцы даўжынёю паўмэтра. А яшчэ гэтае мора насялялі брахіяподы (іх яшчэ называюць плечаногія) — ракаўкі зь дзьвюма палавінкамі, якія нагой замацаваліся за марское дно. Ужо пазьней былі рыбы. А ў часе юрскага пэрыяду зьявіліся іхтыязаўры — праобразы нашых беларускіх цмокаў.

*— Дык жа па ўсёй зямной кулі былі такія моры, і такія істоты іх насялялі. А ці была нейкая ўласнабеларуская флёра й фаўна? Якая розьніца паміж гэтым фантасмагарычным беларускім морам і іншымі морамі, якія да сёньня існуюць?*





— Выглядае, падчас вялікае паводкі, якой не адмаўляюць ні тэолягі, ні геолягі, мора пакрывала ўсю зямную прастору. Але ў Беларусі яно было незвычайнае: яно то адступала, то залівала берагі. Найчасьцей яно было плыткае, і ваду ягоную можна параўнаць з той вадой, якую апісвае Ўладзімер Караткевіч у сваёй аповесьці «Ладзьдзя Роспачы» — карычневая жыжка, як вада ў Палескім балоце. Беларускае мора вельмі нагадвала балота. Недарэмна географу Гэрадоту славутае Пінскае балота, зацягнутае туманамі, падалося бяскрайнім морам. І адсюль назва — Гэрадотава мора. У хрэстаматыйным творы «Энэіда навыварат» бура на беларускім моры нагадвае буру на балоце. Паэт яе таксама параўноўвае з бурленьнем піва ў шынку:

***Калі хто відзеў, як Бакціха***
***Нямецка піва задаець,***
***Яко яно падыме ліха,***
***Запеніцца ды розна прэць, —***
***От так і мора заравела,***
***Бублілась, пенілась, шумела.***
***Эней спалохаўся, усхадзіўся.***
***Матуз ад портак аж зваліўся,***
***Са страху й нюні распусьціў ды***
***Як у трасцы, ён завыў.***
***Траянцы ўсе казла задралі,***
***Са ўсіх чаўноў яны гукалі,***
***Ў балоце быдта лісавей.***

*— А пасьля зьявіўся чалавек на той тэрыторыі, дзе было мора. Ці адчуваў ён колішнюю бытнасьць таго мора?*

— Мяркую, што ў чалавека настальгія па моры заставалася ў генэтычнай памяці. Гэта можа паказацца дзіўным, бо, паводле геалягічных зьвестак, чалавек у той час ня жыў. Але, калі верыць Дарвіну, усе мы пайшлі ад ніжэйшых істотаў: ад малпаў, а раней ад тых жа паўзуноў, плечаногіх, чарвякоў. І каліісьці за

Юнгам, дык памяць пра зьніклае мора перадалася сучаснаму чалавеку ад гэтых ніжэйшых істотаў. І яшчэ — у гісторыі нічога не праходзіць бязь сьледу. Тым болей, што і ў гістарычным часе беларусы мелі сваё мора. А ўжо за часамі Полацкага княства былі фарпосты на Вараскім моры, Герцыке ды Кукейнос. Пазьней і грамадзяне Вялікага Княства Літоўскага ганарыліся тым, што маюць ажно два выхады да мора — да Вараскага й да Чорнага, мелі на іх і гарады, і фарпосты. Не выпадкова Лібаве — порту, адкуль беларусы эміґравалі ў розныя краіны, — Максім Багдановіч прысьвяціў верш «Эміґранцкая песьня», таксама поўны настальгіі па страчаным моры. Гэтая настальгія ў літаратуры й мастацтве існуе і ў наш час. Так, сучасны паэт Віктар Шніп свой новы зборнік вершаў так і назваў — «Беларускае мора». Беларусы працягваюць сумаваць па сваім страчаным моры.

*— А чаму й сёньня беларусы прагнуць вярнуць сваё страчанае мора?*

— Мяркую, што для беларусаў мора перадусім ёсьць увасабленьнем воднай стыхіі, якой яны поруч зь зямной аддаюць перавагу. Ім мала рэчак, мала азёраў. Мора зьяўляецца і ўвасабленьнем волі, неабсяжнага прастору, свабоды дзеяньня. Тая ж Цётка верш, прысьвечаны бунту, рэвалюцыі, назвала «Мора». Хаця там бура дужа нагадвае буру на балоце: у часе буры ўцякаюць з гэтага балота русалкі, якія яго насялялі:

***Не такое цяпер мора,***
***Не такі ў хвалях шум:***
***Цяпер бурна, страшна мора!***
***Хваля поўна дзікіх дум.***

***Мора вуглем цяпер стала,***
***Мора з дна цяпер гарыць,***
***Мора скалы пазрывала,***
***Мора хоча горы змыць.***





***Мора злуе, крэпнуць хвілі,***
***Зь дзікім шумам бераг рвуць;***
***Гром грыміць за вёрсты-мілі,***
***З мора брызгі ў неба б'юць.***

***Месцам хваля стогнам рыкне,***
***Месцам плач сарвецца з губ,***
***Месцам бераг болем ікне,***
***Гром грыміць у тысяч труб.***

***Мора зброіцца палкамі,***
***Шум русалак разбудзіў,***
***Запаліўся смок агнямі,***
***Неба чорны гнеў пакрыў.***

*— Ёсьць тут нейкая супярэчнасьць. Мы традыцыйна гаворым, што беларусы — вельмі прыземленая нацыя, што для іх зямля ёсьць найважнейшай каштоўнасьцю, і раптам кажаце, што для беларусаў мора ці не важнейшае за зямлю...*

— Беларусы, якія аддаюць перавагу зямной стыхіі, зьяўляюцца прагматыкамі: яны ведаюць, што й з мора можна карыстаць. Яны ня супраць, каб была свая флятылія, сваё рыбалоўства, свае круізы й іншыя даброты, якія нясе мора. Памятаю, колькі часу таму на паседжаньні парлямэнту дэпутат Алег Трусаў прапанаваў заснаваць беларускую флятылію. Дэпутаты тады дружна яго засьмяялі. Але з часам да гэтай ідэі вярнуўся і ўрад, які абмяркоўвае праблему арэнды латыскіх, літоўскіх, польскіх ці расейскіх партоў.

*— Дык ці верыце Вы асабіста, што мора да беларусаў вернецца?*

— Мяркую, што гэтак, як і ў прыродзе, мора і ў філязофскім пляне для беларусаў зьяўляецца працягам азёраў, рэкаў, непазьбежнай іхнай самарэалізацыяй. Таму й вяртаньне мора да беларусаў таксама непазьбежнае. Толькі ня ведаю, у якой форме адбудзецца

гэтае вяртаньне — ці то напраўду будзе заснаваная беларуская флятылія, ці то зноў беларусы абжывуць нейкі порт, ці выкапаюць нейкае новае, незвычайнае вадасховішча й наракуць яго зноў морам, а мо нават у выніку глябальнага пацяпленьня да Беларусі зноў падступіць мора. Хто ведае, дазвольце мне нават палетуценіць — можа, беларусы асвояць мора-пустэльню на Месяцы. Але вяртаньне гэтае адбудзецца непазьбежна. Ну, а туга, беларуская настальгія па страчаным моры заўсёды будзе неспатольная.



## ЗАМКІ — МУРАВАНАЯ ВАРТА КРАІНЫ

*Размова зь Нінай Здановіч*

**Сярэднявечныя падарожнікі называлі Беларусь краінай замкаў. І бачылі яны іх, напэўна ж, такімі, як апісаў іх Адам Міцкевіч:**

***Ля Навагрудка, на ўздыбленых горах, —***
***Замак у месяца срэбным зіхценьні,***
***Вал зьдзірванелы схаваўшы, сувора***
***Волатаў-вежаў ламаныя цені***
***Падалі ў роў, дзе між вечнай цясьніны***
***Дыхалі воды, затканыя цінай.***

***Замак заснуў — ні агню і ні дыху,***
***Толькі на вежах бяссонная варта***
***Воклічам ціху палохае ўпарта.***

**На замкі глядзелі найперш як на мураваную варту дзяржаўнай бясьпекі. Але значэньне іхнае для Беларусі было нашмат большае. Мы забываемся на іхную ролю ў культуры. Замкі засвойвалі ўсё лепшае, што было знойдзена архітэктарамі й інжынэрамі ў фартыфікацыі. Былі яны і ўвасабленьнем чарговых мастацкіх стыляў, якія зьмяняліся гэтак жа хутка, як сам час.**

*— Ці сапраўды замкі ішлі ў авангардзе культурных зьменаў?*

— Бальшыню з таго, што несла замкавая культура, можна сапраўды пазначыць грыфам «першы». Кожнае стагодзьдзе давала нешта новае. Першыя кафляныя печы зьявіліся ў Беларусі ў XIV стагодзьдзі менавіта ў замках — Полацкім і Лідзкім. Калі гаварыць пра фрэскі, уласьцівыя для жылых, ня культавых памяшканьняў, дык імі таксама ўпершыню аздобілі сьцены замкаў — Крэўскага й Навагрудзкага. У XVI

стагодзьдзі, калі Эўропа захапілася антычнасьцю, першы музэй на беларускіх землях быў створаны ў Нясьвіскім замку. І прыватныя бібліятэкі, тэатры ў XVIII стагодзьдзі таксама ўпершыню зьявіліся ў замках. Батанічныя сады, аранжарэі XIX стагодзьдзя — зноў жа элемэнты замкавае культуры.

*— Замак быў цэнтрам культурнага, грамадзкага жыцьця?*

— Ад самага пачатку, ад часу Полацкага княства замак быў ядром гораду. Ён як бы атаясамліваўся з горадам, які вакол яго будаваўся. У эпоху Вялікага Княства Літоўскага замак быў гарантам бясьпекі гораду: унутры была пляцоўка, дзе маглі знайсьці прытулак мясцовыя жыхары ў момант небясьпекі. Ён станавіўся іхным замкам. А ў эпоху Адраджэньня й Асьветніцтва замак успрымаецца найперш як цэнтар сьвецкае культуры. Прыкладам, бібліятэка Храптовічаў у Шчорсах налічвала вялікую колькасьць тамоў, і ўладальнік, Яўхім Храптовіч, напісаў нават Статут, паводле якога дазвалялася карыстацца бібліятэкай і мясцовым жыхарам, і навукоўцам з-за мяжы. Гэтай магчымасьцю скарысталіся Ян Чачот, Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля. Там былі вельмі цікавыя дакумэнты, кнігазборы, можна было азнаёміцца зь дзёньнікам Марыны Мнішак.

*— А ці мелі нейкае значэньне замкі для эканамічнага жыцьця краіны?*

— У XIX стагодзьдзі, у час фармаваньня капіталістычных дачыненьняў, яны адыгралі таксама сваю ролю. Возьмем толькі аднаго ўладальніка, магната Пуслоўскага, які меў маёнтак у Альбэрціне, пад Слонімам. Ягоная дзейнасьць як прадпрымальніка можа быць узорам. Ён адкрываў на тэрыторыі свайго замку й вакол замку шэраг прадпрыемстваў: цагельню, паперню, суконную мануфактуру й мануфактуру





вытворчасьці дываноў — у залежнасьці ад попыту. Ён жа адчыніў электралямпавую мануфактуру. А ў канцы XIX стагодзьдзя тут была збудаваная й першая гідраэлектрастанцыя ў Заходняй Беларусі.

*— Ці заўсёды замак прыцягваў да сябе навакольле, ці заўсёды вакол яго віравала жыцьцё?*

— Спачатку замак быў зьбіральнікам жыцьця вакол сябе. А затым паступова стаў аддаляцца ад навакольля і ў прамым, і ў пераносным сэнсах. У XII—XIV стагодзьдзях замак побач, сярод людзей, гатовы прыняць іх у момант небясьпекі. А пачынаючы з XVI ён ужо дыстанцуецца, перабіраецца на ўскраек мястэчка, гораду. У XVIII стагодзьдзі ён хаваецца ад мястэчка ў цень ангельскага парку, і толькі нямногія могуць на ўласныя вочы пабачыць сам замак, а тым больш кантактаваць зь ягонымі гаспадарамі. Ён ахутвае сябе таямнічасьцю, спараджаючы міты й легенды. Апісаньне замку аўстрыйскім пісьменьнікам Францам Кафкам блізкае й беларускім рэаліям таго часу:

***Цяпер увесь Замак ясна вымалёўваўся ў празрыстым паветры, і ад тонкага сьнегавога покрыва, што цалкам апранала яго, усе формы й рысы выступалі ўсё выразьней... Увесь Замак, якім ён бачыўся здалёк, зусім адпавядаў чаканьням К. Гэта была й не старадаўняя рыцарская крэпасьць, і не шыкоўны новы палац, а суцэльны шэраг будынінаў, які складаўся зь некалькіх двухпавярховых і мноства шчыльна прылепленых адзін да аднаго прыземістых дамоў, і каб ня ведаць, што гэта Замак, льга было б прыняць яго за мястэчка. К. убачыў толькі адну вежу, ці то над жылым памяшканьнем, ці то над царквою — разабраць было няможна. Стаі варон кружлялі над вежаю.***

Бальшыня жыхароў наваколья магла меркаваць пра замак і пра ягоных жыхароў толькі паводле чутак. На-

раджэньню легендаў спрыялі самі гаспадары, складаючы пра сябе розныя показкі й байкі. Прыкладам можа быць Караль Станіслаў Пане Каханку, чарговы ўладар Нясьвіскага замку, якога ў гэтым зьвязку нават называюць беларускім баронам Мюнхгаўзэнам. Вось адна зь ягоных баек:

***Быў я добраахвотнікам у ангельскім войску, пане каханку, што вяло аблогу гішпанскай цьвярдыні Гібралтару. І быў у мяне чыстай андалюзійскай пароды, чорны, як крумкачова крыло, конь. Пачаўся, пане каханку, штурм той крэпасьці. Лячу я на сваім скакуне, ажно раптам гарматнае ядро, пушчанае ворагам, разрывае тулава майго каня на дзьве паловы. Я ўтрымаўся ў сядле, а ён так разагнаўся, што з той паловай, на якой сядзеў, проста праз мур пераляцеў, і апынуўся я, пане каханку, першым у той грознай цьвярдыні. Ну, а за мной і астатняе войска ўварвалася, здабыўшы Гібралтар канчаткова.***

*— Няўжо зусім не перасякаліся шляхі замку й ваколіцы?*

— Тут можна згадаць адзін вельмі цікавы факт. У Нясьвіжы штогоду ладзілася так званае сьвята курка, гэткае спаборніцтва ўладароў замку й стралкоўмесьцічаў на найлепшага стралка. У першай чацьверцы стралкоў былі сам гаспадар замку, ягоная жонка, гаспадар гораду й войт. У другой чацьверцы маглі ўдзельнічаць любыя жыхары гораду, хто меў стрэльбу. Пераможца фіксаваўся ў магістрацкай кнізе й атрымліваў узнагароду. Гэта спрыяла павышэньню вайсковага майстэрства, а тым самым умацоўвала абарону й гораду, і замку.

*— Замак меў шмат функцыяў. А ці не заміналі гэтыя функцыі адна адной? Ці не зашмат увогуле браў на сябе замак?*





— Магчыма, і зашмат. Гэта адчулася ў XIX стагодзьдзі, калі замак са сваёй ролі заканадаўцы культурных традыцыяў перакваліфікоўваецца ў заканадаўцу эканамічных падставаў дзяржавы. Прыкладам таму — лёс Ружанскага замку, які згарэў ад пажару на сукнавальні, разьмешчанай у ягоных будынках. Але нават тады, у XVIII стагодзьдзі, замак заставаўся тым, чым ён не пераставаў быць ніколі — апірышчам дзяржаўнасьці. І гэта добра ўсьвядомілі расейскія ўлады, калі пасьля акупацыі Беларусі забаранілі мясцовым магнатам ня толькі трымаць уласнае войска, але й будаваць крэпасьці.

*— Вы хочаце сказаць, што замак сам зьнішчаў сябе? Тут лёгіка працягласьці існаваньня замкаў у прасторы й часе пэўнай краіны, у прыватнасьці, Беларусі?*

— Усё матэрыяльнае мае свой пачатак і свой канец. Але кожная зьява мае яшчэ й функцыі ці характарыстыкі духоўныя, міталягічныя, знакавыя. Найгорш, што замак страчвае сэнс як знак, сымбаль, мэтафара Беларусі. Бязьлітасны ход гісторыі прывёў да таго, што ў замках паадчыняліся калгасныя канторы, як гэта здарылася ў Падароску пад Ружанамі. Былыя вуліцы з прыгожымі назвамі, якія акаляюць замак, прыкладам, Француcкі тракт у Альбэрціне, пераўтварыліся ў Калгасныя вуліцы. На Гальшанскі замак насунуўся сьвінакомплекс, а ягоныя сутарэньні зрабіліся сьцёкамі для гною. На тэрыторыі Крэўскага й Ружанскага замкаў сталі пасьвіць авечак, козаў, кароваў. А ля разбураных панскіх сядзібаў і замкаў на Мёршчыне дзеці зьбіраюць сьлімакоў, якіх колісь завезьлі туды й вырошчвалі гаспадары-магнаты. Сьлімакі й руіны замкаў — усё, што засталося ад колішніх фарпостаў моцы й прыгажосьці.

## КРАІНА МЯСТЭЧКАЎ

*Размова з Захарам Шыбекам*

**«Мястэчка» ў старабеларускай мове азначала ня што іншае, як ласкавае «гарадок», «маленькі горад» ці «горад невялічкі». Мястэчка... Прамаўляеш гэтае слова — і адчуваеш у ім нейкую пяшчоту й цеплыню, унутранае замілаваньне й супакаеньне, якія ідуць з глыбіні стагодзьдзяў, ад нашых продкаў. І такія асацыяцыі — зусім не выпадковыя. Бо для свайго часу мястэчка — гэта самы дасканалы й самы гарманізаваны тып людзкіх паселішчаў. Яны — паміж вёскай і горадам, не адарваныя ад іх. А таму бралі ўсё лепшае з абодвух — і здаровы дух прыроды, і здабыткі гарадзкой цывілізацыі. Вось як апісваюць беларускія географы В. Жучкевіч, А. Малышаў і Н. Рагозін выгляд тыповага для колішняй Беларусі мястэчка:**

***Мястэчка мела своеасаблівы выгляд. Ягоным цэнтрам была кірмашовая плошча, побач зь якой на самым высокім месцы стаялі царква й касьцёл, будынак мясцовага праўленьня, некалькі лавак з таварамі сялянскага хатняга ўжытку. Галоўная вуліца была шырэйшай за іншыя, часам брукаваная. Пры ўезьдзе ў мястэчка знаходзіліся заезд і карчма. На перакрыжаваньні дарогаў ставіўся велізарны крыж. У цэнтральнай частцы знаходзіліся некалькі добрых дамоў, якія належалі сьвятарам і буйным гандлярам. Крыху воддаль жылі й працавалі рамесьнікі. Ускрайкі займалі сялянскія гаспадаркі.***

*— Ці можна сказаць, што Беларусь гістарычна — краіна мястэчкаў?*



— Безумоўна. Такая ж урбаністычная мадэль у XV—XVIII стагодзьдзях існавала ва ўсёй Цэнтральнай і Заходняй Эўропе. Мястэчкі рабілі Беларусь эўрапейскай краінай. Можна сказаць з упэўненасьцю: ёсьць мястэчкі — ёсьць Беларусь, няма мястэчкаў — няма Беларусі.

*— І калі яны ўзьнікаюць на беларускіх землях?*

— Узьніклі мястэчкі ў XIV стагодзьдзі. Гэта быў якраз той час, калі ў дзяржаўнай казьне ВКЛ зьявіўся лішак грошай для разбудовы гарадоў і мястэчкаў. Гэтыя грошы здабываліся ваеннымі паходамі вялікіх князёў літоўскіх Альгерда й Вітаўта, працай беларускага народу і ўсталяваньнем сталых гандлёвых сувязяў з заходнеэўрапейскімі краінамі. Ад XIV стагодзьдзя плыты беларускага лесу пачалі спускацца па рэках да Балтыйскага мора. Эўропе спатрэбіўся мачтавы лес. Марская магутнасьць Англіі стваралася ў тым ліку й імпартам беларускага лесу. Першыя мястэчкі расьлі пераважна на дзяржаўным экспарце лесу. Многія зь іх сталі фрахтовымі пунктамі гэтага экспарту. Мястэчкі таго часу маглі засноўвацца толькі дзяржавай, і ўсе падаткі ад мястэчкаў ішлі ў казну.

*— Які пэрыяд гісторыі быў найбольш спрыяльны дзеля разьвіцьця мястэчкаў?*

— Росквіт мястэчкаў прыпаў на пэрыяд ад другой паловы XVI стагодзьдзя да сярэдзіны XVII. У 1588 годзе права заснаваньня іх на ўласнай зямлі атрымалі кожны шляхцюк і кожная царкоўная ўстанова. Калі ў XV—XVI стагодзьдзях на тэрыторыі Беларусі было больш як дзьвесьце мястэчкаў (пераважна дзяржаўных), то ў XVI—XVII стагодзьдзях — ужо каля чатырохсот (і пераважна прыватных). Назіралася імклівая ўрбанізацыя беларускіх земляў. Гэтаму спрыяў рост прыбытковасьці сельскай гаспадаркі. У той час Эўропа перайшла на пераважна расьліннае

харчаваньне. Цэны на зерне трымаліся высокія. Каб павялічыць прадукцыйнасьць сельскай гаспадаркі, Жыгімонт II Аўгуст і ягоная маці Бона Сфорца, італьянка паводле паходжаньня, правялі ў 1557 годзе ў ВКЛ першую аграрную рэформу пад назвай «валочная памера». Беларускія мястэчкі выступалі своеасаблівымі зборнымі пунктамі сельскагаспадарчай прадукцыі дзеля адпраўкі яе потым рэкамі й праз Балтыйскае мора паводле назначэньня. Рэформа закранала й арганізацыю новых мястэчкаў. Адлегласьць паміж імі была 12—30 кілямэтраў. Таму кожнае мястэчка рэальна ахоплівала сваім уплывам акругу радыюсам ня болей за пятнаццаць кілямэтраў. Гэта была якраз тая адлегласьць, якую вясковец мог лёгка пераадолець за дзень, калі не пехатой, дык конна.

*— Цікавая беларуская акалічнасьць: і сёньня, а ў мінулым перадусім, на захадзе Беларусі невялікія населеныя пункты называюць мястэчкамі, а на ўсходзе — вёскамі. Мястэчка найперш уласьціва для заходняй Беларусі?*

— Бальшыня мястэчкаў узьнікала на захадзе, які меў блізкія й зручныя сувязі з эўрапейскімі рынкамі, меней — на ўсходзе. Але і ўсход уцягваўся ў эўрапейскі гандаль праз сыстэму рэкаў і гужавы транспарт. На ўсходзе эўрапейскі ўплыў і заканчваўся, між іншым, межамі басэйну Дняпра й Заходняй Дзьвіны. Басэйн Волгі ўжо цягнуўся да паўдзённага, мусульманска-азіяцкага сьвету. А Беларусь была неад'емнай часткай эўрапейскага эканамічнага арганізму. Калі ейныя рэкі выступалі капілярамі, то мястэчкі — своеасаблівымі лімфатычнымі вузельчыкамі гэтага арганізму.

*— Якую ролю адыгрывалі мястэчкі ў палітычнай, эканамічнай, культурнай арганізацыі дзяржавы?*

— Мястэчкі былі добрымі сувязнымі й на ўнутраным





рынку. Праз іх здабыткі вясковай працы траплялі ў гарады. А гарады ў сваю чаргу выкарыстоўвалі мястэчкі як пасярэднікаў для збыту сваіх прамысловых вырабаў вяскоўцам. Як вынік, і маленькія беларускія вёсачкі ўцягваліся ў таварна-грашовыя дачыненьні й траплялі пад эканамічны ўплыў гарадоў. Мястэчкі прэзэнтавалі таксама лякальную культуру, якая духоўна ўзбагачала гарады. І ў сваю чаргу служылі гарадам каналам дзеля напаўненьня вясковага асяродзьдзя гарадзкой сьвядомасьцю й культурай. Дзякуючы мястэчкам кожная беларуская вёсачка рабілася часьцінкай агульнабеларускай культурнай прасторы на чале з гарадамі. Што да грамадзкай ролі, мястэчкі мала чым саступалі гарадам. Паводле Бельскага сэйму 1564 году, яны атрымалі нароўні з гарадзкімі цэнтрамі магчымасьць набываць магдэбурскае права й вызваляцца з-пад апекі фэадалаў.

*— Як зьмянілася роля мястэчкаў пасьля таго, як Беларусь стала часткай Расейскай імпэрыі?*

— Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі мястэчкі ператвараліся ў рэзэрвацыі для габрэйскага насельніцтва. Заснаваньне новых мястэчкаў прыпынілася. Будаўніцтва чыгунак паскорыла бег тавараў і тым зьменшыла колькасьць патрэбных гандлёвых пунктаў, якімі зьяўляліся мястэчкі. Такія мястэчкі царская адміністрацыя тут жа пераводзіла ў разрад сельскіх паселішчаў. Адзінай падставай было тое, што ў Расеі мястэчкаў не існавала. А таму колькасьць мястэчкаў у Беларусі паменшылася з чатырохсот васямнаццаці ў 1863 годзе да трохсот дваццаці двух у пачатку XX стагодзьдзя. Царскі ўрад увогуле плянаваў частку мястэчкаў зрабіць вёскамі й толькі больш значныя перайменаваць у пасады. Праўда, на ажыцьцяўленьне гэтага праекту казна не знайшла дастатковых сродкаў. Не знаходзілася сродкаў і на перавод найбольш выбітных мястэчкаў у разрад гарадоў. Ва ўмовах цар-

скай Расеі працэсы ўрбанізацыі праз мястэчкі, вёскі й выдзяленьне зь сялянства гарадзкіх станаў істотна ўскладніліся. Гэтым працэсам царскі ўрад ніяк не спрыяў. Беларусы ператвараліся ў сялянскую нацыю, безабаронную перад зьнешняй небясьпекай і якая лёгка прыстасоўваецца да ўлады, нават калі тая чужынская. Далучэньне Беларусі да Расеі мела шмат адмоўных вынікаў. Але, можа, самым трагічным было якраз запавольваньне й дэфармацыя ўрбаністычнага працэсу, які забясьпечваў фармаваньне паўнавартаснай беларускай нацыі.

*— Але расейцы не змаглі цалкам зьнішчыць беларускіх традыцыйных паселішчаў — мястэчкаў...*

— Сапраўды, царская ўлада не змагла канчаткова зламаць традыцыйную ўрбаністычную мадэль Беларусі. Буйныя мястэчкі захоўваліся й звычайна рабіліся цэнтрамі валасцяў і парафіяў, а пасьля адмены прыгону і ўвядзеньня чыгунак рабіліся яшчэ больш інтэнсіўнымі трансфарматарамі эканамічнага й культурнага абмену паміж горадам і вёскай. У мястэчках канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя гадаваліся статкі адкормленых сьвіней і гусей, якія перапраўляліся потым у гарады. Дый жыцьцё ў мястэчках рабілася ўсё больш урбанізаваным. Вось як навукоўцы апісвалі тыповае мястэчка напрыканцы XIX стагодзьдзя:

***Праваслаўны сьвятар мястэчка Крэвы сьведчыў, што ў 1871 годзе ягоныя прыхаджане мяшчанскага саслоўя імкнуліся пераўзысьці сялянаў. На сьвяточны дзень многія мелі сурдут чорнага, радзей шэрага колеру; іншыя — камізэлькі й нават манішкі. Апраналіся ў каптаны, але ўсё ж чорнага колеру, а ня шэрага, як вяскоўцы. Мужчыны галіліся, пакідалі толькі невялікія вусы й рэдка — бакенбарды. Жанчыны ў сьвяточныя дні апраналі стракатыя паркалёвыя, а то й ваўняныя сукенкі.***





***Перад вяскоўцамі мяшчане любілі паказаць сябе гараджанамі. Сяляне ставіліся да іх з належнай пашанай, але за вочы — пасьмейваліся.***

Мястэчкі заставаліся скарбніцай разнастайнай народнай творчасьці — у іх былі своеасаблівыя й фальклёр, і звычаі, і рамёствы. Дзеля выжываньня местачкоўцам даводзілася рабіцца вынаходлівымі. Вось жа мястэчка Боцькі на Гарадзеншчыне было слаўнае ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя вытворчасьцю нагаек і бізуноў — школьнікі называлі іх «боцькаўскімі ўгаворшчыкамі». А ў мястэчку Глуск на Бабруйшчыне наладзілі ў пачатку XX стагодзьдзя выраб з асінавай стружкі рознакаляровых бантаў. Жыхары ж мястэчка Гарадок, што на Ашмяншчыне, у 1860-х гадах гандлявалі п'яўкамі, якіх прывозілі з ваколіцаў Гомелю.

*— У 1917 годзе грымнуў у Расеі бальшавіцкі пераварот. Ягоны водбліск у Беларусі стаўся таксама разбуральным. Як гэта паўплывала непасрэдна на мястэчкі?*

— Пасьля бальшавіцкага перавароту, у гады нэпу, меней як траціна са 176 беларускіх мястэчкаў БССР афіцыйна захавала свой статус. Паводле ж меркаваньня вядомага беларускага географа Мікалая Азбукіна, мястэчкамі маглі звацца ў той час ня меней як трыста паселішчаў. Праўда, у адрозьненьне ад царскага ўраду, мясцовае савецкае кіраўніцтва сваімі дэкрэтамі ня толькі вынішчала, але й засноўвала новыя мястэчкі. Калі ў 1925 годзе ў БССР было 43, то ў 1930-м — ужо 68 мястэчкаў. Аднак, савецкі рэнэсанс мястэчкаў працягваўся нядоўга. У 1938 годзе Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР зацьвердзіў клясыфікацыю паселішчаў рэспублікі. Мястэчкам у гэтай клясыфікацыі ўжо не знайшлося месца: буйнейшыя ператварылі ў гарады, сярэднія — у гарадзкія ці рабочыя пасёлкі, а меншыя, без прамысловых прадпрыемст-

ваў — у вёскі. Тое, што распачало самадзяржаўе, дакончылі бальшавікі. Мястэчкі, як сувязныя рынку, станавіліся не патрэбныя й замяняліся паселішчамі-казармамі, тыпу рабочых пасёлкаў. Сталінскі таталітарны рэжым увогуле мог трымацца толькі на адміністрацыйнай аднастайнасьці і ўнівэрсальнасьці. А мястэчкі выбіваліся з гэтага правіла. Што тычыцца Заходняй Беларусі, дык там мястэчкі захоўваліся да 1939 году.

*— З Вашага гледзішча, ці варта аднаўляць сёньня старую ўрбаністычную сыстэму Беларусі? Можа, хай слова «мястэчка» застаецца толькі напамінам пра добрую, прыгожую спадчыну?*

— Незалежная Літва аднавіла назву «мястэчка». Думаю, Беларусь таксама павінна зрабіць тое ж, калі яна дбае пра захаваньне ўласнай культурнай спадчыны. А вось функцыянальна аднавіць мястэчкі будзе цяжэй. На гэта запатрабуюцца немалыя грошы. Беларусь пакуль не настолькі багатая, яна ня можа ўтрымліваць ня толькі мястэчкі, але й звычайныя вёскі. Вось тыя паціху й канаюць. І ўсё ж пэрспэктывы дзеля адраджэньня пэўнай колькасьці мястэчкаў ёсьць. Беларусь можа стаць клясычным прыкладам транзытнага гандлю ў Эўропе. І тады, трэба спадзявацца, адбудаваныя мястэчкі, як і ў пэрыяд Сярэднявечча, дапамогуць Беларусі адчуць сябе часткай адзінага эўрапейскага арганізму.



## ПОЛАЦКІ ЛЯБІРЫНТ

*Размова зь Пятром Васючэнкам*

**«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!..» — вымавіў Максім Багдановіч, параўнаўшы Беларусь зь зернем, што тысячы гадоў праляжала ў зямлі дый не загінула, а дало плён. «Кветка шыпшыны», «Краіна-браначка», «Раскіданае гняздо», «Руіны страляюць ва ўпор», «Край балотаў і лясоў», «Зямля пад белымі крыламі» — гэта ўсё знаёмыя нам вызначэньні лёсу й аблічча Бацькаўшчыны. Але ёсьць і іншы сымбаль, меней зашмальцаваны, — Беларусь як лябірынт. Аўтар гэтага сымбалю — пісьменьнік, навуковец Вацлаў Ластоўскі:**

***Першы мой сон стрывожыў ціхі стук у вакно. Я ўскочыў з ложка й, падышоўшы, пабачыў у вакне вусатае аблічча Падземнага чалавека. Ён даваў мне знакі рукамі, каб адчыніць яму вакно, прычым клаў палец на вусны, даючы гэтым знак, каб я не нарабіў гоману. Калі вакно было адчынена, ён сеў на падваконьнік, зажыў зь сярэбранай табакеркі й пачаў гаварыць шэптам:***

***— Я даўно ўжо ведаю, дзе ход у схаваную бібліятэку, але сам ня рухаў яе й нікому не паказваў, маўчаў, баючыся, каб не заграбілі ў нас і гэта апошняе багацьце. Адзявайцеся, пойдзем! Я ўзяў з сабой сьвечку, ліхтарню і ўсё патрэбнае...***

***Няма што казаць аб тым, як хутка я быў апрануты й гатовы ў дарогу.***

*— У якіх сэнсах лябірынт ёсьць знакавым для Беларусі?*

— Я перадусім лічу лябырынт адным з сымбаляў разьвіцьця беларускае нацыі. І прыйшоў да гэтага сымбалю я ў далёкім дзяцінстве, якое, на маё шчасьце, правёў блізка ля сьценаў Спаса-Эўфрасіньнеўскай царквы. І мы, полацкія мальцы, бавілі час у шуканьні слыннага Полацкага лябірынту, пра які пагалоска хадзіла яшчэ ў той час, калі мы нават ня чулі пра творы Ластоўскага, ня тое што чыталі іх. Мы былі перакананыя, што ўваход у Полацкі лябірынт хаваецца ў сутарэньнях Крыжаўзьвіжанскай царквы. Нас не палохалі жахлівыя пагалоскі пра гэты лябірынт, што ў ягоных пастках зьнікаюць людзі, калі чалавек ступае на дошкі й ляціць у прорву. Нас не палохала й пастава жалезнага рыцара, які чакаў, калі вы выходзіце зь лябірынту: вось ён стане насупраць вас з жалезным мячом, і вы застаняцеся там навекі. Я мяркую, што мы абавязкова б знайшлі ўвойсьце ў лябірынт, калі б не вартаўнік, які павесіў на дзьверы Крыжаўзьвіжанскай царквы важкі замок. А ў ёй разьвёў трусоў, якіх у яго было ажно дзьвесьце. Я ня ведаю, дзе цяпер гэты вартаўнік, ён даўно памёр. Я ня ведаю, у якім ён коле пекла... А ўваход у Полацкі лябірынт працягваюць шукаць.

*— Полацкія лябірынты, апісаныя Вацлавам Ластоўскім, напэўна ж, не адзіныя ў Беларусі. У кожным старадаўнім месцы альбо мястэчку, дзе захаваліся замкі, храмы, палацы або рэшткі іх, захаваліся й свае легенды пра іхныя лябірынты...*

— Усюды, дзе ёсьць замкі, дзе ёсьць храмы, дзе ёсьць лёхі — ёсьць і легенды, паданьні й показкі пра лябірынты. Але Полацкі лябірынт ёсьць рэальнасьцю, праверанай ня толькі навукоўцамі-археолягамі, але й выпадковымі сьведкамі. Ёсьць сьведчаньні людзей, якія сапраўды пабывалі ў гэтых лябірынтах. У іх пакідалі свае надпісы, аўтографы на сьцяне полацкія кадэты. Не адно пакаленьне полацкіх падшыванцаў лазіла па тых катакомбах. Я думаю, што калі лябірынт ня знойдуць археолягі, дык абавязкова знойдуць дзеці. Калі-небудзь...

*— Твор Ластоўскага пра полацкія лябірынты поўны фантасмагорыяў, вобразаў, сымбаляў, якія вельмі цяжка расчытаць. Мне падаецца, што гэта твор-шыфр. Ці ня ім кадаваў Ластоўскі беларускі шлях і што ён мог мець у задуме?*

— Я моцна падазраю, што Вацлаў Ластоўскі сапраўды быў у тым лябірынце. І апісаў яго з уласных уражаньняў. Заўважце, апавяданьне ў «Лябірынтах» ідзе ад першай асобы. Але й для літаратуразнаўцаў гэты твор — своеасаблівы лябірынт, у якім яны заблукалі й дагэтуль ня могуць вызначыць, што гэта — фантастычная аповесьць, філязофская проза альбо раман жахаў? Што ж належыць да міталягічнага вобразу лябірынту, ягонай мэтафарычнасьці, дык Ластоўскі здолеў памясьціць у сутарэньні свайго лябірынту ўсе багацьці крыўскай цывілізацыі, уключна са слыннай бібліятэкай Сафійскага сабору. У полацкім лябірынце існуюць таямнічыя лябараторыі, у якіх працуюць альхімікі й жрацы, дзе вырабляюць адметную сынтэтычную ежу й нават старку. Ластоўскі памясьціў туды й істоту, падобную на робата, нешта з мэталу. Усе дзівосы пісьменьнік зьмясьціў у сутарэньнях Полацкага лябірынту, мяркую, таму, што быў перакананы: лябірынт — формула крыўскай (беларускай) цывілізацыі. Гэтая формула ейнага існаваньня й самазахаваньня. Заўважце, колькі існуе беларуская нацыя — столькі разоў яна раз-пораз сыходзіла ў сутарэньні часу. Так было з Крывіяй, якая была дый сышла, так было з Полацкім княствам, якое растварылася ў нетрах Вялікага Княства Літоўскага. Потым краіна абярнулася ў Беларусь, а затым у «Северо-Западный край». Мы мянялі свае імёны, мы сыходзілі й зноў вярталіся.

*— Гэта гістарычныя ўцёкі ад сябе, спосаб бытаваньня нацыі або выжываньня?*

— Па-рознаму можна называць: і самапрыніжэньнем, і ўцёкамі, і самазахаваньнем. Заўважце, беларусы часьцяком любяць прыбядняцца. «А беларусы ж нічога, нікога ня маюць», — казаў Янка Купала. Герой Францішка Багушэвіча, Мацей Бурачок, кажа так пра сваё жытло: «Бедна мая хата, падлога прагніла». Але нікога з чужынцаў не падпусьцяць пад вокны, каб яны не заўважылі, што там унутры. На маю думку, беларусам абрыдлі частыя рабункі. Самае каштоўнае яны імкнуцца захаваць у таямнічых, рэальных або мэтафізычных, сховах. Зрэшты, заўважце: для беларускай культуры характэрны фэномэн андэграўнду й ананімнасьці. Шмат імёнаў зьнікла, а культура, літаратура, мастацтва засталіся. Яскравым прыкладам — ананімная літаратура XIX стагодзьдзя. Прыгадаем таксама фэномэн унутранай эміграцыі, практыку маўчаньня, якую скарыстоўвалі Янка Купала й іншыя нашаніўцы з прыходам савецкай улады. Заўважым, што андэграўнд існаваў у савецкі час і ў самім Наваполацку. Я маю на ўвазе літаратурны андэграўнд, які таксама меў лябірынтную назву — «Блакітны ліхтар». Пакрыёмнасьць, прыхаванасьць — рысы беларускага існаваньня.

*— Атрымліваецца, што мы цяпер можам правесьці аналёгію нават з назвай нашага выданьня: Беларусь як Атлянтыда? Вось так наўпрост?*

— А давайце ўявім сабе Атлянтыду, якая раз-пораз адрываецца ад дна і ўсплывае, а потым ізноў тоне. Беларускі лябірынт — гэта ня толькі блуканьне ў цемры, гэта й сьвятло, якое бруіцца ў канцы сутарэньняў, гэта й выйсьце зь лябірынту. Усё, што хавалася да часу, яно ўваскрасае, яно зьяўляецца. Зьяўляюцца імёны аўтараў ананімных твораў, напісаных у





XIX стагодзьдзі. Вяртаюцца творы, згубленыя або забытыя. Вяртаюцца творы, рэпрэсаваныя ў 1930-я гады й забароненыя да часу. Вяртаюцца цэлыя літаратурныя стагодзьдзі. Так сплыло, сышло ў фальклёр пісьменства XVIII стагодзьдзя. Гэты мацярык літаратуры адкрыў доктар Адам Мальдзіс і вярнуў яго. Нарэшце, вяртаецца дзяржаўнасьць. Некалі казалі, што беларусы ня мелі сваёй дзяржаўнасьці. Сёньня мы ведаем, што першай формай дзяржаўнасьці было Полацкае княства, — прыкмета лябірынтнага існаваньня, зьнікненьня й вяртаньня.

*— Але дзе ў лябірынце Беларусі тыя куты, якія вызначаюць лёгіку выйсьця зь яго?*

— Мне думаецца, трэба шукаць лёгіку ў нашых нацыянальных адраджэньнях, якіх дасьледчыкі налічваюць ад трох да дзесяці. Зьмяняецца пакаленьне, і беларусы вяртаюцца да згубленых каштоўнасьцяў. А рытміку, чаргаваньне гэтых адраджэньняў можна вылічваць, можна тлумачыць рознымі прычынамі. Адны тлумачаць іх сонечнай актыўнасьцю, іншыя — этапамі актыўнасьці нацыі, рытмамі ейных усплёскаў і затуханьняў. Я ж прапаную толькі схему сыходжаньня, захаваньня, кансэрвацыі каштоўнасьцяў дый іхнага вяртаньня.

*— Для Вас лябірынт ёсьць сымбалем беларускага быцьця. А калі прызнаць лябірынт за ўнівэрсальную формулу, уласьцівую ўсім нацыям? Якую адметнасьць тады мае беларускі лябірынт? А мо некаторыя нацыі існуюць, бытуюць, разьвіваюцца па-за гістарычным, культурным лябірынтам?*

— Ёсьць нацыі, якія не губляюць ні сваіх гістарычных найменьняў, ні сваёй спадчыны. Прыкладам, індыйскія цывілізацыі, альбо кітайская, пры ўсіх ператрусах, гістарычных зломах культурныя каштоўнасьці ў цэлым захоўвалі. Ёсьць, аднак, нацыі, якія

вядуць падобнае лябірынтнае існаваньне, разьвіцьцё якіх сьціхае на стагодзьдзі, — прыкладам, славацкая культура. Дый культура іншых вялікіх і малых народаў Цэнтральнай Эўропы.

*— Тады можна прызнаць, што лябірынтнае існаваньне зьяўляецца гарантыяй неўміручасьці беларускага культурнага й гістарычнага быцьця?*

— Мяркую й веру, што гэта так. Але часам маёй веры перашкаджае мроя жалезнага рыцара, які стаіць на парозе й аднойчы можа так зачыніць дзьверы, што зь лябірынту Беларусь ніколі ня выйдзе. І тады лябірынт застанецца помнікам культуры, помнікам цывілізацыі, якім ёсьць лябірынт Крыцкі. Інакш кажучы, у сьвеце не бывае нічога бясконцага. Гісторыя можа ня вытрымаць той працяглай гульні, якую задумалі зь ёю беларусы. Ланцуг беларускіх адраджэньняў рана ці позна ўсё ж павінен нечым скончыцца. Мне б хацелася, каб гэта былі народзіны, каб гэта было канчатковае афармленьне беларускай нацыі, ейнай культуры й гістарычна абгрунтаванай схемы разьвіцьця. Лябірынт адыграў сваю ролю ў жыцьці беларускае нацыі. Ён захаваў ёй жыцьцё ў час самых жорсткіх выпрабаваньняў, але трэба выйсьці зь лябірынтнага існаваньня да таго, як гісторыя — гэты жалезны рыцар — замкне перад Беларусьсю дзьверы назаўжды.



## ЯНЫ БУДАВАЛІ ВІЛЬНЮ

*Размова зь Сяргеем Харэўскім*

**Вільня, старадаўняя сталіца колішняй дзяржавы, у параўнаньні зь іншымі эўрапейскімі сталіцамі — горад даволі малады. Вядома, што толькі ад канца XI стагодзьдзя тут вырасла больш-менш буйное места. У сталіцу ж яно пераўтварылася толькі за Гедымінам, у сярэдзіне XIV стагодзьдзя. Калі ж за Вітаўтам Вялікае Княства Літоўскае разраслося ад Балтыкі да Чорнага мора, Вільня стала цэнтрам самай буйной дзяржавы Эўропы ад часу Рымскае імпэрыі. Натуральна, сюды сьцякаліся скарбы матэрыяльныя й духоўныя з усіх неабдымных абшараў краю. Перафразоўваючы паэта Ўладзімера Жылку, «прыбой нямоўкнучы з палёў» грукаўся ў віленскія брамы стагодзьдзямі. А пры канцы мінулага стагодзьдзя Вільня была абвешчаная ЮНЭСКО здабыткам усясьветнае спадчыны. Тут мірна суседзяць помнікі розных эпохаў і сьвятыні розных канфэсіяў.**

*— Гледзячы сёньня на хараство віленскіх вуліцаў і плошчаў, сьвятыняў і палацаў, узьнікае пытаньне — хто ж гэта ўсё будаваў?*

— Сярод тых дойлідаў, што стагодзьдзямі стваралі віленскае хараство, багата беларускіх імёнаў. Самыя вядомыя зь іх — гэта Тамаш Жаброўскі з Навагрудку, Дыянізі Чадай зь Пінску, Габрыель Лянкевіч з Полацку, Аляксандар Аўсюкевіч, Ян Несямкоўскі, Ян Шантыр, Караль Падчашынскі, Казімер Камінскі, Аўгустын Касакоўскі, Браніслаў Тычэцкі.

*— На вялікі жаль, большасьць гэтых імёнаў мала вядомая сучасным беларусам... Вільня вельмі ціка-*

*вая сваёй барочнай архітэктурай. Хто ствараў гэтыя ўнікальныя ансамблі?*

— Запачаткаваў у Вільні гэты стыль Ян Франковіч. На мяжы XVI і XVII стагодзьдзяў менавіта гэты архітэктар збудаваў найвялікшыя бажніцы: касьцёл Сьвятога Яна пры ўнівэрсытэце, касьцёл Сьвятога Казімера побач з ратушай, а таксама царкву Сьвятога Духа ў славутым кляштары пры Вострай Браме.

*— А адкуль ён быў родам? Дзе ён навучыўся дойлідзтву?*

— Нарадзіўся ён у Менску ў 1559 годзе. Як і ягоны бацька, быў рамесьнікам-кушняром. Затым увайшоў у закон езуітаў. Крыху пажыў у кляштары ў Рызе. Доўгі час жыў у Нясьвіжы, дзе быў у езуітаў пекарам. Тут у 1594 годзе Франковіч сустрэўся з выбітным эўрапейскім архітэктарам, італьянцам Янам Марыя Бэрнардоні, які прыехаў на запрашэньне Мікалая Крыштафа Радзівіла. Бэрнардоні за некалькі гадоў здолеў навучыць усяму, што ведаў сам, свайго маладзейшага сябра Франковіча. Менавіта Ян Франковіч ставіў купал над нясьвіскім касьцёлам Божага Цела. Пра гэта сьведчыць выяўлены пры канцы XX стагодзьдзя ва ўкраінскай Акадэміі навук альбом архітэктурна-будаўнічых праектаў, што належыць, як мяркуецца, Яну Франковічу. Вось так беларускі кушнер і пекар, які ніколі ня бачыў Італіі й наагул ніколі не зьяжджаў зь Беларусі, стаў першым у нашых краях архітэктарам эпохі барока.

*— А калі ж ён і чаму апынуўся ў Вільні?*

— Маладому тады закону езуітаў бракавала, як бы сёньня сказалі, кваліфікаваных кадраў, таму, калі паўстала патрэба будаваць віленскі езуіцкі кляштар з касьцёлам Сьвятога Казімера, выбар быў зроблены на карысьць Франковіча. Гэта было ў 1604 годзе. Будоўля расьцягнулася на чатырнаццаць гадоў, але ў выніку паўстала ў Вільні бажніца, у невядомым тады тут стылі — барока. Паводле пляну й першапачатковага вобразу, гэтая сьвятыня амаль дакладна паўтарала рысы касьцёлу Божага Цела, што ў Нясьвіжы. Але касьцёл Сьвятога Казімера шматкроць перавысіў памерамі свой правобраз. Адно вышыня купалу сягае на сорак мэтраў угару. Ян Франковіч усьлед за сваім настаўнікам Бэрнардоні імкнуўся стварыць бажніцу як мэтафару Сусьвету: просты крыж, а над ім — купал.

*— А навошта спатрэбілася Франковічу перабудоўваць касьцёл Сьвятога Яна?*

— Ёсьць пра гэта нават паданьне. І яно досыць вусьцішнае.

***Памёр у Вільні адзін багацей. У касьцёле Сьвятога Яна быў пастаўлены адмысловы катафалк... А ўначы злодзеі вырашылі скрасьці дарагія пярсьцёнкі й ланцугі памерлага. Дзеля таго затрымалі тыя злыдні хлопца, які меўся той ночы пільнаваць касьцёл. Пагражаючы яму сьмерцю, змусілі яго паздымаць зь нябожчыка пярсьцёнкі, каб затым перадаць ім іх праз акенца. Хлапец, які шматкроць ужо начаваў у гэтым касьцёле, на гэты раз адчуваў невыказную трывогу. Дрыжучы ад жаху, узяўся за палец нябожчыка, абы як найхутчэй паздымаць пярсьцёнкі. Але... нябожчык раптам заварушыўся ў труне, сьціснуў рукі, раскрыў шырока вочы й загадаў гучным голасам:***
***— Браты, нябожчыкі, ратуйце мяне!***
***Пачалі рухацца камяні пахавальныя, ламацца саркафагі, і зь ляскатам распахваючы дзьверы, адчыняцца ўваходы ў скляпеньні. Зь пякельнага агню з трунаў паўставалі памерлыя й напаўнялі касьцёл... Увесь той тлум нябожчыкаў складаўся з магнатаў, сэнатараў, князёў, рыцараў і заможных***

***мяшчанаў, не бракавала таксама й кабет, і нават немаўлятак...***
***Злодзеі, чакаючы пад акном, як пачулі той гвалт пякельны, паўцякалі. Хлапец, напаўпрытомны ад жуды, вырваўся з рук нябожчыка. Але памерлыя даганялі яго. Тады хлапчына зь велізарным пачуцьцём перажагнаўся і ўзмаліўся:***
***— Езус, Марыя!***
***І тады з тае вышыні, на якую ўзьлезьлі, абрынуліся нябожчыкі ўніз, разам са сваімі трунамі й надмагільнымі камянямі. Калі раніцай касьцёл адамкнулі, людзі пабачылі наўкол безьліч костак ды мерцьвякоў сярод перакуленых нагробкаў, трунаў ды плітаў. Усё было раскурочана, увaходы ў пахавальні параскрываньня, дамавіны амаль усе пустыя, за выняткам некаторых, у якіх, як сьцьвярджае паданьне, спачывалі сном вечным айцы езуіты. Бо толькі, бадай, яны й былі без граху. Тады прыступілі да разбору тых парэштаў і іхных трунаў, дзе яны калісь ляжалі. Трывала гэта ажно два тыдні, гэткае было іхнае мноства. Усіх тых нябожчыкаў перавезьлі за Рудніцкую браму й там, за касьцёлам Сьвятога Сьцяпана, што й да сёньня стаіць за віленскім аўтавакзалам, пахавалі.***

Як бы там ні было, але касьцёл Сьвятога Яна быў моцна пашкоджаны да прыезду Яна Франковіча. Відавочна, гэта сталася вынікам бясконцых пахаваньняў у тоўшчы гатычных муроў. Вось яны й ня вытрымалі. Пра той выгляд, што набыў касьцёл Сьвятога Яна, мы можам меркаваць па малюнках і праекце Яна Франковіча, што цудам ацалелі й перахоўваюцца цяпер у адным з кіеўскіх архіваў. Калі параўнаць тыя старыя праекты пачатку XVII стагодзьдзя й цяперашні плян касьцёлу, то можна заўважыць, што плян у агульных сваіх рысах не зьмяніўся ад таго часу. Да нас дайшлі й скляпеньні, і бакавыя фасады, і вокны





гэткімі, якімі іх узьвёў дойлід Франковіч. Памёр Франковіч у 1627 годзе.

*— І ўжо амаль праз тры дзясяткі ціхамірных гадоў старадаўнюю сталіцу зноў захлынула навала. 8 жніўня 1655 году ад рана, калі люд віленскі кленчыў і маліўся ў бажніцах, у Вільню ўварваліся дзясяткі тысяч казакоў, што былі перадавымі войскамі арды маскоўскага цара Аляксея. У адзін той дзень у Вільні загінула 20 тысяч чалавек, пасьля чаго казакі падпалілі горад з усіх бакоў. А як увайшоў сюды й сам цар Аляксей, то ў Вільні трэба было Вільню шукаць. І адбудоўваць Вільню давялося ўжо наступнаму пакаленьню беларускіх дойлідаў... Дзе ж вучылася архітэктуры гэтая плеяда беларускіх архітэктараў?*

— Па ўсёй Эўропе. Тамаш Жаброўскі — у Вене, Аўгсбургу, Празе. Габрыель Лянкевіч тры гады вучыўся ў Рыме. Марцін Пачобут-Адляніцкі спачатку атрымліваў адукацыю ў Празе, затым тры гады — у Францыі, а пазьней — у Італіі. Андрэй Езярніцкі, прыдворны дойлід Радзівілаў, навучаўся ў Францыі, Італіі, Аўстрыі, Караль Падчашынскі ў Пецярбургу, Італіі і ў Парыжы. Так што ўзровень адукацыі быў самы высокі, эўрапейскі.

*— І атрыманую школу прымянілі ў Вільні?*

— У Эўропе тым часам панаваў стыль ракако. У Беларусі за клясыка ракако ўважаюць Тамаша Жаброўскага. Нарадзіўся ён пад Наваградкам, у вёсцы Мітраполь у 1714 годзе. Ён, як і Франковіч, таксама быў езуітам і доўгі час выкладаў у Віленскай акадэміі матэматыку, архітэктуру й астраномію. Пры ёй ён і пабудаваў славутую абсэрваторыю ў стылі ракако для сваіх дасьледаваньняў. Яна цудоўна захавалася да нашых дзён. Таксама ў Вільні ён пабудаваў у 1748—1750 гадах касьцёл Сьвятога Ігната зь езуіцкім кля-

штарам, дзе засталіся багатыя аздобы паводле ягоных праектаў, а таксама кіраваў чарговай перабудоваю касьцёлу Сьвятога Яна. Зрэшты, гэты касьцёл перабудоўвалі яшчэ больш за сто пяцьдзясят гадоў пасьля Жаброўскага. Так, паводле праекту выбітнага беларускага дойліда Габрыеля Лянкевіча, прафэсара архітэктуры Полацкага калегіюму езуітаў, была завершаная рэканструкцыя капліцы Агінскіх і быў афармлены фасад прэсьбітэрыя, што выходзіць на вуліцу. Упрыгожаная Лянкевічам бажніца Сьвятога Яна са званіцай набыла завершаны выгляд. А яшчэ пазьней яе рэканструяваў Караль Падчашынскі, які быў родам з Жырмунаў, што на Воранаўшчыне.

*— Атрымліваецца, што менавіта беларускія архітэктары два стагодзьдзі будавалі слынны Віленскі ўнівэрсытэт і цудоўную бажніцу Сьвятога Яна. А што ж Жаброўскі? Чым ён быў яшчэ вядомы?*

— Заняткі Жаброўскага астраноміяй, фізыкай, матэматыкай дзівілі многіх ягоных сучасьнікаў, пра яго было багата чутак. Некаторыя атаясамлівалі яго з чарнакніжнікам Твардоўскім. У віленскай інтэрпрэтацыі ён — езуіт, настаўнік, астраном, матэматык, будаўнік, да таго ж і чорнавалосы, і даўганосы. Такой калярытнай асобаю мог быць адно Тамаш Жаброўскі... Нават ягоны партрэт цалкам адпавядае паданьням. Вось толькі ў віленскай вэрсіі паданьняў пра знакамітага чарнакніжніка з псэўданімам Твардоўскі больш гумару. Пасьля Твардоўскага засталося багата кніг, што пасьля параскіданыя былі па розных бібліятэках. Але адна зь іх, пад назваю «Liber magnus», прыкутая жалезным ланцугом да сьцяны, заставалася ў патаемным пакоі Віленскай акадэміі езуітаў.

***Адзін шкаляр-боўдзіла дачуўся, што нібы той, хто тую кнігу чытаў, атрымліваў у дарунак ад д'ябла ўсё, чага б жадаў. А таму шкаляру ўсё маніліся***





***незьлічоныя скарбы. Закраўся ён уночы да бібліятэкі, адшукаў тую патаемную камору, дзе была запаветная кніга. Разгарнуў яе й пачаў чытаць розныя матэматычныя формулы слыннага чарнакніжніка... Неўзабаве перад ім паўстала жахлівая постаць і пакорліва спыталася, чаго б той шкаляр пажадаў. Юнак зьлякаўся й зь перапуду, замест таго, каб папрасіць безьліч грошай, як меўся, зьдзервянелым ротам прамовіў: «Хачу пятрушкі!». Паслухмяны шатан пачаў насіць яму тую пятрушку ў бібліятэку. Праз вокны й дзьверы, ад усіх бакоў пасыпалася вазамі зяленіва. Але, на шчасьце, за акном засьпяваў певень. Д'ябал спыніў сваю работу. А недарэку шкаляра гэтак і празвалі Пятрушкам.***

Сьмех сьмехам, але зьвяртаюць на сябе ўвагу дзьве сур'ёзныя рэчы. Па-першае, сапраўды тыя найскладанейшыя матэматычныя разьлікі, якімі займаўся архітэктар і астраном Жаброўскі, былі няўцямнымі для бальшыні людзей. А па-другое, нічога ў тым страшнага не было, пра што й сьведчыць гэтае камічнае паданьне. Акрамя Вільні, Тамаш Жаброўскі, хоць і пражыў усяго 44 гады, яшчэ шмат чаго збудаваў у розных месцах Беларусі. Прыкладам, сядзібу Агінскіх у Ганульцы, што на Смаргоншчыне, і рэзыдэнцыю езуітаў з касьцёлам у Жодзішках. Ад 1746 году будаваў езуіцкі кляштар з касьцёлам, што пазьней прыстасавалі пад муры вядомай фартэцыі ў Бабруйску. Мяркую, што знойдзецца й яшчэ нешта. Беларускія дасьледчыкі толькі прыступаюць да гэтых шуканьняў.

*— На зьмену барока й ракако прыходзіць новы стыль — клясыцызм. У гэтым стылі ці працавалі беларускія дойліды ў Вільні?*

— Натуральна! Скажу нават больш: на мяжы XVIII і XIX стагодзьдзяў у Вільні склалася ўласная магутная

архітэктурная школа раньняга клясыцызму. Зь Віленскага ўнівэрсытэту выйшла выбітная плеяда дойлідаў-беларусаў: Мікалай Вялічка, Ян Корсак, Антон Рымкевіч, Мікалай Амбражэвіч, Ян Сабалеўскі. Але, бадай, самы вялікі ўнёсак у архітэктуру Вільні ў другой палове XVIII — першай палове XIX стагодзьдзя ў Вільні зрабіла беларуская дынастыя дойлідаў Падчашынскіх. Архітэктар Ян Падчашынскі, які выкладаў архітэктуру ў Віленскім унівэрсытэце й браў удзел у рэканструкцыі Віленскай катэдры й ратушы, збудаваў у радзінных Жырмунах, на Воранаўшчыне, касьцёл Адшуканьня Сьвятога Крыжа, а таксама касьцёлы ў Маляцічах паблізу Крычава й ва Ўзьдзе. А ўжо ягоны сын, Караль Падчашынскі, стаў самым выбітным дойлідам Вільні першай чвэрці XIX стагодзьдзя. Ён скончыў Віленскі ўнівэрсытэт і выкладаў у ім. У 1814—1816 гадах, ужо як выкладчык віленскай катэдры архітэктуры, малады Падчашынскі прайшоў акадэмічную стажыроўку ў Пецярбургу. Затым навучаўся ў Італіі й Францыі. У Вільні Караль Падчашынскі збудаваў велізарны палац на Тускуленах, што на беразе Вяльлі, каля Антокалю. Спачатку гэта была рэзыдэнцыя віленскага губэрнатара Рымскага-Корсакава, пасьля палац набыў маршалак тутэйшага дваранства Пісанка. Таксама Падчашынскі пабудаваў палацы генэрал-губэрнатара, дзе цяпер рэзыдэнцыя прэзыдэнта Літвы, і біскупа Клангевіча. Ён капітальна рэканструяваў увесь ансамбль Віленскага ўнівэрсытэту. Але найперш праславіўся завяршэньнем рэканструкцыяў віленскага Архікатэдральнага сабору, у прыватнасьці, ён завяршыў аздобу вежы-званіцы й... касьцёлу Сьвятога Яна. Гэта й былі апошнія будаўнічыя працы ў знакамітай сьвятыні. Да гатычна-барочна-ракайльных аздобаў дадаліся й клясыцыстычныя. Прынамсі, кожны, хто бываў у Вільні, мусіў бачыць элеганцкі чатырохкалённы портык на рагу вуліцаў Сьвятаянскай і Замкавай.





*— Дарэчы, яшчэ адно паданьне даносіць да нас рэха гістарычнай праўды:*

***Аднаго дня, летам 1845 году віленская грамадзкасьць была ўзрушаная й зацікаўленая загадкавым здарэньнем. На ганку пры дзьвярах касьцёлу Сьвятога Яна сядзеў закрысьціянін тае сьвятыні. Меў ён выгляд разгублены й няшчасны, бессэнсоўна бавячыся з залатымі манэтамі, што невялічкай жменяю валяліся на зямлі. На ўсе роспыты чалавек нічога ня здолеў паведаміць, і яго, бедака, зьмясьцілі ў шпіталь. Аднак пазьней, паміраючы, закрысьціянін здолеў паведаміць перад прычасьцем наступнае: зьявіўся аднойчы да яго дзіўна ўбраны чалавек, падобны да чужаземца, і папрасіў правесьці ў касьцёльныя лёхі. Паквапіўся на грошы тады той закрысьціянін і згадзіўся. Як зайшлі ў касьцёл бакавым ходам, то загадкавы госьць завязаў яму адмысловай хустаю вочы. Доўга-доўга блукалі яны па касьцёле. Затым пакрысе пачалі сыходзіць у лёхі. Адчуваліся холад і вільгаць. Раптам чужаніца скамандаваў: «Basta» й разьвязаў вочы закрысьціяніну. Стаялі яны пасярод даўжэзнага калідору перад жалезнымі дзьвярыма. Пры тускным сьвятле лятарні незнаёмца яны ўдвох зь цяжкасьцю адамкнулі дзьверы. А за імі...***

***Пасярод склепу стаяў вялізарны жалезны куфар. Яго чужаніца адамкнуў уласным ключом. Поўны той быў куфар золатам — манэтамі, кляйнотамі, мэдалямі й пярсьцёнкамі. Ад выгляду такога скарбу агарнула млосьць. Незнаёмец тым часам напоўніў некалькі цяжкіх валізаў і зноў завязаў вочы закрысьціяніну. Калі ж той ачомаўся, то пабачыў сябе на касьцельным ганку са жменяю залатых у руках. А незнаёмага ніхто болей і ня ўбачыў. Хоць і высьветлілі, што такі спыняўся ў гатэлі «Італія», што наймаў фурмана, які завёз***

***яго да Троцкай дарогі, але ані паліцыя, ані проста цікаўныя больш нічога й не дамагліся. Марнымі сталіся й доўгія пошукі таго калідору з запаветным пакоем за жалезнымі дзьвярыма ў лёхах касьцёлу Сьвятога Яна.***

— І дата гэтага паданьня, і адрас здарэньня — касьцёл Сьвятога Яна, і дасьведчанасьць у ягонай пляніроўцы героя аповеду, а таксама назва гатэлю й іншыя дэталі даюць падставы меркаваць, што тут вядзецца гаворка менавіта пра Караля Падчашынскага. Ён — апошні дойлід, які праводзіў рэканструкцыю ў той сьвятыні, ён насамрэч зьнік зь Вільні ў 1831 годзе, напярэдадні паўстаньня, аб'явіўшыся на Валыні праз пару гадоў. Пасьля Падчашынскі вандраваў па Эўропе й толькі ў 1845-м вярнуўся на бацькаўшчыну. А ў Вільню прыехаў перад самай сьмерцю, што знайшла яго тут у 1860 годзе. Падчашынскі ня толькі стварыў унікальныя архітэктурныя праекты. Ён яшчэ ўклаў і выдаў трохтомную працу «Пачаткі архітэктуры».

*— Дойліды якіх яшчэ нацыянальнасьцяў працавалі ў Вільні?*

— Багата было архітэктараў з Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы. Працавалі ў Вільні й ваколіцах французы Жэну, Поль, Пусье, Рыго. Але, вядома, найбольш было італьянцаў — Тэнкала, Пуцціні, Фрэдыяні, Спампані, Пэрэці, Фантана, Росі, Сака... Нямала было й немцаў — Дыдэрштайн, Гэрдэгайн, Гофэр, Кнакфус, Шыльдгаўз, Шульц, ну й, вядома, Ян Крыстафор Гляўбіц, родам з Саксоніі які працаваў тут трыццаць гадоў, будуючы самыя розныя бажніцы ад Вільні да Мсьціслава й Магілёва.

*— А продкі сучасных літоўцаў? Ці былі ў Вільні дойліды іхнага паходжаньня?*

— Прынамсі адзін быў. Гэта найбуйнейшы архітэктар канца XVIII стагодзьдзя ў Літве й Беларусі Лаўрэн





Гуцэвіч, па-літоўску Гуцявічус. Ён зрабіў карэнную рэканструкцыю Віленскай архікатэдры Сьвятога Станіслава, пабудаваў комплекс біскупскіх палацаў у Вярках, ратушу й дзясяткі дамоў у стылі раньняга клясыцызму, спарадкаваў пляніроўку Вільні. Між іншым, паводле ягонага праекту была пабудаваная рэзыдэнцыя біскупа Сестранцэвіча ў Маляцічах на Мсьціслаўшчыне з копіяй рымскага сабору Сьвятога Пятра, паменшанага ў восем разоў, палацавы комплекс Сапегаў у Дзярэчыне й палац Лаўчынскіх у Відзах, што на Браслаўшчыне. Літоўцы вельмі шануюць гэтага дойліда. Ягоным імем названыя вуліцы, яму пастаўлены помнік у Вільні, дагледжаная ягоная магіла, выдаюцца манаграфіі й буклеты, прысьвечаныя творчасьці знакамітага дойліда. Кожны адукаваны літовец ведае гэтае імя.

## СТАЛІЦА НА ЎЗБОЧЫНЕ

*Размова з Валянцінам Акудовічам*

**Чаму той ці іншы горад становіцца сталіцай? Напэўна, сталіца мусіць ахапіць усе рэгіянальныя тэрыторыі, арганізаваць прастору існаваньня супольнасьці як дадатак да самой сябе. Велічыня цэнтру вызначае й памеры правінцыі. Яшчэ сталіца павінна мець гісторыю, у якой канцэнтраваўся б лёс нацыі, краіны. А з гісторыі паўставала б і адметная, ягоная ўласная міталёгія. Беларусь жа стагодзьдзямі вагалася ў выбары свайго цэнтральнага гораду, пакуль жэрабя гісторыі не абрала Менск.**

*— Чаму Менск? Ці адпавядае ён традыцыйным для Эўропы характарыстыкам і функцыям сталіцы? Менск — сталіца ці найноўшы міт пра яе?*

— Менск — горад без прывабнай гістарычнай міталёгіі — стаў, як мне здаецца, насуперак сваёй волі ў XX стагодзьдзі сталіцай. Ці была б магчымая Вялікая Рымская імпэрыя з заканадаўчым мястэчкам у цэнтры? Безумоўна, не. І таму, як толькі заняпаў Вялікі Рым, згарнулася амаль уся імпэрыя. Пры нашым тыпе цывілізацыі безь вялікай сталіцы можна было заваяваць палову сьвету, як гэта зрабіў Аляксандар Македонскі. Але адразу пасьля сыходу войскаў ад усіх заваёваў засталося адно — гістарычны міт. Геапалітычная трагедыя беларусаў якраз у тым, што яны ніколі ня мелі вялікай сталіцы. Не ў пару занядужаў Полацак, не акрыяў да сапраўднай моцы Наваградак, зашылася ў пэрыфэрыйнае памежжа Вільня.

*— Чым выклікана гэткае вось блуканьне сталіцы беларускай зямлі?*





— Наўрад ці тут магчымы адзіны й пераканаўчы адказ. У мяне іх некалькі. Падам толькі найбольш верагодны. На прасторы, якую мы сёньня пазначаем словам «Беларусь», існавала некалькі тыпаў цывілізацыяў. Найбольш выразныя зь іх — гэта крыўская й ліцьвінская. І кожная з гэтых цывілізацыяў шукала цэнтар самой сябе. Але штораз гэты цэнтар апынаўся на ўскрайку ўсёй прасторы як цэлага. І таму, уласна, беларусы ніколі сапраўднага цэнтру й ня мелі. Адсюль гэтыя радыкальныя скокі ад сталіцы ў Полацку й Смаленску на ўсходзе да Наваградку й Вільні на захадзе.

*— Сталіца выконвае пэўныя функцыі. Перадусім, яна гарманізуе дзяржаўнае, грамадзкае ўпарадкаваньне. Сталай сталіцы не было. Дык хто ж тады трымаў функцыю цэнтру дзяржавы?*

— Пры адсутнасьці сапраўднага цэнтру функцыю калектыўнае сталіцы, як змаглі, супольна ўзялі на сябе шматлікія мястэчкі й невялікія гарады. Гісторыі Нясьвіжу ці Міра, Амсьціслава ці Сьвіслачы значна багацейшыя за, прыкладам, гісторыю Гомелю. У мястэчках друкаваліся кнігі, ствараліся тэатры, распрацоўваліся эканамічныя, палітычныя й культурныя стратэгіі ўсяго гаспадарства. Нашы мястэчкі — найвялікшая наша каштоўнасьць. А гарады ўхіляліся ад выкананьня функцыяў сталіцы, нават дэманстравалі нежаданьне быць ёю. Менск дык увогуле ў гэтых працэсах знаходзіўся на ўзбочыне. Ён не вытыркаўся з узроўню звычайнасьці.

*— І ўсё ж у XX стагодзьдзі менавіта Менск зрабіўся сталіцай. Чаму? Няўжо толькі праз палітычную віхуру, што ў ім пранеслася?*

— Менск — сапраўды сталіца Беларусі. Што я хачу гэтым сказаць? А тое, што Менск ня мог быць сталіцай, пакуль з парэшткаў крываў, ліцьвінаў, русінаў,

яцьвягаў ды іншых не сфармаваўся новы этнас, які мы (магчыма, ня вельмі ўдала) называем беларускім. І вось прастора існаваньня гэтага новага этнасу й вылучыла Менск як гарманізавальны цэнтар.

*— Менск мае тысячагадовую гісторыю. Няўжо ніколі не ўзьнікала на такім доўгім шляху ідэі гарманізавальнага гораду, гораду-цэнтру, гораду, урэшце, з сакральным сэнсам?*

— Дзіўна й нават містычна, але ўжо на самым пачатку нашай летапіснай гісторыі было некалькі спробаў вылучыць Менск як цэнтар нашай прарадзімы. Гарадзень Ізяслаўль, сёньня Заслаўе, быў адмыслова збудаваны для сына Рагнеды. Ізяслаў пакінуў месту сваё імя й вярнуўся на айчыну-маці, каб у Полацку далей трымаць дынастыю Рагвалодавічаў. Аднак ужо ягоны ўнук, шалёны Ўсяслаў, будзе шукаць страчанае дзедам. Каардынаты ж Нямігі вызначыла кроў. Вялікая кроў заўсёды сьведчыла пра невыпадковасьць месца, дзе яна пралілася. Але каб на тым месцы, дзе яна пралілася, узьнялося жыцьцё, патрэбны час.

*— Давайце пагаворым пра залаты век беларускай гісторыі. Зьбіраньне зямель у адну дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае вакол Вільні й Наваградку адбылося практычна без крыві. Якую ролю ў росквіце, у заняпадзе Княства адыгрывалі цэнтры?*

— Выкажу нахабную думку, за якую навукоўцы, верагодна, аблаюць мяне апошнімі словамі. Але хай сабе. Дык вось. Заняпад ВКЛ абумоўлены шэрагам самых розных прычынаў. Аднак, ці не найперш вінаватая ў гэтым заняпадзе сама Вільня — дакладней, тое, дзе яна знаходзілася. У пару свайго росквіту ВКЛ — адна з найбуйнейшых дзяржаваў у Эўропе, тэрыторыя якой сягала ад Балтыйскага да Чорнага мора. А ейная сталіца Вільня знаходзілася ў закутку гэтай





вялікай імпэрыі. І таму не магла доўга трымаць адсунутую ад самой сябе прастору дзяржавы як цэлага. Княства было само па сабе, Вільня — сама па сабе. Мы можам, напэўна, сьцьвярджаць, што менавіта неакрэсьленасьць цэнтру й дазволіла Кароне накласьці лапу на Княства. А пазьней, калі мы мелі ўжо ня нашу, а польскую сталіцу, гэта дазволіла аддацца нам пад акупацыю Расейскай імпэрыі. Ня ведаю, ці адчувалі тагачасныя кіраўнікі дзяржавы гэтую небясьпеку, але вось вам прыклад такога адчуваньня ў сучасную пару. Каб утрымаць Казахстан як цэлае, Назарбаеў перанес сталіцу з Алматы, што знаходзіцца на ўскрайку краіны, у Астану — бліжэй да ейнай сярэдзіны.

*— Вяртаючыся да Менску — няўжо геаграфічным фактарам можна вытлумачыць тое, што ўсё-такі Менск стаўся сталіцай Беларусі?*

— Няма Менску, акрамя Менску. У 1918 годзе Менск як цэнтар яшчэ мог выглядаць выпадковым. Хаця б таму, што поруч зь ім у гэтае ролі спрабавалі зьдзейсьніцца й Смаленск, і тая ж Вільня. Але сёньня можна быць пэўным, што нідзе, акрамя як тут — на берагах зьніклай Нямігі, не маглі быць абвешчаныя ні БНР, ні цяперашняя Рэспубліка Беларусь. Нарэшце, этнаграфічная прастора намацала й зацьвердзіла сярэдзіну самой сябе, з чаго адразу гарманізаваліся ўсе дачыненьні цэнтру й пэрыфэрыі. Сёньня прасторава-адміністрацыйна Беларусь — адна з самых цэласных краінаў Эўропы. А гэта сур'ёзная падстава ейнага незалежнага існаваньня, у які б складаны час мы ні жылі.

*— А як быць з сакральнай гісторыяй гэтага гораду? Менск, з майго гледзішча, пазбаўлены сакральнага сэнсу, уласнай міталёгіі, якую маюць, прыкладам, Прага, Парыж ці Лёндан. Вы самі, між*

*іншым, неяк напісалі, што «Менск ёсьць горадам, якога няма». Мо безь міталягічнае даўніны ён як сталіца й ня мае пэрспэктывы?*

— Сапраўды, Менск — гэта горад, якога пакуль што няма. Бо горад — гэта ня проста шмат дамоў і шмат людзей. Горад — гэта шмат мітаў, ідэяў, падзеяў, якія ўсе разам і фармуюць ягоны вялікі вобраз. Менску ў гэтым сэнсе пакуль што няма. Але ён ужо пачынаецца. Па-першае, у выніку вялікага перасяленьня вёскі ў 1950—1970-я Менск нарэшце зрабіўся этнічна беларускім горадам. Па-другое, у 1980—1990-я гады пачынае фармавацца ягоная найноўшая міталёгія, уласьцівая ўжо менавіта сталіцы. Толькі ў сталіцы маглі адбыцца Дзяды 1988 году й Чарнобыльскія шляхі наступных гадоў, Маршы свабоды й культавыя канцэрты зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ды заціты, шматгадовы супраціў, гэтак жа, як і знакавая трагедыя на станцыі мэтро «Няміга». Менавіта адсюль патроху пачнуць вымыкаць здані мітаў, прывіды ідэалягемаў. Цені ірацыянальнага будуць гуснуць, набрыньваць, усё цяжэй класьціся на покрыва каардынаты. І пустэльня, выпаленая ляда пакрысе ажыве, напоўніцца нечым, што некалі стане тым іншым, якое запатрабуе любові, змусіць на бясконцы дыялёг. І такім чынам спакваля з гораду, якога няма, Менск зробіцца горадам, які ёсьць.



## МАГІСТРАЛЬНЫЯ ІДЭІ ГАЛОЎНАЙ МАГІСТРАЛІ

*Размова з Захарам Шыбекам*

**У кожным вялікім ці малым горадзе ёсьць архітэктурная дамінанта, якую называюць сэрцам гораду. У Эўропе звычайна гэта — плошча старога гораду, ад якой адыходзяць вуліцы, утвараючы разам цэнтар, кірмашова-гандлёвы й культурны. У Менску, а беларусы свой горад таксама называюць эўрапейскім, — інакш. Тут дамінантай зьяўляецца доўгая й шырокая магістраль, да якой дапасаваныя плошчы. А таму цяжка выбраць цэнтар. Праспэкт па-свойму прыгожы. Падабаецца ён і шмат каму зь менчукоў, а турыстаў зьдзіўляе сваёй забудовай.**

*— А якая гістарычная мадэль галоўнай вуліцы беларускае сталіцы?*

— Яна — гістарычны помнік нашай залежнасьці ад Расеі, залежнасьці ваеннай у царскі пэрыяд. Галоўная вуліца была пракладзеная дзьвесьце гадоў таму на ўскрайку гораду адмыслова дзеля маршу расейскіх войскаў з усходу на захад. Таксама залежнасьці духоўна-ідэалягічнай за савецкім часам, калі праспэкт стаў своеасаблівым камуністычным храмам. Будынкі й помнікі завешваліся абразамі, лёзунгамі й плякатамі як малітвамі, а маршы й дэманстрацыі на праспэкце выконвалі функцыі абрадаў камуністычнай ідэалёгіі. І нарэшце залежнасьці пратсоравай: на ўсходзе — Маскоўскія могілкі, на захадзе яго перарazae чыгунка, рэйкі якой таксама прывядуць у Маскву.

*— Назвы, якія даюць вуліцам, — не выпадковыя. Зь цягам часу ў іх прачытваецца гісторыя. Як у*

*назвах галоўнай вуліцы Менску адлюстроўвалася ягоная складаная гісторыя?*

— За назву галоўнай вуліцы на працягу ўсёй ейнай больш як двухсотгадовай гісторыі ішла няспынная барацьба паміж рознымі акупантамі, а таксама палітычнымі сіламі. Кожны зь іх хацеў у назьве ўшанаваць сваіх герояў ці замацаваць свае ідэалы. Вуліцу праклалі на ўскрайку гораду ў прадмесьці Новы горад, а расейскі чыноўнік-губэрнатар назваў яе Захар'еўскай у свой гонар. У час францускай акупацыі 1812 году назву гэтым мясьцінам вярнулі — Новы горад. Пасьля вайны — зноў Захар'еўская. За нямецкай акупацыяй 1918 году — Гаўптштрасэ. У час польскае акупацыі з 1919 да 1920 году — імя Міцкевіча. З усталяваньнем савецкай улады — Савецкая. У час другой нямецкай акупацыі з 1941 да 1944 году — зноў Гаўптштрасэ. Пасьля вайны — зноў Савецкая. А пазьней, у 1952 годзе, яна стала праспэктам Сталіна. Яшчэ пазьней, з 1961 году — Ленінскім праспэктам. І ўрэшце з 1991 году, калі Беларусь аднавіла сваю незалежнасьць, праспэкт сталі называць імем Францішка Скарыны. У 2005 годзе воляй А. Лукашэнкі перайменаваны ў праспэкт Незалежнасьці.

*— Зь якой мэтай задумвалася й будавалася гэтая вуліца Менску?*

— Больш за дзьвесьце гадоў таму менскі губэрнатар Захары Карнееў разам са сваімі вайсковымі інжынэрамі выйшаў на ўскраек гораду, што называўся Новы горад, і трасіраваў там гэтую вуліцу з адной мэтай — каб па ёй маглі безь перашкоды маршаваць расейскія войскі ды каб гэты марш не перашкаджаў менчукам.

*— Якім чынам яна апынулася сярод гарадзкой забудовы? І чаму яна зьняла дамінацыю старой плошчы Высокага рынку, якая тады была цэнтрам гораду?*



беларуская Атлянтыда

— Шырокая й прасторная вуліца прываблівала гандляроў. Тут адчыняліся крамы, майстэрні. Але ўсё роўна дамінацыя старога гораду, Высокага рынку, яшчэ захоўвалася да 1870-х гадоў. І толькі калі ў Менску перакрыжаваліся дзьве чыгункі й гэтая вуліца пачала зьвязваць два вакзалы, дамінацыя старога гораду зьнікла. Новая прасторная вуліца адсунула ўбок традыцыйны гістарычны цэнтар і вызначыла для гораду й для нашага краю новы кірунак. Уся наша культура апынулася нібы на ўзбочыне гэтай галоўнай вуліцы.

*— У савецкі час, відавочна, гэтая вуліца становіцца плянцдармам дзеля ўвасабленьня праз архітэктуру іншай ідэі — ідэі непераможнасьці й магутнасьці камуністычнага ладу. Як гарадзкая магістраль зрабілася сымбалем магістральнай ідэі партыі?*

— Новы кірунак у забудове галоўнай вуліцы вызначыўся ў 1930-х гадах, калі да ўлады прыйшлі сталіністы. На тагачаснай Савецкай вуліцы былі пабудаваныя камяніцы-сымбалі, па якіх Менск пазнаецца й сёньня. Гэта Дом ураду, Акадэмія навук БССР, Дом афіцэраў, Інстытут фізкультуры. Фармаваўся фасад савецкай сталіцы. Вуліца ўпрыгожвалася бальшавіцкімі плякатамі й лёзунгамі. Напярэдадні вайны рух па Савецкай вуліцы ажывіўся, вуліца стала адрэзкам найлепшай у СССР шашы Менск—Масква. Але канчаткова саветызаваць гэтую вуліцу яшчэ не ўдавалася.

*— Але, напэўна ж, пасьля Другой усясьветнай вайны беларусы мелі шанец інакш адбудаваць і праспэкт, і горад у цэлым?*

— Быў варыянт аднавіць вуліцу, але пайшлі шляхам будаўніцтва фактычна новай — шырынёй 48 мэтраў, але ў тым жа манумэнтальным стылі. Будаўніцтва

вялося вельмі інтэнсіўна, пасьпешліва. Савецкія ўлады сьпяшаліся аднавіць Менск і ягоную галоўную вуліцу да 70-годзьдзя Сталіна, якое адзначалі ў 1949 годзе. Не было нават часу прыбраць косьці з руінаў, пад якімі загінулі менчукі ў часе бамбаваньняў. Напэўна, сымбалічна, што гэты праспэкт пачынаўся ад адных брацкіх могілак і цягнуўся да другіх. Першыя брацкія могілкі знаходзіліся паміж цяперашнім БДУ й Пэдагагічным унівэрсытэтам, другія — на цяперашнім скверы Талбухіна. Звычайна да галоўных плошчаў ці вуліцаў дапасоўваюць пры забудовах гораду цэрквы, касьцёлы — культавыя будынкі, і гэтак надаюць плошчам, вуліцам сакральны сэнс. У Менску дадавалі да праспэкту плошчы-гіганты ці дзяржаўныя ўстановы. Безумоўна, гэта былі сьвядомыя крокі камуністычных кіраўнікоў, разьлічаныя на масавую сацыяльную псыхалёгію, на стварэньне вобразу велічы й магутнасьці савецкай дзяржавы. Савецкая ўлада ўвасаблялася ў новым праспэкце. Гэтых плошчаў не запаўнялі гандляры, тут стаялі сакральныя для камуністычнай улады будынкі. На плошчы Незалежнасьці — Дом ураду, на Цэнтральнай плошчы — Палац прафсаюзаў, помнік Сталіну стаяў з 1952 году, на плошчы Перамогі — помнік Перамогі.

*— Якую ролю праспэкт адыграў у найноўшай гісторыі Беларусі?*

— З 1991 году зьніклі камуністычныя лёзунгі, праспэкт застракацеў рэклямай, прыватнымі шапікамі. З усталяваньнем прэзыдэнцкага кіраваньня на праспэкце стала больш міліцыі і ўзброеных людзей. Галоўная вуліца сталіцы зрабілася арэнай сутыкненьня прыхільнікаў незалежнасьці, дэмакратыі з прыхільнікамі рэстаўрацыі савецкіх парадкаў. Але пакуль Менск — адзіная эўрапейская сталіца, якая так і ня вызвалілася ад комплексу правінцыйнасьці. А менчукі — ад асьцярогі, што галоўная вуліца можа зноў





прыняць іншую назву, і іхнае жыцьцё павернецца назад. Больш як двухсотгадовы пэрыяд гісторыі спарадзіў у грамадстве паталягічную, хваравітую залежнасьць ад Расеі, няўпэўненасьць у сваіх сілах. Таму, можа, галоўная вуліца так і ня ўбачыла сапраўды масавага нацыянальнага шэсьця, якое б канчаткова змыла хваляй усё старое ці наноснае.

*— Адносна будучыні праспэкту — на Ваш погляд, што беларусы павінны рабіць з гэтай унікальнай спадчынай?*

— Найперш, думаю, пазбавіць гэтую вуліцу статусу галоўнай. Па-другое, узяць яе пад ахову дзяржавы. І трэцяе, музэяваць яе. Ні ў якім разе ня варта аддаваць яе гандлярам, бо сапсуюць. Яна ёсьць помнікам савецкаму мінуламу, гэта ўзор сталінскага клясыцызму. Ня выключана, што людзі будуць з часам адмыслова сюды прыяжджаць, каб паглядзець на гэтую савецкую вуліцу, своеасаблівы савецкі запаведнік. Ён маніфэстуе ня нашу нацыянальную традыцыю, а нашае горшае мінулае. Галоўнай кропкай сталіцы адпаведна з нацыянальнай традыцыяй мусіць быць плошча, ад якой ва ўсе бакі разыходзяцца вуліцы. Ва ўсе бакі, а ня толькі на ўсход.

## XX СТАГОДЗЬДЗЕ ВАЧЫМА АРХЕОЛЯГАЎ

*Размова зь Нінай Здановіч*

**Археалёгія асацыюецца ў нас з аддаленымі эпохамі. Археолягі шукаюць тое, што доўгімі стагодзьдзямі паглынала зямля, ды іхныя знаходкі робяцца падставай ведаў чалавецтва пра сваю гісторыю. Паспрабуем пагаварыць пра XX стагодзьдзе ў рэальных археалягічных знаходках і пра XX стагодзьдзе ў фантазіях — якім яго пабачаць археолягі будучыні. Гэта дасьць магчымасьць, спадзяюся, паразважаць пра тое, зь якімі супярэчнасьцямі яны сутыкнуцца.**

*— Я ж хачу паставіць пытаньне ці не парадаксальнага кшталту. У якой ступені магчыма ўжо сёньня разважаць пра XX стагодзьдзе з археалягічнага гледзішча?*

— Па-першае, шукаючы мінулае стагодзьдзе, археолягі ўжо сёньня сутыкаюцца з многімі фактамі матэрыяльнай культуры XX стагодзьдзя, схаванымі ў зямлі. Па-другое, нават разьвязваючы спрэчныя пытаньні XX стагодзьдзя, часам зьвяртаюцца да археалягічных мэтадаў. Прыкладам — Курапаты.

*— Як у працы сучасных археолягаў сутыкаюцца стагодзьдзі мінулыя са стагодзьдзем XX?*

— XX стагодзьдзе ўрываецца ў дасьледаваньні сучасных археолягаў часам нечакана. Прыкладам, у Лідзкім замку мы дасьледавалі мацерыковую яму XVII стагодзьдзя, а ў ёй аказаліся снарады Другой усясьветнай вайны. У Слоніме дасьледавалі касьцёл Сьвятога Андрэя, і ў праплastках XVII стагодзьдзя мы натрапілі





на брацкую магілу нямецкіх жаўнераў часу Другой усясьветнай вайны.

*— Як выглядае XX стагодзьдзе на тле стагодзьдзяў мінулых? Больш лягічным ці алягічным?*

— На мой погляд, лягічнасьць стагодзьдзя вызначае тое, ці скіраванае яно да чалавека ці супраць чалавека. Здавалася б, XX стагодзьдзе павінна быць лягічным, бо чалавек клапоціцца пра сябе, пра свой дабрабыт — разьвівае цывілізацыю й будуе цывілізаванае жыцьцё. Абектыўна ж XX стагодзьдзе — стагодзьдзе страшэнных войнаў, скіраваных супраць чалавека.

*— Як археолягі разумеюць знаходкі, зьвязаныя зь мірным часам? Прыкладам, з 1920—1930-мі гадамі? Што гэтыя знаходкі дадаюць да ведаў пра час, які нам вядомы?*

— У музэі яны пазначаныя дакладнай шыльдай — «час сацрэалізму». У зямлі да іх іншае стаўленьне. Побач з вытанчанымі знаходкамі ранейшага часу экспанаты 1920—1930-х гадоў выглядаюць кантрастна. Яны паказваюць, у якую яму абрынулася чалавецтва. Робіцца відавочнай парадаксальнасьць і алягічнасьць чалавечай культуры. Замест кветак і палацаў клясыцызму — агітацыйная парцаляна зь сярпом і молатам, шчасьлівымі рабочым і калгасьніцай. І фабрыка з комінам, зь якога валіць густы дым, і надпіс — «Пралетары ўсіх краін, яднайцеся!». Яшчэ больш незразумелай можа быць гэтая талерка археолягу праз два тысячагодзьдзі. «Яднайцеся» — за што? Ці супраць чаго? А што з экалёгіяй?

*— Ці могуць археалягічныя знаходкі XX стагодзьдзя засьведчыць месца Беларусі на зямной кулі?*

— Яны засьведчаць, што Беларусь у XX стагодзьдзі была замкнёная ў СССР, ізаляваная фактычна ад уся-

го сьвету. Доказам гэтага — малая колькасьць прадметаў імпарту ў XX стагодзьдзі. Так званы імпарт у Беларусі пераважна прадстаўлены рэчамі, прывезенымі зь межаў СССР. У ранейшых прапластках (XIV—XV стагодзьдзяў) мы бачылі рэчы з Італіі, зь Нямеччыны, з Сырыі, з Кітаю. У Лідзкім замку, у пластах пачатку XX стагодзьдзя, мы бачым сувязі Ліды зь віннымі заводамі Каўказу, Крыму.

*— Якія культурныя напластаваньні XX стагодзьдзя ўжо склаліся й якія зь іх цяпер могуць вывучаць археолягі будучыні?*

— Мы абсалютна дакладна можам сьцьвярджаць, што ёсьць тры прапласткі, якія будуць вывучаць археолягі будучыні — Другая ўсясьветная вайна, жыцьцё да вайны й жыцьцё пасьля гэтае вайны.

*— Мне здаецца, што злавеснымі сымбалямі XX стагодзьдзя ёсьць асфальт, бэтон. Ці праб'юцца праз асфальт і бэтон археолягі зь прыладамі, кшталту адбойнага малатка ці больш дасканалымі, да матэрыяльнай культуры XX стагодзьдзя?*

— Адсутнасьць бэтону й асфальту будуць сьведчыць пра адсутнасьць цывілізацыі. Роля асфальту й бэтону для захаваньня прапласткаў XX стагодзьдзя й ранейшых напластаваньняў вельмі вялікая — гэта своеасаблівы кансэрватар, празь які трэба будзе прарвацца, каб разбурыць ранейшыя напластаваньні ў гісторыі чалавецтва.

*— Археолягі раскапаюць звыклыя для нас рэчы штодзённага жыцьця. Але тыя археолягі будуць людзьмі іншай мэнтальнасьці, іншай культуры й адукаванасьці. Якія пытаньні могуць перад імі паўстаць?*

— Заблытацца ў XX стагодзьдзі будзе проста. Возьмем пахавальны абрад. Археолягі будучыні зафіксуюць, што раптам з пахаваньняў зьнікаюць рэчы, што былі традыцыйнымі для хрысьціянскага пахавальнага абраду. Традыцыю трупапалажэньня, якой было дзесяць стагодзьдзяў, раптам зьмяняе ў XX стагодзьдзі ранейшы, дахрысьціянскі звычай спаленьня нябожчыка. Што гэта? Зьмена рэлігіі? Ці глябальная катастрофа? Перад археолягамі будучыні можа паўстаць і такая таямніца. У Беларусі ў канцы XX стагодзьдзя раптам зьнікаюць грошы ў звыклым для археолягаў выглядзе, матэрыялізаваным у манэтах. Магчыма, археолягі будучыні ўбачаць у гэтым першыя сьведчаньні ўзьнікненьня віртуальных грошай. І ніхто ня будзе ведаць, што зьнікненьне манэтаў у Беларусі ў 1990-я гады выклікана правалам эканамічнай палітыкі й шалёным ростам інфляцыі.

*— Але ж XX стагодзьдзе — гэта ня толькі стагодзьдзе матэрыяльнай і духоўнай культуры. Гэта стагодзьдзе інфармацыі. Носьбіты інфармацыі мяняюцца вельмі імкліва, нават сёньня мы ўжо незваротна многае страцілі. А бязь іх веды пра XX стагодзьдзе будуць вельмі няпоўнымі.*

— Але й пра папярэднія стагодзьдзі археалягічная інфармацыя не дае поўнай карціны жыцьця, не зьберагаюцца арганічныя рэчывы. Зьнікае папера, гараць кнігі. Таму XX стагодзьдзе ня ёсьць выключэньнем. Кажуць, што лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць, то й нашы нашчадкі патрымаюць у руках старыя пласьцінку, касэту, дыск. Хоць на іх ужо не захаваецца інфармацыя, але самі гэтыя прадметы раскажуць ім пра час, калі пачалася новая інфармацыйная эра: з радыё, магнітафонаў, кампутараў.

*— Археоляг Ніна Здановіч перакананая, што археолягі ў будучыні застануцца. А значыць, Беларусь XX стагодзьдзя не напаткае лёс Атлянтыды?*

— Пакуль будзе існаваць прафэсія археоляга — рэальная інфармацыя пра Беларусь будзе існаваць у археалягічных знаходках, хай сабе няпоўная, недасканалая, але будзе. І нашчадкі будуць прадзірацца да той Беларусі, якая сёньня ёсьць рэальнасьцю.



## КАЛЕКЦЫЯ ПЯЧАТАК

*Размова з Ірынай Колабавай*

**Мы прызвычаіліся да таго, што на кожным дакумэнце, які мае хоць нейкую вартасьць, абавязкова мусіць стаяць пячатка. Зрэшты, пячатка толькі зьнешне ёсьць нейкім графічным малюнкам, знакам. Гэты графічны знак, які робіць паперку дакумэнтам, можа шмат распавесьці й пра зьмест дакумэнту, і пра тых, хто яго складаў, і пра тых, каму ён адрасуецца. А праз дзесяцігодзьдзі й стагодзьдзі зьмест пячаткі пашыраецца аж да сьведчаньня пра гісторыю краіны й народу. Свой пачатак беларуская пячатка бярэ прыкладна ў X стагодзьдзі, а гэта значыць, што яна мае значную, больш як тысячагадовую гісторыю. Пячатка ёсьць раўналеткай дзяржавы. І яна — адзін з важных іканаграфічных матэрыялаў дзеля вывучэньня гісторыі гэтай дзяржавы. А ўвогуле, як цьвердзяць навукоўцы, пачынаецца гісторыя пячаткі ў глыбокай старажытнасьці, калі сярод людзей склаўся такі натуральны звычай — адзначаць уласныя рэчы знакамі. Вось жа гэтыя знакі й сталі прататыпам пячаткі.**

*— Дык якімі былі яны, гэтыя знакі?*

— Гэта былі розныя рыскі, крыжыкі, пазьней літары. Яны ставіліся на прыладах працы, прадметах побыту. Паступова такія знакі становяцца сямейнымі й перадаюцца ў спадчыну. Сын, заводзячы сваю сям'ю й атрымаўшы ад бацькі права на самастойнае выкарыстаньне родавага знаку, звычайна дадаваў да яго дзеля адрозьненьня нейкі дадатковы элемэнт. У Беларусі такія знакі, напрыклад, ставілі на борцях





(драўляных калодах для збору мёду). З часам знакі ўласнасьці сталі выразаць на пячатках. Пасьля сьмерці ўладальніка пячатка падлягала зьнішчэньню. У старажытнасьці пячаткі замянялі даверчыя граматы, а паслы й гандляры вазілі іх з сабой дзеля пацьвярджэньня асобы. Пад словам «пячатка» мы разумеем і пячатку-матрыцу, і пячатку-адбітак. Матрыца — гэта малюнак пячаткі, выразаны на цьвёрдых прадметах (камені, мэтале, косьці, каўчуку). Адбітак — выява, якая застаецца на паверхні нейкага матар'ялу пасьля ўзьдзеяньня матрыцай.

*— Дзе й калі зьявіліся першыя пячаткі? Якая цывілізацыя іх нарадзіла? Як яны выглядалі?*

— Першыя пячаткі зьявіліся ў краінах Старажытнага Ўсходу — у Бабілёне, Шумэры, Эгіпце. Пячаткі-матрыцы мелі розныя формы, напрыклад, у старажытным Эгіпце сустракаліся цыліндрычныя матрыцы, якія пракатваліся па мяккай паверхні глінянай таблічкі, пакідаючы адбітак. У антычны пэрыяд выкарыстоўваліся пячаткі-пярсьцёнкі, якія мелі ўстаўку ў выглядзе гемы — выявы, выразанай на паверхні паўкаштоўнага каменя. Папулярныя на тэрыторыі Беларусі ў больш позьні час падобныя пячаткі-пярсьцёнкі атрымалі назву сыгнэтаў. Магнаты звычайна мелі некалькі пячатак, якія выкарыстоўваліся ў залежнасьці ад характару дакумэнту. Ніколі беларускія магнаты не выпраўляліся ў падарожжы безь пячатак:

***...у пераліку дарожных рэчаў Дамініка Радзівіла ў 1793 годзе фігуруе — сыгнэт залаты з гербам яго-най міласьці, выразаным на камені; пярсьцёнак у золата апраўлены малы з гербам і двума дыямэнтамі; тры вялікіх залатых сыгнэты з гербамі; пячаткі тапазавыя з гербамі, аздобленыя ў серабро — тры; малая пячатка ў серабро апраўленая; малая залатая пячатка з адным каралём і разэт-***

***камі; пячатка срэбраная з гербам Дому; пячатка срэбраная з каменем, на якім выразаньня выявы Адама й Евы.***

Захоўваліся пячаткі-матрыцы ў адмысловых драўляных скрынях, абкладзеных унутры аксамітам ці атлясам. Асоба, адказная за захаваньне пячаткі ва ўстановах, магла падчас працы насіць яе на шыі на шоўкавым шнурку ці трымаць ў саф'янавым мяшэчку.

*— З чаго выраблялі старадаўнія пячаткі й ці адрозьніваліся яны ад сучасных?*

— Старадаўнія пячаткі зьнешне вельмі значна адрозьніваліся ад сучасных і тым, як мацаваліся да дакумэнту, і паводле матар'ялу, зь якога іх выраблялі, і формай таксама, і колерам. Так, у сярэднявечнай Беларусі паводле спосабу прымацаваньня да дакумэнту пячаткі падзяляліся на прывесістыя й прыкладзеныя. Прывесістыя пячаткі панавалі да XV стагодзьдзя. Яны прывешваліся ўнізе да дакумэнту на шнурку, які прасоўвалі празь дзірачкі на паперы. Матрыцамі для вырабу прывесістых пячатак служылі спэцыяльныя, падобныя на абцугі, прылады — булацірыі, на канцах якіх былі выразаныя пэўныя выявы. Загатоўка з воску для будучай пячаткі накладалася на перакрыжаваныя канцы шнурка й прыціскалася булацірыямі. Атрымлівалася двухбаковая пячатка, якая гойдалася на шнурку. Прывесістыя пячаткі былі нават мэталёвымі, але пераважна зь мяккіх мэталаў — сьвінца, срэбра ці золата.

*— А ці мяняліся пячаткі з разьвіцьцём тэхналёгіяў?*

— Натуральна. У тым жа XV стагодзьдзі пачынаюць пашырацца больш практычныя прыкладзеныя пячаткі. Прыладай для вырабу прыкладзеных пячатак служыла выява, выразаная на пласьціне зь цьвёрдага





матар'ялу — каменя, мэталу, рогу, пазьней стаў выкарыстоўвацца каўчук. Яна прымацоўвалася да ручака, на якім часам ставілі спэцыяльныя рыскі, каб бачыць верх пячаткі, таму што было б вялікай зьнявагай адбіць на дакумэнце перакуленую выяву. Матрыцы для прыкладзеных пячатак маглі рабіць са срэбра й залаціць. Прыкладзеныя пячаткі-адбіткі былі аб'ёмнымі, таму што матар'ялам для іх служылі воск, васковая мастыка, сумесь мукі й крухмалу, хлебны мякіш, смала. Выкарыстоўваўся таксама сургуч (дарэчы, той самы, на якім ставяць пячаткі й сёньня на беларускіх паштовых пасылках). Існавалі й курадымныя, і цісьнёныя пячаткі. Са зьяўленьнем каўчукавых штэмпэляў матар'ялам для адбіткаў стала вадкая мастыка.

*— Ці існавалі нейкія патрабаваньні да формы пячатак і іхнага колеру?*

— Пячаткі мелі самую разнастайную форму — круглую, авальную, трох-, чатырох- і шматкутную. Дыямэтар пячатак у розны час вагаўся прыкладна ад двух да чатырох сантымэтраў. Што да колеру, дык пячаткі былі як натуральнага колеру, гэтак і шматкаляровыя. У воск, напрыклад, маглі дадаваць розныя фарбы, якія надавалі пячатцы чырвоны, чорны, зялёны, блакітны, карычневы колеры. Склалася пэўная традыцыя, што чырвоны колер выкарыстоўваўся вялікакняскай уладай, цэнтральнымі дзяржаўнымі ўстановамі, магнатамі; зялёны — гарадзкімі органамі кіраваньня; чорны — духавенствам; натуральны колер воску — прыватнымі незаможнымі асобамі. Але гэтая традыцыя ня мела абавязковага характару.

*— Пячаткі, зробленыя з такога мяккага матар'ялу, як воск ці васковая мастыка, не маглі доўгі час захоўвацца ў добрым стане. Што рабілася дзеля захаваньня іхнага выгляду й даўгавечнасьці?*

— Дзеля гэтага была прыдуманая такая рэч, як кустодзея. Назва паходзіць ад лацінскага ‘custos’ — ахова, варта. Кустодзея — гэта маленькі кавалак тонкай паперы рознай формы, якім пакрывалася васковая загатоўка перад націскам пячаткай-матрыцай. Папера, уціснутая ў воск, практычна не пагаршала выгляду выявы й спрыяла павышэньню трываласьці пячаткі-адбітка. Часам ролю кустодзеі адыгрываў загорнуты ўнізе аркуш дакумэнту, кустодзея магла быць прыклееная толькі зь левага боку пячаткі й трэба было адгарнуць яе, каб пабачыць саму пячатку. У адпаведнасьці са своеасаблівай модай, якая існавала ў Беларусі, па краі кустодзея магла быць упрыгожана ажурнымі карункамі з рознымі ўзорамі.

*— Хто ў старавечнай Беларусі вырабляў пячаткі, дзе вучыліся гэтаму?*

— Выраблялі пячаткі майстры залатой і срэбранай справы. Працэс быў дастаткова складаны, і трэба было мець ня толькі досьвед, але й пэўны талент. У адпаведнасьці з цэхавымі статутамі майстры рыхтавалі вучняў, якія працягвалі агульную справу. Паводле статуту менскага цэху злотнікаў 1615 году, на іспыце на званьне майстра ад вучня патрабавалася вырабіць «пячатку вялікую зь літарамі, выразанымі навакол, са шчытом і шлемам уверсе». Падобныя ўмовы замацоўвалі, напрыклад, і статуты наваградзкага й магілёўскага цэхаў злотнікаў. Як сьведчаць дакумэнты, у трэцяй чвэрці XVII стагодзьдзя ў Маскве працавала група беларускіх срэбнікаў зь Віцебску, Полацку й іншых гарадоў. Некаторыя займаліся нават рэзкай расейскіх дзяржаўных пячатак. Так, майстар Багдан Ісакаў, атрымаў «полдва фунта срэбра, зь якога вырабіў дзьве пячаткі», за што быў аддзячаны 5 рублямі й «сукном ангельскім добрым». Дзяржаўныя пячаткі рэзаў і Хведар Мікулаеў, які атрымаў «сукно кармазіну». А сьведчыць гэта пра тое, што старадаўняя Беларусь мела выдатных майстроў гэтай справы, якія былі запатрабаваныя й за мяжой.

*— Ці можна сьцьвярджаць, што беларусы цягам стагодзьдзяў стварылі сваю адметную калекцыю пячатак?*

— Так. Ва ўсе часы беларусы мелі выдатных майстроў, якія рабілі вельмі цікавыя пячаткі-матрыцы. Зробленыя імі пячаткі, калі б была магчымасьць іх сабраць разам, сталіся б унікальнай калекцыяй, якая мае ўсе падставы называцца калекцыяй уласнабеларускай. І гэтая ў шырокім сэнсе беларуская калекцыя складаецца з калекцыяў, якія захоўваюцца ў асобных музэях, але, на жаль, ня толькі ў беларускіх. Дзякуй Богу, што збольшага мы ведаем, у якіх. Бадай, самая вялікая калекцыя тая, што выстаўлялася ў Віленскім музэі старажытнасьцяў, адкрытым у 1856 годзе. У яе ўваходзілі больш за 450 прыватных і гарадзкіх пячатак. Гэтую калекцыю перадалі ў музэй вядомыя беларускія навукоўцы Канстанцін і Яўстах Тышкевічы. Пасьля паўстаньня 1863 году музэй быў расфармаваны, і сфрагістычная калекцыя паступіла ў маскоўскі Румянцаўскі музэй. Цікавая калекцыя пячатак існавала і ў Менскім царкоўна-археалягічным музэі, але ў час Першай усясьветнай вайны фонды музэю перавезьлі ў Пецярбург, і цяпер у Эрмітажы, мабыць, з гэтай калекцыі, знаходзяцца пячатка XIX стагодзьдзя менскага дваранскага сходу, шэсьць пячатак часу паўстаньня Кастуся Каліноўскага й восем выразаных з агату гербавых пячатак гетмана Вялікага Княства Літоўскага Міхала Агінскага. Больш за сто пячатак меў у сваёй калекцыі Віленскі беларускі гістарычна-этнаграфічны музэй імя Івана Луцкевіча, адкрыты ў 1921 годзе. Што тычыцца Беларусі, дык на наш час сфрагістычныя калекцыі захоўваюцца ў Нацыянальным музэі гісторыі й культуры і ў абласных музэях краіны.

*— Ці можна вызначыць нейкія характэрныя прыкметы старажытных узораў беларускай пячаткі?*

— Перадусім адзначу, што выгляд беларускай пячаткі фармаваўся пад уплывам бізантыйскіх сфрагістычных традыцыяў. Напрыклад, запісанае кірыліцай грэцкае гучаньне легендаў (надпісаў), прынцыпы складаньня кампазыцыі — як правіла, была выява сьвятога патрона ўладальніка пячаткі. Цікавы асобнік быў знойдзены падчас археалягічных раскопак расейскага Ноўгараду ў 1953 годзе. Ён з групы прывесістых пячатак. Гэта самая старажытная зь вядомых нам беларускіх пячатак. Яна належала ў канцы X стагодзьдзя полацкаму князю Ізяславу Ўладзімеравічу. Пячатка са сьвінца, на адным баку ейным княжацкі знак у выглядзе трызубца, а вакол выявы легенда — напісанае кірыліцай грэцкае гучаньне імя князя «Ізяс[лав]ос», на адвароце — рэшткі нейкага іншага надпісу.

*— Пячатку знайшлі ў Ноўгарадзе. Яна засьведчыла стасункі паміж полацкай і ноўгарадзкай дзяржавамі?*

— І не адна яна была знойдзеная ў Ноўгарадзе з тых, што датаваліся X—XIV стагодзьдзямі. Аналягічныя пячаткі знаходзіліся й на тэрыторыях іншых суседніх дзяржаваў. Яны ёсьць доказам шырокіх міждзяржаўных кантактаў беларускіх зямель у розны час. У 1906 годзе ў Ноўгарадзе знайшлі пячатку, выкананую ў стылі XII стагодзьдзя з выявамі сьвятога Георгія й сьвятой Сафіі. Уладальніка пячаткі вызначыць тады не змаглі. Але калі ў 1962 годзе пры археалягічных раскопках на тэрыторыі Латвіі старажытнага Кукенойсу была знойдзеная другая такая ж пячатка, навукоўцы зрабілі выснову, што выявы сьвятых на гэтых дзьвюх пячатках былі аналягічныя выявам сьвятых патронаў бацькоў Эўфрасіньні Полацкай на ейным знакамітым крыжы. Уладальніцай знойдзеных





пячатак была названая ейная маці — полацкая княгіня Сафія. І царква ўвогуле, і духоўныя асобы ў прыватнасьці, мелі свае пячаткі. Так, у 1968 годзе таксама ў Ноўгарадзе знайшлі надзвычай цікавую пячатку, якая належала самой Эўфрасіньні Полацкай. На адным баку была складаная кампазыцыя на рэлігійную тэму з надпісам «Мэтамарфозы». На другім — выява асобы ў манаскім капелюшы з надпісам «Господи, помози рабе своей Ефросинии нареченной». Да нашага часу дайшла й група пячатак духоўных асобаў XII—XIV стагодзьдзяў. Напрыклад, знойдзеная ў 1909 годзе ва Ўкраіне, на Львоўшчыне, пячатка полацкага япіскапа Міны. А ў 1954 годзе ў Ноўгарадзе адшукалі пячатку полацкага япіскапа Дыянісія. І гэты сьпіс можна працягваць.

*— Ужо напрыканцы XIV стагодзьдзя, калі ў Беларусі пачало пашырацца магдэбурскае права, кожны горад павінен быў мець сваю пячатку. Чым цікавая беларуская гарадзкая пячатка?*

— Пячатка гарадзкіх органаў улады — значная крыніца дзеля вывучэньня гарадзкой геральдыкі і ўвогуле гісторыі гораду. Пячатка, як і герб, зьяўлялася атрыбутам гарадзкога самакіраваньня. Пры страце яе горад мог нават часткова быць пазбаўлены пэўных прывілеяў. Пячатку вельмі строга захоўвалі. Напрыклад, дакумэнт 1542 году сьведчыць, што гарадзенская гарадзкая пячатка знаходзілася ў гарадзкой ратушы, і адказныя за яе былі войт, бурмістар і райца. Галоўным элемэнтам такіх пячатак становіцца выява гарадзкой эмблемы, якая з часам пераўтвараецца ў гарадзкі герб. Так, на пячатцы Віцебску — выява Ісуса Хрыста, на пячатцы Горадні — выява аленя сьвятога Губэрта з залатым крыжам паміж рагоў, на пячатцы Менску — выява Панны Марыі ў атачэньні анёлаў. Прыватныя пячаткі шырока выкарыстоўвалі й прадстаўнікі розных колаў гарадзкога насельніцтва.

*— Ці ўсім, хто хацеў, дазвалялася мець пячатку? Ці рэгулявала заканадаўства ВКЛ парадак выкарыстаньня пячаткі?*

— На тэрыторыі Беларусі спачатку дзейнічалі вусныя правілы, што склаліся ў працэсе выкарыстаньня пячаткі. Пазьней яны зафіксаваныя ў шэрагу пісьмовых заканадаўчых актаў, якія рэглямэнтавалі парадак афармленьня дакумэнтаў. І, натуральна, ва ўсіх трох рэдакцыях Статуту Вялікага Княства Літоўскага мы знаходзім артыкулы, прысьвечаныя парадку выкарыстаньня пячаткі. Прычым, заўважаецца паступовае — ад двух да дваццаці васьмі — павелічэньне колькасьці артыкулаў, якія рэглямэнтавалі выкарыстаньне пячатак. Статуты, напрыклад, вызначалі вельмі жорсткае пакараньне асобаў, якія падраблялі пячаткі й карысталіся фальшывымі дакумэнтамі на сваю карысьць. Вось жа чытаем у Статуце 1588 году:

***...Калі б хто лісты нашы або пячаці нашы фальшаваў... нічым іным толькі... агнем каран быці маець.***

Вызначалася таксама й плата, прычым немалая, за выдачу завераных пячаткай копіяў дакумэнтаў. Так, кнігі Магілёўскага магістрату за 1713 год адзначаюць выдаткі магістрацкай дэлегацыі пры паездцы ў Варшаву на 6,5 талераў і 1 чырвоны злоты, дадзены сакратару «за прыпячатаньне справаў». Па заканадаўстве Вялікага Княства Літоўскага «пячатарамі» (гэта значыць — захавальнікамі вялікай і малой дзяржаўных пячатак) былі вышэйшыя адміністрацыйныя асобы, якія ўзначальвалі канцылярыю Вялікага Княства Літоўскага — канцлер і ягоны намесьнік, падканцлер. Толькі яны мелі права канчатковага зацьвярджэньня дзяржаўнай пячаткай каралеўскіх загадаў.

*— Які лёс напаткаў беларускую пячатку пасьля страты Беларусьсю незалежнасьці?*





— Падзелы Рэчы Паспалітай і акупацыя беларускіх земляў Расейскай імпэрыяй адбіліся й на выглядзе беларускіх пячатак. Напрыклад, паступова лацінскую й польскую мовы легендаў выцiскае мова расейская, шэраг заканадаўчых актаў прыводзяць пячаткі да адзінага памеру й аднастайных выяваў. Цікава, што яшчэ да сярэдзіны XIX стагодзьдзя на тэрыторыі Беларусі працягвалася выкарыстаньне пячатак прыватнымі асобамі. Аднак, гэты звычай ня ўпісваўся ў расейскія традыцыі, і ён паступова зьнікае. Агульная рыса сфрагістычных помнікаў пазьнейшага часу — поўнае зьнікненьне індывідуальнасьці і ўніфікацыя выгляду пячаткі, што адпавядала агульным тэндэнцыям разьвіцьця дзяржаўнага справаводзтва той дзяржавы, часткай якой сталі беларускія землі.

# МАНЭТЫ Й ФАЛЬШЫВАМАНЭТЧЫКІ

*Размова з Ірынай Колабавай*

**Наўрад ці ёсьць на сьвеце чалавек, які, хай сабе і ў дзяцінстве, ня марыў знайсьці скарб. Заўсёды шуканьне скарбаў станавілася тэмай літаратуры, мастацтва. Пра скарбы пісалі антычныя аўтары — Арыстафан, Пляўт, Ксэнафонт, Плятон, Гарацыюс... Чалавек, які шукае скарб, у мастацтве падаваўся й як рамантык, і як драпежнік. Тэма скарбу заўсёды ёсьць у фальклёры ўсіх народаў. Вось жа й беларусы ў прымаўках кажуць: «Закапаў скарб — закапаў спакой», «Чужой схоўкі ня хутка знойдзеш», «Заплаціў як чорт за папараць», «Багаты грошы зьбірае, а чорт машну гатуе», «Нашто мне скарб, калі мае дзеці ў лад».**

*— А ўвогуле скарбы ў народных паданьнях — гэта дабро ці зло?*

— Скарбы ў беларускім фальклёры традыцыйна падзяляюцца на злыя (заклятыя ў час хаваньня) і добрыя. Авалодаць злым скарбам, які мог прынесьці пакуты знаходчыку й ягоным блізкім, — вельмі цяжкая задача. Акрамя закляцьця, скарбам апекаваліся такія пачвары, як нячысьцікі. Нячысьцікі даглядалі й ахоўвалі скарбы: палявік — у полі, лясун — у лесе, багнік — у балотах, кладавік (самы заможны з усіх) — на прысядзібным участку. Скарбы ў народных паданьнях — нешта жывое й можа зьяўляцца на паверхні нечаканым агеньчыкам, у чалавечым выглядзе, сабакам, коткай, пеўнем. Прычым, белая афарбоўка істоты адпавядае срэбру, а жоўтая — золату. Дапамагчы ў шуканьні скарбу мог выгарак — абпаленая лучына, кутны зуб вісельніка, васковая сьвечка ля труны памерлага.





*— А як архаічныя людзі здымалі са скарбаў закляцьці?*

— Нэўтралізаваць закляцьці й нячысьцікаў дапамагалі рукапісныя «Траўнікі», «Вызыўныя кнігі» й «Росьпісы». У «Траўніках» апісваліся надзвычайныя ўласьцівасьці папараць-кветкі, плакун-травы, разрыўтравы. «Вызыўныя кнігі» захоўвалі формулы звароtaў да нячыстых сілаў з прапановамі абмену сваёй душы на грошы. «Росьпісы» давалі апісаньні месцаў знаходжаньня скарбаў. Скарбы добрыя адкрываліся людзям добрым. Ахоўвалі месцы іхнага знаходжаньня «дзядзькі»: Дзедзя, Бялун і Купальскі дзядок.

*— Скарбы найчасьцей знаходзяць выпадкова, падчас сельскагаспадарчых ці будаўнічых працаў. А часам скарбы адкрываюць прадстаўнікі флёры й фаўны, прыродныя стыхіі. Якія цікавыя выпадкі знаходжаньня скарбаў былі ў Беларусі?*

— Вось у 1845 годзе ў Барысаве знойдзены скарб манэтаў XVI стагодзьдзя ў птушыным гнязьдзе. У 1888 годзе ў вёсцы Любоўша каля Баранавічаў рымскія манэты I—II стагодзьдзяў выкінуў на паверхню крот. У 1921 годзе ў Слуцку, у 1961-м у Вёсцы Салігорскага раёну, у 1963-м у вёсцы Адрубак Докшыцкага раёну зафіксаваныя выпадкі, калі выварочвалі на паверхню начыньні са старадаўнімі манэтамі сьвіньні. У 1964 годзе ў Касяках Кармянскага раёну дождж вымыў зь зямлі скарб IX стагодзьдзя. Часам паказвае на месца скарбу народны поглас. Так, мясцовыя жыхары Ракаўцоў Смаргонскага раёну гаварылі, што пад валуном на тэрыторыі вёскі схаваныя грошы. У 1971 годзе пры будаўнічых працах бульдозэр зрушыў камень, пад якім аказаўся манэтны скарб X стагодзьдзя.

*— А ўвогуле ці часта ў Беларусі знаходзяць скарбы? І ці пашыраны ў Беларусі спосаб захоўваньня грошай у куфэрках у розных сховішчах?*

— У Беларусі зафіксавана болей за тысячу выпадкаў знаходжаньня скарбаў. Скарбы — гэта вельмі пашыраны звычай захоўваньня каштоўнасьцяў. Звычайна скарбы добра запакаваныя ў кавалак скуры, тканіны, бяросты ці нейкае начыньне з накрыўкай. У XVI стагодзьдзі ў беларускім ганчарстве нават сфармавалася асобная галіна выррабу разнастайных паводле аб'ёму й формы скарбонак дзеля захоўваньня грошай. Звычайна скарб знаходзіцца на невялікай глыбіні — ад 20 да 50 сантымэтраў, гэта, вядома, больш зручна пры пэрыядычным карыстаньні грашыма. Бальшыня скарбаў — вельмі сьціплыя зьберажэньні, якія маглі належаць прадстаўнікам незаможных колаў, што таксама сьведчыць пра пашыранасьць такога спосабу захоўваньня грошай. Праблема ўласнасьці на скарб знаходзіла адлюстраваньне ў заканадаўчых актах, прыкладам, у другой і трэцяй рэдакцыях Статуту Вялікага Княства Літоўскага.

*— Вельмі часта ў паведамленьнях пра знойдзеныя ў Беларусі скарбы ўтрымліваецца інфармацыя, што манэты належаць розным краінам. Чым можна патлумачыць гэткі шматнацыянальны склад скарбаў?*

— Геаграфічнае палажэньне Беларусі, перакрыжаваньне на ейных землях шматлікіх гандлёвых шляхоў прыводзіла да шматнацыянальнага складу манэтнага фонду. Вось тыповыя прыклады знойдзеных, як вы кажаце, шматнацыянальных скарбаў.

***Вёска Дзегцяны Капыльскага раёну, 1957 год. Грашова-рэчавы скарб срэбраных ювэлірных вырабаў і манэтаў, колькасьць — каля 7 тысяч штук. Скарб пераважна разрабаваны. Захаваліся фрагмэнты 21 упрыгожаньня й 320 манэтаў — дынары Вугоршчыны, Чэхіі, Даніі, Рэйнлянду, Баварыі, Саксоніі, Турынгіі, Франконіі, Швабіі, Фрысьляндыі, Лятарынгіі. Час схаваньня — каля 1050 году.***





***Горад Магілёў, 1936 год. 470 залатых манэтаў Вэнэцыі, Мадэны, Савоі, Аўстрыі, Карынцыі, Тыролю, Швайцарыі, Вугоршчыны, Трансыльваніі, Чэхіі, Галяндыі, Гальдэрну, Давэнтару, Зэляндыі, Кампэну, Авэрэйсэлу, Утрэхту, Фрызіі, Брабанту, Браўншвайгу, Гамбургу, Зальцбургу, Кёльну, Любэку, Майнцу, Нюрнбэргу, Ростаку, Саксоніі, Франкфурту, Ульму, Штральзунду, Брэслаў, Данцыгу, Торну. Час схаваньня — пачатак 1690-х гадоў.***

*— Ці можна па скарбе меркаваць пра ягонага гаспадара?*

— Можна. Пра сацыяльны статус гаспадара сьведчыць, напрыклад, скарб пачатку IX стагодзьдзя каля вёскі Брылі Барысаўскага раёну. У 2000 годзе там быў знойдзены скандынаўскі меч, шыйная грыўна, 10 гірак-разнавагаў і 290 срэбраных манэтаў — дырхамаў Арабскага Халіфату. Гэта дало падставу меркаваць пра гаспадара як пра вікінга. Разбойніцкая казна з васьмі з паловаю тысяч арабскіх манэтаў была адшуканая ў 1973 годзе каля вёскі Казьянкі Полацкага раёну. У 1979 годзе ля вёскі Вішчын Рагачоўскага раёну знойдзена княжацкая казна з жаночых упрыгожаньняў і грашовых зьліткаў.

*— Зразумела, што як толькі ўзьніклі грошы, дык адразу знайшліся й людзі, якія захацелі й змаглі іх падрабляць. А ці можна казаць пра нейкія краіны, дзе фальшаваньне манэтаў найболей было пашыранае, дзе яно дасягнула высокага ўзроўню? І наколькі гэтае злачынства было характэрнае для старадаўняй Беларусі?*

— Практычна ва ўсіх краінах Эўропы падраблялі манэты. І старадаўняя беларуская дзяржава займала далёка не апошняе месца ў Эўропе ў гэтай крымінальнай справе, як паводле колькаснага, гэтак і паводле якаснага паказчыкаў. Падраблялі значныя й дробныя

наміналы. Вось некалькі прыкладаў. Як у скарбах знаходзілі, гэтак і ў пісьмовых крыніцах неаднаразова згадвалі пра фальшывыя шэлегі (мясцовая назва агульнаэўрапейскай дробнай срэбранай манэты — соліда). У 1682 годзе зьяўляецца ўказ караля Яна III Сабескага, у якім гаворыцца:

***Дайшло да нашага ведама, што шэлежная манэта падрабляецца і як купляючым, так і прадаючым прыносіць настолькі вялікія пакуты, што нярэдка на кірмашах справа даходзіць да праліцьця крыві па віне гэтых шэлегаў, якія нягледзячы на жорсткія законы, патаемна чаканяцца й распаўсюджваюцца.***

Вось жа й працытаваны гістарычны дакумэнт пацьвярджае сучасны досьвед: жорсткія законы не заўсёды эфэктыўныя ў змаганьні з такім крыміналам. І фальшывыя шэлегі надалей сустракаліся ў скарбах і тагачасных дакумэнтах, часам такія шэлегі называлі злымі, супрацьпастаўляючы іх манэтам добрым. Прывяду некалькі прыкладаў, як Магілёўскі магістрат у XVII стагодзьдзі змагаўся з падробкай манэтаў. 30 лістапада 1685 году ён выпраўляе ў Воршу свайго прадстаўніка са зьвесткамі пра знойдзеныя падробленыя шэлегі. У лютым 1687 году ўліковыя кнігі Магілёўскага магістрату зноў рэгіструюць знойдзеныя падробленыя шэлегі. Адным са спосабаў папярэджваньня насельніцтва пра фальсыфікаты была дэманстрацыя іх у людных мясьцінах (як правіла, каля ратушы). Падрабляліся, натуральна, ня толькі шэлегі. У дакумэнтах сустракаюцца згадкі аб наяўнасьці на грашовым рынку й іншых падробленых манэтаў. Так, 13 траўня 1690 году ў гарадзкую казну Магілёва паступаюць фальшывыя «пулторакі» (мясцовая назва паўтараграшовікаў). Фальсыфікатары не абышлі ўвагай і самы каштоўны са срэбраных наміналаў — талер. Гэта было, прыкладам, зафіксавана ва ўліковай





кнізе Магілёўскага магістрату за 6 студзеня 1689 году — сярод атрыманых ад лаўніка Яўхіма Кашэнкі: «талераў бітых 680… знайдавалася паўтара талера бітага фальшаванага» (мабыць, тры манэты на паўталера ці дзьве манэты наміналам талер і яго палову).

*— Ці судзілі фальшываманэтчыкаў? Якія пакараньні за гэты крымінал прадугледжвала заканадаўства?*

— Зноў жа гістарычны прыклад. 26 сьнежня 1755 году была адкрытая судовая справа паводле абвінавачаньня ў фальсыфікацыі манэтаў магілёўца Мацьвея Храмцовіча, які «фальшывыя манэты тынфы з волава й цынку рабіў… а потым у торгу выдаваў на ашуканьне народу паспалітага». Ягоныя браты — Антон і Пётар, таксама арыштаваныя, прыводзілі словы маці, якая казала малодшаму сыну: «Сынку, лепей у попел амачыўшыся жыць, а таго не чыніць».

*— У тым XVIII стагодзьдзі, на якім мы фіксуем сваю ўвагу, ці падраблялі замежныя грошы? А мо ўжо фальшывыя яны траплялі на беларускія землі з-за мяжы?*

— Папулярная на беларускім грашовым рынку была расейская манэтная медзь (капейка, палова капейкі — дзенга й чвэрць капейкі — палушка). Выпадкі ейнай падробкі зафіксаваныя на Гомельшчыне й Магілёўшчыне. 27 студзеня 1711 году ў Пасольскі прыказ Масквы паступіў данос селяніна Маркава аб тым, што ў мястэчках Ветка, Холмічы й вёсцы Ізбынь (маёмасьць гетмана Сапегі на Гомельшчыне) фабрыкуюцца «маскоўскія вараўскія (фальшывыя) дробныя грошы». Аналягічны выпадак зафіксаваны 8 ліпеня 1720 году, калі магілёўскі суд распачынае справу паводле абвінавачаньня месьціча Мацьвея Стэфановіча ў падробцы маскоўскай манэты. Пасьля прылюднага допыту ля слупа на рынку напаленай шынай абвіна-

вачаны паведаміў пра сваіх паплечнікаў — нейкіх Барыса Пятровіча й Стаську, а таксама пра тое, што медную капейку фабрыкавалі габрэі-магілёўцы, а сам ён вучыўся гэтай справе ў немца ў Шклове сем гадоў таму. Мацьвей спрабаваў апраўдацца, зьвяртаючы ўвагу судзьдзяў на тое, што падробленая манэта вырабляласе не пад імем караля Аўгуста II. Гэтыя абставіны зьмянілі першапачатковы вырак — «зажыва быць спаленым» на адсячэньне галавы. Але фальшыванэтчыка нечакана ўратавалі ксяндзы — бэрнардыны й кармэліты, якія прарвалі варту й выправілі Мацьвея да свайго кляштару, што наводзіць на думку пра іхнае незаконнае супрацоўніцтва.

*— Фальшаваньне грошай мела інтэрнацыянальны, міждзяржаўны характар?*

— Так. Вось прыклад. 28 студзеня 1724 году Пецярбурская калегія замежных справаў нават дасылае Аўгусту II пратэст у зьвязку з вырабам у Рэчы Паспалітай медных расейскіх капеек. Гісторыя дакумэнтальна пацьвярджае шматлікія выпадкі падробкі грошай. Пацьвярджаюць гэта й сучасныя археолягі, якія часам на тэрыторыі Беларусі знаходзяць скарбы цалкам з фальшывых манэтаў. Так, у Нумізматычным кабінэце Белдзяржуніверсытэту захоўваюцца часткі двух дэпазытаў, прадстаўленых фальшывымі манэтамі. Адзін зь іх знойдзены ў 1971 годзе ў Рагачове, другі — у Полацку ў 1997-м. Гісторыя першага скарбу фальшывых манэтаў зьвязаная з падзеямі польскага паўстаньня 1830—1831 гадоў, падчас якога пастанавілі выпусьціць манэты новага тыпу з выявай герба Рэчы Паспалітай. Пасьля здушэньня паўстаньня ў верасьні 1831 году расейскі ўрад забараніў ужываць «мяцежную» манэту. Сапраўдныя манэты паўстаньня 1830—1831 гадоў сустракаюцца рэдка. На тэрыторыі Беларусі вядомыя ўсяго тры такія выпадкі. Скарб фальшывых манэтаў-паўфабрыкатаў, сярод





якіх і падробныя 10-грашовікі часу польскага паўстаньня, быў знойдзены ў Рагачове ў 1971 годзе ў часе будаўнічых працаў каля аўтобуснага вакзалу. Да адкрыцьця рагачоўскага скарбу — унікальнага помніка гісторыі грашовага абарачэньня на тэрыторыі Беларусі — у нумізматычным сьвеце не было вядома пра факты падробкі манэтаў польскага паўстаньня.

*— Рагачоўскі скарб фальшывых манэтаў зьвязаны з важнай гістарычнай падзеяй. Якія падзеі ці акалічнасьці зьвязаныя з полацкім скарбам?*

— Гісторыя скарбу фальшывых лівонскіх шылінгаў, знойдзеных у 1997 годзе ў Полацку, ускосна зьвязаная з граматай магістра Лівонскага ордэну Ёгана Фрайтаг фон Лёрынгхофэна (1483—1494), які паведаміў рэвэльскаму (талінскаму) магістрату:

***...Нейкія рускія прыехалі ў Рыгу з Полацку... маючы пры сабе фальшывыя манэты... засьцеражыце сваіх месьцічаў і гандляроў. Узоры гэтых манэтаў у запячатаным выглядзе дасылаем вам, каб вы іх агледзелі й змаглі засьцерагчыся. Калі вам стане вядома, што нехта мае ці збывае фальшывыя манэты, прыцягвайце яго да адказнасьці.***

На калекцыянэрскім рынку Беларусі ўлетку 1997 году зьявілася значная колькасьць фальшывых манэтаў, якія мелі, паводле зьвестак, паходжаньне са знойдзенага на беразе ракі ў Полацку (верагодней за ўсё, ракі Палаты) скарбу. Чатырнаццаць падробак пад ордэнскія шылінгі Рэвэлю з полацкага скарбу паступілі ў Нацыянальны музэй гісторыі й культуры Беларусі, Нацыянальны полацкі гістарычна-культурны запаведнік, Нумізматычны кабінэт БДУ й прыватныя калекцыі.

*— Даўней падраблялі манэты індывідуальна, або існавалі падпольныя майстэрні?*

— Супастаўленьне шэрагу фактаў — сьведчаньне пісьмовых крыніцаў, канцэнтрацыя на тэрыторыі Полаччыны й Віцебшчыны беларускіх знаходак ардэнскіх манэтаў, зьвесткі аб знойдзеным у Полацку скарбе фальшывых манэтаў — дазваляе зрабіць выснову, што ў Полацку існавала падпольная майстэрня фальшываманэтчыкаў, якую можна лічыць першым манэтным дваром на тэрыторыі Беларусі.

*— Дзейнасьць фальшываманэтчыкаў падрывае эканамічныя падставы існаваньня любой краіны. Як змагалася з падобнай зьявай дзяржава?*

— Пакараньні фальшываманэтчыкаў заўсёды і ўсюды былі вельмі жорсткія. У Старажытнай Грэцыі каралі сьмерцю. У Старажытным Рыме за падробку манэты свабодныя грамадзяне высылаліся на катаржныя працы, а ў далейшым ім прызначалася пакараньне сьмерцю — прычым, за падробку залатых манэтаў палілі жыўцом. Рабоў расьпіналі на крыжы ці аддавалі драпежнікам у цырку. Адначасна рабу, які данёс на фальшываманэтчыка, даравалі свабоду й правы свабоднага чалавека. У XVII стагодзьдзі ў Нямеччыне, у Гамбургу, фальшываманэтчыкаў адпаведна заканадаўству каралі паступовым апусканьнем на канаце ў кацёл з кіпучым алеем. У Англіі за фальсыфікацыю грошай выколвалі вочы, а ў 1125 годзе дзевяноста чатыром трымальнікам манэтных двароў, якія былі западозраныя ў незаконнай дзейнасьці, адсеклі правыя рукі. У Расеі XVI стагодзьдзя за падробку манэты секлі рукі, кляймілі шчокі словам «вор», ссылалі, «воровские деньги» маглі плавіць і заліваць у горла. У 1721 годзе Пётар I «зьмякчыў» заканадаўства, дазволіўшы злачынцаў, што не памерлі адразу пасьля такога катаваньня, застрэліць. У Вялікім Княстве Літоўскім Статутам 1566 і 1588 гадоў фальсыфікатары манэты адназначна караліся сьмерцю — спаленьнем жыўцом «безь міласэрнасьці».



## ВЫКАРЫСТАНЬНЕ ЦЬВІКОЎ

*Размова з Алегам Трусавым*

**Беларусы ўжываюць ня толькі слова «цьвік», але часам і слова «гвозд», хаця нам падаецца, што мы ўжываем уласнарасейскае слова. Між іншым, у слоўніку беларускай мовы Насовіча (гэта яшчэ XIX стагодзьдзе) слова «цьвік» тлумачыцца як «картачная гульня», а другое значэньне — «пакараньне розгамі».**

*— Адкуль жа пайшло слова «цьвік» у значэньні «будаўнічая прылада»?*

— Беларускаму цьвіку болей за тысячу гадоў, і ўзьнік ён як будаўнічая прылада дзесьці ў X—XI стагодзьдзях. А вось слова «цьвік» паходзіць з польскай і нямецкай моваў і прыйшло да нас толькі ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя разам з сучаснымі цьвікамі, зробленымі ўжо машынным спосабам — з круглага дроту з прыкляпанай плешкай. Можна казаць, што слова «цьвік» падкрэсьлівае далучанасьць беларусаў да эўрапейскага кантэксту. А слова «гвозд» сьведчыць пра захаваньне ўласна сваёй традыцыі. Бо ў расейскай мове слова «гвоздь», а ў нашай мове «гвозд», «гваздок». У багацьці мовы й душа беларуса: у нас ёсьць і «гваздочак», і «цьвічок», і «гвазьдзёўня», і «цьвікарня», і «гваздар», і «цьвікар».

*— Ад якога часу чалавек ведае й выкарыстоўвае цьвікі?*

— Цьвікі выраблялія яшчэ ў жалезным веку. Кожны каваль умеў вырабляць два тыпы цьвікоў: адзін для будаўніцтва, а другі (гэта зьява пазьнейшая) — каб падкаваць каня. Але жалеза было даволі дарагое, і першыя драўляныя хаты будаваліся практычна безь цьвікоў. А жалезныя цьвікі пашырыліся тады, калі ў

нас узьнікла каменная архітэктура, і першыя цьвікі былі ўжытыя пры будаўніцтве полацкай Сафіі. Менавіта там гэтымі цьвікамі зь вельмі вялікімі плешкамі прыбіваліся сьвінцовыя лісты даху да цагляных закамараў. Гэта элемэнт высокай будаўнічай тэхнікі.

— *Як выглядаў той цьвік?*

— Ён быў квадратны альбо прастакутны, і да яго была прыкляпаная вялікая плешка. Пазьней узьнікаюць і іншыя тыпы будаўнічых цьвікоў, некаторыя мелі даўжыню да 30 сантымэтраў. Гэтымі цьвікамі звычайна ўпрыгожвалі дзьверы касьцёлаў, цэркваў, і яны мелі плешку ў выглядзе кветкі, ромба, квадрата. Шалёўку прабівалі наскрозь, загіналі, і такім чынам атрымліваліся моцныя дзьверы, якіх ня вырвеш нават жалезным ломам. Ад самага пачатку цьвік меў ня толькі функцыянальнае, але яшчэ й дэкаратыўнае значэньне. Дэкаратыўныя цьвікі вырабіць даволі цяжка, і для каваля гэта было справай гонару. Каваль, які вырабляў дэкаратыўныя цьвікі, лічыўся найлепшым у ваколіцы. Каб выраблць цьвікі, была адмысловая прылада, якая называлася «гвазьдзёўня», альбо «цьвікоўня», і была прафэсія «цьвікар». Першая гвазьдзёўня, якая датуецца XII стагодзьдзем, была знойдзеная пры раскопках старажытнага Менску. І хоць жалезныя цьвікі былі дарагія, археолягі знаходзяць вялікую іх колькасьць. Так, напрыклад, у слаях Ваўкавыску археолягі сабралі болей за 1200 розных тыпаў жалезных цьвікоў, а ў слаях Навагрдку болей за 600. Гэта значыць, што ў XII—XIII стагодзьдзях узровень жыцьця ў нашых гарадах быў на ўзроўні жыцьця ў Англіі, Францыі, іншых цывілізаваных краінах, бо колькасьць цьвікоў сьведчыць пра дабрабыт насельніцтва.

— *Якія віды цьвікоў яшчэ існавалі?*

— Крыху пазьней зьяўляюцца адмысловыя цьвікі, каб падкоўваць каня, бо падкова як элемэнт конскай вупражы ў Эўропе, у тым ліку і ў Беларусі, пашыралася з XI стагодзьдзя. Кожны каваль павінен быў умець вырабіць і падкову, і спэцыяльны цьвік. Цьвік, які ня мае плешкі, называецца па-беларуску «вухналь», а маленькі цьвічок — «вухналік». І вось гэты вухналік прыбіваецца так, каб не сапсаваць капыта каня. Калі конь падкаваны няправільна, то нашы продкі казалі, што каваль «закаваў» каня, конь кульгае. І да такога каваля ніхто ўжо больш ня пойдзе, ён збанкрутуе. Справай прафэсійнага гонару было так зрабіць падкову, каб конь не адчуў болю. А падкова звычайна мела шэсьць дзірачак і два канцы-шыпы на краях, каб абхапіць капыт па пэрымэтры.

— *А якія цьвікі выкарыстоўваліся ў шавецтве?*

— Шаўцы ў Беларусі зьявіліся ў X—XI стагодзьдзях, а ўжо ў XII стагодзьдзі ў Менску існавала цэлая шавецкая майстэрня, якую раскапалі археолягі. І шаўцы выраблялі спачатку цьвікі толькі драўляныя, з сухой бярозы. Каб не прамакалі боты, вельмі часта ў падэшву клалі слой бяросты, яе накрывалі скурай, потым рабілі дзірачкі шылам і двума радкамі вось гэтых гваздкоў прыбівалі скуру да падэшвы чаравіка альбо ботаў. Былі боты й на цьвіках, і на рантах. Боты на рантах, прашытыя дратвай, даражэйшыя. Самая цікавая гісторыя ў шавецтве — гэта зьяўленьне мэталёвых цьвікоў. Яны ўжо зьвязаныя з абцасам і падкоўкай на абцас. А самі абцасы ў Беларусі зьявіліся ў канцы XV — пачатку XVI стагодзьдзя. Спачатку ў вайскоўцаў, у кавалерыстаў, бо на абцас добра чапляць шпору. Толькі ў XVIII стагодзьдзі абцас выробляюць з калодкі драўлянай, абцягваюць скурай і зьнізу падкоўку ўжо прыбіваюць цьвікамі жалезнымі. А ў парадных жаночых ботах, альбо чобатах, у якіх шляхцянка ішла да касьцёлу ці на вясельле, выкарыстоўваліся медныя цьвічкі, бо на гэтыя боты прыбі-

валіся адмысловыя медныя накладкі, кавалачкі каляровай скуры, і медны цьвічок быў вельмі цікавым элемэнтам жаночага параднага абутку. Выкарыстоўвалі такія медныя цьвічкі да сярэдзіны XX стагодзьдзя.

*— У кнігах Магілёўскага магістрату згадваецца болей за трыццаць варыянтаў выкарыстаньня «кхвасткоў», як там пішацца. Што гэта за варыянты, апрача ўжо згаданых?*

— Падчас археалягічных раскопак, асабліва Мірскага, Крэўскага й іншых замкаў, мы сабралі велізарную колькасьць цьвікоў розных памераў і розных формаў. Яны ўжываліся многа дзе. Асабліва прыгожыя былі цьвічкі, якімі прыбівалі жалеза да куфраў ці да абцягнутых скурай кніг. Захоўваецца да нашых дзён традыцыя абабіваньня дэкаратыўнымі цьвічкамі мэблі. А ювэліры часам выкарыстоўвалі срэбныя цьвічкі.

*— Ці даражылі беларусы цьвікамі? Ці надавалі ім нейкі большы сэнс, чым простай прыладзе для працы?*

— Па-першае, ашчадны гаспадар разумеў, што цьвік ня танны, і не марнаваў іх. А пасьля пажару селянін ці месьціч прыходзіў на месца спаленага дому, зьбіраў цьвікі, чысьціў і зноў выкарыстоўваў. Па-другое, гэта яшчэ было й сымбалем аднаўленьня. Ёсьць запісы, якія пацьвярджаюць гэты звычай — зьбіраць на пажарышчы цьвікі й зноў выкарыстоўваць. Фактычна, яны ад агню не псаваліся, іх можна было забіць і другі, і трэці, і чацьверты раз. Традыцыя выкарыстоўваць старыя цьвікі сьведчыць таксама й пра павагу да кавальскай працы.



## ШАХМАТЫ — НАРОДНАЯ ГУЛЬНЯ

*Размова з Алегам Трусавым*

**З усіх гульняў самай інтэлектуальнай зьяўляецца гульня ў шахматы. Паводле папулярнасьці шахматаў у той ці іншай краіне можна меркаваць і пра інтэлектуальны ўзровень нацыі. Стагодзьдзямі эўрапейцы гулялі ў шахматы, і беларусы не былі выключэньнем. Пра пашыранасьць шахматаў у розны час і на розных тэрыторыях гаварыць не складана, бо ў гэтую інтэлектуальную гульню гуляюць фігуркамі, якіх так шмат знаходзяць археолягі. Фігуркі ж нясуць сьведчаньні й пра побыт, і пра культуру нацыі, і пра шматлікія гістарычныя падзеі.**

*— Але ўсё па чарзе. Найперш — якім часам датуецца самая старажытная шахматная фігурка з усіх, што знайшлі на беларускіх землях?*

— Тая шахматная фігурка, што была знойдзеная на гарадзішчы, дзе ўзьнік старажытны Менск, ня толькі самая старажытная на беларускай тэрыторыі, а й ва ўсёй Усходняй Эўропе. Датуецца яна XI стагодзьдзем.

*— А ўвогуле, калі й дзе ўзьнікла гэтая гульня — шахматы?*

— Большасьць дасьледчыкаў прыйшлі да высновы, што шахматы ўзьніклі ў старажытнай Індыі дзесьці ў V—VI стагодзьдзях. Старажытнаіндыйскія шахматы адрозьніваліся ад сёньняшніх. Там адначасна на шахматнай дошцы гулялі чатыры чалавекі й чатыры шахматныя войскі. У індусаў гэтую гульню запазычылі арабы. Адбылося гэта ў VII—VIII стагодзьдзях. Менавіта дзякуючы арабам шахматы рознымі шляхамі трапілі ў Эўропу.

*— Як выглядалі самыя першыя шахматныя фігуры?*

— У старажытнай Індыі кожная фігура мела сваю канкрэтную скульптурную выяву й была шэдэўрам пластыкі. Калі быў шахматны слон, дык гэта баявы слон, калі быў шахматны шах — дык гэта раджа ці візір; пешка, адпаведна, была са зброяй. Арабам было забаронена Кур'анам рабіць выявы жывых істотаў, і яны так стылізавалі індыйскія шахматы, што засталіся толькі нейкія намёкі на людзей ці жывёлаў. Цікава тое, што ў Беларусі існавалі дзьве традыцыі вырабу шахматных фігурак — стылізаваныя шахматы й шахматы-выявы як творы мастацтва.

*— Якім шляхам шахматы трапілі ў Беларусь?*

— Было некалькі шляхоў, якімі шахматы трапілі ў Эўропу. Адзін зь іх — усходні. Дасьледчыкі зрабілі выснову, што ва Ўсходнюю Эўропу шахматы маглі трапіць волскім шляхам, шляхам з «варагаў у грэкі» й праз славуты Хазарскі каганат. Ня трэба забывацца, што радзімічы пэўны час плацілі даніну хазарам. Хутчэй за ўсё, гэта й ёсьць шляхам шахматаў у Беларусь.

*— У які пэрыяд гісторыі Беларусь была найбольш шахматнай краінай?*

— У XI—XIII стагодзьдзях. Шахматныя фігуркі гэтага часу знойдзеныя літаральна ў кожным беларускім горадзе. Калі мы паглядзім на археалягічную мапу шахматных знаходак ва Ўсходняй Эўропе, Беларусь займае там пераважнае месца.

*— Шахматы — традыцыйны сувэнір. Над вырабам шахматных фігураў працуюць мастакі. Ці быў такі звычай у Беларусі?*

— Быў. Прыкладам, у альбоме «Пластыка Беларусі» зьмешчана пяць унікальных шахматных фігураў:





ладзьдзя, знойдзеная ў Горадні, вырабленая з прыгожага каменя;
унікальны латнік — пешка-барабаншчык з Ваўкавыску;
шахматная ладзьдзя з Ваўкавыску;
унікальны кароль зь Берасьця;
унікальная фігура фэрзя, знойдзеная ў Лукомлі.
Гэтыя шэдэўры мастацтва абышлі ўсе энцыкляпэдыі, падручнікі й кнігі пра старажытныя шахматы.

*— Вы назвалі некаторыя шахматныя фігуры ня так, як яны гучаць цяпер. Як у беларусаў раней называліся шахматныя фігуры?*

— У выдатнай прыпавесьці Ўладзімера Караткевіча «Ладзьдзя роспачы» герой гуляе ў шахматы са сьмерцю. Пісьменьнік у гэтым эпізодзе адрадзіў старажытныя назвы фігураў. Ладзьдзя — тыповая назва фігуры ў славянаў, бо ў індусаў ладзьдзя называлася «баявой калясьніцай», дый гэтак і выглядала. Арабы мадэрнізавалі гэтую калясьніцу, назваўшы яе «рух» — мітычная птушка зь вялікімі крыламі. А ў эўрапейцаў ладзьдзя называлася «вежай» альбо «турой». Вось жа і ў беларускай шахматнай тэрміналёгіі дзьве назвы адной фігуры — «ладзьдзя» й «тура». Цяпер — фэрзь. Караткевіч яго правільна назваў «візір» — дарадца караля. Славяне запазычылі слова «фэрзь», а эўрапейцы фэрзя назвалі «каралевай». Назва «слон» ідзе ад індусаў. Гэтая фігура ў баўгараў называлася «афіцэрам». Беларусы выкарыстоўваюць таксама дзьве назвы. У заходнеэўрапейскай традыцыі каня называлі «вершнікам» (гэта ня проста конь, а вершнік на кані). Пешка, альбо пешцы (так называлі славяне пяхоту ў VIII—IX стагодзьдзях) — старажытнаславянскага паходжаньня. Караткевіч называе гэтую фігуру «латнік». І мне здаецца, што гэтая назва дакладная, бо раней існавалі ўзброеныя пешыя латнікі.

*— Зь якога матэрыялу рабілі шахматы ў Беларусі?*

— Найпрасьцейшыя шахматы былі з дрэва. Іх найбольш і знаходзяць археолягі. Даражэйшыя выразаліся з косьці. Дарэчы, былі выяўленыя рэшткі адмысловых майстэрняў. Адну з такіх майстэрняў, дзе выразалі шахматы, археолягі знайшлі ў Друцку, а мне пашанцавала касьцярэзную майстэрню знайсьці ў Амсьціславе — там выразалі шашкі. А калі выразалі шашкі, то маглі выразаць і шахматы. Рабілі шахматы й з каменя. Такую ўнікальную ладзьдзю знайшлі ў Горадні.

*— Напэўна, у шахматы гулялі пераважна ў магнацкім асяродзьдзі?*

— І пра гэта сьведчаць археалягічныя знаходкі. Унікальныя шахматы былі знойдзеныя падчас раскопак Троцкага замку — аж дзесяць фігураў. Гэта гаворыць аб тым, што двор вялікага літоўскага князя любіў гуляць у шахматы.

*— Якога памеру былі старадаўнія шахматы?*

— Пераважна ня вельмі вялікія. З раскопак XII—XIII стагодзьдзяў мы маем самыя вялікія на чатыры-пяць сантымэтраў. У позьнім Сярэднявеччы — на сантымэтар большыя. А ў Віцебску знайшлі ўвогуле мініятурныя шахматы — вышыня фігуркі дваццаць мілімэтраў. Відавочна, што гэта дарожныя шахматы.

*— Ці ёсьць нейкія зьвесткі пра шахматныя спаборніцтвы, чэмпіянаты ў шахматы ў даўнія часы?*

— Ёсьць. Першыя чэмпіянаты ў Эўропе пачынаюцца ў эпоху Адраджэньня, у XVI стагодзьдзі. У іх асабліва актыўна ўдзельнічалі гішпанцы й італьянцы. Дарэчы, адзін з кастыльскіх каралёў у XIII стагодзьдзі выдаў цэлую кнігу, прысьвечаную тэорыі гульні ў





шахматы. Яшчэ раней падобныя кнігі выдавалі пэрсы. Калі верыць Уладзімеру Караткевічу, то такія чэмпіянаты былі і ў старажытнай беларускай дзяржаве. Ён ня раз іх апісваў у сваіх мастацкіх творах. Зрэшты, ня толькі Караткевіч апавядаў пра гэтую гульню. Тлумачальны слоўнік беларускае мовы артыкул «шахматны» ілюструе цытатай зь Якуба Коласа. І Якуб Колас, і Янка Купала вельмі часта зьбіраліся гуляць у шахматы, падчас гульні маглі пасварыцца й потым вельмі доўга мірыліся пасьля таго, як не падзялілі нейкай шахматнай фігуры. У XX стагодзьдзі шахматы сталі ў Беларусі сапраўды народнай гульнёй. Колас апісвае, як у Менску гулялі ў шахматы на вуліцах, у парках, а за сьпінамі гульцоў стаялі гледачы-заўзятары. У 1920-я гады ў БССР ужо адбыліся першыя спаборніцтвы — спачатку сярод мужчынаў, а потым і сярод жанчын. Дастаткова прыгадаць выдатнага беларускага шахматыста Барыса Гельфанда, які быў чэмпіёнам Эўропы, чэмпіёнам СССР сярод юнакоў, а ў 1994 годзе ён займаў сёмую пазыцыю ў сьвеце. У 1970—1980-я ўзьніклі шахматныя клюбы, у Менску пабудавалі Палац шахматаў і шашак. І сёньня Беларусь яшчэ мае нядрэнных шахматыстаў, але пазыцыі на міжнароднай арэне губляе. Цяперашняя ўлада ня любіць інтэлектуальных гульняў, аддае перавагу хакею ды ролікавым лыжам.

## ПАДРОБКІ Й ПАДРОБНІКІ

*Размова зь Нінай Здановіч*

**Сучасная побытавая культура — гэта культура, якая сваёй матэрыяльнай падставай мае падробкі. Большасьць рэчаў, якія нас атачаюць, узьніклі ў выніку капіяваньня, імітацыі, стылізацыі. Мы марым пра арыгіналы высокай якасьці й мастацкай вартасьці. А задавальняемся звычайна падробкамі, хоць і ставімся да іх скептычна. Але гісторыя даказала, што шляхам да высокіх узораў вельмі часта была падробка, а часам падробка станавілася больш каштоўнай за арыгінал. Вось жа эўрапейскае мастацтва эпохі Адраджэньня дало шэраг прыкладаў, калі творца пачынаў з імітацыі, са спробы паўтарыць антычны ідэал, а завяршаўся працэс стварэньнем уласнага, высокага паводле мастацкіх вартасьцяў, твору. Беларускія археолягі таксама гавораць, што яны знаходзілі шмат падробак, якія маюць і самастойную вартасьць.**

*— Дык з чаго ўзьнікалі беларускія падробкі? Зь перайманьня эўрапейскіх узораў?*

— У Беларусі, як ва ўсіх краінах Эўропы, высокае, прыгожае, недасяжнае было штуршком у розных галінах творчасьці й вытворчасьці. Прыкладам, была паліваная кераміка, якая прыйшла зь Нямеччыны ў канцы XV стагодзьдзя, але спачатку яна была недаступная для бальшыні насельніцтва краіны. Вось і ўзьнікла задымленая кераміка, якая паўтарала формы паліванай, а вонкавы воблік — мэталёвага посуду. Тут як бы два арыгіналы зьліліся ў вобразе зусім новым, зусім іншым, але прататып улоўліваецца. Пройдзе літаральна стагодзьдзе, і вось гэтая задымленая кераміка ператворыцца ў традыцыйную, шыкоўную, глянцаваную кераміку. Прататыпу ў ёй мы ўжо ня знойдзем, калі ня ведаем вось гэтага ланцужка. Але зьява застаецца, і натхненьне чэрпаецца менавіта там, у канцы XV стагодзьдзя.

*— У якія пэрыяды — стваральныя ці крызісныя — найбольш вырабляюць падробак?*

— Відаць, у стваральныя, а ня крызісныя. Прыкладам, 30-я гады XVIII стагодзьдзя. Радзівіл засноўвае свой парцалянавы цэх у Сьвержані. І майстар, і абсталяваньне былі эўрапейскія, тут стваралі арыгінальныя экзэмпляры посуду. І ў гэты час адбываецца росквіт уласнай маёлікі й расьпісной керамікі, якая імітуе маёліку, а маёліка мае за арыгінал фаянс.

*— Ці былі падробкі, якія ва ўяўленьні грамадзтва або дзяржавы станавіліся небясьпечнымі, зь якімі змагаліся?*

— Дзяржава баялася найбольш падробак, зьвязаных з грашовай сыстэмай. У Статуце ВКЛ 1588 году зьяўляецца артыкул, які папярэджвае гэтак званых клепачоў, якія хацелі або імкнуліся зарабіць грошы на такіх падробках:

***Тыя ж, хто б манэту нашу падрабляў, пераплаўляў і абразаў, а таксама майстры манэтнай справы нашай, што золата, срэбра ды іншыя матэрыялы, якія належаць і прызначаюцца грашовай справе, падраблялі б, зьлівалі, зьмешвалі для сваёй карысьці й дзеля шкоды дзяржавы, і тое было б на іх даказана, тыя павінны быць пакараныя сьмерцю без шкадаваньня. Таксама й ювэліры, якія золата й срэбра падрабляюць і зьмешваюць медзь, цынк ці волава й гэта было б даказана, тады яны павінны быць пакараныя сьмерцю агнём, а зь іхнай маёмасьці таму, каму прычынілі шкоду, павінна быць выплачана.***

*— А ювэліры, залатары? Як ставілася грамадзтва да іхных падробак?*

— Залатары, ювэліры стаялі на другім месцы паводле шкоднасьці для дзяржавы пасьля тых, хто падробляў манэты. І таму ў дакумэнтах усьлед за клепачамі згадваюцца менавіта залатары, якія імкнуліся выдаць пазалочаную рэч за залатую. Ёсьць сьведчаньне, як два залатары-магілёўцы адзін на аднаго даносяць за тое, што адзін зь іх выдаў лятунную пазалочаную рэч за залатую. Самі залатары былі зацікаўленыя, каб не было падробак. Цэхавыя статуты пільна сачылі за якасьцю сваёй прадукцыі й за тым, каб яна не падраблялася. Гэтаму ж майстры вучылі сваіх вучняў.

*— А ці не займалася сама дзяржава падробкамі?*

— Дзяржава была самай бессаромнай падробніцай — і найперш грошай. У сярэдзіне XVII стагодзьдзя пачалі выпускаць шэлегі. Яшчэ ў літаратуры іх часам называлі «барацінкамі», якія паводле рэальнага кошту мелі 15 адсоткаў ад намінальнага. Людзі мусілі прымаць тыя грошы за сапраўдныя, і нагэтулькі яны былі абясцэненыя, што нават ужо іхныя падробкі былі лепшай якасьці за афіцыйныя. Як вынік, рынак або браў і адно, і другое, або ня браў ані дзяржаўных, ані падробленых клепачамі. Яшчэ адзін выпадак, ужо з часу Расейскай імпэрыі. З 1839 па 1848 гады дзяржава выпускала медную манэту, на якой было напісана: «1/4 капейкі срэбрам», «3 капейкі срэбрам». Але нават дзіця бачыла, што гэта звычайная медзь. Такая хлусьня тлумачыцца спробай дзяржавы выйсьці зь фінансавага крызісу. У існасьці, выраблялся грошы, якія нічым не былі падмацаваныя. І фінансавая катастрофа толькі адкладалася ў часе.

*— Каб нешта падрабіць, трэба бачыць, як яно вырабляецца. Ці можна казаць, што і ў вельмі даўні час існаваў шпіянаж у галіне тэхналёгіяў?*





— Хутчэй за ўсё, можна. Мы мяркуем пра гэта хаця б са статутаў цэхаў. Першае, чаго яны патрабавалі, гэта каб чалавек трымаў язык на прывязі. У сярэднявечны можна было набыць на рынку парашок, які даваў паліву для керамікі, але нельга было даведацца пра ягоны склад. Сакрэт належаў майстру.

***Вельмі важна, каб тое, пра што кажуць у цэху, не выходзіла за парог і не разносілася. Гэтага аднадушна патрабуе цэх. Калі ж хто-небудзь адважыцца гэтае патрабаваньне парушыць і ў яго будзе часацца язык, дык, калі гэта будзе даведзена, ён мусіць будзе заплаціць у цэх паўкаменя воску столькі разоў, колькі разоў ім зроблена парушэньне, без усялякае ласкі.***

*— Калі параўнаць зь іншымі народамі — беларусы былі большымі ці меншымі падробнікамі?*

— Дзяржава імкнулася яшчэ з XIV стагодзьдзя мецца менавіта майстроў, якія б рабілі рэчы арыгінальныя. Калі іх не было, тады імкнуліся быць ня горшымі за людзей. Можна сказаць, што беларусы былі даволі хітрыя, прыкладам, у паліванай кераміцы. Яны запазычылі форму, якая была распаўсюджаная менавіта ў Нямеччыне, — гаршкі на трох ножках, але дапасавалі яе да сваіх патэльняў, што адпавядалі гэтай форме. На грунце чужой ідэі зрабілі свой арыгінальны посуд.

*— Відавочна, што падробкі, імітацыі моцна паўзьдзейнічалі на разьвіцьцё самабытнай нацыянальнай культуры. А ці паўплывала падробка на ход гісторыі?*

— Напэўна, уплывала. Вось жа Рэч Паспалітая ў XVII стагодзьдзі ад падробкі рэчаў перайшла, калі можна так сказаць, на падробку людзей. Усе ведаюць, хто такія Ілжэдзьмітры I і Ілжэдзьмітры II. Так, энцык-

ляпэдыі даюць нам фразу: «Паходжаньне ня высьветленае». Але, калі пакапацца ў біяграфіі аднаго й другога, дык мы знаходзім іхныя сьляды на Магілёўшчыне — Шклоў, Магілёў. Асобы або аднаго, або другога ўзьнікаюць пры двары Лява Сапегі. Была спроба (праўда, няўдалая) зрабіць і яшчэ аднаго царэвіча, Ілжэдзьмітрыя III. Гэта Ян Луба, што таксама жыў пры двары Лява Сапегі, якога выхоўваў Апанас Філіповіч. Але тут атрымалася так, як у «Тарасу Бульбу»: «Я цябе парадзіў, я цябе й заб'ю». Калі ўжо Ян Луба «внедрился в Российский двор», Апанас элемэнтарна зрабіў данос на гэтага Яна Лубу, расказаў, што гэта была за асоба й зь якою мэтаю ён туды трапіў.

— *Адна падробка спараджае іншую?*

— Так. Але падробкі нельга множыць да бясконцасьці. Прыкладам, Ілжэдзьмітры I быў падробкаю пад царэвіча Дзьмітрыя, Ілжэдзьмітры II — пад Ілжэдзьмітрыя I. Трэцяя спроба пацярпела крах, таму што час аддаляў падробку ад арыгіналу, і сцэнар размываўся.

— *А ці падраблялі іншыя народы беларускае?*

— Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай была як бы рэтрансьлятарам заходніх традыцыяў. Кожная краіна ня толькі спажывае, але й перадае. Беларусь вельмі пасьпяхова выконвала такую ролю, перадаючы іншым народам узоры керамікі, кафлі, пазалочанае разьбы. Пераймальнасьць традыцыі падробак — гэта адзін з прынцыпаў засваеньня новага. У культурным пляне беларусы былі адкрытым народам, яны пераймалі тое, што ім было трэба, і спакойна дзяліліся зь іншымі народамі сваімі здабыткамі.



## ШТО СМАКУЕ БЕЛАРУСАМ

*Размова з Тодарам Кашкурэвічам*

**На мяжы XX—XXI стагодзьдзяў істотная частка чалавецтва сутыкнулася з праблемай, якую яшчэ некалькі дзесяцігодзьдзяў таму цяжка было нават уявіць, а менавіта — з атлусьценьнем. У ЗША гэта назвалі ня меншай небясьпекай для нацыі, чым паленьне тытуню. Таўсьцеюць і эўрапейцы. Людзі ядуць шмат і, выглядае, без разбору, ігнаруючы й гістарычныя нацыянальныя традыцыі, і ўласныя звычкі, і засьцярогі лекараў. Часам у рэстарацыях, асабліва курортных гатэляў, падаецца, што сьвет ператвараецца ў нейкую сюррэалістычную фабрыку зьнішчэньня харчоў, дзе людзі, як ненажэрныя машыны, паглынаюць усё, што на відэлец патрапіць.**

— *Дык ці ня ёсьць яда адно толькі сьвятам жывата?*

— Ядa такой была тады, калі чалавек яшчэ ня быў чалавекам, і яго мала што розьніла ад жывёлы. Зьяўляючыся элемэнтам прыроды, ежа ў сьвядомасьці чалавека ператвараецца ў элемэнт культуры. І вось, калі чалавек пачаў сымбалізаваць ежу, уключаць яе ў схему сакральных уяўленьняў, чалавек стаў чалавекам, індывідуальнасьцю, часткай этнасу, нацыі, рэлігійнай супольнасьці.

— *Як успрымалася харчаваньне ў паганскі час?*

— Ежа падзялялася на прафанную, гэта значыць звычайную, якой наталялі голад штодня, і на зьвязаную са сьвятамі. Адпаведна каляндарным звычаям ужываліся й пэўныя стравы. Вядома, што Каляды не абыходзяцца без падсьвінка, індыка або гусака. Ахвярапрынашэньне сьвіньні на Новы год — вельмі старадаўні абрад, паралель зь якім можна знайсьці ў шэрагу індаэўрапейскіх народаў. Вядомыя спажываньне яйка на Вялікдзень і ячні на Купальле.

— *А ці не з паганскага часу адна з самых любімых беларусамі страваў — клёцкі з душамі? Мясную начынку чамусьці назвалі душамі...*

— Клёцкі з душамі пераважна гатавалі на Дзяды. Не заўсёды клёцкі начыняюць толькі мясам. Іх начыняюць яшчэ й грыбамі, і цыбулькаю, і скваркамі. Але ўсё гэта называюць душамі, мяркуючы, што праз рытуальнае паяданьне гэтай стравы душы памерлых усяляюцца ў сьвядомасьць нашчадкаў, якія ўдзельнічаюць у рытуале.

— *Людзі здабывалі ежу ў прыродзе, зьнішчаючы яе дзеля харчаваньня, а значыць, свайго фізычнага выжываньня. Але ж тыя самыя людзі мелі пэўныя маральныя засьцярогі адносна навакольля. Як разьвязвалася гэтая супярэчнасьць?*

— Тэрыторыя, якую насялялі нашы продкі, уяўляла сабою суцэльную лясную зону. Адпаведна й харчаваньне тутэйшага люду было зьвязанае са зьбіральніцтвам. І напраўду людзі, што жылі тут у лясах, не адчувалі татальнага голаду. Лес даваў птушку, грыбы, ягады, рознае бацьвіньне. Я ўжо не кажу пра ўпаляваную жывёліну альбо вылаўленую рыбу ў лясных азёрах. Зьяўленьне монакультураў — пшаніцы, жыта, ячменю — істотна памяняла псыхалёгію людзей, іхнае бачаньне сьвету. Каб пасеяць жыта, трэба выкарчаваць лес. Гэта вельмі цяжкая праца, трэба было аддаць шмат сілаў, каб вырасьціць тую ж пшаніцу — а яшчэ невядома было, ці дасьць яна добры ўраджай. Мы тут сутыкаемся й са зьменаю псыхалягічнага тыпу нашага чалавека, і са зьменаю ляндшафту. А гэта выклікала й зьмены сакральных уяўленьняў.

*— Вызначальным у часе яды зьяўляецца смак. Цікава, што адчуваньне смаку зусім не індывідуальнае. У шырокім сэнсе — тое, што смакуе беларусам, зусім можа быць нясмачным грузіну. Смакавыя прыхільнасьці, напэўна ж, фармаваліся яшчэ да ўзьнікненьня нацыяў...*

— Традыцыйным культурам, у тым ліку й беларускай, уласьцівыя кансэрватыўнасьць кухні й кансэрватыўнае перажываньне смакавых пачуцьцяў. Найважнейшы прынцып традыцыйных культураў — паўтарэньне таго, што стварылі напачатку багі альбо продкі. Яда непасрэдна зьвязаная з маральнымі каштоўнасьцямі. Асабліва выразна гэта відаць у традыцыйнай вясковай культуры. З аднаго боку, вельмі жорстка гадаваць курэй, сьвіней, кароваў дзеля таго, каб пасьля іх зарэзаць і зьесьці. Зь іншага боку, менавіта сялянская грамада выяўляе найбольшую маральнасьць у стаўленьні да гэтай праблемы. Такое стаўленьне больш маральнае, чым забіцьцё жывых істотаў у «канцэнтрацыйных лягерах для жывёлаў» — на птушкафабрыках ці сьвінафэрмах, бо яно масавае, мэханічнае, вытворчае. У сялянскай грамадзе іншае. Бабуля альбо дзядуля любяць сьвінку, любяць кураня. Часта можна ўбачыць на вёсцы сцэнку, калі бабуля паказвае гаспадарку свайму гарадзкому ўнуку й кажа наступнае: «Вось, Сярожа, паглядзі, якая сьвінка ладная, пачухай яе, узімку будзем кілбасы есьці...». І тут няма супярэчнасьці. Яна любіць гэтую жывёліну, усьведамляе ейную ахвярнасьць. У старажытнасьці гэта й называлася «ахвярай». Забіцьцё жывёлы мела найвышэйшы, сакральны сэнс. Найвышэйшы ж сэнс ахвяры — забіцьцё прадмету любові. Зрэшты, і ядзеньне, і сэксуальны акт сымбалічна блізкія. Яны часта азначаюцца аднымі й тымі ж словамі. Нават сучасны чалавек у апагеі каханьня можа сказаць свайму партнэру: «Гэтак цябе люблю, што аж зьеў бы!».



беларуская Атлянтыда

*— Вытокі рэлігійных, культурных кодаў харчаваньня — у архаічным сьвеце. Але існуюць і нацыянальныя стэрэатыпы. Так, немцы маюць мянушку каўбасьнікаў, італьянцы — макароньнікаў. Украінцаў зьвязваюць з салам. А беларусаў за савецкім часам называлі бульбашамі. Але ж бульба зьяўляецца ў Беларусі толькі пры канцы XVIII стагодзьдзя. Што ж адбылося? Чаму беларусаў назвалі бульбашамі?*

— Найперш трэба ўсьвядоміць, што не заўсёды беларусы былі беларусамі. У розны час нас называлі рознымі імёнамі — пачынаючы ад легендарных плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў, яцьвягаў. Урэшце наш народ быў названы ліцьвінамі. Цікава, што гэтая назва зьвязаная й з кулінарным кодам, як тое, што «ліцьвіны спажывалі шмат бацьвіны». Вядомая калядка, як ліцьвіны прыносяць Езусу бацьвіньне: «Ах, вы глупыя ліцьвіны, ды ня есьць Езус бацьвіньня...». Папулярнымі былі й жарты польскай шляхты зь літоўскай: «Czy u waszego Radziwiła bocvinie się urodziło?». Гэтым самым спрабавалі абразіць мясцовую шляхту, маўляў, найбагацейшы й вельмі ўплывовы магнат ня толькі харчуецца бацьвіньнем, але й вырошчвае яго. Але нічога абразьлівага ў гэтым не было. Беларусы, вядома, не былі вэгетарыянцамі, і ядзеньне мяса было дастаткова пашыранае, але шырока ўжывалі ў ежу й бацьвіньне. А бацьвіньнем называлі ня толькі вяршкі буракоў, але й цыбулю, кроп, пятрушку, лебяду, крапіву, шчаўе. У той час, калі мы былі ліцьвінамі й елі бацьвіньне, мы былі актыўным народам — ініцыятыўным і з пачуцьцём годнасьці, у добрым сэнсе нават агрэсіўным. Гэты народ здольны быў весьці ня толькі абарончыя, але й наступальныя войны. Парадаксальна, але з таго часу, калі тутэйшыя людзі пачалі масава, рэгулярна спажываць бульбу, нацыянальны стэрэатып памяняўся. Да таго, што беларус-бульбаш памяркоўны, талерантны, рахманы, я дадам

яшчэ, што ён бязвольны й абыякавы. Такім чынам, зважаючы на кулінарны аспэкт культуры, можна казаць і пра эвалюцыю нацыянальнага характару. Тым болей, што, як лічаць біёлягі, бульба ёсьць нечым накшталт наркотыку, бо мае ў сваім хімічным складзе рэчывы, якія заспакойваюць чалавека, робяць яго памяркоўным, меней агрэсіўным.

*— Выглядае так, што пераход на новую ежу супаў у часе са зьменай назвы самой нацыі?*

— На мой погляд, і паўплываў. Цывілізацыя зацікаўленая ў зьмене сьвядомасьці этнасаў, нацыяў, народаў. Гэта зьвязана з паноўным рынкам. Вядома, каб смак жуйкі альбо кока-колы падабаўся як мага большай колькасьці людзей па ўсім сьвеце, трэба падагнаць чалавецтва пад унівэрсальнае адчуваньне смакаў. На нашых вачах адбываецца вайна смакаў, дзе адны культуры імкнуцца замясьціць сабою іншыя.

*— Сучасны сьвет адкрыты да міжнацыянальных культурных кантактаў, размываюцца й межы нацыянальных кухняў. Шмат беларусаў з задавальненьнем ядуць і жабы па-французску, і кенгуру па-аўстралійску... Прызвычайваецца сучасны чалавек і да сынтэтычных смакаў. Якія культурныя наступствы мае ці можа мець гэты працэс?*

— Як з майго погляду, чалавека з традыцыяналісцкімі перакананьнямі, гэта вядзе да жахлівай прышласьці, калі чалавецтва будзе адзінай масай з аднастайнымі пачуцьцямі, эмоцыямі й, натуральна, іхнай рэалізацыяй у культуры й рэлігіі. Захаваньне ўласнай кухні, уласных кулінарных традыцыяў, стэрэатыпаў смаку зьяўляецца для кожнага этнасу, для кожнай нацыі формай захаваньня сваёй ідэнтычнасьці.



## СЕЛЯДЗЕЦ ПА-БЕЛАРУСКУ

*Размова з Алесем Белым*

**Славуты Караль Радзівіл Пане Каханку вельмі любіў выхваляцца самім жа прыдуманым раманам, які ён нібыта аднойчы меў з сырэнай на Адрыятычным моры, і ў выніку якога быццам бы нарадзіліся 100 тысяч селядцоў. А вось анэкдатычны, але абсалютна праўдзівы выпадак з 1820 году, пра які потым яшчэ некалькі дзесяцігодзьдзяў памятала ўся Менская губэрня. В. Дунін-Марцінкевіч апісвае яго ў паэме «Вечарніцы». Лянівы й дурнаваты селянін Зьміцер з Лошыцы, маёнтку графа Прушынскага, прадаўшы ў Менску на рынку цялушку й атрымаўшы за яе пяцірублёвую асыгнацыю, гэтак званую сіненькую, купіў у дарогу за шэлег селядца, і не знайшоў нічога лепшага, як пакласьці яго ў тую самую кішэню, дзе ляжала сіненькая. Дарогай дадому ў Лошыцу Зьміцер завітаў у карчму ў Серабранцы й надумаў падсілкавацца селядцом, ну й, вядома, абмыць удалы гешэфт зь цялушкай:**

***Зьміцер за цялушку як сіню ўзяў,
Рад з торгу, у кішэню зараз улажыў,
Пасьля селядца як за шэлег купіў,
Здуру, гдзе бумажка, туды ж яго ўклаў.
Сіня да мокрага селядца прыстала,
Дый між зубоў Змітра разам зь ім папала,
А баш як квацеркай мазгі задурэў,
Не глядзя, зь селядцом бумажку ён зьеў.***

***Скора зьвінуўся! Галоўка, хвасток
Ад селядца, баш, толькі асталіся;
Вочы працёр, рэштку павярнуў рабром
Ад страху валасы дыбам падняліся!***

***Баш, ля галоўкі бумажкі кусочак***
***Прыліп, маўляў, дубовы лісточак.***

***Галавой аб сьцену б'ець,***
***Воласы на сабе рвець,***
***Рукі ломіць ды галосіць,***
***Рэштку сіненькай к карчмару падносіць:***
***«Мой жа ты бацечка! Мой ты селязенька!***
***Да дай жа ж раду, што мне тут рабіць?***
***Хоць ідзі тапіся — нельга далей жыць».***

**Суцешыць бедака можа хіба тое, што ён трапіў у літаратуру. Трапіў туды й селядзец. Здаецца, таксама не выпадкова.**

*— Хто яшчэ з творцаў у Беларусі апісваў селядца?*

— Як на мой погляд, найлепей увечніў нашага селядца выбітны мастак Марк Шагал, сын беднага разносчыка селядцоў зь Віцебску. Селядцы літаральна рассыпаныя па ягоных творах. З аднаго боку, яны служаць напамінам пра мізэрнае правінцыйнае дзяцінства, але вельмі часта ў Шагала яны ж сымбалізуюць няўмольны час, які высьлізгвае з рук, як селядзец:

***Мой дзед не знайшоў нічога лепшага, як з самога дзяцінства ўладкаваць свайго старэйшага сына рассыльным да гандляра селядцамі... Канечне, у рассыльных бацька не застаўся, але за трыццаць два гады не пайшоў далей за рабочага. Ён перацягваў аграмадныя бочкі, і маё сэрца трэскалася пры відзе таго, як ён варушыць гэты цяжар ці дастае селядцы з расолу адубелымі рукамі. А тлусты гаспадар стаіць побач як пудзіла. Вопратка бацькі была вечна запырскана селядцовым расолам. Бліскучыя лускавінкі так і сыпаліся ва ўсе бакі. Калінікалі ж ягоны твар, то зьмярцьвелы, то жаўтавата-бледны, асьвятляўся слабай усьмешкай...***





*— Чаму селядзец гэткі папулярны ў беларусаў? Чаму ён рабіўся мэтафарай у народнай сьвядомасьці й літаратуры? Няўжо селядцы, якія так любілі дый любяць беларусы, чымсьці адрозныя ад селядцоў, прыкладам, расейскіх?*

— Вядома, нашы селядцы нічым ня розьняцца ад тых, што ядуць жыхары Расеі, Польшчы ці Прыбалтыкі. На іхныя й нашы сталы, як і пяць стагодзьдзяў таму, селядцы трапляюць з Балтыкі ці Паўночнай Атлянтыкі. Паводле «нацыянальнасьці» нашы селядцы былі радчэй галяндзкімі, швэдзкімі ці шатляндзкімі. А вось што важна: доўгі час гэтая рыба займала ня толькі асаблівае месца ў нашым кухарстве, але нават і ў эканоміцы. Месца знакавае, сымбалічнае. Гэтая сымбалічнасьць пакінула сьлед і ў выяўленчым мастацтве, і ў літаратуры. Вось у гэтым сэнсе й можна казаць пра беларускага селядца — не як пра біялягічнае паняцьце, а як пра культурны фэномэн. Зрэшты, каб зразумець гэта, дастаткова прайсьціся па польскіх рэстаранах. «Селядзец па-польску» — з адмысловым соўсам з цыбулі, сьмятанкі й цытрынавага соку — адна зь фірмовых страваў польскай кухні, своеасаблівая візытоўка краіны. Наш традыцыйны селядзец з алеем і цыбуляй, які й сёньня, як дзьвесьце ці трыста гадоў таму, застаецца ці ня самай даступнай закускай у беларускіх рэстаранах, — ён ёсьць спрошчаным варыянтам гэтай жа стравы. Можна сказаць, калі мы ямо такі селядзец (у рэстаране ці дома), мы несьвядома працягваем традыцыю, закладзеную яшчэ ў час Вялікага Княства й Рэчы Паспалітай.

*— Чаму так цяжка адрозьніць традыцыйную беларускую кухню ад польскай, літоўскай ці габрэйскай?*

— Бо калі хтосьці з народаў былой Рэчы Паспалітай рабіў нейкае вынаходніцтва ў кухарстве, дык яно праз

пэўны час трапляла й да іншых. Так адбылося, напрыклад, з халаднікам — стравай, вынайдзенай недзе на беларуска-літоўскім памежжы, але дакладна ў Вялікім Княстве. Дык вось, палякі доўгі час кпілі зь яго, лічачы стравай барбарскай, хлопскай. Але недзе ў XVIII стагодзьдзі «hłodnik litewski» стала прапісаўся і ў польскай кухні.

*— Ад каго пайшла мода на селядцоў? І калі селядцы сталі звычайнай стравай для беларусаў?*

— Я думаю, што сёньняшняе асаблівае, культавае месца селядца ў кухарстве склалася напачатку ў палякаў, бо яны мелі выхад да мора. Але й беларусы пазнаёміліся са смакам селядца таксама досыць рана. Пэўны час фактычную манаполію на прамысловыя ловы й гандаль селядцамі мела нямецкая Ганза, якая трымала сваю факторыю ў Полацку. Дзьвіна была тым першым шляхам, якім селядцы праз Рыгу траплялі ў Беларусь. А пазьней таксама й па Нёмане з Усходняй Прусіі. Але ў XIII і XIV стагодзьдзях з прычыны амаль бесьперапынных войнаў з крыжакамі гэты імпарт быў нестабільным. Толькі пасьля перамогі пад Грунвальдам, калі вайна зь немцамі на доўгі час саступіла месца міру, імпарт селядцоў стаў стабільным. Дарэчы, і сёньня селядцы трапляюць да нас пераважна з былога Караляўцу, цяпер Калінінграду.

*— Чаму менавіта селядзец такі папулярны, а не якая-небудзь іншая рыба?*

— Проста гэта самая распаўсюджаная на Балтыцы і ў Паўночным моры й досыць лёгкая ў здабычы рыба. Паводле легенды, галяндзец Вілем Бэйкельсзон у сярэдзіне XIV стагодзьдзя знайшоў спосаб хуткага патрашэньня селядцоў, іхнай засолкі й вельмі шчыльнай укладкі ў бочкі проста на караблі. Адсюль і паходзіць выраз «набіцца, як селядцы ў бочку». Такі спосаб рэзка зьменшыў выдаткі на прамысловую здабычу, засолку й транспартаваньне й зрабіў селядца рыбай надзвычай таннай, даступнай ледзь ня кожнаму бедняку на поўначы Эўропы. Прыкладам, у 1697 годзе ў Магілёве самы танны селядзец каштаваў 2 асмакі, гэта значыць, 2 грошы. Мясцовы, вылаўлены тут жа пад Магілёвам, акунь каштаваў 2,5 асмакі, лешч — 24 асмакі, шчупак — 20 асмакоў. У пераліку на кілаграмы, акунь атрымліваецца разы ў два таньнейшы, але селядзец усё ж застаецца адзінай марской рыбай, якая стагодзьдзямі была даступная сярэдняму беларусу.





*— Колькі селядцоў у тым самым 1697 годзе звычайны магілёвец мог купіць за свой дзённы заробак?*

— Можна палічыць. Самы танны селядзец каштаваў 2 асмакі. Няхай у кіляграме было пяць такіх селядцоў, атрымліваецца, адзін кіляграм каштаваў 10 асмакоў. Самы нізкі заробак у тагачасным Магілёве, які атрымлівалі некваліфікаваныя работнікі, складаў каля 8 асмакоў на дзень. Выходзіць, што найбяднейшыя некваліфікаваныя работнікі маглі зарабіць за дзень на 800 грамаў селядцоў. Але кваліфікаваныя, напрыклад, цесьляры,ераблялі 30 асмакоў на дзень — дык яны маглі купіць 2,5 кіляграма селядцоў.

*— Селядцы былі ўсе аднолькавыя ці існавалі розныя гатункі?*

— Тыя самыя танныя, што каштавалі 20 асмакоў за дзясятак, называліся «простыя» — значыць, вылаўленыя недзе побач, ля Караляўцу ці Торуні. «Галяндэрскія» (галяндзкія) ці «шкоцкія» (шатляндзкія) каштавалі ў паўтара разу даражэй, 30 асмакоў, ці адзін залаты за дзясятак. Бо іх жа й лавілі, як правіла, у Атлянтыцы, на якіх-небудзь догерах. Самымі даргімі, 40 асмакоў за дзясятак, былі нейкія «казінцовыя» селядцы.

*— Селядзец злучаў беларускія землі з Эўропай эканамічна й культурна?*

— Так, бо на працягу XVI—XVII стагодзьдзяў гэты тавар быў ці не асноўным артыкулам нашага імпарту ўвогуле, а ў структуры імпарту з Прусіі дакладна займаў першае месца. Ці возьмем Беларусь часу Расейскай імпэрыі. У 1830-я гады сярод імпартных тавараў селядцы займалі другое месца пасьля францускіх вінаў. Селядцы былі сапраўды стратэгічным імпартам. Праўда, у гэты час пераважалі ня «простыя» й не «галяндэрскія», а швэдзкія, якія складалі больш за дзевяноста адсоткаў. Усё гэта сьведчыць, што селядцы ўвайшлі ў мэню нават самых бедных пластоў грамадзтва. А для прыгоннага селяніна селядзец быў ці не адзіным сапраўдным ласункам.

*— Хто гандляваў селядцамі ўраздроб на беларускіх землях?*

— Калі казаць пра XVI—XVII стагодзьдзі, у асноўным габрэі ды шатляндцы. Апошнія ж і самі актыўна лавілі гэтую рыбу, і, відаць, даволі буйныя калёніі аселых у нас шкотаў мелі магчымасьць кантраляваць увесь ланцужок пастаўкі да нас «шкоцкіх» селядцоў. А пазьней, з XVIII стагодзьдзя й далей, засталіся, бадай, толькі габрэі. Можна сказаць, што яны ж найперш і спрыялі ўкараненьню селядца ў беларускім кухарстве. Так, славуты габрэйскі фаршмак зь селядца як традыцыйная страва склаўся менавіта ў габрэяў Літвы й Беларусі. Самім гэтым словам, якое панямецку й на мове ідыш азначае «закуска», «страва перад асноўнай ежай», ва Ўсходняй Прусіі (адкуль у асноўным і траплялі да нас селядцы) спачатку называлі страву са смажанага селядца, якую таксама спажывалі як закуску. Гэта ўжо ў нашых габрэяў фаршмак ператварыўся ў халодную закуску з пакрышанага селядца. Натуральна, што й беларусы стваралі





свае рэцэпты страваў зь селядца. Вось, прыкладам, адзін зь іх зь «Літоўскай гаспадыні» — нашага вядомага трактату для хатніх гаспадыняў XIX стагодзьдзя.

***Як прыгатаваць просты селядзец, каб ён быў гэткі ж далікатны, як і галяндзкі.***
***Выпатрашаны селядзец залліваюць халоднай вадой і выносяць у склеп на 24 гадзіны. Да паўгарца воцату дадаюць 5 цыбулін, адзін лёт ангельскага перцу, паўлёта простага, дзесяць лаўровых лістоў і дзесяць гвазьдзікоў. Усё 3 разы кіпяцяць, кладуць туды вымачаны селядзец і ставяць у склеп. Праз тыдзень можна ўжо ўжываць. Такая колькасьць воцату разьлічаная на 10 селядцоў.***

*— Селядзец па-беларуску... Але ж наўрад ці можна сьцьвярджаць, што ён ёсьць для беларусаў тым жа, што для ўкраінцаў боршч?*

— Разьвітваючыся з родным Віцебскам, Шагал напісаў у сваім дзёньніку: «Бывай, Віцебск! Заставайцеся са сваімі селядцамі, землякі!». Але да канца разьвітацца зь мінулым так і не ўдалося. Можна сказаць, Шагала ўсё жыцьцё суправаджалі селядцовыя кашмары... Селядзец, марская рыба, ёсьць адным з сотняў сымбаляў, зь якіх склалася культура беларусаў — не марской нацыі.

# ЖАРСЬЦІ ВАКОЛ ГАРБАТЫ

*Размова з Алесем Белым*

**Цяжка ўявіць, але гарбата, якую мы п'ем штодня, у XIX стагодзьдзі на беларускіх землях выклікала немалыя жарсьці. Кіпелі яны ня толькі на побытавым узроўні — піць каву ці гарбату, але пераўтвараліся нават у эканамічныя ды палітычныя праблемы. Водгукі таго часу даносяцца й да нашых дзён. Нехта Ўладзіміраў у 1874 годзе выдаў невялікую брашурку на 36 старонак, якая называлася «Чай и вред его для телесного здоровья — умственный, нравственный и экономический». А нехта Пахлёбкін ужо ў наш час, у 1995 годзе, у кнізе «Чай и водка в истории России» (выйшла ў расейскім Навасібірску) піша, што тая брашурка распачала антыгарбатную кампанію, скіраваную супраць Расеі. Гэты наш сучасьнік Пахлёбкін піша:**
***Толькі цяпер змаглі высьветліць, што за псэўданімам Владимиров хаваўся літоўскі шляхціц Уладзіслявас Мінгайле Даўгяла, які быў сябрам літоўска-нямецкай нацыяналістычнай групоўкі, сябрам Ордэну езуітаў і выступаў супраць расейскага ўплыву ў Літве на загад прускіх палітычных колаў.***

*— Што гэта — трызьненьне расейскага шавініста, ці гарбата напраўду была адной з казырных картаў, якую разыгрывалі беларускія патрыёты ў змаганьні з маскоўскімі «ўплывамі»?*

— Я ня думаю, што патрыёты XIX стагодзьдзя былі супраць гарбаты як напою. Для іх яна была найперш відавочным сымбалем прыгнёту. Гарбата пачала імкліва распаўсюджвацца ў Беларусі ў 1830-х гадах.





Гэты пэрыяд супадае з найгоршымі падзеямі мікалаеўскай рэакцыі: задушэньнем лістападаўскага паўстаньня, закрыцьцём Віленскага ўнівэрсытэту, скасаваньнем царкоўнай уніі. І таму ня дзіва, што чульлівыя людзі моду на гарбату разглядалі як яшчэ адзін нядобры знак.

*— Дык значыць, гарбата — кітайскі напой — трапіла на беларускія землі праз Расею?*

— Так. Відаць, знаёмства жыхароў Беларусі з кітайскім напоем адбылося праз малапрыемнае пасярэдніцтва маскоўскіх вайсковых абозаў, а таксама ў сібірскім палоне, падчас сумнай памяці вайны сярэдзіны XVII стагодзьдзя. Гэта адбылося да часу больш шчыльных кантактаў з Галяндыяй, якая пазнаёміла з гарбатай жыхароў Польскага каралеўства. Апынуўшыся пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладай дзьвюхгаловага арла, жыхары Літвы мусілі зжывацца з новымі рэаліямі. Самастойны гандаль з Эўропай застаўся ў мінулым, і цяпер ужо гарбата трапляла на землі былога ВКЛ толькі праз Расею. Расейскі ўрад абкладаў імпарт гарбаты больш як стопрацэнтным мытам. Вынікам — адразу пасьля падзелу Рэчы Паспалітай кошт гарбаты ўраздроб на захадзе Расейскай імпэрыі быў у дзесяць-дванаццаць разоў вышэйшы за кошт ейны ў Заходняй Эўропе. Пагарда да гэтага тыпова маскоўскага напою не паляпшала іміджу гарбаты ў былых сарматаў. Таму ня дзіва, што на старонках, напрыклад, «Пана Тадэвуша» мы не сустрэнем ніводнай згадкі пра гарбату.

*— Прачытаем занатоўку С. Максімава з «Живописной России»:*

***По поводу границы и соседства Белоруссии, провожающий нас ямщик, между Новоржевом и Великими Луками, после того как мы перед огромным селом Ашевой, переехали по мосту через***

***довольно узкую и текущую в песчаных берегах реку Алту, на берегах которой был убит Борис, ямщик толковал:***
***— Здесь вот мы чай любим и пьём его в трактирах. Заведений этих у нас много даже и по сёлам. А там у них в «Польще» (то есть, под Велижем) чаю не знают: всё водка, и корчмы для того у них не только в деревнях, но и по дорогам.***

*— Няўжо, калі беларусы гарбаты не пілі, дык адно гарэлка ім заставалася? Якія яшчэ безалькагольныя напоі пілі ў старадаўняй Беларусі ў дагарбатны час?*

— Папулярным напоем была кава, якая таксама трапіла да нас не без супраціву, але да XIX стагодзьдзя яна гэтак трывала ўвайшла ў побыт, што ўспрымалася як нацыянальны напой. Яшчэ да гарбаты й кавы гэткім традыцыйным ранішнім напоем было падагрэтае піва з грэнкамі. Як нейкі аналяг гарбаты спажывалі адвары розных зёлак: дзівасілу, ліпавага квету ды іншае.

*— Вось фрагмэнт з аповесьці Яна Баршчэўскага «Драўляны Дзядок і кабета Інсэкта», падзеі якой адбываюцца каля 1835 году:*

***Няшмат часу прайшло, ужо й самавар прынесьлі, наліваюць гарбату, стары пан Ротмістар, седзячы ля стала, сказаў гаспадыні:***
***— Мая пані, даўней гарбата была лекамі ад галавы, цяпер безь яе й жыць ня могуць... Якія перамены ў сьвеце!..***

*Так Баршчэўскі кажа пра зьмену статусу гарбаты. Ці можна меркаваць, што з гэтым напоем напачатку пазнаёміліся аптэкары?*

— Менавіта так. Сама польская назва расьліны





«herbate», якая перайшла ў беларускую мову, сьведчыць, што менавіта аптэкары былі найпершымі спажыўцамі гарбаты. Зрэшты, так было ня толькі ў нас. Нават у Кітаі, на радзіме чайнай культуры, першыя два стагодзьдзі, з XIV да XVI, лісьце чайнага дрэва выкарыстоўвалі выключна як лекі. Пасьля яго пачалі запарваць і піць штодня дзеля асалоды. У XVIII стагодзьдзі, калі гарбату пачалі завозіць да нас з Англіі й Галяндыі, яе таксама пілі вельмі мала, толькі лячыліся — прыкладам, ад галаўнога болю. Былі й такія аптэкары, мэдыкі, батанікі, якія лічылі, што гарбата вельмі шкодная для здароўя. Вядомы батанік канца XVIII стагодзьдзя Кшыштаф Клюк у сваім слоўніку расьлінаў пісаў:

***Калі б Кітай прыслаў нам усе свае атруты, то ня здолеў бы больш пашкодзіць, чым сваёй гарбатай. Магчыма, яна бывае ў нейкіх выпадках карыснай, але частае ўжываньне гэтай цёплай вады аслабляе нэрвы й органы страўнасьці, а таксама робіць нядужым. Дзецям і маладым асобам заўжды шкодная.***

*— Пакінем нядобрую гістарычную памяць, якая шкодзіла гарбаце. Адкінем меркаваньні батанікаў і аптэкараў сярэднявечча. Напэўна, былі й іншыя прычыны не ўспрымаць яе?*

— Не ўспрымалі, бо ніяк не маглі да яе прызвычаіцца. Пра гэта цікава пісаў у сярэдзіне XIX стагодзьдзя пісьменьнік Ігнат Ходзька ў апавяданьні «Самавар», якое сёньня мала вядомае. Вось ягоны сюжэт. Вандроўны купец Мухін, здаўна аселы ў Літве й, бадай, спольшчаны расеец, якога тут ведаюць у кожным маленькім фальварку, прыяжджае са сваімі таварамі ў чарговы маёнтак і даведваецца, што папярэдні ўладальнік зьбяднеў і маёнткам завалодаў ягоны былы аканом Балтазар Сулярскі. Ягоная дачка пільна со-

чыць за модай, марыць выйсьці замуж за суседа пана асэсара. Але як гэта зрабіць, калі тата такі адсталы, што нават гарбаты ня п'е? Яна намаўляе тату купіць у Мухіна самавар і гарбаты й таемна зьбірае на ягоныя імяніны гасьцей, якіх думае частаваць гарбатай. Але паколькі сама ня ўмее абыходзіцца з самаварам, то просіць дапамагчы лёкая, былога гаспадара, якога тата разарыў. Той ненавідзіць новых гаспадароў і адмыслова прымайстроўвае вечка да самавара такім чынам, каб той, закіпеўшы, разарваўся.

— *І, нарэшце, да гарбаты прызвычаіліся. З чым пілі яе?*

— Гарбату сталі ўжываць не як лекі, а піць дзеля асалоды й, прынамсі, дзеля прэстыжу. Пілі спачатку бяз цукру, яго пачалі ўжываць крыху пазьней. Пілі зь вяршкамі, зь лімонам. А таксама, што вельмі цікава й чаго мы цяпер ня робім, пілі ў XIX стагодзьдзі з малінавым і вішнёвым сокам, з чырвоным віном.

— *Якую гарбату мы п'ем сёньня?*

— На жаль, стан з гарбатай у Беларусі мала зьмяніўся за два стагодзьдзі. Варта прайсьціся сёньня па шапіках, крамах, каб заўважыць, што там прадаецца пераважна няякасны тавар расейскай фасоўкі з адмысловымі назвамі: «Императорский», «Царский», «Дворянский»... Фактычна, разам з напоем мы спажываем расейска-імпэрскія, манархічныя стэрэатыпы. Вядома, што й прыбыткі ад продажу гарбаты асядаюць у кішэнях нашых усходніх суседзяў.



## СМАК СЫРУ

*Размова з Алесем Белым*

**Пра паходжаньне сыру існуе шмат легендаў. Паводле адной зь іх, арабійскі купец Канан на досьвітку выправіўся ў далёкі шлях па пустэльні. З сабою ён узяў малако, якім напоўніў традыцыйны для вандроўнікаў сасуд — высушаны авечы страўнік. Калі сьцямнела, купец спыніўся й перад сном захацеў малака. Але замест малака з авечага страўніка пацякла сыроватка, а ўнутры сасуду зьявіўся белы камяк. Купец у роспачы паспытаў яго й быў вельмі зьдзіўлены прыемным смакам. Так зьявіўся на сьвет сыр, а здарылася гэта болей як чатыры тысячы гадоў таму. Купец распавёў пра сваё адкрыцьцё суседзям, і неўзабаве спосаб вырабу сыру стаў шырока вядомы. І нібыта з Арабіі сыр разышоўся па ўсім сьвеце. А сёньня ці ня кожны ведае пра ангельскія чэдэр ды стылтан, галяндзкія эдэм і гаўду, францускія ракфор ды камамбэр, італьянскія пармэзан ды гарганзолю. Здаецца, наяўнасьць традыцыйнага нацыянальнага сыру, дый не аднаго гатунку, зьяўляецца пропускам у прывілеяваны клюб эўрапейскіх краінаў.**

— *А ці могуць беларусы пахваліцца нацыянальнымі сырнымі традыцыямі?*

— Беларускі сыр мала вядомы ў сьвеце, і нават, як ні парадаксальна, мала вядомы ён і самім беларусам. Нават адмыслоўцы-сыравары не задумваюцца пра традыцыі свайго сыру, пра культываваньне ягонай менавіта нацыянальнай адметнасьці. Нашы паўночныя суседзі, літоўцы, дасягнулі тут нашмат большых пось-

пехаў. Здаецца, за савецкім часам мала хто з турыстаў або камандзіраваных у Вільню вяртаўся адтуль безь якога-небудзь з тамтэйшых сыроў — з кменам ці вэнджанага. І сёньня сыры — адзін з прадметаў нацыянальнай гордасьці ўжо незалежнай дзяржавы Літвы.

— *Ці даўно беларусам вядомы смак сыру?*

— Смак сыру вядомы славянам тысячагодзьдзі. Ніколі ў нашай гісторыі не было такога, каб сыраробства перапынялася. Возьмем «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, у якім апісаная традыцыйная, падобная чымсьці на галубятню, сырніца — абавязковае для кожнага самавітага фальварку збудаваньне, у якім сушыліся сыры:

***Стаяла там за плотам блізка, поруч з садам,***
***Дзе Рыкаў абапёрты быў сваім атрадам,***
***Старая сырніца, ў зруб складзеная рэдкі***
***З брусоў скрыжаваных, падобная да клеткі.***
***У ёй сьвяцілі копы сыраў яснай бельлю...***

Тут паэт апісаў белы сыр, бо найбольш пашыраны ў нас быў менавіта белы тварожны, гэтак званы клінковы сыр. Вытворчасьць цьвёрдых сычужных сыроў, больш складаная тэхналягічна, вядомая ў нас параўнаўча нядаўна, апошнія мо дзьвесьце гадоў, і прынесеная з Галяндыі ды Швайцарыі. Сыр як сымбаль белі, чысьціні фігуруе ня толькі ў Міцкевічавым «Пану Тадэвушу», але і ў Коласавай «Новай зямлі»:

***Ляжыць гарамі ў іх падножжа,***
***Закуска, гэта міласьць Божа:***
***Тут сыр, як першы сьнег, бялюткі,***
***Каўбас прыемнейшыя скруткі,***
***Што толькі ёсьць у Беларусі.***

— *Такім чынам, нацыянальны беларускі сыр — менавіта клінковы сыр з прэсаванага тварагу?*





— Можна сказаць і так, хаця й не без «але». Прынамсі, ва ўсіх савецкіх даведніках у гастранаміі пісалася, што радзімай клінковага сыру ёсьць Беларусь. Але, па вялікім рахунку, традыцыі сыраробства з тварагу — агульныя для беларусаў, палякаў і літоўцаў. Проста нам выдзелілі, як таму малодшаму брату, самую простую тэхналёгію. Дарэчы, сучасныя літоўцы менавіта звычайны клінковы сыр называюць «летувішкас суріс». Вельмі частым традыцыйным дадаткам да такога сыру і ў нас, і ў літоўцаў, ёсьць кмен. Таксама даўнюю традыцыю мае сушаны сыр. Цягам многіх стагодзьдзяў, аж да сярэдзіны XIX, выраб сушанага тварожнага сыру быў ці не адзінай магчымасьцю назапашваньня кансэрваванага малака ў традыцыйнай замкнёнай натуральнай гаспадарцы. Добра высушаны сыр быў такі цьвёрды, што яго немагчыма было раскусіць ці нарэзаць скрыламі. Таму яго дробна стругалі й затым смакталі як цукеркі. Яго яшчэ цёрлі і ўжывалі як дадатак да розных страваў. У нейкім сэнсе гэта беларускі варыянт італьянскага пармэзану, нацёртага сыру.

— *А як наконт жоўтых, зь дзірачкамі ці вочкамі, сыроў — галяндзкага, расейскага, пашэхонскага? Яны чужыя беларускай традыцыі?*

— Яны сапраўды зьявіліся ў нас нашмат пазьней, чым клінковыя. Гэтак званыя цьвёрдыя сычужныя сыры вырабляюцца не з тварагу, а непасрэдна з малака пры дапамозе фэрмэнту з часткі страўніка маладых цялятаў — сычугу. Гэта тыповая заходнеэўрапейская традыцыя, і ў нас такія тэхналягічна больш складаныя сыры пачалі вырабляць ужо пасьля далучэньня да Расейскай імпэрыі. Але распаўсюджаньне новых на той час тэхналёгіяў адбывалася і ў нас, хаця й не без уплыву расейскай моды, але без патранажу расейскага ўраду, прыватнымі высілкамі тутэйшай шляхты. Найбольш прэстыжным зь цьвёрдых сыроў у XIX

стагодзьдзі лічыўся гэтак званы швайцарскі сыр, і ў нас ён зьявіўся адначасна з Расеяй і незалежна ад яе. У «Літоўскай гаспадыні» ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя швайцарскі сыр мясцовай вытворчасьці згадваецца як даўно вядомы жыхарам краю прадукт. Што да галяндзкага сыру, дык ён зьявіўся ў нас, здаецца, яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай ад нешматлікіх, але энэргічных галяндзкіх каляністаў. Мясцовым аналягам галяндзкіх сыроў, падобных на эдэмскі, ад сярэдзіны XIX стагодзьдзя на захадзе Беларусі і ў Літве сталі гэтак званыя літоўскія сыры.

*— Прозьвішча аднаго зь піянэраў у вырабе новага гатунку сыру было Брахоцкі, таму іх яшчэ называлі «брахоцкія». Што гэта былі за сыры?*

— Гэта шарападобныя сыры вагой ад двух да чатырох кіляграмаў, якія дасьпявалі досыць доўга — да чатырох месяцаў — і гатаваліся як зь цьвёрдай скарынкай, так і з адмыслова зацьвілай. Гэтыя сыры вырабляліся не для хатняга ўжытку, а выключна на продаж, і трэба сказаць, яны дасягнулі вялікага камэрцыйнага посьпеху. Іх добра ведалі й ахвотна куплялі і ў Маскве, і ў Пецярбургу, і ў Варшаве. Праўда, называючы іх літоўскімі, пакупнікі ня ведалі, што яны могуць паходзіць і з Заходняй Беларусі. Затое й беларускія сяляне, якім цяжка было наладзіць выраб цьвёрдых сыроў, дасягнулі пэўных посьпехаў у вырабе тварожных сыроў. У канцы XIX стагодзьдзя расейскі часопіс «Домострой» рэкамэндаваў іх сваім чытачам менавіта як беларускія. Добра апісаў іхнае значэньне для эканомікі рэфармаванай вёскі беларускі гісторык і этнограф Мікалай Улашчык. Згадвае іх і Якуб Колас у «Новай зямлі», як мы ўжо казалі.

*— Ці існавалі рэгіянальныя адметнасьці сыроў?*

— Так. Прыкладам, беларусы Беласточчыны яшчэ некалькі дзесяцігодзьдзяў таму выраблялі такі сыр са





сьвежага вільготнага, нават не прэсаванага тварагу. Дзень пры дні ў драўляную бочку накладалі чарговую порцыю мяккага тварагу, толькі адліваючы сыроватку й моцна солячы кожны новы пласт, крыху ўтрамбоўваючы. Паступова бочка запаўнялася, сыр зь цягам часу цьвярдзеў, але не скісаў, і яго звычайна ўжывалі як дадатак да хлеба ў часе жніва. Такі сыр, самы прымітыўны нават у параўнаньні з прэсаваным клінковым, адпаведна й быў самым танным з нашых сыроў.

*— А што за савецкім часам? Ці захоўваліся ў Беларусі свае традыцыі сыраварства?*

— Калі казаць пра цьвёрдыя сычужныя сыры, дык савецкая гастранамічная традыцыя рэкамэндавала лічыць беларускімі нацыянальнымі сыры «Мінскі» ды «Северный», распрацаваныя ў нас у пару СССР. «Мінскага», мне здаецца, я даўно ня бачыў на паліцах, а вось «Северный» прадаюць.

*— Адкуль такая назва?*

— Як у нас даюць назвы гэтак званым нацыянальным прадуктам? Хто іх дае? Міністэрства гандлю, магчыма, Міністэрства культуры... Калі казаць пра назвы, вытворныя ад гарадоў, я б лепей пашукаў рэцэптуру навагрудзкага сыру, які ў міжваенную Заходняй Беларусі быў самы дарагі й больш прэстыжны за літоўскі.

*— Якія яшчэ даўнія назвы, але згубленыя ў часе, мелі беларускія сыры?*

— Напрыклад, Статут 1588 году, вызначаючы кампэнсацыю за страту ці пашкоджаньне маёмасьці, згадваў і некаторыя гатункі сыроў:

***За малый округлый сыр албо за мальдрик осм пенезей.***
***За гомолку чотыри пенези.***

«Мальдрык», або інакш «мандрык», — вельмі распаўсюджаны калісьці ў нас сыр, настолькі, што гэта й сёньня досыць частае беларускае прозьвішча, хаця мала хто зь ягоных носьбітаў ведае пра ягоны сэнс. Гэтыя сыры губляюцца недзе ў канцы VII — пачатку VIII стагодзьдзя, так даўно, што цяпер гісторыкі не бязь цяжкасьцяў вызначаюць, што гэта быў за сыр. Здаецца, гэта быў салодкі, невялікага памеру акруглы сыр, прычым, менавіта фэрмэнтаваны, сычужны, але не з каровінага, а з авечага малака. Некалькі стагодзьдзяў таму гадоўля авечак і спажываньне авечага малака былі ў нас больш звыклыя, чым сёньня. Вядомыя й іншыя экзатычныя гатункі сыроў. Ад другой паловы XIX стагодзьдзя й амаль да Першай усясьветнай вайны існаваў такі надзвычай экзатычны гатунак, рэцэпт прыгатаваньня якога падавала «Літоўская гаспадыня»:

***Паўгарца густой сьвежай сьмятаны зьліваюць у новую шчыльна сатканую сурвэтку, завязваюць яе над самай сьмятанай і адразу кладуць у ямку, выкапаную ў чорнай тлустай глебе... Накрываюць згорнутым удвая палатном, каб зямля не насыпалася ўсярэдзіну. Засыпаюць ямку зямлёй, моцна яе прыціскаюць і топчуць нагамі, а зьверху кідаюць каменьне... Праз дваццаць чатыры гадзіны асьцярожна дастаюць сыр, каб не зламаць і не забрудзіць зямлёй.***

Такі сыр меў вельмі трапную, хаця й зь відавочным адценьнем чорнага гумару, назву «нябожчык». Але не зважаючы на назву, сыр «нябожчык» лічыўся ласункам. Вось толькі трэба было яго зьесьці як мага хутчэй, бо ён хутка псаваўся й гарчэў.

— *Ня думаю, каб сучасны спажывец кінуўся купляць сыр такой рэцэптуры й з такой назвай.*

— Я да гэтага й не заклікаю. Але цікава, што сыр і





нябожчыкі ўсё ж маюць нейкую повязь. Мы ўжо згадвалі традыцыйную сырніцу з «Пана Тадэвуша». Калі хто чытаў паэму ці глядзеў нядаўні фільм Анджэя Вайды, мусіць памятаць, што ў кульмінацыйны момант менавіта сырніца паслужыла сакрэтнай зброяй перамогі над расейскім войскам:

***Вось Возны з Войскім к сырніцы падходзяць ззаду,***
***А кожны захапіў, як піку, жэрдку з саду.***
***Прыйшоўшы, тычкі ўпёрлі ў слупа верх пахілы***
***І пхнуць будынак зьнізу, колькі маюць сілы,***
***Слуп трэснуў, крышыцца...***
***Вось сырніца ў палёце,***
***Вось б'е цяжарам дрэва і сыроў па роце***
***І раніць, забівае войска й камандзіраў.***
***Так зьleглі ў кучу: дрэва, трупы, груды сыраў.***
***Абліты мозгам і крывёй, трохкутнік рвецца,***
***І ўжо Крапіла ў ім гудзіць, і Брытва ўецца,***
***Сьцябае Розга, падбягае шляхта звонку,***
***Жакеі гоняць еграў, б'юць наперагонкі.***

Сырніцу, якая выкарыстоўвалася ў здымках фільму, можна й сёньня ўбачыць у адным з польскіх музэяў пад голым небам. Але мяне зьдзіўляе, чаму гэтых традыцыйных калісьці для Беларусі сырніцаў няма нідзе ў нашых этнаграфічных музэях — у Дудутках, Строчыцах, нават у Завосьсі. Магчыма, таму, што ў канцэпцыю «беларускага нацыянальнага», распрацаваную марксісцкімі этнографамі, сырніца, як элемэнт тыпова фальваркавай, шляхецкай культуры, ніяк ня ўпісваецца. А вось у эўрапейскіх краінах шануюць свае сыры й захоўваюць традыцыі іхнага вырабу. Калі ў Францыі ў 1961 годзе адзначалі тысячагодзьдзе сыру маролі, у ягоны гонар нават адслужылі ўрачыстую імшу ў мясцовым касьцёле. У Нармандыі стаіць помнік вынаходніцы сыру камамбэр Марыі Арэль.

## БУЛЬБЯНЫ ПАРАТУНАК

*Размова зь Ігарам Марзалюком*

**Беларусы ганарацца сваёй бульбай. Пра яе вершы, песьні складаюць. Яна — найпапулярнейшы харч. Бульба ратавала людзей у самы галодны час, як, дарэчы, яна ратуе й сёньня многіх беларусаў, якія жывуць за рысаю беднасьці. А ў былым Савецкім Саюзе, дзе вельмі любілі даваць мянушкі цэлым нацыям, беларусаў называлі бульбашамі. Так што, пэўна ж, можна сказаць, што бульба — сярод сымбаляў Беларусі.**

— Бульба для беларуса — сапраўды нешта большае, чым проста харч. Гэты караняплод сёньня ёсьць адным з этнавызначальных беларускіх маркераў, побач зь «беларускім» зьверам зубрам ды «беларускай» птушкай буслам. Уявіць сваё жыцьцё бяз бульбы наўрад ці можа хоць хто-небудзь з сучасных беларусаў. Аднак, перафразуючы ананімнага клясыка беларускай літаратуры XX стагодзьдзя, скажам: быў дзень, быў час, была эпоха, калі на нашай зямельцы нават ня пахла ні дранікамі, ні клёцкамі, ні бабкай, ні іншымі прыемнымі беларускаму страўніку стравамі.

— *Калі ж пазнаёміліся беларусы з бульбай?*

— Бульбяная экзотыка зьявілася на магнацкім стале хіба што пры канцы XVII стагодзьдзя. У кнізе, напісанай кухмістрам кракаўскага ваяводы Станіславам Чарнецкім, слыннай «Compendium ferculorum, albo Zebranie potraw» («Усё пра стравы, альбо Збор страваў»), згадваецца першы бульбяны прысмак для эліты Рэчы Паспалітай. Пад назваю «tertofelle» хаваецца бульба, якую пяклі ў попеле й, пакроеную на скрылікі, смажылі. Кніжка пабачыла сьвет у 1682 годзе й на





працягу XVIII стагодзьдзя неаднаразова перавыдавалася. Згаданая ў ёй страва яшчэ ня масавы прадукт, а гастранамічнае вынаходніцтва да панскага стала.

— *Калі бульбу пачынаюць вырошчваць у Беларусі і ў якім рэгіёне?*

— Упершыню бульбу пачалі вырошчваць у Беларусі падчас панаваньня караля польскага й вялікага князя літоўскага Аўгуста III (1733—1763) на тэрыторыі Гарадзеншчыны. І ў другой траціне XVIII стагодзьдзя заморскае дзіва пачало сваё трыюмфальнае шэсьце па беларускай тэрыторыі. Найбольш значным бульбаводчым цэнтрам напрыканцы 1780-х гадоў стала тэрыторыя Полацкага намесьніцтва. У 1788 годзе тут у «пасеве» бульба займала ўсяго 7 чвэрцяў, а ва «ўраджаі» — 21 чвэрць, але праз два гады ў «пасеве» было 4617 чвэрцяў, а ва «ўраджаі» — 18 759 чвэрцяў. На Суражчыне ў гэты час вырошчвалі бульбу ня толькі на агародах, але й на панскіх палетках.

— *Як распаўсюджвалася новая агракультура на беларускіх землях у гэты час? Як паставілася да зьяўленьня бульбы сялянства?*

— Спачатку беларускае сялянства сустрэла агракультурную навацыю халаднавата. Тады яе вырошчвалі толькі ў каралеўскіх эканоміях нямецкія каляністы, а беларускі паспаліты люд недаверліва ставіўся да гэтай чортавай штуковіны, якую ён неўзабаве ахрысьціў «праклятым земляным яблыкам». Дзякуючы ціску тутэйшай шляхты «на пана сахі і касы», бульба ў добраахвотна-прымусовым парадку ўсё ж прапісвалася на сялянскіх палетках. Сяляне з уласьцівай нашаму народу ціхмянай упартасьцю зьдзяйсьнялі акты сабатажу, усяляк ухіляючыся ад гэтай навацыі. Не абыходзілася ў гэтай барацьбе й без пракудаў. У пачатку XIX стагодзьдзя на Магілёўшчыне жыў апантаны бульбавод, багаты і ўплывовы пан, ула-

дальнік маёнтку Цялятнікі, генэрал Гернгрос. У сваіх уладаньнях бульбу ён вырошчваў ад 1817 году, даваў свой улюбёны караняплод на пасадку й сялянам. Але на сялянскіх палетках бульба амаль не выруньвала, толькі дзе-нідзе можна было пабачыць асобныя кволыя каліўцы. Гаспадар хутка зразумеў, што дзеецца. Глыбокай ноччу прыходзіў паспаліты люд на поле й старанна выкопваў пасаджаную ўдзень бульбу, а потым вёз да найбліжэйшай габрэйскай карчмы, дзе мяняў ненавісныя «праклятыя земляныя яблыкі» на гарэлку. Тады генэрал схітраваў: замест цэлых бульбінаў сялянства атрымала на насеньне парэзаныя клубні. Іх магілёўскія мужыкі ня сталі выбіраць, і на наступны год сабралі добры ўраджай. Пераканаўшыся ў карысьці ды смакавых якасьцях бульбы, пачалі яе вырошчваць самі, ужо без прынукі.

*— І калі ж урэшце прынялася бульба на беларускіх землях?*

— XIX стагодзьдзе стала часам поўнай і безумоўнай бульбянай перамогі на беларускіх палетках. Калі ў Гарадзенскай губэрні ў 1822 годзе сабралі 7,1 тысячы чвэрцяў бульбы, дык у 1827 годзе ўжо ў сто разоў болей. У справаздачах Менскай ды Віцебскай губэрняў за 1828 год адзначалася, што «бульба зьяўляецца памочнікам да харчаваньня, родзіць выдатна, з посьпехам паўсюль тут разводзіцца». У справаздачы Гарадзенскай губэрні за 1840 год было напісана: «бульба займае першае месца ў ліку абрабляннай гародніны, спрыяе харчаваньню народу, гадаваньню жывёлы і ўгнаеньню палеткаў». Бульба напраўду ў той час становіцца галоўнай культурай, «другім хлебам», хаця ня будзе перабольшаньнем сказаць, што для бяднейшых сялянаў яна была ўвогуле адзіным і першым хлебам. Як пісаў адзін з тагачасьнікаў, «гарох, частку ячменю, авёс сяляне прадаюць, а бульбаю харчуюцца амаль цэлы год».





*— Калі зьявіліся свае, беларускія, гатункі бульбы? Ад якога часу можна казаць пра беларускую бульбу ў поўным сэнсе гэтага слова?*

— Посьпехі бульбаводзтва, «бульбяны бум» далі свае станоўчыя вынікі нарэшце і ў галіне сэлекцыі. Ужо ў 1860-я гады ўзьнікаюць мясцовыя гатункі бульбы. У жніўні 1853 году ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце адкрылася выстава, на якой экспанавалі 28 гатункаў бульбы з Батанічнага саду інстытуту, а таксама прадукты з бульбы ў выглядзе мукі й крупкі. У 1868 годзе «Земледельческая газета» пісала, што ў Горацкім павеце меліся гатункі

***...на кои почти не имеют влияния неблагоприятствующие обстоятельства, вредящие всем прочим. Так, например, в нашем уезде, в с. Слижах, у одного хозяина картофель ежегодно дает более десяти зерен и величиной превосходит гусиные яйца... Обилием крахмала и вкусом слижевский картофель превосходит все возможные сорта.***

Смачная была мсьціслаўская ды быхаўская бульба. Вядомы знаўца гэтай справы А. Палтарацкі пісаў:

***Мне прыходзілася бачыць розныя гатункі бульбы, але нідзе ня бачыў я такой буйнай і сапкай, як у Мсьціслаўскім павеце... Быхаўская бульба таксама добрая.***

*— Выглядае, што здаўна існавала рэгіянальная спэцыфіка бульбаводзтва ў Беларусі?*

— У 1890-х гадах на тэрыторыі Беларусі ўжо вылучаліся чатыры зоны бульбаводзтва. Да першай адносіўся Рэчыцкі павет. Тут пад бульбаю былі занятыя 18,1% пасяўных плошчаў. Да другой зоны належалі тэрыторыі Барысаўскага, Гомельскага, Рагачоўскага, Чэрыкаўскага паветаў (12,1—15% плошчаў). Да трэцяй — Менскі, Бабруйскі, Клімавіцкі, Чавускі,

Быхаўскі, Магілёўскі, Аршанскі, Сеньненскі паветы (9,1—12% плошчаў), а да чацьвертай зоны — тэрыторыя Горацкага павету ды ўсёй Віцебскай губэрні (6,1—9% плошчаў).

*— Як выглядала беларускае бульбаводзтва на тле, скажам, іншых рэгіёнаў Расейскай імпэрыі? Ці была гэтая галіна беларускай сельскай гаспадаркі ў той час эфэктыўная й канкурэнтаздольная?*

— На пачатку XX стагодзьдзя беларускае бульбаводзтва было найлепшым і адным з мацнейшых у Расейскай імпэрыі. На 1913 год прыпадае пік дарэвалюцыйнай беларускай бульбяной вытворчасьці — пасяўная плошча склала 583,3 тысячы гектараў, ураджайнасьць — 6,4 тоны з гектара, валавы збор 4 мільёны тон, ці 12,6% валавога збору ў Расеі.

*— І ўрэшце бульба стала ня проста харчам, але й элемэнтам беларускай культуры?*

— Сапраўды, поўная й незваротная «беларусізацыя» бульбы адбылася ў XIX стагодзьдзі. У сярэдзіне таго ж стагодзьдзя бяз бульбы немагчыма было ўжо ўявіць жыцьцё беларускага паспалітага люду. Бульба ўваходзіць у фальклёр, пра яе складаюць песьні. Адна беларуская полька ўвогуле можа лічыцца за своеасаблівы гімн бульбе:

***Гарні, гарні бульбу зь печы***
***Ў торбачку — ды на плечы.***
***Бульбу пякуць, бульбу вараць,***
***Бульбу ядуць, бульбу хваляць.***

***З бульбы мука, з бульбы каша,***
***Прападзі ты, доля наша.***
***Адзін лапаць, другі бот,***
***А я шляхціц, далібог!***



## ГАРЭЛКА — СЛУЖКА СЬМЕРЦІ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Неяк адзін з маіх заакіянскіх калегаў, зь якім мы дыскутавалі пра мастацтва за шклянкай віскі, прапанаваў сваю нібыта жартаўлівую клясыфікацыю ўсясьветнай культуры паводле ўжываньня нацыямі алькагольных напояў. Гэта — культуры віна, гарэлкі, віскі, піва й пеністых напояў. Беларусь ён аднёс да культуры ўжываньня гарэлкі. Зрэшты, што да мяне, дык гэтая сыстэма не пазбаўленая сэнсу. Сапраўды, бог Дыяніс — дамінанта грэцкай трагедыі — ёсьць і богам віна. Чэскага Швэйка, як і сучасных чэхаў, не магу ўявіць бяз куфля піва. А згадаем шклянкі гарэлкі, напоўненыя да краёў, якія адным лыкам апаражняюць героі расейскага кіно. Што тычыцца Беларусі, дык наўрад ці можна сьцьвярджаць, што Беларусь — краіна культуры ўжываньня гарэлкі. Але ж беларусы сёньня п'юць яе, і ў дозах немалых.**

*— Як успрымалі гарэлку старажытныя беларусы? Які культурны статус яна мела ў працэсе фармаваньня нацыі?*

— Гарэлцы ў беларусаў надаваліся звышутылітарныя рысы й прыпісваўся пэўны сэміятычны статус. У народных уяўленьнях гарэлка была адным з надзейных сродкаў пераадоленьня мяжы між сьветамі й пераходу чалавека да іншых віртуальных рэальнасьцяў.

*— Як тлумачылі беларусы зьяўленьне гарэлкі? Каму прыпісвалася гэтае вынаходніцтва?*

— Зьяўленьне першага бровару й адкрыцьцё гарэлкі ў народных паданьнях зьвязваецца з чортам. Захацеў

ён выведаць у Ноя пра Божыя справы, але ніяк ня мог разьвязаць яму языка. Вось і скарыстаўся чорт дапамогаю жанчыны, якая праз сваю цікаўнасьць і даверлівасьць дапамагла яму ў стварэньні гарэлкі:

***От пачала жонка Ноя месіць хлеб, а чорт падставіў ёй пад нос пасудзіну, дык туды па капельцы нацякло якоесь вады чуць ня поўная пасудзіна. «Што ж гэто такое?» — пытае баба. «Гарэлка, — адказвае чорт, — яна так завецца затым, што з гары падае, ды затым, што хто яе многа вып'е, той згарыць. Яна ў хлебе рэдкая, а ў жанчын густая, моцная. От затым, калі мужчына пасядзіць кала жанчыны, то хутка ап'янее, як ад хмелю».***

Згодна з запісамі са Століншчыны, Бог, ведаючы, што гарэлку гоніць чорт, дабраславіў яе — каб людзі, што не злоўжываюць, былі моцныя й здаровыя. У той жа час за выдумку чорта гнаць гарэлку з жыта Бог у дзесяць разоў скараціў ураджай.

*— Калі гарэлка — чортава стварэньне, то, відаць, і да п'яных ставіцца ён уважна й прыязна. Ці наадварот — крыўдзіць іх?*

— І сёньня запісваецца шмат гісторыяў пра дзівосныя прыгоды чалавека пасьля ўжываньня ім алкагольных напояў. Сюжэт такіх гісторыяў зводзіцца да сустрэчы чалавека зь незнаёмцамі, якія адорваюць яго грашыма, кладуць спаць на пуховыя пярыны. А як прачнецца чалавек, дык грошы аказваюцца сьмецьцем, а пярына — калодаю альбо нават лужынай. Аказваецца, п'яны знаходзіцца ў спэцыфічным памежным стане сьвядомасьці, які робіць магчымым ягоны кантакт зь нячыстай сілай.

*— Самі пацярпелыя й сёньня тлумачаць свае паводзіны даслоўна тым, што «напіліся да чорцікаў», што чорцікі сапраўды стаялі ўваччу ці ў галаве.*





— Гэта так, бо стан ап'яненьня й зьвязаныя з гэтым зьмены ў паводзінах тлумачацца наяўнасьцю ў целе нячыстай сілы. У іншых варыянтах чорт спадарожнічае п'янаму ды становіцца як бы ягоным ценем. Відаць, ап'яненьне (у тым ліку й наркатычнае) парушае прасторава-часавыя арыентацыі, здымае межы паміж сьветамі й тым нібы спрыяе падобным кантактам з чортам:

***От напіўся той п'яніца дый пачаў іграць з чарцямі. Выдумляў ён усялякія штукі ды так хвацька забаўляў іх, што яны жыўцом забралі яго да сябе ў пекла. Але, мабыць, і ў пекле нельга пражыць бяз працы адною гульнёю. Прачухаўся трохі п'яніца дый крычыць на ўсё пекла: «Давайце гарэлкі, а то ўсё разьвярну!» Няма чаго рабіць, далі яму чэрці гарэлкі мо два ці тры разы. Дый шкода ім стала дарам бузаваць гарэлку, калі яна на зямлі так добра зводзіць людзей ды вядзе іх у пекла.***

Але мараль у тым, што трапляе п'яніца зь пекла ды наўпрост у рай, бо не змаглі нічым запярэчыць яму сьвятыя.

*— Ці не паказваюць такія сюжэты на прыхільнае стаўленьне царквы да гарэлкі й п'янства?*

— З аднаго боку, была патрэба адсунуць былую паганскую форму разгульнага пітва, а зь іншага — прыстасаваць яе да новых умоваў. Выйсьце знаходзілі ў разьмеркаваньні кубкаў — два-тры дзеля Бога, а калі болей — гэта на службу д'яблу. Разам з тым, у народных поглядах безупыннае п'янства на славу Божую прыводзіла наўпрост у рай. А ў абрадавых велічальных песьнях «сам Бог мяды сыціць, Ільля піва варыць», а добры гаспадар прымае «Бога зялёным віном, Сьвяту Прачысту салодкай гарэлкаю».

*— Ня раз даводзілася бачыць пакінутыя на магілах чаркі. Дый памінкі часам пачынаюць на-*

*гадваць шумнае застольле. Ці да месца гарэлка ў пахавальных абрадах?*

— Гарэлка ўваходзіць у шэраг абавязковых стравaў пахавальна-памінальнага абраду. Славянская памінальная пагулянка вылучалася абавязковым багацьцем і разгулам. У беларусаў пасьля пахаваньня запрашаўся й сам нябожчык. Яму лілі гарэлку на абрус са словамі: «Хадзі, выпі чарачку гарэлкі». На Віцебшчыне чарку падносілі перад кожнай новай стравай, пры гэтым кожны запрошаны хрысьціўся й казаў: «Пашлі ж, Божа, яму царства нябеснае, грахоў адпушчэньне й душачкі спасеньня». У часе памінаньня ставілі на стол асобную чарку, адлівалі гарэлкі на стол, лілі на магілку.

*— Вынікае, што гарэлка прызначалася перадусім памерлым. Дык навошта ж піць жывым на тых жа могілках?*

— Важна, што рытуальна рэглямэнтаваны банкет бачыўся як умова зносінаў жывых і мёртвых. Больш за тое, гэта нават супольная парука жывых супраць мёртвых. Верылі, хто на Дзяды адаб'ецца ад калектыўных памінак, чакаюць таго розныя беды. А хто ўстане ад памінальнага стала раней за вызначаны тэрмін, можа нават хутка памерці. Таму тры абавязковыя чаркі на памінках ня толькі даніна памяці, але й замацаваньне мяжы паміж жывымі й мёртвымі, паміж замагільлем і гэтым сьветам.

*— Відаць, толькі ў гісторыі засталіся гэтак званыя «камсамольскія» безалькагольныя вясельлі. А вярнулася на вясельны стол гарэлка, пэўна, ня толькі таму, што безь яе сумнавата. Што можна сказаць пра рытуальную ролю гарэлкі ў сямейных абрадах?*

— Гарэлка выконвае значную сымбалічную ролю ў часе сямейных урачыстасьцяў: на хрэсьбінах, вясельлі, калі менавіта чаркаю замацоўвалася дасягнутае пагадненьне пасьля сватаньня. У Сьвіслачы ў канцы вясельля тую гарэлку, што засталася, сват выліваў на сьцены — ды так, каб пырскі ляцелі што вышэй. Рабілася гэта дзеля таго, каб у хаце быў дабрабыт і дастатак. Існаваў і цікавы звычай «саладзіць гарэлку» — гасьцей частавалі пасьля першай шлюбнай ночы. Калі нявеста аказалася чэсная, гарэлку саладзілі, падфарбоўвалі калінаю, падносілі гасьцям, а таксама адсылалі маці нявесты разам са шлюбнаю кашуляй ейнае дачкі. Госьці ж сьпявалі:

***А ў нас сягодня нешта было,***
***Чатыры каленцы радам было.***
***А пятае шыла гарэлку саладзіла.***

*— А на земляробчых, гаспадарчых сьвятах? Навошта тут патрэбная гарэлка?*

— Амаль усе земляробчыя абрады ладзілі паводле канонаў старажытных аграрна-культавых дзеяў, якія патрабавалі шырокага разгулу, весялосьці, багацьця стравaў. У народнай сьвядомасьці захавалася псыхалягічная матывацыя сакральнасьці «пагулянкі»: «Без гарэлкі й сьвята ня ў сьвята». Верылі нават у залежнасьць плёну ад частаваньня. Да прыкладу, на вячэру пасьля вывазу гною запрашаліся зусім незнаёмыя людзі: «Хадзіце, выпіце чарку, каб жыта вялося», а за сталом чарцы папярэднічаў тост: «Як вып'еш, так і адмочыць. Піце, каб усходы былі часьцейшыя й гусьцейшыя». Як бачым, магічныя законы сымбалічна прыроўнівалі гарэлку да дажджу.

*— Аж па сёньня актыўна працягваюцца спрэчкі, як успрымаць п'янства — як разбэшчанасьць або як хваробу? Які адказ дае традыцыя?*

— У легендах п'янства наагул завецца хваробай над хваробамі. А пастанавілі так усе немачы разам на чале з галоўным чортам Люцыпарам, трымаючы перад ім

справаздачу, хто ж больш людзей выпраўляе на той сьвет:

***Падсуналася бочка, зь якое тырчыць аблезлая галава зь сінім носам, ці бо тое самае п'янства, дый кажа: «Я тое зрабіла, што цяпер, каб ня я, то ўсе хваробы ні аднаго чалавека не ўмарылі, сьмерці прыйшлося б ці зубы палажыць на паліцу, ці суздром здохнуць». «Праўда, — кажа сьмерць, — п'янства верна мне служыць: яно робіць больш, чым усе хваробы разам. Пасьля п'янства возьме й трасца, і пухліна, і разачка, і ўсялякая хвароба».***

Называў беларус гарэлку й чортавым стварэньнем, і хваробай над хваробамі, і нават служкаю Сьмерці. Найважней, што доўгі час трымалася культура піцьця, і толькі адзінкі прадаваліся д'яблу ў карчме. Сярэдні ж беларус падымаў пушчаную па крузе (адну!) чарку й мовіў да суседа: «Пакарай цябе, Божа, блінцом, да шчэ з маслам і піўцом».



## РАНАК — ПЕРАХОД АД ЦЕМРЫ ДА СЬВЯТЛА

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Напэўна, шмат каго зь людзей наведвае час ад часу навязьлівая думка, што ён не самастойны ў сваіх дзеяньнях, што ім нехта кіруе. Чалавек нібыта змушаны штодня падпарадкоўвацца завядзёнцы, нейкім правілам, якіх ён ня можа парушыць, ад іх ён залежыць. Жыцьцё ўвогуле й распарадак кожнага дня падпарадкаваны пэўнай схеме, а значыць, ужо ад самага ранку кімсьці абмяжоўваецца ягоная свабода.**

*— Чалавек намагаецца вырвацца з жорсткіх рамак традыцыі й зрабіць па-свойму. Але гэтыя рамкі не адпускаюць яго, сьціскаюць. Кім? Чым? І чаму?*

— Намі кіруюць продкі. Гэта яны, іхныя некранутыя ўстановы сьціскаюць нашу падсьвядомасьць. Таму чалавек сваім нараджэньнем і ўсім жыцьцём, кожным сваім годам і кожным днём, паўтарае тую адну, вызначальную, галоўную архетыповую дзею — пачатак Сусьвету. У строгай цыклічнасьці — зарука гармоніі й стабільнасьці. Чалавек мусіць трымацца спрадвечных, касмалягічна выверанных законаў і штодзень — разам з Сонцам — праходзіць іхны агульны шлях.

*— Гэты цыкль пачынаецца ранкам. Якая міталёгія, магія, рэлігія ці дыктат продкаў прасочваецца ў той першай гадзінцы нашага дня?*

— Прачынаньне ў структуры дня, сутак — гэта першы міні-пераход, першае пераадоленьне мяжы паміж дзьвюма досыць аўтаномнымі часткамі рэ-





чаіснасьці, у дадзеным выпадку, паміж двума адрэзкамі часу. Кожны ж пераход у нашым жыцьці ўлучае й вызваленьне ад уплываў і ціску папярэдняга, і пераадоленьне ягоных магчымых узьдзеяньняў. Для ранку ж такім папярэднікам выступае ноч.

*— Ноч і для сучаснага гараджаніна — час асаблівы, напоўнены прыцягальнай таямнічасьцю...*

— І не дарма, бо лічылася ноч часам ня толькі проста цёмным, але й небясьпечным, бо актывізуецца нечысьць усіх рангаў і званьняў. Чалавек, які сьпіць, знаходзіцца ва ўладаньнях царства ночы, і шматлікія павер'і сьцьвярджаюць, што душа ягоная, аддзяліўшыся ад цела, вандруе дзесьці воддаль. Таму першай забаронай выступае непажаданасьць раптоўнага абуджэньня. Трэба, каб душа пасьпела вярнуцца да цела. Здаровым і найбольш прымальным ёсьць натуральнае прачынаньне. Нездарма мы так і не палюбілі монстраў цывілізацыі — гучныя будзільнікі. Зь іншага боку, сымбалічнае прыпадабненьне сну да сьмерці вызначае разуменьне ночы як падарожжа чалавека на той сьвет. У народзе гэтак і кажуць:

***Як чалавеку сьніцца, што дзе далёка быў або што рабіў, то гэта-такі праўда, што быў і рабіў, бо як чалавек засьне, то зь яго душа вылезе, то ходзіць усюды і ўсё робіць, а потым як назад у цела вернецца, то й чалавек прачнецца.***

Таму арганічнымі бачацца рытуалы ачышчэньня, вызваленьня з-пад узьдзеяньня ночы й ейных насельнікаў. Калі ўбачылі дрэнны сон, жагналіся й казалі тры разы: «Куды ноч, туды й сон», а таксама глядзелі ў акно, а гэта значыць, зьвярталіся па дапамогу да сьвятла, што зможа нэўтралізаваць шкодныя наступствы ночы.

*— Прачнуліся, усталі з ложка. Чаго далей патрабуе ад чалавека традыцыя?*

— Уранку, абудзіўшыся, чалавеку належыць адразу ж аддаць перавагу станоўчаму. Станоўчае ж рэалізуецца ў больш прыватных катэгорыях, прыкладам, ва ўсім правым у процівагу леваму. Хрысьціянства толькі напоўніла канкрэтнымі пэрсанажамі гэтую архаічную пару левага й правага, калі зьмясьціла з правага боку ў нас анёла, апекуна, а зь левага — чорта, спакусьніка, на якога й сплёўваем мы часам праз левае плячо. Гэтаксама й ранкам перавага за правым бокам:

***Устаючы рана з пасьцелі, няможна станавіцца на зямлю перш леваю нагою, бо цалюсенькі дзень будзеш злаваць як паганы сабака альбо гад; перш трэба абуваць і правую нагу, тагды перш прыступіцца анёл і адгоніць ліхую сілу, каторая заўжды вартуе зь левага боку; хто рана ў першы раз ступіць на левую нагу, таго спаткае якоесь няшчасьце.***

*— Таму й кажуць — зь левай нагі ўстаў? А калі сьпіш на жываце, што тады?*

— У традыцыйнай мадэлі сьвету левае сынанімічна ніжняму альбо задняму, і таму забараняецца ўставаць ня толькі зь левай нагі, але й сьпінаю ўверх. І пра таго скажуць: ліхі, бо, мусіць, устаў ракам. Хада задам наперад успрымалася як рух у прастору за сьпінай, а гэта значыць, на той сьвет, у антыпрастору, дзе чакаюць чалавека ўсе адпаведныя падзеі.

*— Наступны этап — адзяваньне. І гэта такое звыклае й будзённае дзеяньне, напэўна, таксама аздабляецца пэўнымі прадпісаньнямі й правіламі традыцыі. А калі, спазьняючыся, надзенеш штосьці навыварат?*

— Што ж, гэта значыць — сёньня цябе нехта паб'е, альбо, зыходзячы з законаў імітатыўнай магіі, чакае





цябе прыкрасьць з нагоды таго, што ад цябе гэтак жа адвернуцца твае знаёмцы. Калі ж у час апрананьня залупіцца падол, то ў той самы дзень будзеш п'яны. Як і калісьці, сучасьнік успрымае выпадковасьці як пэўныя знакі, якія ён расшыфроўвае, зыходзячы з тых ці іншых асацыяцыяў ці аналёгіяў.

*— Далейшы істотны пункт будзённага распарадку — умываньне. Гэтае дзеяньне сёньняшнімі так званымі акультнымі навукамі разглядаецца ня толькі ў сваім фізіялягічным аспэкце, а як і ачышчэньне духоўнае, змываньне граху. А ў народнай традыцыі?*

— Продкі нямытага чалавека прыпадабнялі да «нячыстага» ў шырокім разуменьні гэтага паняцьця. Згадаем адно зь іншасказальных найменьняў чорта — нямыцік. І што важна, нямыты чалавек успрымаўся як асабліва падуладны чорту, які мог беспакарана зрабіць яго сваёй ахвяраю. Дарэчы, нашы папярэднікі адмоўна ставіліся да фарбаваньня твару, прычынай таму было нэгатыўнае стаўленьне да ўсяго ненатуральнага ды сакральны статус чысьціні наагул. Лягічны працяг умываньня — выціраньне — таксама было рэглямэнтаванае. Катэгарычна забараняецца выціраць твар чымсьці непрыдатным, скажам, анучаю, бо спрацуе закон аналёгіі — людзі стануць табой пагарджаць.

*— Памыліся. Далей — прычэсваемся, парадкуем валасы. Валасы ж ва ўсіх культурах надзяляюцца розным сэнсам. Дык, можа, ня толькі з эстэтычных меркаваньняў патрэбныя нам грабянцы?*

— Ня толькі. Валасы распушчаныя, непакрытыя і ўскудлачаныя лічыліся характэрнай прыкметай пэрсанажаў нячыстай сілы, выступалі сымбалем хаосу й чужасьці. Прычасаныя, упарадкаваныя валасы, у сваю чаргу, сымбалізуюць прыналежнасьць да культуры,

соцыюму. Само прычэсваньне тлумачыцца як пераход з пэўнага стыхійнага стану да культурнага існаваньня. А раніцай патрабавалася вызваліцца з-пад улады ночы, калі забаўляліся з валасамі розныя нашы нябачныя суседзі, і замацаваць пераход да дня, сьвету й культуры ўпарадкаваньнем валасоў. Расказвалі, што

***...дамавік, як залюбіць хазяйку, дык пачне к ей ноччу хадзіць. Валасы пазаплятае, касічак наробіць, не разьдзераш. І Пятніца такая была, як баба, хадзіла па хатах, дык хто ў пятніцу праў, таму валасы ўзаб'е, як кудзелю, ды каўтун напусьціць.***

*— Такім чынам, пачатак працоўнага дня, як і шмат гадоў таму, і сёньня, выглядае прыблізна аднолькава. Дык які вышэйшы сэнс гэтага звыклага парадку?*

— Асноўнай сэмантычнай дамінантай як кожнага зь міні-рытуалаў, гэтак і ўсяго ранішняга абраду выступае ідэя пераходу — пераходу ад дня да ночы, ад цемры да сьвятла, ад сну да бадзёрасьці й, у выніку, ад паўпрыроднага, амаль хаатычнага й блізкага да іншасьвету стану ў сьвет культуры й сацыяльных дачыненьняў. У традыцыйнай культуры розныя часавыя цыклі ў сваім значэньні тоесныя адзін аднаму. Так і ранак у сутачным цыклі раўнуецца да нараджэньня, пачатку жыцьця чалавека. Выходзіць, чалавек, як і навародак, штораніцы вызваляецца з-пад ціску іншасьвету, змывае ўсё старое й нячыстае й, апрануўшыся ды прычасаўшыся, уваходзіць у соцыюм.



# СЫМБОЛІКА ТРАДЫЦЫЙНАЙ ВОПРАТКІ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Даўно мінуў час, калі чалавеку дастаткова было загарнуцца ў зьвярыную шкуру альбо завязаць на сьцёгны павязку. У іншыя эпохі адзеньне было своеасаблівым пашпартам чалавека, які паказваў на ягоныя пол і сацыяльны статус. Сёньня ж фантазіі ў манеры апранацца няма межаў, нагавіцы ахвотна надзелі кабеты, і мужчыны ня супраць пераняць сёетое з жаночага гардэробу. Мода зрабілася адной з буйнейшых галінаў індустрыі, паламаўшы ўсе звыклыя стэрэатыпы й традыцыі. І сярод гэтага бязьмежжа стыляў і варыянтаў ёсьць адзін, асаблівы, скрозь напоўнены нейкім унутраным, «нематэрыяльным» сэнсам — народны нацыянальны строй. Той касьцюм, што ўвабраў у сябе жыцьцёвыя пачуваньні й погляды нашых продкаў.**

*— Дык як старажытныя людзі ўспрымалі адзеньне?*

— Чалавек упершыню апрануўся, каб схавацца ад холаду, гарачыні, дажджу. Архаічны чалавек успрымаў адзеньне аналягічна дому, жытлу. Яшчэ да індаэўрапейскіх глыбіняў сягае сымбалічнае атаесамленьне дому й самаго чалавека з Космасам, адпаведна, структура Сусьвету як бы пераносіцца на структуру касьцюму й тым задае ягоныя сэнсы. Нашы продкі дзялілі Сьвет на тры часткі — Неба, Зямлю й Падзем'е. Вось жа і ў структуры строю вылучаюцца аналягічныя складнікі ды ідэі. Неба, верх, крону як сымбаль мужчынскага пачатку ў народнай культуры дэманструе

рытуальнае функцыянаваньне шапкі, ніз жа з традыцыйна жаночым ягоным успрыманьнем увасобіўся ў сымболіцы абутку. А яшчэ ніз — гэта замагільле й шлях туды, таму і ўяўляўся лапаць ці як сымбаль пераходу на той сьвет, ці як атрыбут самаго нябожчыка. Кашуля як прадаўжэньне цела чалавека, ягоны «двайнік» — пасярэдніца між верхам і нізам.

*— Як бы хутка ні мянялася мода, але мы ўсё роўна носім нагавіцы, кашулі, шапкі ды хусткі. Сьвітка мадыфікавалася ў элегантны пінжак, гарсэт — у камізэльку, андарак — у спадніцу. Сталі значна карацейшыя мужчынскія кашулі, жанчыны навучыліся насіць споднюю бялізну. А што з традыцыйнага строю зьнікла зусім? Што засталося толькі ў сцэнічным убраньні ці ў музэйных шафах?*

— Перадусім, гэта фартух — элемэнт жаночага паяснога адзеньня, рэч дужа насычаная ў сымбалічным пляне. Як сьведчыць большасьць этнаграфічных запісаў, фартух дзяўчаты пачыналі насіць з дасягненьнем паўналецьця. Ён якраз і паказваў на іхную гатовасьць да шлюбу. У першую чаргу праз генітальную аднесенасьць сымболіка фартуха замяшчала ідэю жанчыны, ідэю нараджэньня — у фартух кідалі чарапкі, каб бясплодныя жанчыны маглі зацяжарыць, фартухом выціралі сурочаных дзетак. Дый вераваньні зьвязваліся перадусім з пытаньнямі каханьня й сэксу: калі дарогай разьвяжацца пярэднік — муж здрадзіў; страта фартуха паказвала на пэўную вольнасьць у паводзінах. Сымболіка ж парванага фартуха не выклікае сумненьняў:

***Я ўстала рана-рана.***
***Гляджу — фартух разарваны.***
***Гляджу-гляджу туды-сюды,***
***Ажно вецер вее ўсюды.***





*— Зьвяртае на сябе ўвагу колеравая гама традыцыйных фартухоў. У абсалютнай бальшыні гэта чаргаваньне чырвоных і белых палосаў, чырвоны арнамэнт на белым тле. Ці выпадковая такая камбінацыя, ці можа яна мець працяг у іншых сымбалях?*

— Асабліва строгай была арнамэнтыка вясельнага фартушка. Рытмізаванае чаргаваньне чырвоных і белых палосак сымбалізавала радаводную эстафэту жыцьця на фоне вечнасьці. Але хацелася б зьвярнуцца да адметных палескіх запісаў. На Юр'я на Століншчыне нават у другой палове XX стагодзьдзя адбываўся наступны абрад:

***Зьбіраюцца дзеўкі й хлопцы й ідуць на жыта. Бяруць граблі й пачэпяць з аднае стараны фартуха краснага, а з другой — белага. Да ў акно махаюць фартухамі. То й дзе жалоба — то белым, а дзе весела, то красным. А ім даем ужо хлеб, яйца, хто што мае.***

Спалучэньне белага й чырвонага фартухоў, хоць і на граблях, фактычна паўтарае функцыянаваньне й сэмантыку бела-чырвона-белага сьцяга зь ягоным асноўным значэньнем сымбалічнай дэманстрацыі радаводных ідэяў.

*— Нагавіцы калісьці былі выключна мужчынскім адзеньнем. Як гэта паўплывала на іхны сымбалічны сэнс?*

— Сапраўды, нагавіцы выступалі як асноўны полавызначальны элемэнт адзеньня й сымбалізавалі самога мужчыну. У варожбах іх падкладалі пад галаву. У любоўнай магіі на Яна абцягвалі вакол вёскі, каб хлопцы не хадзілі да чужых дзяўчат. Таксама ў зубах абносілі вакол хаты й задумвалі імя хлопца. Калі муж паміраў, жонцы, каб не тужыла, раілі надзець ягоныя нагавіцы й імітаваць ягоную зьяўленасьць. Яшчэ

адзін сымбалічны сэнс мелі штаны: яны ўвасаблялі абарончую моц, скіраваную на супрацiў усім магчымым праявам іншасьвету (штанамі выцiралі ад сурокаў ці выганялі чужога хлеўніка).

*— У фальклёры, асабліва казках, папулярны матыў пераапрананьня. Як у ім адбіўся архаічны сьветагляд?*

— Адзеньне — матэрыяльны фатаздымак чалавека, у ім — ягоная сацыяльная, узроставая й іншыя характарыстыкі. Таму пераапрануць чалавека ў слоўніку казкі — гэта значыць зьмяніць ягоны статус і тым самым перавярнуць ці нават праўтварыць яго. Такога чалавека ніхто не пазнае, больш дакладна, яго прымаюць за іншага. Аднак і ён становіцца іншым. Лічылася, што калі апранеш нават мітычнага пэрсанажа, прыкладам, ваўкалака, дык ён можа вярнуцца нават да чалавечага жыцьця:

***Ішоў адзін мужык сабе лесам, бачыць: ляжыць воўк, дрыжыць, але ня вые, ня кідаецца, а ўсё калоціцца. Пашкадаваў яго чалавек, скінуў зь сябе сьвітку ды прыкрыў таго ваўка. Як упала на яго сьвітка чалавечая, дык ён і сам зноў стаў чалавекам.***

*— У казках шмат матываў, зьвязаных з адзеньнем. Прыкладам, гісторыя пра шапку-нявідку. Якія яна шыфруе старадаўнія ўяўленьні?*

— З дапамогай шапкі-нявідкі казачны герой мог бесьперашкодна пераадольваць час ці прастору, зьнікаць у адным месцы й зьяўляцца ў іншым. У традыцыйнай жа культуры імгненныя пастаравыя перамяшчэньні разглядаліся як сьмерць у адным месцы і ўваскрасеньне ў іншым. Таму нябачнасьць героя ўспрымалася як ягоная часовая міні-сьмерць, патрэбная для далейшага ажываньня-праўтварэньня. Разумеючы сувязь шапкі-нявідкі са сьмерцю й тагасьветамі, беларусы верылі, што здабыць яе можна, толькі адабраўшы ў чорта:

***Шукаюць струк такога гароху, у якім дзевяць зярнятаў, той гарох сеюць на полі, дзе не чуваць, як пяюць пеўні. Як вырасьце, вырываюць сем калiваў і моўчкі нясуць іх тою парой, як жывёла ідзе з поля. Жывёла пацягнецца да яго, каб зьесьці. Тут нада прыглядацца, дзе на валу ці на карове едзе якісь немчык у шапачцы. Трэба тую шапачку схапіць, бо яна й ёсьць нявідка.***

*— Сучасная эстэтыка сьцьвярджае, што праўдзівым чалавек становіцца тады, калі скідае зь сябе вопраткі, а значыць, умоўнасьці цывілізацыі. А ў традыцыйных поглядах беларусаў, хто ён — чалавек, які скідвае зь сябе адзеньне? Можа, становіцца зноўку часткаю прыроды, губляючы свой культурны статус?*

— Найперш рытуальнае распрананьне вылучаецца ў абрадзе хрышчэньня. Голы чалавек, як і Ісус Хрыстос, скідае зь сябе старое адзеньне граху, якое «надзеў» пасьля падзеньня Адам. Гэта й сымбалізуе вяртаньне да першаснай чысьціні й бязьвіннасьці — словам, вяртаньне ў тагасьветную прастору. Разам з тым катэгорыя «голае» выводзіць чалавека па-за межы культуры, далучае да катэгорыяў «чужога» й «неасвоенага». Голы чалавек адкрываўся для кантактаў зь іншасьветам. Таму менавіта распранутымі варажылі, чаравалі, лекавалі ды шукалі сустрэчы з чарцямі. Адпаведна, у адзеньні чалавек шукаў нібы абароны ад непажаданых уплываў, холаду ды варожых паглядаў. Дый сёньня, хоць ідэі моды, прэстыжу амаль цалкам выцесьнілі традыцыйныя сэнсы адзеньня, але яно для чалавека працягвае заставацца другім маленькім домам ды становіцца Космасам, што супрацьстаіць хаосу навакольнага сьвету.

# УСЁ ЖЫЦЬЦЁ — ДАРОГА

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Перамяшчэньне й рух — асноўныя прыкметы жыцьця, асноўныя якасьці і ў філязофскім, гістарычным, сэміятычным сэнсах, і ў цалкам будзённым разуменьні. Кожнае перамяшчэньне мяркуе наяўнасьць шляху, дарогі, што маюць пачатак і канец, але могуць і зьлівацца ў бясконцы рух. Дарога можа набліжаць і аддаляць, аб'ядноўваць і разьядноўваць — у любым выпадку, яна выступае арганізатарам як прасторы, гэтак і часу. І тады мы кажам: наш, мой жыцьцёвы шлях. А народная мудрасьць, нібыта паводле аналёгіі з Шэксьпіравым «Усё жыцьцё — гульня», цьвердзіць: «Усё жыцьцё — дарога». А яшчэ да гэтага беларусы дадаюць: «Прасі Бога» і ўдакладняюць: «На сьвеце як у карэце: едзеш і калышасься, пакуль ня вывернесься». Жыцьцё ўяўляецца доўгай дарогай, а чалавек — падарожным. Натуральна, што ў кожнага свой лёс, свой жыцьцёвы шлях. Але распачынаецца ён для ўсіх прыблізна аднолькава — прыходам.**

*— Наколькі прыдатнае такое азначэньне — прыход — для народзінаў чалавека?*

— Радзінная абраднасьць і зьвязаныя зь ёю моўныя выразы прэзэнтуюць ідэю дарогі ва ўсёй ейнай шматграннасьці. Найперш разуменьне родаў як выхаду дзіцяці, пераадоленьне ім дарогі й парогу вызначыла вядомыя й сёньня забароны й парады для цяжарнай — нельга сядзець на парозе, а то дзіця будзе «стаяць на парозе» — цяжка нараджацца; з пачаткам схватак бабка вадзіла парадзіху вакол стала, праз усе парогі, каб і дзіцятка гэтак жа скоранька рухалася.





*— І першыя крокі дзіцяці бацькі ўспрымалі як пачатак ягонай жыцьцёвай дарогі?*

— Так, і ў традыцыі гэтая падзея атрымала нават рытуальнае афармленьне:

***Яшчэ ў матчыным лоне ножкі дзіцяці зьвязваюцца нябачнымі путамі, з-за чаго яно ня можа хадзіць адразу пасьля нараджэньня, як жывёлы. У некаторых дзяцей гэтыя путы мацнейшыя: такія дзеці даўжэй ня ходзяць. Таму трэба разрэзаць путы й аслабаніць дзіця. Як толькі дзіця зробіць першыя свае крочкі, маці ці хто іншы праводзяць нажом па падлозе ці па зямлі са словамі: «Разарвіцеся, путы!».***

Цікава, што дзіцячая мэтафорыка скарыстоўваецца намі дзеля апісаньня дарослага жыцьця. Так, мы кажам «рабіць першыя крокі», распачаўшы нейкую новую дзейнасьць, альбо «крэпка стаць на ногі» — чагосьці ўжо дасягнуць.

*— Як вынікае, у нараджэньні дзіцяці ключавым ёсьць пераадоленьне мяжы. Але чым далей, такую сымбалічную мяжу на дарозе знайсьці ўсё цяжэй. Безумоўна, жыцьцёвых перашкодаў хапае. А сымбалічных?*

— Выразнай падзеяй на дарозе зьяўляецца вясельле, шлюб. Вось жа ці ня кожны з нас у тым жа Менску згадае, што па дарозе з Палацу шлюбаў абіраў дарогу, каб праехаць праз мост. А фактычна пераадолець ці не адну з самых сур'ёзных у традыцыйным разуменьні дарогаў. Праўда, сёньняшнія масты не ахоўвае Зьмей Гарыныч, як мост праз раку Смародзіну, але сымболіка мосту зьбірае ў адзін пучок усю сымболіку дарогі. Таму разуменьне вясельля як падарожжа цалкам слушнае. І нашы вясельныя вандроўкі-падарожжы — толькі сучасная рэалізацыя традыцыйнай схемы.

*— А для пахавальнай абраднасьці ідэя дарогі настолькі выразная, што мы проста й будзённа кажам — правесьці ў апошні шлях. Хаця разумеем: гэта шлях да могілак.*

— Між тым, у народных поглядах для нябожчыка гэта шлях на той сьвет. Менавіта для яго цяжкой і доўгай дарогі ў пахавальнай абраднасьці асаблівая ўвага надаецца нагам і абутку памерлага. У асобных раёнах да сёньня кладуць у труну запасныя новыя шкарпэткі, дый абутак мусіць быць новы. Як у казках, каб дабрацца да таго сьвету, трэба знасіць не адну пару жалезных ботаў. Дый у галашэньнях паўстае сьмерць як дарога:

***А мая ж ты мамулечка, а куды ж ты сабралася,***
***А ў якую дарожачку, а ў якую далінычку, а ў якую даміначку?***
***А ў дарожаньку далёкую, а ў дарожаньку няежджаную.***
***А з той дарожанькі ніхто дамоў не прыходзіць.***

*— Шлях між жыцьцём і сьмерцю — таксама дарога, і вельмі няпростая. Мы кажам: зьбіцца з тропу, заблудзіцца ў жыцьці, згубіць арыенціры. Якія яшчэ сэнсы набывае мэтафара дарогі?*

— Дарога ўнівэрсальна тлумачыцца як маральная катэгорыя, кірунак, якога належыць трымацца. Шматлікія выразы сьведчаць, што чалавека можна «наставіць на пуць» і «зьбіць з тропу», што ёсьць чалавек «путны», «пуцёвы» й ёсьць «бяспутны», што хтосьці ідзе «прамой дарогай», а хтосьці абірае «крывыя сьцежкі». Усё гэта маральныя алегорыі, якія тым ня меней паказваюць на сымболіку прамой дарогі як правільна абранай жыцьцёвай стратэгіі. Калі ж чалавек выбірае гэтак званы іншы шлях, дык ягоная дарога ўспрымаецца «крывой», «блытанай» (дарэчы, блытаць, заблудзіцца й блуд — словы аднаго кораню)





і нават «закручанай». Пра чалавека, які жыве няпраўдаю, скажам — «скруціўся», бо ішоў не наперад, а кругамі. Такое абазначэньне чалавека праз паказаньне на ягоны шлях абумовіла прыказку: «На торнай дарозе трава не расьце». Гэта пра жанчыну, у якой празь ейныя непрыстойныя паводзіны няма дзяцей.

*— У мэтафары дарогі ці толькі ідэя руху важная? Дарога — гэта яшчэ й месца нейкіх сустрэчаў, прыгодаў, здарэньняў.*

— Сапраўды, дарога разумеецца як месца, дзе выяўляецца лёс чалавека, ягоная доля пры сустрэчах як зь людзьмі, гэтак і з прадстаўнікамі засьветаў. Згадаем казкі. Сюжэт ці ня кожнай зь іх закручваецца й дасягае апагею пры выпраўленьні героя ў дарогу. І вось тут яго чакае камень ці слуп з надпісам, а фактычна праблема выбару далейшага лёсу:

***От едуць яны ды едуць, аж растанцы на дарозе, і слуп, а на ім штось напісана. Чытаюць: хто паедзе направа, той здабудзе славу, хто налева — знойдзе багацьце, а хто проста, таго спаткае сьмерць. Адны паехалі направа шукаць славы, хто налева, а Кавальчук рашыў, што ад сьмерці не адперці, дык лепш ехаць простаю дарогаю.***

Усе знаходкі, зробленыя на дарозе, маюць незвычайны знакавы характар. Менавіта на дарозе герой сустракаецца з Богам (часьцей у выглядзе старца), сьвятымі, падарожнымі. Сустракаюцца на ёй і добрыя, і дрэнныя знакі. Штосьці нядобрае прадказвае сустрэча з папом, зайцам, чорным катом, жанчынай з пустымі вёдрамі ці кошыкам, добрае — з ваўком ці жабраком. Асабліва гэта датычылася момантаў, калі чалавек выпраўляўся на значныя для гаспадаркі заняткі. З чарцямі дый іншымі дэманамі чалавек сустракаецца таксама на дарозе. Шырока бытуюць быліны пра падарожных і чорта ў выглядзе барана, козь-

ліка. Наагул, дарога, што лучыць засьветы, успрымаецца міталягічна як «нячыстае» месца.

— *Напэўна ж, ня можа быць для ўсіх і ўся дарога «нячыстай». Гэта — толькі асобныя адрэзкі яе. Якія яны ў беларусаў?*

— Найперш, гэта ростані — адзін з важнейшых каналаў камунікацыі з засьветамі. Гэта нулявая, пачатковая кропка дарогі й прасторы наагул, дзе ў крытычныя часавыя моманты разгортваліся рытуальныя дзеі — палілася купальскае вогнішча, сьпяваліся заклінальныя песьні. Як моцны інфармацыйны канал ростані выкарыстоўваюцца ў варожбах. Апоўначы на Купальле дзяўчаты гукалі долю:

***На Купалу пасьля заходу сонца, як заблішчаць на небе зоркі, дзеўкі голыя бягуць дзе-небудзь за вёску на растанцы, становяцца ракам і зубамі бы гавядо рвуць падарожнік. Яны з гэтым зельлем моўчкі бягуць дамоў і лажацца спаць, а падарожнік кладуць сабе пад голаў. Ноччу ня хібіць прысьніцца суджаны.***

— *Менавіта на ростанях, дарогах, што вядуць да гораду, вёскі, ставяць прыдарожныя крыжы. Як злучыліся тут паганскія й хрысьціянскія традыцыі?*

— Найперш, крыж закліканы нэўтралізаваць патэнцыйную небясьпеку гэтага месца для чалавека й соцыюму. Але ростані — таксама крыж, толькі гарызантальны. Назіраем як бы дубляваньне крыжа, што ўзмацняе сакральнасьць месца ды робіць магчымым кантакт з Богам. Мэтафара дарогі, шляху актыўна скарыстоўваецца і ў паэтычна-публіцыстычным, палітычным дыскурсах. Ад пачатку мінулага стагодзьдзя кліча за сабою «шлях да волі», «да збаўленьня й шчасьця дарога». Васіль Быкаў назваў роздумы пра лёс свой і радзімы «Доўгая дарога дадому». Зрэшты, у кожнага з нас ёсьць і доўгая дарога да самога сябе.



## КАЛОДНАЕ ПЧАЛЯРСТВА

*Размова зь Дзянісам Раманюком*

**Беларусы заўсёды любілі мёд і ўмелі яго здабываць. У далёкай мінуўшчыне раі пчолаў засяляліся ў дуплы дрэваў, а людзі вышуквалі іх, каб адабраць іхны мёд. Пазьней — сталі даглядаць, ахоўваць знойдзеныя раі. Бортнікі (так называлі сябе тыя, хто займаўся здабычаю мёду) сталі заманьваць пчаліныя раі ў зробленыя ў вершалінах дрэваў дуплы — борці. А па часе пачалі вырабляць калоды, памайстэрску імітуючы дуплы дрэваў. Ставілі іх у лясах, на дрэвах і проста ў палях. Беларусы ахвотна займаліся здабычай мёду. Так, у XVI стагодзьдзі на нашых землях было больш за мільён борцяў, якія прыносілі да паўмільёна пудоў мёду штогод. Сёньня клясычнае бортніцтва амаль зьнікла, але ягоны рудымэнт — калоднае пчалярства — сям-там яшчэ можна назіраць. І людзі ёсьць, якія называюць свой занятак не пчалярствам, а бортніцтвам.**

— *Дзе сёньня можна знайсьці аўтэнтычных бортнікаў?*

— Ёсьць на Палесьсі вёска Аздамічы, дзе, як кажуць мясцовыя жыхары, «займаюцца пчоламі па-старынnаму». Двойчы на год — вясною ў траўні й восеньню, напярэдадні сьвята Ўзьвіжаньня — там «хаджаюць пчолаў». Гэта значыць, аб’яжджаюць борці. Вясна ў даліне ракі Прыпяці звычайна суправаджаецца вялікай паводкай. Таму аб’езд сваёй лясной гаспадаркі жыхары Аздамічаў рабілі на лодках. Пераплываючы ад дрэва да дрэва, яны вычышчалі дно борцяў ад сьмецьця, правяралі стрэхі й мацаваньні. Увосень

бортнікі чысьцілі борці, а самае галоўнае — зьбіралі ўраджай.

*— Якія прылады палешукі бяруць на гэтыя «хаджаньні»? Як яны выглядаюць?*

— Дзеля гэтага яны найперш маюць адмысловую драбіну. Яе называюць «астроў», і нагадвае яна сукаватае дрэва з каротка абсечанымі сукамі. Такую драбіну рабілі каля кожнага дрэва з борцю й хавалі побач у кустах ці ў траве. Астатнія прылады ўсім добра вядомыя: дымакур, шаня, у якую зьбіраюць ураджай, вяроўка, сякера...

*— Як выглядае борць?*

— Борць выраблялі з адмысловых сасны ці дуба. У сярэдзіне мусіла быць прыродная пустата, што спрашчала працу бортніка. Вось як апісвае яе мясцовы бортнік:

***Не абавязкова, каб дрэва было здаровае цалкам. У сярэдзіне яно можа быць гнілаватае. Гэта нават самае лепшае: і рабіць лёгка, і пчолы садзяцца. Дуб вельмі цьвёрды — дык найлепей, каб ён быў сухі, а ў сярэдзіне гнілы. Мы падрэжам яго, вычысьцім сярэдзіну...***

Атрымліваецца нешта накшталт бочкі. Да яе прыраблялі дно й страху. Асаблівую ўвагу надавалі страсе. Яе рабілі шматслойнай, як торт. Выкарыстоўвалі берасту, шыфэр, дошкі. Рабіўся ляток і адмысловая адтуліна, якую таксама называлі «борць», праз яе даглядалі пчолаў і ўвосень забіралі ўраджай.

*— Як борці ўсьцягвалі на дрэвы?*

— Борці былі вялікія й вельмі цяжкія. Некаторыя маглі важыць ажно тону. Бортнікі каапэраваліся, і некалькі чалавек падымалі борці з дапамогай адмысловай прылады ў выглядзе кола, якое мацавалася на





вершаліне дрэва, праз яго перакідалася вяроўка — выходзіла гэткая лябёдка. Зьнізу яе падымалі некалькі бортнікаў, а зьверху яшчэ адзін скіроўваў борць на месца.

*— Сёньня бортніцтвам займаюцца людзі ў вольны ад хатняй гаспадаркі час і толькі двойчы на год аб'яжджаюць борці. Ці ня трэба пільнаваць борці ад людзей ды зьвяроў? Мы ж ведаем з казак, што той жа мядзьведзь любіць паласавацца мёдам.*

— Мне было вельмі цікава даведацца пра колішнюю прыладу, што абараняла борці ад мядзьведзяў. Рабілася яна з драўлянай калоды, якую падвешвалі на вяроўцы пад борцяй. Атрымлівалася нешта накшталт ківача. Мядзьведзь, калі залазіў на дрэва, дык упіраўся галавою ў гэтую калоду й пачынаў адмахвацца лапаю. Чым мацнейшыя былі ўдары мядзьведзя, тым хутчэй гойдалася бервяно. Раззлаваны касалапы, захапіўшыся змаганьнем, звычайна звальваўся з дрэва, так і не паспытаўшы мёду. Сёньня ўжо ў Аздамічах немагчыма пабачыць гэтага прыстасаваньня, бо апошняга мядзьведзя застрэлілі ў 1943 годзе партызаны. Так казалі мне вяскоўцы. І, як яны гавораць, страшны сёньня для борцяў і пчолаў ужо ня зьвер, а чалавек.

***Бывала, што птушка праб'е жаўно ды зьесьць мёд, куніца выгрызала. Багата такіх выпадкаў было. А вось, каб людзі, — не. Цяпер залазяць. Чалавек — самы небясьпечны. Забірае ўсё, матку зьнішчае, а тады й рой прападае.***

*— Як сучасныя бортнікі зь вёскі Аздамічы ставяцца да мёду? Проста як да ласунку, ці мёд значыць для іх нешта большае?*

— Быў час, калі цукру не было й мёд быў адзіным ласункам. Нават ёсьць такая прымаўка ў іх: «Ты што,

хацеў есьці мёд лыжкамі? Мёд трэба есьці капелькамі. Гэта ж лекі». Яны згадваюць расповеды сваіх дзядоў:

***Зь вясельля прыйдуць і кажуць: вось багатае вясельле было — у іх на сталах мёд стаяў у талерках. А таго мёду было — раз-два памакнуў і ўсё. Але калі быў мёд, дык тады лічылася багатым вясельле. Толькі заможныя людзі маглі мёдам частаваць.***

Існавала й такая традыцыя. Калі бортнікі абыходзілі свае борці й дарогай сустракалі якога мінака, дык яны абавязаныя былі яго пачаставаць. Інакш у іх ня будзе мёду налета. Цікава пра гэта распавядае спадар Хведар зь вёскі Аздамічы:

***Мы былі хлапчукамі, і таго мёду так хацелася... А бывалі гаспадары, што ніколі не давалі мёду. Дык мама нас вучыла: калі дзядзька ня даў мёду, дык трэба ўзяць шапку, вывернуць яе й пацерці: гэта значыць, пчолы ня сядуць.***

*— А ці праўда, што борці ставілі ня толькі на дрэвах у лясах, але й ля могілак?*

— Так, бо лічылі, што з дапамогай душаў памерлых пчаліная сям'я прынясе больш мёду. Дый па сёньняшні дзень шмат дзе стаяць борці ля могілак. У кнізе вядомага этнографа й мастака Міхася Раманюка «Беларускія народныя крыжы» ёсьць такія здымкі.

*— Чаму жыхары Аздамічаў здабываюць мёд гэткім працаёмкім спосабам, а не па-сучаснаму — паставіўшы вульлі на падворку?*

— У палешукоў старыя традыцыі — яны, як нідзе больш, захоўваюцца ажно да сёньняшняга дня. Яны ня толькі бортніцтвам займаюцца, а й іншымі традыцыйнымі спосабамі зарабляюць грошы. Гэта нешта сакральнае.





*— Вы, натуральна, пакаштавалі гэты мёд. Мёд дзікіх пчолаў, мёд з борцяў адрозьніваецца смакам ад мёду хатніх пчолаў?*

— Адназначна, што такі мёд смакам не падобны да мёду з вульляў. Гэтых пчолаў, у адрозьненьне ад вульлёвых, не падкормліваюць увогуле, не кладуць ім вашчыну. Усё, што там ёсьць — воск, прапаліс, мёд — натуральнае, прынесенае з палёў, лясоў.

*— Дык чым тады прываблівають пчолаў, каб яны заляцелі ў борць?*

— Разьвешваюць увесну адмысловыя паскі, пафарбаваныя ў вельмі яркія колеры. І пчолы ляцяць, як на прыгожую кветку. Або на дно борцяў кладуць кветкі багуну ці іншыя пахкія кветкі. І на гэты водар пчолы ляцяць.

*— Дзікія пчолы зьлейшыя за хатніх? Як засьцерагаюцца палескія бортнікі ад укусаў пчолаў?*

— Пчолы ўсе аднолькава злыя. Але мясцовыя бортнікі, што мяне ўразіла, ніяк не засьцерагаюцца ад іх. Яны проста на галаву нацягваюць шапку, падымаюць каўнер вышэй і лезуць да гэтых борцяў. Пчолы іх, натуральна, кусаюць. Але гэтыя людзі ўжо так прызвычаіліся да ўкусаў, што яны ім як звычайныя камарыныя.

*— У наш час палеская вёска Аздамічы — адна зь нямногіх выспаў, дзе яшчэ неяк захоўваецца старадаўні беларускі промысел — бортніцтва. Дарэчы, і тлумачальны слоўнік беларускае мовы пазначае слова «бортніцтва» як састарэлае. Ці шмат людзей займаюцца бортніцтвам у той вёсцы? Ці перадаюць яны традыцыі й свае калоды наступнаму пакаленьню?*

— На сёньняшні дзень у вёсцы засталося, можа, пяць

чалавек, якія займаюцца бортніцтвам. У асноўным гэта старыя дзяды й яшчэ два-тры чалавекі з маладзейшых, якія атрымліваюць у спадчыну гэтыя борці ды выяжджаюць іх глядзець. Традыцыя перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне, таму яна яшчэ й захоўваецца. Але ў маіх вушах гучаць словы дзеда Навума: «Рана ці позна з гэтым трэба разьвітвацца, а далей і з гэтым сьветам».



## БАБРОВЫЯ ЛЕГЕНДЫ

### *Размова з Алесем Белым*

**Беларускі фальклёр вельмі багаты на згадкі пра бабра. Бабру людзі надавалі самыя фантастычныя й неверагодныя рысы:**

***Ляцеў бабёр цераз двор,***
***На ём сукенак дзевяць пар,***
***На ём шапачка баброва,***
***Загарэлася дуброва!..***

**Зрэшты, бабёр і для іншых народаў ёсьць жывёлінай і знакавай, і эканамічна карыснай. Так, у XVII—XIX стагодзьдзях эканоміка Канады ледзь ня цалкам была пабудаваная на бабровым промысьле. Яшчэ ў 1685 годзе ў Аўгсбургу выдалі кнігу нямецкага лекара Ёгана Марыюса «Castorologia» — гэта навука пра бброў. Гэтак сама — «Castorologia» — называлася й ангельскамоўная кніжка Мартына Горэса канца XIX стагодзьдзя. Так што некалі бабёр карміў ня толькі паляўнічых, але й навукоўцаў таксама. Дый ва ўсходніх славянаў у той час, калі толькі нараджаліся прыватная ўласнасьць і дзяржава, прадукты баброўніцтва — бабровыя футры й бабровы струмень — былі ці не найпершымі экспартнымі таварамі. Праз іх жыхары іншых частак Эўропы атрымлівалі ўяўленьне й пра продкаў сучасных беларусаў.**

*— А самі старажытныя беларусы ці цанілі гэтую жывёліну?*

— Калі мы паспрабуем уявіць сябе на месцы нашых продкаў, прыкладам, XVI стагодзьдзя, дык у іхным жыцьці бабёр увесь час быў — калі не прадуктамі бабpоўніцтва (бо мала хто мог сабе дазволіць бабро-

вые шапку ці каўнер), дык шматлікімі легендамі ды паданьнямі, часам анэкдатычнага зьместу. Па-першае, людзей здаўна дзівілі будаўнічыя здольнасьці баброў. Іх, дарэчы, надзвычай перабольшвалі, ствараючы абсалютна фантастычнае ўяўленьне пра лад жыцьця гэтых зьвяроў. Па-другое, апроч футра, бабёр даваў гэтак званы бабровы струмень — рэчыва з рэзкім мускусным пахам, якому прыпісвалі нават магічныя ўласьцівасьці. У нашых шыротах немагчыма было дастаць парашок з рогу насарога ці якое мумiё. Вось струмень і выконваў тую ж ролю. Прынамсі дзьве з паловай тысячы гадоў струмень быў для чалавецтва панацэяй ад усіх магчымых хваробаў: болю ў вушах і галаве, ікаўкі, колікаў у страўніку, глухаты, падагры, абмаражэньня, нават гістэрыкі. Ужывалі яго й як проціядзьдзе ад укусу скарпіёнаў і тарантулаў, і як сродак ад блохаў. Адны лекары лячылі ім бессань, іншыя, наадварот — санлівасьць. Толькі ў канцы XIX стагодзьдзя эўрапейскія мэдыцына й фармакалёгія паставілі кропку на ірацыянальнай веры ў моц бабровага струменю. І вельмі своечасова, бо менавіта попыт на струмень падвёў бабровых як біялягічны від да мяжы выжываньня.

*— Дык што гэта за струмень, пра які сёньня ніхто ня ведае?*

— Людзі сярэднявечча, пэўна, расчараваліся б, даведаўшыся, што струмень — усяго толькі крышталізаваная й фэрмэнтаваная... мача! Памылкова лічылі, што струмень утрымліваецца ў машонцы бабра, хаця ён адкладаецца і ў самак. Па ўсёй Эўропе, пачынаючы ад рымскага вучонага I стагодзьдзя Плініюса Старэйшага, верылі, што калі бабёр ня можа інакш уратавацца ад паляўнічага, ён адгрызае сабе гэтак званыя «строі» ды пакідае іх чалавеку, каб захаваць жыцьцё й свабоду. У Рэчы Паспалітай была такая прымаўка: «Адкупіцца, як бабёр строямі». Гэта пра





чалавека, які ўхіліўся ад нейкіх непрыемнасьцяў занадта вялікім коштам. Верылі таксама (і, дарэчы, дагэтуль вераць), што зьнянацку засьпеты бабёр, убачыўшы немагчымасьць паратунку, плача сьлязьмі, як чалавек.

*— А што яшчэ, апроч футра й «строяў», цікавіла паляўнічых?*

— Хвост. Пакрыты лускай, бабровы хвост нагадваў рыбу, таму сярэднявечнае каталіцкае духавенства абвясьціла яго ежай, прыдатнай для поснага ўжытку. Ня толькі ў нас, але й па ўсёй Эўропе ў Вялікі пост ксяндзы ласаваліся бабровым хвастом, які, дарэчы, праваслаўнае духавенства лічыла ежай нячыстай. Увогуле, ва ўсім сьвеце пра бабровы хвост хадзіла мноства легендаў. Прыкладам, што бабёр сьпіць на беразе з хвастом, апушчаным у ваду, каб пачуць набліжэньне лодкі з паляўнічымі. Яшчэ казалі, што ён карыстаецца хвастом як шуфлікам пры будаўніцтве хатак і грэбляў. Альбо заганяе хвастом палі ў зямлю. Карацей, слановы хобат нейкі, а ня хвост. Гэтым мітам кінулі верыць менш як сто гадоў таму.

*— Баброў лічылі вельмі ўмелымі рамесьнікамі. Дык чым яны працавалі — хвастом, зубамі ці, можа, лапамі?*

— Усе народы паўночнай паўкулі, якія палявалі на баброў — у Сібіры, у Эўропе, у Амэрыцы — верылі, што бабры мала чым саступаюць чалавеку ў тэхнічных магчымасьцях. Ва ўкраінцаў пра бабра ёсьць такая загадка: «Галава сабачая, хвост рыбін, а розум чалавечы». Індзейцы Паўночнай Амэрыкі ў XVII—XVIII стагодзьдзях лічылі, што бабры здольныя каваць мячы ды нажы, пячы хлеб ды яшчэ шмат чаго. Нашы легенды не сягалі так далёка, але, напрыклад, галоўны лясьнічы вялікіх маёнткаў князя Вітгенштэйна ў Слуцкім павеце ня так ужо даўно, у 1884 годзе,

пераконваў, нібыта бабры на адкрытых прырэчных прасторах засаджваюць лазою падыходы да вады. Прычым, ён быццам бы назіраў, як бабры імкнуліся не пашкодзіць лазовую кару й садзілі выкапаныя галінкі наўскос у папярэдне распушаную зямлю. А ў XV стагодзьдзі італьянскі гуманіст Пампонiё Лета, які наведаў Вялікае Княства, пераказваў мясцовыя легенды пра тое, што чорныя бабры пануюць над рудымі, як фэадалы над сялянамі, і прымушаюць тых працаваць на сябе:

***У баброў тры пароды — сяляне, баяры й магнаты. Яны адрозьніваюцца колерам футра. У сялянаў сьпіна звычайна без валасоў і абдзёртыя вушы; футра іхнае вельмі таннае. Баяры чорна-рудога колеру; іхнае футра больш каштоўнае. Ім аздабляюць дзеля раскошы краі вопраткі. Магнаты, якіх ловяць надзвычай рэдка, зусім чорныя. Іхнае футра лёгкае й вельмі дарагое. Яны ніколі не выходзяць са сваіх нораў; калі паказваюцца, дык у суправаджэньні цэлага статку: яны раздаюць сабраныя «сялянамі» запасы. Калі магнат трапіць у рукі паляўнічых, просты бабровы люд упадае ў вялікі смутак, які выражае хадой і абліччам.***

Праўда тут толькі тое, што чорныя бабры сустракаліся больш рэдка й каштавалі сама мала ўдвая даражэй за рудых. Шапкі з чорнага бабра насілі сэнатары Рэчы Паспалітай. Дарэчы, падобныя легенды пра баброў існавалі ў народаў Сібіры й паўночнаамэрыканскіх індзейцаў. Застаецца толькі пашкадаваць, што напраўду інтэлект бабра далёка не такі высокі, і ўсе аповеды пра бязьмежныя тэхнічныя здольнасьці й высокую сацыяльную арганізацыю бабраў ня маюць падставаў. Сучасная навука пазбавіла нас надзеі на тое, што побач з намі жывуць такія сымпатычныя браты па розуме.





*— Мяркуючы па шматлікіх назвах вёсак, даўней бабры вельмі шчыльна насялялі Беларусь. Вось толькі на Віцебшчыне дзесяткі вёсак з назвамі, вытворнымі ад «бабра»: Бабры, Баброва, Бабровічы, Баброўнікі...*

— Не выпадкова асабліва ў Падзьвіньні такая канцэнтрацыя гэтых назваў. Шмат іх у паўднёвай, левабярэжнай частцы былога Полацкага княства. Гэты край, бадай, самы апошні ў краіне, толькі пры канцы XVI стагодзьдзя быў канчаткова запрыгонены. А да гэтага большасьць тутэйшага насельніцтва ўвогуле займалася ня столькі сельскай гаспадаркай, колькі рознымі промысламі — прыкладам, баброўніцтвам і бортніцтвам. А таму й даўжэй захоўвала асабістую свабоду. Лад жыцьця тут чымсьці нагадваў жыцьцё эўрапейскіх каляністаў на вялікіх азёрах Паўночнай Амэрыкі на два стагодзьдзі пазьней.

*— А як там, дарэчы, захоўваюць памяць пра традыцыі мясцовага баброўніцтва?*

— Два з паловай стагодзьдзі экспарт прадуктаў баброўніцтва быў асновай эканомікі Канады. Бабру абавязаныя ўзьнікненьнем шмат якія буйныя сучасныя гарады Паўночнай Амэрыкі — Манрэаль, Дэтройт, Квэбэк, Чыкага, і там добра пра гэта памятаюць. У Канадзе штогоду ў апошнюю пятніцу лютага, пачынаючы з 1974 году, сьвяткуюць Нацыянальны дзень бабра. Школьнікаў возяць на экскурсіі. Яны дапамагаюць ім зразумець, якое месца займаў бабёр у жыцьці іхных продкаў. Пра гісторыю паўночнаамэрыканскага баброўніцтва напісана сотні кнігаў — і навукова-папулярных, і мастацкіх (прыгадаем хоць бы Фэнімора Купэра й Джэймза Олдрыджа). Бабёр — адзін з самых папулярных сымбаляў Канады. У гэтай краіне, а таксама ў асобных амэрыканскіх штатах, існуе папросту культ бабра.

*— Калісьці й беларусы казалі: «Як заб'еш бабра, ня будзеш мець дабра». Гэта значыць, што на бабра ў Беларусі ня толькі палявалі, але й імкнуліся захаваць, зьберагчы яго?*

— Беларусь, магчыма, адзін з самых раньніх рэгіёнаў бабровага промыслу ў гісторыі чалавецтва. Менавіта пра нашы землі як пра асноўнага пастаўшчыка бабровага струменю й шкурак пісалі яшчэ грэк Гэрадот і араб Ідрысі. Да таго ж, мы маем права ганарыцца тым, што былі першай краінай, якая ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 году заканадаўча аформіла мерапрыемствы дзеля аховы папуляцыі баброў:

***Если бы... были гоны бобровые давные звечные у иншого суседа дедизне, ино оный пан, в чыей дедизне будуть гоны, не маеть сам ани людем своим допустить старого поля доорати так далеко, яко бы от зеремени мог кием докинути... А если бы под зеремена подорал або сеножати подкосил, або лозу подрубал, а тым бобры выгонил, таковый маеть платити дванадцать рублей грошей... Пакли бы хто гвалтом бобры побил або злодейским обычаем выкрал, таковый маеть гвалт платити... за чорного бобра чотыри копы грошей, а за карого — две копе грошей.***

Дзякуючы пашане да гэтай жывёлы, якую й дзяржаўная ўлада ВКЛ, і просты люд пранесьлі праз стагодзьдзі, менавіта Беларусь здолела захаваць эўрапейскага бабра ад поўнага зьнішчэньня ў XX стагодзьдзі. Мне б вельмі хацелася, напрыклад, каб у Бярэзінскім запаведніку, які ў свой час адыграў галоўную ролю ў выратаваньні бабра, зьявіўся сапраўдны музэй баброўніцтва. Пакуль тамтэйшы, неблагі ўвогуле, музэй прыроды экспануе, на жаль, толькі чучалы розных зьвяроў. А варта было б, каб ён у экспазыцыі зрабіў





акцэнт менавіта на гісторыі нашага баброўніцтва, нашай нацыянальнай «бабровай міталёгіі» як часткі ўсясьветных зьяваў. Уявіце, калі б сабраць пад адным дахам француская кастаравыя капелюшы XVII стагодзьдзя й парфуму XX, літоўскія прывілеі на бабровыя гоны й бабровыя манэты Кампаніі Гудзонавай затокі, залозы канадзкіх трапэраў і штыхі беларускіх баброўнікаў, двухмэтровы шкілет гіганцкага выкапнёвага бабра й лукі-самастрэлы хантаў ды мансі...

*— Ці мог бы беларускі бабёр стаць такой самай візытоўкай нашай краіны, як бабёр канадзкі для Канады? Або, прыкладам, як собаль для Расеі?*

— Так, але найперш трэба пазбавіцца комплексу непаўнавартаснасьці. Баброўніцтва, калі зірнуць на яго ад першых згадак Гэрадота да заснаваньня Бярэзінскага запаведніка ў 1926 годзе, — адна з самых цікавых зьяваў нашае гісторыі, адна зь нямногіх, што мае ўсясьветнае значэньне. А мы забыліся пра такую прэзэнтабэльную рэч.

## БЕЛАРУС ЗЬ ЛЮЛЬКАЙ У ЗУБАХ

*Размова з Алегам Трусавым*

**У кнізе «Живописная Россия» я зьвярнуў увагу на пададзены там вобраз тыповага, з гледзішча расейцаў, беларуса. Запомнілася мне, што ён быў зь люлькаю ў зубах. Пазьней у савецкіх фільмах ня раз кпілі зь беларускай махоркі. Дый беларускія археолягі ў часе раскопак знаходзяць шмат люлек, піпак, фаек.**

*— Дык ці сапраўды паленьне тытуню было ў мінулым характэрнае для беларусаў?*

— З гледзішча ўжываньня тытуню беларусы — тыповая эўрапейская нацыя. Нашы продкі пачалі яго ўжываць амаль тады ж, калі, напрыклад, і галяндцы, ангельцы. Дарэчы, тытунь у Эўропу завезьлі менавіта ангельцы й галяндцы. А радзіма тытуню — Паўночная Амэрыка, і менавіта індзейцы вакол вогнішча палілі гэтак званую «люльку міру». Адтуль і пайшла традыцыя вырабу люлек і паленьня тытуню. Што тычыцца першых люлек, якія трапілі ў Беларусь, дык яны былі выробленыя або бэльгійскімі майстрамі, або галяндзкімі. Іх мы й знаходзілі ў раскопках. Самыя старыя люлькі датуюцца XVI стагодзьдзем. Спачатку беларусы тытунь толькі палілі, а жаваць і нюхаць навучыліся ў XVIII стагодзьдзі, і з гэтым прыйшло новае слова — табак, альбо табака.

*— Тытунь і табака — гэта не адно і тое ж? Чым яны адрозьніваюцца?*

— Слова «тытунь» прыйшло да нас хутчэй за ўсё з турэцкае мовы праз украінскую. Зазначу, што быў яшчэ адзін шлях трапляньня люлек у Беларусь — турэцкі. Гэта люлькі, зробленыя з чырвонай гліны. Іх называлі «чырвонаглянцавыя». Выраблялiся яны шырока на тэрыторыі сёньняшняй Малдовы, Валахіі — дакладней, на той тэрыторыі, якая належала Турэччыне. І вельмі шмат нам завезьлі люлек украінскія запарожцы. Гэта адбывалася ў часе вайны 1648—1654 гадоў, а потым і ў часе вайны Аляксея Міхайлавіча, калі яны ўжо былі хаўрусьнікамі расейцаў у барацьбе зь беларусамі. У тых гарадах, дзе былі казацкія гарнізоны, археолягі знаходзяць сотні люлек менавіта турэцкага паходжаньня. Першымі сталі шырока паліць тытунь украінцы. Натуральна, што ў Беларусь патрапілі і ўкраінскія люлькі. У другой палове XVII і ў XVIII стагодзьдзі мода паліць перайшла ад шляхты, магнатаў да мяшчанаў, а потым была падхопленая й сялянамі. І якраз з другой паловы XVII стагодзьдзя ў Беларусі пачаўся масавы выраб люлек, якія імітавалі эўрапейскія ўзоры.

*— А калі ўзьнікла ўласная традыцыя вырабу люлек?*

— Цікава, што люлькі, зробленыя ў Галяндыі, былі папулярныя ў Беларусі доўгі час. Яны мелі свае клеймы, былі белагліняныя з доўгімі цыбукамі. Іх не падраблялі, а завозілі. Падрабляць пачалі турэцкія люлькі. І неўзабаве зьявілася каля сотні ўласных варыянтаў. У XVIII стагодзьдзі былі ўжо й белагліняныя, і палівапазялёныя, і карычневыя глязураваныя, і задымленыя чорныя, і нават драўляныя для бяднейшых людзей, у якіх не было магчымасьці набыць керамічную люльку. У Менску знойдзена шмат драўляных люлек, зробленых з абсмоленых пянькоў сасны.

*— Табаку імпартавалі ці завозілі кантрабандай?*

— У адрозьненьне ад Расеі, у Беларусь табаку прывозілі зусім легальна. І ўжо ў XVIII—XIX стагодзьдзях на поўдні Беларусі яе сталі вырошчваць. Але ўсё XVII стагодзьдзе беларусы былі самымі зламыснымі кантрабандыстамі ў дастаўцы тытуню ў суседнюю Расею,

бо на той час цар Аляксей Міхайлавіч забараняў паліць тытунь. І жорстка каралі тых, хто парушаў гэтую забарону — білі бізуном, адсякалі рукі. Існавалі таксама самыя розныя спосабы перавозу люлек і тытуню ў Расею. Прыкладам, іх старанна зашывалі ў конскія хамуты, і тавар пасьпяхова трапляў да свайго месца прызначэньня.

*— А як ставіліся да паленьня ў Рэчы Паспалітай, у складзе якой тады былі беларускія землі — і дзяржава, і грамадзтва?*

— Спачатку грамадзтва ставілася хутчэй адмоўна. Лічылася, што гэта непрыгожа, што гэта д'ябальскі занятак, але ў XVII стагодзьдзі, падчас жахлівых войнаў, паленьне становіцца звычайным — і нават папулярным ва ўсіх сацыяльных групах. І ўжо ў XVIII стагодзьдзі супраць паленьня не выступаюць нават ні царква, ні касьцёл. І гэткая тэндэнцыя ва ўсёй Усходняй Эўропе. А ў Расеі Пётар I загадам уводзіць паленьне як абавязковае для любога расейскага дваraніна, гэтаксама, як і піць каву, напрыклад. Менавіта Пётар I у Расею завёз галяндзкія люлькі. І сам ён навучыўся паліць у Эўропе.

*— Але хіба людзі не разумелі, не адчувалі, што паленьне тытуню выклікае шэраг хваробаў?*

— Сапраўды, людзі гэта ня вельмі адчувалі, бо, папершае, ня так часта палілі — тытунь быў вельмі дарагі й паліць штодня не было звычкі. Па-другое, ужо ў XVIII стагодзьдзі па ўсёй Эўропе была мода яго не паліць, а нюхаць. Тады ў Беларусь і трапляюць табакеркі. Зрэшты, разам зь нямецкім словам «табак», альбо «табака». Пані, напрыклад, не палілі люлек, а нюхалі табаку й з асалодаю чхалі. Гэта лічылася й своеасаблівым лекам прастуды. Тытунь часам нават жавалі. Быў адмысловы гатунак, яго можна было як жуйку жаваць.





*— Ці памянялася стаўленьне да паленьня пасьля акупацыі беларускіх земляў Расейскай імпэрыяй?*

— Ужо празь дзесяць-пятнаццаць гадоў пасьля таго, як Пётар I сваім загадам дазволіў тытунь, былі закладзеныя першыя плянтацыі яго на поўдні Расеі, і вельмі хутка тытунь стаў расейскім. Калі Беларусь трапіла ў Расею, дык сталі паліць расейскі тытунь. Неўзабаве й на беларускім Палесьсі яго пачалі садзіць, і садзілі яго там амаль да нашых дзён. Асабліва шырока вырошчвалі тытунь у часе войнаў, калі не было магчымасьці купіць яго за мяжой. Апошні раз тытунь вырошчвалі для партызанаў — махорку. Адмыслова сяляне круцілі й прадавалі гэтак званыя «казіныя ножкі» з газэты.

*— А калі зьнікаюць люлькі й становяцца папулярнымі папяросы й цыгарэты?*

— Па-першае, люлькі ня зьніклі й да сёньня. Іншая рэч, што люлька зноў выконвае першапачатковую функцыю, калі яе палілі багатыя людзі — магнаты й шляхта. Вось і цяпер люлькі каштуюць дорага, і імі карыстаюцца людзі творчых прафэсіяў ды знаўцы смаку дарагіх гатункаў табакі. Ну, і вядома ж, яны неад'емная частка вобразу марскіх капітанаў. Паліць люльку меней шкодна, чым папяросы ды цыгарэты. Яшчэ ў XVIII стагодзьдзі прыдумалі муштукі з бурштыну, і ў Беларусі іх нават выраблялі. Кажуць, што бурштын нібыта затрымлівае канцэрагены. Мы часта знаходзілі бурштынавыя муштукі падчас раскопак. Яны найболей характэрныя для XIX стагодзьдзя, калі людзі пачалі разумець, што паленьне тытуню шкодзіць здароўю. Усьлед за муштуком з бурштыну зьяўляецца фільтар для папяросы, а затым — цыгарэты зь фільтрам. І гэта ўжо пачатак XX стагодзьдзя. Але ў СССР эканомілі на здароўі людзей, таму й зьявіліся такія асабліва моцныя й асабліва шкодныя для здароўя папяросы «Беламорканал» і цыгарэты «Памір».

*— Дык як паўплываў тытунь на культуру беларускай нацыі?*

— Па-першае, ён аказаў значны ўплыў на дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Так, у Наваградку я знайшоў унікальную люльку, якая ўяўляе сабою прыгожую манашку, што нясе на плячах цэлы караб. Люлькі мелі розны выгляд — чалавечых галоваў, абутку, расьлінаў. Гэта ўнікальныя творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Па-другое, ужываньне тытуню ў XVIII—XIX стагодзьдзях дадавала беларусам эўрапейскага іміджу. Мы й заганы запазычылі ад Эўропы раней за суседзяў. Напрыклад, і гульня ў карты, як і тытунь, становіцца папулярнай у Беларусі ў XVI стагодзьдзі. Гэта таксама сьведчаньні, што Беларусь аж да канца XVIII стагодзьдзя належала да заходнеэўрапейскай культурнай прасторы. Мы бралі з Эўропы ня толькі каштоўнае, але й адмоўнае.



# ПРАЎДА Й ПАДМАН

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Праблема праўды й падману — адна з цэнтральных у чалавечым жыцьці. На гэтую тэму мудрацы й філёзафы спрачаюцца тысячагодзьдзямі, але канчаткова вызначыць — дабро гэта ці зло, так і не змаглі. І сапраўды, падман можа быць выкліканы эгаістычнымі памкненьнямі, і тады выклікае асуджэньне, а можа кіравацца спагадаю — і прызнавацца таму маральна апраўданым. Але як ні парадаксальна гэта гучыць, без падману чалавеку жыць немагчыма. А народная творчасьць дык і ўвогуле цьвердзіць, што падман існуе спрадвеку:**

***Даўней яшчэ людзі не былі такія хітрыя, як цяпер. Жылі яны проста, як Бог наказаў, ніхто нікога ня крыўдзіў, бо баяўся граху. Затым усім і добра было жыць на сьвеце. Толькі вось зьявіліся такія людзі, што захацелі забагацець, от і пачалі яны ашукваць ды падманваць. І нарэшце пайшло на сьвеце такое круцельства, што кожны другога падманвае ды толькі наровіць, каб яму было добра. Але трасца яму ў зубы, а не дабро, бо заўсёды знайдзецца яшчэ хітрэйшы, што й яго ашукае ды гарэй скрыўдзіць.***

**І далей, і далей па ланцужку. Так і завёўся падман на сьвеце. Ён і сродак абароны, і сродак рэалізацыі інтарэсаў — як асобы, гэтак і групы, клясы й нават дзяржавы. Падман — гэта супярэчлівы, шматплянавы, страшэнна заблытаны псыхалягічны фэномэн.**

*— Дык хто навучыў беларусаў падманваць? Што кажа пра гэта фальклёр?*





— Фальклёр захаваў уяўленьні пра спэцыфічны від падману, які зыходзіць ад нячыстай сілы, перадусім, чорта, лесавіка ці нават спэцыяльнага дэмана — Блуда. Пры сустрэчы з такімі істотамі чалавек губляе арыентацыю, ня можа знайсьці дарогу ды вяртаецца ў пачатковы пункт. Нячыстая сіла ня проста зьбівае яго з дарогі, але й спрытна грае на чалавечых слабасьцях: то пакажацца кавалачкам золата, ягняткам, ці запрапануе зазірнуць у шынок ды перакінуцца ў карты. Закаханаму хлопцу, што пакутуе ў расстаньні, зьяўляецца ў выглядзе любай дзяўчыны. Чорт любіць і бяскрыўдна падмануць даверлівага падарожнага: на ранак ягоныя падарункі ператвараюцца ў грудкі сьнегу, шышкі, конскі гной ці чарапкі.

*— Дык падман выдумаў чорт? А можа, на чорта толькі пераносіліся чалавечыя рысы й люстраваў ён нашы дзеі?*

— Справядліва й першае, і другое. І гіпотэза пра вобраз чорта як адбітак чалавечага прадоньня мае шмат падставаў. Але, зыходзячы з таго, што першапачаткова падман як працэс і вынік — гэта падмена рэальнага, праўдзівага стану рэчаў, нейкая ўяўнасьць, якая пад сілу толькі нячыстаму, можна меркаваць, што дэман і быў першым і асноўным суб'ектам падману. Гэтыя ягоныя здольнасьці перанялі найбліжэйшыя спадкаемцы чорта — ведзьмы й чараўнікі. Найперш дзеля падману чалавека й скарыстоўвалі яны розныя чарадзейскія штучкі — прыкладам, абыходзілі вакол чалавека зь нейкім незвычайным прадметам. А ўжо ў чараўнікоў перанялі злодзеі.

***Кажуць, што разбойнікі ўмеюць усяляк чараваць: запаліць сьвечку з тлустасьці чалавечай ды абнясе ёю або адцятаю рукою мярца, — то чалавек тады так засьне, што каб і рэзаў, то не прачхнецца.***

*— Каб чалавека падмануць, яго трэба абысьці ці аб'ехаць?*

— Так, заключыць у кола, што наагул ёсьць дзейсным спосабам падпарадкаваць. Відаць, таму й кажуць — «абысьці», што значыць падмануць, ці «па крывой не аб'едзеш» — не перахітрыш. Цікава яшчэ, што ў традыцыі да заключэньня ў своеасаблівае кола раўнавалася апрананьне чалавека. І тады нячысьцік авалодваў, падманваў ахвяру, зьмясьціўшы яе ў замкнёную прастору, абмежаваную галаўным уборам і абуткам. У нас існуюць легенды пра гэтак званыя камяні-краўцы альбо камяні-шаўцы, у якіх жыве зьмей, што за грошы шые людзям вопратку. Вырабы, праўда, атрымліваліся «чартоўскія»: «дык ён вышыець, што й на сьвеце так добра ніхто не пашыець, як ён». Але на просьбу «сшый ні тое, ні сёе», тое й атрымлівалі — кашулю з адным рукавом з пляча, а з другім — са сьпіны.

***— І сёньня мы часта кажам: вось нас «абулі», ці нават «абулі ў чортавы лапці» — падманулі. І як жа чорт «абуваў» даверлівых людзей?***

— Шыў для іх чартоўскія боты:

***Усякаму, каму трэба былі боты, варта было падысьці пад акенца ў камяні, назначыць час і пакласьці грошы, і абутак быў гатовы ў свой час. Боты былі цудадзейныя, іх можна было насіць пятнаццаць гадоў і чым часьцей бываць на ігрышчах, тым лепш, але толькі з умоваю не хадзіць у царкву, там яны адразу распадаліся на дробныя кавалкі. Але ж у карчму такія боты несьлі проста самі.***

Як бачым, чорт сапраўды пляце для чалавека лапці (а мы так і кажам: «Што ты пляцеш?»), з дапамогаю якіх ён падманвае яго й зацьвярджае сваю над ім





уладу, надзяляе тымі ці іншымі рысамі. І тады ўжо пра заўзятага падманшчыка мы скажам: «Чмут-баламут, у чортавы лапці абут». Усё гэта падводзіць да думкі пра блізкасьць ідэі падману з дэманічным сьветам.

*— А ці мог чалавек падмануць, скажам, Бога?*

— Спрабаваў. Але легенды распавядаюць, што з гэтага выйшла. У адной зь іх зязюля была калісьці жанчынаю, мела мужа, але захацела іншага. Надумала падмануць Бога, схавала мужа пад мост і пайшла прасіць сабе новага. Аднак Бог здагадаўся й другога ня даў, а загадаў ляцець птушкаю ды шукаць першага. З таго часу й па сёньняшні дзень крычыць яна: «Я-куб, Я-куб!».

*— Зразумела, у фальклёры падманваюць адзін аднаго й сяляне, і паны, і чэрці. І з рознымі мэтамі — у тым ліку, напэўна, і з магічнымі?*

— Гэтак званы магічны падман таксама меркаваў суразмоўцу, але ім мог быць і зьвер, і дэман, і нават хмара альбо расьліна. У традыцыйным разуменьні чалавек — такая ж часьцінка Сусьвету, як і іншыя ягоныя насельнікі. З кожным партнэрам чалавек уступаў у кантакт і чакаў адказу. І падманваў таксама, як гэта рабілі асобныя сялянкі:

***Прыйдзе баба сеяць лён і паскідае зь сябе андарак ды сарочку. Стаіць голая, каб лён падмануць: во якая я гаротная. І чакае, што лён пашкадуе яе й падумае: «Гэта баба бедная, у яе нават споднят кашулі няма, трэба яе пашкадаваць і лепш зарадзіць».***

*— Калі лён такі даверлівы, то нячыстыя духі па сваёй сутнасьці хітрыя. Ці можна падмануць, скажам, дэмана хваробы?*

— Можна. Наагул, падман хваробы лічыўся адным зь дзейсных сродкаў мэдычнай магіі. Пасьля таго, як ліхаманка перастае калаціць чалавека, зачынялі ўсе вокны ў хаце, забівалі хаця б дзеля выгляду дзьверы, прыклейвалі ўсюды таблічкі з надпісам: «Яго няма дома, паехаў» і пакідалі так прыблізна на тыдзень. Верылі, ліхаманка паблукае па двары, паглядзіць на таблічкі й пакіне хворага ў спакоі.

*— А ці можна падмануць сьмерць?*

— Імкнуліся хаця б паспрабаваць. Шырока вядомы казачны сюжэт пра чалавека, што падманваў сьмерць, круціўшы свой ложак у розныя бакі. У народнай мэдыцыне, калі цяжка хварэла дзіця, рабіліся наступныя захады:

***Як толькі пачнецца прыпадак, усе ў хаце прымаюць урачыстую цішыню, кожны застаецца нерухомым на тым месцы, дзе яго натрапіў загад маці хворага, якая адразу ж накрывае дзіця белым пакрывалам і трымае над ім запаленую грамнічную сьвечку, курыць ладанам ці смалою. Карацей, ствараюцца такія абставіны, што хто прышлы падумаў бы, што ў хаце нехта памёр. Гэта ж падумае й тая сьмерць, што была пасланая за дзіцем, і не зачэпіць яго.***

*— Жыцьцёвыя назіраньні суб'ектыўныя. Ці ёсьць паказьнікі больш рэальныя? І як гэтая праблема выглядае ў іншых народаў?*

— На думку навукоўцаў, асновай перакананьня заходняй культуры ў недапушчальнасьці хлусьні ёсьць уяўленьне пра тое, што падман парушае правы чалавека. Гэта можна добра зразумець з тлумачальных слоўнікаў. У слоўніках, прыкладам, ангельскай мовы пры вызначэньні падману ёсьць паказчык на тую асобу, якую падманваюць, падкрэсьліваецца, што гэта





гвалт над ёю. У расейскіх дэфініцыях хлусьня, як правіла, разглядаецца толькі як амаральны ўчынак падманшчыка. Прыкладна тое і ў нас. Але прыказкі тыпу «Не любо, не слушай, а врать не мешай!», «Врать не устать, было б кому слушать», «Не хочешь слушать, как люди врут, — ври сам!» дазваляюць меркаваць, што ў расейскай самасьвядомасьці падман прадстаўлены ў большай ступені, чым у некаторых іншых народаў.

*— У чым станоўчае прызначэньне падману?*

— Хлусьня й падман не існавалі б у нашым жыцьці, калі б былі шкодныя самі па сабе й прыносілі толькі няшчасьці. Зь іншага боку, цяжка ўявіць, якім быў бы сьвет, калі б чалавек ня ўмеў падмануць. Таму ўсьлед за псыхолягамі хочацца думаць, што асноўнае прызначэньне падману — ахоўнае, бо дазваляе не параніць праўдай. Ягоны сэнс — захаваць, зьберагчы й даць веру. Атам можа быць мірным, а можа разбураць. Меч выступае сымбалем абароненасьці і ў той жа час зброяй злачынцы. І падман укладваецца ў гэты лягічны шэраг. Ну, а чым ён стане — інструмэнтам дабра альбо зла, вызначае чалавек.

# ЯК ЛЮДЗІ БАРАНІЛІ СВАЮ ГОДНАСЬЦЬ

*Размова зь Ігарам Марзалюком*

**Чалавек, як вядома, істота надзвычай канфліктная. У спрэчках, а часам нават беспадстаўна, кідаецца словамі, што абражаюць, зьневажаюць іншых. У сучаснай Беларусі мы прызвычаіліся й да абразаў, і проста да лаянкі. А як ставіліся да гэтага продкі? Ці старавечныя беларускія месьцічы бараніліся ад абразаў? Якімі прававымі нормамі, прыкладам, у Сярэднявеччы рэгулявалася маральная недатыкальнасьць асобы? Наагул, ці ўспрымалася абраза словам у мяшчанскім асяродзьдзі як від злачынства? Адказы на гэтыя пытаньні можна знайсьці ў актавых кнігах магістратаў беларускіх гарадоў, бо скаргі на абразу мяшчанскай годнасьці словам займаюць у судовых кнігах далёка не апошняе месца.**

*— Найперш, што ў старавечнасьці лічылася абразай?*

— Найчасьцей гэта былі зьнявагі, зьвязаныя з паходжаньнем, з нараджэньнем па-за законным шлюбам, абвінавачаньне маці чалавека ў разбэшчанасьці. Паказальна, што ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 году гэтыя пытаньні знайшлі належнае адлюстраваньне:

***Теж уставуем, иж коли бы хто кому рек, жесь ты неучстивое матки и нечистого ложа сын, а того бы на него не довел, а тот, которому примовено, с того слушне бы се вывел, тогды сказуем, иж таковый маеть оного навезати совито сорокма копами грошей. А тую примовку перед тым же судом заразом, с права не отходечи, так очистити и***





***тыми словами одмовити маеть, што есми менил на тебе, жебысь ты был неучстивое матки и нечистого ложа сын, том на тебе брехал яко пес.***

*— У асяродзьдзі шляхты гонар баранілі на паядынку. А як у мяшчанскім асяродзьдзі рэагавалі на абразу?*

— Звычайна мяшчане не рызыкавалі ўласным жыцьцём. Іх цалкам задавальняла публічнае перапрашэньне ды грашовы штраф за абразу. Асабліва сур'ёзна ставілася беларускае бюргерства да зьнявагаў уласнай прафэсійнай дзейнасьці. Прыкладаў, калі абраза прафэсійнай кваліфікацыі майстра паклікала крыўдзіцеля ў суд, можна прывесьці надзвычай шмат. Спынімся на здарэньні, якое мела месца ў Магілёве ў 1577 годзе. У магістрацкі суд са скаргай на калегу Косьцю Яцкавіча зьвярнуўся магілёўскі залатар Улас Багданавіч. Мала таго, што канкурэнт прылюдна яго «лаиал и словы не учстивыми соромотил», дык ён яшчэ меў нахабства паставіць пад сумнеў прафэсійную рэпутацыю заяўніка:

***А над то яшчэ фалшэрам называл, у чом ён разумеючы быт не малое уближэне своей у добрай славе и пачстиваму захаваню, звлаща зелжене вялыкае видзечы рамяслу свайму залатарскаму, катораe тых прычын церпливе зносит не звыкло, хоцечыся з таковага падазрэнства Улас вывесть жедал а вчинене справедливости.***

Натуральна, абвінавачаны меў свае контраргумэнты. Косьця даводзіў і на судзе, «...што не без причины поведаючи дей то на него вел, але подзроным его в том быти разумел». Бо, як ён цьвердзіў, ягоны калега замест срэбраных з пазалотай гузікаў прадаў рэчы, выробленыя з бронзы, «через Богдана Сидоровича мещанина Могилевского теж мещанину Могилевскому Лукъяну Михайловичу Пилку». Аднак, гэтыя мяш-

чане, выкліканыя на суд, не пацьвердзілі абвінавачаньняў. Магістрат, улічваючы ўсе вышэйзгаданыя акалічнасьці ды паказаньні сьведкаў, вынес вырак на карысьць Уласа:

***Врад зрозумевшы то напрод же, Улас чловек не лозный, але в месте короля его милости Могилевском добре оселый, иако один з мещан господарских Могилевских. А за то што на него клал, а не довел, же сам того близким ест, про то вси шкоды и наклады судовые, которые от него на тот час поднял, водле права нагородити и слушне ему оправити винен будет.***

*— А ўвогуле лаянка, абразы непрыстойнымі словамі, калі гаворка не ішла пра нейкую прафэсійную дзейнасьць пакрыўджанага, ці ўспрымаліся на масавым узроўні сьвядомасьці як супрацьпраўнае дзеяньне, якое мусіла разглядацца ў судзе?*

— У другой палове XVI і ў XVII стагодзьдзі ў судовых кнігах Магілёўскага магістрату падобныя скаргі займаюць трэцяе месца пасьля крымінальных злачынстваў ды маёмасных скаргаў. У мяне дык склалася ўражаньне, што любая публічная зьнявага годнасьці й гонару мешчаніна амаль імгненна выклікала ў апошняга надзвычай тыповую рэакцыю — зварот у суд. Прычым, магістрат такіх справаў не пакідаў без разгляду і ўвагі. Падкрэсьлім, сярод гэтых скаргаў, што былі разгледжаныя ў судзе, вельмі шмат такіх «нязначных» — як скажам, звычаёвая лаянка паміж суседзямі. Аднак, суд не казаў, як цяпер — ну што вы, паміж сабой па-людзку разабрацца ня можаце, а браў такія справы да разгляду. Асабліва пільную ўвагу да сябе прыцягвалі абразы непрыстойнымі словамі. Нецэнзуршчына каралася даволі жорстка.

*— Ці захавалася ў крыніцах аргумэнтацыя, якая дазволіла б нам зразумець прычыны такога жорсткага стаўленьня з боку тагачаснай гарадзкой супольнасьці да аматараў брыдкаслоўя?*

— Такое стаўленьне да лаянкі было зусім натуральнае для хрысьціянскай культуры. Тым болей, што час, пра які мы гаворым, характарызуецца дзьвюма істотнымі рысамі — з аднаго боку, адбываецца больш глыбокае засваеньне хрысьціянскай дактрыны на масавым узроўні, а зь іншага — істотна ўзмацняецца індывідуалізм у мяшчанскім асяродзьдзі. А ўвогуле, згодна з тагачаснымі ўяўленьнямі, брыдкаслоўе — прамы шлях да пекла. Прынамсі, лічылася, што бацькі, якія вучаць сваіх дзяцей лаяцца, туды мусяць патрапіць абавязкова.

*— Якія канкрэтныя формы пакараньня існавалі за такія абразы?*

— Пакараньне за брыдкаслоўе было даволі адчувальнае для крыўдзіцеля. Той, хто дазваляў сабе такую «раскошу», рызыкаваў патрапіць на грамадзкія працы тэрмінам ад тыдня й да месяца. Так, за абразу злымі словамі ў 1666 годзе добрапрыстойнага слуцкага гараджаніна ягоны крыўдзіцель быў пакараны замкавымі працамі. Вядомыя выпадкі, калі аматараў непрыстойнай лексыкі прымушалі чысьціць прыбіральні або ямы для сьмецьця.

*— Ці ўсіх, бяз вынятку, адразу чакала падобная кара?*

— Падобнае пакараньне, якое спалучалася са зьмяшчэньнем крыўдзіцеля ў вязьніцу й штрафам, было максымальнай карай. Як правіла, першапачаткова, калі крыўдзіцель да гэтага падобных учынкаў не зьдзяйсьняў, магістрат прымушаў яго пад прысягаю паклясьціся, што ў будучым падобнага ён рабіць ня будзе, а таксама гэты чалавек мусіў публічна перапрасіць абражанага ім. Надзвычай паказальная ў су-

вязі з гэтым справа пра спрэчку паміж магілёўскімі мяшчанкамі Марыяй Лепанавай і Кулінай Андросавай, якую магістрат разгледзеў у ліпені 1600 году. Куліна Андросава катэгарычна адмаўляла ўсе заявы пакрыўджанай. Аднак, абражаны бок меў сьведкамі суседзяў, якія «згодна й аднастайна» пацьвердзілі словы пацярпелай. Урэшце, кабеты разьвязалі спрэчку палюбоўна: яны пакляліся ў будучым не абражаць адна другую. У выпадку ж паўтарэньня падобных дзеяньняў іх чакала незайздросная пэрспэктыва штрафу й «каране вязеннем у куні». Патлумачым апошнюю фразу. Куна — гэта адмысловы нашыйнік, які быў умураваны ў сьцяну ратушавай турмы й прызначаўся найперш для пакараньня якраз тых, хто абражаў добрапрыстойных грамадзянаў. Паклёпнікі ж караліся яшчэ болей жорстка — магістрат мог прысудзіць іх да стаяньня ў нашыйніку каля слупа ганьбы на Гандлёвай плошчы. Такі чалавек, акрамя маральных пакутаў, адчуваў і фізычныя, бо станавіўся мішэняй для дзяцей, якія дэманстравалі свае снайпэрскія здольнасьці, кідаючы ў яго камяні ды камлыгі зямлі.

*— Дык адкуль у простых гараджанаў было такое трапяткое стаўленьне да ўласнай годнасьці й гонару?*

— Адказ, што называецца, на паверхні. Тагачасныя гараджане былі прыватнымі ўласьнікамі, суб'ектамі тагачаснага права. Адсюль і такі высокі ўзровень самапавагі. Яны былі свабодныя людзі. А свабодны чалавек гонар мае й нікому не дазваляе перакрэсьліць рысу, якая ператварае чалавека ў раба й хама.



# СЬМЯРОТНЫЯ ПАКАРАНЬНІ Й КАТАВАНЬНІ

*Размова з Алесем Белым*

**Кожная дзяржава мае гэтак званыя сілавыя структуры й сілавую сыстэму, каб забясьпечыць абарону грамадзтва ад супрацьпраўных дзеяньняў асобаў. Сыстэмы пакараньняў адпавядаюць часу, ягоным маральным і юрыдычным крытэрам.**

*— А ў Вялікім Княстве Літоўскім, высокаразьвітай на той час эўрапейскай дзяржаве, якія кары прадугледжваліся за злачынствы супраць сярэднявечнага права?*

— Непараўнальна больш жорсткія, чым тыя, да якіх мы сёньня звыклыя, бо асобнае чалавечае жыцьцё каштавала вельмі танна. Асабліва сьмяротныя пакараньні — «кара горлам», ці «страта», як тады казалі. Кожны спосаб пакараньня адпавядаў пэўнаму злачынству. І самую жудасную кару прадугледжваў Статут Вялікага Княства Літоўскага за забойства блізкіх сваякоў, асабліва бацькоў:

***Гды бы сын або дочка отца або матку свою умысльне... забил яким колвек обычаем родича своего о горло приправил, тогды таковый... смертью ганебною маеть каран быти: по рынку возечи, клещами тело торгати, а потом в мех скуреный всадивши до него пса, кура, ужа и котку и тое всё посполу в мех всадивши, и зашить и где наглубей до воды утопити.***

*— Што ж гэта за дзіўны падбор кампаньёнаў для тапельца — сабака, певень, вуж і кот?*

— Гэтае пакараньне (як, зрэшты, і ўсе іншыя, лагаднейшыя) не было вынайдзенае ў Літве ці Беларусі, а прыйшло да нас гатовае з Заходняй Эўропы разам з нормамі магдэбурскага права. Прылады, спосабы, рытуалы, змрочная тэхніка й сымболіка катаваньняў і пакараньняў у сярэднявечным і пазьнейшым ВКЛ — усё гэта суцэльна нямецкага паходжаньня. Дарэчы, кожная з жывёлаў, разам зь якімі тапілі злачынцу, мусіла сымбалізаваць пэўны грэх. Напрыклад, сабака — подласьць і нізасьць, якія праявіў забойца бацькоў. Певень — пыху, праз якую злачынца спрабаваў узвысіць сябе над правам і абавязкам, і гэтак далей. Далучэньне да эўрапейскай цывілізацыі прынесла на нашы землі й ейнае крымінальнае права. Зрэшты, нормы пакараньняў у іншых суседзяў — Маскоўскай дзяржаве й Асманскай імпэрыі — былі, прынамсі, ня менш жорсткія. Але ў Эўропе яны былі больш уніфікаваныя й рэглямэнтаваныя.

*— Дзе ж знаходзяцца вытокі сярэднявечнае жорсткасьці?*

— Толькі не ў садызьме канкрэтных асобаў ці народаў. Хаця катамі, вядома, рабіліся невыпадкова, яны самі былі толькі выканаўцамі — ня столькі волі пэўных жорсткіх уладароў, колькі грамадзтва ў цэлым. Можна сказаць, волі сярэдняга чалавека. Пакараньне, асабліва сьмяротнае, апроч праваахоўнай функцыі, а можа нават і перш за яе, мусіла задаволіць патрэбу ў відовішчы. Магістрацкія кнігі нашых гарадоў называюць трыбуны для гледачоў (якія будавалі перад важнымі пакараньнямі) тэатрамі. Нават вучняў часта вызвалялі ад школьных заняткаў і прыводзілі ў такі тэатар, каб яны атрымалі належны ўрок. Такім чынам, усім гэтым шыбеніцам, колам, палям, прэнгерам, кунам, калодкам належала тады прыкладна тая роля, якую сёньня выконваюць усялякія чытанкі ці відэа.





*— Якое сьмяротнае пакараньне было самае пашыранае?*

— Найбольш пашыранае — павешаньне. Шыбеніца (дарэчы, слова таксама нямецкае) на працягу многіх стагодзьдзяў была амаль такім жа абавязковым элемэнтам эўрапейскага пэйзажу, як і прыдарожны крыж. Адным з сынонімаў шыбеніцы ў актавых кнігах было лацінскае слова «justitia» — сьведчаньне таго, што менавіта шыбеніца — асноўная прылада правасудзьдзя. На шыбеніцы завяршалі свае жыцьці ня толькі забойцы, але й злодзеі, і іншыя адносна дробныя, найбольш шматлікія, злачынцы. Іх целы доўга не здымалі. Імі сілкаваліся птушкі. А чараўнікі выкарыстоўвалі пальцы й іншыя часткі цела шыбенікаў ці кавалкі вяроўкі ў розных чарадзейных сродках ад імпатэнцыі, напрыклад, або ад хуткага псаваньня піва. Калі злачынцу не ўдавалася злавіць, на шыбеніцы вешалі ягоную выяву альбо картку з апісаньнем злачынства й выракам. Так што шыбеніца, прыцягваючы ўвагу цікаўных з усяго наваколья, была яшчэ й месцам абмену штодзённымі навінамі, а то й дошкай аб'яваў.

*— Якія яшчэ віды пакараньняў існавалі ў сярэднявечнай Беларусі?*

— На стосе палілі чараўнікоў і ерэтыкоў, а таксама падпальшчыкаў, атручвальнікаў і фальшываманэтчыкаў. У Вялікім Княстве, дзе жыло шмат габрэяў і мусульманаў, такая ж мера пакараньня ўжывалася за выхаваньне дзяцей хрысьціянаў у нехрысьціянскай рэлігіі. Чвартавалі ці «ўпляталі ў кола» разбойнікаў, рабаўнікоў, бунтаўнікоў, асабліва людзей простых за забойства шляхціца. Тапілі ў вадзе чараўніц, а таксама жанчын, якія забілі сваіх дзяцей. Адным з самых жахлівых і ганебных пакараньняў было «ўзьбіваньне на палю». Так каралі найперш за забойства з засады

або нейкай ганебнай зброяй. Часьцей гэтая кара ўжывалася ў казацкіх войнах XVII стагодзьдзя.

*— Пакараньне лёгкае, пакараньне цяжкае — што разумелі пад гэтымі азначэньнямі тагачасныя беларусы?*

— Адносна лёгкім, у пэўным сэнсе нават пачэсным, лічылася сьцінаньне галавы. Так каралі забойцаў, гвалтаўнікоў, палітычных злачынцаў. Як правіла, толькі так можна было «страціць» шляхціца. Казімер Лышчынскі, асуджаны на спаленьне за атэізм, атрымаў каралеўскую палёгку, бо быў усё ж шляхціцам — таму яму папярэдне адсеклі галаву. Прывілей на гэтую адносна лёгкую сьмерць вышэйшае саслоўе захоўвала для сябе па ўсёй Эўропе. Дарэчы, шляхціца нельга было й катаваць дзеля здабычы паказаньняў. Габрэям спаленьне, чвартаваньне ці шыбеніцу замянялі на сьцінаньне, калі яны згаджаліся прыняць хрысьціянства.

*— А расстрэл?*

— Расстрэл зьявіўся адносна позна, у XVIII стагодзьдзі, і быў спачатку чыста вайсковым сродкам пакараньня. Так каралі найперш жаўнераў, незалежна ад злачынства. Адным з самых прыкметных, які вельмі ўразіў сучасьнікаў і пакінуў шмат сьлядоў у мастацкай літаратуры, быў расстрэл радзівілаўскага фаварыта Міхала Валадковіча ў Менску ў 1760 годзе. На карысьць расстрэлу была адносная лёгкасьць пакараньня для самога злачынцы (XVIII стагодзьдзе было ўжо параўнальна гуманнае), а таксама магчымасьць адмовіцца ад паслугаў прафэсійнага ката.

*— Каты — выканаўцы судовых выракаў. Што гэта былі за людзі?*

— Кат ня толькі караў злачынцаў. Увогуле галоўным ягоным заняткам былі тартуры, ці катаваньні — яны





ўжываліся як сродак не пакараньня, а дазнаньня. Катавалі падазраваных у нейкім злачынстве, каб здабыць прызнаньне або пераканацца ў невінаватасьці, і калі казаць пра прафэсійнае майстэрства, менавіта тут яно было патрэбнае кату найбольш. Хаця, вядома, і пры пакараньнях трэба было праявіць немалы спрыт. Сапраўдны кат мусіў умець сьцяць галаву адным ударам. Калі гэта не ўдавалася, кат звычайна апраўдваўся, нібыта ягоныя незычліўцы зачаравалі меч. У прамежку паміж выкананьнем сваіх асноўных абавязкаў каты ды іхныя памочнікі — гіцлі — мусілі лавіць бадзяжных жывёлаў, ачышчаць горад ад падлы й адкідаў, а часам нават сачыць за парадкам у публічных дамах. Гэтымі бруднымі справамі кат займаўся не непасрэдна, а выступаў хутчэй як арганізатар. Тым ня менш, кожны горад, які браўся ўтрымліваць ката (а каштаваў ён ня танна), імкнуўся нагрузіць яго самымі непрыемнымі й бруднымі абавязкамі, патрэбу ў якіх магло выклікаць гарадзкое жыцьцё. Магчыма, адсюль паходзіць і выраз «павесіць на кагосьці ўсіх здохлых сабакаў».

*— Як ставіліся да ката людзі?*

— Са зьмешаным пачуцьцём — штосьці сярэдняе паміж жахлівай павагай (адсюль і іншая назва ката — «містар», гэта значыць, гаспадар твайго жыцьця й здароўя) і адкрытай нянавісьцю. Апошняя пераважала. Кату цяжка было знайсьці сабе знаёмых сярод прыстойных людзей, ажаніцца, увогуле неяк уладкавацца ў штодзённым жыцьці. Таму гэтае рамяство часта перадавалася ў спадчыну. Такая сэлекцыя мусіла выпрацоўваць адмысловы тып людзей — цынічных, няўмольных, ня схільных да сантымэнтаў. Якім бы жорсткім ні было Сярэднявечча, а попыт на людзей гэтай прафэсіі перавышаў прапанову. Вельмі часта месца ката было вакантнае, і магістрату даводзілася пазычаць яго з суседняга гораду.

*— Відавочна, нездарма слова «гіцаль» — памочнік ката — у беларускай мове набыло значэньне лаянкі. Карацей, усё, што было зьвязанае з рамяством ката, выклікала агіду й пагарду?*

— Пераважна так. Але ў гісторыі Беларусі быў, напрыклад, выпадак, калі катаўскі меч, сымбаль ганьбы й пагарды, пакрыў сябе славай. Знакамітае паўстаньне 1661 году ў Магілёве супраць расейскага панаваньня пачалося, калі бурмістар Язэп Левановіч, схапіўшы меч ката, заклікаў гараджанаў не цярпець больш расейскай тыраніі, выгукнуўшы: «Пара!». Дарэчы, фігура Левановіча, узброенага мячом, на тле гарадзкой брамы й сёньня зьяўляецца гербам Магілёва.

*— А цяпер пра катаваньне як сродак судовага дазнаньня. Чаму ў Сярэднявеччы так шырока ў юрыдычнай практыцы ўжываліся катаваньні, ці, як яшчэ казалі, тартуры?*

— Таму што тагачасная крыміналістыка проста ня ведала іншых сродкаў доказу ці абвяржэньня віны. Афіцыйна катавалі ня дзеля таго, каб задаволіць чыюсьці жорсткасьць, а каб праверыць паказаньні сьведкаў ці іншыя знакі, якія, на думку судзьдзі, давалі магчымасьць падазраваць пэўную асобу. Карпатлівы збор і аналіз доказаў — усё гэта зьявілася толькі ў Эўропе й толькі ў XIX стагодзьдзі. А да гэтага ва ўсіх народаў унівэрсальным інструмэнтам сьледзтва — пэўным аналягам дэтэктара хлусьні — былі толькі тартуры. Прызнаўся — вінаваты, вытрымаў — апраўданы.

*— Як гэта адбывалася ў старажытнай беларускай дзяржаве?*

— Наша юстыцыя тут, як і ў выкананьні выракаў, ішла за агульнаэўрапейскімі нормамі. Тыя самыя





каты й гіцлі, найманыя служкі магдэбурскіх гарадоў, абслугоўвалі ня толькі гарадзкія суды, але й суды любых юрысдыкцыяў, калі ўзьнікала патрэба ў іхных паслугах — даволі дарагіх, дарэчы, і магістраты пазычалі катаў іншым судам не за дзякуй.

*— Ці былі тартуры рэглямэнтаваныя? Або каты маглі імправізаваць, абы дамагчыся прызнаньня?*

— Заканадаўча сама працэдура катаваньняў не была канкрэтна расьпісаная. Суды й Літвы, і Польшчы карысталіся падручнікам XVI стагодзьдзя Барталямэя Граіцкага «Парадак судоў і справаў гарадзкіх права майдэборскага», які быў складзены на падставе нямецкіх крыніцаў. Гэта й быў наш крымінальна-працэсуальны кодэкс. Вось фрагмэнт з гэтага падручніка:

***Калі шмат злачынцаў, у адным падазроныя, на муку маюць быць аддадзены, Судзьдзя мае той парадак хаваць, абы таго найперш казаў мучыць, якога б разумеў да паведамленьня праўды больш схільнага. Калі бацька з сынам мае быць мучаны, перш сын перад аблічам бацькоўскім або ў адсутнасьці, але за вядомасьцю яго, дзеля таго што бацька зь літасьці над сынам хутчэй схіліцца да прызнаньня, чым за ўласнымі мукамі. А калі жонка з мужам, найперш жонка, дзеля таго, што жаночая плоць, слабейшай натуры будучы й ня так цярплівай, больш можа быць прыведзена напамінкам і мукамі да прызнаньня, чым муж.***

Граіцкі быў для свайго часу сумленным чалавекам, і напісаў падручнік менавіта дзеля таго, каб неяк абмежаваць «містраў справядлівасьці» ў іхнай уладзе над падазраванымі. Калі яшчэ судзьдзя быў сумленны й асабіста зьяўляўся на катаваньні, з падсудным абыходзіліся паводле хаця й жорсткага, але ўсё ж права. Калі ж яго пакідалі аднаго з катам і гіцлямі, не было гарантыяў, што перад кожнай тартурай яны

палезуць зьвяраца з падручнікам. Калі ж усё было «паводле правілаў», дык пачыналіся тартуры прыкладна так:

***Інстыгатар прамовіў да ката: «Містру, чыні паводле права». Кат, перш чым прыступіць да экзэкуцыі, выгукнуў тры разы: «Мосьці панове застольныя і прадстольныя» — выражаючы тымі тэрмінамі суд, які сядзеў за сталом, і інстыгатара, які стаяў перад сталом — «Чы з воляй, чы ня з воляй?». Інстыгатар адказваў яму за кожным разам: «З воляй!»***

Гэта ўжо фрагмэнт славутага дзёньніка ксяндза Анджэя Кітовіча саксонскай эпохі XVIII стагодзьдзя. Так фармальна і ўрачыста кат атрымліваў ад абвінавачаньня пацьверджаньне сваіх паўнамоцтваў. Кат быў ня столькі музыкам-салістам, колькі дырыгентам пякельнага аркестру. Улады спрабавалі захаваць рэпутацыю катаў, і звычайна самі яны падчас катаваньняў і пакараньняў выконвалі толькі самыя важныя «працэдуры»: падпальвалі стос, сьцінalі галаву, зачытвалі судовую пастанову ці вырак. Таму, дарэчы, абавязкова мусілі быць пісьменнымі. А вось тартуры непасрэдна выконвалі іхныя памочнікі — гіцлі, ці апраўцы. Хаця часта каты не маглі адмовіць сабе ў садысцкай асалодзе.

*— Якая прылада тартураў была самая распаўсюджаная ў ВКЛ?*

— Дыба. Пра што сьведчыць і ейная іншая назва на старабеларускай мове — катоўня. У розных эўрапейскіх краінах канструкцыя дыбы мела мясцовыя асаблівасьці, але ўсюды яна заставалася самым галоўным інструмэнтам, вакол якога будаваўся ўвесь працэс дазнаньня. Сутнасьць катаваньня на дыбе палягала ў расьцяжэньні цела, прывязанага за рукі й





ногі, пры дапамозе лябёдкі, так што выломліваліся рукі й ногі. Вось як гэта апісваў А. Кітовіч:

***Як толькі кат пацягнуў за вяроўку, канец якой трымаў у руках, рукі вязьня адразу пачалі выломлівацца са ставаў плячэй, выцягваючыся за галаву і ўгару, за імі падаваўся й торс, ногі ж, выцягнутыя й прывязаныя да крука, завісалі ў паветры. Калі па той муцы вязень упарта трымаўся, кат клікаў свайго памочніка й абодва пачыналі цягнуць за вяроўку што ёсьць моцы. Зараз вязень быў выцягнуты як струна. Выкручаныя за галаву рукі складалі адну лінію з завіслым у паветры целам, на грудзёх утварылася глыбокая яма, у якую звалілася галава. Можна было пералічыць усе скабы, косьці, ставы й жылы. Калі здаралася, што вязень на тартурах канаў, яго ціхенька хавалі, а справа зачынялася.***

Другім нязьменным інструмэнтам з катаўскага арсэналу былі жалезныя абцугі, якія звычайна напальвалі на агні й літаральна рвалі цела ахвяры, расьцягнутай на дыбе. Абавязкова «катаўская аптэчка» ўключала ў сябе й серу, якую палілі проста на целе. Звычайная формула са старабеларускага апісаньня тартураў: «на катовни долго был драпаны пазнокти железными й был палены свечами, он однак трвал на вызнаню». У гэтае апісаньне ня ўкладзена ніякага асуджэньня, ніякіх эмоцыяў увогуле, бо назіраньне тартураў было рэччу такой жа звыклай, нармальнай, як для нас назіраньне за чалавекам у стаматалягічным фатэлі. Увогуле прыладаў катаваньняў было шмат: «гусь», «куны», «кайданы»... У кожным горадзе ў ратушы былі лёхі, дзе трымалі ўвесь гэты рыштунак.

*— І колькі маглі мучыць няшчаснага?*

— Афіцыйна дазвалялася паўтараць кожнае катаваньне тры разы — праўда, пры гэтым ніяк не агаворва-

лася працягласьць мукі. Часам кат адмыслова рабіў перапынак у тартурах, маючы на ўвазе, што новы «сэанс» — гэта не наступная спроба, а толькі працяг першай. Так што рэальна катаваньні маглі працягвацца шмат дзён.

*— Ці ўсе людзі былі роўныя перад законам? Маю на ўвазе прадмет нашае гаворкі — катаваньні.*

— Заканадаўства вызваляла ад катаваньняў дзяцей да 14 гадоў і старых пасьля 60, цяжарных, шляхціцаў. Адным з галоўных шляхецкіх прывілеяў было вызваленьне ад тартураў. Праўда, у выпадку такіх палітычных злачынстваў, як дзяржаўная здрада або абраза ўлады, гэты прывілей скасоўваўся. Лічылася, што чалавек, які трапіў «у рукі катаўскія», губляў годнасьць. Пры словах «рукі катаўскія», дарэчы, уяўляліся адначасна й рукавіцы, бо лічылася, што кат мусіць быць у рукавіцах. Нават калі шляхціц трапляў на катаваньне памылкова, ён губляў шляхецтва, вярнуць якое можна было адным спосабам — адмыслова зьвярнуўшыся да караля. Таксама вольныя ад катаваньняў былі дактары розных навук, узнагароджаныя за вялікія заслугі, выбарныя кіроўныя асобы магдэбурскіх гарадоў — але толькі на час свайго знаходжаньня на пасадзе.

*— Ня кожны можа вытрываць боль. З гісторыі ведаем, што людзі цягам катаваньняў нагаворвалі на сябе.*

— Калі чалавек трапляў «у рукі катаўскія», але хацеў адстаяць сваю невінаватасьць, яму даводзілася цяжка. Бо каты й гіцлі сваё чорнае рамяство ведалі, прызнаньне ўжо як бы прадбачылася, і калі няшчасны вязень не хацеў даваць паказаньняў супраць сябе, найбольш натуральным тлумачэньнем такой упартасьці для сярэднявечнай юстыцыі было чарадзейства. Сярэднявечнаму судзьдзю было лягчэй паверыць





у д’ябальскія чары, чым у невінаватасьць абскарджанага. Тады ўсе верылі ў існаваньне розных сродкаў, накшталт амулетаў, здабытых з дапамогаю д’ябла, якія, схаваныя на целе (пад пахамі, у валасах, у роце), быццам маглі дзейнічаць як анэстэзія. Аналягічным чынам пазбаўляць болю маглі нібыта й галоўныя хрысьціянскія малітвы, калі іх чытаць ззаду наперад. А яшчэ мог прыйсьці на дапамогу шатан. Калі ва Ўпіцкім гарадзкім судзе ў 1595 годзе катавалі двух абвінавачваных у крадзяжы, у аднаго зь іх, калі кат здымаў кашулю, з-пад пахі выпала хлебная скарынка. Ніякага сьледзтва наконт крадзяжу ўжо не вялося, затое абодвух спалілі жыўцом як чараўнікоў. А ўявіце, калі катавалі менавіта меркаваных чараўнікоў! Што трываньне, што прызнаньне — усё сьведчыла пра віну.

*— Ці не таму перад катаваньнямі вязьняў распраналі?*

— Так, прадпісвалася пакідаць прыкрытым толькі «сорам прыроджаны». Гэта рабілі й каб не было дзе схаваць меркаваных амулетаў, а яшчэ й таму, што аголены чалавек адчувае сябе бездапаможным. Увогуле прадугледжвалася некалькі стадыяў тартураў. Папершае, пагроза тартурамі. Па-другое, наведваньне каморы тартураў і дэманстрацыя катаўскага рыштунку. Па-трэцяе, агаленьне й зьвязваньне. І толькі затым уласна тартуры. Часам і першых трох стадыяў было дастаткова, каб прызнацца ва ўсім.

*— А калі абвінавачванаму ўдавалася вытрымаць усе тартуры, ні ў чым не прызнаўшыся й ня даўшы нагоды абвінаваціць сябе ў чараўніцтве?*

— Тады права абвяшчала яго невінаватым. Суд мусіў апраўдаць такога чалавека й адпусьціць. Іншая рэч, што гэта і ў той час успрымалася як параза сьледзтва, і былі ўсе падставы баяцца, што несправядліва адда-

дзены ў рукі ката будзе потым помсьціць за крыўду. Таму зь яго звычайна бралі прысягу, што ён ня будзе мець ніякіх прэтэнзіяў да судзьдзяў, катаў і гіцляў.

*— Як ставілася грамадзтва да ўхваленых заканадаўча тартураў? Чаму ўсё ж і ў Эўропе, і ў ВКЛ у пэўны час яны адмяняюцца?*

— Так, у Рэчы Паспалітай у 1776 годзе (лібэральны Станіславаў час) катаваньні адмяняюцца. У 1801 годзе пры ўступленьні на трон Аляксандра I тартуры таксама былі скасаваныя. Але на справе гэта была чыста дэкляратыўная акцыя. Бізуны, батагі, прагананьне скрозь шыхты не лічыліся катаваньнямі, але ж колькі людзей загінула падчас гэтых адміністрацыйных працэдураў?..



## ШЛЯХЕЦКАЯ СЯМ'Я

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Калі гаворка ідзе пра ўладу, дык не абавязкова маюцца на ўвазе дачыненьні чалавека й дзяржавы. Уладныя дачыненьні знаходзяцца амаль ва ўсіх праявах грамадзкага жыцьця, а ці не ў найбольшай ступені — у жыцьці сямейным. Яшчэ адну паралель можна паспрабаваць правесьці паміж дзяржаўнай і сямейнай уладай. Улада бывае манархічнай, дэмакратычнай, дэспатычнай... Гэта дае магчымасьць адразу й выразна ахарактарызаваць асноўныя рысы пэўнага соцыюму.**

*— А які «палітычны лад» панаваў у шляхецкай сям'і ў эпоху «залатой вольнасьці»?*

— «Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе» — гэтая прымаўка выразна акрэсьлівала дачыненьні беларускага шляхціца зь дзяржаўнаю ўладаю, але яна ж ня менш яскрава адлюстроўвае і ўладныя дачыненьні ў шляхецкай сям'і эпохі «залатой вольнасьці». Аднак, гэта зусім ня значыць, што прынцыпы «залатой вольнасьці» — павага да права, недатыкальнасьць асобы — панавалі і ў шляхецкай сям'і XVII—XVIII стагодзьдзяў. Зусім не. Як адваротным бокам палітычнай вольнасьці Рэчы Паспалітай была шляхецкая анархія, гэтак і прыгожыя словы статутаў пра правы грамадзянаў зьнікалі ў сямейнай «загродзе». Хатняе «ваяводзтва» шляхціца праяўлялася ў амаль не абмежаванай уладзе, якою ён карыстаўся ў сваёй сям'і. Тут можна прыгадаць яшчэ адно беларускае выслоўе: «гаспадар у хаце галава». Ягоная ўлада распаўсюджвалася на ўсіх — на жонку, дзяцей, бяднейшых сваякоў, слугаў, на падданых, якія лічыліся часткаю сямейнай маёмасьці.

*— А ці быў падзел сямейных функцыяў паміж жонкай і мужам?*

— Гаспадар, ён жа бацька сям'і, меў поўную волю над жонкаю. Менавіта муж распараджаўся ўсімі інтарэсамі сям'і, роля жонкі звычайна акрэсьлівалася як першай служанкі, якая павінна даглядаць дзяцей, пільнаваць слугаў, трымаць дом у парадку й дагаджаць мужу. Гэткі падзел функцыяў шмат хто імкнуўся зафіксаваць у розных хатніх статутах. Адзін з такіх статутаў склаў слуцкі магнат Геранім Фларыян Радзівіл. У сваёй «Адукацыі» ён піша да будучых дзяцей (якіх, дарэчы, так ніколі й не займеў):

***У вашых пастанаўленьнях, калі шчасьлівымі хочаце быць, жычу вам словам бацькоўскім і сэрцам тыя саблюдаць пункты:***
***Першае, двор мець непадзельны, гэта значыць ад вас выключна залежны.***
***Другое, грошай жадных у рукі жонцы не даваць, таго ж, чаго ёй да справаў ейных патрэбна, загадваць набыць, і рэчамі толькі аддаваць, не грашыма.***
***Трэцяе, ні найменшай дыспазыцыі жонцы, як да двору, гэтак і да маёнтку не дапушчаць, а найболей кагосьці пакараньня альбо арышту без распараджэньня ў тым мужа... Меркаваць трэба, што калі муж і жонка ёсьць патэнцыяй аднаго цела, дык на рангу мужа, гэта значыцца галавы, жонка быць не павінна, і нічога бязь ведамасьці яго ня мусіць чыніць, бо няма таго выпадку, калі хвост можа на месцы галавы быць...***

Гэта пры тым, што істотныя маёмасныя правы жонкі былі зафіксаваныя, дарэчы, у статутах. Шляхцянкі таксама карысталіся правамі асабістай свабоды, маглі выступаць як пазоўніцы ў судах. Але ў жыцьці — як раней, гэтак, дарэчы, і цяпер — існуюць «пісаныя» законы й паралельна зь імі звычаі, традыцыі, якія





часам відавочна адрозьніваюцца ад кадыфікаванага права. У сямейным жыцьці, у адрозьненьні ад грамадзкага, пераважалі звычаі, што фармаваліся яшчэ ў час першабытнага патрыярхату. Менавіта гэтыя традыцыйныя, натуральныя дачыненьні найбольш вызначалі ўладныя стасункі ў прыватным жыцьці.

*— Як складваліся дачыненьні бацькі й дзяцей?*

— Традыцыйна бацька панаваў і над дзецьмі. Улада бацькі адпавядала пашане, якую аддавалі яму нават дарослыя дзеці. Яго трэба было называць «пан айцец», пры ім моладзі забаранялася размаўляць уголас, ня можна было сесьці безь ягонага дазволу. Вітаючыся з бацькам, трэба было абняць яго за калені, пацалаваць руку. Дарослыя сыны ішлі на пэўнай адлегласьці ад «пана дому», несучы ягоную шаблю, у касьцёле сталі выцягнуўшыся побач лавы, на якой ён засядаў. Бацькава забарона была абсалютная, адмова дабраславеньня — найвялікшым няшчасьцем. Канец гэтае ўлады наставаў толькі са сьмерцю бацькі, калі галоўны спадкаемца (як правіла, старэйшы сын) пераймаў ягоную маёмасьць, ягонае становішча й, звычайна, таксама ягоныя замашкі. Вызваленьнем ад бацькавай улады былі служба ў войску ці пры двары для сыноў, замужжа альбо кляштар для дачок.

*— Ці было ў гэткай сям'і месца жывым пачуцьцям, прыязнасьці між дзецьмі й бацькамі?*

— Падобна, што дамінантаю дачыненьняў часьцей быў страх, чым любоў. Прынамсі, сьведчыць пра гэта францускі падарожнік XVIII стагодзьдзя Ватрэн:

***Улада бацькоўская выконваецца тут ва ўсім сваім натуральным аб'ёме, не абмяжоўвае яе ніякі закон. Ня ведаючы натуральных сродкаў упакорваньня волі, бацькі зьвяртаюцца ўрэшце да насільля, каб зламаць супраціў страхам. Латвасьць прымяненьня гэткай мэтоды зрабіла яе паўсюднаю, а ва***

***ўмовах абсалютнай улады набыла яна рысы тыраніі. Страх, прышчэплены моладзі абодвух палоў, нічым не прыгадвае субтыльнага пачуцьця, што дыктуе, як трэба паступаць, каб не абразіць бацькоў ці настаўнікаў, але ёсьць гэта горкія ўспаміны болю, які быў учынены праз капрыз барбарынскай улады.***

Найбольш суровыя дачыненьні былі ў сем'ях правінцыйных, малаадукаваных і забабонных, дзе звычаі й «сармацкія» традыцыі замянялі часам і адукацыю, і нават розум. Але вядома й шмат прыкладаў гарачай і шчырай бацькоўскай ці сыноўскай любові.

— *Ці можна было ўзяць шлюб бяз бацькавай згоды?*

— Менавіта шлюб і быў самым яскравым прыкладам бацькавай улады. Падставай для шлюбных кантрактаў паноўнага саслоўя амаль заўсёды былі маёмасныя разьлікі альбо палітычны інтэрас. Нават калі дарослы й самастойны шляхціц жаніўся сам, ягоны выбар звычайна дыктаваўся менавіта гэтымі прычынамі. А для залежных ад бацькоў дзяцей свайго выбару практычна не існавала. Шлюбы паводле каханьня былі рэдкія й часам завяршаліся нешчасьліва. Сумную ролю ў гэтым часта адыгрывалі не задаволеныя ўласным выбарам дзяцей бацькі. Прычым, прадстаўнікі найбольш заможных родаў нярэдка вызначаліся асаблівай жорсткасьцю ў рэалізацыі сваёй сямейнай улады. Ксёндз Анджэй Кітовіч апісвае ў сваім дзёньніку такое здарэньне:

***На пачатку неяк панаваньня Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Станіслаў Патоцкі, сын Францішка Патоцкага, ваяводы кіеўскага, выпраўлены быў бацькам да чужых краёў, і праяжджаючы праз кракаўскае ваяводзтва, спыніўся выпадкова ў Камароўскага, старасты новамейскага, дзе пазнаўшы дачку ягоную, прыгажосьці дзівоснай, зь ёю ажаніўся. Патоцкі, ваявода кіеўскі, ганебна ўражаны гэткім быццам бы няроўным шлюбам сына, наслаў у дом Камароўскага людзей, якія ў масках на тварах, узброеныя ўвайшлі на пакоі, увялі ад уражанай кампаніі гэтую маладую пані й разам зь ёю ў цемры начной зьніклі.***
***Вывезьлі яе зь места на кані, далей возам; у дарозе важак тых насланцаў ужываў яе любоўна да сваёй волі. Прыведзеная да ваяводы й ваяводавай кіеўскіх, пабітая была яна розгамі, а потым выданая замуж за простага казака, зь якім мела трох дзяцей. Няшчасныя бацькі ўвесь той час шукалі дачкі сваёй, ня ведаючы, кім была яна скрадзеная, і ўрэшце даведаліся. Выдалі позву ў суд ваяводу кіеўскаму пра ўвядзеньне дачкі й наезд дому. Ваявода, які хацеў справу замяць, а найболей асьцерагаўся, каб тыранства й распуста зь ёй учыненыя ня выявіліся, загадаў нябогу ўтапіць, і так тая няшчасная паненка марна загінула...***

— *А якую ролю ў сям'і звычайна выконвала маці?*

— Звычайна ў абароне маёмасных інтарэсаў і бацька, і маці выступалі адзіным фронтам. А ў справах матрыманіяльных, шуканьні шлюбных варыянтаў для сыноў ці дачок, маці была амаль заўсёды больш актыўная за бацьку. Хаця, натуральна, маці была бліжэйшая й цяплейшая да дзяцей, чым бацька, асабліва да дачок. Прывязанасьцю да дзяцей і клопатам пра іх вядомая была, напрыклад, Францішка Уршуля Радзівілава, жонка Міхала Казімера Рыбанькі, якая нарадзіла шмат дзяцей, зь якіх большасьць памерла. Маці, бывала, спыняла грозныя бацькавы выракі, патурала дзіцячым забавам і капрызам. Пашана да маці гэтак жа высока ацэньвалася традыцыяй, як і ганараваньне бацькі, але пасьля ягонай сьмерці панам дому станавіўся ўсё ж старэйшы сын.

У асобных выпадках маці спрабавала пераняць бацькаву ўладу над дзецьмі, нават дарослымі. Такою ўладарнаю кабетаю была маці Рыбанькі Ганна Радзівілава з роду Сангушкаў, якая адчувала сябе сапраўднай галавой дому Радзівілаў і ўпарта імкнулася навязаць усім сваю волю. Яна доўга і няўдала шукала добрую партыю для Міхала Казімера, а калі ён нарэшце знайшоў сабе нявесту сам, адчайна супрацiўлялася гэтаму шлюбу. Вось як яна сустрэла сына, калі ён вярнуўся з заручынаў:

***Проста ўвайшоў я да пакою маткі маёй. Колькі жывы, не чуваў я гэткіх экспрэсіяў халеры, што пачуў ад яе; нарэшце пытаюся:***
***— Што з таго далей будзе? Я заручыўся, кахаю й да сьмерці не адступлюся.***
***— Ах ты, нягодніку, сьпярша старства ад мяне выдраў, а цяпер і рэшту хочаш выдраць.***
***— Ня выдраў іх і аб іх ня дбаю, адмоўлюся ад тых сэсій і парву іх.***
***І гэтак учыніў. Я тады быў, па-першае, вельмі з дарогі стомлены, потым, у згрызоце, дык на вачах яе млець пачаў страшна, мала мяне апаплексія не парвала, занесьлі мяне да майго пакою, кроў з нагі пусьцілі, ледзьве прыйшоў да сябе.***

*— Ці характэрныя былі для беларускай шляхецкай традыцыі ўладныя жанчыны?*

— Такіх у нас называлі «ірад-баба». Дарэчы, жанчыны з дому Радзівілаў нярэдка вылучаліся асаблівым свавольствам. Сустракаліся ірад-бабы ня толькі сярод шляхты. Цікава, што бывалі выпадкі (звычайна ў сялянскім ці мяшчанскім асяродзьдзі), калі муж зьвяртаўся ў суд са скаргаю на непаслушэнства жонкі, а суд часам выносіў пастанову пакараць яго самаго — за тое, што няздольны кіраваць сям'ёю. Наагул, у ніжэйшых саслоўях уладныя дачыненьні ў сям'і былі менш вэртыкальныя, чым у паноўным стане.





*— Чаму ж вольналюбівая шляхта была гэткая аўтарытарная й дэспатычная ў сямейных дачыненьнях?*

— Можна меркаваць, што адной з прычынаў і стала тая самая шляхецкая вольнасьць — інакш кажучы, слабасьць вэртыкальных сувязяў у грамадзтве, слабасьць дзяржаўнай улады. Ва ўмовах, калі дзяржава ня ў стане была гарантаваць (а ня толькі дэкляраваць у законах) правы й бясьпеку асобе, менавіта моцная сям'я магла падтрымаць і абараніць гэтую чалавечую адзінку. Як магутныя замкі, трымаліся магнацкія сем'і. Каб ва ўмовах небясьпекі ўнутраныя сувязі функцыянавалі бездакорна, патрэбная была моцная сыстэма ўнутранай улады — як у войску. Гэта ж было патрэбна й для захаваньня й памнажэньня маёмасьці. Традыцыя дапамагала захаваць гэткі вайсковы лад сям'і. Сям'я, род былі сьвятымі. Калі дзяржаўная ўлада не набыла для яе сакральнасьці, дык сакральнымі заставаліся сямейна-родавыя сувязі.

*— Дык што, са стратаю вольнасьці згубілася й традыцыйная сыстэма сямейнай улады?*

— Любая дзяржаўная сыстэма, арыентаваная на «парадак», на эфэктыўную цэнтральную ўладу, у пэўнай ступені разбуральная для незалежных ад яе «лякальных уладаў» — значыць, і для моцных сямейных сувязяў. Так, калі шляхецкая дэмакратыя зьмянілася на дэспатызм Расейскай імпэрыі, дык зруйнаваліся й апошнія замкі, заняпалі магутныя роды. Зь іншага боку, паспрыяла гэтаму асьвета, новыя эканамічныя дачыненьні. Апошні ўдар па сямейных сувязях нанёс савецкі таталітарызм. Ва ўмовах, калі трэба было рабіць тых, хто «быў нічым» у тых, хто «стаў усім», ніякія трывалыя й незалежныя ад дзяржавы сувязі не патрэбныя. Шляхта стала «ўзорным» ворагам савецкай улады, а героем «новых» сямейных стасункаў — Паўлік Марозаў.

# АВАНТУРЫ Й АВАНТУРНІКІ

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Авантурнік — не прафэсія, гэта, бадай, прызваньне. Навукоўцы нават кажуць, што людзі, схільныя да авантураў, маюць пэўныя біяхімічныя адметнасьці мозгу. З такога гледзішча авантурнасьць ня мае нічога агульнага з нацыянальным характарам, з гісторыяй пэўнага народу. Гэта — проста тып асобы. Зь іншага боку, ёсьць традыцыя, культурная парадыгма нацыі, якая спрыяе (альбо не) разьвіцьцю ў асобаў рысаў дынамічнасьці, мабільнасьці, нават пачуцьцёвасьці. Вось жа Казанова быў італьянцам, і ўявіць яго нарвэжцам ці, скажам, ірляндцам — немагчыма. Некаторыя народы ўвогуле лічацца авантурнікамі й ашуканцамі, і яны ці ня самі з гэтым пагаджаюцца.**

*— А ці маюць беларусы авантурныя традыцыі? Ці былі сярод іх авантурнікі-тыпажы?*

— Авантурнікі сярод беларусаў былі, дый цяпер ёсьць. Звычайна пра авантурнікаў мінулага мы даведваемся зь літаратуры. Беларусь, хоць і не стварыла махлярскага ці авантурнага раману, нараджала, як і іншыя эўрапейскія краіны, саміх авантурнікаў. Найчасьцей згадваюць Караля Радзівіла па мянушцы Пане Каханку. Але, на маю думку, гэта трохі іншы тып — ён хутчэй гэткі беларускі Фальстаф, які прыцягваў да сябе цэлыя раі авантурнікаў ды прайдзісьветаў: у Нясьвіжы гасьцявалі й знакамітая князёўна Тараканава, і Лізавета Чудлей, якая таксама марыла пра расейскі трон. Зь Нясьвіжам быў зьвязаны Здановіч — адзін з ілжывых Пятроў III.

*— Сёньня ўжо добра вядомыя прыгоды Саламеі Пільштынавай. Ці можна яе назваць клясычнай авантурніцай?*





— Безумоўна. Саламея Пільштынава, якая жыла ў першай палове XVIII стагодзьдзя, мае выразныя рысы авантурніцы. Вось тут нам пашанцавала, бо яна пакінула свае ўспаміны, выдадзеныя па-беларуску. Зь лёгкасьцю Саламея рухаецца з канца ў канец Эўропы, прыстасоўваецца да любых абставінаў. Як лекарка, напэўна ж, трохі махлярыць, як падарожніца й проста як жанчына праяўляе немалую мужнасьць. Вось як яна прыгадвае адну з сваіх тыповых прыгодаў у Турцыі:

***Выйшлі мы з дому судзьдзі, а Хусэйн-ага ў шаленстве кідаецца на мяне й клянецца, што заб'е. А я са сьмехам кажу яму: «Пане Хусэйн, ты думаеш, што нашыя полькі заечыя сэрцы маюць, як вашыя баўгаркі альбо валашкі?» І дастала пару набітых пісталетаў з кішэні ды працягваю: «У мяне пораху хопіць на лёкаяў васпана. Аддай, васпан, што мне належыць, а пасьля няхай тое будзе, што Бог дасьць». Прысутныя пацяшаліся са сьмеласьці маёй. Карацей, за чатыры дні атрымала я ад гэтых двух туркаў васямнаццаць тысяч, і мы пагадзіліся...***

Дарэчы, у ейных успамінах нават дзесяць разьдзелаў называюцца «авантура», што сьведчыць пра тое, што яна й сама ўсьведамляла сябе як авантурніцу.

*— Пільштынава, не зважаючы на ейныя кантакты з Радзівіламі, з князем Ракацы, з расейскім дваром ці з турэцкімі пашамі засталася гераіняй рэгіянальнага маштабу. А ці мелі беларусы авантурнікаў больш высокага кшталту — роўных, прыкладам, Казанову ці графу Каліёстра?*

— Безумоўна! Прыкладам, Міхал Валіцкі, авантурнік XVIII стагодзьдзя. Сын небагатага шляхціца зь

Меншчыны, ён стаў геніяльным гульцом на більярдзе ды ў карты. Праз гульню набыў высакародных ды ўплывовых прыяцеляў, трапіў у Эўропу. У Парыжы сышоўся з гульцамі з найвышэйшага сьвету, быў прыняты пры двары Людовіка XVI. Гульня прынесла Валіцкаму багацьце, павагу, графскі тытул. Я ўжо адзначаў істотнасьць гульні для сапраўдных авантурнікаў — ейная стыхія была для іх прыродным асяродзьдзем. Выйгравалі спакойна, прайгравалі бяз роспачы. Валіцкі прайграваў рэдка. Вярнуўшыся на радзіму, пасябраваў з каралём Станіславам Аўгустам. Маючы ўжо й капітал, і месца ў грамадзтве, зусім не цікавіўся палітыкай. Калі кароль спытаўся ў яго: «Чаму, маючы столькі прыяцеляў, не імкнесься стаць дэпутатам Сойму?», Валіцкі адказаў проста: «Уласна таму, што не хачу іх страціць». Пазьней Валіцкі падтрымаў паўстаньне Касьцюшкі. Жыцьцё скончыў нетыпова для людзей свайго кшталту — дабрадзейным абываталем і мэцэнатам, які шчодра дапамагаў Віленскаму ўнівэрсытэту.

*— Ці былі ў Беларусі авантурнікі, якія рабіліся героямі вуснапаэтычнай творчасьці, анэкдотаў?*

— Ігнат Хацкевіч ці, па-іншаму, Гацкевіч, або Хадзькевіч. Блытаніну ў прозьвішчах ён сам і стварыў. Нарадзіўся каля 1760 году. Пачатак жыцьця даволі банальны — прагуляў бацькоўскую спадчыну, ажаніўся дзеля грошай. Урэшце навучыўся іграць «бяз пройгрышу». Але кар'ера за зялёным столікам не заспакойвала ягонай прагі авантураў. Паступае спачатку ў каронную гвардыю, потым — у расейскае войска на турэцкую кампанію. Тут паказаў сябе адчайным зухам і ня менш адчайным гульцом. Хутка даслужыўся да капітана. Затым скіроўваецца ў Эўропу, трапляе ў Парыж падчас рэвалюцыі й, зразумела, кідаецца ў вір падзеяў. Калі ў Парыжы запахла крывёю, вяртаецца на радзіму. У Вільні адкрывае дом гульняў і збліжаецца з тутэйшымі рэвалюцыянэрамі. Сябрам ягоным становіцца такі самы авантурнік, толькі апантаны ідэяй свабоды — Якуб Ясінскі, які робіць яго сваім ад'ютантам. Роля Хацкевіча ў паўстаньні 1794 году цьмяная, калі не злавесная. Абыякавы да мэтаў паўстанцаў, ён шукае ў каламутнай вадзе паўстаньня небясьпечных прыгодаў, ды, вядома, выгады. І сучасьнікі, і гісторыкі казалі, што Хацкевіч быў шпегам Масквы. Наступны пасьля паразы паўстаньня этап — Канстантынопаль, дзе ён зводзіць жонку партугальскага амбасадара і ўцякае зь ёю ў Парыж. Там Хацкевіч ізноў падаецца да войска. Спачатку граміць раялістаў у Вандэі, потым уступае ў польскія легіёны Дамброўскага. Пад імем «генэрал Лядаіска» робіцца шэфам францускай паліцыі ў Нэапалі. Пасьля заканчэньня кампаніі французы даручаюць Хацкевічу правядзеньне фінансавай дывэрсіі супраць Аўстрыі. Ён мусіў распаўсюдзіць мільёны фальшывых банкнотаў. Наступны кадар — француская турма Тампль, куды ён трапляе за ўдзел у антыдзяржаўнай змове. Выкруціўшыся, Хацкевіч скіроўваецца ў другі канец Эўропы — у Пецярбург. Апошнія дваццаць гадоў жыцьця герой вайсковых кампаніяў, любоўных гісторыяў і сумнеўных авантураў праводзіць збольшага на родных абшарах. Дакладней — паміж Вільняй і Тульчыным на Валыні. Тут, у Патоцкіх, трымаў дом гульняў і аблягчаў кішэні як саміх гаспадароў, гэтак і прыежджай шляхты ды магнатэрыі. А ў Патоцкіх зьбіралася тады краса Эўропы. Калі фартуна Патоцкіх не безь ягонай дапамогі заняпала, цэнтрам дзейнасьці Хацкевіча стала Вільня. Жыцьцё Хацкевіча канчаецца сумна — на высылцы, у расейскай глушы, у Вятцы. Хацкевіч стаў на абшарах былога ВКЛ фігураю легендарнаю, пра яго апавядалі анэкдоты, ягоныя жарты рабіліся прымаўкамі. Вось як згадвае Хацкевіча віленская шляхцянка Альбіна Габрыеля Пузына ў сваіх успамінах:

***Таксама адна з характарыстычных постацяў Вільні, але належаўшая хутчэй да эпохі, чым да места — быў Хацкевіч, вядомы пад мянушкаю «гульца», а нават «шулера», у чым сам першы прызнаваўся, як бы шукаючы гонару з таго, што было яму ганьбаю.***

***Дасьціпнасьць яго патыхала цынізмам, і можна было б скласьці цэлую кніжачку з анэкдотаў пра яго ды ягоных адказаў, запраўленых атычнаю сольлю, хаця й бессаромных. Як, напрыклад, пра магнатаў, што мелі вялікія маёнткі, казаў ён, што «былі яны паны над халопамі, а ён пан над панамі, бо абыгрываючы іх, багацее». Як на віншаваньні яму, што патаўсьцеў, «чаму не», адказваў з усьмешкаю, «двух Патоцкіх зьеў». Калі хацеў прадставіць камусьці свайго сына, казаў: «Гэта маладзён прыстойны, толькі два недахопы мае — ёсьць маім сынам і называецца Хацкевіч».***

***Раз на пакоях Шчэнснага Патоцкага дзівававаліся ўсе на прыгожы шнур пэрлаў, які належаў самой графіні. Пэрлы тыя былі велічынёю зь вішні й каштавалі сотню тысяч. Кожны жадаў іх зблізку паглядзець, кальё ішло з рук да рук, аж нарэшце, калі графіня хацела атрымаць яго назад, не знайшлося ні ў чыіх руках!.. Хацкевіч быў сярод аглядаўшых...***

***«Слухай, но, — сказаў граф Шчэнсны, адводзячы яго ўбок, — з табою цырымоніяў не раблю, твая гэта штучка, аддай пэрлы!» — «Гэтым разам ня я, — адказаў зусім не абражаны шчырасьцю графа «кароль цынікаў». — Але будзь спакойны, пане граф, знойдзецца страта, перад маім вокам нічога ня ўкрыецца». Ды павадзіўшы пільным зрокам па ўсіх тварах, спыніўся на адным маладзёну, якога, шапнуўшы яму штосьці на вуха, вывеў за сабою, ды, замкнуўшыся зь ім наасобку: «Аддай пэрлы, — сказаў яму наўпрост. — Бачыў я, як клаў***





***у кішэню». На што той малады чалавек, кідаючыся яму ў ногі, закрычаў: «Ратуй мяне, пане, пазыч мне сваёй галавы!» — «Гультай! — гаркнуў Хацкевіч. — Каб твае рукі да маёй галавы, дык уся Эўропа спакою б ня ведала!» А пэрлы праз гадзіну былі на шыі прыгожай графіні Зоф'і.***

*— Сапраўды, Хацкевіч быў авантурнікам, які заслугоўвае таго, каб яго ведалі нашчадкі. Але як усё ж быць зь меркаваньнем, што беларусы — народ памяркоўны, сьціплы й ня схільны да авантураў?*

— Як жа ня схільны?! А паходы на Маскву з Ілжэдзьмітрыямі? Ня з Польшчы, а пераважна зь Беларусі і Украіны выпраўляліся на ўсход цэлыя войскі авантурнікаў у шуканьні фартуны. Самі кандыдаты на маскоўскі трон заводзіліся менавіта тут, на гарачай памежнай тэрыторыі. Памежжа — запаведнік і рай для авантурнікаў. На памежжы магчыма ўсё.

*— Ілжэдзьмітрыі — гэта ўжо іншае авантурніцтва, гульня на палітычным полі. Увогуле ці шмат палітычных авантурыстаў дала Беларусь?*

— Наш рэгіён нараджаў ці прыцягваў нямала авантурнікаў палітычных, якія ставілі ўжо не на некалькі тысяч залатых, а на вялікую ўладу — а пройгрыш звычайна каштаваў жыцьця. Да палітычных авантурнікаў можна адносіць і ўсіх рэвалюцыянэраў, таму ў гэты сьпіс трапляюць і такія асобы, як Тадэвуш Касьцюшка, Кастусь Каліноўскі ці Ігнат Грынявіцкі. Цікава, што авантурнікі «звычайныя», апалітычныя цягнуліся больш на Захад: Парыж, Вена прыцягвалі іх агнямі сваіх двароў ды гульнёвых дамоў. Многіх адчайных шукальнікаў палітычнага шчасьця вабілі й неабсяжныя абшары ўсходняй імпэрыі, як гэта было з Ілжэдзьмітрыямі. Тып авантурніка-самазванца — чалавека няпэўнага паходжаньня, бязь веры, маралі, пера-

кананьняў, апантанага шалёнаю прагаю да ўлады, які ставіць на кон жыцьцё, краіну, народ, — захаваўся празь вякі.

*— Чаму народ прымае абяцанкі авантурніка за чыстую манэту? А як ён ставіцца да авантурніцтва, празь якое пралягае шлях да свабоды, да дабрабыту?*

— Мы ўбачылі з гісторыі, што, паводле авантурнасьці «біялягічнай», беларусы хіба ня горшыя за італьянцаў. Але ж у сваіх культурных стэрэатыпах яны збольшага прынялі навязаную ім звонку, зручную для калянізатараў «памяркоўнасьць». Тым больш, што ўсіх «непамяркоўных» гісторыя, асабліва ў апошняе стагодзьдзе, вычэсвала вельмі старанна. Але ж, адмаўляючы ў сабе авантурны элемэнт, нацыя шмат у чым адмаўляе сабе і ў здольнасьці на пошук, на рызыку, на змаганьне. Свабода — гэта таксама здабытак авантуры. Адмаўляючыся ад свайго шампанскага, мы пераходзім на ўзровень звычайнага п'янства ды ашуканства. А тут схема простая — ёсьць ашуканец, вядома, больш авантурны й хітры, і ёсьць ашуканы. Як у казцы: ёсьць цыган, які прадае хвост ад кабылы, і ёсьць вясковы дурань, які яго купляе.



## ЗАБАВЫ БЕЛАРУСКАЙ МАГНАТЭРЫІ

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Забавы, як дзяржаўныя ці грамадзкія справы, як праца ці побыт, тлумачаць нам сутнасьць чалавека, дадаюць ведаў пра эпоху, стан грамадзтва. Натуральна, ёсьць сталыя характарыстыкі забавы. Заўсёды й паўсюль найлепшым адпачынкам было на нешта цікавае паглядзець, узяць удзел у чымсьці вясёлым, падпіць, смачна пад'есьці, патанчыць. Але ў розных месцах і ў розны час, у залежнасьці ад мноства абставінаў, бавяцца людзі ўсё ж з рознай ступеньню фантазіі. З простым людам прасьцей. У іх забавы паміж працай.**

*— А краса грамадзтва, шляхта ды магнатэрыя — калі й як яны бавіліся?*

— Гісторыкі заўважылі цікавую залежнасьць: чым горшыя справы ў краіне, тым больш вясельля. Баль падчас чумы — не паэтычная выдумка. Рымляне шалелі ад забаваў пад канец Імпэрыі. У беларускай гісторыі найвесялейшы быў, бадай, час падзелаў Рэчы Паспалітай — другая палова XVIII стагодзьдзя. Паўсюль — тэатры, опэры, балеты, рэдуты, маскарады. Пане Каханку й Станіслаў Аўгуст, якія ўсё жыцьцё ненавідзелі адзін аднаго, мілаваліся адзін з адным, і дзе — не на полі бітвы за незалежнасьць, а за чаркаю ў тэатральнай Радзівілавай вёсцы пад музыку «Агаткі», пад бляск фаервэркаў і пырскаў шампанскага. Віно тады лілося ракою.

*— Як выяўлялася сутнасьць тагачаснага чалавека ў забавах? У забавах адбівалася сутнасьць эпохі?*

— Позьняе Сярэднявечча, Адраджэньне — эпоха чалавека годнага, эпоха рыцарства. У цэнтры ўвагі — рыцар, баец, які змагаецца за перамогу ў шляхетным паядынку. Уласны посьпех, дэманстрацыя сваёй моцы й годнасьці, сваёй сутнасьці — для яго самае галоўнае. Дзеля гэтага можна й загінуць. Таму галоўныя забавы рыцарскай эпохі — паляваньне й турніры. Іначай кажучы — індывідуальныя спаборніцтвы. Такі падыход бліскуча ўвасобіў паэт-гуманіст Мікола Гусоўскі ў «Песьні пра зубра». Пасьля Адраджэньня ў Эўропе пачынаецца эпоха палітыкаў і актораў. На зьмену рыцару прыходзіць арлекін. Забрала зьмяняе маска. Перамогі дамагаюцца ўжо хітрыкамі, а сярод забаваў галоўнымі робяцца тэатры й маскарад. У тэатры ўжо ня ўдзельнічаюць у падзеях, а глядзяць на іхную імітацыю. А ў маскарадзе кожны можа імітаваць, удаваць кагось іншага, хаваючы сваю сутнасьць.

*— Як гэта стасавалася з эўрапейскімі звычкамі?*

— Наш край, разам з Польшчай, Украінай, Вугоршчынай, Балканамі — усё ж сярэдняя Эўропа. Наш рэгіён межаваў зь іншымі, у пэўны час варожымі цывілізацыямі — мусульманскай ці маскоўска-бізантыйскай. Нездарма называлі яго «мурам Эўропы» ці «краем памежных фартэцыяў». Тут пасьля Рэнэсансу складаўся свой тып эўрапейскай культуры, так званае сармацкае барока, якое характэрнае ня толькі для Рэчы Паспалітай. Воін, рыцар надоўга затрымаўся тут у цэнтры грамадзкага ладу, а рыцарскі эпас быў актуальны амаль усё XVII стагодзьдзе. Таму й любіла шляхта рыцарскія забавы й брутальныя, часам небясьпечныя паляваньні на буйнога зьвера. Можа, таму й не адразу прынялі эўрапейскую мадэль тэатру. Першыя прадстаўленьні францускага ды нямецкага тэатраў на масавую публіку ў нас часта правальваліся. Шляхта не разумела ўмоўнасьцяў тэатру ды імкнулася па-дзіцячы ўмяшацца ў дзеяньне. Мэмуарысты XVII стагодзьдзя прыгадваюць выпадкі, калі глядачы нават стралялі ў сцэнічных адмоўных пэрсанажаў — ворагаў. Пра гэта ж сьведчыць эпізод з успамінаў польскага пісьменьніка Яна Хрызастома Паска аб прадстаўленьні францускага тэатру ў 1664 годзе:





***Тут пачаў адзін з гледачоў конных крычэць французам: «Забіце таго растакога сына, калі ўжо схапілі яго, не пакідайце жывым, бо як выпусьціце, будзе помсьціць, будзе вайну множыць, кроў людзкую праліваць, дык ня будзе так у сьвеце пакою! Як заб'еце яго, дык кароль францускі атрымае імпэрыю, будзе цэсарам, дай Пан Бог — і нашым каралём. Урэшце, як самі не заб'еце, я яго заб'ю!» Схапіўся за лук і, наклаўшы стралу, як вытнуў пана цэсара ў бок, аж другім бокам канчар выйшаў — забіў. Іншыя таксама за лукі — як узяліся шыць з лукаў, нашпігавалі французаў. Самаго, што сядзеў у асобе караля, падстрэлілі нарэшту ў лоб...***

*— Чым бавіліся магнатэрыя й шляхта ў XVIII стагодзьдзі?*

— Можна скласьці цэлы каталёг забаваў XVIII стагодзьдзя, сярод якіх, апроч звычайных танцаў ды застольляў, папулярныя былі гульні — «нівіны» (нешта кшталту фантаў), а таксама карты ды іншыя азартныя забавы. Але найперш я вызначыў бы такія, як карузэлі й маскарады. Тагачасную «карузэль» ня трэба блытаць зь сёньняшняю карусэльлю. Гэта працяг рыцарскіх турніраў. У XVIII стагодзьдзі рыцары пераcталі біцца паміж сабою й спаборнічалі, дэманструючы сваё майстэрства, так бы мовіць, на трэнажніках. Звычайна карузэль ладзілі на вялікім пляцы, дзе колам ставілі разнастайныя мішэні, манэкены, часам і пасткі. Рыцары дзяліліся на каманды, якія называлі бандамі. Выдатнае апісаньне такой карузэлі,

ладжанай каралём і вялікім князем Аўгустам II, пакінуў у сваім «Дыярыюшы» Міхал Казімер Радзівіл:

***І былі статуі з дрэва, паўбіраныя падобна да арлекінаў. Адна статуя мела на грудзёх жалезны круг, куды трэба было ўдарыць глінянай куляй, калі трапіў у сярэдзінку, дык ракета ўгару вылятала, калі ж дрэнна, дык фаервэркаў мільён вылятала каню пад ногі ды й чалавека самога абсыпала. Другая статуя мела на раменьні скрынку, у якую, калі трапіў, дык зь яе птушак розных вялікіх, а менавіта фазанаў, курапатак, перапёлак вылятала. Трэцяя — мела на грудзях кружок, у які трэба было трапіць, дык з губы ейнай вядро вады вылівалася міма кавалера, калі ж ня шыбка адскочыш, дык усяго аблівала. Гэтыя ўсе штукі трэба было ў адным заходзе рабіць.***

*— У Заходняй Эўропе каруззэлі з часам пераўтварыліся ў тэатралізаваныя парады зь пераапрананьнямі. Ці былі гэткія забавы ў беларусаў?*

— У XVIII стагодзьдзі самай папулярнай забавай сталі маскарады, якія ладзілі літаральна на ўсе сьвяты. Зь сярэдзіны XVIII стагодзьдзя зьяўляецца такая іхная форма, як рэдуты. Вось як апісвае рэдуты Анджэй Кітовіч:

***Забава рэдутаў была траякаю — танец, гульня ў карты й прыгляданьне іншым. Ходзячы па пакоях там і сям, розныя маскі адны на другіх нападалі ў добрым сэнсе, і казалі, хто ёсьць пад маскаю. Той жа, хаваючы сваю асобу, круціў галавой і не сваім голасам адмаўляўся таго, кім яго падазравалі. На зламаньне сораму маладыя людзі мелі такі спосаб: апроч заляў і пакояў публічных, антрэпрэнэры захоўвалі асобныя пакоі пад сваімі ключамі. Замаскаваны кавалер прасіў ключа да такога пакою, і даваў пяць-шэсьць альбо болей***





***чырвоных злотых, кажучы, што хоча наасобку выпіць бутэльку з прыяцелем, ці ў карты пагуляць. Антрэпрэнэр, не ўваходзячы ў высьвятленьне таго інтарэсу, бо добра яго разумеў, даваў ключ.***

Звычайна маскарады ладзілі да сьвятаў — перадусім, рэлігійных гэтак званага карнавальнага пэрыяду. Вельмі важнымі сьвятамі былі ў нас і дні нараджэньня, дні анёлаў караля, вялікага князя, дні нараджэньня магнатэрыі. Пад кожную з такіх датаў ладзілі пышныя прыёмы, балі, якія звычайна суправаджаліся пераапрананьнем, маскамі, маскаванымі танцамі, выездамі ў паркі, загарадныя рэзыдэнцыі, дзе ўсё гэтае карнавальнае дзеяньне працягвалася й пераходзіла ў бясконцыя шматдзённыя вакханаліі. Банкеты, балі, маскарады часам суправаджалі й падпісаньне дзяржаўных дамоваў, соймы, сустрэчы паслоў. Гэтак было нават у сумныя й ганебныя моманты — як тыя ж падзелы дзяржавы. І вось як апісвае Ян Ахоцкі прыёмы ў Адама Паніскага, вядомага дзеяча часу падзелаў нашага краю:

***Ад самага ранку ў некалькіх пакоях застаўленыя былі сталы штофамі гданьскіх гарэлак, якія паблісквалі золатам, а таксама міногамі, астрыгамі, галяндзкімі селядцамі, швайцарскімі сырамі ў цэлых кругах гэтак вялікіх, як колы для вазоў. Да абедаў сядала па сто й болей асобаў, а коркі ад шампанскага віна стрэламі сваімі салютавалі банкетуючым. Па абедзе прыносілі столікі да картаў, і пачыналася гульня прынамсі ў дваццаці столікаў... Пад канец упіваліся гарэлкаю, зьмяталі ўсе закускі, апаражнялі бутэлькі пеністага ангельскага піва...***

*— Чаму чалавек эпохі барока выбірае маскарад? Чаму ён надзявае маску ды імкнецца да ананімнасьці?*

— Можна параўнаць маску з шаломам. Яны маюць пэўнае падабенства — бароняць свайго гаспадара. Шалом — ад фізычнай небясьпекі, а маска — ад адказнасьці за ўчынкі. Свабода, якую давала маска, была ашаламляльнай для шляхты, што выхоўвалася ўсё ж у даволі строгіх умовах. Маска давала магчымасьць сваволіць, гарэзіць, фліртаваць і ня быць пазнаным і пакараным. Чым цямнейшыя хмары насоўваліся на край, тым менш хацелася вяртацца ў яго з краіны масак, ад вясёлага застольля й танцаў. Так і апошні наш кароль, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, вядомы быў тым, што страшэнна любіў тэатар, маскарады, пераапрананьне. Для чалавека слабога, няўпэўненага, які хавае сваю сутнасьць і намеры, маскарад — ідэальная забава. Кашмарны пэрсанаж літаратуры, а цяпер кіно — маска, пад якой няма твару. Але яшчэ больш жахлівае відовішча — натоўп людзей бяз масак, але й бяз твараў. Бавіцца маскамі могуць усё ж людзі з тварам. Для безаблічнага натоўпу ладзяцца адно народныя гуляньні.

*— Ці можна параўнаць забавы XVII—XVIII стагодзьдзяў з забавамі сучаснага беларуса? Што прыдбалі, што згубілі?*

— Чалавек мінулага ня мог і ня ўмеў бавіцца сам, адзін. Найважней у забаве было тое, што бавіліся гуртам, грамадою. І нездарма банкет называлі бяседаю. Цяпер жа мы навучыліся забаўляцца на самоце, болей адпачываць ад людзей, чым весяліцца разам зь імі. Але гэта зварочваецца часам іншым, невясёлым бокам: самотна жывем, бавімся на самоце, дый паміраем самотныя.



## СВАРЫ Й БОЙКІ ШЛЯХТЫ

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Калі гавораць пра характар беларусаў, дык заўжды згадваюць іх рахманасьць, лагоднасьць і цярплівасьць. Але ў гісторыі беларусаў хапала й войнаў, авантураў. І ня толькі з чужынцамі. Гісторыя поўніцца крывавымі ўнутранымі бойкамі ды паўстаньнямі. Што да прыватнага жыцьця шляхты, дык і ў ім свары й сутычкі займалі вельмі важнае месца. Пра гэта сьведчаць мэмуары й дакумэнты. Са старонак мастацкіх твораў шляхта часам паўстае гэткім натоўпам нястрыманых задзіраў, буянаў, самахвалаў. Шляхта (і ў гэтым адметнасьць нашага рэгіёну) складала каля дзесяці адсоткаў насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Вось жа і ў жылах бальшыні сёньняшніх беларусаў маецца хоць кропля шляхецкай крыві. Значыць, гісторыя шляхецкіх сварак ды боек можа шмат распавесьці пра тое, як складаўся беларускі характар, што ў мэнтальнасьці і ў традыцыях беларусаў сапраўды гістарычнае, старажытнае, а што накінута апошнім часам.**

*— Пачнем з паядынкаў, эўрапейская традыцыя якіх зьвязаная з паняцьцем рыцарства. Ці бойка беларускай шляхты разьвівалася таксама ў рыцарскім кантэксьце?*

— Рыцарства зь ягонымі гербамі й законамі разьвілася ў ВКЛ значна пазьней, чым у Заходняй Эўропе — з XV стагодзьдзя, і наша рыцарства ня мела такога досьведу, як, скажам, крыжовыя паходы, калі складаліся традыцыі й суровыя правілы рыцарскіх паводзінаў. Нашая традыцыя абароны гонару бліжэй

да таго старажытнага часу, калі кожны вольны чалавек хадзіў зь мячом, сякерай ці кіем і бараніў гонар або жыцьцё гэтак, як лічыў патрэбным. Таксама важна, што ў славянаў і балтаў не было разьвітай традыцыі «Божага суду», як у германцаў ці франкаў. «Божы суд» — гэта іспыт вадой, агнём альбо зброяй. Паядынак — гэта не прыватная бойка, а менавіта «Божы суд», калі прайгралы лічыўся вінаватым і перад месьвецкім правам.

*— Дык што, беларускія шляхцюкі проста біліся між сабой, як п'яныя мужыкі ў карчме?*

— Часам бывала й так. Але галоўнае, што паядынак ніколі не лічыўся ў нашым рэгіёне справядлівым разьвязаньнем канфлікту. Таму ён не прымаўся ўладамі й доўгі час грамадзтвам. Лічылася злачынствам марна праліваць шляхецкую кроў, прызначаную для больш важнай справы — абароны Айчыны. У Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 году было выразна сфармулявана:

***Іж той шкадлівы звычай учаўся быў межы падданымі нашымі, звлашча стану рыцарскага, каторыя за леда прычынаю, цярплівасьці прыстойнае ў асобе не захоўваючы і правам паспалітым не абыходзячыся, і ўвогуле ім яко бы пагарджаючы, свавольна й быстра адзін на другога торгнуўшыся, а затым на руку павабіўшы й абавязаўшыся словамі, якія пачцівасьці й добрае славы датычаць. Потым супольна б'ючыся й раны сабе задаючы, да ранаў шкадлівых і нянавісьці паміж сабою прыходзяць, а некаторыя зброі шкадлівай, яко бы супраціў пастароньнему непрыяцелю, ды да таго дзіўных паступкаў ужываючы, насьмерць адзін другога забіяюць і супольна сябе мардуюць ня йначай, яко бы ўлады й справядлівасьці над сабою ня мелі.***





***Аднак жа то ў рэчы паспалітай жаднага памнажэньня й пажытку ня чыніць і ўвогуле, калі кроў людзкая часам і нявінная праліваецца, Пан Бог тым бывае абрушаны; такжэ й пакой паспаліты абражаны. А патаму мы гэтаму, яко шкадліваму звычаю ў панстве нашым Вялікам Княстве Літоўскім не хацелі дапусьціці большэй шырыціся...***

Паядынкі дазваляліся ў выключных выпадках і менавіта вярхоўнаю ўладаю — самім вялікім князем. Толькі ў XVIII стагодзьдзі пад уплывам заходняй моды даволі шырока ўсталяваўся звычай паядынкаў «па правілах». Але й тады ў выпадках сьмерці ці калецтва яны сурова караліся законам.

*— Тады паўстае пытаньне: ці ня ёсьць перабольшаньнем мэмуарыстаў славутая ваяўнічасьць шляхты? А мо гэта ўвогуле літаратурны міт?*

— Ваяўнічасьць была — і немалая, але я прапанаваў бы падысьці да гэтага пытаньня зь іншага боку. Нездарма я спыніўся на «Божым судзе» й на праве — менавіта паняцьце права, на маю думку, ёсьць ключавым у гісторыі разьвязаньня канфліктаў у краінах былой Рэчы Паспалітай. Дзеля абароны сваіх правоў шляхта аб'ядноўвалася ў канфэдэрацыі. Гэта быў законны спосаб аб'яднаньня тых, хто лічыў, што правы ягоныя парушаюцца, скажам, каралеўскай уладай. У абароне сваіх правоў канфэдэрацыя магла зьвярнуцца й да зброі. Самай вядомай збройнай канфэдэрацыяй была Барская, якую ўтварылі ў 1768 годзе ў горадзе Бар ва Украіне дзеля абароны незалежнасьці й традыцыяў ды супраць расейскага ўмяшаньня ў справы краіны. На тэрыторыі Беларусі канфэдэраты сустрэлі зброяй войска, скіраванае царыцай Кацярынай II на дапамогу свайму стаўленіку каралю Станіславу Аўгусту. Расейскім войскам камандаваў малады яшчэ генэрал Сувораў.

*— Канфэдэрацыі былі абавязкова збройныя?*

— Сход збройнай шляхты супраць каралеўскай і вялікакняскай улады ў XVI стагодзьдзі пачалі называць «рокаш». Шляхта зацята адстойвала сваё права на рокаш — збройную абарону сваіх правоў і прывілеяў. Менавіта ў гэтым, як і ў праве на «Liberum veto» (што значыла «Не дазваляю»), бачыла шляхта прынцыпы «залатой вольнасьці». Рокаш ня быў бунтам — гэта быў спосаб абароны сваіх правоў экстрэмальным чынам.

*— Ці толькі шляхта змагалася за свае правы? А ніжэйшыя саслоўі?*

— Большасьць выступаў сялянаў ці гараджанаў былі спробамі абараніць свае неад'емныя правы, бо ў нашай дзяржаве мелі свае правы нават прыгонныя (прынамсі, на паперы). Словы Аляксандра Пушкіна пра «русский бунт, бессмысленный и беспощадный» не пасуюць Беларусі. Віцебскія ці полацкія мяшчане й крычаўскія сяляне змагаліся супраць, як яны лічылі, парушэньня прадстаўнікамі ўлады іхных статутных правоў. Змагаліся часам бязьлітасна, але ўсьведамляючы мэту й сэнс змаганьня. Таму звычайна, хаця завадатараў і каралі сурова, але патрабаваньні паўстанцаў задавальняліся.

*— Паўстае занадта ідылічная карціна — і шляхта, і сяляне адстойваюць свае правы, улады пільнуюцца іхнага захаваньня. А наезды, грамадзянскія войны?*

— Так, пачынаючы ад канфэдэрацыяў, у якіх удзельнічалі тысячы прадстаўнікоў пэўных саслоўяў, ды рокашу як варыянту грамадзянскай вайны, можна перайсьці да так званых наездаў — калі адна група шляхты, звычайна аб'яднаная вакол сям'і, спрабавала з дапамогай зброі высьветліць адносіны зь іншай





сям'ёй. Пашыранасьць збройных спосабаў адстойваньня правоў сьведчыць ня толькі пра любоў да свабоды, але, на жаль, і пра слабасьць улады ды нястачу сацыяльных тармазоў у грамадстве. Як і рокашы, наезды сталіся своеасаблівай традыцыяй «залатой вольнасьці». Калі адказчык у справе аб спрэчнай маёмасьці не сьпяшаўся выконваць рашэньня суду, ягоны праціўнік спрабаваў змусіць яго сілаю ці проста захапіць спрэчны маёнтак альбо вёску. Такі «праўны» наезд звычайна называлі «заездам». Выдатнае апісаньне такога заезду даў у «Дыярыюшы жыцьця майго...» беларускі пісьменьнік шляхціц Марцін Матушэвіч:

***...Даведаўся я, што Арэшка, пінскі судзьдзя земскі й маёр Пінскага рэгімэнту Агінскага, польнага пісара Літоўскага, паехаў на заезд Булкава, таго самага, за які айцец мой даў 70 000 злотых Салагубавай, берасьцейскай ваяводавай, ды, узяўшы ад яе застаўнае права на той жа Булкаў, пусьціў яго ёй жа самой у арэнду.***
***...Ехаў тады я ўсю ноч, і як толькі золак — убачыў колькісот чалавек ушыхтаваных і гатовых да заезду. Мінуў я іх ды ўляцеў да Булкаўскага двору, які застаў пусты, бо жыд Ёсель, які трымаў Булкаў у арэнду ад Салагубавай, уцёк. Людзі, якім абрыдла жыдоўская арэнда, бараніцца не хацелі. Сам тады я з адным слугою быў у двары й, зрэшты, знайшоўшы некалькі чалавек, загадаў вароты замкнуць і загарадзіць. Гэтак і чакаў прыезду судзьдзі Арэшкі.***
***Хутка, як сонца ўзышло, прыехалі. Я бараніўся, і судзьдзя прыняў абарону маю, а калі даў пароль кавалерскі афіцэрскі, што ўжо па прыняцьці абароны маёй гвалту чыніць ня будзе, тады загадаў я ў карчме абед гатаваць, а тым часам шляхты зь дзьвесьце наехала й так пачаставаных і судзьдзю й шляхту выправадзіў я, а сам аж да вяртаньня***

***Ёселя, арандатара булкаўскага, затрымаўся. Потым з Булкава пабег проста да Воўчына, апераджаючы сваёй рэляцыяй князя падканцлера, а тым часам наступілі сьвяты, на якія быў я ў Воўчыне.***

*— Зь якіх прычынаў, апроч маёмасных, адбываліся наезды?*

— Часам прычынаю наезду была асабістая сварка ці зьнявага. Бывала, што нязначная прычына выклікала працяглую й жорсткую вэндэту, у якой ворагі нават пісьмова раілі адзін аднаму «сьцерагчыся свайго праціўніка ў доме, у касьцёле, у лазьні, на полі, едучы, ува сьне, на дарозе й на кожным месцы, бо на нім помсьціцца будзе й на горле ягоным сядзе». Нездарма шляхецкія маёнткі звычайна добра ўмацоўваліся, бо бараніцца прыходзілася ня гэтак ад татараў, як часам ад уласных суседзяў. Гісторыя поўніцца расповедамі пра забойствы суперніка нават у касьцёле, пра гвалты й рабаўніцтвы. Улада рэдка мела магчымасьць абараніць ахвяру ці прыпыніць баявыя дзеяньні, бо на баку кожнага з праціўнікаў ваявалі часам сотні прыхільнікаў са сваякоў, дробнай залежнай шляхты ці аддзелы прыватнага войска. Калі ворагі былі багатыя і ўладныя, у грамадзянскіх (дамовых) войнах удзельнічалі тысячы жаўнераў, гэта былі ўжо войны «палітычныя», часам з удзелам замежных войскаў. Так, на пачатку XVIII стагодзьдзя ВКЛ было ахопленае вайной з родам Сапегаў, якія выступілі на баку швэдзкага караля Карла XII. Іхныя праціўнікі Радзівілы ды іншыя буйныя роды ўступілі ў хаўрус зь Пятром І. Гэткім чынам, крывавыя падзеі Паўночнай вайны шчыльна перапляліся са сваркамі паміж магнацкімі родамі.

*— З чаго ж пачыналіся індывідуальныя сутычкі й як адбываліся? Ці існавалі пэўныя правілы паядынкаў і боек?*





— Большасьць прыватных боек пачыналася за сталом. Прыхільнасьць шляхты да алькагольных напояў ды неўтаймаваная пыха былі прычынай шматлікіх сварак. За стол сядалі звычайна са зброяй. Слугі за плячыма ці ў двары таксама былі пры палашах альбо стрэльбах. Гэтак жа й на сойміках, куды шляхта зьяжджалася мала як не на вайну. У падагрэтай віном размове было дастаткова пары вострых слоўцаў. Звычайна, калі шляхта хапалася за шаблі, спрэчку разьвязвалі на двары, калі ня проста пры стале. Пачатак быў хуткі — хутка ўсё й заканчвалася. Вось што прыгадваў у сваіх успамінах Ян Ахоцкі:

***Калі Казімер Жавускі, зарызыкаваў нейкі канцэпт, які не прыйшоўся да смаку Эўстахію Сангушку, той, наблізіўшыся лякaнічна запытаў:***
***— Альбо біцца, альбо прабачыцца?***
***Жавускі гэтак жа коратка адпавёў:***
***— Біцца.***
***Было гэта ўжо пры добрым змроку, але не адкладалі да заўтра. Зараз жа абодва прыбралі сабе сэкунданта. Людзям загадалі ўзяць паходні й рушылі за рагаткі...***

Такія сваркі рэдка мелі сур'ёзныя наступствы — найчасьцей пасьля некалькіх драпінаў байцы мірыліся і ўжо пілі за мір, а бывала, што й за новае сяброўства. На такія сутычкі грамадзтва й закон глядзелі скрозь пальцы — нават калі даходзіла да забойства, стараліся неяк залагодзіць справу. Выдатны знаўца шляхецкай культуры Ігнат Ходзька так апісаў тыповы паядынак:

***За колькі крокаў саскочылі ўсе з коней, а толькі сам шамбэляніч дабыў шаблю й ляцеў на пана Станіслава. Той вырваў зь зямлі Гарасіма, пад'ехаў з прысядкам. А як падняўся магутна... фуркнула ў паветры, ды прэч адляцела шабля шамбэляніча, а сам ён з разгону ўпаў на зямлю.***

*— А што, пане браце? — сказаў пан Станіслаў.*
*— Уставай! Ня буду крыжа на плячах рабіць.*
*— Пагодзімся, пане падчашы! — кажа, падымаючыся, шамбэляніч.*
*— Згода! Згода! — крыкнулі ягоныя сэкунданты.*
*— Маеш сатысфакцыю, пане падчашы!*
*— Згода, пане Станіславе! — сказаў і я.*
*— Ну дык няхай сабе й згода! — паўтарыў пан Станіслаў, хаваючы Гарасіма да похваў. — А іншым разам, пане браце, не зачапляй стрэльчыка, бо вашэці настраляе.*
*Ізноў крыкнулі мы:*
*— Згода!*
*Праціўнікі абняліся, і ўсе ў найлепшым настроі, дзякуючы Богу, што бяз шванку абышлося, вярнуліся да мястэчка.*

Канец вольнай шляхецкай дзяржавы стаў і канцом традыцыі шляхецкіх боек і грамадзянскіх войнаў. Расейская ўлада хутчэй гатовая была дазволіць забіваць сваіх геніяў, як Пушкіна ці Лермантава, на дуэлі — гэта значыць, на «Божым судзе», але ня даць людзям бараніць свае правы перад іншымі грамадзянамі ды самой уладай. Зрэшты, Адам Міцкевіч назваў свайго «Пана Тадэвуша» «Апошні наезд у Літве». Але звычка бараніць свае правы й перакананьні з шабляю ці пісталетам у руцэ ня зьнікла так хутка. І пачынаючы ад Касьцюшкавага паўстаньня, шляхта зноў і зноў бярэцца за зброю. Беларускія змагары Случчыны ці партызаны генэрала Вітушкі — бадай, носьбіты таго ж вальналюбнага беларускага характару.



## ЖЫЦЬЦЁ З ПАЦАЛУНКАМ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Сярод звычак людзей ёсьць і цалаваньне. Чалавек штодня цалуе каханага, дзяцей, бацькоў, цалуе руку сьвятара, з пацалункамі сустракае й праводзіць гасьцей. У той жа час ёсьць народы, якім пацалункі здаюцца чымсьці брыдкім і незразумелым — прыкладам, японцы альбо кітайцы. Вядома й звычка «цалавацца» насамі — гэтак робяць на Поўначы. Пацалунак адносіцца да невэрбальнай камунікацыі. Наагул вылучаюць тры віды пацалункаў: пацалунак каханьня, ці палюбоўны, рытуальны й этыкетны. Усе яны маюць і агульнае, і адрознае. А ў мітапаэтычных адносінах пацалунак сымбалізуе зьліцьцё чалавечых душаў, замацаваньне роднасных стасункаў, выражэньне шэрагу ідэяў сацыяльнай ярархіі.**

*— І найперш усё ж цікава: як наагул чалавек навучыўся цалавацца? Дзе вытокі гэтага звычаю?*

— Адказаць на гэтае пытаньне цяжка, і наўрад ці магчымы адназначны адказ. Аднак навукоўцы выказваюць меркаваньні, што асноваю для разьвіцьця такой зьявы, як пацалунак, стала смактаньне ў дзяцінстве матчыных грудзей. Хутчэй за ўсё, якраз прыроджаны смактальны рэфлекс спарадзіў гэты сродак пачуцьцёвых дачыненьняў. На першым годзе жыцьця менавіта рот — галоўная крыніца задавальненьняў кожнага з нас. Таму шляхам працяглых пераўтварэньняў кармленьня дзіцяці — ад смактаньня грудзей да перадачы ежы з роту ў рот — і ўзьнікла гэтая дзея.

*— Адкуль паходзіць слова «пацалунак»?*





— У гэтым слове вылучаецца корань *-цал-*, які выяўляе выразную сувязь са словам «цэлы». Прыметнік «цэлы» мае два асноўныя значэньні: увесь, у поўным аб'ёме, прыкладам, «зьеў цэлы кусок», і непашкоджаны, без заганаў: цэлая кашуля, не парваная. Таму сам корань *-цэл-* нясе значэньне жаданьня быць цэлым, цэльным, здаровым. Пацалунак у традыцыйным этыкеце й суправаджаецца пажаданьнем здароўя. Прыкладам, беларускія жанчыны пры сустрэчы, нахіліўшы галаву й сказаўшы «Здаровінька!», цалаваліся ў вусны. І мы сёньня паводле старога звычаю цалуем дзіця, супакойваючы яго, цалуем пабітае месца — і верым, што так хутчэй загоіцца.

*— Якая знакавая сэмантыка пацалункаў у народнай культуры, фальклёры?*

— Там пацалунак разумеецца як сродак разбурэньня злых чараў. Ва ўсясьветным фальклёры шырока вядомы сюжэт пра зачараваную прынцэсу, якую царэвіч абуджае да жыцьця якраз пацалункам. У беларускіх жа казках зачараванага ведзьмаю каралевіча ратуе простая дзяўчына:

***І пачаў пачвара зь сьвіным лычом пець песьні, пачаў пець так гожа, што голас лезе аж у самую душу й разам хочацца плакаць і сьмяяцца. Пяе ён з такімі любошчамі, што затапіў у дзеўчыны й голаў, і сэрца. Сама няведама зачым, схапіла яна страшэннага чалавека за голаў да й пацалавала. У той момант абярнуўся ён у гожага каралевіча, схапіў яе на бярэмя да й панёс да гасподы. І сталі яны жыць да пажываць да бедных людзей не забываць.***

*— Як актуалізуецца ў беларускіх паданьнях нежаданы пацалунак, пацалунак нялюбага чалавека?*

— Захавалася легенда пра царыцу, вельмі ахвочую да прыгожых хлопцаў. Але беларус-прыгажун абірае лепей страшэнную будучыню, чым пацалунак нялюбай.

***А царыца нічога не ўважае, абы толькі ёй абняць таго гожага хлопца. От вялела яна, і прывялі яго к ёй. Толькі яна хацела яго абняць да пацалаваць, аж зірне — яго твар абярнуўся ў сьвіное рыла. Крыкнула тут царыца, а зь яе й дух вон выперла.***

*— Эстэтыка казкі, легенды сьцьвярджае сьвет ідэальны, мрою. А як ставіліся нашы продкі да пацалункаў у рэальным жыцьці?*

— Трэба нават заўважыць, што ў вясковай традыцыі пацалунак разумеўся як прывітаньне, доказ прыязнасьці, сардэчны паклон. Пацалункамі суправаджаліся шматлікія зборышчы нежанатай моладзі, гэтак званыя вячоркі. Пацалунак — складнік асобных моладзевых гульняў: бывала, усе ўдзельнікі карагоду неаднаразова перацалоўваліся адзін з адным. Падчас калядных ігрышчаў, як пісалі зьбіральнікі фальклёру: «Гульні заканчваюцца шумным гуляньнем, што даходзіць часам да празьмернасьці — абдымкам, пацалункам, жартам няма ліку». Асобныя вольнасьці дазваляліся самім характарам гульні. У смаленскіх беларусаў у час гульні «Жаніцьба бахара» да кіраўніка-«бацькі» гульцы падводзілі хлопцаў і дзяўчат, а ён ім загадваў: «Цалуйцеся!». А дзяўчаты ў крык, ня хочуць цалавацца, а хлопцы — хоп! — і пазадзіраюць ім адзеньне. Тут яшчэ больш сьмеху. А іхныя віцебскія суседкі на Каляды «жанілі Цярэшку», прыпяваючы:

***Паіла коніка ў вядрэ,***
***Відзіла я рыбку на дне.***
***Смачная рыбка карась,***
***Пацалуй, дзядулька, хоць раз.***
***Смачная рыбка язёк,***
***Цалуй і йшчэ разок.***





*— Сёньня вясельля і ўявіць нельга без такога ўжо звыклага скандаваньня «Горка!», калі мaлады з маладою мусяць цалавацца. Што гэта за звычай, ці заўсёды гучаў гэты вокліч на беларускіх вясельлях?*

— Калі перагартаць усе вядомыя запісы вясельля, дык, бадай, да сярэдзіны XX стагодзьдзя такіх паказьнікаў няма. Праўда, апісвалася перадусім сялянскае вясельле. Магчыма ж, ведалі гэты звычай гараджане. Але міталягічныя падставы судачыненьня воклічу «Горка!» й пацалунку выразныя, а паралелі між інтымнымі пацалункамі й прыняцьцем ежы прасочваюцца вельмі пасьлядоўна. Бо гэтым словам абавязкова папярэднічае заўвага кагосьці з гасьцей, што страва салёная, нясмачная, горкая, і яе трэба абавязкова падсаладзіць. Мы ж часта кажам: салодкі пацалунак, салодкія вусны, паглынаць адзін аднаго ў пацалунках. Цалаваліся, дарэчы, калі садзілі цыбулю, каб горкаю не была. Абавязковай стравай на вясельлі быў мёд — згадаем тут і выраз «мядовы месяц». Таму сувязь смакавых пачуцьцяў і пацалунку законная. Што тычыцца колішніх вясельляў, дык пацалункі маладых асабліва не акцэнтаваліся. Абавязковымі й рытуальна значнымі былі пацалункі іншага характару. Да прыкладу, маладая кланялася сьвякроўцы, цалавала ёй руку, твар, і з прапановы дружкі абедзьве яны пілі адна да адной па чарцы гарэлкі — каб замацаваць назаўсёды згоду:

***Асабліва ўзрушвае час бацькоўскага благаславеньня. Бацька падыходзіў да стала й цалаваў праз стол дачку, кажучы пры гэтым: «Няхай Бог благаславіць!». Гэта таксама робіць і маці. Затым усе падыходзяць да нявесты й цалуюць яе, выказваючы пры гэтым свае добрыя пажаданьні. Перад адпраўленьнем маладога за нявестай сват частуе ўсіх гарэлкай, а бацька яго нясе на талерцы заку-***

***ску. Пасьля сват бярэ ў рукі каравай; убачыўшы гэта, маладыя падыходзіць да бацькоў, а потым па чарзе да ўсіх іншых, цалуючы ў рукі, — кожны ў адказ робіць над яго галавой знак крыжа.***

*— Што азначае пацалунак у руку?*

— Пацалунак у вусны, шчокі выражае пачуцьцё прыязнасьці й сяброўскай еднасьці. Іншы характар — пашаны й павагі — мае пацалунак рукі альбо пляча, а то й ног: ён дэманструе высокую ступень залежнасьці й падпарадкаваньня. Калісьці пацалункі рук і ног у Эўропе былі звыклай зьявай, цяпер жа цалуюць руку толькі сьвятару, ці зрэдку мужчыны — жанчынам.

*— Цалуюць жа й нябожчыка на разьвітаньне — і таксама вельмі часта ў рукі ці ў лоб. Прычым, робяць гэта ня толькі сваякі.*

— У народнай традыцыі й сустрэчы, і разьвітаньні не абыходзяцца без пацалункаў. Любое расстаньне, хай сабе часовае ці вечнае, на глыбінных роўнях прадугледжвае ўзаемнае дараваньне грахоў, а пацалунак і прызваны замацаваць гэтае дараваньне. Вядомы яшчэ звычай прасіць адзін у аднаго прабачэньня перад Вялікім постам — цалаваліся ўсе сямейнікі. А на Вялікдзень цалуюцца ня толькі сямейнікі, але й госьці, сустрэчныя. Мы цалуемся ў царкве з зусім незнаёмымі людзьмі. Гэтае хрыстосаваньне мела некалі нават міжсаслоўны характар і сьцьвярджала роўнасьць людзей перад агульначалавечай радасьцю — уваскрошаньнем Хрыста. У беларусаў, як і ў іншых народаў, шырока распаўсюджана таксама цалаваньне сакральных аб'ектаў: абразоў, крыжа. Яно магло суправаджацца маўленьнем клятвы ці прысяганьня. Вядомая ў нас і клятва зямлёю, калі зямлю елі альбо цалавалі. Дарэчы, есьці зямлю дазвалялася толькі мужчынам, жанчына мела права яе пацалаваць.



беларуская Атлянтыда

*— Такім чынам, пацалункі выдаюць перадусім станоўчыя эмоцыі, прыемныя адчуваньні. Але сьвет ведае й пацалунак Юды...*

— Ведае. Гэта дзіўна, але пацалунак бывае нават у сварцы. На Палесьсі этнограф і фальклярыст Часлаў Пяткевіч запісваў:

***Бывае такая сварлівая баба, што сустрэнецца з кім-небудзь, дык па-добраму гаворыць, як толькі воласу перагарэць, а далей сварыцца, сварыцца. А калі ўжо вельмі надаесьць, то задзярэ сарочку й андарак па самы пуп і крычыць: «Пацалуй мяне сюды! — да завернецца задам: — І туды!» А казаць «пацалуй мяне ў сраку» вялікі грэх, зьнявага крыжа, бо хрышчоны чалавек цалуе крыж.***

І ўсё ж палешукі такія пацалункі «ўчынялі» толькі ў задзірлівых выразах, у жыцьці ж аддавалі перавагу інтымным і этыкетным.

## НАРОДНАЯ КАНТРАЦЭПЦЫЯ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Бальшыня народных казак — нашмат мудрэйшых за ўсіх мудрацоў — заканчваецца ня чым іншым, як вясельным пірам. Аказваецца, чалавек нараджаецца, каб як і ў жывёльным сьвеце, не перапыняўся, а доўжыўся чалавечы род. Але ж чалавек тым і розьніцца ад жывёлаў, што ягонае сэксуальнае жыцьцё не падпарадкоўваецца толькі працягу ў нашчадках. І таму грамадзтва здавён хвалявала праблема рэгуляваньня нараджальнасьці й, адпаведна, кантрацэпцыя, ці засьцераганьне ад непажаданых цяжарнасьцяў. Адзін з аспэктаў праблемы кантрацэпцыі для людзей мінулага й для сучаснага чалавека — мэдычны. Іншыя ж — з шэрагу рэлігіі, этыкі.**

— *Як зьвязаная гэтая праблема з народнай культурай, народнымі ўяўленьнямі?*

— Найменш гэтая праблема для людзей мінулага была мэдычнай, хаця, безумоўна, жанчыны скарыстоўвалі й зёлкі, і іншыя рэальныя мэдычныя сродкі. Але ж народная мэдыцына ёсьць часткаю агульнай духоўнай, менавіта духоўнай культуры, бо грунтуецца яна на мітапаэтычных стэрэатыпах і схемах. Уключаліся ў агульны фальклёрны фон і перапыненьне цяжарнасьці, і забойства толькі народжаных немаўлятаў, і стаўленьне да такіх жанчын.

— *Як засьцерагаліся ў сэксе беларускія сялянкі?*

— Пачнем з парады, якую найчасьцей згадваюць вясковыя бабулі. Згодна зь іхнымі аповедамі, адзін са спосабаў народнай кантрацэпцыі палягаў у тым, што нявеста за вясельным сталом падкладвала пад сябе





такую колькасьць пальцаў рукі, колькі гадоў не хацела мець дзяцей: два пальцы — тады два гады ня будзе, тры — тры гады й гэтак далей. З гледзішча сучаснага чалавека невытлумачальныя й нават сьмешныя захады. Але яны абсалютна зразумелыя ў рэчышчы мітапаэтычных поглядаў і магічных апэрацыяў. Так, сымболіка пальца зводзіцца да абазначэньня чалавека (згадаем — «адзін як перст»), і перадусім дзіцяці. Беларусы кажуць: «Якога пальца ня ўрэж, усё адно баліць», што паказвае на аднолькавую бацькоўскую любоў да ўсіх дзяцей у сям'і. Ну, а зьмяшчэньне ў прастору за сьпінай, пад сябе фактычна азначала выправу на той сьвет, у нябыт, і папярэджвала зьяўленьне адтуль дзіцяткі. Вось вам і кантрацэпцыя, няхай сабе й мітасымбалічная.

— *Якія яшчэ сымбалічныя схемы рэалізоўвалі на практыцы вясковыя жанчыны?*

— Увасабленьнем жаночае існасьці й здольнасьці да нараджэньня дзяцей ёсьць мэнструальная кроў. Трохі вады, што засталася пасьля мыцьця кашулі, заплямленай месячнымі, раілі выліць у замок, пасьля чаго замкнуць яго й выліць у студню. У такім разе дзяцей ня будзе ніколі. Калі ж гэтыя захады толькі часовыя, замкнёны замок хавалі ў месцы, што вышэй чалавечага росту. Захацеўшы дзяцей, замок той абавязкова адмыкалі. Каб не нараджаць дзяцей, існаваў і такі абрад:

***Вясковыя бабы, каб не раджаць болей, мылі свае сарочкі, на каторых кроў, а ваду лілі на гарачую печ у лазьні. А тады баба выходзіць, а з усіх бакоў дзяціныя галасы чуваць, і з плачам, з крыкам. А колькі галасоў — столькі б яна дзяцей магла мець. А так выпаліла.***

Як вядома, раней дзіцячае месца, ці пасьлед, закопвалі ў хаце, дзесьці ля печы альбо на покуці. Калі ка-

торая парадзіха не хацела больш мець дзяцей, дык адразу пасьля родаў прасіла бабку-павітуху закапаць пасьлед ніцма, пупавінаю ўніз. І тады, паводле законаў імітатыўнай магіі, гэтак жа мелі перавярнуцца нараджальныя магчымасьці жанчыны. Яшчэ адзін запіс:

***Каторай бабе надаела радзіць дзеці, то трэ, каб пайшла на магілку дзіцячу й цыркнула наводлег сваім малаком.***

*— Ці хвалявалі праблемы кантрацэпцыі мужчынаў?*

— Абсалютная большасьць запісаў паказвае на строгую закрытасьць такіх жаночых ведаў. Што да мужчынскага засьцераганьня, то існуюць толькі адзінкавыя запісы. Раілі асабліва схільным да прыгодаў кавалерам заўсёды насіць пры сабе ў кішэні два зьвязаныя накрыж кавалкі лучыны — і такой лучыны, што выпадкова (менавіта выпадкова!) акажацца падпаленай з абодвух бакоў.

*— Якое традыцыйнае стаўленьне беларусаў да абортаў?*

— Яднае й хрысьціянскую, і народную традыцыю безумоўнае асуджэньне кантрацэпцыі й таго, што сёньня называецца абортам. Яго разумелі як дзетазабойства. У фальклёры вядомая значная колькасьць апісаньняў пекла, дзе жанчыны, якія маюць на сабе такія грахі, вымушаныя есьці сырое мяса, піць кроў. Уражваюць таксама карціны, дзе распавядаецца, як іхныя грудзі смокчуць вужы ды іншыя гады. Цікава тут тое, што на людзкія грахі чуйна адгукалася прырода. У паданьнях не агаворваецца, наслалі стыхію Бог альбо дэманы — загубленыя душы. Яўна толькі, што на парушаную раўнавагу звычайна рэагуе ўвесь Сусьвет. Так, на Палесьсі шчыра верылі, што засуха, навальніцы бываюць пасьля таго, як пахаваюць на могілках няхрышчанае дзіця альбо адбудзецца ягонае забойства.

***Баба, што не схацела гадаваць дзяцінку й замардавала — ці прыспала, ці ўтапіла — то ад таго й град бувае, і дождж сільны бувае. Раз замардавала баба дзіця й занесла ў другое сяло й паклала там у капну. І той дарогаю, як яна несла — град усё ішоў, цэлы год да восені і ўсё пабіў — і жыта, і ўсё, усё.***

*— А душы ненароджаных дзетак? Ці ня маюць яны хоць якую кампэнсацыю за свой загублены лёс?*

— Як гэта ні дзіўна, не. Загубленыя да хрышчэньня ці праклятыя маткаю яшчэ ў чэраве дзяўчаткі становяцца кікімарамі. Галоўным чынам кікімары зьбіраюцца ў тыя хаты, дзе адбылося забойства дзяцей і паблізу якіх быў схаваны трупік. Праз сваю дзяцінасьць яны збольшага бясшкодныя й перашкаджаюць жыхарам хіба адной валтузьнёй. Але калі ў хаце жанчыны песьцяць сваіх дзяцей, кікімары не па-зямному, неяк асабліва ўздыхаюць. Так выказваюць яны зайздрасьць да чужое ласкі й недасяжнае жаданьне атрымаць такую ж.

*— Дык чаму ж бязьвінныя душы становяцца дэманамі?*

— Архаічнай сьвядомасьцю ўсе нябожчыкі як бы падзяляліся на дзьве групы: на тых, хто памёр сваёй, натуральнай, сьмерцю, і тых, чый век быў перарваны. Гэтыя няшчасныя ўсё адно як патрабуюць ад жывых працягу свайго існаваньня й спаўненьня жыцьцёвага шляху. Чым раней абарвалася жыцьцё, тым больш агрэсіі ў дачыненьні да жывых прыпісвалася такому нябожчыку. Відавочна, да гэтай, шкоданоснай, групы адносіліся й душы загубленых немаўлятаў.

*— Несумненна, жанчына перажывае велізарнае псыхалягічнае напружаньне пасьля зьнішчэньня ўласнага дзіцяці. Як разьвязвае народная творчасьць гэты ўнутраны канфлікт? Якая помста чакае жанчыну?*

— Беларусы ведалі: не заўсёды вытрымлівае жанчына такі душэўны цяжар, зрываецца й засільвае сама сябе. У народных паданьнях — топіцца й становіцца расамахаю:

***Расамаха — гэто ня зьвер, а якаясь нечысь. У нас людзі кажуць, што расамахаю робіцца жанчына, як яна зьнішчыць сваё дзіця й сама ўтопіцца. Я бачыў, як на бабровай хатцы сядзела голая жанчына з распушчанай касою, а на руках трымала дзіцятко. Палажыла яго на лано ды давай шчупаковым грэбенцам расчэсваць валасы. А як пачула мяне, усхапілася сама, схваціла аберучкі дзіця ды шабулдых у ваду, толькі шчурачкі пашлі.***

Важна тое, што народная мараль ня проста асуджае забойства дзіцяці. Няма жанчыне апраўданьня ні з боку соцыюму, ні сабе самой. Самагубства — ня проста пакараньне, гэта адзінае разьвязаньне псыхалягічнага крызісу. Застаецца падкрэсьліць, што ў традыцыйнай культуры беларусаў плянаваньне сям'і й адказнасьць за тое выходзіць па-за межы індывідуальнай, мацярынскай і пашыраецца на ўвесь род. Можна нават казаць пра калектыўную адказнасьць жанчын-мацярок за дзіцячыя душы, адказнасьць соцыюму за працяг роду, бо «Навошта лепшы клад, калі ў дзецях лад?».



## БАЙСТРУК — ДЗІЦЯ ГРАХОЎНАГА КАХАНЬНЯ

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Зьяўленьне на сьвет дзіцяці — вялікая тайна й значная падзея. Так было калісьці, так ёсьць і цяпер. Але жыцьцё складваецца часам так, што маленькі чалавечак з самага моманту свайго нараджэньня атрымлівае пячатку, кляймо — байструк... Ягоныя бацькі не пабраліся законным шлюбам. І не істотна, зачыналася дзіця ў каханьні ці гвалтам, для людзей яно ад пачатку не такое, адрознае, горшае.**

*— Дзякаваць Богу, сучаснае грамадзтва патроху пазбаўляецца гэтага антыгуманнага стэрэатыпу, але ж быў і такі час, калі жыцьцё для непажаданых дзетак пачыналася перадусім дзеля пакутаў. Чаму?*

— Бо асноватворным прынцыпам традыцыйнага грамадзтва ёсьць імкненьне да гармоніі, трыманьня за адвечныя прынцыпы й схемы. І дзіця ў народна-міталягічным сьветаглядзе мусіла мець абодвух бацькоў. Любое адхіленьне бачылася рэплікай тагасьветаў, пагражала крызіснай сытуацыяй і таму мусіла быць выпраўлена альбо нават пакарана.

*— Сёньня такое дзіця называюць байструком ці бастардам. Якімі яшчэ словамі называлі гэтых дзетак раней?*

— Побач з нэўтральнымі тэрмінамі «бязбацькавіч», «байструк» і ад яго вытворнымі — «байсьцёр», «байстручок», у беларусаў вядомы адмысловыя, матываваныя мітапаэтычнымі ўяўленьнямі словы. Сярод іх паказаньні на месца меркаванага зачацьця дзіцяці

альбо родаў — «падтыньнік», «падплотнік», «падвугольнік», «крапіўнік», «падкрапіўнік».

*— Чаму крапіўнік? Крапіва — месца, мякка кажучы, не зусім прыдатнае для названых падзеяў…*

— Між тым, крапіва зь ейнымі пякучымі якасьцямі сымбалізуе ў народнай традыцыі якраз плоцевае каханьне, якое пячэ гэтак жа, як і крапіва. Але каханьне пазашлюбнае — грахоўнае. У народнай мове захаваліся ўстойлівыя канструкцыі кшталту «ў крапіве шлюб бралі» — пра пазашлюбныя сувязі; пра дзяўчыну, што нарадзіла бяз мужа, — «крапіўніца», «як зязюля цыплят вывела ў крапіве». Нават у сучасным горадзе жартоўна скажуць — «ветрам надула». А на вёсцы й такое можна пачуць: «Калі дзяўчыне падвее, то й стан укарацее». Ветру ў міталёгіі прыпісваецца якраз мужчынская й нават апладняльная роля. У беларускіх казках сустракаецца матыў, калі замураваная ў вежы царэўна зацяжарала ад павеву ветру:

***Тады ўзяла нашла краля сабе іголку й давай раскалупываць дзюрку ў сьцяне. Калупала, калупала ды пракалупала дзірачку ў сьцяне маленькую. І ўзрадавалася: Хоць жа я нямножка, а ўвідала сьвету сабе. Ад таго сьвету — вецер там павеяў — і яна сталася, што не ў такім ужо дзеле. Цераз колькі ўрэмя нянька яе ўзнаець, што як-то яна становіцца дужа груба.***

Такім чынам, для дзіцяці, «надзьмутага ветрам», падкрэсьліваецца ягонае прыроднае паходжаньне. Наагул, у лексыцы й фразэалёгіі, што тычыцца зачацьця й нараджэньня дзіцяці, знаходзім тэрміны, агульныя й для людзей, і для прыроднага сьвету. Плод завязваецца, людзі, як і ўсё жывое, плодзяцца. У той жа час пазашлюбнае дзіця атрымала назву «самасей», паколькі яно нарадзілася як бы само па сабе, без «умяшаньня» мужчыны.





*— Відаць, такая батанічная канцэпцыя стае грунтам папулярнага выразу «знайшлі ў капусьце»?*

— І ў капусьце таксама. Але што тут істотна — падкрэсьленьне таго, што менавіта знайшлі. Наагул, да байстручка азначэньне «знайдзён», «найдзёнак» прымяняецца шмат часьцей, чым да любога іншага дзіцяці. Але калі знайшлі, значыць, нехта яго згубіў альбо падкінуў знарок. І тут зьяўляецца ідэя Божага пасыланьня, што гэткім чынам сам Бог выпраўляе душу ў чалавечы сьвет. Часам пазашлюбным дзецям і імя давалі — Багдан, дадзены Богам. Хаця цяпер успрыняцьце яго як дару Божага можа атрымліваць розную ацэнку — ад іранічнай, як у прыказцы — «Хай байструк, абы з Божых рук» да абсалютна сур'ёзнай: «Гэты чалавек ад Бога, сьвяты чалавек». На Палесьсі казалі:

**Байстручкі, ці як жэ кажуць, выбледкі, заўжды бываюць удалыя й шчасьлівыя, не дарам жа людзі гавораць пра тых, каму шанцуе, што ім шчасьціцца, бы выбледкам.**

*— Як ставіліся да пазашлюбнага дзіцяці аднавяскоўцы, соцыюм, дзяржава?*

— Незаконнае паходжаньне накладала значны адбітак на ягоны лёс. Нават сьвятар у пакараньне мог выбраць рэдкае, непрыгожае імя, кшталту Сусол для хлопчыка ці якую-небудзь Хоўру, Дакейду для дзяўчынкі. Пагардлівае стаўленьне, кпіны — пра гэта й казаць не даводзіцца. Перад законам такое дзіця ня мела асаблівых правоў. Паводле Статуту Вялікага Княства Літоўскага, дзіця, народжанае па-за шлюбам і не прызнанае бацькамі, ня мела правоў спадчыннасьці й не магло нават зьвярнуцца ў суд. Такім людзям адводзілася незайздроснае месца: вартаўніка, рызьніка ці нават ката. Нярэдкія выпадкі, калі такія міжвольныя адшчапенцы папаўнялі шэрагі злачын-

цаў ці жабракоў. Нават забойства байструка не кваліфікавалася як злачынства, бо за яго не прадугледжвалася крымінальная адказнасьць.

— *А ў народных, міталягічных поглядах байструк усё ж гаротнік альбо Божы абраньнік?*

— У традыцыйных уяўленьнях яму прыпісвалася асаблівая ўдачлівасьць, і ня толькі яму самому, але й тым, хто зь ім кантактуе. Тычыцца гэта й бабкіпавітухі, і хросных бацькоў.

***Так у кумы ня вельмі парываюцца йці, бо з таго мала карысьці, а яшчэ трэ патраціцца, затое ў кумы к байстручку дак ідуць з ахвотаю, бо й кумоў не міне шчасьце, толькі яны павінны зрабіць знак, што ад яго не адпіхаюцца. Дзеля таго кум затыкае сабе за пояс аброць, каб вадзіліся коні, кладзе за пазуху каласы збожжа, каб у яго быў вялікі ўраджай. Кума гэж падтыкае сабе палойку льну, каб ён добра зарадзіў.***

З асаблівай ахвотаю ішлі ў хросныя да такіх дзетак дзяўчаты. Як запісваў у свой час Сержпутоўскі, «калі кумою байстручка будзе нават ужэ заседзеўшаяся дзеўка, та й яна пойдзе замуж, як ейны хрэсьнік пачне хадзіць». Да такіх дзяцей ставіліся ўсё ж асьцярожна. Верылі нават, што пазашлюбная ў трэцім пакаленьні дзяўчынка (гэта значыць ейныя й маці, і бабуля былі байстручкамі) будзе сапраўднай, прыроджанай ведзьмай. У асобных месцах гэтыя страхі набываюць нават эсхаталягічны характар: пазашлюбная дачка ў сёмым пакаленьні народзіць антыхрыста, што будзе перад канцом сьвету хадзіць па зямлі.

— *Як ставіліся людзі да маці пазашлюбнага дзіцяці?*

— Натуральна, гаворка ідзе пра дзяўчыну, што нарадзіла да вясельля. Ейныя паводзіны адназначна асуджаліся, што адбілася й на роўні тэрміналёгіі. «Пакрытка» — так называлі дзяўчыну-маці на Палесьсі, маючы на ўвазе, што яны была «пакрытая», як жывёла. Вінаватая ня мела права ўдзельнічаць у жыцьці сваёй узроставай групы. Старэйшыя жанчыны сілаю мянялі яе дзявочы галаўны ўбор на жаночы.

— *А сама вінаватая? Як мусіла яна сябе паводзіць?*

— Запісаныя выпадкі, калі дзяўчына сама павязвала хустку й тым як бы прызнавалася ў граху. Такое публічнае прызнаньне павінна было папярэдзіць злачынства яшчэ больш страшнае — аборт альбо дзетазабойства. У павер'ях палешукоў сама прырода рэагуе на такія ўчынкі. Так, пра грыбны дождж казалі, што гэта сьлёзы забітага ва ўлоньні маці дзіцятка, а прычынай моцнага й працяглага граду лічылі забойства дзяўчынай-маці свайго немаўлятка альбо проста нараджэньне такога няшчаснага чалавечка. Беларусы чулі ў крыку савы над домам, дзе жыве дзяўчына, словы: «Схавай, схавай!» — як бы навіну пра нараджэньне й адначасна параду. Закон і соцыюм да маці-дзетазабойцы ставіліся строга. Нярэдкія згадкі й пра публічнае пакараньне такой дзяўчыны. На Палесьсі яе маглі ня толькі высекчы розгамі, але й прывязаць да ганебнага слупа з абрэзаным падолам, пасьля чаго выгнаць зь вёскі. У балядах учынак вайтоўны караецца сьмерцю:

***Да ў нашым Слуцку навіна стала,
Адна панна-вайтоўначка сына радзіла.
Парадзіўшы сыночка, у кітай спавіла,
Спавіўшы ў кітаечку, на Дунай занясла...
...Як узялі вайтоўначку пад белы бокі,
Да й уруцілі вайтоўначку ў Дунай глыбокі.***

У іншых балядах пра дзеўку-дзетазабойцу, якая тапіла сваіх дзяцей нехрышчонымі, апавядаецца пра

сустрэчу яе з Хрыстом. Яна раскайваецца й, даслоўна, праваліваецца празь зямлю.

*— А калі ўсё ж дайшло да вясельля й гэтак званая «нячэсная» дзяўчына ідзе замуж?*

— Увесь сцэнар вясельнай опэры згортваўся, за «вінаватую» прасілі большы пасаг, сарамацілі ня толькі дзяўчыну, але й ейных бацькоў. Самі гэтыя формы публічнага ганьбаваньня прымалі часам дзікія формы:

***Даўней у таком разе часам і бацьку, а больш за ўсяго матцы маладое на шыю клалі хамут і вадзілі па вёсцы за тое, што яна не дагледзела свае дачкі, як Бог вялеў.***

А Бог вялеў, як цьвердзіць народная мудрасьць, берагчы сябе й шанаваць законы, пісаныя й няпісаныя, бо «Дзень гульбы — век журбы».



## СЭКСУАЛЬНЫЯ ПАВОДЗІНЫ Ў СЯРЭДНЯВЕЧЧЫ

*Размова зь Ігарам Марзалюком*

**Сучасныя шлюбныя нормы ды нармальныя, згодна з уяўленьнямі сучаснага чалавека, сямейныя дачыненьні — адзін з вынікаў перамогі хрысьціянскай рэлігіі на беларускіх землях. Распаўсюджваньне хрысьціянства ў эпоху Сярэднявечча, ягоныя спробы татальна кантраляваць духоўнае дый цялеснае жыцьцё чалавека ў наступныя стагодзьдзі істотна зьмянілі погляды на сэксуальнае жыцьцё чалавека й шлюб. Вядома, што ўсходнеславянскае паганскае насельніцтва не разглядала палігамію як зьяву анамальную, дый паняцьця мужчынскай шлюбнай здрады не існавала. Хрысьціянства зьдзейсьніла сапраўдную «сэксуальную рэвалюцыю» — цяпер толькі сэксуальныя стасункі ў манагамным шлюбе лічыліся царквой адзіна законнымі й магчымымі. Неўпарадкаваныя сэксуальныя сувязі, палігамія разглядаліся як адступленьне ад Хрыстовых запаветаў, парушэньне Боскага закону.**

*— Але ці змагло духавенства ўзяць пад поўны кантроль сэксуальнае жыцьцё людзей?*

— Не зважаючы на імкненьне царквы рэглямэнтаваць шлюбнае жыцьцё й сэксуальнасьць чалавека ў адпаведнасьці з нормамі хрысьціянскай маралі, цягам усяго Сярэднявечча палавое жыцьцё так і не было ўзятае пад татальны кантроль духавенства, а сэксуальныя паводзіны шляхты й месьцічаў у XVI—XVIII стагодзьдзях прынцыпова не адрозьніваліся ад сучас-

ных. Тое, што хрысьціянства лічыла й лічыць маральнымі заганамі, было пашыранае і ў старавечнай Беларусі. Прыкладам, дашлюбнае палавое жыцьцё, безумоўна, ганьбавалася царквой.

*— Ці існаваў нейкі кампраміс паміж царквой і чалавекам у гэтым пытаньні?*

— Так, дашлюбнае палавое жыцьцё, калі яно завяршалася шлюбам, разглядалася Францішкам Скарынам як нармальная справа:

***Естли кто прельстить девицу ещё незарученую и спит с нею, да дасть ей вено и поиметь ее собе за жену.***

Пра тое, наколькі далёкім ад царкоўных рэкамэндацыяў было сэксуальнае жыцьцё грамадзтва Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стагодзьдзях, сьведчаць і маштабы палавых захворваньняў у той час. Прыкладам, на пранцы. Цікава, што ў Польшчу ў XVI стагодзьдзі пранцы завезла жанчына, якая вярталася з Рыму, зь пілігрымкі. У хуткім часе з Польшчы гэтая хвароба патрапіла й да нас. Пачалася эпідэмія пранцаў — «нечуваная франца», як казаў гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі. Захворваньне набыло такія памеры ў Княстве, што выклікала занепакоенасьць вялікага князя маскоўскага Івана III, які даручыў пасланаму ім баярыну Мамонаву даведацца, ці ня выбухнула эпідэмія ў Вязьме, а таксама ўдакладніць, ці спынілася яна ў Смаленску й Вільні. У гэтай сувязі прыгадваецца радок з польскамоўнага верша Сымона Полацкага (тады яшчэ студэнта Віленскай акадэміі), напісанага ў XVII стагодзьдзі:

***Kogo zła Wenus Choroba zarazi***<br>
***Z drzewa Hиаси Napoy ją odrazi.***

Паказальна, што Сымон Полацкі, параўноўваючы са старажытнымі цудамі найважнейшыя адкрыцьці





сваёй эпохі, называе сярод іх ня толькі адкрыцьцё Амэрыкі, вынаходніцтва компасу, стрэльбаў, друкарства, гадзіньніка, але й лекі, якія тады лічыліся ў Эўропе панацэяй ад пранцаў.

*— Ад якога часу й наколькі шырока была распаўсюджаная ў старажытнай Беларусі прастытуцыя?*

— Прынамсі, зь вялікай ступеньню ўпэўненасьці можна казаць пра XVI стагодзьдзе. Яно для Беларусі было часам ня толькі вялікіх культурных здабыткаў, але й імклівага падзеньня традыцыйнай маралі ў гарадах. Тады прастытуцыя, якая, натуральна, існавала й раней, заявіла пра сябе на ўвесь голас. Калі ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1529 году пра яе няма згадкі, дык у Статуце 1588 году менавіта гэтаму пытаньню прысьвечаны шэраг адмысловых артыкулаў, якія сьведчаць пра пашыранасьць зьявы на той час. І гаворка ідзе ня проста пра лёгкія паводзіны жанчын, а менавіта пра прастытуцыю, бо Статут 1588 году найперш акцэнтуе ўвагу на прафэсійных зводніках, якія, можна меркаваць, былі звыклым элемэнтам тагачаснага гарадзкога жыцьця. Пакараньні за зводніцтва прадугледжваліся жорсткія, у духу тагачаснай эпохі:

***Прото абы такие люди, будь мужчизна або белая голова, в местех наших не были терпены, которые звыкли для зыску своего спросного намовляти панны або вдовы и мужатки кому гволи для спросности телесное, так иж хотя бы с которое могло быть што доброго в стане малженском, оборочаются за намовами зводниц внивеч, а в спросное а вшетечное помешканье. ...абы таких за оказаньем явным имати казали и карали обрезаньем носа, ушу и губы и з мест выганяли.***

*— Ці мелі плён падобныя забароны?*

— Ня надта вялікі. Не зважаючы на забароны, і зводнікі, і прастытуткі пачуваліся даволі ўпэўнена ў тагачасных беларускіх гарадах. Пра маштабы гэтай зьявы ў Магілёве пры канцы XVI стагодзьдзя сьведчыць наступнае паведамленьне Баркулабаўскага летапісу:

***Року 1590 были козаки запрозкие Матюша с полком, Голый с полком у Могилеве... а кривды, шкоды не чинилы, толко жонок охочих. Тых намовляли и закликали, абы с ними на Низ ишли. И взяли з собою жонок и девок яко двесте поголов.***

*— Дзе адбываліся знаёмствы й абслугоўваньне кліентаў?*

— Улюбёнымі месцамі прастытутак былі гарадзкія корчмы, лазьні, асобныя зь іх прымалі сталых кліентаў дома. Магістраты беларускіх гарадоў рэгулярна ладзілі аблавы на прастытутак і выпраўлялі іх на грамадзкія працы. У 1666 годзе слуцкія прастытуткі самым непасрэдным чынам спрычыніліся да ўмацаваньня абароназдольнасьці гораду. Слуцкі магістрат, «хочучы такіх злых распуст загамаваць», пастанавіў пасылаць іх на прымусовыя працы.

*— Выглядае, што кара за прастытуцыю была ня вельмі ўжо й жорсткая...*

— Не зусім так. У той час шчыра верылі ў тое, што блудніца зьяўляецца прыладаю д'ябла. І таму даволі часта як прафэсіяналкі, гэтак і звычайныя палюбоўніцы станавіліся ахвярамі намоваў ды абвінавачаньняў у чарадзействе з боку сваякоў іхных кліентаў і каханкаў. Вельмі не пашанцавала ў 1588 годзе магілёўскай прастытуцы Марыі Юдзінай, якая па чарзе прымала двух кліентаў у сваёй хаце. Захапленьне хлопцаў гэтай паненкай сваякі трактавалі як факт, што яна іх зачаравала:



беларуская Атлянтыда

***Иван Иевлевич мещанин могилевский а Иван Ходотович, Давид Тарасович, Тимох Тишкович жаловали на мещанку могилевскую Марю Юдинну. Напрод Иван Иевлевич жаловал иж дей брата моего чарами очаровала иж бавечыся при ней рок о ту жадное речи не может яко од часу не малого так шло... ночи прошлое ею у нее в дому з суседми есми его поимал... есмо ходил з ним и з иншими суседми и там же у дому ее знайшили брата его. ...А Давид Тарасович жаловал на тую ж Марю Юдинну иж дей сын мой Михалко не ведати для которое причины ходит у день и в ночи которого тым же способом очаровала чарами своими.***

Падобным чынам берасьцейскай зямянкай Ганнай Цывінскай у 1628 годзе была абвінавачаная адна віленская дама лёгкіх паводзінаў.

***Межы иншыми и малжонка еи милости пани Цывинскои его милости пана Петра Цывинского, в року теперешнем 1628 недавно до Вилна прыехалого, снат через якиес чары и зводницы прылудивши, первеи через колко ночь у себе в каменицы его милости пана Юря Коленды, у Вилни в тыле костела Светого Казимера лежачои, а потом и за другим прыездом в сем же року 1628, месеца марца розными часы и днями в тои же каменицы з его милостю обцовала и всяким способом малженскии стан розлучыт хотечы, на самую еи милость паню Цывинскую розными часы и днями и на розных местцах отповед и похвалку на здорове еи милость учынила и чынит не переставает, обецуючы еи милости з мужом разлучыт и самую через чары, албо иншым способом з сего света згладит, или смерт прыправит.***

Такім чынам, занятак прастытуцыяй мог прывесьці й да пакараньня сьмерцю, бо жанчына, якая зьбіра-

лася прысьвяціць сябе гэтаму занятку, мусіла заўсёды памятаць і пра незайздросную пэрспэктыву быць спаленай на вогнішчы як ведзьма.

*— Дык чаму ж займаліся прастытуцыяй? Грошы перамагалі Бога?*

— Мне бачыцца сынхроннасьць працэсаў на нашых землях з эўрапейскімі працэсамі. Эпоха Рэнэсансу прыносіць новыя каштоўнасьці. Традыцыйная мараль адсоўваецца маральлю, якая ўзьнікае пад уплывам таварна-грашовых адносінаў. Адным з рэцыдываў гандлёва-рамеснай этыкі ва ўсёй Эўропе, і ў нас таксама, было распаўсюджаньне гандлю ўсім, у тым ліку й целам. Цікава, што ў гэты час рэзка павялічваюцца й крадзяжы царкоўнай маёмасьці. Людзі ня толькі прадавалі сваё цела, але й кралі ў Госпада Бога. І хто краў? Сьвятары кралі. Гэта было распаўсюджана па ўсёй краіне. Натуральна, існаваў рух за маральную направу. Тыя ж магістраты клапаціліся ня толькі пра гандаль, але й пра грамадзкую мараль, пра мараль сям'і. XVI стагодзьдзе якраз дэманструе дзьве зьявы. З аднаго боку — прастытуцыя, а з другога — умацаваньне сямейных каштоўнасьцяў. Ёсьць нават дакумэнты-забавязаньні мужа й жонкі «пачціва захоўваць сябе й ня бегаць па месцах непатрэбных».



## ВЕРНАСЬЦЬ І ЗДРАДА Ў СЯМЕЙНЫМ ЖЫЦЬЦІ

*Размова зь Пятром Васючэнкам*

**Фундамэнтальным атрыбутам старога як сьвет пачуцьця — каханьня — ёсьць жарсьць. Але каханьне пасьля таго, як ператворыцца ў шлюб закаханых, набывае іншыя аспэкты. Вернасьць, нявернасьць, рэўнасьць, здрада — экстрэмумы новага працягу жарсьці. «Рэўнасьць — пачвара зь зялёнымі вачыма», — казаў Шэксьпір, але на гэтай пачвары трымаюцца фабулы Шэксьпіравых камэдыяў і трагедыяў. А ці вернасьць і здрада таксама маюць свае беларускія мадэлі? І, напэўна, у разважаньнях пра ланцуг — вернасьць, рэўнасьць, здрада — варта пачаць з горшага, як рабіў вялікі Дантэ, — са здрады й рэўнасьці.**

*— Дык ці зважала народная беларуская традыцыя на нявернасьць у каханьні?*

— У беларускай сям'і пераважала прагматыка: наколькі здрада шкодзіла фізычнаму й духоўнаму здароўю сям'і? Паказальна, што ў беларускім фальклёры бальшыня сюжэтаў, зьвязаных са здрадаю, распавядае пра няверных жонак. Чаму так? Мо таму, што яны ёсьць носьбітамі першароднага граху Евы? Мяркую, што ня толькі. Хутчэй таму, што жанчыны зьяўляюцца асноваю сям'і, і калі здраджвае яна, то гэта шкодзіць сям'і больш.

*— Калі параўнаць зь іншымі народамі — наколькі жорсткай у беларусаў была помста за здраду?*

— Спосабы ўтаймаваньня здрадніц у беларусаў даволі гуманныя. Адзін са старадаўніх — папруга, альбо дзяга. Згадайма п'есу Ўладзіслава Галубка «Піса-

равы імяніны». Там муж, які падсьцярог жончыну здраду, адлупцаваў і жонку, і ейнага каханка папругаю, прымаўляючы: «Жонцы — раз, дзяку — два, ухаўха-ўхаха!». Але паколькі шлюб быў царкоўным, сям'я — патрыярхальнай (галоўная мараль: сям'я — перадусім), даводзілася пасьля, сьцяўшы зубы, мірыцца.

*— Вы падкрэсьлілі царкоўны аспэкт шлюбу. Значыць, муж і жонка мірыліся, а пакараньня чакалі на тым сьвеце?*

— Сапраўды, у народзе меркавалі, што распусьнікі будуць пакараныя на тым сьвеце, і пакутаваць будуць тыя месцы, якімі грашылі пры жыцьці здраднікі й здрадніцы. Гэта добра адлюстраваў Францішак Багушэвіч у вершаваным апавяданьні «Быў у чысцы». Там, прыкладам, грэшнік падвешаны за геніталіі. Пісьменьнік Хведар Еўлашэўскі таксама распавядае пра маладзіцу, якая аддавалася цмоку, ператворанаму ў чалавека. Гэта літаратура. Але й гістарычны досьвед падае прыклады сямейнай здрады альбо няверласьці. Паказальная гісторыя Рагнеды і Ўладзімера, які завёў сабе сотні каханак і гэтым уквяліў Рагнеду.

*— Як дзяржава вызначала адказнасьць за сямейную няверласьць?*

— Дыярыюш Хведара Еўлашэўскага — гэта сапраўды перадусім мастацкі твор. Але й ён гістарычна сьведчыць пра тое, што сямейныя здрады здараліся на кожным кроку. У Статуце Вялікага Княства Літоўскага гэтай праблеме быў прысьвечаны цэлы артыкул, дзе сямейная здрада называецца сакавітым словам «чужалоства». Статут адназначна асуджаў чужалоства як зьяву, варожую сям'і, якая гнявіць Бога, і прадугледжваў пакараньне за яго. Але рэальна пакараць здрадніцу было цяжка. Караліся, дарэчы, здрадлівая жонка й ейны каханак. Пра здраду мужа й пакараньне ягонага чужалоства ў Статуце нічога не было сказана. Трэба было абавязкова засьпець жонку й ейнага каханка на месцы злачынства, пажадана са сьведкамі. Але на гэта ня кожны муж мог пайсьці. Пакараньню папярэднічала даволі складаная бюракратычная працэдура, завяршалася яно сурова — сьмерцю. Такіх пакараньняў было няшмат. І яшчэ невядома, ці дачакаецца здраднік пакараньня з боку дзяржавы.





*— А самі людзі? Якія яны вынайшлі сродкі помсты? Якой жа была помста за здраду?*

— Людзі выпрацавалі фізычныя спосабы пакараньня за здраду. Гэтак Рагнеда, калі ёй здрадзіў Уладзімер, замахнулася на яго зброяй, сказаўшы: «Мала таго, што загубіў бацьку, братоў, дык яшчэ й мяне ня любіш!». Пагрозы, якімі беларускія мужчыны й жанчыны абмеліваліся за здраду, былі досыць суровыя, але найчасьцей завяршаліся нічым. Толькі Лявон Бушмар — літаратурны пэрсанаж Кузьмы Чорнага — забівае, прыбірае сваіх супернікаў. А з сучаснай літаратуры мы можам прыгадаць верш Славаміра Адамовіча, дзе ідзе гаворка пра жорсткае пакараньне здрадніцы:

***Калі ты здрадзіш мне аднойчы,***
***ад гэтай здрады атрымаўшы***
***так многа-многа асалоды;***
***калі ты прыйдзеш, пераспаўшы,***
***калі суцішыш свае воды***
***з тым, іншым, мне зусім ня братам,***
***з тым чорным, белым, жоўтым фатам;***
***калі ты прыйдзеш ці ня прыйдзеш;***
***калі, ўнікаючы сустрэчаў,***
***ты начавацьмеш у сяброўак,***
***альбо ў сяброў, або ў прылеску,***
***альбо ў пясках зімнога мора, —***
***я не павешуся ад гора,***
***як, зрэшты, і не расьсьмяюся,***
***я не пайду і не ўтаплюся, —***
***я ўспомню, дзе ляжаць набоі.***

Мне ўсё ж падаецца, што беларусы не дапускалі жорсткай помсты за здраду, пагрозы насілі хутчэй прэвэнтыўны характар дзеля захаваньня міру.

*— Вы хочаце сказаць, што здрада ў беларускай сям'і пэўным чынам ураўнаважвалася сямейнай вернасьцю?*

— У беларускай гісторыі, фальклёры, літаратуры ёсьць шмат прыкладаў кранальнай сямейнай вернасьці. Вось сям'я Дуніна-Марцінкевіча. Гісторыя ягонага каханьня была рамантычная. Ён пайшоў насуперак волі бацькі сваёй каханай Юзэфы Бараноўскай, ажаніўшыся зь ёю безь ягонай згоды. Сям'я вяла патрыярхальны лад жыцьця ў вёсцы Люцынка, і плёнам гэтага шчасьлівага шлюбу было нараджэньне чатырох дачок і сына. Дзеці шмат у чым захавалі характар і здольнасьці бацькі. Але такія ідыліі ў рэальным жыцьці сустракаліся радзей, чым складаныя спосабы існаваньня сем'яў. Прыкладам, сям'я Сыракомляў. Працаглы час гэты шляхціц вёў ідылічны лад жыцьця ў вёсцы разам са сваёю жонкаю, якая пайшла за яго ў досыць юным веку. Але пад старасьць у ім закіпела жарсьць да акторкі, жонкі вядомага беларусазнаўцы, гісторыка Адама Кіркора, што прывяло да заўчаснай сьмерці Ўладзіслава Сыракомлі.

*— А хто болей выяўляў самаахвярнасьць у сямейным жыцьці — мужчына ці жанчына?*

— Мы можам знайсьці прыклады мужчынскай ахвярнасьці ў рамантычнай аповесьці Васіля Быкава «Альпійская баляда». Беларус Іван Цярэшка ахвярує жыцьцём дзеля ўратаваньня італьянкі Джуліі. Але прыкладаў жаночай самаахвярнасьці значна больш. Прыгадайма лёс Францішкі Радзівіл. Яна стаічна пераносіла здрады мужа й несла свой цяжкі крыж у шлюбе. Ёй было вельмі ня проста. Біёграфы нават падлічвалі колькасьць выкідышаў, што здарыліся на





жыцьцёвым шляху гэтай жанчыны. Гісторыя захавала й іншы, кранальны, нават сьлязьлівы, паэтычны прыклад жаночай самаахвярнасьці. Гэта гісторыя Юліяны Вітан-Дубейкаўскай, якая кахала сьмяротна хворага Івана Луцкевіча. Ён памёр у яе на руках.

*— Вы падкрэсьліваеце самаахвярнасьць у каханьні й сямейным жыцьці жанчын. Натуральна, мужчыны гэта цанілі. Але чаму беларускія пісьменьнікі так мала прысьвяцілі сваіх твораў жанчынам?*

— Нагадаю, што Беларусь заўсёды лічылася краінай жаночай нацыі, і прыярытэт у пасіянарнасьці заўсёды належаў жанчынам. Я ведаю толькі адзін яркі прыклад, калі пісьменьнік прысьвяціў свой твор жонцы. Гэта раман Уладзімера Караткевіча «Чорны замак Альшанскі», у эпіграфе да якога прысьвячэньне «В. К.», жонцы Валянціне. Але гэта было выкананьнем абяцаньня, якога жонка чакала ажно дзесяць гадоў. Беларускія пісьменьнікі часьцей прысьвячалі свае творы сябрам, як Максім Багдановіч — Сяргею Палуяну, бацькам, іншым асобам.

*— Ці часта станавіліся сямейныя радасьці тэмай твораў беларускіх пісьменьнікаў?*

— Такіх твораў шмат. Ад «Пана Тадэвуша» Міцкевіча да «Новай зямлі» Коласа й аж да твораў Шамякіна. Але характэрна наступнае: аўтары апісваюць ня столькі ідылію сямейнага жыцьця, колькі разлом. Сямейная вернасьць і здрада ў беларусаў знаходзяцца ў стане хісткае раўнавагі. Трэба народную псыхалёгію настройваць на стварэньне шчасьлівай, заможнай, камфортнай сям'і, ствараць яе культ, перадусім у літаратурных творах, альбо экранізоўваць тыя, у якіх гэты культ ужо створаны, альбо ствараць сэрыялы, пра шчасьлівае жыцьцё беларускай сям'і ў замку, сядзібе альбо ў сучаснай гарадзкой кватэры.

## КАХАНЬНЕ Ў АХВЯРУ ПАЛІТЫЧНАЙ АВАНТУРЫ

*Размова з Вольгай Іпатавай*

**У жыцьцяпісе Казімера IV — польскага караля й вялікага князя літоўскага, сына Ягайлы й Соф'і Гальшанскай — ёсьць адзін кароткі сказ аб тым, што ён пакараў сьмерцю Івана Гальшанскага й Міхала Слуцкага — змоўшчыкаў, якія імкнуліся аддзяліць частку Вялікага Княства й далучыць яе да Масковіі. Згадваецца й імя трэцяга — Хведара Бельскага, але нічога не гаворыцца пра тое, што той уцёк і гэтак унікнуў кары. А між тым, пакараньне, якое выпала на долю ўцекача Хведара Бельскага, было доўгім і пакутлівым. Можа, таму, што ён ня проста згадзіўся на палітычную авантуру — паўстаць супраць караля й вялікага князя, але й выкарыстаў дзеля яе сваё каханьне, сваё вясельле...**

*— Хто ж яна — нявеста гэтага змоўшчыка Хведара Бельскага, шчасьцем якой, як і шчасьцем сваім, ён ахвяраваў?*

— Нявестай князя была Ганна, сястра ягонага сябра Івана Гальшанскага, князя невялічкага Кобрынскага княства, якое займала сёньняшнія Кобрынскі й Пружанскі раёны й цалкам падпарадкоўвалася вялікаму князю.

*— Чым выкліканая была гэтая палітычная авантура — аддзяленьне часткі Вялікага Княства Літоўскага й далучэньне яго да Масковіі?*

— Ганна й Іван расьлі ў асяродзьдзі магнатаў, улада якіх паступова зьмяншалася. Суправаджала гэтае зьмяншэньне й рэлігійная няроўнасьць: ужо Ягайла, ажаніўшыся з каралевай Ядвігай, з праваслаўнага Якава стаў каталіком Уладыславам, і сыны ягоныя былі адразу ж пахрышчаныя ў каталіцтва. Праваслаўныя ў Княстве адразу сталі як бы другаснымі, і, зразумела, гэта выклікала супраціў. Да таго ж, бацька Ганны й Івана быў у апазыцыі, як мы сказалі б цяпер, да вялікакняскай улады, бо ён падтрымліваў паўстаньне Сьвідрыгайлы супраць Жыгімонта Кейстутавіча й імкнуўся да поўнага аддзяленьня Вялікага Княства ад Польшчы. Памёр ён рана, амаль адразу ж пасьля нараджэньня Ганны, але дух вальналюбства й супраціву лунаў у асяродку князёў Кобрынскіх і іхнага атачэньня. Быў сярод іх Іван Гальшанскі — з роду, які даў краіне каралеву Соф'ю. Яна памерла дваццаць гадоў таму, але ж ейная кроў цякла ў жылах сына, які, аднак, не наблізіў род Гальшанскіх да трону, бо каля яго стаялі іншыя, кракаўскія вяльможы. Сярод незадаволеных быў і малады князь Хведар Бельскі. Яму й прызначыў сваю сястру ў жонкі спадкаемца Кобрынскага княства.

*— Які плян прыдумалі змоўшчыкі, якое месца ў ім займала вясельле Ганны Гальшанскай і Хведара Бельскага?*

— Змоўшчыкі надумалі, што дзеля таго, каб фізычна зьнішчыць вялікага князя й, карыстаючыся мітусьнёй, узьняць паўстаньне, трэба запрасіць валадара Княства на вясельле, якое павінна было адбыцца неўзабаве, у 1481 годзе. Дзе ж яшчэ яны могуць засьпець яго зьнянацку? Ня ехаць жа дзеля гэтага ў Кракаў! Можна было б адважыцца на забойства ў Вільні, дзе вялікі князь зьяўляўся ня менш як два разы на год, але й там пляны іхныя маглі сарвацца куды з большай верагоднасьцю, чым у Кобрыне... І вось Казімер павінен быў зьявіцца ў Кобрынь. Дзьве радавітыя сям'і Княства запрашалі яго туды, а Казімер адчуваў сваю непарыўную сувязь зь Вялікім Княст-

вам куды болей, чым з Каронай. Нездарма ягоныя дзеяньні выклікалі незадавальненьне палякаў і прынесьлі яму папулярнасьць у Літве — Беларусі.

— *Якая роля адводзілася Ганьне?*

— Ганна нічога ня ведала пра іхныя пляны. Не магла яна нават уявіць, што дзень ейнага вясельля можа стаць страшным і крывавым днём.

— *Дык чаму авантура не ўдалася?*

— Казімер не прыехаў на вясельле. Больш за тое — раніцай, пасьля шлюбнай ночы, малады даведаўся, што змова іхная выкрыта, каралю вядомыя нават імёны змоўшчыкаў. Казімер быў разьюшаны, і нянавісьць да змоўшчыкаў, да тых, хто хацеў яго ашукаць і завабіць у ганебную сетку змовы, засталася ў яго на ўсё жыцьцё. Сваю нянавісьць ён перадаў і сынам. Тады, пасьля адзінай шлюбнай ночы, Хведар Бельскі цудам уратаваўся. Ён, пакінуўшы маладую жонку, уцякаў праз усю краіну, а пагоня імчала за ім. Яна ўрэшце дагнала Івана Гальшанскага й Міхала Слуцкага, і тым, не зважаючы на іхную радавітасьць і сваяцтва з каралём, паводле выраку суду, сьцялі галовы.

— *А Хведар Бельскі ўсё ж дабраўся да Масквы й там знайшоў прытулак?*

— Так, у Маскве яго літасьціва прыняў Іван III. Той самы Іван, які ўважліва сачыў за ўсім, што робіцца ў Вялікім Княстве Літоўскім і які абвясьціў, што менавіта ён зьяўляецца «государем Всея Руси», а значыць, спадкаемцам земляў, што некалі называліся «рускімі». Хведару Бельскаму выдзелілі гарады Дземен і Мораў, ён быў набліжаны да трону. Здавалася б, можна радавацца: уцёк ад сьмерці, стаў уладальнікам гарадоў, атрымаў поўную свабоду ў сваёй веры й нават хадзіў, як вой, разам з Іванам III на Цьвер, якая хілілася да Вялікага Княства, ваяваў з





былымі сваімі саюзьнікамі. Аднак, ён ужо празь пяць гадоў спрабаваў уцячы з Масквы, цяпер ужо назад, на радзіму, бо там яго ўсе гэтыя гады чакала жонка, якая стала закладніцай ягонай авантуры й якую з Княства не выпускалі, ды яна й не хацела ехаць у Маскву.

— *Як рэагаваў на спробы ўцёкаў цар?*

— За спробу вярнуцца ў ВКЛ маскоўскі цар саслаў Хведара Бельскага ў Галіч. Дыпляматы ўвесь час спрабавалі вырваць у Казімера дазвол на выезд Ганны, на што той нязьменна адказваў, зьвяртаючыся да Хведара: «Прыяжджай і забірай!». Але як прыехаць, калі не адпускае й маскоўскі цар, які вярнуў сваю прыязнасьць і дараваў няўдалыя ўцёкі. Не хацеў ён прасіць літасьці і ў Казімера. Ён разумеў, што інкогніта прыехаць і забраць жонку наўрад ці ўдасца.

— *І колькі цягнулася гэтае расстаньне? Ці верныя былі пабраныя шлюбам адзін аднаму?*

— Сямнаццаць гадоў доўжылася гэтае расстаньне. Ганна ў Кобрыне таксама чакала, пакуль нешта зьменіцца й муж зможа вярнуцца на радзіму. Памёр ейны брат, яна стала адзінай уладальніцай родавых земляў, але не прымала ніякіх прапановаў на новы шлюб. Не саступаў і Хведар Бельскі. Магчыма, ён толькі цяпер зразумеў, што самавольна распарадзіўся чужым жыцьцём і паставіў прыўкрасную маладую жанчыну ў становішча, якога яна не выбірала, бо выбіраў толькі ён сам і ягоныя сябры. Выбіралі й выбралі за яе.

— *Але жыцьцё ўсё ж бярэ сваё... Хто першы здаўся?*

— Натуральна, мужчына. У цара падрасла пляменьніца, якая магла прывязаць уцекача да ягонай новай радзімы. Але для таго, каб уступіць у новы

шлюб, трэба было прызнаць вянчаньне несапраўдным. Ды для цара няма перашкодаў, і дазвол на новы шлюб быў атрыманы. У 1498 годзе Хведар Бельскі павянчаўся з князёўнай Разанскай, і ў іх адзін за адным нарадзіліся ажно трое сыноў. І ён стаў аддана служыць ёй: быў начальнікам вялікага коннага палка, стаў ваяводам, хадзіў на Казань, выступіў у 1502 годзе супраць Вялікага Княства, дзе вялікім князем быў ужо малады Аляксандар.

— *А Ганна?*

— Ганна выйшла замуж толькі праз чатыры гады пасьля жаніцьбы свайго былога мужа, якога яна кахала ўсе гэтыя гады й за жыцьцём якога ўважліва сачыла, усё яшчэ маючы надзею на зьмены. Ейным мужам стаў маршалак ВКЛ Вацлаў Касьцевіч. Ганьне было ўжо сорак два гады.

— *Як завяршыліся гэтыя жыцьці?*

— Вестка пра сьмерць Хведара Бельскага засьпела яе зьнянацку. Яму было каля 45 гадоў. Але паход на Казань у 1506 годзе стаў для яго апошнім. Што ж, яго напаткала лепшая сьмерць, чым ягоных колішніх сяброў. Яны загінулі на эшафоце, а ён — у бітве. Хаця бітва гэтая была за чужыя інтарэсы, за чужую зямлю. Ганна перажыла свайго сапраўднага, венчанага мужа на трынаццаць гадоў.

— *Якую цану заплаціла старадаўняя Беларусь за гэтую авантуру?*

— Пасьля сьмерці Ганны княства канчаткова страціла нават сваю ўяўную самастойнасьць. А яшчэ раней краіна страціла храбрага воіна, які стаў эмігрантам — адным з тысяч і тысяч уцекачоў з роднай зямлі.





## ПТУШКІ «ЧЫСТЫЯ» Й «НЯЧЫСТЫЯ»

*Размова зь Ліяй Салавей*

**Яшчэ з таго далёкага часу, калі людзей на Зямлі было мала, а іншых жывых істотаў было шмат і жылі яны побач, чалавек асабліва пільна назіраў, углядаўся ў птушак, якімі захапляўся й якім зайздросьціў: тыя вольна ляталі ў небе над зямлёю й воднымі прасторамі, насялялі недаступныя чалавеку месцы — далёкія выспы, крутыя горы, топкія балоты. Крылы давалі птушкам хуткасьць і свабоду перамяшчэньня. Нездарма ў народнай мове параўнаньне — вольны, як птах. Гэта сьвет мрояў.**

*— А як складваліся ўзаемаадносіны чалавека з птушыным сьветам у штодзённым жыцьці?*

— Птушкі давалі старажытнаму чалавеку спажыўную ежу — яйкі. Дый самі былі аб'ектам паляваньня — прычым, часам літаральна ратавалі людзей ад галоднай сьмерці, як пра гэта паведамляецца ў Бібліі. Нагадаем, калі габрэі пасьля ўцёку з Эгіпту блукалі па пустэльні й нічым не маглі пажывіцца, то згаладалыя, яны ў адчаі былі гатовыя да бунту й братазабойства. Тады Гасподзь паслаў ім чараду перапёлак, якія, змораныя пералётам, упалі на зямлю — бяры іх голымі рукамі. Людзі насмажылі птушыны, падмацаваліся, жыцьцё вярнулася ў мірную каляіну. Наагул, людзі так заўзята палявалі на птушак, што асобныя віды былі цалкам вынішчаныя.

*— Як адбілася судакрананьне чалавека са сьветам птушак у традыцыйнай культуры, у пакінутай продкамі духоўнай спадчыне?*

— У духоўнай культуры індаэўрапейцаў сьвет птушак знайшоў багатае й разнастайнае міталягічнае адлюстраваньне, магічнае выкарыстаньне, асэнсаваньне ў экалягічным, эстэтычным і сымбалічным аспэктах. Асаблівасьці біялёгіі многіх птушак, іхны выгляд ды галасы знаходзілі тлумачэньне ў этыялягічных паданьнях-мітах, у адпаведнасьці зь якімі выпрацоўваўся й падзел птушак на «чыстых», «нячыстых» і «так сабе» — тых, якіх шанавалі, баяліся й да якіх ставіліся абыякава. Птушак, паходжаньне якіх вялося ў народных паданьнях ад людзей ці нават анёлаў (прыкладам, бусла), шанавалі й ахоўвалі, а то й сялілі побач са сваім жытлом. Асабліва паважалі беларусы белага бусла, якому будавалі аснову для гнязда — бусьлянкі. Яго лічылі ахоўнікам жытла ад Перуна, узорам суладнага сямейнага жыцьця, вешчуном вясны. Паводле колераў апярэньня — белы з дадаткам чырвонага й чорнага, бусел зьяўляецца жывым носьбітам нацыянальнай сымболікі колераў. Вось адна зь легендаў пра паходжаньне бусла:

***От раз Бог падазваў к сабе чалавека й даў яму завязаны гаршчочак, у якім было сабрана ўсё плюгаўства — гадзюкі, жабы, мышы. «На, — кажа, — занясі гэты гаршчочак і ўкінь у мора; толькі, глядзі, не разьвязвай». Прыйшоў чалавек да гасподы й пачаў зьбірацца ў дарогу: узлажыў чыстую белую сарочку, абуў новыя лапці й апрануў чорную сьвіту.***
***— Куды ты зьбіраесься? — пытае жонка.***
***— А ось, — кажа, — пасылае Бог занесьці гэты гаршчочак і ўкінуць у мора.***
***— А што у ім такое?***
***— Ня ведаю.***
***— Давай пагглядзім.***
***— Бог вялеў не разьвязваць, — кажа чалавек.***
***Жонка паклала чалавека спаць, а калі той заснуў, разьвязала сама. А адтуль і выскачылі ўсялякія***

***гадзюкі, яшчаркі й жабы. Спалохалася баба, нарабіла крыку. Прахапіўся чалавек да так босы, у белай сарочцы, толькі накінуўшы на плечы чорную сьвіту, давай зьбіраць тую нечысь. Зьбіраў, зьбіраў — нічога ня зробіць. А ось прыходзіць Бог і кажа тым людзям: вы выпусьцілі гадаў, вы й зьбірайце іх. І абярнуў Бог тых людзей у буськоў. От адкуль узяліся буслы.***

Нашы продкі амаль абагаўлялі буслоў, бо лічылі іх мудрымі, назіраючы, прыкладам, за паводзінамі бусьлінага выраю. Зь Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, Усходняй Нямеччыны яны ляцяць наўпрост на поўдзень (іх зьбіраецца разам да 200 тысяч асобінаў), вузкафрантальнай чарадою пралятаюць над Басфорам, над захадам Малой Азіі, перасякаюць Суэцкую затоку, трапляюць у Эгіпет, нібы злучаючы сваім візытам старажытныя цэнтры міжземнаморскай цывілізацыі. Уздоўж даліны Нілу вандруюць па Афрыцы. А потым, дакладна ў тэрмін, да веснавога раўнадзенства, вяртаюцца дадому, на свае родныя бусьлянкі. Робяць гэта параю, якой аднойчы злучыліся на ўсё жыцьцё.

*— Буслы праводзяць палову свайго жыцьця ў цёплых краях, а палову ў Беларусі. Вы ж сказалі, што для іх родныя беларускія бусьлянкі. Чаму?*

— Бо яны плодзяцца, гадуюць сваіх птушанят толькі ў Беларусі і ў суседніх краінах. А ў Афрыку ляцяць на зіму. Таму радзімай можна сьмела лічыць беларускія абшары.

*— Чаму нараджэньне дзяцей фальклёр зьвязвае з буслом?*

— Буслы сяліліся побач з хатамі. Дзеці, якія ўвесь час назіралі за гэтымі птушкамі, бачылі, што буслы заўсёды нешта нясуць у сваё гняздо — ці то шчэпку якую,





галінку, ці то вужа, жабу. Натуральна, дзеці лёгка могуць паверыць у тлумачэньне, што іхнага брацiка ці сястрычку прынёс бусел.

*— Чаму так шмат у беларускай міталёгіі сюжэтаў пра яшчэ адну характэрную для Беларусі птушку — зязюлю?*

— Шматлікасьць міталягічных аповедаў пра паходжаньне зязюлі выклікана незвычайнасьцю, нават таямнічасьцю птушкі, якая ня робіць гнязда, не гадуе птушанятаў, а падкідвае яйкі ў чужыя гнёзды. Гэта будзіла фантазію людзей. Склалася ўяўленьне, што гэтая птушка — вечная ўдава, ня мае сабе пары, спарваецца то зь ястрабам, то зь пеўнем, нават з вужом. Ва ўсіх варыянтах паданьняў гаворыцца, што зязюля некалі была жанчынай, што гэта — перавернутая жанчына.

***Быў брат бедны й сястра дужа багатая. Пайшоў брат да сястры, каб чым памагла, памілавала. А сястра скупая была, сказала, што ключы ад клеці згубіла. І стала яна нібы шукаць ключы, а брат стаяў, стаяў пад акном, чакаў, чакаў і нарэшце ня вытрымаў і пайшоў. На дарозе паваліўся, памёр з голаду. Сястра адумалася, стала клікаць брата: «Якуб, Якуб, вярніся, ключы знайшліся!» За сваю скупасьць яна стала зязюляй і цяпер увесь час кліча: «Якуб, Якуб!». Толькі чуваць: «Ку-ку! Ку-ку!».***

*— Кукуе самец ці самка?*

— Кукуе самец, а зязюля-самка толькі адказвае яму глухім квохканьнем. Здаецца, што нехта галосіць, плача.

*— З птушкамі ў нашых продкаў зьвязваліся многія павер'і, варожбы, прадказаньні надвор'я і ўрадлівасьці, некаторыя магічныя дзеяньні й тлума-*

*чэньні сноў. Чаму нашы продкі надзялялі птушак звышнатуральнымі якасьцямі?*

— Сапраўды, людзі заўважалі, што птушкі вельмі дакладна рэагуюць на зьмены ў атмасфэры, па іхных паводзінах можна прадказваць надвор'е на найбліжэйшы час. Птушкі — выдатныя навігатары: галубоў выкарыстоўвалі як жывых паштароў, птушкі былі вестунамі для мараходаў. Да рэальных асаблівасьцяў птушак дадавалася шмат фантастычнага, чарадзейнага, што зразумела пры панаваньні міталягічнай сьвядомасьці.

*— Чым пагражала аднясеньне птушак да той ці іншай групы, да «чыстых» ці «нячыстых»? Як гэта адбівалася на лёсе пэўнага віду?*

— Міталягічнае абгрунтаваньне стаўленьня да пэўных птушак вельмі ўплывала на іхныя жыцьцё, бясьпеку. Добрыя, ці «чыстыя» птушкі — галубы, ластаўкі, жаўранкі, буслы, жоравы, салаўі — былі пад аховаю паданьняў, іх нельга было забіваць, трывожыць, разбураць іхныя гнёзды. Нядобрыя ж птушкі — вароны, чорныя буслы, каршуны, сарокі, совы, сычы, вераб'і, удоды, а разам зь імі й карысныя кажаны — ніякай аховы ня мелі, да іх часам ставіліся вельмі жорстка. «Нячыстым» птушкам прыпісваліся грахі, якіх яны ня мелі, прыкладам, што яны прыносяць дрэнныя навіны. Пра амаль поўнае зьнікненьне лебедзяў — прыгожых і даверлівых птушак, сымбаляў чысьціні, адданасьці — існуе міт, які тлумачыць трагедыю гордай птушкі зьбегам акалічнасьцяў, а не паляваньнем на яе чалавека.

***Бог ведаець, калі гэта было: строіў сабе Яной кальчэг, — як затопу Бог насылаў. І прыказаў Яной сабраць у кальчэг усіх зьвяроў, усіх пціц, усякую скаціну. Ну й сабраліся, а лебедзь адзін — Страцім зваўся па іменьню: «Я, — кажэць, — не пайду ў кальчэг, я спраўлюся з вадой, усю ваду абплыву». Багатыр сільны быў. І паплыў. І плаваець. Стала затопа. Некуды астатнім птушкам падзецца. А Страцім плаваець сабе. Вот тыя птушкіляталі,ляталі да к яму, ды на яго панасядалі. Дык покуль садзіліся на сьпіну, дык нічога, а то й на дзюбку сталі садзіцца. Ну, як панасядалі на дзюбку, ён носам у ваду — і затапіўся. З тых пор і пераведуся.***

*— І сёньня людзі вераць у шматлікія прыкметы, зьвязаныя з птушкамі: што зязюля кукуе на грошы, ластаўкі лятаюць нізка — пойдзе дождж. Дзеці вераць, што буслы прыносяць дзяцей. І ў гэтым нібыта й сэнс ёсьць: зьнікаюць буслы — пакідае нараджальнасьць... Дык ці зьмяніліся прынцыпова ўяўленьні сучаснага чалавека пра птушак?*

— І так, і не. Традыцыйная культура захоўвае ранейшыя нормы стаўленьня да птушак. А сучасныя ўрбанізаваныя людзі традыцыйных каштоўнасьцяў не заўважаюць. Стаўленьне да птушак цяпер фармуецца патрэбай экалягічнай раўнавагі, захаваньня прыроды. Пераважае рацыянальны пачатак. Так, мэліярацыя выклікала й зьмены ўмоваў, у якіх жывуць птушкі. А таму некаторыя віды зьнікаюць. У гарадах мы ня бачым ластавак. Зьмяніліся і ўмовы пражываньня вераб'ёў, якія былі вельмі прыстасаваныя да саламяных стрэхаў, да хлявоў, дзе яны знаходзілі сабе корм. Таму чалавек сёньня павінен прыкладаць як мага болей намаганьняў, каб у новых умовах усё ж захаваць тыя добрыя пачаткі, якія нашы продкі ў адносінах да жывой прыроды, у тым ліку й да птушак, заклалі раней.

# КОНЬ — СЫМБАЛЬ ДАБРАБЫТУ Й ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

*Размова з Алегам Трусавым*

**У Эўропе й Азіі конь як дзікая жывёла існаваў зь незапамятнага часу. А прыручылі каня прыкладна шэсьць-восем тысяч гадоў таму. Першым конным народам былі хеты ў Малой Азіі. А на тэрыторыі Беларусі каня асвоілі ў раньнім жалезным веку, дзесьці ў канцы першага тысячагодзьдзя да нашай эры. Адразу й жыцьцё палепшылася, бо ён прынёс палёгку ў сельскагаспадарчыя працы. Беларусы шанавалі каня — свайго кармільца. Пра яго складалі вершы, сьпявалі песьні. Конь стаў сымбалем дабрабыту.**

*— Але чаму бальшавікі, калі распачалі сваю знакамітую калектывізацыю, ажно некалькі дзесяцігодзьдзяў забаранялі селяніну мець каня?*

— Таму што, калі селянін заставаўся ўладальнікам каня, ён не ўступаў у калгас. Маючы каня, ён мог пракарміць сябе й сваю сям'ю. Калі ж у селяніна забіралі каня, ён аўтаматычна станавіўся жабраком, а каб не памерці з голаду, плёўся ў калгас.

*— У народзе аж да сёньня могуць пра жанчыну абразьліва сказаць: «Карова ты». А пра мужчыну: «Ух ты, конь!» Конь — сымбаль мужчынскасьці?*

— Так. І перадусім — мужчынскай сілы, бо могуць яшчэ й дадаць, што ён ня проста конь, а конь з ... Конь — сымбаль мужчынскай моцы, дабрабыту, мужнасьці. Колісь і вясковыя дзяўчаты не сьпяшаліся браць шлюб з хлопцам, калі ў ягонай сям'і не было каня. Заможнасьць сялянскай сям'і вымяралася колькасьцю коней. Сяляне каня звычайна трымалі разам





з каровай у адным будынку, хляве, але конь меў сваё ганаровае месца. Спачатку давалі сена й ваду каню, а потым карове. Да каня ставіліся амаль як да чалавека. І калі конь паміраў, гаспадар плакаў. Дарэчы, беларусы, як правіла, не ўжывалі ў ежу каніну: як гэта — есьці сябра.

*— З аднаго боку, каня любілі, мо нават песьцілі, а з другога — надзелі яму на шыю хамут?*

— Наагул, конская рэвалюцыя ў Эўропе зьвязаная з вынаходніцтвам хамута, бо да яго была гэтак званая шлейная збруя. Без хамута конь ня мог цягнуць вялікіх грузаў, ён стамляўся. Першымі хамут прыдумалі ў VIII—IX стагодзьдзі скандынавы, а ўжо ў XVIII стагодзьдзі хамут зьявіўся ў Беларусі, зрэшты, разам з падковай. Конская збруя была прадметам гордасьці — бо калі збруя кепская, дык і гаспадар не гаспадар. І таму яе ўпрыгожвалі, рабілі з самай лепшай скуры, абавязкова зь лямцам, каб каню шыі не нацерці. Як і чалавек вопратку, так і конь меў збрую рабочую й сьвяточную ці выязную. Калі вясельле, фэст, дык абавязкова былі такія элемэнты, як бомы, званочкі, на дугу навязвалі стужкі. Калі гаспадар паміраў, яго везьлі на могілкі коні ў прыгожай збруі. Выязная збруя заўжды аздаблялася бронзай, медзьдзю, багатыя людзі маглі нават срэбра ўжываць. Рабочая збруя падзяляецца на летнюю й зімовую, таму што конь выкарыстоўваецца круглы год.

*— Якім часам можна датаваць пачаткі традыцыі ўласна беларускай конскай збруі?*

— XI—XII стагодзьдзямі. Да XII стагодзьдзя ўсе элемэнты конскай збруі ўжо існавалі. Былі цуглі, якія ўсоўвалі каню ў рот, каб ім кіраваць. Былі лейцы, пуга. У гэты ж час зьяўляюцца й «калёсы» — асноўны від транспарту гарадзкога й вясковага жыхара. Дарэчы, у Горадні археолягі знайшлі амаль цэлыя «калёсы»

XII—XIII стагодзьдзяў з усімі прыладамі. Гэта ўнікальная знаходка. І «калёсы», і брычкі, і лінейкі па ўсёй Эўропе былі падобныя, толькі кожны народ прыстасоўваў іх для сябе. Дарэчы, у Беларусі конь яшчэ й перавозіў пошту. Вядомую песьню «Когда я на почте служил ямщиком» напісаў Уладзіслаў Сыракомля на польскай мове ў Беларусі, а ўжо потым яе пераклалі на расейскую. Зімою конскі шлях быў адзіна магчымым, а сані — адзіным транспартам. На адных санях вазілі дровы, на другіх вывозілі гной на палеткі, а на трэціх везьлі на вясельле дзяўчыну.

*— Ці былі ў Беларусі карэты?*

— Яны былі пашыраныя ў XVI—XVIII стагодзьдзях. Асабліва вялікімі аматарамі карэтаў былі Сапегі, Радзівілы. Дзеля іхнага вырабу запрашалі найлепшых майстроў з замежжа, а таксама карэты куплялі ў Францыі.

*— Як зьмянілася стаўленьне да каня ў XX стагодзьдзі?*

— За савецкім часам было некалькі этапаў гэтага стаўленьня. Калі ў БССР аддалі зямлю сялянам, тады кожны беларускі селянін прыдбаў сабе каня, і гадоўля коней квітнела. У Заходняй Беларусі так працягвалася аж да 1939 году. А як пачалі ствараць калгасы, дык у сялянаў забралі коней. І калі прыватных коней сабралі разам, яны пачалі хварэць, марнець. Конь наагул такая жывёла, якая патрабуе індывідуальнага догляду. Ён прывыкае да гаспадара, піць і есьці ня будзе ў чужога чалавека, можа нават памерці. У Другую ўсясьветную вайну конь выратаваў беларуса. Як нямецкае, гэтак і савецкае войска старых ці хворых коней выбракоўвала й кідала. Сяляне іх падбіралі, вылечвалі. І дзякуючы гэтым вайсковым коням конная гаспадарка ў Беларусі адрадзілася. Акрамя калгасных, за савецкім часам яшчэ гадавалі коней на





экспарт, гэтак званых «вагавікоў», якія маглі падняць да тоны вагі. На конным заводзе ля Мсьціслава гадавалі такіх і адпраўлялі на найлепшыя выставы Эўропы. Разводзілі беларусы й спартовых коней. Цяпер калгасных коней становіцца ўсё меней, а ў вёсках многія людзі маюць уласнага каня. Колькасьць прыватных коней у Беларусі расьце штодня.

*— Чаму на Пагоні, нацыянальным гербе Беларусі — выява каня?*

— Бо конь дапамагаў беларусам пяцьсот гадоў захоўваць сваю незалежнасьць. Беларускае войска з XIII па XVIII стагодзьдзе на восемдзесят адсоткаў было кавалерыяй.

*— Зь якога часу конь становіцца абаронцам беларусаў?*

— Зь вельмі далёкага часу, калі яшчэ беларусаў не было, бо першыя знаходкі (шпоры), якія сьведчаць пра наяўнасьць вершнікаў-ваяроў на нашай тэрыторыі, адносяцца да I стагодзьдзя нашай эры. Баявы конь трапіў у Беларусь, хутчэй за ўсё, разам са скіфамі. І калі славяне прыйшлі на гэтыя тэрыторыі, дык баявыя коні тут ужо былі. Пра гэта сьведчаць і знаходкі ў балцкіх курганах. Усходнія балты хавалі сваіх нябожчыкаў-ваяроў разам з конямі.

*— У гісторыі Беларусі сустракаецца паняцьце «конная шляхта» — хто яна?*

— З XIII па XVIII стагодзьдзі шляхта Вялікага Княства Літоўскага мусіла ісьці на вайну з канём. Існавалі тры тыпы коннай шляхты: самыя багатыя магнаты выстаўлялі пэўную колькасьць дробных шляхцюкоў на конях, узброеных сваім коштам. Сярэдняя шляхта выстаўляла меншую колькасьць коньнікаў, а дробная — служыла, як казалі, «сваёй галавой», ішла ваяваць на ўласным кані. Ён быў адзіны, але добра даг-

леджаны. Тыя людзі, якіх можна сёньняшняй мовай назваць ваеннаабавязанымі, мусілі мець свайго каня. Вось жа конныя мяшчане — гэта былі нашчадкі конных баяраў, што перасяліліся ў гарады. Асабліва вылучаліся слуцкія конныя мяшчане й віцебскія. Яны рабілі конныя вылазкі, калі трэба было адбіць напад ці ноччу напасьці на ворага. Коней трымалі ў горадзе, і на гэтых конях, калі ноччу адкрывалі браму, раптоўна выскоквала войска, як у «Дзікім паляваньні караля Стаха» Ўладзімера Караткевіча, і граміла ворага тады, калі ён не чакаў.

— *Калі мы гаворым пра сучаснае войска, дык пералічваем колькасьць жаўнераў, колькасьць танкаў, ракетаў... Ці лічылі ў мінулым коней баявымі адзінкамі?*

— «Конь» і быў баявой адзінкай беларускага войска, як цяпер узвод. «Конь» складаўся з самаго ўзброенага вершніка, збраяносца й слугаў. Разам гэта было да дзесяці чалавек і называлася адным словам — «конь». На Захадзе гэта было так званае рыцарскае кап'ё, альбо рыцарская дзіда. Да таго ж «конь» быў падатковай адзінкай: гэта — колькасьць сялянаў, якія маглі цалкам забясьпечыць шляхціца ўзбраеньнем і даць яму добрага каня. Старадаўняе беларускае войска было й кавалерыяй, і коннай артылерыяй. І дзякуючы яму беларусы разграмілі велізарнае маскоўскае войска пад Воршай.

— *Якой была тая кавалерыя?*

— Першае коннае войска (XI—XII стагодзьдзі) называлася «конная дружына». Усе полацкія князі, у тым ліку й знакаміты Ўсяслаў, мелі сваіх конных дружыньнікаў. Гэта былі атрады зь некалькіх соцень чалавек, вельмі добра ўзброеных. У іх былі шчыты, дзіды, баявыя сякеры, лукі. Але ўсё ж асноўнай масай вояроў былі ўзброеныя сяляне. І толькі ў XIII стагодзьдзі на першае месца выходзіць кавалерыя, узброеная арбалетамі, кушамі, самастрэламі.





— *Ці падзялялася кавалерыя на лёгкую й цяжкую?*

— Так. А яшчэ была й сярэдняя. У XVI стагодзьдзі ў Беларусі зьяўляюцца гусары. Слова «гусар» вугорскага паходжаньня, і першую гусарскую коньніцу прыдумалі ў Вугоршчыне яшчэ ў XV стагодзьдзі. У нас гусары пашырыліся дзякуючы першаму каралю Рэчы Паспалітай Стэфану Баторыю, мад'яру з паходжаньня. Росквіту гусарскае войска дасягнула ў XVII стагодзьдзі, калі зьявіліся гэтак званыя лятучыя гусары. Гэта было нашае цяжкаўзброенае войска. Вершнікі мелі доўгія дзіды, а ззаду — спэцыяльнае прыстасаваньне, якое рабілася зь пёраў чорнага колеру. І калі гусарскае войска скакала на ворага, быў такі шум і сьвіст, што палохалася варожая коньніца, і людзі разьбягаліся ад страху. Гэтым дасягаўся й велізарны псыхалягічны эфэкт, а таксама бараніліся сьпіны гусараў. Кожны гусар меў шлем-шышак і кірасу — панцыр. Кіраса, дарэчы, дажыла да XIX стагодзьдзя. Была й лёгкая коньніца, у асноўным татарская. Яна была ўзброеная звычайна арбалетамі, лукамі, а з XVI стагодзьдзя коньнікі мелі шаблю й пісталет, а то й два.

— *Калі зьяўляюцца ў конным войску гарматы?*

— Гарматы ў Беларусі зьявіліся ў XIV стагодзьдзі. Спачатку яны стаялі толькі ў замках. А вось конныя гарматы ў Беларусі пачалі выкарыстоўваць у канцы XV — пачатку XVI стагодзьдзя. На ляфэт — спэцыяльны вазок з двума коламі — клалі гармату й запрагалі пэўную колькасьць коней. Падчас вядомай бітвы пад Воршай беларускія гарматы былі ў дзеяньні.

— *Якую амуніцыю меў вершнік?*

— Кожны вершнік меў добрую конскую збрую. Абавязковым атрыбутам вершніка былі таксама шпоры,

а конь павінен быў быць падкаваны. У XV стагодзьдзі вершнік ужо быў сапраўдным эўрапейскім рыцарам. Рыцары былі пры двары й Вітаўта, і Ягайлы. Ёсьць выявы рыцарскіх турніраў. І на надмагільлях мы бачым выявы Гаштольда ці Сапегі ў поўным рыцарскім уборы.

*— Ці саступалі беларускія кавалерысты эўрапейскім?*

— Не. Наша лёгкая коньніца, гэтак званыя лісоўчыкі, грамілі ўсю Эўропу ў часе Стогадовай вайны. Яны даходзілі ў сваіх начных драпежніцкіх рэйдах ажно да Амстэрдаму. Беларускія вершнікі праславіліся і ў бітвах са швэдзкай коньніцай. Наша коньніца была вельмі моцная да самых падзелаў Рэчы Паспалітай. Таму першае, што зрабілі расейцы, як прыйшлі сюды, — стварылі беларускі гусарскі конны полк.

*— Дзе беларусы бралі вайсковых коней?*

— Была цэлая галіна разьвядзеньня такіх коней. Багатыя магнаты мелі спэцыяльныя стайні. Так, напрыклад, захаваліся апісаньні Радзівілаўскіх стайняў у Нясьвіжы. Гасьцей зьдзіўляла, што ў стайнях ляжалі дываны й віселі люстэркі. Вось адно з апісаньняў сучасьніка Радзівілаў:

***Прызнаюся, я не чакаў знайсьці такіх коней, такой канюшні й такой чысьціні. У доўгай высокай галерэі, якая падтрымвалася калёнамі, пафарбаванымі пад чырвонае дрэва й пакрытымі лякам, стаялі да 50 ангельскіх коней, адзін за другога прыгажэйшых. Пасярэдзіне яе шыкоўная канапа, усюды люстэркі, прыемныя пахі, як у залі, на падлозе няма пылу. Тлусты ангелец прапаноўваў паглядзець польскую, расейскую й мад'ярскую канюшні...***

*— Ці доўга існавала традыцыя кавалерыі на беларускіх землях?*





— Аж да Другой усясьветнай вайны. Кавалерыя была і ў так званую рэвалюцыю, і ў грамадзянскую вайну. Беларусы служылі ўланамі ў польскім войску і ўдзельнічалі ў вайне з фашыстамі як польскія кавалерысты. Беларуска-польскія ўланы ў верасьні 1939 году паказалі ўзор гераізму, калі на конях выступілі супраць танкаў і ўсе загінулі. І ў савецкім войску беларускі кавалерыст, генэрал Даватар, праславіўся сваімі партызанскімі рэйдамі.

*— Ці можна сёньня выкарыстоўваць каня ў войску?*

— Напэўна, можна. Вось жа адраджаецца конная міліцыя, бо ў межах вялікага гораду зручна езьдзіць конна. У Беларусі ёсьць і традыцыя коннага спорту. Так, Радзівілы ў Нясьвіжы трымалі свой гіпадром у XIX стагодзьдзі.

*— У Эўропе шмат помнікаў, дзе знакамітыя вайскоўцы, імпэратары сядзяць на конях. Чаму ў Беларусі няма конных помнікаў?*

— У нас ёсьць такі помнік, ён на нацыянальным гербе. І першая выява Пагоні, якую мы ведаем, — гэта рыцар на кані. Вось апісаньне герба XIII стагодзьдзя: «Муж зброены на каню седзячы ворага гоніць». Дарэчы, на нашай Пагоні адлюстраваны рыцарскі конь. На гербе сучаснай Літвы — конь эпохі барока, ён ня столькі баявы, колькі выязны. А наш конь — славуты рыцарскі конь, якога таксама закоўвалі ў жалезныя дасьпехі. Менавіта гэты конь спыніў як крыжацкую, так і татарскую, і маскоўскую навалы ў Сярэднявеччы. Гэтаму каню помнікам зьяўляецца наш нацыянальны герб і славуты верш «Пагоня» Максіма Багдановіча.

## СЬВЕТ КАЗЯВАК

*Размова з Тацянай Валодзінай*

**Усё больш людзей імкнецца ў гарады, пакідаючы прыроду з усёй ейнай эстэтыкай і карысьцю. Партыі зялёных заклікаюць ратаваць навакольле. Сучасныя дзеці не адрозьняць шэршня ад чмяля. А для сёньняшніх гараджанаў сьвет кузурак зьвёўся да камароў, прусакоў, молі, якіх трэба біць, труціць, выганяць, нішчыць...**

*— Дык што ж мы так бязьлітасна забіваем разам з гэтымі кузуркамі?*

— Разам зь імі мы забіваем велізарную частку нашае духоўнай спадчыны. Сьвет насякомых у традыцыйнай культуры беларусаў — гэта цэласная распрацаваная сыстэма ўяўленьняў, арганічная частка той агромністай мазаікі, якую мы завём сёньня карцінай сьвету. У народнай заалёгіі праз зварот да вобразаў пчалы, павука, камара, мухі ды іншых аказалася магчымым закадаваць і паэтычна ўзнавіць шэраг сьветапоглядных ідэяў — ад тварэньня Сусьвету й да чалавечага каханьня. Стэрэатыпы й вобразы вернасьці, здрады, працавітасьці, агіды, плоднасьці, злосьці й яшчэ шматлікіх якасьцяў і пачуцьцяў перадаюцца ў павер'ях ды песеннай сымболіцы, аб'яднаных вобразамі жамяры ды кузурак.

*— Як тлумачыць народная мудрасьць паходжаньне ўсіх гэтых мухаў, камароў, матылёў, клапоў, блашчыцаў? Навошта была ўся гэтая жамяра?*

— Заалёгія тлумачыць проста: адны — для корму птушак, другія — для паяданьня іншых. Але народная філязофія зьвязвае паходжаньне жамяры перадусім з чортам:





***От Бог узяў жменю пяску, кінуў яго на вецер да й кажэ: «Ляцеце, усялякія птушкі», і птушкі паляцелі ды пачалі цыркаць да пець у паветры. Пабачыў тое чорт да захацеў сам зраўняцца з Богам. От ён узяў жменю пяску, шыбануў яго ўгору да й кажэ: «Ляцеце!», а хто — і забыў сказаць. А тут як сыпануць мошкі, камары, авады ды ўсялякі гнюс, як нападуць на чорта да пачнуць яго рэзаць, дак ён круціўся-круціўся, бегаў-бегаў, а яны сьледам за ім роем.***

Гэтае нячыстае паходжаньне жамяры набліжае яе да клясы гадаў, якія таксама чортава стварэньне. Цікава адзначыць, як замацоўвае такія ўяўленьні мова. Мы й сёньня кажам: муха папаўзла, прусак папоўз, хаця яны пабеглі так, што й не дагнаць. Насякомыя менавіта поўзаюць, як і гады, зьмеі, а ня ходзяць ці, напрыклад, бегаюць, хаця й маюць ногі.

*— Можа, чалавек нэгатыўна ставіцца да жамяры, бо яна здольная джаліць самога чалавека? Вунь як нам дакучаюць камары... Што кажа пра гэта народная творчасьць?*

— У народных паданьнях і легендах смактаньне чалавечай крыві санкцыянуе сам Бог. Аднойчы паслаў ён камара вызначыць, чыя кроў самая смачная. І за праўдзівы адказ — чалавечая — дазволіў камару піць кроў зь людзей. Гэтаксама й з шэршнямі. Карысных для людзей пчолаў стварыў Бог, а чорт папрасіў даць пчолаў і яму. Разгневаны Бог кінуў жменю пчолаў проста ў твар чорту, тыя адразу ж сталі вялікія, кусьлівыя і ў той жа момант разьляцеліся хто куды. З таго часу шэршні перш чым укусіць каго, цаляюць ударыць балюча проста ў твар. Але ня толькі вядомыя агрэсіўныя «кусучыя» намеры жамяры падкрэсьліваюць іхную чартоўскую прыроду. Сымболіка камарынага ці пчалінага ўкусу ў народнай традыцыі закра-

нае й сфэру сэксуальных дачыненьняў. Як у прыпеўцы:

***Не хадзіце, дзеўкі, у лес,***
***Камары кусаюцца.***
***Адну дзеўку ўкусіў —***
***Жывот раздуваецца.***

Дарэчы, калі ў сьне пабачыш пчаліны ўкус, дык тое вяшчуе цяжарнасьць. Тое ж самае жучок, які «наробіць клапот, што ня сходзіцца капот». Укус жа шэршня ў вясельнай паэзіі не патрабуе камэнтароў:

***Прыляцеў, мамка, шарсень да й утыкнуў жала,***
***Да й утыкнуў жала, сэрца ж маё задрыжала.***
***Дзеўку ды не за пуп, за чэрва,***
***Укусіў пасярэду.***

*— Няўжо й пчала (ці не адзінае ў нас культываванае насякомае), што джаліць так балюча, — чортава стварэньне?*

— Статус пчалы іншы. Гэта Божая казюрка, бо зь яе карысьць і людзям, і Богу (праз воск на сьвечкі). Расказваюць, пчолы ўтварыліся са сьлёзаў дзяўчыны-прыгажуні, якая горка плакала, седзячы на камені сярод сіняга мора. Ейныя сьлёзы расчулілі Спаса, які ішоў гэтым часам па сінім моры, і зь ягонай сьлязы ўтварылася пчаліная матка. Пчаліныя вульлі раўнаваліся да Божага храму. Калі б хто загубіў рой, крадучы мёд, — то гэта было як забойства чалавека, за такое меркавалася сьмяротнае пакараньне. Пчаліная матка атаясамлівалася з самой Прачыстай.

*— Калі адштурхнуцца ад эстэтычных меркаваньняў, то на першае месца мы паставілі б грацыёзных матылькоў. Колькі калекцыянэраў гатовыя на ўсё, каб прыдбаць новы асобнік гэтых прыгожых стварэньняў! У фальклёры, відаць, станавіліся матылькі найменей прынцэсамі?*





— Зусім не. Прыпісвалі матылям далёка ня сьветлыя функцыі. Мятлік — ці то душа чалавека, што адлятае ад яго пры сконе, альбо сама сьмерць, што прылятае да сваёй ахвяры, ці вястун сьмерці. Расказваюць, да аднае бабулі, што сядзела ля расчыненага акна, прыляцеў начны матыль і сеў ёй на рукаво, тая адразу ўсё зразумела й ласкава сказала: «Сьмерцічка ты мая». Той жа начы яна памерла. Вераць нават, што душы ведзьмаў набываюць выгляд матылёў ды лятаюць, прыносячы шкоду людзям, свойскай жывёле, збожжу. Казалі, калі авечкі худзеюць і кашляюць, у іх унутры знойдзеш жывых матылёў. Больш за тое, верылі, што матылі могуць завесьціся і ў чалавечай галаве.

*— І чалавек тады таксама кашляў?*

— Не, часьцей кузуркі ў чалавечым целе выклікалі, паводле народных поглядаў, дзіўныя паводзіны, здольнасьці. Цяпер такія ўяўленьні захаваліся больш на роўні мовы. І мы кажам: «з мухамі ў носе» пра капрызнага, «пад мухай» — пра п'янаватага, «з матылямі ў галаве» — пра дурнаватага. А яшчэ кажуць: «павука зьеў» — пра чалавека злоснага ці нават чарадзея.

*— Цяпер ці ня кожная сувэнірная крама або адмысловая нацыянальная выстава аздобленыя такімі мудрагелістымі саламянымі дзівосамі, што чапляюцца да столі й гойдаюцца, як жырандолі. Сапраўдныя мастацкія шэдэўры, а завуцца так празаічна й непрывабна — павук, павукі. А хочацца назваць іх прынамсі жар-птушкаю. Дык чаму павукі?*

— Тым ня менш, гэтая назва найлепш адпавядае прызначэньню павукоў. Вешалі іх пад столь напярэдадні Калядаў ці Вялікадня, на шчасьце. Нездарма ў старажытных касмагоніях Бог — Стваральнік Сусьвету — параўноўваўся з ткачом-павуком, а сам працэс стварэньня Сусьвету прыпадабняўся да вывы-

каньня тканіны. У тым ліку й праз сваё знаходжаньне ў куце набывае павук функцыі хатняга апекуна. Нават сёньня ў гарадзкіх кватэрах асьцерагаюцца біць павука й нават цешацца, калі ён завёўся дзе ў зацішным куточку. А калі павук спускаецца наўпрост перад табою — гэта вяшчунскі знак. Дзеля вытлумачэньня яго існуе ці ня цэлая сыстэма. Залежная яна й ад часу такога спусканьня, і ад месца (куды павук імкнецца: калі спускаецца перад носам, то паказвае на нешта непрыемнае, нечаканае, а калі проста на галаву — да нейкага паведамленьня, ну, а калі на місу са страваю — чакай прыбытку). А ў легендах і павук, і пчала былі калісьці людзьмі:

***Напачатку павук і пчала былі братам і сястрой. Аднойчы, калі памірала іх маці, прыляцела сарока — спачатку да пчалы, а потым і да павука, і паведаміла сумную вестку. Пчала адразу ж кінула сваю працу й паляцела да маці, а павук, спаслаўшыся на вялікую занятасьць, застаўся за сваімі кроснамі. За тое й быў ён пракляты, каб вечна ткаць сваё павуціньне й ніколі ня скончыць...***

*— І нарэшце — прусак, ці ня самая агідная казяўка. І падабаюцца ёй найперш гарадзкія кватэры. Агідна й тое, што ад прусака складана пазбавіцца. Напэўна, народная творчасьць ставіцца да яго адпаведна?*

— Ізноў не зусім так. Натуральна, скочкі, прусы, вошы й іншыя кузуркі ўспрымаліся як нечысьць у хаце, але да прусакоў ставіліся не катэгарычна адмоўна. Болей за тое, зь імі зьвязвалі дабрабыт. Казалі, «ёсьць прусы — будуць і грошы». Нават пераехаўшы ў новую хату, несьлі з сабою ў кішэні пару якую й прусакоў. Больш настойліва пазбаўляліся ад вошай і скочак. Фіксуюцца нават такія парады, як падкладваньне прусачка ў шапку сьвятару альбо прабежка голым вакол сваёй





хаты ў чысты чацьвер. І такія парады лічыліся асабліва дзейснымі:

***Злавіўшы дзевяць прусакоў і трымаючы іх у руцэ, прыйдзіце да суседы й папытайце: ці чакалі вы гасьцей? Калі адкажуць, што так, неўпрыкмет выпусьціце аднаго — астатнія пяройдуць самі. Калі ж захаваўся ў вас які лапаць ці іншы які стаптаны тапак, пакладзіце ў яго таракана, зачапіце на вяровачку й з намаганьнямі й патугамі абавязкова ўсёй сям'ёю цягніце на ростані. Толькі адтуль дадому трэба вяртацца бягом. І не азірацца.***

Калі ж ісьці за народнымі ўяўленьнямі, дык трэба чакаць павукоў, што падаюць у місу са страваю; не злаваць на прусакоў, што варожаць прыбытак; шанаваць пчалу й божую кароўку; радавацца сьпеву цвыркуноў ды захапляцца матылямі ў лузе. А яшчэ асьцерагацца розных жукоў ды вучыцца ад мурашоў іхнаму грамадзкаму ладу.

## ЗДАНІ, ПРЫВІДЫ, ПУЖАЛКІ

*Размова зь Ліяй Салавей*

**Творчае ўяўленьне нашых продкаў насяліла ўсе куточкі свайго абшару безьліччу міталягічных пэрсанажаў — гаспадароў, даглядчыкаў, ахоўнікаў пэўных мясьцінаў: палёў, лясоў, балотаў, рэчак і азёраў, а таксама сялібаў, гаспадарчых пабудоваў. Паводле сваіх уласьцівасьцяў, гэтыя пэрсанажы былі амбівалентныя, але з часам пераважна перайшлі ў разрад дэманічных істотаў. Гэта вядомыя ўсім дамавікі, хуты, палевікі, лесавікі, вірнікі, аржавейнікі, балотнікі, а таксама пэрсаніфікацыі шматлікіх хваробаў і прыродных стыхіяў.**

*— А як суадносяцца са сьветам названых міталягічных пэрсанажаў, гэтак характэрных для беларускай вуснапаэтычнай творчасьці, здані, прывіды, пужалкі?*

— Здані — гэта візуальныя вобразы, што час ад часу ўзьнікаюць перад вачыма асобных людзей, а потым бясьсьледна зьнікаюць. Міталягічныя пэрсанажы, ці, як іх назваў этнограф і фальклярыст Мікалай Нікіфароўскі, «дэманападобнікі», вельмі добра апісаныя паводле сваіх функцыяў, месца «жыхарства», характараў і звычак, але вельмі мала вядома пра іхны выгляд. Лічылася, прыкладам, што ў кожным хляве жыве хлеўнік і неяк сябе выяўляе, але, як правіла, яго ніхто ня бачыў. Здань жа — гэта тое, што можна ўбачыць, але што азначае ейнае зьяўленьне, у бальшыні выпадкаў адразу не расшыфроўваецца. Чалавек часта толькі потым дадумваецца, што ён сутыкнуўся са зданьню, а часам і не дадумваецца.

*— Дык у якіх вобразах звычайна зьяўляюцца здані перад вачыма людзей?*





— Часам здані паказваюцца ў выглядзе асобных людзей ці групаў людзей. Могуць яны зьяўляцца таксама ў выглядзе ката, сабакі, барана, ваўка ці зграі ваўкоў, зайца, альбо як слуп, капа сена, нейкі будынак або прыродны аб'ект.

*— Як выглядаюць здані, калі яны паказваюцца ў аблічы чалавека?*

— Пераважна яны тады падобныя да звычайнага чалавека — прыкладам, суседа. А часам выглядаюць ценем чалавека.

*— Кажуць, што для зданяў характэрныя пэўныя колеры строяў, у якіх яны паўстаюць перад вачыма чалавека. Гэта зьвязваюць найчасьцей зь белым ці чорным колерамі?*

— Гэта хутчэй сымболіка. Раней беларусы былі вельмі чуйныя да сымбалізму колераў. Скажам, здань чорнай панны — гэта ўжо вельмі пагрозьліва, зьвязана яна з чорнымі чарамі. А белае адзеньне сымбалізуе сьвятасьць і бяскрыўднасьць. Таксама здань зьяўляецца анёлам у белым. Часам узьнікаў прывід нявінна забітай.

*— Якімі гукамі звычайна дапаўняюцца візуальныя вобразы зданяў?*

— Здані могуць сьпяваць, плакаць, сьмяяцца, клікаць людзей да сябе: «Да нас, да нас ідзіце!..». Гукі функцыянальна апраўданыя. Вось адзін з расповедаў пра сустрэчу са зданьню:

***Зь вёскі Барташэ дзядзька Станцаль, Паўлюка прадзед, ішоў дадому. І на Кайтановым балоце сустракае яго сабака іхны Рабчык. А ўжо было цёмна, і дзядзька абрадаваўся сабаку. «Ай ты маладзец, бач, дзе ты мяне сустрэў», — кажа ён. А сабака гэты падскаквае, забаўляецца. Дзядзька ідзе сабе за ім і ідзе. Потым агледзеўся кругом — не***

***пазнае месца. Але нічога — далей ідзе. Падышоў да лесу, залез на пень, разьдзеўся й заснуў, як бы ў сябе дома на печы. Рана прачнуўся, глядзіць — а ён зайшоў за пяць кілямэтраў ад дому.***

*— На чым трымалася вера людзей у сапраўднасьць бытаваньня й дзейнасьці прывідаў?*

— Людзі верылі ў несьмяротнасьць душы і ў тое, што жыцьцё не спыняецца пасьля фізычнай сьмерці, што душа можа лятаць, зьяўляцца, набываць розныя формы. І яшчэ тут накладаецца перакананьне, што чалавек і розныя істоты могуць мяняцца месцамі — знаходзіцца ў ланцугу мэтамарфозаў. Душа можа дзейнічаць як у чалавеку, гэтак і пераходзіць у дрэва, расьліну, камень, рэчку.

*— Ці зьвязаныя здані, прывіды з гэтак званым падземным сьветам духаў?*

— Часта прычынай зьяўленьня зданяў якраз і служыць гэты падземны сьвет. Нячысьцікі таксама маюць уласьцівасьць перакідвацца ў розныя прадметы й жывых істотаў. Прыкладам, людзі бачаць, што ідзе чорны кот ці сабака бяжыць, круцячы хвастом, а напраўду гэта нячысьцік прыняў такую форму, каб зьвесьці чалавека.

*— Дзе звычайна любяць зьяўляцца здані? Ці ёсьць у іх нейкія ўлюбёныя месцы?*

— Гэта месцы сакральна вылучаныя — могільнікі старыя, закінутыя, у чымсьці рамантычныя. Натуральна, руіны замкаў, палацаў, культавых збудаваньняў. Зноў жа крыжавыя дарогі, месцы, дзе адбыліся забойствы, дзе схаваныя заклятыя ці зачараваныя скарбы. Але можа адбыцца сустрэча з прывідам і ў зусім звычайным месцы.

*— Чаго здані патрабуюць ад людзей, калі зь імі сустракаюцца?*





— Шмат выпадкаў, калі здані толькі паказваюцца й ніяк не рэагуюць на чалавека. Часам яны клічуць людзей рухацца кудысьці разам зь імі. Бываюць і драматычныя сутыкненьні. Увогуле чалавек звычайна баіцца, калі здані за ім рухаюцца. Ён уцякае, і здань бяжыць за ім. Здані часам даюць знак, каб чалавек нечага не рабіў, а часам нечага патрабуюць ад жывых. Так, адзін чалавек у маладосьці з рэўнасьці забіў сваю жонку, адпакутаваў кару, вярнуўся дадому й працаваў кіроўцам. Колькі разоў ён ні езьдзіў праз тое месца, дзе адбылася трагедыя, у машыны заўсёды глухнуў матор, і зьяўляўся прывід ягонай маладой жонкі. Урэшце ён усё зразумеў. І аднойчы выйшаў з кабіны, стаў на калені, зьняў шапку, перахрысьціўся й папрасіў дараваньня, літасьці. Ад таго часу ні здань не зьяўлялася, ні машына не псавалася. Часам душы нябожчыкаў, патрывожаныя чалавекам, выказваюць незадаволенасьць і могуць праяўляць агрэсію. Вось адзін расповед на гэтую тэму:

***У адной мацеры часта дзеці паміралі, ну яна вельмі плакала па іх. Кажа аднаго разу: «Пайду я ў капліцу, стану за дзьвярыма, як будуць ісьці, можа, убачу іх». Ну, і пайшла, пайшла й стала каля сьцяны ў сенечках, мяшком засланілася. Бачыць: ідуць мёртвыя, ідуць, ідуць, а дзяцей не відаць. А тады бачыць: ідуць і дзеці яе й кажуць: «І чаго гэты наш мяшок тут стаіць?». Дык яна тады ходу адтуль, а яны ўсе за ёю, дык яна, бегучы, зьняла зь сябе кажушок і кінула. А назаўтра прыйшла паглядзець на тое месца, бачыць: ляжыць кажушок. Толькі ўвесь на шматкі падраны.***

*— Якія здані найболей небясьпечныя для людзей?*

— Тыя, што ствараюцца чарцямі лазатымі. У іх на ўзбраеньні шмат розных штукаў дзеля згубы даверлівага чалавека, асабліва схільнага да выпіўкі. Любімым жарцікам балотных гарэзьнікаў зьяўляец-

ца наступны: прыкінуцца чорным баранам і зрабіць вялікім прыдарожны камень, бляяць за ім, каб прыпозьнены чалавек паквапіўся забраць жывёліну на воз. Камень цяжкі, небарака пыхціць, спрабуе ўсьцягнуць яго на воз, а чэрці сьмяюцца зь яго. А як воз пад'едзе да месца асьвячонага, чары зьнікаюць, а чалавек ня можа ўцяміць, што ён такое рабіў, чаму ўзваліў на воз такі вялікі камень?

*— Ці існуе ў чалавека страх перад нейкімі невытлумачальнымі гукамі, якія невядома адкуль ідуць? Ці ёсьць гукі-здані?*

— Гэта асобны разьдзел гукавых вобразаў-пужалак, якія часам узьнікаюць паралельна з вобразамі візуальных зданяў. Яны бываюць у адкрытай прасторы, прыкладам, плач дзіцяці ў лесе: чалавек ідзе й чуе дзіцячы плач то з аднаго, то з другога боку. І чалавек круціцца па лесе, ідучы на гэты плач. А пасьля высьвятляецца, што ён заблукаў. Найбольш дакучаюць гэтыя гукі ў доме. Іншы раз выразна чуецца, нібы сьвежы нябожчык ходзіць: патрэсквае столь, шуршыць нешта па сьценах, стукае. Людзі пужаюцца й нават пакідаюць дом.

*— Дык як жа людзі бараніліся ад гэтых зданяў, прывідаў, пужалак?*

— Рэкамэндавалася бараніцца знакам крыжа. Вось адна з гісторыяў:

***Ішла я раз у Любушаны. Праходзіла цераз рэчку ў луг. Кладзішча было з паўкілямэтра. Іду й бачу, што з кладзішча ідзе ня то жанчына, ня то мужчына ў белым адзеньні, ідзе прама на мяне. Ужо аставалася мэтраў пяцьдзясят. Калі я глянула, аж гэта нешта ў белым падобна на чалавека. Я спужалася, спынілася, валасы сталі дыбам. Успомнілася, што маці гаварыла: «Калі якое табе***





***будзе зданьнё, то ты перахрысьціся». Я тры разы перахрысьцілася — і дзе што было! Прама на вачах растала...***

Таксама месцы, на якіх часта здараліся прывіды, трэба было асьвячаць. Там ставілі крыжы прыдарожныя.

*— Сёньняшні чалавек зусім іншы, чым той, архаічны, пра якога мы гаварылі. Але й сёньня яшчэ людзі вераць у невытлумачальнае. Дык што ж можна сказаць пра лёс архаічных уяўленьняў і вобразаў беларускага народу ў новай рэальнасьці?*

— Наагул, веры людзей у цуды нельга вынішчыць. Сьвет нязнанага большы, чым сьвет знанага. І многае залежыць ад псыхалёгіі. Чалавек даверлівы, уразьлівы звычайна й трапляе ў сытуацыі, калі яму бачацца прывіды. Лёс і зданяў, і дэманалягічных пэрсанажаў агульны. З часам мяняецца ляндшафт зямлі — асушаюцца балоты, будуюцца новыя дарогі, людзі ня ходзяць у цемры пехатою. А ўжо калі на аўтамабілі едзеш, дык ня бачыш, якая густая цемра, якія цікавыя вобразы ў ёй нараджаюцца, якімі цікавымі гукамі яна напаўняецца. Зрэшты, вось такую сытуацыю паэтычна падсумаваў яшчэ Максім Багдановіч у вершы «Возера»:

***Стаяў калісь тут бор стары,***
***І жыў лясун у тым бары,***
***Зрубалі бор — лясун загінуў,***
***Во сьлед яго ад той пары:***
***Сваё люстэрка ён пакінуў.***

***Як у нязнаны сьвет акно,***
***Ляжыць, халоднае, яно,***
***Жыцьцё сабою адбівае,***
***І ўсё, што згінула даўно,***
***У цёмнай глыбіні хавае.***

## БЕЛАРУСКІ ЧОРТ

*Размова з Алесем Анціпенкам*

**У штодзённым жыцьці й побытавых размовах мы часам ужываем словы й выразы, якія маюць для нас ня болей як вобразнае значэньне. Да прыкладу, словы, якімі нашы продкі называлі шматлікіх прадстаўнікоў нячыстых сілаў. Сярод іх — цмокі, вупыры, халера, старая жанчына, якая паўсюль ходзіць і атручвае ваду, ды іншыя пачвары. Пантэон жахлівых і шкодных для чалавека істотаў у старажытнай міталёгіі беларусаў даволі вялікі. А цэнтральнае месца сярод іх займае, бясспрэчна, чорт. Вось як яго апісаў фальклярыст XIX стагодзьдзя Павал Дземідовіч:** ***Паводле народных уяўленьняў, (чорт) з выгляду чорны, калматы, на галаве ў яго двое невялікіх рагоў, ззаду хвост, на нагах і руках шмат вострых кіпцюроў. У чарцей мужчынскага полу ёсьць нават барада, але барада гэтая рэдзенькая, казьліная. Чорт можа прымаць на сябе розныя аблічча: ён можа зьяўляцца ў вобразе жывёлаў і нават чалавека. Пераўвасабляючыся ў чалавека, ён зьяўляецца пераважна ў выглядзе пана.***

*— Дык хто такі чорт для беларусаў?*

— Бог ня мае нацыянальнасьці, затое чорт яе заўсёды мае. Чорт у нашай культурнай традыцыі мае шэраг і іншых найменьняў. Беларусы называлі яго яшчэ «д'яблам», «злым», «нячысьцікам», «нячыстым духам», «нялёгкай сілай» і Люцыпарам. Апошняе найменьне чорта якраз і гаворыць пра тое, што гэта скінуты зь неба анёл. Аднак можна ўбачыць і некаторае падабенства беларускага чорта са старажытна-





грэцкім богам Панам. Абодва пакрытыя поўсьцю, маюць казьліныя рогі, бараду й капыты. Ёсьць агульныя рысы і ў паводзінах: беларускі чорт ніколі не праміне спакусіць якую маладую ды добрую дзеўку, а старажытнагрэцкі Пан сваім падступным каханьнем перасьледаваў прыгожых німфаў. Дарэчы будзе адзначыць, што раньняе хрысьціянства залічыла старажытнагрэцкага бога Пана ў д'ябальскі сьвет і назвала яго спакусьнікам.

*— І ўсё ж відавочна, што беларускі чорт ня толькі спакусьнік. Мае ён і свае адметныя рысы, бо чорт ва ўяўленьнях беларусаў пражыў не адно стагодзьдзе. Што гэта за рысы?*

— Калі меркаваць па шматлікіх этнаграфічных запісах, казках і паданьнях, беларускі чорт — ня толькі калярытная фігура, дынамічная й гарэзьлівая асоба. Ён — адна з галоўных дзейных асобаў гэтага сьвету. У нашым народзе было шырока распаўсюджанае адно надзвычай характэрнае паданьне, паводле якога чорт браў удзел у стварэньні гэтага сьвету й зьяўляецца творцам усяго злога.

***Напачатку вада пакрывала зямлю. Бог загадаў чорту нырнуць на дно й дастаць адтуль жменю зямлі. Чорт... аднак ня ўсю (зямлю) аддаў Богу, а схаваў частку ў роце. Бог узяў у рукі жменю зямлі, дабраславіў яе й кінуў на воды, — і зямля пачала расьці, пашырацца, пакрываць ваду... гладкім і роўным слоем. Але пачала расьці й тая зямля, што была ў чорта ў роце, стала разьдзіраць яму рот. Чорт, курчыўся ад болю, пачаў качацца па зямлі й выплёўваць зямлю з рота... Ад гэтага зямля зрабілася гарыстай і месцамі атруцілася чортавай сьлінай. Бог падрыхтаваў зямлю для чалавека, пасадзіў жыта, пшаніцу, але месцамі вырасьлі... шкодныя расьліны. Потым Бог стварыў***

***карысных жывёлаў... Але некаторыя зь іх... наеліся атрутных расьлінаў і ператварыліся ў... шкодныя істоты.***

*— Такім чынам, беларусы маюць сваю інтэрпрэтацыю біблейскага аповеду пра стварэньне сьвету?*

— Так. Тое ж тычыцца й стварэньня чалавека. Чорт падгледзеў, як Бог дыхаў на чалавека, каб ажывіць яго. І калі чалавек спаў, нячысьцік хукнуў на яго, каб у таго ўсяліўся злы дух. Чорт у гэтым паданьні сапраўды выглядае злавесным супрацоўнікам чалавекалюбнага Бога. І, натуральна, гэта Люцыпар — найгалоўнейшы й старэйшы за ўсіх чарцей. Ён імкнецца дзеяць у сусьветным маштабе, нароўні з Богам. Люцыпар мае вялікую ўладу, вызначаецца незвычайнай сілай і канцэнтруе ў сабе ўсё зямное й касьмічнае зло. Праўда, паводле народных уяўленьняў, ягоная ўлада ў гэтым сьвеце моцна абмежаваная. Люцыпар загнаны Богам у пекла й сядзіць там на ланцугах:

***Па зьнешнім выглядзе Люцыпэр — сатанінскі гігант з буйнымі формамі й выразнасьцю, якой баяцца нават падуладныя яму чэрці; важыць столькі, колькі ўсе нячысьцікі, узятыя разам... Люцыпэр мае бачныя адзнакі сваёй годнасьці — жалезную карону, прыбітую да чэрапа цьвікамі, што праходзяць яго наскрозь, і штосьці накшталт жалезных вілаў у правай, з магутнымі кіпцюрамі, лапе... Пры кожным выдыху Люцыпэр выпускае з ноздраў і пашчы доўгія пукі вогненных промняў, якія на далёкай адлегласьці паляць сустрэчныя прадметы.***

*— Ці няма супярэчнасьці ў тым, што, з аднаго боку, чорт — падступная, разбуральная й злая істота, а з другога, паводле іншых народных уяўленьняў, ён, хоць і хітры, але ж дурнаваты?*





— Сапраўды, сюжэт пра дурнаватага чорта можна знайсьці ў беларускіх казках. Тут нашы спрытныя продкі ледзьве не ваду вазілі на чорце. Але гэта ня тычыцца галоўнага й старэйшага за ўсіх чарцей — Люцыпара. Чалавек аніяк ня можа даць рады зь ім. Больш за тое, калі пры канцы сьвету Люцыпар вырвецца зь пекла на волю, то наробіць шмат зла людзям. Пакуль жа Люцыпар кіруе ў гэтым сьвеце праз сваю дружыну й сваіх дзяцей, якіх у яго шмат. Праўда, ягоныя памагатыя дзейнічаюць не заўсёды спраўна. І хоць, як піша беларускі этнограф Адам Багдановіч, існуе пэўная ярархія, аднак, парадку й «сумленнасьці сярод чарцей няма... наадварот, падначаленыя ўсяляк імкнуцца падмануць начальнікаў, ухіляюцца ад зададзенай работы». Напэўна, якраз такіх шараговых і нягеглых чарцей беларусам і ўдавалася падмануць. Дарэчы сказаць, паводле некаторых этнаграфічных матэрыялаў, беларускі чорт выглядае ледзь не як свойская істота, альбо проста як гарэза. Ясна, што чэрці імкнуцца нашкодзіць чалавеку, але часам іхнае шкодніцтва не зусім сур'ёзнае: то яны п'янага завядуць у балота, а калі той — музыка, дык пасадзяць на купіну, прымусяць граць, а самі танцуюць. А калі пакінуць ненакрытым малако ці гарэлку, дык апаганяць іх.

*— Люцыпар — моцны чорт, супернік самаго Бога. А ці былі ў беларускіх уяўленьнях чэрці прасьцейшага паходжаньня?*

— У беларускіх паданьнях ёсьць яшчэ адзін вобраз чорта. Ён складаецца з чарцей драбнейшага калібру, зь якімі беларускі мужык найперш і меў справу. Гэтыя чэрці, хоць і прыдумляюць шмат чаго шкоднага для чалавека, хоць і зьяўляюцца майстрамі на ўсялякія штукі, але вялікага розуму ня маюць. Тут беларускі мужык якраз і аказваецца спрытнейшым і хітрэйшым за чорта. Чорт нават пабойваецца мужы-

ка. А таму ў беларускіх казках ён часам выглядае зацюканым, а то нават і крыху ўбогім. Мужык жа, хоць і любіць фаеру даць такому чорту, але ўрэшце ставіцца да яго велікадушна.

*— Якія найбольш тыповыя злыя й шкодныя штукі чарцей?*

— Беларускія чэрці ёсьць паўсюдна й шкодзяць дзе толькі могуць. Асабліва любяць яны бываць на вясельлях. Тут, паводле народных уяўленьняў, яны імкнуцца перашкодзіць выезду маладых у царкву, паводле іхнага жаданьня конь упіраецца да таго часу, пакуль не пераждагнаюць дарогу. Пасьля вяртаньня з царквы найпершы клопат чарцей — зладзіць бойку паміж мужыкамі. Яшчэ больш сур'ёзная справа — гэта пасяліцца ў чалавека. Як сьведчыць беларускі этнограф Міхал Федароўскі:

***Чалавек, у каторым чорт пераживае, ...карысьці ад чорта жаднае ня мае. Наадварот, ён яшчэ яго мучыць, вядзе ў крыніцы, у балота, адбірае яму розум, пад'юрувае яго зь людзьмі біцца, або сварыцца...***

Увесьці чалавека ў зман, спакусу, нарабіць яму ліха, падгаварыць яго на крадзеж, п'янку, зладзіць інтрыгу, каб пасварыць асабліва блізкіх людзей — галоўныя штукі беларускага чорта. Калі чорту гэта не ўдаецца, ён можа сядзець дзе-небудзь у хаце, хутчэй у запеччы, і чакаць, пакуль хто ня зробіць якой памылкі.

*— Якімі сродкамі беларусы бараніліся й ратаваліся ад чорта?*

— Галоўнымі сродкамі былі сьвяты крыж і хрост. На ростанях, дзе паводле народных уяўленьняў любяць зьбірацца чэрці, нашыя продкі ставілі крыжы. Адпужвалі чорта таксама льном, каноплямі й пшаніцай, таму што зь іх выраблююцца алей і прасьвіры, што





ўжываюцца ў царкве. Адтуль, дзе чорт пасяліўся, яго выганялі сьвятой вадой. Каб чорт не пасяліўся побач з чалавекам, забаранялася вымаўляць ягонае імя ў хаце. Але пазбавіцца чорта было ня так проста. Той, каб спакусіць чалавека, час ад часу прымае новыя аблічча — напрыклад, папа. Тады беларусы, прызвычаіўшыся да свайго знаёмага чорта, былі нават радыя яму, бо ведалі, як зь ім абыходзіцца. Ёсьць такая беларуская прыказка: «Хто ідзе? Чорт. А то добра, што ня поп». Паводле народных уяўленьняў, чорт абавязкова быў і ў касьцёле:

***У кожным касьцёле пры імшы, канечне, мусіць быць чорт, каторы сядзіць у бабіньцы з валоваю скураю. ...І як хто аглянецца ці засьмяецца, ня моліцца альбо так зграшыць, так (чорт) зараз запісвае на валовай скуры. Уночы чорт лятае наўкол касьцёлу й бароніць увахад у яго. Нават ксёндз як адзін, то ўвайсьці ўвойдзе, а выйсьці ня дасьць рады.***

*— Дык якую ролю адыгрывалі гэтыя казкі пра чорта ў жыцьці беларусаў?*

— Не зважаючы на архаічнасьць ці нават наіўнасьць некаторых уяўленьняў нашых продкаў, функцыя іхная была цалкам прагматычная. Чорт — увасабленьне чалавечых грахоў, не заўсёды добрых ці нават злых памкненьняў. Кожны народ мае сваю вэрсію чорта, як і свае своеасаблівыя ці проста больш акцэнтаваныя заганы, хібы, грахі. Калі мы кажам, што беларускі чорт часам выглядае як гарэза й ня мае той сатанінскай сілы й агрэсіі, што характэрныя для ўяўленьняў пра чорта ў іншага народу, дык гэта й адпавядае беларускай мэнтальнасьці. Нашы продкі заўсёды мужна адстойвалі сваё, але зусім не вызначаліся агрэсіўнасьцю, скіраванай вонкі, на захоп іншых народаў і земляў. Такі ж і беларускі чорт —

ня надта агрэсіўны. Часам ён бывае гратэскны, карнавальны, вясёлы й фэерычны. Зь яго можна пасьмяяцца, гэта значыць, пасьмяяцца з самаго сябе. Іншы раз беларускі чорт выяўляецца як дыдактычная асоба. Ён расплюшчвае вочы чалавеку на ягоныя ўласныя памылкі, хібы й грахі. Увогуле, вобраз чорта заўсёды чымсьці падобны да таго, хто яго стварае. Іншая рэч, што пакліканьне чалавека ў тым, каб прыпадобніцца не да чорта, а да Бога. І беларусы гэта заўсёды добра разумелі.



## НЯЎЛОЎНЫ ЦМОК

*Размова зь Пятром Васючэнкам*

**Пра яго пісалі яшчэ Эўрыпід і Арыстотэль. Яго пабачыў у моры каля Кіпру ў XVIII стагодзьдзі асырыйскі цар Саргон II. Яго баяліся, абагаўлялі й дэманізавалі. Зь ім змагаліся Кадм і Пэрсэй, архангел Міхайла й сьвяты Юр'я, Бэавульф і Зыгфрыд, сярэднявечныя рыцары й Дон Кіхот. Бадай, няма ў сьвеце народу, які ня склаў бы міту, паданьня, казкі пра яго — зьмея, дракона або, па-беларуску, цмока. У беларускай міталёгіі, фальклёры ёсьць свае сюжэты пра цмока й зьмеяборцаў. Ёсьць свой варыянт Юр'я — Ярыла, а яшчэ ёсьць Удовін сын, які змагаўся з цмокам. Ёсьць Кацігарошак ды іншыя.**

*— Дык цмок — спараджэньне чалавечай фантазіі, міталягічная істота або нешта рэальнае?*

— Цмок у міталёгіі паўстае сапраўды надзвычай фантасмагарычнай, а часам вельмі абстрактнай істотай — ці біблейным зьміем, ці вобразам адвечнасьці: цмок, які сам сябе кусае за хвост або абдымае зямную кулю. Між тым, я думаю, што цмок — гэта жывёла, якая існавала рэальна й была міталягізаваная, як у свой час, прыкладам, міталягізаваўся воўк. Мяркую, што міталягізаваны цмок вяртае нас да генэтычнай памяці, калі чалавека яшчэ й не было — у славуты юрскі пэрыяд. Тады, 100—150 мільёнаў гадоў таму, у моры плавалі плезэазаўры, рыбы-яшчуры — рэальныя правобразы цмока. У папарацях і хвойных лясах блукалі брахеазаўры, а ў паветры лёталі правобразы паветранага цмока-летаўца — славутыя птэрадактылі й птэракадоны. Там, у глыбінях юрскага

пэрыяду, залягае вобраз цмока, які потым рэалізаваўся ў міталёгіі.

*— Чым беларускі цмок адрозьніваецца ад сваіх родзічаў у іншых народаў?*

— Перадусім нават сваім найменьнем, якое намякае на прыроду беларускага цмока. Паглядзіце: дракон і цмок. «Дракон» са старагрэцкай мовы перакладаецца як «ахоўнік», «паляўнічы». Дзеясловў, які паходзіць ад слова «дракон», азначае «дзерці», «разьдзіраць на часткі». А «цмок» супадае са значэньнем «смактаць» альбо «цмокаць», інакш кажучы, «цалаваць». Мне падаецца, беларускі цмок больш мяккі, павольны. Такім яго падаюць і фальклярысты М. Нікіфароўскі й М. Федароўскі. Яны таксама дэманізавалі гэты вобраз. І ў іх цмок выглядае нячысьцікам, але ад іншых нячысьцікаў гэты цмок розьніцца нейкай лянотай, паважнасьцю. Ён не такі хіжы, як у іншых народаў. Ён пераборлівы: ён ня кожную ахвяру будзе атакаваць, але калі яе выбярэ, дык будзе дабівацца да канца. А калі ахвяра ня вартая яго, дык можа ад яе й адвярнуцца.

*— Кожны народ сваіх драконаў, зьмеяў, цмокаў надзяляе характэрным мэнталітэтам, а ў дадзеным выпадку ідзе размова пра мэнталітэт беларускі?*

— Безумоўна. Наш цмок мае выразныя нацыянальныя прыкметы — шляхетнасьць, фанабэрыстасьць. І яшчэ вылучаецца асаблівай жывучасьцю, бо беларускі цмок вельмі схільны да рэгенэрацыі. У яго тры, шэсьць, дзевяць галоваў, здатных адраджацца пасьля таго, як іх сьсякуць. І цмокі беларускія жывуць даўжэй за іншых нячысьцікаў.

*— Што дадалі да выведзенага народам вобразу цмока літаратары?*





— Пра беларускага цмока зь вялікаю ступеньню ўпэўненасьці ў яго існаваньні пісалі ў XVI стагодзьдзі ў сваім славутым «Дыярыюшы» Хведар Еўлашэўскі, у XVII стагодзьдзі ў вершы «Зьмей» Сымон Полацкі, у сваёй кнізе XIX стагодзьдзя «Шляхціц Завальня...» Ян Баршчэўскі. Напачатку XX стагодзьдзя да гэтага вобразу зьвярталіся Вацлаў Ластоўскі ў апавяданьні «Цмок» і малавядомы нашаніўскі аўтар Гвозд. Фальклёрны абагулены вобраз яны дэталізавалі. Так, Уладзімер Караткевіч у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» падкрэсьліў перадусім ягоныя памеры — там цмок ростам пятнаццаць мэтраў. Літаратары вызначылі й аблічча цмока, дастаткова жахлівае: у яго галовы — як цэбры, у яго пазуры — як сярпы, у яго зубы — як нарогі, у яго крылы — як палашы. Пісьменьнікі апісалі й месца жыхарства беларускага цмока. Так, часьцей пішуць, што ён жыў у Расонскіх і Браслаўскіх азёрах або на Палесьсі. Вядомыя ў літаратуры ня толькі памеры, нораў цмока, але й спосабы яго вывядзеньня ў хатніх умовах. Вось слынны рэцэпт Яна Баршчэўскага й Вацлава Ластоўскага. Цмок выводзіцца зь яйка чорнага пеўня. Праўда, чорны певень рэдка зносіць чорнае яйка. Вось Ластоўскі і ўдакладняе, што павінна адбыцца, перш чым певень гэты засакоча па-курынаму й зьнясе маленькае незвычайнай формы яйка. Гэтае яйка трэба яшчэ тры гады выношваць пад пахаю, тоячы ад усіх, а потым яшчарку, якая выведзецца, трэба малаком адпойваць. А Гвозд прапануе іншы варыянт. Трэба набраць бочку бярозавіка й трымаць яе год, пасьля адтуль палезуць розныя пачварныя істоты.

*— А дзеля чаго іх выводзіць? Якая карысьць можа быць ад гэтых цмокаў?*

— Ці можа быць ад іх карысьць? Нашы літаратары кажуць, што цмок цягае для людзей золата або срэбра. Але вадзіцца з цмокам — рэч небясьпечная. Вельмі

часта тыя, хто водзіць зь ім сяброўства, моцна пакутуюць.

— *Калі цмок паўставаў як пэрсанаж літаратуры ці вуснапаэтычнай творчасьці — відаць, гэта рабілася з мэтаю ачалавечыць яго?*

— І ў фальклёры, і ў літаратуры сьпярша цмок паказваўся як частка прыроды, як носьбіт чатырох стыхіяў — вады, агню, зямлі й паветра. Пасьля гэты вобраз у хрысьціянскай традыцыі дэманізаваўся, і зь ім сталі змагацца. Пазьней ён прыжыўся, атабарыўся каля чалавека. І, натуральна, пачаў набываць нейкія чалавечыя рысы. Так, беларускія літаратары й фальклярысты сьведчаць, што беларускі цмок — чысьцюля. Ён, як і чалавек, ходзіць у лазьню й штодня мыецца, нездарма ж ён жыве ў балотах і ў рэках. Паводле сьведчаньняў Хведара Еўлашэўскага дый іншых, цмок таксама можа заводзіць любошчы з жанчынамі. Адно толькі ніколі не было нашчадкаў ад гэтых сувязяў.

— *Натуральна, што гэтыя дзеўкі, маладзіцы не маглі закахацца ў цмока...*

— Цмок часта паказваецца як пярэварацень, як зачараваны каралевіч, якога лёгка адчараваць — прыкладам, пацалункам. І я бачыў выяву на кераміцы, на якой адлюстраванае каханьне цмокаў: яны пераплярліся шыямі й ледзьве не цалююцца. І ў вачах іх відаць сапраўды чалавечую пяшчоту. Праз вочы можна ўгледзець і душу. Гэта паспрабаваў зрабіць Уладзімер Караткевіч, калі пісаў першы разьдзел раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Ён апісаў выпадак на Лепельскім возеры, калі нечакана ўся генэрацыя цмокаў, якая жыла ў гэтым возеры, выдахла, вымерла, выкінулася на бераг, нібыта акіянскія кіты, а пасьля паздыхала, і вылез самы вялікі цмок даўжынёю на дзясяткі сажняў. Караткевіч якраз і зьвяртае ўвагу на ягоныя вочы:





***І, дальбог, сьмяялася тая галава. Мо проста зубы скаліла, а мо — з нашых бедаў. І зубы былі велічынёй з конскія, але вострыя, і многа іх было на такую галаву аж данельга.***
***Вочы вялізныя, як сподкі, каламутна-сінія ў зелень, ашклянелыя. І страшна было глядзець у тыя вочы, і мурашкі па сьпіне, нібы Евінага зьмія ўбачыў, і непамысна нейк, і нібы ў чымсьці вінаваты... Вялізнае ляжала на беразе й сьмярдзела, што, д'ябал яго ведае, зь якіх дапатопных часоў прыйшло й вось, па невядомай прычыне, здохла. Можа, таму, што зьявіўся чалавек... І было ў вачах ашклянелых, ва ўсім здыханьні пачвары гэтай і ў смуродзе нейкае прароцтва. Але якое — слабым мазгам чалавечым дагэтуль не ўдалося зразумець.***

У гэтых вачах можна пабачыць і смутак па страчаным, бо цмокі, як ні круці, вымерлі або іх зьнішчылі паляўнічыя. У гэтых вачах можна пабачыць таксама пакору, бо цмокаў ня раз забівалі. І Караткевіч кажа, што цмокі могуць і нешта прадказваць таксама. Недарэмна ў старагрэцкай мове адно са значэньняў слова «дракон», «цмок» азначае й «прадказальнік» таксама.

— *Дык што прадказвае цмок беларусам?*

— Цмок прадказвае тыя рэчы, якія маглі адбыцца ў XX ці ўжо ў XXI стагодзьдзі, калі вярталіся монстры былога часу, калі вярталіся жахі й пачвары. Магчыма, цмок прадказвае й катастрофу, якая адбылася напрыканцы XX стагодзьдзя, той жа Чарнобыль, пасьля якога нарадзіліся цмокі-мутанты, як кажуць у той зоне. І невыпадкова старажытны цмок хадзіў па Калінавым мосьце. Дык як жа не атаясаміць «Калінавы» з Калінкавічамі?.. Інакш кажучы, ён распавядае ня толькі пра сваю часовую сьмерць, але й пра сваё вяртаньне. Пра вяртаньне пачвараў і жахаў былога, якое можа адбыцца і ў XXI стагодзьдзі.

*— Страчанае мае тэндэнцыю вяртацца ці аднаўляцца. Шмат пачварнага адрадзілася ў XX стагодзьдзі. Ня менш, напэўна, адродзіцца і ў XXI. А ці мае шанцы на адраджэньне беларускі цмок?*

— А ён ужо адрадзіўся ў новай міталёгіі, літаратуры — прыкладам, у творах Уладзімера Караткевіча ці Ўладзімера Арлова.

*— Сёньня часам можна пачуць, што людзі вераць у магчымае адраджэньне не міталягічнага пэрсанажа, а цмока як рэальнай жывёліны. Што Вы з гэтай нагоды скажаце?*

— Калі паглядзець на фэномэн цмока вачыма рэаліста, дык трэба прыгадаць, што літаратура й жыцьцё ёсьць люстэркамі, якія адбіваюць адно аднае. Наіўная вера народу, што ўсё занатаванае пяром і ўсё выдрукаванае сапраўды існуе, не такая ўжо й простая, не такая ўжо й наіўная. Яна мае грунт, бо заўсёды існаваў нейкі матыў, які прымушае пісьменьніка пісаць пра тое ці іншае. Той жа Ўладзімер Арлоў у адной са сваіх гістарычна-папулярных працаў піша пра тое, што апошняга цмока ў Беларусі сапраўды злавілі напачатку XX стагодзьдзя ў Сьвіслачы. Толькі вось назвалі яго балотным яшчарам. Праўда, крыніцы, зь якой ён узяў гэты факт, мы дагэтуль яшчэ не знайшлі. Таксама біёлягі кажуць, што існуюць рэальныя цмокі, рэальныя драконы, яшчары, якія захаваліся яшчэ ад мэзазою. Адзін з такіх жыве на высьпе Комада ў акіяне, харчуецца козамі. Болей за тое, некалькі сотняў асобінаў гэтай дагістарычнай, дапатопнай істоты там у запаведніку яшчэ захаваліся. Іншы крылаты яшчар жыве на высьпе Ява. Нарэшце, існуюць легенды, згадкі, сьведчаньні відавочцаў пра тых цмокаў, якія хаваюцца ў глыбінях эўрапейскіх, азіяцкіх і амэрыканскіх азёраў. Натуральна, усе ведаюць пра слыннага цмока з возера Лох-Нэс.





Але лох-нэскі цмок не самотны. Згадаем яшчэ штат Мэн у Амэрыцы, дзе, кажуць, жыве ягоны двайнік. І ў якуцкіх азёрах таксама нібыта бачылі гэтую істоту.

*— Калі ўявіць, што й беларускі цмок ажыве, дык у якім рэгіёне гэта магло б здарыцца?*

— Паводле літаратурных і гістарычных зьвестак, ён мог застацца жыць у возеры Нешчардзе і ў азёрах вакол Расонаў, пра што згадваў у свой час Ян Баршчэўскі й пра што любяць гаварыць ягоныя сучасныя землякі. Цмок можа жыць і ў Лепельскім возеры, як пра тое пісалі Караткевіч і Арлоў, спасылаючыся на канкрэтныя гістарычныя крыніцы. Аматары цмокаў, напэўна, могуць іх адшукаць у сеньненскіх азёрах. Мае шанец мець свайго цмока возера Бяздоннае пад Слонімам. Гэтае возера яшчэ ня цалкам дасьледавана. Мяркую, вялікі шанец маюць і шукальнікі цмока з Гомельшчыны. Мне давялося быць у Веткаўскім музэі, і я там бачыў каля дваццаці абразоў веткаўскіх майстроў. На іх — сьвяты Юр'я, які праціна дзідаю цмока. Цмок паказваецца там у выглядзе крылатых яшчарак, вужакаў і чарапахаў. Мяркую, што аўтары маглі маляваць гэтых цмокаў з натуры. Магчыма, і палескія балоты таксама хаваюць гэтую істоту.

*— Такія меркаваньні грунтуюцца на мастацкай творчасьці, узбагачанай узьлётамі фантазіі. А ці ёсьць навуковыя падставы казаць пра магчымае адшуканьне цмока?*

— Мы ведаем, што лох-нэскага цмока шукалі й шукаюць пры дапамозе як прымітыўных прыладаў, гэтак і найноўшай электроннай апаратуры. І калі параўнаць лох-нэскіх шукальнікаў зь беларускімі, дык у апошніх яшчэ ёсьць магчымасьці расьці. Працуюць аматарскія групы, наколькі мне вядома. Але беларускі цмок надзвычай няўлоўны — як ягоны лох-нэскі двайнік. Прычыну нам можа патлумачыць езуіт-на-

вуковец XVII стагодзьдзя Апанас Кірхен. Ён прыдумаў сваю тэорыю будовы Зямлі, у адпаведнасьці зь якой Зямля ўяўляе сабой нешта накшталт галоўкі швайцарскага сыру — працятая норамі, пячорамі, дзіркамі. І ў гэтых норах, пячорах і дзірках, магчыма, і хаваюцца ўсялякія монстры, пачвары рознага часу, у тым ліку й цмок. Што тычыцца беларускага цмока, дык ён таксама можа сядзець у нейкай такой дзірцы або пячоры, пра існаваньне якіх казаў і Ўладзімер Караткевіч. І мяркую, што дзякуючы свайму беларускаму мэнталітэту, любові да патаемнага, нежаданьню вытыркацца беларускі цмок яшчэ доўга ня будзе знойдзены.

*— Ці падрыхтавана сьвядомасьць сучаснага беларуса паверыць у тое, што казка, міт пра вяртаньне таго ж цмока можа рэальна ўвасобіцца?*

— Міталёгія ствараецца і ў XXI стагодзьдзі. Лох-нэская пачвара таксама плён і рэальных назіраньняў, і міталёгіі. Мне здаецца, што людзі з камэрцыйным складам мысьленьня здатныя знайсьці выгаду ад існаваньня свайго цмока. Я чуў пра шатляндзкага фэрмэра, які дадумаўся закаркоўваць ваду з возера Лох-Нэс у бутэлькі й прадаваць яе за тры эўра за пляшку. Чамусьці жыхары нашых мясьцінаў, дзе жыў, жыве або мог бы жыць цмок, не сьпяшаюцца раскрываць ягоную таямніцу. Наадварот, часам кажуць пра тое, што ніякага цмока тут няма й быць ня можа. І пры гэтым выяўляюць той жа характар, што й сам цмок, які ня хоча вытыркацца. Мяркую, што гэта старадаўняя беларуская звычка — не паказваць сваіх дзівосаў, трымаць іх на ўсялякі выпадак пад замком, якая дапамагала выжываць як самім беларусам, гэтак і іхным набыткам.

*— Давайце ўявім сабе такую фантасмагарычную сытуацыю, калі раптам бы ў Беларусі знайшоўся гэты самы цмок. Якія наступствы гэта мела б для Беларусі й для беларусаў?*

— Найперш праклалі б асфальт да помніка Яну Баршчэўскаму, да возера Нешчарда, дзе стаіць гэты помнік, і да фальварку Мурагі, які калісь знаходзіўся на беразе Нешчарды. Гэтыя мясьціны абрасталі б самымі рознымі інфраструктурамі гэтак званага экалягічнага турызму.

*— Ці ня марны занятак для беларусаў — палягаваць на цмока? А мо ў гэтым нешта навучальнае ёсьць?*

— Вобраз страчанай істоты, цмока можа навучыць перадусім цярплівасьці, майстэрству жульвэрнізму — гэта значыць, задавальненьню юнацкай прагі прыгодаў, майстэрству страчаных каштоўнасьцяў. Пра тое, што вобраз цмока сапраўды зьяўляецца часткай нацыянальнай скарбніцы, сьведчаць ня толькі міталёгія й фальклёр, але й літаратура таксама.

*— Беларускі цмок — шматгаловы. І калі сьцінялі адну галаву, дык вырастала іншая. Відаць, і вяртаньне цмока можа мець наступствы разнастайныя?*

— Сапраўды, беларускі цмок мог мець і тры, і шэсьць, і дзевяць, і дванаццаць галоваў. І сапраўды, гэтыя галовы мелі здольнасьць, як кажуць навукоўцы, да рэгенэрацыі. Кожная мела свой характар, мэнталітэт. І таму вобраз цмока амбівалентны. Ён зьмяшчае ў сабе ня толькі зло альбо жах. Ён зьмяшчае й нейкія цноты, пра якія пісаў яшчэ наш зямляк, навуковец, дыдактык, асьветнік XVII стагодзьдзя Сымон Полацкі ў вершы «Зьмей»:

***Што толькі вокам кожны бачыць можа,***
***Тое, як прыклад, даў ты людзям, Божа.***
***Вось зьмей атрутны, сьведчыць ён сабою:***

*Жыць трэба згодна з воляй найсьвятою.*
*Не маўленьнем сьведчыць, але прыраджэньнем.*
*Вучыць нас пакоры нізкім папаўзьненьнем.*
*Зьвіты ён колам, кола — вечнасьць значыць:*
*Чульлівец прышласьць тут сваю пабачыць.*
*Сыты й зямлёю: попел хлеб пакрые*
*Нам, як Давіду, за правіны злыя.*
*Цела падставіць пад удар, ня голаў,*
*Значыць: памерці кожны будзь гатовы*
*За Хрыстуса Пана. Не шкадуй нічога*
*Ты ў сваім целе, у тварэньні Бога.*



## ПАХОД НА ГРУНВАЛЬД

*Размова з Генадзем Сагановічам*

**Пачатак беларуска-нямецкіх дачыненьняў у эпоху Сярэднявечча айчынная гістарычная навука зьвяла да храналёгіі захопніцкіх паходаў нямецкіх рыцараў на беларускія землі. Сапраўды, гістарычныя дакумэнты сьведчаць, што зь першых гадоў XIII стагодзьдзя й аж да крывавай, але пераможнай для беларускіх войскаў Грунвальдзкай бітвы ў 1410 годзе, адбываліся шматлікія войны паміж харугвамі беларускіх княстваў і нямецкіх ордэнаў. А затым стагодзьдзямі на беларускія землі не ступала нямецкая нага.**

*— Ці сапраўды гэта так? Ці ўсё ведалі й ведаюць сёньня гісторыкі пра беларуска-нямецкія дачыненьні ў Сярэднявеччы?*

— За 1990-я гады мы здабылі многае, што ўпершыню трапіла ў нашае поле ўвагі. З розных прычынаў раней не былі ўведзеныя ў навуковы зварот зьвесткі з многіх крыніцаў, у тым ліку з самага важнага корпусу — прускіх ды інфлянцкіх хронік. У нас не было кваліфікаваных спэцыялістаў, таксама існаваў моўны бар'ер. Цяпер мы сабралі гэтыя прускія хронікі й можам зь імі працаваць. Архівы нямецкіх ордэнаў вельмі багатыя, і яны мусяць быць у нашым ужытку.

*— Паводле той гісторыі, якую ўсе вывучалі ў савецкі час і вывучаюць цяпер, беларуска-нямецкіх дачыненьняў не існавала да пачатку XIII стагодзьдзя. І распачынаюцца яны ў 1202 годзе з захопу нямецкімі рыцарамі вусьця Заходняй Дзьвіны. А затым адбываецца шэраг паходаў полацкіх дружынаў на крыжакоў. Чаму гэта раптам немцы*





*рушылі на беларускія землі? Чым прывабіла іх Дзьвіна?*

— Галоўны інтарэс, які прывёў немцаў у Ніжняе Падзьвіньне, быў не ваенны. Гэта была калянізацыя й канфэсійная місія. Нямецкая калёнія, якая паўстала ў канцы XII — пачатку XIII стагодзьдзя на Балтыйскім узьбярэжжы, ня мела на самым пачатку ніякіх намераў канфліктаваць са славянскімі землямі. Першы місіянэр Майнгарт папрасіў у полацкага князя Ўладзімера дазволу на хрысьціянізацыю ліўскіх плямёнаў. Але калі адкінем усе эмоцыі й пачнем аналізаваць факты, дык заўважым, што полацкі князь Уладзімер двойчы, у 1203 і 1206 гадах, спрабаваў пайсьці вайной на гэтую нямецкую калёнію, на Рыгу. Абедзьве спробы былі няўдалыя, і за гэты час двойчы біскуп Альбэрт, які фактычна тады ўзначальваў нямецкую калёнію на Дзьвіне, у 1206 і 1210 гадах выходзіў з ініцыятывай мірных дачыненьняў з Полацкам. Урэшце гэтыя мірныя дачыненьні ўсталяваліся. І фактычна мы ня можам знайсьці ніводнага паходу нямецкіх войскаў з Інфлянтаў на полацкую зямлю да 1330-х гадоў. Інтарэсы ўзаемавыгаднага абмену, гандлю пераважалі.

*— Значыць, праблема не ў шавіністычных памкненьнях нямецкіх плямёнаў?*

— У Сярэднявеччы нацыянальнай варожасьці яшчэ ўвогуле не было. І нямецкая хваля паходаў на Ўсход — гэта ня ціск, як лічылася раней, гэта парыў, хваля калянізацыі. Яна была выкліканая дэмаграфічным выбухам у нямецкіх землях. Немцы кіраваліся не інтарэсамі захопу чужой зямлі, але шукалі лепшага жыцьця. Ёсьць яшчэ адзін аспэкт: гэта — паход зь мячом, рыцарства. Але таксама тут трэба зыходзіць з тае палітычнае тэалёгіі, паводле якой рыцары мелі павіннасьць барацьбы з паганствам. Яны былі воінамі

Хрыстовымі. Натуральна, у рэальнасьці гэтая ідэя дыскрэдытавалася, але фактура пацьвярджае, што ў першую чаргу рыцары кіраваліся высакародным доўгам. Я прыгадваю гісторыю Освальда фон Валькенштайна, вядомай асобы XIV стагодзьдзя, які ў дзесяцігадовым узросьце пехам пайшоў за рыцарамі аддзелу аўстрыйскага герцага, каб ваяваць на мяжы Вялікага Княства Літоўскага з паганцамі.

*— Як паўплывала нямецкая агрэсія на фармаваньне Вялікага Княства Літоўскага?*

— Вайна зь немцамі мела пэўнае значэньне для кансалідацыі беларускіх і літоўскіх земляў у адзіную дзяржаву. Але вэрсія, прынятая ў нашай гістарыяграфіі ў апошнія гады, перабольшвае значэньне заходняга фактару. Выразных сьведчаньняў, што менавіта вайна зь немцамі штурхала беларускія й літоўскія землі ў адну дзяржаву, мала або ўвогуле іх не знаходзім. Панямоньне ўвайшло ў Вялікае Княства Літоўскае наагул задоўга да вайны зь немцамі. Беларускі Ўсход і ўкраінскае Падняпроўе ніколі ня ведалі нямецкай пагрозы. Нямецкі фактар важны быў у справе кансалідацыі беларускіх земляў і літоўскіх у адну дзяржаву толькі ў XIV стагодзьдзі, калі ваенныя канфлікты дасягнулі найбольшай колькасьці, а немцы для Вялікага Княства сапраўды былі вельмі небясьпечныя.

*— Ці паўплывалі войны паміж ВКЛ і нямецкімі ордэнамі на беларускую культуру?*

— Гэта вельмі цікавая праблема, якую трэба яшчэ дасьледаваць. Пакуль што я магу акрэсьліць толькі невялікія штрыхі. Яшчэ пры Міндоўгу наймалі арбалетнікаў-немцаў. Потым высьвятляецца, што ВКЛ у 1370-х гадах пазычае агняпальную зброю таксама ў нямецкіх ордэнаў. А нямецкія ордэны тады вайскова й тэхнічна былі на першым месцы ў Эўропе. Ваеннае майстэрства, узбраеньне, тэхніка будаўніцтва (у прыватнасьці, замкі, касьцёлы) — усё гэта ў Вялікім Княстве фармуецца пад вялізным уплывам немцаў. Рамесьнікі таксама пераймалі досьвед нямецкіх калегаў, якія жылі ў беларускіх гарадах. Нямецкія купцы гандлявалі зь беларускімі. Значны ўплыў заходняй цывілізацыі ажыцьцяўляўся праз немцаў. Каля ста лексэмаў, вядомых у старабеларускай мове, запазычаныя ад немцаў. Блізу пяцідзесяці словаў у старанямецкай мове, якія ўзятыя ад «русінаў». Так што й наш бок уплываў. Што тычыцца палітычных уплываў, дык пашырэньне магдэбурскага права на беларускіх землях таксама абавязанае шчыльным кантактам зь немцамі. Нарэшце, тут існавалі нямецкія супольні, грамадкі. Пра канфэсійныя дачыненьні, уплывы ўвогуле ніколі не гаварылася. Мала хто ведае, што ў Полацку ў сярэдзіне XIII стагодзьдзя зьявіўся каталіцкі касьцёл, адкрыты нямецкімі місіянэрамі, і нейкі час там было нават біскупства каталіцкае, якое з прыходам да ўлады князя Трайдзеня, ваяўнічага паганца, было занядбана й зьнікла.

*— А цяпер, напэўна, пра цэнтральную падзею беларуска-нямецкіх дачыненьняў у Сярэднявеччы — пра Грунвальдзкую бітву 15 ліпеня 1410 году, калі Тэўтонскі ордэн быў разгромлены аб'яднанымі войскамі Польскага Каралеўства й Вялікага Княства Літоўскага. Была спыненая амаль дзьвюхсотгадовая агрэсія нямецкіх рыцараў на Ўсход. Расклад сілаў у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе зьмяніўся на карысьць славянскіх народаў. Стагодзьдзямі пазьней на беларускія землі не ступала нага нямецкіх заваёўнікаў. З гледзішча найноўшых ведаў — ці сапраўды ўсё гэта так?*

— Гісторыя ня ёсьць казкаю, якая пераказваецца з пакаленьня ў пакаленьне. Кожнае слова гісторыі ня мае гарантаванага статусу праўды. Усё залежыць ад

нашых ведаў. За апошнія гады шмат адкрылася новых крыніцаў, якія дазваляюць і на Грунвальд паглядзець інакш, хоць цяжка адмаўляцца ад прыемных, гераічных мітаў уласнай гісторыі. Разуменьне значэньня Грунвальду ў многім вызначалася стэрэатыпамі, сфармаванымі яшчэ ў XIX стагодзьдзі. Тады быў вызначальны гэтак званы панслявізм. Гэная ідэалёгія варожа ставілася да ўсяго нямецкага сьвету. Адыёзная ідэалёгія панславізму культывавалася й за савецкім часам. Але вернемся да значэньня Грунвальдзкай бітвы. Я не падкрэсьліваў бы, што Грунвальд паклаў канец агрэсіі. Агрэсія ўжо й так завяршалася. Эпоха клясычнага нямецкага Ордэну, які змагаўся з паганскай Літвою, гэта значыць, і з намі, завяршылася ў нашым мястэчку Крэве падпісаньнем уніі, паводле якой паганская Літва мусіла хрысьціцца. І Ордэн пачаў губляць прыток новых сілаў і ўвогуле ідэалягічную падставу для гэтай вайны. А ў 1403 годзе папа сваёй булаю наагул забараніў нямецкім рыцарам ваяваць Вялікае Княства Літоўскае. Дакумэнты сьведчаць, што Ордэн з пачатку XV стагодзьдзя быў схільны да замірэньня зь Вялікім Княствам і ўвогуле зьмякчыў сваё стаўленьне да нашых земляў. Важна, што ў 1409 годзе Нямецкі ордэн абвяшчае вайну не Вялікаму Княству Літоўскаму, а Кароне — гэта значыць, Польшчы.

Ані ў якім разе нельга атаясамліваць Карону й ВКЛ. У гэтым трохкутніку — Вільня—Кракаў—Мальборк — ішла вельмі складаная, напружаная гульня. Кожны дамагаўся свайго. Яшчэ да Грунвальду была дамова, паводле якой Ордэн стаўся галоўным хаўрусьнікам Вялікага Княства Літоўскага. На пачатку XV стагодзьдзя вайсковыя фармаваньні Ордэну шмат разоў дапамагалі Вялікаму Княству ў вайне з Масквою. Фактычна дачыненьні ўжо нармалізаваліся. Грунвальдзкая бітва адбывалася не на нашых землях, а ў глыбіні тэрыторыі Ордэну. А там ужо Вітаўт і Ягайла, якія адчувалі сябе мацнейшымі, проста дамагліся рэваншу. Нават пасьля разгрому ордэнскага войска на Грунвальдзкім полі немцы ўсё ж ступалі на нашую зямлю, бо праз дзесяць гадоў Вітаўт і Ягайла зноў разьвязалі вайну. А ў адказ у час аднаго з паходаў ордэнскі кантынгент дайшоў аж да нашага Падляшша. І толькі ў 1420-х гадах Нямецкі ордэн сапраўды стаў цалкам трымацца мірных дачыненьняў зь Вялікім Княствам Літоўскім. Мяжа Вялікага Княства Літоўскага з Прускім ордэнам зрабілася самай трывалай у Эўропе. А з Польшчаю Ордэн яшчэ працягваў ваяваць.

## БЕЛАРУСКІЯ КАЛЁНІІ

*Размова з Алегам Трусавым*

**Палітычная гісторыя складваецца так, што мацнейшыя краіны заваёўваюць слабейшыя. Амаль як у прыродзе: больш моцны зьядае слабейшага. Шмат якія краіны, вялікія й ня вельмі, мелі доўгі час свае калёніі ў розных частках сьвету. Напрыклад, маленькая Партугалія яшчэ зусім нядаўна мела свае калёніі ў Афрыцы й Азіі — дастаткова прыгадаць Анголу й Мазамбік.**

*— А Беларусь, беларусы? Ці былі ў іх калёніі, ці мелі й яны нейкія залежныя ад іх тэрыторыі?*

— Так, мелі. І даволі працяглы час. Бо для нас заўжды выхад да мора меў важнае эканамічнае значэньне. Менавіта прагай выйсьця да мора й тлумачыцца заваёва чужых тэрыторыяў, бо бяз мора няма сапраўднага гандлю. Усясьветны гандаль у далёкім мінулым быў гандлем марскім.

*— Якія з сувэрэнных дзяржаваў, што знаходзіліся на тэрыторыі этнічнай Беларусі ці былі ўтвораныя этнічнымі беларусамі, заваёўвалі сабе калёніі?*

— Першыя дзьве калёніі на Заходняй Дзьвіне стварыла Полацкая дзяржава. Гэта — васальныя полацкія княствы на Заходняй Дзьвіне Герцыке й Кукенойс. Іхныя вытокі сягаюць у X—XI стагодзьдзі. Першы фарпост Полацку на землях ліваў і зэмгалаў — горад Герцыке — меў магутныя ўмацаваньні ўжо ў X стагодзьдзі. У «Хроніцы Лівоніі» Гэнрыха Латвійскага ён згадваецца каля 1203 году. Гэта быў багаты горад, які меў некалькі праваслаўных храмаў і свайго князя. Немцы нават называлі яго «Каралём». Далей на захад ад Герцыке прыкладна ў XI стагодзьдзі ўзьнікае яшчэ адна полацкая калёнія на адлегласьці 338 кілямэтраў ад мэтраполіі — Кукенойс (цяпер — Кокнэсэ). У нямецкай хроніцы 1205 году запісана, што там «сядзеў» князь (кароль) Вячка.





*— Вельмі рэдка можна кагосьці ці штосьці заваяваць без супраціву. Няўжо гэтыя народы здаваліся Полацку самі?*

— Ні ў якім разе. Пісьмовыя крыніцы сьведчаць, што ў 1106 годзе зэмгалы паднялі паўстаньне супраць Полацку, але посьпеху ня мелі. Найбольш падпарадкаваныя Полацку былі лівы. У 1186 годзе яны нават хадзілі з полацкімі князямі ў паход на Друцак. Гэта значыць, што на нашай тэрыторыі было й каляніяльнае войска. Абедзьве калёніі былі месцам збору даніны, а таксама буйнымі гандлёва-рамеснымі цэнтрамі. Праз мясцовых князёў падпарадкоўваліся полацкаму князю Ўладзімеру прызначаныя ім старшыны родам з тутэйшых плямёнаў. Стасункі паміж заваёўнікамі й паланёнымі народамі складваліся адносна мірна, бо ў адрозьненьне ад крыжакоў полацкія князі не прымушалі ліваў, зэмгалаў і латгалаў гвалтам прымаць хрысьціянства, і стасункі паміж імі былі стабільныя. Таму й новыя «прыхадні-крыжакі» прызнавалі права палачанаў атрымліваць даніну зь ліваў. А лівы плацілі даніну, бо верылі, што за гэта іх абароняць.

*— Як жа палачане страцілі свае калёніі, а значыць, і непасрэдны выхад у Балтыйскае мора?*

— Спачатку з уласнага недагляду. У 1186 годзе полацкі князь Уладзімер дазволіў нямецкаму місіянэру біскупу Майнгарту хрысьціць ліваў і іншыя плямёны, сваіх васалаў. У 1201 годзе нямецкія купцы й манахі заснавалі ў вусьці Дзьвіны горад Рыгу, а біскуп Альбэрт з Брэмэну стварыў на захопленых землях у

1202 годзе рэлігійны Ордэн мечаносцаў. Такім чынам, Полацку зачынілі шлях да мора. Дарэчы, у 1204 годзе крыжакі разрабавалі й захапілі Канстантынопаль, сталіцу праваслаўнага хрысьціянства, што не магло не адгукнуцца й на Балтыйскім моры. Тым больш, што ваенныя дзеяньні паміж крыжакамі й палачанамі пачаліся ў 1203 годзе. У 1206 годзе полацкае войска абклала Рыгу й замак Гольм, але ўзяць іх не змагло, бо крыжакі былі лепш узброеныя. Крыжацкія балісты на значнай адлегласьці забівалі й ранілі полацкіх вершнікаў. Ужо ў 1207 годзе ўся Лівонія была захопленая й ахрышчаная немцамі. Неўзабаве іхныя войскі напалі на полацкія калёніі. Спачатку ў 1209 годзе захапілі й разбурылі Кукенойс і на ягоным месцы збудавалі замак, а потым у тым жа годзе захапілі Герцыке, прычым у палон трапіла нават жонка мясцовага князя Ўсевалада.

*— Гісторыя сьведчыць, што беларусы ўмелі заключаць мірныя дамовы. У дадзеным выпадку праблема разьвязвалася таксама мірнымі дамовамі?*

— Так, і найперш дзякуючы вельмі мудрай палітыцы полацкага князя Ўладзімера. У 1210 годзе ён падпісаў мірную дамову зь біскупам Альбэртам і гандлёвае пагадненьне з Рыгай, а ў 1214 годзе канчаткова аддаў крыжакам Кукенойс і Герцыке. У 1264 годзе ўладаньні крыжакоў ушчыльную адышлі да межаў Полацкай дзяржавы. Полацкі князь Гердзень падпісаў пагадненьне з Ордэнам, у якім былі пазначаныя правы нямецкіх купцоў у Полацку й полацкіх у Рызе. Немцы збудавалі ў Полацку каменны касьцёл Сьвятога Пятра, на гарышчы якога захоўвалі свае тавары. Была праваслаўная полацкая царква і ў Рызе. Неўзабаве Полацкая дзяржава ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, і пачаўся новы этап у нашых стасунках зь немцамі.



беларуская Атлянтыда

*— Што ўяўляў сабой балтыйскі рэгён у XV—XVI стагодзьдзях?*

— Гэтая тэрыторыя мела назву Лівонія, альбо Ліфлянд, ці Інфлянты. Тут мясьцілася канфэдэрацыя зь пяці дзяржаваў, якой намінальна кіравалі папа рымскі й імпэратар Найсьвяцейшай Рымскай Імпэрыі. Канфэдэрацыю складалі Лівонскі (альбо Інфлянцкі) ордэн, арцыбіскупствы Рыскае, Дэрпцкае, Эзэль-Віцкае й біскупства Курляндзкае.

*— Давайце паназіраем за хадой гісторыі. Пачалася Лівонская вайна. Войскі Івана Жахлівага, якія перад гэтым заваявалі Казанскае ханства, у 1558 годзе захапілі порт Нарву, і былы наўгародзкі гандаль аднавіўся — гандаль, які ёсьць рухавіком гісторыі. Дык як гэты рухавік кіраваў гісторыяй далей?*

— Войскі Масковіі хутка захапілі большую частку Лівоніі, палячы й рабуючы гарады й замкі. Такога азіяцкага зьдзеку эўрапейцы ня бачылі. Кожны з удзельнікаў Лівонскай канфэдэрацыі ратаваўся як мог. Эзэльскі япіскап у 1560 годзе прадаў сваё ўладаньне дацкаму каралевічу Магнусу. Зь яго ўзяў прыклад і япіскап рэвэльскі, але ў 1561 годзе Рэвэль і паўночную Эстонію захапілі швэды. Курляндзкі япіскап Ёган IV Мюнгаўзэн яшчэ ў 1559 годзе перадаў сваё біскупства дацкаму каралю, і той аддаў гэтыя землі свайму брату Магнусу. Такім чынам, у рукі Даніі трапіла паўночная Латвія й паўдзённая Эстонія.

*— А як склаўся лёс Лівонскага ордэну?*

— Лівонцы пастанавілі перадаць свой лёс у рукі Вялікага Княства Літоўскага. 5 сакавіка 1562 году магістар ордэну Готард Кетлер у Рыскім замку перадаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму пячатку Ордэну, ключы ад Рыгі й зьняў зь сябе ордэнскую мантыю. Тут

варта прыгадаць «Хроніку Лівонскай правінцыі», напісаную эстонскім сьвятаром і школьным настаўнікам Балтазарам Русавым. Упершыню яна была надрукаваная ў 1578 годзе ў Растоку.

***Польскі кароль Жыгімонт Аўгуст, з прапановы вялікага магістра Готарда Кетлера, узяў пад свой кантроль тыя землі й гарады ў Лівоніі, што засталіся не захопленымі. Ён аддаў у спадчыннае валоданьне магістру некаторыя землі й замкі ў Курляндыі і ў Рыскім япіскапстве й назваў яго герцагам Курляндзкім і графам Сэмігальскім. Тады скончылася магістарства Тэўтонскага ордэну ў Лівоніі, і былі створаныя два патомныя сьвецкія княствы: адно Курляндзкае, падараванае герцагу, другое ў зямлі летаў і япіскапстве Рыскім, якое кароль пакінуў сабе й якое цяпер завецца Задзьвінскім княствам.***

Так у нас зноў зьявілася калёнія, і нават не адна, а дзьве. І гэта стала рэальнасьцю дзякуючы мудрасьці нашых магнатаў. Берасьцейскі сойм Вялікага Княства Літоўскага, які адбыўся напачатку 1566 году, зрабіў часовым кіраўніком Лівоніі Яна Хадкевіча. Ён дасягнуў поўнага злучэньня Лівоніі з Княствам, што адбылося на Гарадзенскім сойме напрыканцы 1566 году. Лівонцы прызналі сябе часткай Вялікага Княства Літоўскага, але захавалі свае мясцовыя правы. У часе Люблінскай уніі ВКЛ здолела захаваць свае правы на Лівонію, як на Задзьвінскае герцагства, гэтак і на Курляндыю. Да канца існаваньня Рэчы Паспалітай Курляндыя была калёніяй як ВКЛ, гэтак і Кароны. Такое валоданьне адной тэрыторыяй дзьвюма краінамі адначасна завецца кандамініюмам. А вось Задзьвінскае герцагства цалкам належала толькі Вялікаму Княству Літоўскаму.

*— Мы гаворым, што прычынаю калянізацыі было жаданьне гандляваць. Чым перадусім гандлявала ВКЛ з балтыйскім рэгіёнам?*

— З Рыгі ў гарады й замкі ВКЛ везьлі соль, селядцы, палотны, шоўк, віно, піва, вострыя прыправы, жалеза й вырабы зь яго, медзь, волава й сьвінец. З ВКЛ вывозілі ў Рыгу будаўнічыя бярвёны, дровы, скуры, смалу, збожжа, каноплі, лён, воск, сала, канапляны алей.

*— Каб патрапіць у Балтыйскае мора, трэба было мець уласны рачны флёт...*

— Беларусы мелі яго, і немалы. Гэта — вялікія судны, якія называліся «ўчаны», а таксама стругі, паўстругі, шкуты, лодкі й плыты. Існавалі й вялікія баркі, што бралі на борт да 12 тысяч пудоў грузу. Былі й мясцовыя лёцманы, якія за вялікую плату (300 копаў грошаў) праводзілі стругі праз парогі на Дзьвіне.

*— Як склаўся лёс Задзьвінскага герцагства, або Інфлянцкага княства?*

— Спачатку часовым губэрнатарам гэтай тэрыторыі быў былы магістар Кетлер. 26 сьнежня 1566 году Гарадзенскі сойм уключыў Інфлянцкае княства ў склад ВКЛ. Кіраваў гэтай калёніяй губэрнатар, які прызначаўся каралём і вялікім князем літоўскім. Сталіцай быў горад Дынабург (потым — Дзьвінск, цяпер — Даўгаўпілс). Пройдзе ўсяго некалькі дзесяцігодзьдзяў, і пачнецца вайна Рэчы Паспалітай са Швэцыяй (1600—1629). Першы ўдар прыпадзе менавіта на Задзьвінскае герцагства, і яно практычна распадзецца. Пасьля 1629 году ў ВКЛ засталася толькі Латгалія, а паўдзённая Эстонія й паўночна-заходняя частка Латвіі разам з Рыгай адышлі да Швэцыі. Пасьля Паўночнай вайны ў 1721 годзе гэтыя землі забрала Расея. Латгалія ў складзе ВКЛ была падзеленая на чатыры староствы: Дынабурскае, Рэжыцкае, Люцынскае й Марыенгаўзэнскае. У 1667 годзе Сойм ВКЛ

аб'яднаў іх у Інфлянцкае ваяводзтва з цэнтрам у Дынабургу. Пасьля Першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе Латгалію захапіла Расея.

*— Пасьля таго, як калёнія здабывае незалежнасьць ці пераходзіць у рукі іншай дзяржавы-ўладара, лёс калёніі складваецца па-рознаму. Часам ён шчасьлівы, а часам трагічны. Дык які лёс напаткаў гэтыя тэрыторыі пазьней?*

— Ад 1772 да 1776 году гэта была Дзьвінская правінцыя Пскоўскай губэрні, наступныя тры гады яна была ў складзе Полацкай губэрні, пазьней уваходзіла ў Беларускую губэрню (1796—1802). Усё XIX стагодзьдзе й аж да 1917 году Латгалія належала Віцебскай губэрні. 11 жніўня 1920 году Ленін перадаў Латвіі тры паветы Віцебшчыны, часткова населеныя беларусамі, — Дзьвінскі, Рэжыцкі й Люцынскі паветы, а таксама 4 мільёны рублёў золатам, каб выключыць Латвію зь ліку ворагаў. Таксама ў 1921 годзе суседняя новая краіна Літва перадала Латвіі 299 квадратных кілямэтраў у ваколіцах Дзьвінску (Ілуцкі павет) зь пераважна беларускім насельніцтвам. Такім чынам, Латгалія ўвайшла ў склад Латвіі.

*— А што сталася з Курляндыяй?*

— Курляндыя была аўтаномнай часткай ВКЛ. Ад 1617 да 1795 году дзяржаўны лад вызначала мясцовае заканадаўства — Курляндзкія статуты. Найбольшую магутнасьць яна дасягнула пры герцагу Якабу (1640—1682), які меў свой і даволі някепскі вайсковы й гандлёвы флёт, з дапамогай якога ён захапіў дзьве калёніі ў Амэрыцы й Афрыцы.

*— Мы гаварылі пра тое, што старажытная беларуская дзяржава мела дзьве калёніі. Цяпер даведваемся, што дзякуючы тым дзьвюм калёніям беларусы набылі яшчэ дзьве?*





— Так. І вельмі экзатычныя. У Афрыцы некалькі гадоў, ад 1651 да 1655, Курляндыі належала краіна Гамбія. У XV стагодзьдзі сюды прыйшлі партугальцы, потым у XVI стагодзьдзі тут зьявіліся ангельцы, французы й галяндцы. А ад 1786 да 1965 году тут уладарылі брытанцы. Другая калёнія — выспа Табага ў Вэст-Індыі. Яна належала Курляндыі даўжэй — ад 1645 да 1665 году. Выспа займала вельмі выгаднае стратэгічнае становішча. Ейная плошча 300 квадратных кілямэтраў, яна пакрытая вечназялёнымі лясамі й мае высокія горы. Такім чынам, праз Курляндыю ВКЛ апынулася ў Афрыцы й Новым Сьвеце.

*— Ня проста складваліся стасункі паміж Курляндыяй і Расеяй. Калі пачынаецца канфлікт?*

— У 1709 годзе герцагам стаў Фрыдрых Вільгельм Кетлер, які праз год ажаніўся са сваячкай Пятра I — Ганнай Іванаўнай. Неўзабаве, у 1711 годзе, ён памёр, і за ўладу разгарнулася спрэчка паміж Ганнай Іванаўнай і дзядзькам Фрыдрыха — Фэрдынандам. Расейскі ўрад запатрабаваў ад Курляндыі плаціць штогод 40 тысяч рублёў на ўтрыманьне Ганны Іванаўны, якая неўзабаве стала расейскай імпэратрыцай. У 1726 годзе ляндтаг Курляндыі абраў герцагам Морыца Саксонскага, пазашлюбнага сына караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II Моцнага. Аднак у верасьні 1727 году ў краіну ўвайшлі расейскія войскі й вярнулі ўладу Фэрдынанду. У 1737 годзе герцагам абралі графа Эрнста Ёгана Бірана, які з 1730 году жыў пры двары Ганны Іванаўны й быў рэгентам Расеі. Некаранаваны муж Ганны Іванаўны Біран практычна кіраваў Расеяй.

*— Тэрмін «біранаўшчына», які існуе ў расейскай літаратуры й гісторыі, зьвязаны менавіта з гэтымі падзеямі?*

— Так. І гэтым гістарычным падзеям прысьвечаныя

п'есы, раманы, хоць расейскія гісторыкі ня любяць гэтага часу, лічаць яго пэрыядам застою і заняпаду. Але менавіта ў гэты час быў абмежаваны тэрмін вайсковай і адміністрацыйнай службы ў Расеі да 25 гадоў. У 1731 годзе заснаваны Кабінэт міністраў, а ў 1734 годзе была падпісаная Гандлёвая дамова з Брытаніяй. Расейскія войскі здолелі захапіць у туркаў горад Азоў. Расквітнела й Курляндыя, асабліва ейная сталіца горад Мітава (цяпер Елгава). Тут былі збудаваныя цудоўныя палацы сярод прыгожых паркаў. Пасьля сьмерці расейскай імпэратрыцы ў 1740 годзе Бірана арыштавалі й пазбавілі ўсіх пасадаў. Але ў 1763 годзе Кацярына II вярнула Бірану ўладу ў Курляндыі. У 1769 годзе ён перадаў сваю пасаду сыну Пятру.

*— Як паўплываў падзел Рэчы Паспалітай на лёс беларускай каляніяльнай палітыкі?*

— Вялікае Княства Літоўскае трымалася за свае калёніі да канца. Нават пасьля Другога падзелу ў 1793 годзе, калі Расея захапіла й Менск, Курляндыя была калёніяй Вялікага Княства. Аднак, праз год, у 1794 годзе, ляндтаг Курляндыі выступіў супраць паўстаньня Касьцюшкі, а 7 сакавіка 1795 году прагаласаваў за добраахвотнае далучэньне да Расеі. 17 сакавіка герцаг Пётар адрокся ад пасагу, і Курляндыя, дарэчы, разам з ВКЛ і Польшчай, зьнікла з мапы Эўропы. У 1796 годзе была ўтвораная Курляндзкая губэрня Расеі.



# ДЫПЛЯМАТЫЧНЫЯ РАЗМОВЫ З МАСКОВІЯЙ

## *Размова з Алесем Петрашкевічам*

**Разважаючы над беларуска-расейскімі стасункамі ў гістарычнай пэрспэктыве, мы часьцей за ўсё кажам пра тое, што дачыненьні паміж Масковіяй і Вялікім Княствам Літоўскім вызначаліся шматлікімі войнамі. Масковія хацела заваёўваць беларускія землі, у сваю чаргу, беларусы не маглі не даваць адпору.**

*— Але ці заўсёды дачыненьні двух суседніх народаў вызначаліся войнамі? Ці заўсёды беларусы хадзілі на Масковію біцца, а мо хадзілі й мірыцца? Ці існавала ў аддаленай гісторыі дыпляматыя дзеля разьвязаньня беларуска-расейскіх дачыненьняў?*

— Дакумэнты сьведчаць, што дыпляматыя Вялікага Княства набывае моц яшчэ ў пачатку XVI стагодзьдзя. Ужо тады людзі займаліся гэтым прафэсійна, у прыватнасьці, у эўрапейскіх унівэрсытэтах рыхтаваліся дыпляматы. Яны ведалі замежныя мовы, філязофію, прынцыпы дыпляматыі. Сярод першых дыпляматаў самай знакавай фігурай быў Астафі Валовіч. Гэта — канцлер Вялікага Княства Літоўскага, фігура ўплывовая, даволі самастойная й надзвычай патрыятычная. Ягоным вучнем быў Леў Сапега. 27-гадовы Валовіч разам з каралём выправіўся зь вялікім пасольствам да Івана Жахлівага, каб заключыць калі ня мір, дык хоць замірэньне.

*— У чым была складанасьць праблемы й наколькі вялікая была пагроза з боку Масковіі?*

— Турбавала найперш самастойнасьць, незалежнасьць. Уявіце сабе, што Лівонія заваяваная Іванам Жахлівым, Полацак паў, 80-тысячнае войска ўжо на

Дняпры. Трэба было шукаць ратунку праз перамовы. На такія перамовы Масква ня вельмі ішла. Ёсьць такі запіс у летапісе:

***Цяпер вам трэба баяцца ўжо не за Полацак, бо ён ужо ў нашых руках, трэба баяцца ўжо за Вільню, так што вы ня вельмі нам дыктуйце.***

Але гісторыя павярнулася так, што пасольства Сапегі не сустрэлася з Іванам Жахлівым. Той памёр, каля яны былі ў дарозе, і сустракацца давялося зь Фёдарам Іванавічам, якому адмоўную ацэнку дае Сапега:

***Чалавек гэта недалёкі, ня вельмі дасьведчаны. Калі я ў яго быў на аўдыенцыі, ён сядзеў на пасадзе, трымаў дзяржаву й скіпэтар, глядзеў на іх і недарэчна пасьміхаўся.***

Натуральна, гэта выкарысталі. Але ня так проста ўсё адбывалася, бо мы ведаем, што Масковіяй, дый кожнай іншай дзяржавай, кіруе ня толькі самадзержац, але й ягонае атачэньне. У Масковіі гэта былі баяры, якія вельмі дакладна ведалі маскоўскі інтэрас.

*— І якія аргумэнты прыводзіла беларускае пасольства, да чаго апэлявала?*

— Іван Жахлівы памёр, прыйшоў новы цар. Памёр і Стэфан Баторы, кароль Польскі. І ў Польшчы дзьве групоўкі, Збароўскіх і Замоўскіх, хацелі пасадзіць свайго прэтэндэнта на польскі трон. Тады Валовіч і Сапега прапанавалі так: калі вы прапаноўваеце двух польскіх кандыдатаў на адну пасаду, дык мы запросім на Княства Літоўскае, калі не на ўсю Рэч Паспалітую, Фёдара Іванавіча, маскоўскага цара й князя.

*— Гаворка ішла пра нейкі саюз ці пра адзіную дзяржаву?*

— Была звычайная дыпляматычная гульня. Можна было нешта прапанаваць Масковіі, пакуль не ўціхамірыцца вайна. Так было падпісанае замірэньне, і пакуль абіралі польскага караля, Сапега з Валовічам галаву чмурылі Фёдару, абяцаючы яму й каралеўскі, і княскі пасад, а разам з тым шантажавалі дзьве польскія групоўкі. Асноўнай жа мэтай было выйсьці з залежнасьці ад Польшчы, фактычна разарваць Люблінскую унію й зьберагчыся ад Масквы, застацца самастойнымі. І трэба было такога абраць караля, які, не чытаючы, падпісаў бы Трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году, што рыхтаваў Валовіч, а дапрацоўваў Сапега. У гэтым Статуце нават ня згадвалася унія. Княства фактычна павінна было выйсьці з Рэчы Паспалітай і застацца самастойным. У гэтай гульні быў выкарыстаны й вось гэты маскоўскі фактар.

*— Ад чаго прынцыпова не маглі адмовіцца Валовіч і Сапега ў размове з Масквой, ідучы на кампрамісы?*

— Калі ўжо быў Барыс Гадуноў на царстве, тады Сапега паехаў з другім вялікім пасольствам весьці перамовы. Быў распрацаваны тэкст уніі, у якім налічвалася каля дваццаці пунктаў. Усё там было, акрамя пункту, што мы губляем незалежнасьць. Запісалі, што ў нас застаецца сваё войска, свае законы, свая тэрыторыя, свае грошы. І толькі калі нехта нападзе на Масковію ці Княства Літоўскае, тады таму, хто трапіў у бяду, будзе аказаная дапамога.

*— У якой ступені гэта магло задавальняць маскоўскую дзяржаву?*

— Усе пункты гэтай уніі былі адкінутыя. Падчас перамоваў адзін з баяраў, Тацішчаў, абразіў годнасьць і Сапегі, і ягонай дзяржавы. Цікава, што гэты выхаваны дыплямат эўрапейскага ўзору не сарваўся, а годна адказаў Тацішчаву:

***Сам ты маніш, халоп глупы, я прызвычаіўся мовіць праўду. Ня ўмею так, як ты, круціць фар-***

***тэлямі. Не са знамянітымі пасламі табе размаўляць, а з халопамі на стайні, дый тыя размаўляюць больш прыстойна за цябе. Нецнатлівы пёс, вялікую крыўду мне чыніш, вініш мяне ў падмане, каб не шанаваў свайго караля й князя вашага, баяраў значных і сябе самаго, здолеў бы цябе, сьмердзюка, на гэтым плацы правучыць. Але на волю старэйшага тое аддаю. Я тут болей быць не хачу.***

*— Масковія пагражала?*

— У іх заўсёды быў адзін аргумэнт: там, дзе жывуць праваслаўныя славяне, там і ёсьць тэрыторыя Масковіі. І гэтай дыпляматыяй Маскоўская дзяржава кіравалася цягам стагодзьдзяў:

***«Вайну пачаць можаце, але канец вайны ў руках Боскіх», — з годнасьцю зазначыў Сапега. А прачытаўшы свой праект саюзу, дадаў: «Мы з вамі, славяне, адзіны народ. Бога з вамі хвалім адзінага й адну чэсьць, хвалу яму аддаем. Хіба гэта мала, каб не паразумецца? Слушна тады было б наперад сваіх манархаў зьвесьці ў вечную прыязьнь ды павесьці да таго іхнага панства. Каб паміж сабой міласьць і згоду вечную ўзялі й супраць усіх паганых братэрства мелі. Шчырым сэрцам зычу, каб у вашых і нашых сэрцах праўдзіва прыняць гэты саюз».***

*— Чым адрозьніваліся мовы маскоўскай дыпляматыі й беларускай?*

— Наша дыпляматыя падпарадкоўвалася галоўнаму прынцыпу — любымі сродкамі дасягнуць міру, не дапусьціць агрэсіі, не згубіць айчыны. Суседняя дзяржава карысталася іншым аргумэнтам — там, дзе жывуць праваслаўныя славяне, там і ёсьць тэрыторыя Масковіі. І гэтым Расея кіравалася стагодзьдзямі. Нават у наш час у расейскай прэсе можна прачытаць і такія шавіністычныя выказваньні: «Везде, где оправился русский солдат, есть Россия».





*— Якімі спосабамі перамагаліся такія аргумэнты? Чым скончыліся дыпляматычныя высілкі Сапегі й ягонага атачэньня?*

— Сапега скарыстаў калатнечу на Русі. Абсалютна дыпляматычнымі спосабамі яму ўдалося схіліць маскоўскіх баяраў, каб яны прагаласавалі й пасадзілі на маскоўскі пасад сына караля Жыгімонта — Уладыслава. Гэтаму цяжка паверыць, але так было. Не ўдалося, можа, давесьці да канца такую дыпляматычную акцыю Сапегу, каб пасадзіць чалавека, які ня будзе ваяваць Княства Літоўскае. Можа, не ўдалося толькі таму, што Жыгімонт, бацька, прыраўнаваў да маскоўскай пасады свайго сына й ня выпусьціў яго з Польшчы. У Масковіі пачалася вялікая смута, і Жыгімонт захапіў Смаленск, які яму ніколі не належаў. Смаленск вельмі ўпарта супраціўляўся, і ў Масковіі пачалася фактычна вайна за вызваленьне ад Польшчы.

*— Што атрымала Вялікае Княства Літоўскае?*

— Яно атрымала час. Княства ацалела, але наперадзе яго чакалі новыя цяжкасьці й новая генэрацыя дыпляматаў. На арэну выйдуць дыпляматы з магнацкіх родаў Радзівілаў і Хадкевічаў — рыцары, воіны, патрыёты, дыпляматы, якія й жыцьця не шкадавалі. Яны былі прыхільнікамі самастойнасьці Княства, не залежнага ні ад Масковіі, ні ад Польшчы.

*— У гісторыі стасункаў з Масковіяй што мела большы плён: мірныя перамовы ці войны?*

— Войны ня раз вялі да перамоваў. Калі Расея трапляла ў цяжкае становішча, тады дыпляматы Княства Літоўскага маглі мець з гэтага свой плён, сваю карысьць. Сілу перамагалі розумам, бо такой вайсковай сілы ў Княства, якая была ў Расеі, не было.

# МАСКОЎСКІЯ НЯВОЛЬНІКІ Ў МАГІЛЁВЕ

*Размова зь Ігарам Марзалюком*

**Калі мы кажам словы «нявольнікі», «нявольніцтва», «нявольніцкія рынкі», дык адразу ва ўяўленьні паўстаюць малюнкі цёмнаскурых рабоў з ланцугамі, прадаваных на кірмашах Азіі, Афрыкі, Паўднёвай Амэрыкі, ці якія працуюць на плянтацыях цукровага трысьнёгу пад наглядам жорсткіх рабаўладальнікаў. Але беларус наўрад ці надумае зьвязваць такія асацыяцыі са сваёй гісторыяй, культурнай традыцыяй, са сваім мінулым і тым больш уявіць нечуваную рэч — сваіх продкаў у ролі рабаўладальнікаў — гандляроў і пакупнікоў «жывога тавару». Але аказваецца, што продкі беларусаў падчас ваенных канфліктаў з усходнім суседам выступалі ня толькі ў ролі ахвяраў. Вось жа ў часе Інфлянцкай (Лівонскай) вайны XVI стагодзьдзя магілёўскія месьцічы-добраахвотнікі выпраўляліся на маскоўскі бок «па жывы тавар» ды прадавалі на магілёўскім рынку жыхароў Маскоўскай дзяржавы.**

*— Хіба нявольніцтва не было забароненае яшчэ Першым Статутам ВКЛ 1529 году?*

— Не. Першы Статут ВКЛ забараніў нявольніцтва толькі для свабодных грамадзянаў дзяржавы. Вольны чалавек ня меў права, згодна са Статутам, прадаць сябе альбо сваіх дзяцей у рабства, нават калі й быў вінен камусьці грошы. Але патомныя рабы ці, як іх называюць нашы крыніцы, «чэлядзь нявольная», працягвалі заставацца ўласнасьцю гаспадара. Рабамі станавіліся таксама асуджаныя на сьмерць крымінальныя злачынцы, у выпадку, калі пацярпелы пагаджаўся зрабіць іх сваімі нявольнікамі замест «караньня горлам». Вольныя людзі, калі жаніліся на рабынях, таксама страчвалі свабоду. Але была яшчэ адна крыніца папаўненьня колькасьці нявольнікаў, якая згадваецца ў Першым Статуце — «каторыя палонам заведзены суць зь зямлі непрыяцельскае». Дарэчы, знакаміты Трэці Статут 1588 году зьнішчыў нават саму назву «нявольнік», наказаўшы нявольнікаў называць «дворная чэлядзь», а таксама скасаваў астатнія прычыны нявольніцтва, што былі ў Першым Статуце, акрамя ваеннага палону.

*— Якія катэгорыі магілёўскіх месьцічаў бралі ўдзел у падобных выправах? Якім часам датуюцца найбольш раньнія зь іх?*

— Дзякуючы таму, што захаваліся амаль усе актавыя кнігі Магілёўскага магістрату, мы маем магчымасьць скласьці ўяўленьне й пра падрыхтоўку, і пра саміх удзельнікаў выправаў. Крыніцы сьведчаць, што «ў заграніčча Маскоўскае», у «зямлю непрыяцеля масківіціна» хадзілі паводле ўласнай згоды групы добра ўзброеных, «удаўшыхся ў казацтва» на час такой экспэдыцыі, магілёўскіх рамесьнікаў. Сярод удзельнікаў паходаў крыніцы згадваюць ганчароў, шубнікаў і прадстаўнікоў іншых рамесных спэцыяльнасьцяў. Са зброяй у гараджанаў праблемаў не было — бо кожны зь іх, згодна з магдэбурскім правам, павінен быў мець у хаце зброю на выпадак вайны. Найбольш раньнія дакумэнты пра падобныя паходы ды захоп «жывога тавару» датаваныя 1579 годам, апошні выпадак зафіксаваны ў крыніцах у 1581 годзе.

*— А ці засталіся ў крыніцах апісаньні падрыхтоўкі падобных экспэдыцыяў? Можа, былі адмысловыя рытуалы, зьвязаныя зь іхнай падрыхтоўкай?*

— Падобныя апісаньні сапраўды ёсьць. Уявім сабе

Магілёў таго часу. Ідзе нядзельная служба ў праваслаўнай царкве. Асобнаю групаю, у поўным узбраеньні, стаяць «паказачаныя браты». Пасьля прычасьця ўсе ўдзельнікі будучага паходу ўрачыста прысягаюць адзін аднаму дзяліць здабычу справядліва, пароўну:

***Іж калі шлі за граніцу, тады пастанавене такое ўчынілі й рукі межы сабою далі й словам сваім прырэклі іж у адным таварыстве з намі мелі быць і есьлі б што Пан Бог паслаў, то мы мелі, вышэдшы загранічча, у роўны дзел дабычу сваю межы сабою разьдзяліць.***

*— Дык што, сярод ахвотнікаў, што хадзілі на маскоўскі бок, былі толькі праваслаўныя?*

— На той час у Магілёве сярод месьцічаў не было ніводнага каталіка, як, натуральна, і ніводнага каталіцкага касьцёлу ў горадзе. Як бачым, прыналежнасьць да праваслаўя не перашкаджала хадзіць магілёўцам у шуканьні вайсковай здабычы на маскоўскі (таксама праваслаўны) бок. Падкрэсьлім, іх ніхто не змушаў да гэтых выправаў. Гэта была ініцыятыва зьнізу, якая ішла ад саміх жыхароў гораду.

*— Ці ўступалі гэтыя ахвотнікі ў бой з аддзеламі расейскага войска?*

— Найважнейшай і адзінай мэтай, зь якой магілёўцы хадзілі на маскоўскі бок, быў трывіяльны рабунак і захоп у палон ды продаж у нявольніцтва насельніцтва варожай дзяржавы. Атрады перасоўваліся па чужой тэрыторыі ўначы, каб ухіліцца ад сустрэчы з маскоўскімі вайскоўцамі, нападалі на вёскі на досьвітку, рабуючы ўсё, што толькі можна было знайсьці ў сялянскіх хатах:

***Року 1579 Івашка Сапронавіч хадзіў за граніцу ў таварыстве ў казацтва пад Смаленск і тут есмо дасталі суполне кобылі дзьве, робят москалей два, овчын двадцат чотыры, овец чотыры, замок нутреных чотыры, узголовья дзерюгі дзьве, армяк адзін, місы тры, коўшы два, косы тры, тапароў сем, скоблі дзьве, воску, воўны рун трідцат, чоботы трої, коўшы тры, скобпі дзьве, сорочок дванадцать.***

*— Хто лічыўся найбольш каштоўнай здабычай — мужчыны, жанчыны ці дзеці?*

— У крыніцах няма ніводнай згадкі аб палоне й продажы ў нявольніцтва дарослых мужчынаў. Гэта цалкам зразумела. Падчас нападу яны баранілі свае сем'і, і іх, як правіла, забівалі на месцы. У палон вывозілі жанчын і дзяцей. Прынамсі, усе ацалелыя акты куплі-продажу нявольнікаў у Магілёве гавораць толькі пра іх. Натуральна, што асабліва вялікім попытам карысталіся маладыя здаровыя жанчыны. Дарэчы, празь іх часьцей за ўсё сярод удзельнікаў выправаў выбухалі канфлікты, якія прыводзілі да разбору ў магістрацкім судзе. Даволі часта здаралася так, што паабяцаўшы выплаціць за маскоўку «братам» долю ейнага рэальнага сабекошту на нявольніцкім рынку, удзельнік экспэдыцыі, стаўшы ейным гаспадаром, гэта рабіць не сьпяшаўся. Не заўсёды дзяльба здабычы прызнавалася ўсімі ўдзельнікамі справядлівай. Так, у верасьні 1579 году выбухнуў канфлікт паміж магілёўцамі Багданам Кузьмінічам і Жданам Ахрэмавічам. Багдан Кузьмініч паскардзіўся ў суд на былога брата па зброі аб несправядлівым захопе ў яго здабычы замежнай. Аднак Ждан аспрэчваў гэтую скаргу, кажучы пра парушэньне Багданам «братэрскай прысягі» аб роўным падзеле здабычы:

***Гды ж мы ўжо з загранічча выйшлі і ўжо на стану будучы, хацелі межы сабою дзяліцца, але ж ён сам тых рэчаў, што меў з сваімі таварышамі ў дзел***

***роўны даць не хацеў, то я на стан яго ні зь якімі памочнікамі не находзіў, але мяне пан Тудоўскі, яко старшы межы намі будучы, казаў яго дабычы ўзяць удзел, што я ўзяў маскоўку, каня сьляпога, жарабят двое, аўчын адзінаццаць а ня так многа, яка ён жалуе.***

*— Дзе ў Магілёве гандлявалі палоннымі маскоўцамі?*

— Жывы тавар выстаўлялі на продаж на Гандлёвай плошчы, якая знаходзілася побач з магілёўскім замкам. У часе Інфлянцкай вайны там быў адмысловы нявольніцкі рад, дзе дэманстраваліся жыхары Масковіі, якія воляй лёсу сталі рабамі.

*— Ці захаваліся ў дакумэнтах цэны на нявольнікаў?*

— Так. Маладая здаровая жанчына каштавала ад дзьвюх да пяці копаў грошаў літоўскіх. Падлетка можна было набыць за адну капу. Капа грошаў літоўскіх была роўная двум талерам. Гэта былі вялікія на той час грошы. Дзеля параўнаньня: згодна са Статутам 1588 году дзьве капы грошаў каштаваў добры конь альбо вол.

*— Ці меў якія-небудзь шанцы вызваліцца чалавек, прададзены ў рабства?*

— Усё залежала ад таго, на якіх умовах прадавалі палонных. Самай лёгкай формай няволі быў продаж у часовае рабства на «выробак». Гэта значыць, палонны павінен быў адпрацаваць заплачаныя за яго грошы за вызначаны ў акце куплі-продажу час. Звычайна тэрмін часовага рабства вагаўся ад двух да чатырох гадоў. Менавіта на такіх умовах у жніўні 1579 году была прададзеная маскоўка Саламаніда:

***На справах мескіх у ратушу будучым, стаўшы***





***ачавіста Дзешка Ескавіч, мешчанін магілёўскі, сазнаў, іж паланянку маскоўку Саламаніду, каторую дастаў будучы за граніцаю ў зямлі непрыяцельскай, каторую прыдаў на вырабак учсіваму Цімошку Бутану, мешчаніну магілёўскаму, за капы дзьве грошаў манэты й лічбы літоўскіх, каторую мает он у себе держаті до трех лет, а по трех летех волно маеть быть от него пушчона, а в неволі держана ня мает быт і, каму хоча, таму мает служыці.***

*— А ці існавала для тагачасных палонных пажыцьцёвае рабства?*

— Існавала. У актах куплі-продажу сустракаем такія паняцьці, як продаж «вечна» ці «абел вечна». У такіх выпадках чалавек станавіўся чэлядзьдзю нявольнай да свайго скону, як і ягоныя нашчадкі. Праўда, і ў гэтым выпадку ў палоннага заставаўся шанец стаць вольным. У актах куплі-продажу агаворвалася, што ў выпадку, калі палоннага знаходзілі ягоныя сваякі, тады гаспадар абавязаны быў прадаць ім яго за той жа кошт, за які набыў.

*— Як выкарыстоўвалі палонных дзяцей?*

— Яны працавалі як хатняя прыслуга, лёкаі, нянькі. Дакумэнты за другую палову XVI стагодзьдзя сьведчаць, што практычна ў доме кожнага багатага магілёўскага бюргера, прадстаўнікоў магістрату, цэхавага старшыны, купецтва для паслугаў хатніх меліся «чаляднікі-маскалікі». Перапрашаю за параўнаньне, але менавіта маленькія велікаросы выконвалі ролю «белых мурынаў» у дамах магілёўскай эліты. Аднак, трэба адзначыць і факты ўсынаўленьня й выкупу бязьдзетнымі магілёўцамі маленькіх рабоў у іх гаспадароў. Так, у 1581 годзе Апанас Дзямідавіч, шубнік магілёўскі, адкупіў у Марыны Жыдкай, мяшчанкі магілёўскай, маскаліка:

***Масказік каб у няволі вечна не застаў іж яго ўзяў не ў няволю, але яко за ўласнае дзіця, каторае перехаваць, также карміці адзяваці й таму рамяству, што сам умеець, шубтцтву научыць. А калі той Федка Макаравіч дойдзе лет дарослых, вольна яму будзе каму хацець служыці.***

*— Усё гэта толькі магілёўская экзотыка? Ці было гэткае і ў іншых рэгіёнах тагачаснай Беларусі?*

— Мы маем шмат дакумэнтальных сьведчаньняў, што чэлядзь маскоўская — чалядніцы-маскоўкі ды маскалікі — былі на паслугах таксама ў Вільні, Берасьці, Менску, Горадні, Навагрудку. Іншая справа, што час пакінуў нам у найлепшай захаванасьці й камплектнасьці менавіта кнігі Магілёўскага магістрату ды быў ня літасьцівы да гарадзкіх архіваў іншых беларускіх гарадоў, зь якіх ацалелі толькі адзінкавыя асобнікі магістрацкіх кнігаў.



## КАНСТЫТУЦЫЯ 3 ТРАЎНЯ 1791 ГОДУ

*Размова з Анатолем Грыцкевічам*

**3 траўня 1791 году чатырохгадовым Соймам Рэчы Паспалітай, у склад якой на канфэдэрацыйнай аснове тады ўваходзіла й Вялікае Княства Літоўскае, быў ухвалены асноўны закон краіны. 3 траўня — дзяржаўнае сьвята Польшчы. На тэрыторыях Заходняй Беларусі й сёньня можна сустрэць знакі ўшанаваньня той Канстытуцыі, якая для свайго часу была вельмі прагрэсіўная. Прыкладам, на могілках у Глыбокім стаіць стэла ў гонар Канстытуцыі 3 траўня. Цэнтральны пляц таго ж Глыбокага да 1939 году называўся «Пляцам Канстытуцыі 3 траўня», пра што й сёньня згадваюць даўгавечнікі гораду.**

*— Дык ці толькі польскай была тая Канстытуцыя, а мо й беларускай? Тут думкі гісторыкаў падзяляюцца. Адны лічаць, што яна была й беларускай, бо ўсе ейныя палажэньні тычыліся й старажытнай беларускай дзяржавы. Іншыя лічаць, што яна скасоўвала незалежнасьць ВКЛ, бо Канстытуцыя абвяшчала Рэч Паспалітую сувэрэннай, унітарнай дзяржавай, без падзелу на ВКЛ і Карону. Дык дзе ж праўда?*

— Канстытуцыя была й беларускай. Незалежнасьць не скасоўвалася, таму што фармальна захоўваліся гэтак званая Літоўская правінцыя, усе дзяржаўныя пасады (канцлера, міністраў), установы, свае войска, практычна самастойнае. Гэта потым яскрава выявілася ў паўстаньні 1794 году. Канстытуцыя таксама прадугледжвала й тэрытарыяльнае прадстаўніцтва ў заканадаўчай уладзе. Ад Літвы (Беларусі) былі асобныя дэпутаты.

*— Ці былі сярод аўтараў Канстытуцыі продкі беларусаў?*

— Былі. Як вядома, Канстытуцыю распрацоўвалі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, Станіслаў Малахоўскі — маршалак Сойму, Гуга Калантай — былы рэктар кракаўскай Ягелёнскай акадэміі, а таксама маршалак Вялікага Княства Літоўскага Ігнацы Патоцкі, наш зямляк Казімер Нестар Сапега.

*— У гісторыі заканадаўства Эўропы вялікі сьлед пакінулі статуты Вялікага Княства Літоўскага XVI стагодзьдзя, і менавіта гэтыя статуты вельмі часта лічаць першымі спробамі стварэньня дэмакратычнай канстытуцыі. Ці можна казаць, што Канстытуцыя 3 траўня стала пераемніцай статутаў?*

— Безумоўна, была пераемнасьць. Тым больш, што Статут 1588 году захоўваў сваю моц. Ніхто яго не адмяняў, а ў Статуце было запісана пра незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага. Запіс у Канстытуцыі пра адзіную дзяржаву заставаўся дэклярацыяй. Захоўваліся мясцовыя ўлады, у тым ліку ў сталіцы нашай дзяржавы — Вільні.

*— Чаму Канстытуцыя 3 траўня 1791 году лічыцца адной з самых прагрэсіўных у Эўропе? Якія свабоды яна дэкляравала?*

— Найперш, гэта была другая ў сьвеце Канстытуцыя, пасьля Канстытуцыі Злучаных Штатаў Амэрыкі 1787 году. У чым ейная прагрэсіўнасьць? Перш за ўсё пашыраліся правы ўсяго насельніцтва, у тым ліку мяшчанаў. Яны дапускаліся да ўлады ў мясцовых органах, іхныя прадстаўнікі былі й на Сойме — праўда, з правам дарадчага голасу. Правы атрымлівалі й сяляне: пад апекай дзяржавы прадугледжвалася заключэньне дамоваў паміж панамі й сялянамі, каб не было залішняга ўціску. Прыгоннае права яшчэ не адмянялася, але гэта быў першы крок да яго адмены, і таму ў палітычным сэнсе Канстытуцыя мела вялікае значэньне. У эканамічным — вызначаўся пераход да рынкавых дачыненьняў. Здымаліся ўсякія абмежаваньні для гандлю й разьвіцьця прамысловасьці ў гарадах, дазваляўся больш шырокі таварна-грашовы абмен.





*— А як быць з запісанай у Канстытуцыі свабодай веравызнаньня, калі там жа сьцьвярджаецца, што ў краіне захоўваецца дзяржаўнасьць каталіцкай рэлігіі?*

— Былі абмежаваньні. Паноўнай рэлігіяй заставалася рымска-каталіцкая, праўда, больш свабоды давалася ўніятам і нават праваслаўным, якіх, дарэчы, было ня так шмат у Вялікім Княстве — усяго крыху больш за шэсьць адсоткаў насельніцтва. Але стваралася свая праваслаўная ярархія. Так, у Менску ў 1791 годзе быў скліканы праваслаўны сынод, рыхтавалася ўтварэньне сваёй незалежнай мэтраполіі, а можа нават і патрыярхіі.

*— Што гаварыла Канстытуцыя пра падзел уладаў — адзін з галоўных прынцыпаў дэмакратычна ўладкаванай дзяржавы?*

— Такога адмысловага артыкулу ў той Канстытуцыі не было, але калі ўчытацца ў яе зьмест, то, сапраўды, заканадаўчая ўлада — Сойм — цалкам аддзялялася ад выканаўчай. Больш за тое, выканаўчая ўлада ў некаторай ступені залежала ад заканадаўчай, бо ўпершыню ў Эўропе Сойм дзьвюма трацінамі галасоў мог зьняць з пасады міністра, не зважаючы на тое, што кароль яго прызначаў. Тым ня менш, у непасрэднае кіраваньне краінай Сойм ня ўмешваўся, ягоны клопат быў прымаць толькі законы. Урад на чале з каралём выконваў функцыю сталага кіраваньня краінай. Судзьдзі выбіраліся, а не прызначаліся. Суды такса-

ма былі самастойнай галіной улады. Так што ў пэўнай ступені тое, што прапанавалі францускія філёзафы XVIII стагодзьдзя, у гэтай Канстытуцыі было ўжо зьдзейсьнена.

*— А ці не прыняцьце гэтай Канстытуцыі паскорыла падзел Рэчы Паспалітай паміж суседнімі дзяржавамі-драпежніцамі, а значыць, паспрыяла зьнішчэньню й Польшчы, і Вялікага Княства Літоўскага?*

— Я лічу, што гэта так, бо вельмі напалохаліся суседнія манархі, асабліва Кацярына II, — побач з Расейскай імпэрыяй, дзе панавала самадзяржаўе імпэратрыцы, узьнікала краіна, якая магла перайсьці на дэмакратычныя асновы. І таму была паскораная інтэрвэнцыя, а таксама абудзіліся і ўнутраныя рэакцыйныя сілы магнатаў. Гэтак званыя «таргавічане» арганізавалі Таргавіцкую канфэдэрацыю, а Кацярына II падтрымала, і пасьля інтэрвэнцыі ў 1793 годзе ўся тэрыторыя Рэчы Паспалітай была акупаваная. Так і адбыўся Другі падзел Рэчы Паспалітай. Далей былі паўстаньне 1794 году, яго задушэньне й поўная ліквідацыя дзяржавы. Гэтыя падзеі ў значнай ступені ўратавалі францускую рэвалюцыю. Чаму? Ды таму, што давялося ўсе сілы кінуць сюды, а не на рэвалюцыйную Францыю, якая пасьпела сабраць сілы, войска, каб змагацца з інтэрвэнцыяй.

*— Адразу пасьля Другога падзелу Рэчы Паспалітай фактычна Канстытуцыя была скасаваная. Ці за гэты кароткі адрэзак часу яна мела рэальнае ўвасабленьне?*

— Фактычна яна дзейнічала дзесьці год, бо як толькі «таргавічане» ўсьлед за расейскімі войскамі прыйшлі ў Беларусь, Літву й Польшчу, іхны канфэдэрацыйны Сойм адразу ж скасаваў у 1792 годзе гэтую Канстытуцыю. Так што яна не пасьпела ўсе свае артыкулы





разгарнуць у справы. Але Канстытуцыя стала своеасаблівай праграмай дзеяньняў — і ў вызвольных паўстаньнях XIX стагодзьдзя, і ў іншых плянах адраджэньня й Рэчы Паспалітай, і Вялікага Княства Літоўскага.

*— Чаму ў XX стагодзьдзі замоўчваліся роля й значэньне Канстытуцыі 3 траўня для Беларусі, чаму замоўчваецца яна й цяпер як факт гісторыі народу?*

— Перш за ўсё, расейскія гісторыкі XIX—XX стагодзьдзяў і, можна сказаць, пачатку XXI стагодзьдзя лічаць яе выключна польскай, бо яны ўвогуле Рэч Паспалітую лічылі Польшчай. Што да гісторыкаў Беларусі, дык яны не заўсёды бачаць тыя пэрспэктывы, якія Канстытуцыя адкрывала беларусам у эканамічным і сацыяльным сэнсах.

# ІНТРЫГІ ВАКОЛ ПАДЗЕЛАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

*Размова з Вольгай Іпатавай*

**Гісторыя народаў сьвету, і беларусы тут ня вынятак, сьведчыць, што дзеля дасягненьня палітычных мэтаў удзельнікі дзяржаўнага жыцьця плятуць павуціньне інтрыгаў, не цураюцца авантураў і не заўсёды маральна чыстых гульняў. І тое, што для звычайнага чалавека ўяўляецца вялікай каштоўнасьцю, у палітычнай гульні абсалютна ня мае ніякага значэньня. Здаралася й так, што вонкава зусім бяскрыўдная інтрыга перарастала ў гульню такога шырокага маштабу, заходзіла так далёка, што наканоўвала лёс цэлай нацыі на стагодзьдзі наперад.**

*— Ці было нешта падобнае ў беларускай гісторыі?*

— Было. Шэраг складаных і нячыстых інтрыгаў прывёў да падзелаў Рэчы Паспалітай і канчатковага акту здачы адной дзяржавы другой на гэтак званым «маўклівым» паседжаньні Сойму, якое адбылося 24 верасьня 1793 году ў Горадні. Самым пачаткам гэтай вельмі пасьпяховай найперш для Расеі, а пасьля й для Прусіі з Аўстрыяй, інтрыгі я лічу нават не ўзьвядзеньне на трон пры дапамозе Расеі Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Інтрыга была шматходавая. Першыя крокі да зьнішчэньня Рэчы Паспалітай былі зробленыя яшчэ пры каралю й курфюрсту саксонскім Аўгусту II Моцным, калі ягоныя правы падтрымалі Расея й Прусія, а на «нямым сойме» 1 лютага 1717 году ўсталявалі пратэкцыю расейскага цара над Рэччу Паспалітай. Хаця, вядома, захопнікі набывалі смак у працэсе таго, як слабела Рэч Паспалітая, асабліва ж,





вядома, пры апошнім каралю. Станіслава Аўгуста, прыгажуна, сакратара ангельскага пасольства й пасла Саксоніі й Рэчы Паспалітай у Пецярбурзе, прылашчыла яшчэ раней вялікая княгіня Кацярына. І да трону ён прыйшоў шмат у чым дзякуючы ейнаму падтрыманьню, калі яна стала ўжо расейскай гасударыняй.

*— Яна паспрыяла атрыманьню ім польскага трону й літоўскага пасаду, бо кахала?*

— Не, не таму, што яна кахала гэтага слабавольнага аматара зямных уцехаў і нават мела ад яго дачку. Гэта быў разумны зь ейнага гледзішча палітычны крок — на такога караля суседняй краіны лёгка было ўплываць. І нават тады, калі ён спрабаваў вырвацца з путаў Кацярыны, яго ўсё роўна лічылі «ўзурпатарам» і стварылі супраць яго Барскую канфэдэрацыю. Зноў умяшалася Расея, мяцеж быў падаўлены, і адбыўся Першы падзел дзяржавы. Кацярына II прыхапіла першыя кавалкі нашай зямлі.

*— Хіба Станіслаў Аўгуст нічога не разумеў і ня мог паўплываць на падзеі? Няўжо жарсьць і ў яго забрала розум?*

— Ды не. Ён проста ня мог вырвацца з магутных абцугоў магутнай дзяржавы, якая была ў хаўрусе з Аўстрыяй і Прусіяй. Ён разумеў, што адбываецца, але ў яго ўжо не было ні сілаў, ні палітычнай волі. Дарэчы, апошняя сустрэча Станіслава Аўгуста й Кацярыны II адбылася ў 1793 годзе пад Каневам. Ён прапанаваў ёй сустрэчу проста як князь Панятоўскі. Ён хацеў ёй нагадаць пра каханьне, але яна заняла жорсткую пазыцыю. Кацярына загадала яму перадаць, што сустрэнецца зь ім як з каралём іншай дзяржавы. Гаварылі яны ўсяго толькі тры гадзіны пры іншых. Ён не атрымаў ад яе літасьці, на якую разьлічваў. Яна, дарэчы, абяцала яму прытулак, але ня выканала сваіх

абяцаньняў: на ейны загад ён пасьля ўсіх падзеяў выехаў у Горадню й жыў там жа, дзе адбыўся надзвычайны сойм, пасьля якога ягоная краіна фактычна была перададзеная ў чужыя рукі. Там ён даведаўся пра Трэці падзел Рэчы Паспалітай і падпісаў адрачэньне ад трону на карысьць Кацярыны II, але гэта было ўжо аформлена толькі дэ-юрэ. Пасьля сьмерці імпэратрыцы ў 1796 годзе яго «пашкадаваў» Павал: даў яму ўтрыманьне ў Санкт-Пецярбурзе, дзе былы кароль не адчуваў уціску й жыў у дастатковай раскошы. Там ён і памёр, пахаваны быў у касьцёле Сьвятой Кацярыны. А ў 1938 годзе цела Станіслава Аўгуста было перапахаванае ў Волчыне, ягоным родавым памесьці на Берасьцейшчыне. У першыя гады незалежнасьці Беларусі ягоныя парэшткі былі перададзеныя палякам.

*— Але давайце вернемся да вяршыні ганьбы Станіслава Аўгуста й аднаго з самых чорных дзён у беларускай гісторыі — да надзвычайнага сойму ў Горадні. Ён таксама не абышоўся без інтрыгі?*

— Яшчэ некалькі цікавых асобаў з польскага боку пачалі сваю інтрыгу задоўга да Гарадзенскага сойму. Напачатку, 14 траўня 1792 году, была створаная гэтак званая Таргавіцкая канфэдэрацыя, дзе завадатарамі былі вялікі каронны гетман Ксаверы Браніцкі, польскі гетман Севярын Жавускі й Шчэнсны Патоцкі. Канстытуцыя ўшчаміла іхныя правы, і яны хацелі яе скасаваць, спадзеючыся на дапамогу Расеі. Са згоды канфэдэратаў Прусія й Расея ўвялі ў Рэч Паспалітую свае войскі. Былі захопленыя беларускія тэрыторыі — Браслаў, Вушачы, Бабруйск, Глуск, Нясьвіж, Навагрудак, Слонім. Падрыхтавалі й прапагандысцкае забесьпячэньне — гэта, маўляў, «искони русские земли» вяртаюцца ў сваю дзяржаву. 28 чэрвеня 1792 году войскам Крачэтнікава была занятая Вільня, 6 ліпеня войскам Даўгарукава — Горадня. Ейны камэндант



беларуская Атлянтыда

Забэла, маючы 14-тысячнае войска, не супраціўляўся. Чаму? Ды таму, што ён ведаў пазыцыю караля й найбуйнейшых магнатаў. Кароль не заклікаў да супраціву, усюды панавалі разгубленасьць, мітрэнгі, звады... 28 лістапада ў Горадню прыяжджае Міхаіл Кутузаў, 1 сакавіка — Якаў Сіверс, якога таргавічане сустрэлі салютам. 22 красавіка сюды прыехаў кароль, яго таксама сустракалі салютам, аднак, расейскі пасол, назваўшыся хворым, пры тым не прысутнічаў. Інакш кажучы — тыя, хто павінен быў думаць пра краіну й ейны лёс, думаў пра сябе, пра тое, каб адплаціць супернiку, каб самому заняць трон, няхай і ўсё больш прывідны.

## ВОЛЯ ДА ЎЛАДЫ

*Размова з Валянцінам Акудовічам*

**Фэномэн улады зачароўвае загадкавасьцю й неабдымнасьцю. Фрыдрых Ніцшэ лічыў, што ў аснове ўсяго жывога ляжыць воля да ўлады. Сапраўды, усё, што зьяўляецца жыць, — над некім пануе й камусьці падпарадкоўваецца. Але цяпер гаворка не пра ўладу ў філязофскім разуменьні, а пра ўладу як пра тое, што арганізуе сацыяльнае жыцьцё чалавека.**

*— Наколькі беларусы схільныя ўспрымаць і выяўляць волю да ўлады? Ці такім ужо важным было для беларусаў цягам іхнай гісторыі панаваньне над кімсьці? Ці ёсьць прага ўлады адметнай рысай беларусаў?*

— Агулам на гэтае пытаньне адказаць немагчыма. У нас, як найменей, тысячагадовая гісторыя. І ў гэтыя тысячу гадоў быў час, калі воля да ўлады тут біла праз край. А здаралася, што стагодзьдзямі беларус панаваў адно над быдлам у полі й жонкай у хаце.

*— У які ж час воля да ўлады ў беларусаў біла праз край?*

— Відавочна, найбольшую прагу ўлады папярэднікі сучасных беларусаў выявілі ў пару Вялікага Княства Літоўскага, калі стварылі імпэрыю, што разьлеглася ад Балтыйскага мора да Чорнага. Дарэчы, у пісьменьніка Кастуся Тарасава ёсьць выдатная аповесьць пра аднаго зь першастваральнікаў гэтай імпэрыі — «Апошняе каханьне князя Міндоўга». Але аповесьць ня столькі пра каханьне, колькі пра ўладу. Князь Міндоўг у сваіх думках раз-пораз вяртаецца да сутнасьці ўлады, спрабуючы зразумець ейную бязьлітасную праўду. Вось фрагмэнт зь ягоных разважаньняў:

***Чаму немцы лёгка прусаў падпарадкавалі? Бо мелі прусы восем старэйшых князёў, а вялікага паміж сабой абраць ня здолелі. І ніхто з васьмі не наважыўся стаць вялікім... І на Літве так вялося, пакуль ён, Міндоўг, ня вырашыў, што стане вялікім князем. І насуперак агульнай нязгодзе, усім перашкодам мноства ворагаў стаў... Ён — першы вялікі князь Літвы. Ён і Полацак здолеў прыяднаць, і землі дрыгавічаў... Але пра што, пра каго, ён, вялікі князь, змушаны думаць пасярод ночы? Пра якіхсьці Даўмонта, Гаторпа, Любеня, пра іх дробныя крыўды, іхную зайздрасьць, іхную братнюю нянавісьць... Забіць іх — вось тады думаць пра іх ня прыйдзецца. ...шкадуеш іх забіваць — яны сваё месца ня ведаюць, злуюць, вострацць мечы, ад іх жа й абараняцца трэба ня менш пільна, чым ад крыжакоў.***

Дарэчы, мы ў нашых шчырых і чыстых памкненьнях гераізаваць гісторыю нацыі вельмі часта ідэалізуем тыя постаці, што адыгралі вырашальную ролю. Але рэдка задумваемся пра тое, што вялікія постаці нашай гісторыі, якія былі пакліканыя выконваць волю да ўлады, вельмі часта, а мо й найчасьцей, зьдзяйсьнялі сваё пакліканьне далёка не высакародным чынам. Высакародны ўладар, асабліва ў той жорсткі час, — гэта казка для дарослых. І хаця тут мы цытавалі не дакумэнты й нават ня хронікі, а мастацкі твор, але я ня думаю, што і ў наступным фрагмэнце сваёй аповесьці К. Тарасаў моцна хібіць, калі змушае шкадаваць Міндоўга за тое, што ён збаяўся сваіх шараговых князёў і адмовіўся падпарадкавацца рымскаму папу, каб стаць каралём зь немцамі нароўні:

***Дарэмна ён... расхрысьціўся... Чым зь немцамі ваяваць, прасьцей было б перабіць князёў — і сваіх, і яцьвяскіх, і прускіх. Сабраць нараду й каля вогнішча ахова пасякла б усіх мячамі раз і назаўсёды... Было б ужо вялізнае каралеўства.***

*— Ці ўнівэрсальная трагічная формула ўлады — калі ня можаш перамагаць мірам, дык перамагай вайною?*

— Так, бо як толькі спынісься ў перамогах, цябе адразу зьнішчаць — магчыма, якраз тыя, з каго ты зьлітаваўся. Так было й зь Міндоўгам. Яго зьнянацку акружыць сваёй дружынай і заб'е сваяк — князь Даўмонт. Ня стала Міндоўга, але колькі пасьля яго зьявілася на Літве вялікіх постацяў, чуйных да поклічу ўлады. Згадаем хаця б найвялікшага зь іх — Вітаўта, які канчаткова аформіў Вялікае Княства Літоўскае ў магутную дзяржаву. Аднак, мінула яшчэ колькі часу, і ў нас чамусьці перасталі аб'яўляцца героі, роўнавялікія ў празе ўлады Міндоўгу, Альгерду, Вітаўту, а неўзабаве зьнікла й само Вялікае Княства.

*— Мо гэта звычайная гістарычная лёгіка?*

— Ніцшэ адказаў бы: «Там, дзе не хапае волі да ўлады, там заняпад». У пэрыяд, калі ВКЛ пабралася няроўным шлюбам з Рэччу Паспалітай, прага ўлады пачала ўжо зьмяняцца прагай асалоды. Іншымі словамі, галоўнай мэтай жыцьця цяпер сталася ня ўлада, а ўцеха. Улада перастала быць каштоўнасьцю сама па сабе, яна ператварылася ў сродак дзеля забесьпячэньня магнатаў раскошай ды іншымі жыцьцёвымі ласункамі. Успомнім хаця б апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага, які прамяняў уладу над краінай і змаганьне за ейную свабоду на каханьне з расейскай імпэратрыцай Кацярынай II.

*— Але куды пазьнікалі героі, якія раней заўсёды адгукаліся на покліч волі да ўлады?*

— На гэтае пытаньне адказаць нашмат цяжэй. Калі б мы гэта ведалі, то напэўна ведалі б, чаму заняпаў Вялікі Рым ці Брытанская імпэрыя. Альбо, наадварот, чаму, па-расейску кажучы, «захолустное» Маскоўскае княства, якое ў сваю пару нават сьмешна





было параўноўваць зь Вялікім Княствам Літоўскім, празь нейкі час паняволіла ня толькі ВКЛ, але й шостую частку зямной кулі з самымі рознымі плямёнамі, народамі й дзяржавамі? І вось ужо самы неверагодны прыклад — жменька эўрапейскіх каляністаў у Паўночнай Амэрыцы стварыла звышдзяржаву!

*— Вы сказалі, што беларус меў уладу толькі над быдлам у полі й жонкай у хаце. Няўжо быў час, у які беларусы зусім ня прагнулі ўлады?*

— Найбольш выразна гэткі пэрыяд выявіўся ў XVIII—XIX стагодзьдзях, калі ўвесь беларускі этнас табарыўся ў вёсках ці на плебэйскіх ускраінах гарадоў. І калі нехта марыў пра ўладу, то ня меў ніякай магчымасьці сваёй мары зьдзейсьніць. Зрэшты, наўрад каму зь беларусаў, ня толькі зь сялянаў, але й шляхцюкам такое нават прыходзіла да галавы.

*— А Кастусь Каліноўскі?*

— І ўсё ж Каліноўскі й жменька падобных да яго — гэта выключэньне. А ў асноўным амбіцыяў беларусам хапала адно на тое, каб хоць трохі бліжэй быць да тых, хто ўжо мае ўладу. Слушнасьць майго меркаваньня пацьвярджае Багушэвіч, калі ўкладае ў вусны маці словы, якія яна сьпявае свайму маленькаму сыну:

***Ой, ня будзь ты лепей панам,***
***Ці вялікім капітанам,***
***Будзь, чым матанька радзіла.***

Уяўляеце, у якой меры мусіў быць выпетраны ў народу інстынкт улады, каб маці, якая зазвычай жадае сваім дзецям заможнасьці, посьпеху, славы, аберагала сына ад усяго гэтага як ад чужога беларусам?

*— У XX стагодзьдзі ўзьнік нацыянальны рух, паўсталі палітычныя партыі, Беларуская Народная Рэспубліка. Ці ня сьведчыць гэта пра тое, што ў беларусаў зноў абудзілася воля да ўлады?*

— Бадай, гэта яшчэ была ня воля да ўлады, а ўсяго толькі жаданьне ўлады, што зусім не адно й тое ж. Можа, кароткі век БНР якраз таму аргумэнтам. Што да савецкай пары, то найбольш выразна ўладны інстынкт беларусаў праявіўся ў постаці Пятра Машэрава. Фармальна ён нічым ня розьніўся ад шматлікіх іншых стаўленікаў Масквы, якія па чарзе кіравалі БССР семдзесят гадоў. Але ж невыпадкова Машэраў пасьля сьмерці пераўтварыўся ў народны міт. Мяркую, гэтак сталася перадусім таму, што беларусы сэрцам пачулі й шэптам ухвалілі ягоную волю да хоць невялікай самастойнасьці ад панаваньня Масквы ў Беларусі, бо праз гэта патаемна выяўлялася й іхная воля ўладарыць у сваёй краіне.

*— Прачнулася генэтычная памяць пра волю да ўлады, і прага ўлады спакваля зноў становіцца адной з характэрных рысаў беларусаў. Ці так гэта?*

— Цалкам верагодна. Але паколькі калектыўная воля да ўлады перадусім выяўляецца празь нейкага аднаго чалавека, то вельмі хацелася б, каб мы ніколі не забываліся на словы Міндоўга, якія ён прамаўляе ў аповесьці пра сваё апошняе каханьне:

***Улада вышэй за князя. Князь памірае, а зямля і ўлада застаюцца. Мы ў гасьцях ва ўлады. Узяў уладу — яна загадвае. Толькі дурань думае, што ўлада — гэта ён сам.***

*— Наколькі народ уплывае на свайго ўладара й наколькі ўладар залежны ад народу?*

— Ягоная залежнасьць значна большая, чым нам здаецца. Можна сканцэнтраваць у руках усю магчымую й немагчымую ўладу, але як толькі памкненьні ўладара пачынаюць радыкальна разыходзіцца з патрэбамі грамады, ён ніякай сілай не ўтрымае яе. І неістотна, як адбудзецца ягоны сыход — праз наёмнага забойцу, палацавы пераварот, сялянскі бунт, пралетарскую рэвалюцыю ці дэмакратычныя выбары.





*— Што Вы разумееце пад разыходжаньнем памкненьняў уладара й патрэбаў грамады?*

— Каб было больш ясна, давайце зьвернемся да сучаснай сытуацыі ў Беларусі. Калі А. Лукашэнка прыйшоў да ўлады, ён у сваёй ідэалёгіі й палітыцы адпавядаў запатрабаваньням бальшыні беларусаў. Але за прамінулыя гады ладная частка беларусаў набыла некалькі мільёнаў легкавікоў, абгойсала палову сьвету, прызвычаілася да кампутараў і мабільнікаў і тым самым шмат чаго зьмяніла ва ўяўленьні пра сьвет і саміх сябе. Словам, беларусы мадэрнізаваліся, а Лукашэнка, у існасьці, кім быў, тым і застаўся (бо ўсе сілы пайшлі на ўтрыманьне ўлады). Натуральна, што мадэрнізаваным і мэнтальна, і тэхнічна беларусам сёньня ўжо не патрэбны прэзыдэнт, якога кожны другі паспаліты апярэджвае, як кажуць, на вярсту.

*— Добраахвотна з улады рэдка хто сыходзіць, таму ў ранейшыя эпохі перамены ва ўладзе адбываліся, як Вы толькі што казалі, праз кроў, здраду й гвалт. Дэмакратыя прыдумала мірны шлях — праз абмежаваньне тэрміну ўлады. І гэта добрае вынаходніцтва. Але калі чалавек ня хоча сыходзіць у час? Што тады?*

— Тады трэба чакаць бяды.

*— Няўжо звычайна чуйныя да бяды беларусы страцілі пільнасьць?*

— Хутчэй, яны яе не набылі, бо ў найноўшай сваёй гісторыі яшчэ ня мелі падобнага досьведу.

*— Дык што тады рабіць?*

— Думаць. Толькі ня сэрцам, як бывае ў беларусаў, а галавой. Інакш — быць бядзе. Рана ці позна, але так.

# ЧАЛАВЕК І ЎЛАДА Ў ЭПОХУ «ЗАЛАТОЙ ВОЛЬНАСЬЦІ»

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Вялікі канцлер Ян Замойскі вымавіў у 1575 годзе падчас выбараў караля польскага й вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя наступныя словы: «Выбіраем мы караля, кожны асабіста, ніхто ў нас ніякага ўраду не прызнае, пакуль толькі сам яму дабравольна не паддаўся, а, прынамсі, не галасаваў, калі большасьць іншага караля выбрала». Гэтыя словы прагучалі ў пару, якую прынята называць эпохай «залатой вольнасьці».**

*— Можа, гэтая формула дачыненьняў паміж чалавекам і ўладай вызначыла той час як «залатую вольнасьць»?*

— Найперш мушу зазначыць, што «залатая вольнасьць» — гэта ня проста мэтафара. Гэта й дакладны палітычны тэрмін, зьмест якога ў тую эпоху ведалі ўсе больш-менш адукаваныя людзі. Вядомы скарбнік і палітычны тэарэтык канца XVI — пачатку XVII стагодзьдзя Пётар Скарга так фармуляваў яго:

***«Залатая вольнасьць» (па лаціне aurea libertas) азначае «ня мецъ тырана, ані такому каралю служыць, які б нас, як хацеў, на правы не ўважаючы, судзіў, забіваў і маёмасьць нашу браў».***

У эпоху барока звычайна й мэтафары былі вельмі канкрэтнымі, а тэрміны вобразнымі — як мэтафары. Прынцыпы «залатой вольнасьці» выразна артыкуляваныя (дарэчы, па-старабеларуску) у Статуце Вялікага Княства Літоўскага, менавіта ў звароце Лява Сапегі да станаў Вялікага Княства:





***Абачывалі то ўсіх вякоў людзі мудрыя, што ў кожнай рэчы паспалітай чалавеку пачціваму нічога ня маецъ быці дарожшаго над вольнасьцю. А нявoляю так се маецъ гыдзіці, што ня только скарбамі, але й сьмерцю яе ад сябе адганяці павінен... Яко Цыцэро паведзіў, іж естэсьмо нявольнікамі праў для таго, абысьмы вольнасьці ўжываці маглі. А есьлі ж чалавеку пачціваму нічога нет мільшага над тое, гды во айчызьне сваёй безьпечне мешкаючы не баіцца, абы яго хто на добрай славе яго змазаці, альбо на целе й на здароўі яго абразіці, альбо тэж на ўласнай маетнасьці яго ўкрыўдзіці мог. Тагды то нічому іншаму, адно праву прычытаці маецъ, за каторым ад кождага ў пакою сядзець, а жаднага ўсільства, абельжэньня і ўкрыўжэньня на сабе не паносіць, бо той цэль і скутак усіх праў ёсьць і маецъ быці на сьвеце, абы кождый добрую славу сваю, здароўе й маетносьць у цэласьці меў, а на тым усім жаднага ўшчырбку не цярпеў. І то ёсьць наша вольнасьць, каторую мы між іншымі народамі хрысьціянскімі хвалім, што пана, іжбы водле волі сваёй, а не водле праў нашых панаваў, над сабою ня маем, а яко славы ўчцівое, так жывата й маетнасьці вольна ўжываем. Бо хто б кольвек з тых трох рэчаў у чым нас укрыўдзіці й подлуг падабаньня сваяго, а не водле праў нашых над намі паствіцца меў, той бы ўжо ня панам нашым, але сказіцелям праў і вольнасьцей нашых быў, а мы бысьма нявольнікамі яго быці мусім. І слушне за праўду маем, за што Пану Богу дзякаваці, што за панаваньнем каралей іх міласьці й вялікіх князей, паноў нашых тую ўладзу й вольнасьць у руках сваіх маем, а права самі сабе творачы яко найбольшей можам вольнасьці сваёй ва ўсім пасьцерагаем, бо ня толькі сусед а сполный наш абывацель ў айчызьне, але й сам гаспадар пан наш жаднае зьвірхнасьці над намі зажываці ня можаць,***

***адно толькі, колькі яму права дапушчаець. Пото маючы такавый скарб у руках нашых, каторы жаднаю сумаю прэплачан быці ня можаць, прыстоіць кождаму пачціваму чалавеку, абы аб ім ведаў...***

*— Але ж карціна сацыяльнага й палітычнага жыцьця ў Рэчы Паспалітай абодвух народаў была вельмі далёкая ад ідыліі з гэтага тэксту. Апроч вонкавай агрэсіі, краіну калацілі шматлікія паўстаньні, рокашы, дамовыя войны. Чаму ж гэтая «залатая вольнасьць» не забясьпечвала хаця б стабільнасьці ў дзяржаве?*

— Вольнасьць — толькі прынцып, а не палітычны лад, да таго ж прынцып, які датычыў хаця й вялікай, але не пераважнай часткі грамадзтва. Трэба адразу адзначыць, што грамадзтва Рэчы Паспалітай было падзеленае на дзьве няроўныя часткі: на тых, хто быў далучаны да ўлады й, адпаведна, карыстаўся правамі вольнасьці, і на тых, хто да ўлады ня меў дачыненьня, а значыць, ня меў і тых правоў. Першая — гэта народ шляхецкі, які сам сябе вызначаў як народ палітычны. Да другой адносіліся й гараджане, нават заможныя, і вольныя сяляне, і, зразумела, сяляне прыгонныя.

*— А як жа гарадзкое самакіраваньне, магдэбурскае права?*

— Сапраўды, існавала пэўная мясцовая ўлада, але магдэбурскае права ў нас паступова занепадала разам зь беларускім горадам. Як ні імкнуўся гарадзкі патрыцыят далучыцца да кіраваньня дзяржавай — шляхта дружна яго да гэтага не дапускалала. Таму «цела ўлады» было выключна шляхецкім. І гэта было адной з прычынаў многіх унутраных канфліктаў, напрыклад, з казацтвам, якое неаднойчы збройна змагалася за ўдзел у дзяржаўнай уладзе нароўні са шляхтаю. Але





шляхта трымалася за ўладу моцна й нават знаходзіла ўнутры сябе групы, якія можна было б адлучыць ад улады — як, напрыклад, рэлігійных дысыдэнтаў. Вольнасьць і ўдзел ва ўладзе былі бакамі аднаго мэдаля. Менавіта яны адрозьнівалі шляхту ад усіх астатніх, рабілі яе магутнай сілай, нават давалі магчымасьць карміцца за кошт удзелу ва ўладзе. Публіцыст XVII стагодзьдзя Марцін Блажоўскі пісаў:

***Шляхціц ёсьць панам у сябе ў доме, не падлягае нікаму асабіста, ня мае начальнікаў, адно ёсьць паслушны правам, якія сам усталяваў, на варце іх стаяць урадоўцы, якія таксама паходзяць з прызнаньня шляхецкага, пачынаючы з караля.***

*— Ці можна сказаць, што адчуваньне індывідуальнай вольнасьці фармавала шляхецкую мэнтальнасьць?*

— «Шляхціц на загродзе роўны ваяводзе» — агульнавядомая формула беларускага шляхецтва. Але шляхта не была аднародная — былі «шарачкі», былі заможныя й, урэшце, была магнатэрыя. Менавіта яна, не зважаючы на фармальна роўныя правы ўсёй шляхты, мела ўладу ў гаспадарстве. Наяўнасьць гэтых групаў шляхты ўвасабляла функцыянаваньне ўлады ў нашым краі. Магнатэрыя, якой належала большая частка краіны, панавала адпаведна інтарэсам — калі Айчыны, а калі сваім уласным, дакладней, сямейным. Астатняя шляхта рэалізоўвала сваё права на ўладу праз удзел у сойміках, соймах і выбарах, звычайна ў складзе магнацкіх партыяў. Пачастункі, падарункі, грошы альбо пагрозы й гвалт былі сродкамі ўплыву на «заканадаўцаў», а асноўным мэханізмам маніпуляваньня соймікамі й соймамі было знакамітае «Liberum veto», з дапамогай якога кожны ўдзельнік сойму мог сарваць ці, прынамсі, прыпыніць працу сойму. Дзейнасьць магнатэрыі была цынічная, але

настолькі традыцыйная, што мала каму прыходзіла да галавы ейная няслушнасьць. Міхал Казімер Радзівіл у сваім «Дыярыюшы» ўспамінае:

***Ранкам прыехаў я да Наваградку й адразу пайшоў да пана старасты вількаўскага Сапегі, зь якім аддалі мы візыт князю ваяводу Навагрbudskamу Фаўстыну Радзівілу. Паехалі мы зь ім на соймік, дзе, як толькі распачалі яго, узяліся мы насаджваць пана Казімера Несялоўскага, чаму праціўіўся пан Хэлхоўскі, да якога кінуліся з нашае грамады й хацелі яго зарубіць, але ўцёк. Паслы ўчынілі рэляцыю канстытуцыі й адклалі абрады на заўтра. Я потым у сваёй залі ўрачыста трактаваў шляхту.***

А ксёндз Кітовіч заўважае менавіта тое, наколькі традыцыя замацавала гвалт і прымус, якія часам прыкрываліся формаю права:

***Сойміkі звычайна адпраўляюцца гвалтам, калі запрэчыўшага меркаваньню большасьці па п'яному нават на шаблях разносілі, хіба што, з адчайнымі памочнікамі сваімі, здолеў бы ён дарвацца да канцылярыі, падпісаць маніфэст, і, пакуль п'яная дружына з соймікавага кола высыпала, уцячы зь мейсца сойміку. Тады толькі, убачыўшы маніфэст, усе аднадушна вырашалі, што можна соймікаваць далей без гвалтаваньня вольнага права «не дазваляю», якое звычайна называлі «зрэнкаю вольнасьці». А калі спрэчніка дасталі, парубалі, альбо насьмерць забілі, перш чым занёс ён маніфэст, дык «зрэніца вольнасьці» лічылася за здаровую й цэлую.***

— *Удзел ва ўладзе быў небясьпечным?*

— Так. Пра гэта неаднойчы згадвае ў сваіх успамінах і вядомы мэмуарыст XVIII стагодзьдзя Марцін Матушэвіч:





***...першага сьмельчака, які адазваўся з пратэстам, Казяроўскага, асобу досыць дужую, партыя маршалкоўская схапіла, у пыск набіла й выкінула. Дасталося таксама й Мэеру. Астатнія прыціхлі...***

Але нават без уплыву магнацкіх партыяў «Liberum veto» часта ператварала соймы ў камэдыю пыхі, упартасьці й глупства. Пра гэта з абурэньнем піша той жа А. Кітовіч:

***Такія перашкоды дзейнасьці ўсёй Ізбы пасольскай здараліся часта. Нават калі пасол, неасьцярожна гаворачы, якое слова вымавіў супраць іншага, зьняважаны адразу ж помсьціўся на усёй Ізьбе. Тады сходзіліся да яго, там, дзе сядзеў ён, маршалак, паслы, а часам дэлегавалі й з Сэнату, просячы аб вяртаньні чыннасьці абрадам. Нарэшце той, насапеўшыся ўволю й насычаны просьбамі й паклонамі, вяртаў чыннасьць. Тут жа ў прамовах падзякі гэтаму ягамосьцю, які зьміласьцівіўся над сваёй айчынаю й вярнуў ёй абрады, замест таго, каб сам ён павінен быў на каленях поўзаючы ад пасла да пасла, перапрашаць усіх за злоснае й глупае змарнаваньне дарагога часу.***

Права на вольнасьць і ўладу, атрыманае без належнай адукацыі, без выхаваньня пачуцьця адказнасьці ператваралася ў права рабіць што заманецца, не зважаючы на патрэбы ня толькі Айчыны, але і ўсяго сьвету. Гэтак «залатая вольнасьць» ператваралася ў сваю карыкатуру — шляхецкую анархію.

— *А калі параўнаць стасункі паміж чалавекам і ўладай у суседніх краінах?*

— У нас не было «сакралізацыі» ўлады, як у бізантыйска-ўсходняй маскоўскай мадэлі. Там асьвячоная сама ідэя ўлады як непасрэднага ўвасабленьня боскага панаваньня, сакральнай істотай зьяўляецца й

ейны носьбіт — цар. Усе — нават найвышэйшыя саноўнікі й радавітыя князі — мезеніка ягонага ня вартыя. Усё, да чаго дакранаецца ўлада, набывае найвышэйшыя сэнс і вартасьць. У нашай традыцыі ўлада ня мае сакральнага характару — яна толькі працяг правоў шляхты, рэалізацыя ідэі вольнасьці. Вольнасьць, правы, сама краіна як месца, дзе ўвасабляецца найлепшая мадэль дачыненьняў чалавека з уладаю, набывалі ў сьвядомасьці шляхты асаблівы сэнс. А непасрэдна ўлада была звычайна толькі сродкам здабыцьця славы й багацьця. Нават кароль як сымбаль найвышэйшай дзяржаўнай улады ўспрымаўся звычайна як прадстаўнік шляхты, сама ягоная асоба ня мела вышэйшай вартасьці. Кашталянавая Касакоўская, якая недалюблівала караля й вялікага князя Станіслава Аўгуста, з задавальненьнем пісала да сваёй прыяцельніцы Патоцкай пра характэрны выпадак, што здарыўся падчас яе побыту ў Варшаве:

***...Калі стала вядома, што кароль едзе, дамы ўчынілі раду, хто б мяне прэзэнтаваў і ці хачу я таго. Я дала рэзалюцыю, што ня маю жаданьня быць прэзэнтаванаю... Ведае імя маё й мяне самую; бываў у маім доме; я свайго стану не зьмяніла — такія вось прычыны, што прэзэнтавацца ня маю дзеля чаго жадаць. Пакланіліся мы ўсе звычайным чынам, здалёку...***

*— Ці захавала генэтычная памяць беларусаў нешта з часу «залатой вольнасьці»?*

— Магчыма, у палітычна актыўнай частцы грамадзтва й праяўляюцца рысы іхных палітычна актыўных продкаў. Мэнтальнасьць, якая выпрацоўвалася стагодзьдзямі, зьмяняецца вельмі павольна. Але наяўнасьць у беларусаў дэмакратычнай мэнтальнасьці здаецца мне сумнеўнай. Шляхецкая дэмакратыя была хутчэй спадчынай родава-племянной старажытнасьці, дэмакратыяй зграі воінаў і паляўнічых. Ейнае





ўвасабленьне — вайсковы савет, рыцарскае кола. Сапраўдная дэмакратыя — дэмакратыя стрыманасьці й адказнасьці — выпрацоўвалася ў гарадах, якія беларусы страцілі да XVIII стагодзьдзя. Зь іншага боку, у сялянскай большасьці паступова выпрацавалася абыякавасьць да любой улады, якая заўсёды не свая — панская, маскоўская, польская, нямецкая, бальшавіцкая... Як гаворыцца — Бог усё даў беларусам, апроч добрых начальнікаў. Зьмяняць уладу, уплываць на яе — бяз сэнсу, трэба «пацярпець». Дык вось мне здаецца, што сёньня мы ў беларускай мэнтальнасьці маем цікавы гібрыд шляхецкага свавольля й сялянскай абыякавасьці: «Ніхто мне ня ўказ. Вось як цюкне ў галаву, так і выберу». А потым трэба цярпець...

## СОЙМІКАВАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Беларусы маюць багаты досьвед выбараў. Калі зьвярнуцца да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, яна ўся прасякнутая выбарамі й выбарам. Ад XVI стагодзьдзя, бадай, ніводная важная дзяржаўная справа не пачыналася без нарады з народам — вядома, у той час народам шляхецкім. Можа, мы схільныя часам і перабольшваць дэмакратычнасьць продкаў, але існаваньне шляхецкай рэспублікі з разьвітай прававой сыстэмаю й, прынамсі, фармальнай выбарнасьцю вышэйшай дзяржаўнай улады — гэта неаспрэчны факт.**

*— Выбары караля й вялікага князя — найвышэйшы ўзровень дэмакратычных працэдураў. А ў якой форме ажыцьцяўлялася дэмакратыя на іншых узроўнях улады?*

— Кароль абіраўся на выбарчым сойме, дзе магла ўдзельнічаць уся шляхта. Але такія соймы, зразумела, адбываліся досыць рэдка. Звычайна найвышэйшым органам прадстаўніцкай улады быў вальны сойм у ВКЛ ці агульны сойм Рэчы Паспалітай, які зьбіраўся раз на два гады. На яго абіраліся дэпутаты, ці, як іх тады называлі, паслы — два ад кожнага павету краю. Гэтыя паслы абіраліся павятовымі соймікамі. Менавіта павятовыя ды ваяводзкія соймікі, на маю думку, былі сапраўдным падмуркам шляхецкай дэмакратыі. На іх абіраліся ня толькі паслы на вальны сойм, але й дэпутаты ў трыбунал, разьвязваліся многія праблемы, як цяпер кажуць, рэгіёну. Паслам давалі «інструкцыі» — наказы, як адстойваць інтарэсы павету ў сталіцы. Соймікі былі чынным інструмэнтам, праз які шляхта непасрэдна ўдзельнічала ва ўладзе,





а магнатэрыя й вярхоўная ўлада імкнуліся праз іх уплываць на «народ шляхецкі». Спрэчкі на сойміках часам даходзілі да сапраўдных баталіяў. Вось як апісвае звычайны, можна сказаць, соймік у берасьцейскім ваяводзтве Марцін Матушэвіч:

***Настаў дзень сойміка, на якім быў і Сапега, берасьцейскі ваявода. Па ранішняй імшы сышліся ваявода, падскарбі і ўсе ўраднікі да кляштару езуіцкага, нібы на камбінацыю канкурэнтаў аб пасольстве, але коратка там прабылі, бо разумелі, што добра будзе, каб Крапінскі, гродзкі судзьдзя, і Быстры сталіся б пасламі. На маршалка сойміка ваявода берасьцейскі прапанаваў Флемінга, падскарбяга.***

***Потым пайшлі ўсе на соймік да касьцёлу аўгустыніянаў. А там ваявода, распачаўшы соймік, падаў да ляскі Флемінга й зараз жа яму крэсла саступіў. Спрытны Флемінг, усеўся быў ужо на крэсьле, але Пётра Пашкоўскі, палкоўнік, на гэта не дазволіў. Флемінг ужо хацеў падзякаваць грамадзе за абраньне, але Пашкоўскі на тое вельмі заспрачаўся, а за ім шляхта ледзь ня ўся закрычала: «не дазваляць на маршалкоўства Флемінгу!»***

***Зьмяшаўся пры тым Флемінг. Пачаў кідацца, гневацца, а шляхта тым жвавей на яго лаялася. Раз вырвалі з-пад яго крэсла й з імпэтам ды моцна тым крэслам да стала прыперлі. Хацеў ён схапіцца за шпаду, але яго Быстры за руку прытрымаў. Як шляхціц яму які чаго прыкрага казаў, дык ён пытаўся яго: «Як цябе завуць?» Спрытна яму за тое слова «ты» адказвалі.***

***Потым Францішак Касьцюшка, берасьцейскі пісарэвіч, чалавек сьмелы, таксама яму нешта прыкрае мовіў. Флемінг, зьмяшаны, кажа да яго: «Як ты завесься?», а пісарэвіч яму ў адказ: «А ты як завесься?». Потым пачаў пісарэвіч распавядаць гісторыю, як падчас апошняга міжкаралеўя пры-***

*ехаў адзін сас да ягонай вёскі ды казаў сабе сыру, масла даваць. Ды ён сам сеў на каня, паехаў да вёскі й, убачыўшы саса, як сьцебануў яго нагайкаю на тры пальцы таўшчынёю праз лоб, дык сас на зямлю і ўпаў. Тады ж, сьсеўшы з каня, пачаў яго па нагавіцах хвастаць, такія мовячы словы: «А да Саксоніі, скурвысыне сасе, ня ў нашым ваяводзтве загадваць».*
*Меў і болей чаго Флемінг паслухаць, а тым часам шляхта ўсё болей хвалявалася. Нарэшце Флемінг, падняўшы ляску, ударыў у стол, толькі тыя сказаўшы словы: «Разьвітваюся», а шляхта яму адказала: «Не разьвітвайся, бо не вітаўся». Тут Флемінг, ня вытрымаўшы, пачаў з фурыяй наступаць на палкоўніка Пашкоўскага, а тады Пётра Талочка, крыкнуўшы «А дакуль жа так будзеш шляхту трактаваць!..», схапіўся за шаблю.*
*Зараз жа ўся шляхта пахапалася за шаблі. Быстры й Крапінскі наперад уцяклі, а за імі сунуўся да ўцёкаў Флемінг. Як шляхта на лавах пры століку стаяла ды за шаблі схапіліся, дык лава зь імі й вывернулася. Флемінг, уцякаючы да закрыстыі, хацеў празь ляжаўшую на зямлі шляхту пераскочыць — упаў. Ляжачага тады яго малы хлапец, гадоў чатырнаццаці, Тыматэй Ляскоўскі, сын нябожчыка рэгента гродзкага, колькі разоў тупой шаблінай па плячох і пакрапіў. А тымчасам Франц, гайдук ягоны, падхапіў Флемінга падпахі, падняў, і гэтак Флемінг уцёк.*

— *З гэтага зразумела, чаму на сойміках ня раз даходзіла й да сьмерці апанэнтаў. Але ж уплыў на грамаду адбываўся, напэўна, ня толькі праз узаемны гвалт?*

— Так. Найважнейшае месца займалі закулісныя перамовы паміж кіраўнікамі шляхецкіх партыяў. Моцна ўплывалі на публіку палымяныя й дасьціпныя прамовы. Але на нашых сучасьнікаў яны падзейнічалі б хіба наадварот — стыль за стагодзьдзі радыкальна перамяніўся. Асноўным жа сродкам, з дапамогаю якога разьвязваліся пытаньні, каго абіраць, звычайна былі грошы й добры пачастунак. Анджэй Кітовіч дае ў сваім «Вопісе звычаяў за панаваньне Аўгуста III» амаль вычарпальнае апісаньне соймікавага частаваньня:

*Панства й заможная шляхта частаваліся на сойміках стравамі адборнымі й напоямі добрымі, найбольш вугорскім віном, якога ім чым болей, ды лепшага давана было, тым большая была там сходка.*
*Дробная шляхта з панамі не мяшалася, мела свае асобныя сталы па розных сядзібах, а ўлетку па садах і падворках пад намётамі. Там іх праз увесь час сойміку кармілі й паілі. Пры кожным такім стале знаходзіўся адзін ды другі з панскага атачэньня слуга альбо прыяцель, дзеля заахвочваньня. Стравы для дробнай шляхты не былі вытанчаныя, звычайна мясныя: валавіна, сьвініна, бараніна, часам курэй, гусей ды індыкаў смажана было. Гатавалася ўсё салёна ды кісла — каб выклікала прагу да напояў.*
*З ранку давана было гарэлкі раз, другі й трэці, пастаўлена на стале колькі боханаў хлебу, брыляў масла ды кавалкаў смажаніны, што звычайна стоячы разарвана паміж сабою было. Хто адчуваў яшчэ па тым падсілку смагу — давалі піва. Зрэшты ад абжорства ўстрымлівалі іх, каб утрымацца маглі ў прытомнасьці для соймікавай працы, да якой іх адпаведна часу адводзілі ў касьцёл ці на могілкі — дзе соймік адпраўляўся, навучаных ужо, што маюць падтрымліваць, альбо чаму працівіцца...*
*Па скончанай сэсіі прыводзілі тыя роты да сваіх сталоў, дзе пачаты абед сутыкаўся зь вячэраю, а тая цягнулася да поўначы, а то й да белага дня.*

*— Зрэшты, гэтая традыцыя падтрымлівалася нават і ў час савецкай «дэмакратыі» — усе ведалі пра дэпутацкія сталоўкі й крамы. Але калі казаць пра сапраўдную традыцыю саймаваньня — наколькі старадаўняя яна была ў ВКЛ?*

— Пачатак яе губляецца ў дагістарычнай эпосе. А гістарычным папярэднікам соймаў і соймікаў было веча — сход на раду паўнапраўных вольных мужчынаў. Гарадзкое веча ў Сярэднявеччы магло абраць альбо пазбавіць улады князя, які быў вайсковым правадыром, а не аднаасобным уладаром. Абіраліся й іншыя службовыя асобы. Як бачым, традыцыя вольнага абіраньня сягае вельмі далёка, а праіснавала яна ў нас да XV стагодзьдзя, калі была замененая соймам. У вайсковай дружыне ваяры зьбіраліся на сваю нараду — «кола», якое пазьней назвалі рыцарскім. Паводле старажытных звычаяў, на нараду заўсёды зьбіраліся ў «кола», таму часам ня толькі вайсковыя сходкі, але й любую раду называлі «колам». Кожная гусарская харугва ў Рэчы Паспалітай да канца XVIII стагодзьдзя мела сваю раду — «харуговае кола», якое зьбіралася раз на год, абіраючы дэпутатаў на вайсковы трыбунал і дзеля збору сродкаў на ўтрыманьне харугвы. Той жа Кітовіч апісвае гэткае «кола»:

***Калі прыходзіў дзень, прызначаны колу, сходзіліся ўсе прысутныя да паручніка альбо да харужага, хто зь іх быў прысутны, альбо да намесьніка, калі ніводнага афіцэра не было. Там, як заселі вакол стала парадкам старшынства, прэзыдуючы меў да рыцарства павітальную прамову, у якой найперш прыгаданая была ахвяра жыцьця й фартуны дзеля цэласьці айчыны, потым падзяка Найясьнейшаму Пану Каралю за яго бацькоўскае пра справы публічныя дбаньне, далей цягнуліся з вуснаў вайсковага красамоўцы пахвалы гетману, правадыру й дабрадзею жаўнерскаму, адважнаму й непераможнаму ваяру, потым мужным багатырам Жаўкеўскім, Карэцкім, Хадкевічам, Чарнецкім, Сабескім. Напрыканцы даставалася патроху пахвалаў панам ротмістру, паручніку, харужаму, намесьніку і ўсяе годных калегаў грамадзе — прысутным і непрысутным...***
***Па ўсіх рахунках прыступалі да абраньня новага дэпутата, пленіпатэнта да Трыбуналу ў Радамі й двох рэзыдэнтаў для асыставаньня ротмістру. На гэтыя справы прызначана было тры дні...***

*— Як выглядала сама працэдура выбараў на шляхецкіх сойміках? Ці існавалі скрыні, бюлетэні?*

— Галасаваньне называлі крэскаваньнем, бо на дошцы насупраць прозьвішча кандыдата ставілі крэйдаю крэскі: чым больш крэсак, тым болей галасоў. Гэта было тым больш зручна, што ня ўсе выбарцы ўмелі добра чытаць і пісаць. Голас выбарцы так і называўся — крэска, а калі хтосьці перамагаў суперніка на выбарах, казалі, што ён яго перакрэскаваў.

*— Калі шчыра, агульнае ўражаньне ад «павятовай дэмакратыі» дваістае. Чаго ж у ёй было болей — боек, п'янства, подкупаў, марнаслоўя ці руплівасьці, адказнасьці за Айчыну?*

— Самай важнай у нашай дэмакратычнай традыцыі мне сёньня здаецца менавіта тая звычка да бытнасьці права й магчымасьці выбіраць, да значнасьці асобы, якая выпрацавалася ў нашым рэгіёне, не зважаючы на ўсе заганы шляхецкай рэспублікі. Той факт, што ва ўспамінах, дзёньніках эпохі барока, у мастацкіх творах таго часу ці прысьвечаных яму шмат старонак аддаецца апісаньням соймікаў, трыбуналаў, выбараў, гаворыць пра тое, якой важнай была гэтая тэма для грамадзтва. Гэта — вялікі гістарычны досьвед свабоды, які ня можа цалкам зьнікнуць у наступных пакаленьнях.

## МОВА ЎЛАДЫ І ЎЛАДА МОВЫ

*Размова з Валянцінам Акудовічам*

**Перадусім згадаю знакамітае выслоўе філёзафа Раляна Барта: «Мова — не рэакцыянэр і не прагрэсіст, мова — гэта звычайны фашыст, бо сутнасьць фашызму ня ў тым, каб забараняць, а ў тым, каб змушаць гаварыць». Гэтае вызначэньне паказвае на адну з функцыяў мовы як інструмэнту ўлады.**

*— Ці ня ў зьвязку з гэтай функцыяй можна казаць пра статус мовы як дзяржаўнай?*

— Нам толькі здаецца, што мы гаворым мовай. Насамрэч, гэта мова гаворыць намі й праз нас — прынамсі, так лічыў Ралян Барт. І калі адкінуць філязофскія аспэкты гэтай праблемы й зьвярнуцца да жыцьця, дык адказ на вашае пытаньне будзе кароткі й катэгарычны: кожная дзяржаўная мова — гэта перадусім мова прымусу. Калі заўгодна, ніхто з нас не размаўляе ні па-беларуску, ні па-француску, ні парасейску, усе мы гаворым адной мовай — мовай ня той, дык іншай улады.

*— У 90-я гады мінулага стагодзьдзя мы, здавалася б, урэшце засвоілі, што дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага была старабеларуская мова. І гэта дазволіла лічыць ВКЛ старадаўняй беларускай дзяржавай. Але нярэдка ўсё ж можна пачуць ад замежных дасьледчыкаў, што гэта была не старабеларуская, а канцылярская славянская мова. Такія публікацыі сустракаюцца і ў беларускіх, нават незалежных, выданьнях. Калі адсланіцца ад патрыятычных пачуцьцяў, падпарадкавацца навуковаму погляду, дык дзе тут ісьціна?*





— Сытуацыя больш складаная, чым нам хацелася б. Ужо таму, што ў пару Вялікага Княства Літоўскага ніхто той мовы беларускай не называў, дый сам этнонім «беларусы» запануе на гэтых прасторах праз некалькі стагодзьдзяў пасьля зьнікненьня Княства. Ёсьць шэраг іншых, ня менш важкіх аргумэнтаў на карысьць праціўнікаў называць тую мову старабеларускай. І нашы навукоўцы мусяць улічваць гэтыя аргумэнты. Але мы на тыя аргумэнты не павінны зьвяртаць увагі. Бо з такім жа посьпехам можна паставіць пад сумнеў назву кожнай мовы, якая мае азначэньне «старажытная». Чамусьці расейцам, чэхам, палякам, баўгарам можна атаясамліваць тыя славянскія гаворкі, на якіх размаўлялі іхныя даўнія продкі, са сваім сучасным нацыянальным этнонімам, а беларусам — дык не, няможна. Не, мы будзем таксама гэта рабіць!

*— Вы хочаце сказаць, што кожная спроба замяніць назву дзяржаўнай мовы ВКЛ са «старабеларускай» на «славянскую» — гэта звычайная палітычная канкурэнцыя, якімі б пераканаўчымі навуковымі аргумэнтамі не карысталіся апанэнты?*

— Гісторыю, як вядома, піша той, хто застаўся жывы. Пакуль некалькі стагодзьдзяў мы былі быццам мёртвыя, нашу гісторыю перапісалі на свой рахунак тыя, што заставаліся жывымі. Калі не баяцца словаў, дык усё гэта трэба было б назваць марадэрствам. І цяпер, калі нашчадкі тых, памерлых, патрабуюць сабе спадчыну сваіх продкаў, яны чуюць з усіх бакоў лямант марадэраў. Але давайце пакінем нашую «маёмасную цяжбу» з суседзямі на потым. Бо сёньня я хацеў бы, каб мы сканцэнтраваліся на тым, што ні ў каго не выклікае сумневу. А менавіта на тым, што тая мова была мовай княскай канцылярыі, гэта значыць, мовай палітычнай, прававо́й і рэлігійнай улады на ўсёй тэрыторыі ВКЛ.

*— Тут дарэчы будзе згадаць словы беларускага гісторыка Янкі Запрудніка, які цьвердзіць: паколькі старабеларуская мова выкарыстоўвалася ў княскай канцылярыі ад самага яе заснаваньня ў XVI стагодзьдзі, беларускую мову трэба лічыць адной з найстарэйшых дзяржаўных моваў у Эўропе. Напрыклад, кастыльскую мову было загадана ўжываць у гішпанскіх урадавых дакумэнтах у XIII стагодзьдзі, ангельская набыла афіцыйнае прызнаньне ў 1362 годзе, а парыскі дыялект францускай дамогся такога статусу ў 1400 годзе.*

— Да словаў Янкі Запрудніка дадамо толькі, што старабеларуская мова ня проста выкарыстоўвалася ў княскай канцылярыі, яна апынулася прыдатнай, каб аб'яднаць уладай у адзінае цэлае вялізную краіну ад Балтыйскага мора да Чорнага. А значыць, мова стала магутным інструмэнтам улады. Вяртаючыся да словаў Раляна Барта, якія Вы працытавалі напачатку нашай размовы, адзначу, што ў гэтым сэнсе старабеларуская мова нічым ня розьнілася ад іншых паноўных моваў. Перадусім, яна існавала як надзвычай эфэктыўны інструмэнт заняволеньня й панаваньня.

*— Дык як жа беларусам-патрыётам пасьля такой характарыстыкі мовы ставіцца да знакамітага выказваньня Францішка Багушэвіча «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі», як і да бясконцага шэрагу падобных выказваньняў, якіх даволі можна сустрэць ці ня ў кожнага беларускага паэта?*

— Мяркую, што да ўсіх гэтых рамантычна-ўзьнёслых словаў ставіцца мы павінны па-ранейшаму: з паразуменьнем і спагадай. Але ўжо даўно насьпеў час для ўсьведамленьня, што ў мовы ёсьць і іншы — цёмны бок, мова створаная ня толькі дзеля таго, каб слухаць іншага, але каб і слухацца мацнейшага за цябе. Ме-





навіта пра гэта, толькі ўжо адносна пісьмовай мовы, кажа францускі філёзаф Клёд Леві-Строс у кнізе «Сумныя тропікі»:

***Трэба прызнаць, што першасная функцыя пісьмовай камунікацыі — гэта паскарэньне працэсу зьняволеньня людзей. Бескарысьлівае ўжываньне пісьма дзеля інтэлектуальнага й эстэтычнага задавальненьня ёсьць ускосным вынікам, але й ён найчасьцей ператвараецца ў сродак узмацненьня, апраўданьня ці прыхаваньня таго ж прыгнёту.***

Як ілюстрацыю да гэтай гіпотэзы Леві-Строс згадвае вялікія дапісьмовыя імпэрыі Афрыкі й Паўднёвай Амэрыкі, якія нейкі час валадарылі над мільёнамі людзей, але, ня маючы пісьма, хутка рассыпаліся й зьнікалі. Зьвяртаючыся бліжэй да сучаснасьці, ён піша, што ў XIX стагодзьдзі

***...барацьба зь непісьменнасьцю супадае з узмацненьнем кантролю над грамадзянамі з боку ўлады. Калі ўсе будуць умець чытаць, улада зможа ўпэўнена казаць: няма каму адгаворвацца няведаньнем закону.***

З нагоды гэтага выказваньня беларускі культуроляг Юрась Барысевіч неяк слушна заўважыў, што барацьба бальшавікоў зь непісьменнасьцю мела на мэце тое самае — татальна ахапіць усё насельніцтва СССР сваім панаваньнем.

*— Атрымліваецца, што гэта даўняя аблуда, якая трымаецца й дасюль — над цёмным народам уладарыць лягчэй, чым над адукаваным. Магчыма, цёмны народ лягчэй запрыгоніць і трымаць у каляніяльным стане, але трывала панаваць гэткім чынам наўрад ці ўдасца. Ці ня так?*

— Хрысьціянская царква шматкроць павялічыла прастору сваёй улады, калі даўмелася перакладаць

Біблію на нацыянальныя мовы. Злучаныя Штаты Амэрыкі наўрад ці дасягнулі б сёньня такой усясьветнай моцы, каб Брытанская імпэрыя (над якой, як вядома, ніколі не заходзіла сонца) у сваю пару не пашырыла ангельскую мову амаль на ўсю зямную кулю. Калі Брытанская імпэрыя змарнела й заняпала, амэрыканцам заставалася толькі напампаваць гэтую ўсясьветную прастору ангельскай мовы ўласнай энэргіяй.

*— Вы казалі, што старабеларуская мова як эфэктыўны інструмэнт заваёвы ўлады нічым ня розьнілася ад іншых. Ці гэта знаходзіла адлюстраваньне на заканадаўчым узроўні ў Вялікім Княстве Літоўскім?*

— Натуральна. Пагартаем Статут Вялікага Княства Літоўскага. Сёньня мы бясконца згадваем яго як сьведчаньне высокай прававой культуры старажытнай Беларусі, не забываючыся пры гэтым адзначыць лібэралізм і гуманнасьць ейных законаў. Да таго ж мы не абмінаем згадкай выразнасьць і распрацаванасьць той беларускай мовы, якой гэты Статут быў напісаны, і з гонарам цытуем словы Лява Сапегі, што «законы нашы выдадзены не на нейкай чужыннай мове, а на сваёй роднай». І ўсё гэта праўда. Але яшчэ большая праўда ў тым, што Статут ствараўся ня дзеля дэманстрацыі нашай высокай прававой культуры й багатай мовы й, тым болей, ня дзеля таго, каб некалі потым ім ганарыліся нашчадкі. Статут меў канкрэтную й прагматычную задачу. Праз рэформу прававога поля й сыстэматызацыю законаў больш жорстка зафіксаваць пісанай мовай уладу паноўнай эліты над гэтай вялізнай, але аморфнай тэрыторыяй. Пасьля выданьня Статуту, як сказаў бы Леві-Строс, «улада магла ўпэўнена казаць: цяпер няма каму адгаворвацца няведаньнем закону». Статут шматкроць павялічыў колькасьць і якасьць улады князя й эліты.





*— Статут ВКЛ у пісанай форме юрыдычна замацоўваў моц сьвецкай улады. А ў духоўнай сфэры што стаяла на варце ўлады?*

— Яшчэ адзін вялікі помнік старабеларускай мовы — «Біблія» Францішка Скарыны. У духоўнай сфэры яна выконвала тую ж ролю, што й Статут Лява Сапегі. Беларуская «Біблія» дапамагла канчаткова зруйнаваць паганства на нашых землях і гэтак сканцэнтраваць духоўную ўладу ў руках царквы. Між іншым, заўважым, што адной з асноўных прычынаў татальнай паразы паганства была адсутнасьць у яго такой магутнай зброі дзеля барацьбы за духоўную ўладу, як паўнавартасная пісьмовая культура.

*— Але старабеларуская мова хоць і выявілася як мова ўлады, не змагла зьберагчы Вялікага Княства, і яно назаўжды зьнікне з геапалітычнай мапы Эўропы. Разам зь ім назаўжды зьнікне й старабеларуская мова. Чаму так здарылася?*

— Мы сёньня ўвесь час гаворым, што старабеларуская мова найперш і перадусім была мовай улады. У гэтым была ейная моц, але, як выявілася пазьней, і ейная слабасьць. Пасьля ўлучэньня Княства ў Рэч Паспалітую, цэнтры ўлады перамясьціліся ў Польшчу, і мовай улады сталася польская. А старабеларуская засталася без сваёй асноўнай функцыі й змарнела яшчэ да таго, як тэрыторыі Вялікага Княства апынуліся ў складзе Расеі.

*— У рэчышчы гэтай тэмы, мова і ўлада, што б Вы маглі сказаць пра сучасную беларускую мову?*

— Яна высьпела ва ўлоньні беларускай вёскі, пазбаўленай каналаў хоць якой улады. І доўгі час ёю карысталіся адно тая ж вёска й плебэйскія ўскрайкі гарадоў ды мястэчкаў. Першае злучэньне (вельмі кароткае ў часе) сучаснай беларускай мовы і ўлады ад-

былося ў 1918 годзе, калі была створаная БНР. Затым гэтае задзіночаньне мовы і ўлады паспрабавалі аднавіць бальшавікі ў БССР (вядомая беларусізацыя 1920-х гадоў), толькі неўзабаве яны вынішчылі ўсіх, хто выявіўся сьвядомым адэптам роднай мовы... Але сытуацыя з сучаснай беларускай мовай патрабуе асобнай гаворкі. Я толькі скажу, што мовай улады сёньня ў Беларусі зьяўляецца расейская, а беларуская сталася мовай свабоды.



## КАЛЯНІЯЛЬНАЕ Й НЕЗАЛЕЖНІЦКАЕ СЬВЕТАБАЧАНЬНІ

*Размова з Алесем Анціпенкам*

**Мэнталітэт — гэта сьветабачаньне, склад і настрой думак, тыповыя рысы характару вялікай групы людзей. Найчасьцей слова гэтае дапасуецца да паняцьцяў «нацыя», «народ». Да мэнталітэту народу, сфармаванага гістарычным досьведам, апэлююць палітыкі, калі тлумачаць свае перамогі й памылкі. Яны ж формуламі мэнталітэту ідэалягічна забясьпечваюць сваю дзейнасьць. Напачатку XX стагодзьдзя выдатны дзеяч беларускага адраджэньня Аркадзь Смоліч пісаў у сваёй кнізе «Геаграфія Беларусі»:**

***Розныя аўтары па-рознаму апісвалі характар беларуса. Каб давесьці, што беларусы ёсьць нейкаю ніжэйшаю расаю, а гэта было патрэбна нашым імпэрыялістычным суседзям, шмат хто з этнографаў панаючых народаў прадстаўляў беларуса напаўдзікуном.***

**Здаецца, нешта падобнае можна пачуць і сёньня, толькі ў больш прыстойных фармулёўках.**

*— Беларускі мэнталітэт... Які ён? Як, на якіх падставах фармаваўся? Што зь вядомых вызначэньняў праўда, а што міт?*

— Гаворка сёньня, безумоўна, не ідзе ўжо пра «напаўдзікунства» беларусаў, але фактам ёсьць тое, што ў другой палове 1990-х гадоў у нашым грамадзтве былі рэанімаваныя шмат якія каляніяльныя формулы, зьмест якіх даволі просты: беларусы — гэта непаўнавартасны народ, а іхныя культура й мова недаразьвітыя. Гэтыя формулы маюць характар менавіта палітычных цьверджаньняў, і ня раз ішлі ад цяперашняга кіраўніка дзяржавы А. Лукашэнкі. Цікавым у прыведзеным пасажы Аркадзя Смоліча зьяўляецца тое, што, як напачатку XX стагодзьдзя, гэтак і сёньня, мы сутыкаемся з калізіяй нашага каляніяльнага мінулага й памкненьнем да самастойнага нацыянальнага існаваньня. І гэтая калізія ёсьць перадусім унутранай праблемай беларускага мэнталітэту. На вялікі жаль, трэба прызнаць, што беларусы доўгі час былі ў стане каляніяльнай залежнасьці й падпарадкаванасьці. Гэта траўматычны досьвед нашай гісторыі. А любы траўматычны досьвед, як вядома, адкідаецца ці заганяецца ў падсьвядомасьць. Таму нядзіўна, што даволі значная частка беларускага насельніцтва ў другой палове 1990-х гадоў цалкам сьвядома рушыла ў тое недалёкае й сьветлае мінулае, дзе праблема нацыянальнай незалежнасьці й індывідуальнай свабоды проста не стаяла на парадку дня. Індывідуальная свабода й нацыянальная самастойнасьць, як вядома, вымагаюць індывідуальнага выбару й адказнасьці. Для сьвядомасьці падпарадкаванага ні першае, ні другое не зьяўляюцца самакаштоўнымі рэчамі. Адсюль і вынікае той канфармізм, як характарыстыка паводзінаў і рыса характару, пра якія пісаў Аркадзь Смоліч і зь якімі яшчэ сутыкаемся сёньня:

***Беларус рад каму хаця саступіць, абы была згода. Зразумела, што пры гэткай лішняй, можа, міралюбівасьці гісторыя беларускага народу й не магла ўлажыцца іншым спосабам, як яна ўлажылася. Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, тае будучыны, калі справядлівасьць запануе між народамі, але быў мала падгатаваным да змаганьня за быт, за жыцьцё, якое йшло вакола яго й яго коштам, але на яго шкоду.***

*— Падаецца, што А. Смоліч і іншыя адраджэнцы пачатку XX стагодзьдзя лічылі, што беларус з прычыны сваёй падрыхтаванасьці да ролі грамадзяніна будучыні ёсьць у нейкім сэнсе ідэальнай асобай. Тут згадваюцца словы з Эвангельля: «Дабрашчасныя лагодныя... Дабрашчасныя вы, калі будуць вас ганьбіць і гнаць».*

— Гэта праўда, што падпарадкаваныя й гнаныя маюць абвостранае пачуцьцё справядлівасьці. І менавіта яно вельмі ўласьціва беларусам. Там, дзе беларускае жыцьцё будавалася самастойна, без калянізацыйнага ўціску, гэтае пачуцьцё й рэалізоўвалася. Я маю на ўвазе беларускую сям'ю. Вось як піша пра гэта Аркадзь Смоліч:

***На чале сям'і наагул стаіць гаспадар: ён кіруе работаю, яе парадкам, судзіць малодшых, загадуе грашыма. Улада яго, аднак, моцна абмежаваная. Свае загады ён робіць, парадзіўшыся зь іншымі сябрамі сям'і; калі ж выявіцца, што гаспадар няздольны весьці гаспадарку, бывае, што сям'я замяняе яго іншым сваім сябрам... У беларускай сям'і саўсім няма тога дэспатызму, які пануе ў маскоўскай сялянскай сям'і ды наагул на ўсходзе. Жанкі лічацца раўнапраўнымі сябрамі сям'і, а гаспадыня па свайму значэньню саўсім ня меншая ад гаспадара.***

*— Ці ня ёсьць парадоксам беларускага характару тое, што, як піша А. Смоліч, «беларус у мінуўшчыне асабліва ваяўнічым настроем ніколі не вызначаўся», але, з другога боку, «у расейскай арміі лічыўся найлепшым салдатам: адважным, цьвёрдым, вытрывалым»?*

— Трэба зазначыць, што А. Смоліч разважае ў межах менавіта той гістарычнай рэтраспэктывы, у якой беларусы ёсьць проста этнаграфічнай супольнасьцю





ў ейным сялянскім стане. З гэтага стану, як мы ведаем, і пачыналася адраджэньне беларускай нацыі напрыканцы XIX стагодзьдзя. З другога боку, добра вядома, што беларусы мелі й значна ранейшую гісторыю. Гэта гісторыя да XVII стагодзьдзя. У XVII стагодзьдзі адбыўся катастрафічны разрыў у беларускай культурнай традыцыі — традыцыі дзяржаўнасьці й мэнтальнасьці. Як і палякі, мы ў XVII стагодзьдзі мелі свой нацыянальны патоп. Гэты патоп быў вынікам брутальных войнаў з Маскоўскай дзяржавай. Дастаткова сказаць, што пасьля вайны 1654—1667 гадоў Беларусь страціла амаль палову свайго насельніцтва.

*— Дык як тады паўплывала на мэнталітэт беларусаў іхная гісторыя да XVII стагодзьдзя?*

— Да XVII стагодзьдзя мы мелі зусім іншую гісторыю. Калі сказаць вельмі коратка, гэта быў пэрыяд нашай гераічнай гісторыі. І калі Смоліч піша пра тое, што беларусы ў расейскім войску былі найлепшымі салдатамі, мужнымі й храбрымі, дык гэта толькі сьведчыць пра тое, што ў нашым нацыянальным характары ёсьць глыбока прыхаваныя якасьці мужнасьці й рашучасьці нашых далёкіх продкаў-ваяроў. Адсюль і трываласьць беларусаў, адсюль і той нацыянальны супраціў, які ў самы розны час яны выяўлялі. Рызыкну выказаць меркаваньне, што Васіль Быкаў пісаў зусім не пра Вялікую Айчынную вайну. Ён пісаў пра генэтычны й экзыстэнцыйны супраціў беларуса. І вобраз Сотнікава — найлепшы таму прыклад.

*— Які вобраз народу складваецца, калі мець на ўвазе беларускую традыцыю й гісторыю цалкам?*

— Гэта вобраз эўрапейскага народу, а наш культурны код цалкам эўрапейскі. Гэта яскрава пацьвярджае гісторыя й культура беларускіх гарадоў да другой паловы XVII стагодзьдзя. Я маю на ўвазе перадусім сыстэму гарадзкога самакіраваньня ці магдэбурскае

права, якое было зьявай выключна эўрапейскай. На ўсход ад старажытнабеларускага гораду Смаленску зьявы самакіраваньня проста не існавала. Практычна заўсёды Беларусь была шматканфэсійнай краінай, а беларускае праваслаўе відавочна розьнілася ад расейскага. Адной з такіх адметнасьцяў былі праваслаўныя брацтвы — яны былі органамі супольнага кіраваньня, у іх кантроль за царкоўнымі справамі належаў прыхаджанам.

*— Мэнталітэт кожнага народу відавочна грунтуецца на ягонай гісторыі, а таму ёсьць рэччу даволі кансэрватыўнай. Тым ня менш, ці адбываюцца нейкія зьмены ў сучасным беларускім мэнталітэце і ў якім кірунку?*

— Так, адбываюцца, і найбольш яны заўважныя пры зьмене пакаленьняў. Гаворка ідзе найперш пра разбурэньне каляніяльных комплексаў прыніжанасьці й падпарадкаванасьці. Сьведчаньнем зьяўляецца паўставаньне новай генэрацыі беларусаў з выразным памкненьнем да дэмакратычных пераменаў і незалежнай Беларусі. І хаця сёньня мы яшчэ маем дачыненьне з часткова блякаванай энэргетыкай беларускага мэнталітэту, я думаю, што беларусам наканавана перажыць нацыянальны катарсіс — стан ачышчэньня й вызваленьня творчай энэргіі.



## ВЕРА Ў БОГА

*Размова з Вацлавам Арэшкам*

**Ваявода віленскі, уладальнік Нясьвіжу князь Міхал Казімер Радзівіл па мянушцы Рыбанька ў «Дыярыюшы» пісаў: «Хварэючы страшна на камяні, дзяцей сваіх пасылаў я ўчора да касьцёлу Сьвятога Міхала, пехатою, каб за мяне афяравалі, ды прыехаў сам ягамосьць пан ксёндз Валадковіч. Ранкам паслаў дзяцей да Сьвержню, да цудоўнай Маткі Боскай у царкве й па сьвятара рускага. Хутка да карэтаў паўсядалі, у дарогу тую едучы. Вялікім цудам тае Маткі й Сьвятога Міхала выйшаў зь мяне камень, з костку дактылёвую, вагою чвэрць чырвонага злотага, калі мяне ўжо з болю канвульсіі бралі». Знакаміты магнат, каталік, запрашае да сябе, каб памаліліся за ягонае выздараўленьне, сьвятароў — каталіцкага й праваслаўнага адначасна.**

*— Што гэта? Шчырая, наіўная вера, ці наадварот — няпэўнасьць яе, а мо блюзьнерства?*

— Гэта тыповая беларуская зьява — талеранцыя мэнтальнасьці й дзеяньня. У хвіліну небясьпекі ў шчырага каталіка, якім быў Радзівіл, не паўстае сумненьняў — можна зьвяртацца ня толькі да касьцёлу, але й да царквы!

*— Формула «адна краіна — адна царква» ніколі не пасавала беларускай мэнтальнасьці?*

— Суіснаваньне розных хрысьціянскіх канфэсіяў ды розных рэлігіяў у Вялікім Княстве Літоўскім спараджала стан пэўнай размытасьці межаў паміж імі. Той жа Міхал Казімер Радзівіл прыгадвае:

***Зранку езьдзіў я за мілю да манастыра Машнагорскага, што на маім грунце стаіць і невядома якой веры, бо адны ўніяты, а другія схізматыкі, а манастырык той досыць пекны, чарняцоў там з чатыры дзясяткі.***

Пераход у іншую канфэсію не лічыўся злачынствам, і многія вядомыя людзі пачыналі сваё жыцьцё ў адной канфэсіі, а заканчвалі ў іншай. Прыгадайма багарлівага каталіка, пілігрыма й фундатара касьцёлаў Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку, які спачатку быў кальвіністам. Некаторыя магнаты пераходзілі зь веры ў веру некалькі разоў, захоўваючы пры тым і свой стан, і грамадзкі давер, больш за тое — рабілі гэта з карысьцю для сябе. Падобна, што першы прыклад падаў наш вялікі князь Міндоўг, які пабыў спачатку паганцам, затым хрысьціянінам, пасьля зноў паганцам. Так, і ў веры беларусаў нават па сёньняшні дзень захавалася шмат ад ягонага паганскага сьветаўспрыманьня.

*— У чым жа гэта найбольш выяўляецца? У папулярнасьці розных забабонаў ды прыкметаў?*

— Забабоны — гэта ня самае істотнае ў паганскай спадчыне беларусаў. Увогуле ўся эўрапейская культура прасякнутая забабонамі, сьлядамі сваёй антычнай і барбарскай паганскасьці, і беларускія забабоны адпавядаюць ім. Але своеасаблівасьць і архаічнасьць веры ў нашым рэгіёне праяўляецца хутчэй ва ўтылітарным ды вельмі побытавым, нават свойскім стаўленьні да рэлігіі, да Бога й сьвятых. У царкву ці касьцёл прыходзілі як да бацькі ці да пана — парадзіцца, пажаліцца, папрасіць. Бог быў сваім Богам — селянінам, рамесьнікам, жаўнерам, магнатам, апранаўся па-мясцоваму, размаўляў па-свойску. Барокавыя беларускія абразы прадстаўляюць сьвятых, адзетых у кунтушы альбо сялянскія сьвіткі, зь цяжкімі





працавітымі рукамі, з чырвонымі, пабітымі ветрам і сонцам тварамі. І сьвятых, і Дзеву Марыю, і Ісуса песьцілі, як сваіх блізкіх, адзявалі ў прыгожыя сукенкі, абдарвалі іх ланцужкамі й пярсьцёнкамі, пры гэтым часта нават і ня ведалі на памяць «Войча наш». Бог быў дасяжным — ён даваў знакі, шкадаваў, літаваўся, а калі трэба, сувора караў, ён ня грэбаваў ні працаю, ні крывёю. Пісьменьнік Ян Хрызастом Пасак, які ваяваў у XVII стагодзьдзі з маскоўцамі ў Беларусі, прыгадвае ў мэмуарах такі эпізод. Пасьля бітвы дапамагаў ён ксяндзу Пякарскаму рыхтавацца да палявой імшы, а ваявода Чарнецкі кажа: «Пане браце, прынамсі рукі ўмый ад крыві». Адказаў ксёндз: «Нічога, ня шкодзіць гэта, ня брыдзіцца Бог крывёю, разьлітаю дзеля імені Ягонага».

*— Са старасьвецкіх мэмуараў паўстае пераважна культура шляхецкая. Якім быў Бог шляхты?*

— Амаль усе аўтары дзёньнікаў закранаюць пытаньне веры й Бога. Але найбольш выразна й яскрава акрэсьліў мадэль шляхецкай веры эпохі «залатой вольнасьці» пісьменьнік і публіцыст Гэнрык Жавускі ў сваёй знакамітай імітацыі шляхецкага дзёньніку — «Успамінах ягамосьці пана Севярына Сапліцы». Ён укладае ў вусны Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку такі маналёг:

***Калі пачаў я маліцца Пану Езусу ў Барэмлі, ён да мяне азваўся: «Радзівіле, вяртайся на Літву й кланяйся шляхце навагрcraдзкай ад мяне». А я яму на тое, упаўшы на зямлю крыжам: «Пане! А як маю я на Літву вяртацца, калі мяне Твой біскуп ганіць!» А Ён мне: «Гэта ня мой біскуп, гультай гэта, але супраць цябе анічога не дакажа. Вяртайся, Радзівіле, на Літву, а хай мяне д'яблы забяруць, калі ты ня будзеш Радзівілам па-даўняму, а ён, як быў кеп, так кеп і застанецца». Вось жа я, пане ка-***

***ханку, асьмялеўшы з такога прыёму Пана й Бога майго, да вас вярнуўся, і Пан мой узнагародзіў маю веру...***

А берасьцейскі кашталян Марцін Матушэвіч апавядае ў «Дыярыюшы жыцьця майго...» пра Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку й такое:

***Князь Радзівіл, ваявода Віленскі, упіўшыся, ішоў да капліцы, ды там тады гадзіны зь дзьве альбо болей сьпяваў псальмы, ружанец дый іншыя пабожныя песьні, пакуль аж не закрычыць і не працьверазее...***

— *Што азначаюць такія стасункі з Богам?*

— Чалавек, не знаёмы з культураю Рэчы Паспалітай таго часу, можа палічыць такія стасункі з Ісусам Хрыстом зьняважлівымі, блюзьнерскімі. Але Караль Станіслаў, як і згаданы напачатку Міхал Казімер, верылі шчыра й аддана. Толькі, зьвяртаючыся да Сына Божага «Пане», Радзівіл як бы дадае часам: «браце». Ісус — свой «пан-брат», і прабабка ягоная, як лічыць Пане Каханку, была ліцьвінкаю й апякуецца Бог найперш Літвою — гэта значыць, па-сёньняшняму, Беларусьсю, і размаўляе з Радзівілам прыватна, па-свойску, а выявы сьвятых у касьцёле мала чым розьняцца ад партрэтаў шляхецкіх продкаў. Такая пэрсаніфікацыя боства характэрная больш для прымітыўных культураў, чым для разьвітага монатэізму. Але гэта ня сьведчыць пра адсталасьць ці прымітыўнасьць беларускай рэлігійнай культуры. Магчыма, ва ўмовах, калі на адзінай тэрыторыі сустракаліся розныя канфэсіі, этнасы, такі падыход адмыслова замацаваўся як мэханізм, з дапамогаю якога не правакуюцца альбо хутка гасяцца канфлікты. Недзе ў нацыянальнай падсьвядомасьці, ня ў розуме, захоўвалася адчуваньне, што багоў шмат — у кожнага свой, і кожны можа быць добры па-свойму.





— *Можа, такая інстынктыўная талеранцыя — своеасаблівае пасланьне беларусаў сьвету? Можа, яно зробіць сэнсоўным і карысным існаваньне нацыі сярод багацейшых і шчасьлівейшых народаў?*

— Хацелася б у гэта верыць. Але магчыма гэта, толькі пакуль свая вера моцная. Вось жа й Міхал Казімер Радзівіл не аднойчы паўтараў:

***Шчасьліва пачынаю гэты рок, бо ведаю, што, як прызваны я да веры Сьвятой Каталіцкай Рымскай, пры Хрысту Сьвятым ёсьць, так у ёй жыву, жыць і ўмерці прагну...***

Пакуль вера моцная, цярпімасьць, павага да чужых багоў ня страшныя. Але калі на месцы веры зьяўляецца пустка, яе лёгка могуць заняць чужыя ідалы. Так, на месцы жывой уніі цэркваў зьяўляюцца мёртвыя хімэры — накшталт «праваслаўнага атэізму». Гэтае паняцьце, хіба, магло нарадзіцца толькі ў Беларусі.

— *Дык што застаецца тады беларусам — адмаўляцца ад талеранцыі й пераходзіць да фундамэнталізму?*

— Фундамэнталізм, як і вяртаньне СССР, — спроба крочыць назад. Гісторыя таго ня любіць. Але беларусы маюць традыцыю разьвязваньня праблемаў праз выбар. Выбіралі сабе канфэсію, выбіралі паслоў на сойм, абіралі вялікага князя. Не заўсёды ўдала — але, прынамсі, выбар яшчэ заставаўся. І цяпер яшчэ ня позна выбраць — альбо «праваслаўны атэізм», зь пеклам у дадатак, альбо вольнае жыцьцё — і надзею на жыцьцё вечнае.

# ПРАЧЫТАЦЬ МІЦКЕВІЧА ПА-БЕЛАРУСКУ

*Размова з Валянцінам Акудовічам*

**Беларусь Багушэвіча й Беларусь Міцкевіча — гэта сапраўды дзьве Беларусі, дзьве краіны двух геніяў прыгожага пісьменства й мысьленьня XIX стагодзьдзя. Геніяў, бадай што, нераспазнаных і да сёньня. Беларусь Багушэвіча — мужыцкую — падхапілі наступныя пакаленьні, зразумелі яе, адчулі й адчуваюць у ёй сябе ўтульна. Беларусь жа Міцкевіча пакінулі па-за ўвагаю, не прачыталі па-беларуску — напэўна, не захацелі. Толькі дакраналіся да яе праз замежныя мовы — праз мову арыгіналу (польскую) і мову перакладу (расейскую). Нарэшце, у стагодзьдзі XXI ёсьць магчымасьць чытаць «Дзядоў» па-беларуску:**
***Гэтак і сёньня, калі белай зданьню***
***Выйду на сьвет чужародны з-пад ценю,***
***Хтосьці праклёнам балючым параніць,***
***Хтосьці зьбяжыць у зьдзіўленьні.***
**«Дзяды», напісаныя пра Беларусь, пабачылі сьвет двухтомнікам на беларускай мове ў перакладзе Сержа Мінскевіча.**

*— Што значыць — чытаць Міцкевіча па-беларуску? І ці так ужо патрэбна гэта рабіць?*

— Адбылося нешта нават не драматычнае, а трагічнае з таго, што мы не прачыталі Міцкевіча. Дакладней — што мы не прачыталі Беларусь паводле Міцкевіча. Ён усё жыцьцё перакладаў Беларусь на польскую мову, арыгінальнага Міцкевіча мы не заўважылі, бо чыталі яго праз пераклад. А сам Міцкевіч іншай краіны, акрамя Беларусі, у сваім жыцьці ня меў. Усе астатнія — эміграцыя. І Польшчы ён ня бачыў.





*— Ці стварыў Міцкевіч мэнтальную мадэль Беларусі? Ці можам мы яе адшукаць цяпер, калі чытаем па-беларуску?*

— Міцкевіч стварыў сваю мэнтальную мадэль на высокай Беларусі, на Беларусі прыгожых жанчын, высакародных шляхціцаў, на Беларусі інтэлектуалаў, філёзафаў, містыкаў, на змагарнай, самаахвярнай Беларусі, якая адпакутавала ў Сібіры, у турмах.

***Але мая любоў на сьвеце***
***Не на адным спачыла чалавеку,***
***Не як пчала на ружы квеце,***
***Не на адной сям'і, часіне, веку.***
***Люблю я ўвесь народ! І як зямля людзей,***
***Наступныя і ўсе былыя пакаленьні***
***Я прытуляю да грудзей.***
***Люблю яго, як сябар, бацька, муж, каханак,***
***Хачу даць шчасьце і ўзрушэньне,***
***Накіраваць у вольны сьвет яго памкненьні,***
***Але пакуль той спосаб мной не адшуканы.***

*— Змагарны момант у беларускай літаратуры вельмі істотны. Дык чым мэнтальная мадэль Міцкевіча розьніцца ад іншых?*

— Мэнталітэт — гэта спосаб і форма бачаньня кожным народам сябе ў сусьвеце й сусьвету ў сабе. Кожны народ мае сваю мэнтальную мадэль, якая звычайна будуецца на практычным, рэальным досьведзе жыцьця й потым замацоўваецца на паперы — у творах літаратурных, філязофскіх, мастацкіх, гістарычных. Ужо потым трансьлюецца праз культурныя знакі ў іншыя пакаленьні. Спосабы й формы жыцьця ў народу могуць зьмяніцца. Але мэнтальная мадэль, замацаваная ў гэтым народзе, застаецца. Заўважце: мэнтальная мадэль Расеі, збудаваная на вялікім расейскім народзе, на Вялікай Расеі, працуе й сёньня, у той час, як ужо даўно няма ніякай Вялікай Ра-

сеі. Ёсьць зьбяднелая, змарнелая, нямоглая, вялізная краіна. У той самы час кожны расеец па-ранейшаму адчувае сябе вялікім расейскім чалавекам.

— *А чаму беларусы даволі лёгка прынялі мэнтальную мадэль Багушэвіча?*

— Што тычыцца беларусаў, дык увогуле атрымалася парадаксальная сытуацыя. Мы — папяровая нацыя, мы — нацыя, якая сфармавала сваю мэнтальную мадэль не з рэальнага жыцьця, якое яна пражывала, а з досьведу літаратуры. Роля Францішка Багушэвіча ў гэтым найвялікшая. Бог стварыў Сусьвет, Багушэвіч прыдумаў Беларусь. Уласна Багушэвіч больш геніяльны за Янку Купалу, таму што Янка Купала проста геніяльны паэт. Напісаць нацыю можа нехта вялікі. На жаль, сама ідэя ў Багушэвіча была геніяльная, а тэкст атрымаўся не геніяльны. Багушэвіч прыдумаў Беларусь як літаратурнага героя. Заўважце, няма ніякай розьніцы паміж біяграфіямі Міцкевіча й Багушэвіча. Абодва — шляхціцы, абодва — інтэлігенты, абодва — інтэлектуалы, але як розьняцца два вобразы Беларусі: Беларусь Міцкевіча й Беларусь Багушэвіча. Якая ў Багушэвіча Беларусь? Занядбаныя хаткі, балоты, зацірка... Мэнтальная мадэль, сфармуляваная Багушэвічам, ня выйшла па-за межы літаратуры. Жыцьцё ішло само па сабе, а літаратура тым часам раскручвала Багушэвічаву мадэль, якая не адпавядала поўнай карціне жыцьця. Акрамя мужыкоў, былі й людзі заможныя. У Беларусі на той час было больш за дваццаць опэрных прыватных тэатраў. Ад XV стагодзьдзя былі дзясяткі гарадоў з магдэбурскім правам. Таму вылучаць яе ў нейкі рэгіён татальнага няшчасьця было несправядліва. Заўважце, Міцкевіч не адмаўляе таго, што Беларусь — драматычная, трагічная прастора, але ўсьведамляе яе з драматызмам высокім.

— *Чаму тады Міцкевічава Беларусь не прыжылася, ня мела працягу ў літаратуры, у сёньняшняй*





*сьвядомасьці беларусаў? Чаму Багушэвічава Беларусь аказалася больш жывучай, чаму яе падхапілі й Купала, і Колас?*

— Адной з прычынаў і быў сам Багушэвіч, які, прыдумаўшы такую Беларусь, патрапіў у свой час. Паўплываў і прыход бальшавікоў з ідэалёгіяй няшчасных, змарнелых, якіх бальшавізм павінен быў выратаваць. Але пераводзіць прычыну толькі ў сацыяльны плаз ня трэба. Гэтую традыцыю занядбанай Беларусі працягвала й літаратура Заходняй Беларусі, калі яна не была пад бальшавікамі. Больш за тое, і ўсе эміграцкія асяродкі зноў пісалі гэтак жа.

— *Ці быў супраціў той мадэлі?*

— Першым небясьпеку заўважыў Вацлаў Ластоўскі, распачаўшы знакамітую дыскусію артыкулам пра «сплачваньне даўгоў». Ён ня проста сказаў, а закрычаў: «Дый хопіць нам гэтых саламяных стрэхаў! Хопіць нам ужо гэтых няшчасных мужыкоў у лапцёх! Хопіць нам зьбяднеласьці й выклятасьці! Паглядзіце, хараство навокал! Давайце апяваць прыгажосьць!». Ён прапанаваў свой праект мэнтальнай мадэлі, якую й пабудаваў на «крыўскай» ідэі: на нашай тэрыторыі ў свой час існавала магутная цывілізацыя, якая спарадзіла антычную цывілізацыю грэкаў і рымлянаў. Ластоўскі пабудаваў нацыянальную ўтопію. Існавалі тры магчымыя варыянты, як мне бачыцца, мэнтальных мадэляў. Гэта — «высокая» мэнтальная мадэль, якую запрапанаваў Міцкевіч і якую выкарысталі палякі на ўсе сто дваццаць адсоткаў, а мы праігнаравалі. Затым — «нізкая» мадэль, самы горшы варыянт «нізкае» мадэлі прапанаваў геніяльны Багушэвіч. Безумоўна геніяльны, таму што гэтую ж «нізкую» мэнтальную мадэль прапанавалі й расейскія славянафілы: К. Аксакаў, А. Хамякоў, браты Кірэеўскія. Нарэшце, трэці тып мэнтальнай мадэлі — на грунце ўтопіі.

*— Але ўтапічная мадэль таксама была неаднародная?*

— І тут магчымыя варыянты: нацыянальная ўтопія, якую прапанаваў Ластоўскі, і сацыяльная ўтопія, прапанаваная бальшавікамі. Між іншым, утапічная мэнтальная мадэль зусім не азначае, што яна ня можа быць рэалізаваная. Напрыклад, бальшавікі на ўтапічнай рабоча-сялянскай ідэі стварылі «савецкі народ». Яны стварылі мэнтальную мадэль, ад якой мы й сёньня яшчэ ня можам адлучыцца. У пэўных умовах утапічная мэнтальная мадэль Ластоўскага таксама магла б быць рэалізаваная.

*— Вернемся да «высокай» мэнтальнай мадэлі. Няўжо яна ніколі ня мела працягу? Мне падаецца, што і ў жыцьці, і ў літаратуры ёсьць прыклады імкненьня да яе.*

— Прыкладаў нямала. Найбольш яркі — Уладзімер Караткевіч. Уласна кажучы, Уладзімер Караткевіч — гэта Адам Міцкевіч, але ўжо напісаны па-беларуску. Угледзьцеся, якая прыгожая Беларусь адкрылася нам Караткевічам! Чаму мы яе па-сапраўднаму палюбілі? Чаму ён выдаецца фантастычнымі для Беларусі накладамі? Чаму ён стаў знакавай фігурай? А толькі таму, што калі Міцкевіч перакладаў Беларусь па-польску, то Караткевіч пераклаў Міцкевіча па-беларуску. І таму я скажу так: хопіць нам чытаць Беларусь паводле Багушэвіча й Купалы. Трэба іх адкласьці на факультатыўнае чытаньне. Добра было б, каб у базавым, акадэмічным курсе прачытаньне Беларусі адбывалася паводле Міцкевіча й Караткевіча. Давайце адкрытымі вачыма зірнем на гэтую Беларусь. Мы па ўсім сьвеце параскідалі сваіх геніяў, інтэлектуалаў, філёзафаў, актораў, спартоўцаў. Зрэшты, іх і тут пакуль што безьліч.



## БЕЛАРУС У НАТОЎПЕ

*Размова зь Пятром Васючэнкам*

**Амэрыканскі пісьменьнік Эдгар По ў навэлі «Чалавек натоўпу» распавёў пра істоту, якая фізычна ня можа існаваць па-за людзкой масай. Апавядальнік назірае за тым, як чалавек натоўпу вандруе па Лёндане, бы па лесе з чалавечых целаў, як ён пакутуе, калі вуліцы пусьцеюць, і як аджывае ў хаосе чалавечага руху. Уначы ён знаходзіць паратунак у натоўпе злодзеяў, забойцаў ды прастытутак. Сваёй фантасмагорыі Эдгар По надаў эпіграф з Жана Лябруера, францускага пісьменьніка-мараліста: «Уся наша бяда ў тым, што мы ня можам быць у адзіноце». А чаму б не ўявіць апісаную істоту на вулках старога Полацку, Вільні, Менску, Коўны — паўсюль, дзе, як казаў Максім Багдановіч, «натоўп закруціўся рухавы»? Гэты пэрсанаж можа апынуцца і ў натоўпе сялянаў, што з косамі й віламі атакуюць панскі маёнтак, і парыжанаў, якія ладзяць барыкады.**

*— Чаго беларус баіцца больш — быць у натоўпе ці па-за натоўпам?*

— Беларусы, як і іншыя нацыі, складаюцца зь людзей розных. І ў гэтым асяродзьдзі можна знайсьці людзей, блізкіх паводле мэнтальнасьці да чалавека натоўпу, апісанага Эдгарам По. Выйсьці з натоўпу, вылучыцца з натоўпу, ізалявацца ад натоўпу людзі, беларусы, могуць баяцца з розных прычынаў. Баяцца выйсьці з натоўпу тыя, каму няма чаго сказаць самім сабе альбо Богу — у каго няма сваіх думак. Баяцца выйсьці з натоўпу тыя, хто прывык дзяліцца, і каму няма чым дзяліцца з астатнімі. Баяцца выйсьці

з натоўпу тыя, хто шукае ў натоўпе сабе правадыра або ідала, альбо тыя ж правадыры альбо ідалы, бо яны пануюць толькі ў натоўпе. Натоўп вылучае зь сябе іх, яны бяруцца, гэтыя правадыры й ідалы натоўпу, невядома адкуль і невядома куды зьнікаюць, таксама хаваюцца ў натоўпе. Нарэшце, натоўп валодае сваёй магіяй. Ён, як правіла, зьвязаны з гарадзкімі вулкамі, гарадзкім краявідам, а горад, як вядома, валодае невытлумачальнай магіяй, пра што й сьведчыць санэт Багдановіча «Ў Вільні»:

***Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!***
***Снуюць хлапцы, суюшчыя рэклямы...***
***Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы...***
***Грук, гоман, гул — усё ракой імкне.***

***А дальш — за радам кас, лямбардаў, банкаў —***
***Агні вакзала... павадка фурманкаў...***
***Віры людзей... сіпяшчы паравоз...***

***Зялёны сэмафор... пакгаўз... склады...***
***Заводаў коміны пад цьмой нябёс...***
***О, гораду чароўныя прынады!***

*— Хто баіцца натоўпу?*

— Найперш любяць адзіноту тыя, хто шукае цішыні й самоты, каб пагаварыць з Богам. Так шукалі яе ў сваёй кельлі Эўфрасіньня Полацкая і ў стаўпе наш знакаміты стоўпнік, самотнік і мысьляр Кірыла Тураўскі. Баяцца натоўпу тыя палітыкі, што ня любяць правадыроў і ідалаў, але шукаюць улады над натоўпам, прыйшоўшы да яго збоку, стаўшы па-над ім. Баяцца натоўпу рамантыкі, шукальнікі прыгодаў. Баяцца натоўпу й тыя, каму ёсьць чым дзяліцца, але хто ня хоча дзяліцца. Як Лявон Бушмар — герой аповесьці Кузьмы Чорнага, які паводле сваёй натуры — чалавек, біялягічна прызначаны да адзіноты. Лявон Бушмар некалі трапіў у войска, і казарменны калектыўны побыт для яго аказаўся абсалютна непрыдатным. Ён баяўся, хутчэй за ўсё, аднолькавасьці. Слушна, што ёсьць людзі, якія баяцца дыктату большасьці альбо так званага бальшавізму. Як правіла, гэта інтэлігенты, якія маюць свой погляд на рэчы, адрозны ад калектыўнага. Прыкладам можа служыць доктар Штокман — герой драмы нарвэскага драматурга Г. Ібсэна «Вораг народу», які любіў гаварыць: «Большасьць заўсёды памыляецца». Зрэшты, у Ф. Шылера, у ягонай незавершанай драме Леў Сапега таксама гаворыць прыкладна гэтыя ж словы — «большасьць памыляецца, ня слухайце натоўпу». Бо натоўп — гэта не калектыўны розум — хутчэй, зборны інстынкт.

*— Беларускую гісторыю хто рабіў — лідэры ці натоўп?*

— Можа падацца, што часам ходу гістарычных падзеяў вызначае менавіта натоўп, альбо, як казалі марксісты, народ, які ёсьць рухавіком гісторыі. Але розьніца паміж натоўпам і народам істотная. Натоўп — гэта калектыўны інстынкт, інстынкт уласьніцтва, інстынкт шуканьня правадыра. А народ — гэта калектыўны досьвед, калектыўная воля й калектыўны розум. У нашай гісторыі былі выпадкі, калі калектыўны інстынкт перамагаў калектыўны розум. Часам гэта было зьвязана з палітычнымі інстытутамі, такімі, як Полацкае веча, якое было заканадаўчым органам Полацкага княства. Веча мела характарыстыкі й натоўпу, і народу. Паводзіны Полацкага веча, паводле летапісу, выглядаюць часам абсалютна непрадказальнымі, ірацыянальнымі. Няясна, прыкладам, чаму ў 1186 годзе яно лагодна прыняло чужынцаў — ноўгарадцаў і смаленцаў, але крыху пазьней адхіліла як валадара Ягайлавага брата, Скіргайлу. Напэўна ж, былі ірацыянальныя прычыны. Нарэшце, натоўп — гэта заўсёды крыніца бунтаў, пагромаў, чаго асабліва баяліся нашы асьветнікі, цэхія шляхцiцы й інтэлігенты ў XIX стагодзьдзі. Ян Баршчэўскі піша верш «Бунт

хлопаў», дзе паказвае, як гэтая стыхія ў 1812 годзе ўрываецца ў двор пана й чыніць пагром, пакуль ня прыходзіць аканом і не разганяе гэтых узбунтаваных і ўжо п'яных мужыкоў. Недзе тое самае праз стагодзьдзе напіша Максім Гарэцкі ў драме «Чырвоныя ружы», калі будзе апавядаць, як сялянскі натоўп руйнуе панскі маёнтак, гвалціць, забівае. Што да асобаў, лідэраў, дык для беларускай гісторыі яны былі менш вызначальнымі, чым, прыкладам, у краінах Усходу.

*— Няўжо ў Беларусі не было спробаў арганізаваць натоўп, перавесьці яго ў іншую якасьць?*

— Пра гэта напачатку XX стагодзьдзя ці не ўпершыню ўсур'ёз задумаліся нашаніўцы. Інтэнсіўна шукала такіх магчымасьцяў і беларуская літаратура. Вось жа Янка Купала ў паэме «Сон на кургане» стварыў розныя мадэлі людзей, якія настолькі ізаляваліся й ад народу, і ад натоўпу, што іхныя энэргія й воля рабіліся разбуральнымі. У той жа час Купала ў хрэстаматыйным вершы «А хто там ідзе?» паказвае беларусаў абадраных, абшарпаных і прыніжаных — менавіта натоўпам. І для мяне было загадкаю — што ім перашкаджала людзьмі звацца? Чалавечая маса рухаецца там зусім бязь лідэра. Ён яшчэ ня вылучыўся. Хаця Купала клікаў гэтага лідэра, гукаў яго ў вершах «Прарок» альбо «Прыйдзі, народу майго ўладар». Потым XX стагодзьдзе прадэманстравала даволі жудасныя прыклады таго, як ня трэба арганізоўваць натоўп. Гэта й вядомая калектывізацыя, гэта й палітычныя таталітарныя й аўтарытарныя сыстэмы, калі народ рабіўся ня толькі прыладай працы, але й калектыўным мікрафонам, што агучваў ідэі дыктатараў. Лідэры скарыстоўваюць народную звычку быць у натоўпе.

*— Але ж беларусы ідуць на выбары й выбіраюць сабе лідэра. Значыць, ня хочуць адчуваць сябе людзьмі ў натоўпе...*





— Згадаем для пачатку «Новую зямлю» й разьдзел зь яе «Дзядзька ў Вільні», дзе мы пабачым дваістае стаўленьне беларуса да натоўпу:

***Эй, Божы люд! Якая сіла***
***Цябе віхрамі закруціла?***
***Куды ты йдзеш, чаго шукаеш?***
***Які ты ў сэрцы смутак маеш?***
***Куды вядзе твая дарога?***
***Чаму задума і трывога***
***Пячаць на твар твой налажыла?***
***Чаго глядзіш ты так няміла?***
***Няма ў тваіх вачах прывету,***
***Як ты ня рады сонцу, сьвету,***
***Ідзе народ, як хвалі мора,***
***Як хмары ў небе на прасторы.***
***Адны другім усе чужыя,***
***Ідуць старыя і малыя,***
***Ідуць, шнуруюць чарадою,***
***Заняты кожны сам сабою.***
***І дзядзька з гэтым людам зьліўся,***
***Як зерне ў зернях, загубіўся.***

Беларус, як той дзядзька ў Вільні (у тым ліку й беларус-інтэлігент), ужо ведае разбуральныя сілы таго ірацыянальнага, што хаваецца ўнутры натоўпу. Ён ня хоча гэтага разбурэньня. Але, як той жа дзядзька ў Вільні, кожны момант гатовы схавацца, даць нырца ў натоўп, каб застацца істотай, у нейкім сэнсе, грамадзкай. Схавацца ад адказнасьці, ад патрэбы рабіць выбар. Гэта ж здараецца з нашымі інтэлектуаламі й людзьмі мастацтва, якія ня хочуць разьвітацца са сваімі творчымі зьвязамі, створанымі паводле сталінскай схемы. Часам і з нашымі палітыкамі гэта адбываецца. Мне думаецца, што Беларусь заўсёды з сабою носіць натоўп — як цень, у які можна пры нагодзе сысьці, ці як сьлімак носіць сваю ракаўку. Але беларус сёньня ўжо ўсьведамляе, што натоўп патрэб-

на трансфармавацца у народ. Становяцца бачнымі й шляхі дасягненьня гэтай ідэі — асьветніцтва, павага да чалавечай годнасьці й правоў чалавека, пачуцьцё нацыянальнай еднасьці альбо крэўнасьці. Пры гэтых умовах натоўп пераўтвараецца ў народ, а асоба пераўтвараецца ў інтэлектуала, палітыка, лідэра.



## ШЛЯХ ДА ГАРАДЗКОЙ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

*Размова з Захарам Шыбекам*

**Сёньня каля сямідзесяці адсоткаў жыхароў Беларусі лічаць сябе гараджанамі. І гэтая колькасьць няспынна расьце коштам заняпаду вёсак.**

*— Калі прыйшла да нас гарадзкая цывілізацыя й якім чынам прыжылася на беларускай зямлі? Якія рысы гарадзкой цывілізацыі ў Беларусі можна вызначыць?*

— На маю думку, гарадзкая цывілізацыя ў Беларусі канчаткова не ўсталявалася. Мы застаемся вясковай нацыяй, калі мець на ўвазе ня толькі матэрыяльны, але й духоўны бок гарадзкой цывілізацыі. Нашы гарады населены нядаўнімі вяскоўцамі, якія яшчэ не пасьпелі стаць гараджанамі. І ў гарадзкіх кватэрах яны жывуць вясковымі клопатамі, думаюць па-вясковаму. Сьвядомасьць не пасьпявае за зьменамі ў грамадзтве.

*— Вы хочаце сказаць, што ўрбанізацыя Беларусі ажно да сёньня незавершаная?*

— З канца XVIII стагодзьдзя пачалася імклівая ўрбанізацыя краінаў Заходняй Эўропы. Узрастала роля гарадоў. Урбанізаваўся побыт людзей і іхнае мысьленьне. І якраз тады Вялікаму Княству Літоўскаму вельмі не пашчасьціла. Яно выпала з гэтага працэсу. Разбурэньне гарадзкой інфраструктуры ў выніку няспынных войнаў з суседзямі істотна аслабіла дзяржаву, што й сталася адной з прычынаў гвалтоўнага далучэньня яе да Расейскай імпэрыі. Ва ўмовах Расеі ўрбанізацыя запаволілася, а галоўнае — абмінала карэнную нацыю, беларусаў. Царскі ўрад фактычна закрыў для мяшчанаў-хрысьціянаў шлях да камэрцый-

най дзейнасьці, калі пазбавіў іх падатковых прывілеяў і перапісаў да падатнага насельніцтва. А калі царызм забараніў прадпрыемным габрэям пакідаць межы былога ВКЛ і сяліцца па-за гарадамі й мястэчкамі, ён ускладніў доступ у горад вяскоўцам. І што цікава: калі небясьпечныя для самадзяржаўя жыхары гарадоў усяляк абмяжоўваліся ў правах, то жыхары вёсак менш уціскаліся, нават мелі падатковыя льготы, бо яны разглядаліся як этнаграфічны матэрыял для будаўніцтва расейскай нацыі. Беларускія сяляне прывязваліся да зямлі, як сучасныя грамадзяне да сотак сваіх вясковых бацькоў ці лецішчаў. У гарадах колькасна дамінавалі габрэі й расейцы. Сялянаў адхілялі ад гарадзкіх справаў, іхная сьвядомасьць не ўрбанізавалася. Яны заставаліся шэрай, індыфэрэнтнай, паслухмянай масай. У канцы XIX стагодзьдзя ў гарадах Беларусі пражывала каля дзесяці адсоткаў насельніцтва, тады як у гарадах Нямеччыны й Францыі — каля сарака. Апрача таго, мы згубілі сталіцу. Вільняператварылася ў звычайны губэрнскі цэнтар, хоць і самы буйны (154 тысячы насельнікаў у канцы XIX стагодзьдзя).

*— А Менск? Ён жа стаў сталіцай...*

— Менск ніколі не заменіць Вільні. Ужо з той прычыны, што Менск ня ёсьць знакамітым гістарычным цэнтрам. Ён ніколі ня меў уласнага каралеўскага двара, як Вільня, Кіеў, Варшава ці Масква. Менск страціў нават замчышча, дзе жылі менскія ўдзельныя князі. І калі ўдасца аднавіць гістарычны цэнтар гораду (замчышча зь ягоным земляным валам і драўлянымі сьценамі), ён усё роўна ня будзе выглядаць, як Крэмль у Маскве, як Каралеўскі палац у Варшаве, як Праскі град у Празе. Таму гістарычны патэнцыял гораду не дазваляе Менску стаць у адзін шэраг з эўрапейскімі сталіцамі. Можа, таму беларусы й туляцца да Масквы ці да Варшавы, што ня маюць выбітнай сталіцы, якая пераканала б іх у раўназначнасьці зь іншымі народамі. Вакол годных сталіцаў нараджаюцца годныя нацыі. Таму страта Вільні была для беларусаў трагічнай падзеяй.

*— І савецкія гарады — вынік індустрыялізацыі — таксама не далучылі жыхароў Беларусі да гарадзкой цывілізацыі?*

— Не далучылі, бо савецкая ўрбанізацыя мела зусім іншыя мэты. Горад служыў палігонам дзеля масавай камунізацыі сьвядомасьці мясцовага насельніцтва. Традыцыі буржуазнага гораду вынішчаліся, а замест яго ўбіваліся ідэалы жыцьця сялянска-калгаснага кшталту. І нават пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе структура гарадоў па-ранейшаму выкарыстоўваецца для навязваньня каштоўнасьцяў савецкай беларускай культуры, вясковай паводле свайго паходжаньня. Гэтаму спрыяе й масавы выезд з краіны габрэяў, нашых спрадвечных гараджанаў. Таксама да гэтага спрычынілася палітыка самаізаляцыі ад заходніх краінаў, якую праводзіць улада Лукашэнкі. Такім чынам, гістарычныя абставіны не дазвалялі жыхарам Беларусі ўрбанізавацца як сьлед. Вясковая сьвядомасьць перамагала сьвядомасьць гарадзкую. Гараджане не імкнуліся засвоіць навыкаў карыстаньня здабыткамі гарадзкой цывілізацыі. А людзьмі зь вясковай сьвядомасьцю ці зь недаўрбанізаванай мэнтальнасьцю лягчэй кіраваць.

*— У чым жа выяўляецца, як Вы кажаце, недаўрбанізаваная мэнтальнасьць жыхароў Беларусі?*

— Асноўная рыса недаўрбанізаванай мэнтальнасьці — міталягізацыя, схільнасьць да ўтопіяў, найперш да ўтопіяў сацыялістычных. Гэта абумоўлена верай вяскоўцаў у існаваньне элемэнтарнага выйсьця дзеля дасягненьня роўнасьці й справядлівасьці ў дачынень-

нях людзей. Зямлі многа — усім хопіць. Яе трэба толькі перадзяліць. Адабраць лішак у багацеяў і перадаць бяднейшым. Гэта — ідэалёгія паўпэраў, учарашніх вяскоўцаў, якія трапілі ў горад, дзе й спрабуюць ажыцьцявіць свае ідэалы. Недаўрбанізаванасьць выяўляецца ў адсутнасьці ў нашых суайчыньнікаў дастаткова заўважнай гістарычнай сьвядомасьці. Вясковец рэдка цікавіцца мінулым усёй Беларусі, яго цікавіць пераважна родны кут. Для вясковага мэнталітэту характэрная адсутнасьць моцнага пачуцьця нацыянальнай сьвядомасьці. На варце нацыянальнай сьвядомасьці кожнай нацыі стаіць уласная нацыянальная дзяржава, уласны нацыянальны горад. А паколькі беларусы былі нацыяй ня толькі безьдзяржаўнай, але й не гарадзкой, то гэта непазьбежна запавольвала іхнае нацыянальнае самавызначэньне. Для беларусаў таксама характэрная апалітычнасьць і прыстасаванства. Ім усё адно, якая ўлада, абы не перашкаджала працаваць на зямлі. Досьвед падказваў, што любая ўлада ня можа быць добрай, што пад яе трэба ўсё роўна падладжвацца. Халуйства, ганарлівасьць, зайздрасьць — гэта якраз тыя рысы сялянскага мэнталітэту, якія шкодзяць нашай згуртаванасьці й кансалідацыі. Кажуць, найлепшая радасьць для беларуса, калі ў суседа карова здохла. Можа, нашы незычлівўцы й перабольшваюць, але імкненьня да ўзаемадапамогі нам сапраўды бракуе.

*— Але ж ня толькі беларусы пераадольвалі парог недаверу й нават варожасьці да гарадзкой цывілізацыі?*

— Праз гэта прайшлі ці праходзяць усе народы. Але ў беларусаў гэты працэс асабліва хваравіты. Ад XIX стагодзьдзя беларуская душа была адарваная ад гораду, пачувалася там асабліва безабаронна. Цеснота й нязвыкласьць гарадзкога пэйзажу, часам далёкага ад нацыянальных традыцыяў, прыводзілі да таго, што беларускі селянін, трапіўшы ў горад, перажываў сапраўдны стрэс. Якуб Колас пісаў пра горад:

***Колькі шуму, колькі груку!***
***Я дзіўлюся, як тут жыць,***
***Па каменьням, гэтым бруку***
***За грахі адны хадзіць.***

Францішак Багушэвіч бачыў горад яшчэ больш варожым:

***Не люблю я места (па-расейску горад,)***
***Надта там цяснота і вялікі сморад,***
***А паноў — як маку, ды сярод гароду,***
***Апрач тога пропасьць featurenaga народу!***
***Наш брат як увойдзе, — сам сябе баіцца.***
***Ці ісьці без шапкі, ці гдзе пакланіцца?***

Сярэднявечная традыцыя гарадзкога жыцьця беларускага народу была перарваная ў канцы XVIII стагодзьдзя. І з тае пары ён ніколі не адчуваў сябе ў горадзе ўтульна, ніколі не пачуваўся гаспадаром. Горад і цяпер застаецца чужым для значнай часткі жыхароў Беларусі. Варожасьць да гарадзкой цывілізацыі трансфармуецца ў варожасьць да Захаду, да эўрапейскасьці. Вось чаму, каб стаць эўрапейцамі, сучаснай нацыяй, нам трэба стаць гараджанамі паводле мэнталітэту. Недаўрбанізаванай сьвядомасьцю лёгка маніпуляваць. Зусім відавочна, што дэкансалідацыя як беларускага грамадзтва, так і ўсясьветнай супольнасьці будзе пераадоленая толькі ў рамках урбанізаванага мэнталітэту, толькі ў межах гарадзкой цывілізацыі. Дзеля гэтага людзі мусяць вучыцца карыстацца здабыткамі гарадзкой цывілізацыі.

## НАРОД ЧУЖЫХ РАДАСЬЦЯЎ

*Размова з Валянцінам Акудовічам*

**Кожны народ мае свой калектыўны імідж. Адзін народ лічаць рацыянальным, другі — бязладным, трэці — натурыстым, чацьверты — гульлівым.**

*— Якой дэфініцыяй Вы б азначылі беларусаў?*

— Калі меркаваць па нашай літаратуры, то мы выглядаем на панылы й зануураны ў сябе народ. Між іншым, і наша мова спрыяе гэткаму меркаваньню. Возьмем нейкае невясёлае слова, прыкладам, «самота». Бадай, ні ў якой мове ня знойдзеце столькі яму блізкіх паводле сэнсу словаў — журба, сум, нуда, жаль, роспач, маркота, скруха, паныласьць, смутак, жальба, шкадоба, туга, нэндза... І гэта толькі тое, што згадалася адразу, а колькі засталося? Вось яшчэ адно — «вусьціш», гэта стан бязьмежнай самоты, калі сэрца чалавека раптам працінае жах сьмерці й небыцьця.

*— Але ж мова паўстае не сама зь сябе, а з таго агульнага ладу, у якім яна фармуецца. Што паўплывала на тое, каб мова беларусаў аж так набрыняла самотай, паныласьцю, нудой?*

— Найбольш відавочная прычына — геапалітычная. Апынуўшыся на скрыжаваньні вялікіх эўрапейскіх канфліктаў, Беларусь цягам стагодзьдзяў рабавалася захопнікамі з усіх бакоў сьвету. Каб выжыць і працягваць род, відаць, і не было іншага выйсьця, акрамя як нішчымніцу, шэрасьць, паныласьць і падобнае зрабіць і нормай жыцьця, і ладам мысьленьня. Ну што захопніку ўзяць з «дурнога як варона», мужыка, які гібее й нэндзіць у гнілой хатцы? А потым гэты вобраз зьняможанага мужыка й занядбанай Беларусі прыдаўся рабоча-сялянскай уладзе. І гэтай спадчыны





мы ня можам пазбавіцца. Мне даводзілася шчыра размаўляць з даволі буйнымі беларускімі бізнэсоўцамі. Яны маюць шыкоўныя катэджы, дарагія аўтамабілі, адпачываюць на найлепшых курортах. Аднак, калі паслухаць, дык у сьвеце няма большых гаротнікаў. Нудота й скаргі на жыцьцё — гэта й сёньня ці ня самая заўважная адметнасьць нашага мэнталітэту, але калі раней яна мела ратавальную функцыю, то цяпер выяўляецца адно ў хваравітых комплексах. Каўтун, які калісьці няславіў беларусаў, з галавы прарос у галаву — і як яго цяпер адтуль выдзерці?..

*— Няўжо беларусы здольныя адно паныла нудзіцца й зусім ня ўмеюць радавацца?*

— Нам як нацыі яшчэ трэба будзе навучыцца радавацца, а гэта станецца не раней, чым мы навучымся ганарыцца сабой. Радасьці бяз гонару не бывае.

*— Можа, праблема ў тым, што беларусы супольна не перажылі нейкай агульнай радасьці. Ці былі ў XX стагодзьдзі падзеі, якія выклікалі ў беларусаў усёабдымную радасьць?*

— Ужо ж напэўна такой падзеяй не была кастрычніцкая рэвалюцыя, як пра гэта потым семдзесят гадоў казалі камуністы, але ня сталася такой падзеяй і стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі, як спрабуюць пра гэта казаць сучасныя адраджэнцы. Бадай, з усяго XX стагодзьдзя я вылучыў бы толькі ўзьяднаньне Ўсходняй і Заходняй Беларусі ў 1939 годзе. Расьсечаная лязом Берасьцейскага міру, Беларусь і з таго й з другога боку натуральна імкнулася зноў стацца адным цэлым. Ня станем тут кранаць праблемы злачыннага пакту Молатава—Рыбэнтропа, дзякуючы якому зьяднаньне адбылося. Але ў беларусаў яно выклікала сапраўды агульнанацыянальную радасьць, якая з тае пары больш ніколі не паўтарылася. Бо хаця радасьць ад заканчэньня Другой усясьветнай вайны

была значна вастрэйшай, гэта была проста ўсёахопная радасьць, якая ня тычылася беларусаў як нацыі (прынамсі, наўпрост). Людзі цешыліся не перамозе над фашызмам, а таму, што з фронту вернуцца мужчыны, што днём зь неба ня будуць валіцца бомбы, а ноччу ў шыбу не пагрукае партызан ці бандыт. Словам, радасьць была толькі ад таго, што настаў мір.

*— Такім чынам, беларусы ня мелі толькі сваёй вялікай радасьці?*

— Так. Калі хочаце, мы — Народ чужых радасьцяў. Прынамсі, колькі апошніх стагодзьдзяў мы змушаны былі сьвяткаваць не свае сьвяты й радавацца не сваім радасьцям. Асабліва гэта заўважна ў ХХ стагодзьдзі: сьвята кастрычніцкай рэвалюцыі, дзень Савецкай Арміі, 8 сакавіка, Першамай, дзень Перамогі, дзень нараджэньня Леніна, юбілей Пушкіна, юбілей Суворава... І нават цяпер, пасьля амаль пятнаццаці гадоў незалежнасьці, мы ўсё яшчэ ня маем уласных сьвятаў як падставаў для выяўленьня агульнанацыянальнай радасьці. І нават афіцыйны Дзень Незалежнасьці зьвязаны не зь незалежнасьцю, а ўсяго толькі з вызваленьнем савецкай Беларусі ад нямецкай акупацыі. У існасьці, мы ўсё яшчэ застаемся Народам чужых радасьцяў. І пакуль гэтая сытуацыя ня зьменіцца, нашая незалежнасьць будзе эфэмэрнай.

*— Але беларусы, як бы паныла ні выглядалі на чужое вока ў сваім калектыўным вобразе, гэтак жа, як і іншыя народы, сьпяваюць і жартуюць, цешацца й радуюцца...*

— Так. Тое, што мы казалі раней, зьвязана з адсутнасьцю сваёй дзяржавы, зь нейкім паўкаляніяльным станам цягам стагодзьдзяў, з нацыянальнай недааформленасьцю. І гэта, зразумела, не магло пазбавіць нас натуральных чалавечых радасьцяў, проста ў такой сытуацыі нам давялося прызвычаіцца радавацца





паасобку. Прынамсі, зазвычай калектыўная прастора сьвята не пашыралася далей за кола сваякоў, суседзяў, прафэсійных групаў.

*— Але ж былі дый цяпер адраджаюцца рэлігійныя сьвяты. Людзі зьбіраліся ў цэрквах, разам маліліся й супольна радаваліся нараджэньню ці ўваскрашэньню Хрыста! А фэсты ў мястэчках? Яны таксама не былі калектыўнай радасьцю?*

— Задзіночаньне ў супольнай любові да Бога спарадзіла ў Расеі такую зьяву, як саборнасьць, у Польшчы — нацыянальную канвэнцыю. А беларусаў гэтае задзіночаньне толькі разьдзяліла па канфэсіях і рэлігіях. І чым мацнейшай была канфэсійная любоў да Бога, тым далей яна адсланяла адну частку беларусаў ад другой. Мы навучыліся рэлігійнай ды культурнай цярпімасьці, аднак гэтая талеранцыя не згуртавала нас у адно цэлае. Бадай, калі што рэлігійнае й лучыла многіх беларусаў, дык гэта рудымэнты паганства, як, да прыкладу, Купальле.

*— Купальле сёньня сьвяткуе нацыянальна сьвядомая моладзь ды шукальнікі падставы для выпіўкі.*

— Вы маеце рацыю. Згадкай пра Купальле мне ўсяго толькі хацелася падкрэсьліць, што беларусам спрадвеку ўласьціва тое, што я называю «ціхай радасьцю календара». Нават цяпер, у пару ўрбанізацыі, нас хвалюе зьмена зімы на вясну, вясны — на лета. А ўвосень мы зноў чакаем, як сьвята, першага сьнегу. Але й тут, у адрозьненьне, скажам, ад японцаў, якія ўсе разам цешацца з красаваньня сакуры, мы вішнёвай квецені радуемся кожны сам па сабе. Я перакананы, што пакуль у нас ня будзе супольных радасьцяў, мы толькі фармальна будзем лічыцца нацыяй. Кожны чалавек нечаму цешыцца, усялякая супольнасьць мае сьвяты, але народ становіцца нацыяй толькі тады, калі яго аб'ядноўвае адна на ўсіх вялікая радасьць.

## БЕЛАРУСЫ ВАЧЫМА ІНШЫХ НАРОДАЎ

*Размова з Валянцінам Акудовічам*

**І асобны чалавек, і нацыя фармуюць свой вобраз унутры сябе. Натуральна, гэты вобраз значна розьніцца ад таго, якімі людзі, нацыя ўяўляюцца іншым. Тое, што вызначаюць звонку, можа нам не падабацца й нават лічыцца аблудным, але не павінна ня ўлічвацца намі. Бо ў сучаснай цывілізацыі, дзе ўсе шчыльна павязаны з усімі, ад таго, як цябе ўспрымаюць у сьвеце, залежыць вельмі шмат. Будзеш мець адметны й станоўчы вобраз — да цябе прыгарнуцца й з далёкага замежжа, а прыдбаеш адмоўны — адвернуцца й суседзі.**

*— Што ўплывае на фармаваньне іміджу пэўнай нацыі ці пэўнага народу?*

— Найперш, актыўны ўдзел у значных гістарычных падзеях. Але паколькі ў кожнай гістарычнай падзеі сутыкаюцца сілы дабра й зла, дык тут істотна быць на тым баку, які супрацьстаіць злу. Беларусы не займелі нічога дадатнага да свайго іміджу ад свайго сяброўства ў «імпэрыі зла» (як некалі назваў Савецкі Саюз амэрыканскі прэзыдэнт Роналд Рэйган). А вось удзел беларусаў у змаганьні з фашызмам шмат дадаў да фармаваньня станоўчага вобразу нацыі.

*— Ці можна казаць пра нейкі ўстойлівы імідж беларусаў?*

— Наш гістарычны лёс складваўся такім чынам, што ў розныя эпохі мы выступалі пад рознымі найменьнямі — крывічы, ліцьвіны, беларусы... З гэтага атрымлівалася, што мы раз-пораз як бы зьнікалі ў нікуды й пасьля кожнага такога зьнікненьня нам трэба





было наноў даводзіць міжнароднай супольнасьці, што мы існуем. У гэтым прычына нашай праблемы з пазнавальнасьцю. Далучым сюды й тое, што семдзесят гадоў за камуністамі беларусы былі схаваныя ў такую абстракцыю, як савецкі народ.

*— У XX стагодзьдзі ў сьвеце, на жаль, беларусаў ведалі як людзей савецкіх ці як «рускіх». «Рускімі» называлі нават грузінаў ці казахаў. Але ў межах СССР беларусаў адрозьнівалі ня толькі ад казахаў ці кіргізаў, але й ад расейцаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў. Дык як успрымалі беларусаў іншыя народы былога СССР?*

— Калі існавала камуністычная імпэрыя, беларусы мелі свой устойлівы імідж, і гэта быў досыць станоўчы імідж. Амаль ва ўсім Савецкім Саюзе беларусы ўспрымаліся як спакойныя, працавітыя, памяркоўныя й разам з тым даволі адказныя людзі. Не выпадкова ў савецкім войску яны лічыліся сярод лепшых і бязь іх не абыходзілася ні адна збройная авантура камуністычных уладаў. Праўда, мянушка ў беларусаў была ня вельмі паважная — бульбашы. Але іронія, скептыцызм — гэта родавая прыкмета хоць якой мянушкі. Гэткім чынам, праз прыніжэньне другога, кожны народ спрабуе давесьці сваю перавагу. Таму калі пасьля Другой усясьветнай вайны беларусы прыдбалі сабе яшчэ адну, ужо гераічную мянушку — партызаны, дык і яна звычайна вымаўлялася іранічна.

*— У чым была прычына даволі станоўчага вобразу беларусаў у Савецкім Саюзе? Наколькі ён адпавядаў сапраўднасьці? А можа, гэты добры імідж прыдумалі маскоўскія ідэолягі як кампэнсацыю за прыхільнасьць беларусаў да русіфікацыі й камунізацыі?*

— У нейкай ступені такое магло быць. Але сутнасьці вобразу народу праз піяр-тэхналёгіі ня створыш. Ідэ-

алягічныя высілкі ў гэтым кірунку мелі хутчэй адваротны вынік. З асабістага досьведу ведаю, што прыбалты й заходнія ўкраінцы досыць нэгатыўна ацэньвалі беларусаў як нацыю менавіта за нашу схільнасьць да русіфікацыі. У 1980-я гады я шмат вандраваў у Карпатах, і, пачуўшы нашу расейскую гамонку, жыхары горных вёсак літаральна ашчэрваліся. Праўда, даведаўшыся, што мы не з Расеі, а зь Беларусі, іхныя твары лагаднелі, але стоеная варожасьць да нашай расейскасьці й нашай савецкасьці заставалася.

*— Было б нават дзіўна, каб у вялізнай імпэрыі з мноствам розных нацыяў, народаў і народнасьцяў усе да ўсіх ставіліся аднолькава. Але тое, што ў Савецкім Саюзе Беларусь і беларусаў добра ведалі й вылучалі сярод іншых — дык гэта пэўна. Чаму?*

— Беларусы лічыліся адной з галоўных нацыяў імпэрыі, на што ўскосна паказвала й асобнае сяброўства ў ААН. Да таго ж, мы лічыліся хоць і малодшым, але родным братам валадара гэтай імпэрыі — расейскага чалавека. І ў адрозьненьне ад сярэдняга брата, украінца, мы былі любімым братам, бо ня мелі ні вялікіх амбіцыяў, ні прэтэнзіяў да Расеі. Але рэч, зразумела, ня толькі ў гэтым. Беларусь сталася самай індустрыялізаванай часткай імпэрыі. Нашы аўтамабілі, лядоўні, тэлевізары й шмат чаго яшчэ можна было сустрэць паўсюль — ад Берасьця да Камчаткі, а трактар «Беларус» працаваў ці ня ў кожным калгасе неабсяжнай дзяржавы. З усяго гэтага нас у Саюзе ведалі, бадай, лепш, чым мы самі ведалі сябе, дый думалі пра нас, як мне падаецца, лепш, чым мы самі. Але ў 1991 годзе камуністычны саюз раструшчыўся ўшчэнт, і беларусы засталіся сам-насам з усім тым вялікім сьветам, які пра іх, замураваных у імпэрыі, раней нічога ня ведаў. Былі рускія, савецкія, і раптам аднекуль зьнянацку зьявіліся нейкія беларусы...





*— Як сёньня беларусаў успрымаюць там, дзе раней іх ніколі не было?*

— У 1991 годзе незалежная Беларусь нагадвала мне чалавека, які ня мае свайго ценю. Усё ў яго быццам як у людзей, але ценю няма, і яму ад гэтага ніякавата. Тут пад ценем я маю на ўвазе нацыянальны міт, праз які мы перадусім і адрозьніваем для сябе той ці іншы народ. Зрэшты, у гэтым сэнсе сытуацыя й сёньня ня надта зьмянілася. Таму для бальшыні людзтва беларусаў па-ранейшаму няма — няма нават там, дзе з намі сустракаюцца наўпрост. Рэч тут вось у чым. Гэта суцэльная аблуда, быццам па асобным чалавеку вызнаюць народ ці краіну. За камуністамі, калі чалавека выпраўлялі ў замежжа, дык адпаведныя органы абавязкова нагадвалі: глядзі, трымайся годна, па табе будуць меркаваць пра ўвесь савецкі народ. Глупства. Усё адбываецца цалкам наадварот — праз нацыянальную міталёгію мы ўжо наперад ведаем, якімі мусяць быць, скажам, італьянцы ці французы. Вось чаму вельмі часта можна пачуць зьдзіўленае: дык ён зусім не падобны да ангельца, гішпанца ці каго там яшчэ. Гэта значыць, той замежнік не адпавядае нашаму ўяўленьню пра ягоны народ. Няма нацыянальнага міту — няма й нацыі. Датуль беларусаў ня будуць успрымаць у сьвеце, пакуль яны не прыдбаюць сабе больш-менш выразнага нацыянальнага міту.

*— Гэта значыць, што за мяжой беларусаў пакуль успрымаюць не як беларусаў, а як проста людзей, якія жывуць у нейкай загадкавай краіне пад назвай Беларусь?*

— Менавіта так. І таму кожны раз гэта іншая ацэнка, якая залежыць як ад канкрэтных грамадзянаў Беларусі, што сутыкаюцца з замежнікамі, так і ад сытуацыі, у якой адбываецца гэтае сутыкненьне. Вось

толькі адзін прыклад. На пачатку 1990-х, калі былым савецкім грамадзянам дазволілі выяжджаць за мяжу, у Польшчы атабарылася ладная сьціжма бандыцкіх груповак зь Беларусі, якія займаліся рэкетам падарожнікаў у Эўропу. Тады ў палякаў склалася трывалае ўражаньне, што беларусы — гэта спрэс агрэсіўныя й бязьлітасныя рабаўнікі. Шчыра кажучы, калі я ўпершыню пачуў гэткае меркаваньне, то міжволі як бы ўзрадаваўся, бо так абрыдла ацэнка беларусаў як нягеглых гаротнікаў, ня здатных да хоць якіх рашучых учынкаў... Але з часам польскія ўлады справіліся з тымі бандамі, і палякі пакрысе забыліся на беларусаў як на адважных злодзеяў. Цяпер яны нас ужо зноў шкадуюць — няшчасных ахвяраў палітычнага гвалту. Дарэчы, цяпер нас шкадуюць ня толькі ў Польшчы, а ўсюды, дзе хоць трохі ведаюць пра Лукашэнку й зацугляны ягонай прагай улады беларускі народ.

*— Разам з тым, шмат хто лічыць, што якраз дзякуючы палітыцы Лукашэнкі, якая не характэрная для сучаснай Эўропы, Беларусь сталася досыць вядомай у сьвеце, прынамсі — эўрапейскім.*

— Натуральна, усім нам хацелася б, каб вядомасьць беларусаў шырылася праз розныя станоўчыя брэнды, а не праз адмоўныя. Асабіста мне непрыемна, што куды б беларусы ў замежжы ні прыяжджалі, усюды іх шкадуюць як ахвяраў апошняй дыктатуры Эўропы. Няма гонару ў тваёй вядомасьці, калі празь яе цябе не паважаюць, а шкадуюць. Станаўленьне нацыянальнага міту залежыць ад самога народу. Міт, напэўна, распачнецца тады, калі беларусы нарэшце схамянуцца, узрушацца. Глядзіце, як аранжавая рэвалюцыя ва Ўкраіне палепшыла імідж украінцаў і пашырыла іхную вядомасьць у сьвеце. Хацелася б верыць, што нешта падобнае некалі здарыцца і ў Беларусі. Аднак, на маё разуменьне, фармаваньне нацыянальнага міту адбываецца незалежна ад нашых





жаданьняў. Ніколі наперад нельга ведаць, якога кшталту падзея ці палітычная фігура будзе прэзэнтаваць твой народ перад чалавецтвам. Наўрад ці думалі румыны, што іх будзе прэзэнтаваць князь Дракула — адзін з найвялікшых садыстаў сьвету, які пасадзіў на кол тысячы няшчасных — што ён станецца найважнейшым чыньнікам румынскага нацыянальнага міту. А возьмем міт нямецкай нацыі. Ён жорсткі, нечалавечы, але гэта вялікі міт. Ня трэба блытаць нацыянальны міт з каляднай казкай для дарослых. Міт неабавязкова мусіць падабацца тым, каго ён прэзэнтуе. Істотна тут толькі тое, каб ён быў, і быў менавіта як міт, а не як анэкдот. А пакуль яго няма, мы застаемся падобнымі да чалавека без уласнага ценю.

# БЯЗЬ МІТУ НЯМА НАЦЫІ

## *Пасьляслоўе аўтара*

Калі разважаеш, чаму суседзі беларусаў, а ў нядаўнім мінулым «сябры па няшчасьці» — палякі, літоўцы, латышы, чэхі — так шпарка крочаць шляхам будаўніцтва ўласных дэмакратычных дзяржаваў поплеч зь іншымі народамі, прыходзіш да высновы: не згубіўшы сваёй мовы, культуры, гісторыі, гэтыя народы маглі ідэнтыфікаваць сябе як нацыі, быць пэўнымі ва ўласных сілах. Вось і разарвалі путы каляніяльнай залежнасьці й зажылі сваім розумам.

Я заўсёды зайздросьціў палякам, якія міталягізавалі падзеі сваёй гісторыі й нават сваіх літаратурных герояў. Нават той іранічны вершык, у якім дзіця называе сябе маленькім палякам, а сваім гербам — белага арла, ёсьць нацыянальным мітам, які зь дзяцінства яднае палякаў. Кожная сфармаваная нацыя мае свой нацыянальны міт, і няма нацыі без уласнага міту. Зьяднаць грамадзянаў краіны нельга ні паводле спажывецкай ідэі «шкваркі й чаркі», ні паводле, хай нават вонкава й прывабных, але чужых мітаў, ні паводле лжывых замшэлых тэорыяў панславізму ці заходнерусізму. Менавіта гэта прапаноўвалася беларусам два апошнія стагодзьдзі й прапаноўваецца сёньня. Гэта — шлях на ўзбочыну ад эўрапейскай цывілізацыі. А калісь беларуская дзяржава з тысячагадовай гісторыяй і багатай, але згубленай ці скрадзенай, культурай займала ў Эўропе пачэснае месца.

Адшукаць, вярнуць, абжыць сваю спадчыну — такую задачу пасьля вяртаньня незалежнасьці ў 1990-х гадах паставілі сабе многія людзі навукі й культуры Беларусі. Такую ж мэту меў і сумесны праект часопісу «Спадчына» й Радыё Свабода — праграма «Неабжытая спадчына». Вынікам яе стала разуменьне, што культурныя,





гістарычныя, сьветаглядныя плашчыны краіны Беларусь — сапраўдная Атлянтыда, якая зьнікла ў віры трагічных падзеяў мінулага тысячагодзьдзя, затанула ў водах чужых культураў. І ў новае тысячагодзьдзе перадача, памяняўшы фармат, увайшла пад назовам «Беларуская Атлянтыда».

На шуканьне беларускай Атлянтыды выправілася вялікая група аднадумцаў — гісторыкаў, філёзафаў, культуролягаў, мастацтвазнаўцаў, фальклярыстаў, пісьменьнікаў. Гэта людзі, якія адмовіліся надалей несьці цяжар догмаў савецкай ці русафільскай навукі, або ніколі імі не былі абцяжараныя. Практычна кожная перадача дарыла ці навуковае адкрыцьцё, ці сьвежы, нечаканы позірк на праблемы й зьявы нацыянальнай гісторыі й культуры. Знайшоўшы адзін скарб, мы бачылі пэрспэктывы адкрыцьця новага. І так, здаецца, можа быць датуль, пакуль агульнымі высілкамі беларусы ня знойдуць сваю Атлянтыду — свой уласны Нацыянальны Міт.

У кнігу ўвайшлі сцэнары выбраных перадачаў, якія прагучалі ў этэры ў 2000—2005 гадах. Аб'ём і кампазыцыя выданьня не дазволілі надрукаваць тэксты яшчэ каля сотні перадачаў, створаных за пяць гадоў. Яны ня ёсьць горшымі, проста трэба было рабіць выбар. Шэраг фрагмэнтаў старажытных праваўых дакумэнтаў і мэмуарнай літаратуры падаюцца ў адаптаваным варыянце. Адаптацыя, а таксама фальклёрныя запісы зробленыя ўдзельнікамі перадачаў.

*Вячаслаў Ракіцкі*





## Валянцін Акудовіч



Філёзаф Валянцін Акудовіч нарадзіўся ў мястэчку Сьвіслач на Гарадзеншчыне, вучыўся ў школе імя Кастуся Каліноўскага, працаваў рабочым, скончыў Літаратурны інстытут у Маскве, стаў майстрам спорту СССР у турызьме, дапамог жонцы выгадаваць двух дзяцей, атрымаў мянушку Хросны бацька Бум-Бам-Літу й напісаў кніжку «Мяне няма», калі зразумеў татальную адслоненасьць быцьця ад таго, што звычайна называюць Валянцінам Акудовічам.

## Алесь Анціпенка



Нарадзіўся ў Слаўгарадзе. Кандыдат філязофскіх навук. Працаваў у Інстытуце філязофіі й права Нацыянальнай акадэміі навук, Нацыянальным цэнтры імя Ф. Скарыны, Беларускім фондзе Сораса. Навуковыя зацікаўленьні: сацыяльная экалёгія, філязофія прысутнасьці, эмоцыі й чалавечая суб'ектыўнасьць, беларускі мэнталітэт, тэорыя камунікацыі й мэдыяў.

## Вацлаў Арэшка



Нарадзіўся ў Расеі за пяцьдзясят кілямэтраў ад Эўропы. Дзяцінства прайшло паміж горадам Сьвярдлоўскам, дзе працаваў бацька, і вёскаю Жарабковічы ў заходняй Беларусі, дзе жыў дзед. Гэтыя гістарычныя мясьціны вызначылі далейшую дасьледчую дзейнасьць — тэатразнаўства, гісторыя культуры й мастацтва Беларусі. Навуковыя інтарэсы: тэатральнае барока, шляхецкая культура. Перакладчык з польскай і старапольскай моваў.

### Алесь Белы



Нарадзіўся ў Менску. Гісторык. Дасьледуе гісторыю іканаграфіі, картаграфіі, дыпляматыю й замежныя сувязі Вялікага Княства Літоўскага. У ягонай сфэры навуковых інтарэсаў таксама ўплыў заходнеэўрапейскіх культурных, тэхналягічных і эканамічных рэаліяў на фармаваньне матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі. За кнігу «Хроніка Белай Русі: нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы» ўганараваны прэміяй Беларускага ПЭН-цэнтру.

### Тацяна Валодзіна



Нарадзілася на Лепельшчыне ў вёсцы з выразнай назвай Суша. Этнакультуроляг, кандыдат філялягічных навук. Дасьледуе міталягічныя сэнсы й спрадвечныя народныя ісьціны. Напісала манаграфіі «Талака ў сыстэме духоўнай культуры беларусаў» і «Сэмантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў». Адна з аўтараў кнігі «Малыя жанры. Беларускі фальклёр» і энцыкляпэдычнага слоўніка «Беларуская міталёгія».

### Пятро Васючэнка



Нарадзіўся ў Полацку. Мараю дзяцінства было адшукаць славуты Полацкі лябірынт, апісаны Вацлавам Ластоўскім, але адшукаў для сябе бібліятэку і ўнівэрсытэцкія аўдыторыі. Пісьменьнік, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філялягічных навук. Аўтар пятнаццаці кніг прозы, драматургіі, крытыкі, навуковых дасьледаваньняў. Ягоныя творы перакладзеныя на ангельскую, баўгарскую, польскую, расейскую, славацкую й чэскую мовы.



### Анатоль Грыцкевіч



Нарадзіўся ў Менску. Доктар гістарычных навук. Аўтар сямі кніг і соцень артыкулаў па гісторыі ВКЛ, а таксама пра барацьбу беларусаў за незалежнасьць у 1917—1920 гадах. Паходжаньне з роду старажытнай слуцкай шляхты вызначыла ягоны інтарэс да гісторыі й культуры шляхецкага саслоўя ў Беларусі. На пачатку 1990-х гадоў ачоліў Згуртаваньне беларускай шляхты. Адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту. Быў прэзыдэнтам Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

### Ніна Здановіч



Адзінаццатае дзіця ў сям'і, яна нарадзілася ў Слоніме. Стала археолягам, каб злучыць памкненьні абодвух каранёў: мацярынскага, сялянскага, зь ягонай адвечнай цягай да зямлі, і бацькоўскага, шляхетнага, ад якога застаўся гонар ды імкненьне дакапацца да пачаткаў роду. Асноўны аб'ект дасьледчай увагі — керамічны посуд. Аўтарка кнігі «Кафлярства ў Беларусі» й разьдзелаў у некалькіх навуковых зборніках.

### Вольга Іпатава



Нарадзілася ў навагоднюю ноч ля сьцяны Мірскага замку, дзе тады стаяў шпіталь. Жыла ў Міры, затым у Навагрудку. А першая сталая праца была ў Горадні, у замку апошняга караля Рэчы Паспалітай. Пісьменьніца, паэтка. Аўтарка першай у беларускай літаратуры гістарычнай трылёгіі «Альгердава дзіда». Гістарычнай тэме прысьвечаныя таксама раман «За морам Хвалынскім», аповесьць «Прадыслава» ды іншыя.



## Тодар Кашкурэвіч

Карэнны мянчук. Мастак. Майстар традыцыйных беларускіх музычных інструмэнтаў (дуда, ліра). Адзін з заснавальнікаў Цэнтру этнакасмалёгіі «Kryuja», галоўны рэдактар альманаху «Druvis». Займаецца дасьледаваньнем і рэканструкцыяй дахрысьціянскага космасу Беларусі. Удзельнік шэрагу этнамузычных праектаў.



## Ірына Колабава

Нарадзілася ў Гомелі. Гісторык. Вывучае й выкладае гісторыю грашовага абарачэньня ў Беларусі ў XVII—XVIII стагодзьдзях. Асноўныя кірункі дасьледаваньня — склад манэтнага фонду, мясцовая грашовая тэрміналёгія, рынкавыя кошты, дзейнасьць фальшываманэтчыкаў на тэрыторыі Беларусі.



## Ігар Марзалюк

Нарадзіўся ў мястэчку Краснапольле Магілёўскай вобласьці. Археоляг і гісторык. Доктар гістарычных навук. Аднолькава лічыць сваёй Бацькаўшчынай і Краснапольскі раён Магілёўскай вобласьці (радзіма маці) і вёску Падлесьсе Стаўпцоўскага раёну Менскай вобласьці (радзіма бацькі). Самым дасканалым сваім творам лічыць сына Альгерда.





## Алесь Петрашкевіч

Нарадзіўся на Талачыншчыне. Драматург, гісторык, публіцыст. Кандыдат гістарычных навук. Адзін з арганізатараў энцыкляпэдычнай справы ў Беларусі, выдавец-рэдактар 146 гістарычна-дакумэнтальных хронік «Памяць». Аўтар трыццаці сямі п'ес і кінасцэнароў. Зь іх — сямнаццаць дакумэнтальных гістарычных драмаў і трагедыяў, у якіх адлюстраваныя ключавыя моманты гісторыі Беларусі.



## Вячаслаў Ракіцкі

Нарадзіўся там, дзе й першы беларускі прафэсійны тэатар Ігната Буйніцкага, — у мястэчку Празарокі на Глыбоччыне. Кандыдат мастацтвазнаўства. Крытык, журналіст. Адзін з аўтараў трохтомнага акадэмічнага выданьня «Гісторыя беларускага тэатру». У 1990-я гады рэдагаваў першы ў Беларусі недзяржаўны тоўсты часопіс «Спадчына». Ад 1997 году — аўтар Радыё Свабода.



## Дзяніс Раманюк

Нарадзіўся ў Менску. Ад 1997 году працягвае справу свайго бацькі, прафэсара Міхася Раманюка, у вывучэньні народнай культуры беларусаў. Выдавец, этнограф, фотамастак. Ладзіць экспэдыцыі па ўсёй краіне. Адной з прыярытэтных тэмаў дасьледаваньняў апошнім часам стала зона, пацярпелая ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.



**Генадзь Сагановіч**

Родам з Івацэвіцкага раёну. Кандыдат гістарычных навук. У 2005 годзе выгнаны з Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. Дасьледуе Вялікае Княства Літоўскае, ягоныя дачыненьні з Расеяй і Польшчай. Аўтар папулярных кніг «Нарыс гісторыі Беларусі», «Невядомая вайна. 1654—1667» ды іншых. Заснавальнік і рэдактар часопісу «Беларускі гістарычны агляд».



**Лія Салавей**

Нарадзілася на Мядзелшчыне. Фальклярыст, кандыдат філялягічных навук. Дасьледуе песенныя жанры беларускага фальклёру. Укладальніца некалькіх тамоў акадэмічнага выданьня «Беларуская народная творчасьць». Вынікам дасьледаваньня фальклёрнай вобразнасьці, міталёгіі й магіі сталі артыкулы ў энцыкляпэдычных даведніках і зборніках навуковых працаў «Беларуская міталёгія», «Беларускі фальклёр», «Міталёгія. Духоўныя вершы».



**Алег Трусаў**

Нарадзіўся ў Амсьціславе. Гісторык, археоляг. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар манаграфіяў, прысьвечаных матэрыяльнай культуры беларусаў. Апошнія гады дасьледуе дзяржаўныя ўтварэньні на тэрыторыі этнічнай Беларусі. Адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту й Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Старшыня Таварыства беларускай мовы.





**Сяргей Харэўскі**

Нарадзіўся ў Менску, вучыўся ў Санкт-Пецярбурзе й Варшаве. Гісторык мастацтва, культуроляг, мастак. Друкаваўся ў розных выданьнях Беларусі, Літвы, Польшчы, Расеі, Чэхіі, Вугоршчыны. Аздобіў сваёй графікай шэраг кніг. Багата гучаў на Радыё Свабода, дзе колісь меў і ўласную праграму «Галерэя Свабоды». Працуе ў газэце «Наша Ніва» ад моманту аднаўленьня яе выданьня.



**Захар Шыбека**

Нарадзіўся ў Сеньненскім раёне. Доктар гістарычных навук. Прайшоў шлях ад савецкага да нацыянальнага гісторыка. Дасьледуе гарады Беларусі й беларускі нацыянальны рух у XIX—XX стагодзьдзях. Аўтар кніг «Минск в конце XIX — начале XX в.», «Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагодзьдзяў)», «Нарыс гісторыі Беларусі. 1795—2002» ды іншых. Ляўрэат прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтру.

## ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ


**А**

Агінскі Міхал Казімер *139*
Агінскія *110, 111*
Адамовіч Славамір *323*
Ажэшка Эліза *68*
Азбукін Мікалай *97*
Аксакаў Канстанцін *459*
Акудовіч Валянцін *116, 416, 436, 456, 472, 476, 485*
Альбэрт *381, 387, 388*
Альгерд *93, 418*
Аляксандар *330*
Аляксандар I *266*
Аляксандар Македонскі *116*
Аляксей Міхайлавіч *109, 237, 238*
Амбражэвіч Мікалай *112*
Анціпенка Алесь *61, 360, 446, 485*
Арлоў Уладзімер *372, 373*
Арыстафан *144*
Арыстотэль *367*
Арэль Марыя *193*
Арэшка Вацлаў *267, 274, 281, 287, 422, 430, 451, 485*
Аўгуст II Моцны *150, 284, 393, 412*
Аўгуст III Фрыдрых *195*
Аўсюкевіч Аляксандар *105*
Ахоцкі Ян *285, 293*

**Б**

Багданавіч Улас *251, 252*
Багдановіч Адам *363*
Багдановіч Максім *84, 99, 325, 347, 359, 461*
Багушэвіч Францішак *102, 322, 419, 438, 456, 458—460, 462, 471*
Бараноўская Юзэфа *324*
Барт Ралян *436, 438*
Баршчэўскі Ян *68, 369, 373, 375, 463*
Барысевіч Юрась *439*
Барэйка Язэп *8*
Баторы Стэфан *345, 396, 422*
Бельскі Хведар *326—330*
Белы Алесь *175, 182, 187, 229, 255, 486*
Біран Ганна *393*
Біран Пётар *394*
Біран Эрнст Ёган *393, 394*
Блажоўскі Марцін *425*
Богуш-Сестранцэвіч Станіслаў *115*
Бона Сфорца *94*
Браніцкі Ксаверы *414*
Брахоцкі *190*
Буйніцкі Ігнат *489*
Булгакаў Міхаіл *19*
Быкаў Васіль *77, 324, 449*
Бэйкельсзон Вілем *178*
Бэрнардоні Ян Марыя *106, 107*

**В**

Вайда Анджэй *193*
Валадковіч Міхал *258*
Валадковіч *451*
Валовіч Астафі *395—397*
Валодзіна Таццяна *12, 25, 38, 44, 50, 199, 208, 213, 218, 244, 298, 304, 309, 348*
Валіцкі Міхал *275, 276*
Валькенштайн Освальд фон *382*
Васілевіч Уладзімер *61—63*
Васючэнка Пятро *66, 80, 81, 99, 321, 367, 461*
Ватрэн *269*
Вітан-Дубейкаўская Юліяна *325*
Вітаўт *93, 105, 346, 384, 385, 418*
Вітгенштэйн Людвіг Леан *231*
Вітушка Міхал *294*
Вялічка Мікалай *112*
Вячорка Вінцук *8*

**Г**

Гадуноў Барыс *397*
Галубок Уладзіслаў *321*
Гальшанская Ганна *326—330*
Гальшанская Соф’я *326*
Гальшанскі Іван *326—328*

Гальшанскія *327*
Гамэр *38*
Гарацыюс *144*
Гарэцкі Максім *71, 464*
Гаштольд *346*
Гвозд *369*
Гедымін *105*
Гельфанд Барыс *161*
Гердзень *388*
Гернгрос *196*
Гляўбіц Ян Крыстафор *114*
Гофэр Францыск *114*
Граіцкі Барталямэй *261*
Грынявіцкі Ігнат *279*
Грыцкевіч Анатоль *407, 487*
Гусоўскі Мікола *282*
Гуцэвіч Лаўрэн (Гуцявічус Лаўрынас) *114—115*
Гэнрых Латвійскі *386*
Гэрадот *83, 234, 235*
Гэрдэгайн Яахім *114*

**Д**

Даватар Леў *347*
Дамброўскі Ян Гэнрык *277*
Дантэ *321*
Дарвін Чарлз *83*
Даўгарукаў *414*
Даўгяла Ўладзіславас Мінгайле *182*
Даўмонт *418*
Дземідовіч Павал *360*
Дзьмітры *166*
Дракула *481*
Дудзіцкі Ўладзімер *8*
Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт *175, 324*
Дыдэрштайн Ян *114*
Дыянісі *141*

**Е**

Ёган IV Мюнгаўзэн *389*
Езярніцкі Андрэй *109*
Еўлашэўскі Хведар *322, 369, 370*

**Ж**

Жаброўскі Тамаш *105, 109—111*
Жавускі Гэнрык *453*
Жавускі Казімер *293*
Жавускі Севярын *414*
Жук-Грышкевіч Вінцэнт *8*
Жучкевіч Вадзім *92*
Жыгімонт II Аўгуст *94, 390*
Жыгімонт III Ваза *399*
Жыгімонт Кейстутавіч *327*
Жылка Ўладзімер *105*
Жэну Абрагам *114*

**З**

Забэла *415*
Замойскі Ян *422*
Замоўскія *396*
Запруднік Янка *8, 438*
Збароўскія *396*
Здановіч *274*
Здановіч Ніна *76, 87, 126, 162, 487*

**І**

Ібсэн Гэнрык *463*
Іван III *316, 328*
Іван IV Жахлівы *389, 395, 396*
Ідрысі *234*
Ізяслаў Уладзімеравіч *118, 140*
Ілжэдзьмітры I *165, 166*
Ілжэдзьмітры II *165, 166*
Ілжэдзьмітры III *166*
Іпатава Вольга *326, 412, 487*
Ісакаў Багдан *138*

**К**

Казанова Джавані *275*
Казімер IV *326—329*
Казяроўскі *427*
Калантай Гуга *408*
Каліёстра *275*

Каліноўскі Кастусь *139, 279, 419*
Камароўскі *270, 271*
Камінскі Казімер *105*
Караткевіч Валянціна *325*
Караткевіч Уладзімер *71, 77, 83, 159, 161, 325, 344, 369—374, 460*
Карл XII *292*
Карнееў Захары *122*
Касакоўская *428*
Касакоўскі Аўгустын *105*
Касьцевіч Вацлаў *330*
Касьцюшка Тадэвуш *276, 279, 294, 394*
Кафка Франц *89*
Кацар Міхал *57*
Кацярына II *289, 394, 410, 413, 414, 418*
Кашкурэвіч Тодар *31, 56, 170, 488*
Кетлер Готард *389, 390*
Кетлер Фрыдрых Вільгельм *393*
Кіпель Вітаўт *8*
Кіркор Адам *324*
Кірхен Апанас *374*
Кірыла Тураўскі *67, 462*
Кірэеўскі Іван *459*
Кірэеўскі Пётар *459*
Кітовіч Анджэй *262, 263, 270, 284, 426, 427, 433, 434*
Клангевіч *112*
Клюк Кшыштаф *185*
Кнакфус Марцін *114*
Колабава Ірына *134, 144, 488*
Колас Якуб *77, 161, 188, 190, 325, 459, 471*
Корсак Ян *112*
Крачэтнікаў *414*
Ксэнафонт *144*
Купала Янка *69, 70, 81, 102, 161, 458—460, 464*
Купэр Фэнімор *233*
Кутузаў Міхаіл *415*

**Л**

Ластоўскі Вацлаў *99—101*
Латвійскі Гэнрых *369, 459, 460*
Лаўчынскія *115*
Лявановіч Язэп *260*
Леві-Строс Клёд *439, 440*
Ленін Уладзімір *392, 474*
Лермантаў Міхаіл *294*
Лёрынгхофэн Ёган Фрайтаг фон *151*
Лета Пампонiё 232
Луба Ян, *гл. Ілжэдзьмітры III*
Лукашук Аляксандар *8*
Лукашэнка Аляксандар *122, 421, 447, 469, 480*
Луцкевіч Іван *139, 325*
Лышчынскі Казімер *258*
Людовік XVI *276*
Лябруер Жан *461*
Лянкевіч Габрыель *105, 109, 110*

**М**

Магнус *389*
Майнгарт *381, 387*
Максімаў Сяргей *183*
Малахоўскі Станіслаў *408*
Мальдзіс Адам *103*
Малышаў Андрэй *92*
Мамонаў *316*
Марзалюк Ігар *194, 250, 315, 400, 488*
Маркаў *149*
Марозаў Паўлік *273*
Марыюс Ёган *229*
Матушэвіч Марцін *291, 426, 431*
Машэраў Пётар *420*
Мележ Іван *76, 77, 79*
Мікулаеў Хведар *138*
Міна *141*
Міндоўг *382, 416—418, 420, 452*
Мінскевіч Серж *456*
Міцкевіч Адам *68, 69, 87, 88, 188, 294, 325, 456—460*
Мнішак Марына *88*
Молатаў Вячаслаў *473*
Морыц Саксонскі *353*
Мухін *185, 186*

